ББК 82.3 Бел-6
З-26



Укладанне, сістэматызацыя тэкстаў,
уступны артыкул і каментарыі
Г А. Барташэвіч

Рэдактар К. П. Кабашнікаў

Рэцэнзенты:
кандыдат філалагічных навук А. С. Ліс,
кандыдат гістарычных навук Э. Р. Сабаленка

**Замовы** / Уклад., сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент.
З-26 Г А. Барташэвіч; Рэдкал.: А. С. Фядосік (гал. рэд.) і інш.— Мн.: Навука і тэхніка, 1992.—597 с.— (БНТ: Беларус. нар. творчасць / АН Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

ISBN 5-343-01049-0.

Заговоры.

У томе прадстаўлены адзін са старажытных жанраў фальклору, звязаны з гаспадарчай дзейнасцю, грамадскім і сямейным бытам, з клопатам чалавека пра здароўе і дабрабыт. Заснаваныя на веры ў магчымасць магічным словам дасягнуць жаданага ва ўсіх выпадках жыцця замовы вылучаюцца высокім мастацкім узроўнем і адлюстроўваюць пэўныя ступені ў развіцці светапогляду і практычных ведаў нашых продкаў.

Разлічаны на фалькларыстаў, этнографаў, філолагаў, студэнтаў і выкладчыкаў.

З $\frac{4702120105-033}{М316(03)-92}$ 118—92

ББК 82.3 Бел-6

ISBN 5-343-01049-0

# БЕЛАРУСКІЯ ЗАМОВЫ

У сістэме фальклорных жанраў замовам належыць своеасаблівае месца, што абумоўлена іх архаічнасцю, прыродай, утылітарнай функцыянальнасцю, значэннем і прызначанасцю слова ў гэтых творах. Па свайму глыбіннаму сэнсу замовы ўяўляюць з'яву двухпрыродную (па азначэнню У. М. Тапарова), адзіную, цэласную і самагодную канструкцыю, асноўнымі аспектамі якой з'яўляюцца фальклорны і рытуальны. Цесная сувязь слова і дзеяння, узаемадапаўняльнасць і ўзаемазамяняльнасць названых кампанентаў дазваляюць гаварыць пра замовы як з'явы абрадавага характару ў самым шырокім значэнні гэтага паняцця.

Утылітарнасць замоў, практычная прызначанасць робяць іх неад'емнай часткай звычаёва-бытавой культуры. Менавіта практычная функцыянальнасць бралася пад увагу пры аналізе замоў як іх вызначальная адзнака, што прыводзіла да адмаўлення эстэтычнага пачатку ў гэтым жанры.

У той жа час біфункцыянальная прызначанасць слова ў замовах як сродку магічнага ўздзеяння (утылітарная функцыя), з аднаго боку, і сродку рэалізацыі закладзенага ў замове пажадання, сродку стварэння магічнага тэксту, магічнай формулы, паэтычнага вобраза (мастацкая функцыя) — з другога, якраз і вылучае замовы ў той разрад фальклорных форм, якія дазваляюць прасачыць шляхі пераарыентацыі мовы як сродку перадачы інфармацыі ў мастацка-вобразную структураўтваральную сістэму, шляхі ператварэння зыходных форм з іх шырокім наборам тэкставых і звыштэкставых характарыстык у сапраўды паэтычныя формы, супастаўныя з іншымі фальклорнымі жанрамі і формамі, якія валодаюць якасцямі мастацтва як самастойнай знакавай сістэмы і развітымі эстэтычнымі функцыямі.

Замовы ў народнай традыцыі маюць мноства назваў: «шэпты», «шаптанні», «словы», «малітвы», «чары», «замаўлянні», «нагаворы», да пэўных груп — «прысушкі», «адсушкі». Усе гэтыя назвы нясуць у сабе звесткі пра сэнс, галоўную вызначальную адзнаку твораў, а яе сутнасць — слова, мова, гаварэнне, шаптанне. І не проста слова, а слова таямнічае, слова вешчае, прарочае, якое мае незвычайную сілу. Дарэчы, народнае найменне «шэпты», «шаптаць» найбольш поўна суадносіцца менавіта з таямнічай мовай, з рунічнымі пісьмёнамі (старажытнанямецкае гūnen азначае «шаптаць»; «ціха, таямніча гава-

рыць» [1]). Відаць, невыпадкова ў дачыненні да знаўцаў замоў захавалася назва «ваўхвіллі» [2], што наводзіць на думку пра існаванне спецыяльнай касты вешчуноў, якія валодалі таямнічымі ведамі і выкарыстоўвалі іх у магічных мэтах. Магутная сіла слова так ці інакш падкрэсліваецца ў азначэннях, якія давалі даследчыкі гэтаму жанру зыходзячы са сваіх уяўленняў пра сутнасць з'явы [3] Адным з першых на магчымасці слова ў замовах засяродзіў увагу М. Крушэўскі, які вызначаў замовы як «выказанае словамі пажаданне, злучанае з пэўным абрадам ці без яго, пажаданне, якое павінна абавязкова здзейсніцца» [4]. Вылучаныя ім два важныя моманты — вера ў магчымасць навязаць сваю волю боствам, чалавеку, прадметам, з'явам, абставінам і вера ў чалавечае слова як самы магутны сродак навязаць сваю волю каму- або чаму-небудзь — як нельга лепей адпавядаюць сутнасці і функцыі замоў. Улічваючы асаблівасці замоў як фальклорнага жанру, варта падкрэсліць такія іх якасці, як формульнасць, як у большасці выпадкаў празаічны характар, абавязковасць магічнай накіраванасці. Такім чынам, замовы — гэта празаічныя (часам рытмізаваныя) творы формульнага характару (або слоўныя формулы), якім прыпісвалася сіла магічнага ўздзеяння. Як і ўсякая дэфініцыя, прапанаваная можа быць зменена і дапоўнена ў залежнасці ад ракурсу аналізу замоў, але менавіта як азначэнне фальклорнага жанру такая ўяўляецца найбольш набліжанай да яго сутнасці.

Пра старадаўняе паходжанне замоў, іх значнае развіццё і шырокае бытаванне ўскосным чынам сведчаць шматлікія павучанні хрысціянскіх прапаведнікаў, якія абрушваліся на «паганскія» звычаі карыстацца паслугамі калдуноў, чараўнікоў, вешчуноў. Так, у «Слове о злых дусех» Кірылы Тураўскага (XII ст.) з папрокам гаворыцца пра тых, хто «оставив Бога... ищут проклятых баб чародейц, наузов и слов прелестных слушают... Баба начнеть на дети наузы класти, смеривати, плююще на землю; рекъше беса проклинает» [5] Шматлікія ўпамінанні пра прароцтвы вешчуноў, чарадзействы ведзьмароў змяшчаюцца ў ле-

---

Преображенский А. Г Этимологический словарь русского языка. М., 1958. С. 224.

[2] АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249.

[3] Гл. пра гэта падрабязна: Барташэвіч Г А. Магічнае слова: Вопыт даследавання светапогляднай і мастацкай асновы замоў. Мн., 1990. С. 27—34.

[4] Крушевский Н. Заговоры как вид русской народной поэзии //Варшавские университетские известия. Варшава, 1876. № 3. С. 23.

[5] Цыт. па кн.: Петров В. П. Заговоры // Из истории русской советской фольклористики. Л., 1981. С. 91.

тапісах. У «Повести временных лет» гаворыцца пра чарадзейства пры нараджэнні полацкага князя Усяслава (пад 1044 г.), а далей (1071), па сцверджанню летапісца, ужыванне чараў было не асобным выпадкам, а даволі распаўсюджанай з'явай: «...много волхвуют жены чародейством, и отравою, и инеми бесовьскыми козньями. Но и мужи прелщены бывают от бесов невернии...»[6]

Стаўленне да замоў з самых ранніх часоў іх усведамлення як з'явы побыту, з'явы ідэалагічнага характару было вельмі складаным. Распачатая афіцыйнай хрысціянскай рэлігіяй жорсткая барацьба па выкараненню замоў з бытавой практыкі прыводзіла да парадаксальных вынікаў: на надзвычай ашчадна зберагаемую язычніцкую тканіну замоў напластоўваліся хрысціянізаваныя элементы, якія з большым ці меншым поспехам уплывалі не толькі на вонкавае афармленне замоўных тэкстаў, але часам прыводзілі да змянення самой светапогляднай накіраванасці іх, змянення характару ўзаемаадносін чалавека з навакольным светам. Замест упэўненасці ва ўласных сілах — малітоўны зваротак да боскіх сіл, на змену заклінальніку — уладару прыроды або ва ўсякім разе яе раўнапраўнаму партнёру прыходзіць заклінальнік-просьбіт, функцыя якога зводзіцца да ролі пасрэдніка паміж чакаемым вынікам і суб'ектам — здзяйсняльнікам жаданага. Асабліва ярка праглядваецца розніца ідэалагічных установак пры параўнанні, напрыклад, замовы ад змяінага ўкусу (№ 317, 378) і ад «нячыстай сілы» (№ 87). Менавіта апошняя ўяўляе сабой узор тых твораў, да якіх дапасоўваецца назва «малітвы», або так званыя «ілжывыя малітвы». І замовы не прамінуў характэрны для ўсёй народнай творчасці працэс спалучэння розных па сваёй светапогляднай накіраванасці плыняў, што пачаўся з прыняццем новай веры, калі старыя язычніцкія традыцыі не знікалі бясследна, а суіснавалі, дакладней, прымушалі новыя ўтварэнні ўбіраць «міфічны звычай» язычніцтва, апрануўшы яго ў іншае адзенне. Як слушна сцвярджаў Ус. Мілер, «... магі на працягу доўгіх стагоддзяў народнага двухвер'я прыстасоўвалі свае старадаўнія язычніцкія формулы заклінанняў і свае старадаўнія сімвалічныя аперацыі да хрысціянскіх паняццяў і абрадаў. З гэтага змешвання атрымаліся тыя шматлікія «ілжывыя малітвы» і замовы, якія ў безлічы спіскаў распаўсюджваліся ў Сярэднявеччаў грэка-раман-

---

[6] Цыт. па кн.: Аникин В. П. Русский фольклор. М., 1987. С. 98.

скім свеце і разам з хрысціянствам пераходзілі да новахрысціянізаваных народаў, германскіх і славянскіх»[7]

Спісы замоў, так званыя «аракулы», «саламоны», мелі шырокае хаджэнне і на беларускіх землях, асабліва ў гарадах, мястэчках. Даходзілі яны і да вясковых жыхароў перапісанымі на асобных шматках або ў рукапісных зборнічках, часта скажона і таму незразумела. Адбывалася кантамінацыя з тэкстамі традыцыйных замоў, што адчуваецца ў стылёвай адрозненасці. У выніку злучэння ўласцівых народным замовам матываў з кніжнымі хрысціянскімі, а часам і запазычанымі з чужой глебы фрагментамі творы скажаліся, гублялі лагічную сувязь. Так паяўляюцца ў вусных замовах вобразы цара Давыда, Саламона, Ірада, уяўленні пра маманта (ці не адпаведнік Індрыка-звера ў вядомай «Галубінай кнізе»?), дэманы (загадкавы кеен) і г. д. Уплывам кніжнай традыцыі тлумачыцца таксама з'яўленне ў замовах невядомых ранейшым творам геаграфічных назваў, адпаведных апакрыфічнай літаратуры (рака Іардан, горад Русалім, гара Сінайская, «Сіяньскае мора» і г. д.), а таксама пералік у малітоўных уступах святых, у тым ліку «русалімськіх», упамінанне ў замовах храма, прастола і інш.

Праблема ўзаемадзеяння вуснай і пісьмовай традыцый у замовах звязана з іншымі, напрыклад з пытаннем аб прыродзе і вытоках замоў як жанру, удзельнай вазе і месцы кожнай з гэтых традыцый у асноўным фондзе тэкстаў. Супастаўленне замоў з іншымі фальклорнымі жанрамі, праведзенае ў даследаваннях Еляонскай, Пазнанскага, Пятрова, Барташэвіч, Гілевіча і інш., як нельга лепей выяўляе фальклорную аснову твораў. Акрамя таго, адной з галоўных характарыстычных адзнак замоў з'яўляецца вуснасць перадачы, што адлюстроўваецца і ў шматлікіх іх найменнях.

У некаторай ступені размежаванне замоў на вусныя і пісьмовыя адбываецца ў залежнасці ад іх функцыянальнай прызначанасці. Пісьмовая форма часцей характэрна для твораў, якія ўжываюцца ў якасці засцерагальнікаў, свайго роду амулетаў. Гэта могуць быць перапісаныя малітвы, кабалістычныя знакі, часам звычайныя замовы-перасцярогі, месцазнаходжанне якіх залежыць ад мэты іх прымянення: за бажніцаю ў хаце, у гаспадарчым памяшканні над дзвярыма, у чалавека пры сабе. Бываюць моманты, калі паперка з запісаным тэкстам з'ядаецца або прыкладаецца да хворага месца. Магічныя заклінальныя

---

[7] Миллер Вс. Ассирийские заклинания и русские народные заговоры // Русская мысль. М., 1896. Кн. 7. С. 89.

формулы, відавочна, запазычаныя з іншаэтнічных традыцый, якія складаліся з незразумелых для многіх слоў, вылучаліся і спосабам іх ужывання, і спосабам размяшчэння ці то на паперы, ці скарынцы хлеба. Менавіта гэта незвычайнасць прычароўвала, усяляла веру ў магічнасць слоў і формул. П. В. Шэйн, А. Шлюбскі прыводзяць узоры такіх выпісаў, некаторыя з іх, запісаныя ў розных месцах, супадаюць, што сведчыць таксама пра шляхі іх распаўсюджання. Прывядзём некаторыя прыклады. Так, ад шалу неабходна тройчы ў дзень тры дні запар даваць паперку або скарынку хлеба з наборам слоў, якія аднолькава чытаюцца з чатырох бакоў, што суадносіцца з чатырма вятрамі:

С а т о р
А р е п о
Т е н е т
О п е р а
Р о т а с.[8]

Словы маглі запісвацца ў радок («Шалаю, Лараю, Жалок, Ціон, Соцеро, Перо, Ореператус»[9]), злучацца знакамі («Іріон+Ліріон+Кіріон+Сталедон...»[10] або «Irion×Lirion×Kirion»...[11]), упісвацца ў пэўныя фігуры. Усяму гэтаму надаваўся магічны сэнс. Але ўсё ж дзейсным прызнавалася жывое слова, найбольш распашыраныя былі лекавыя і засцерагальныя вусныя замовы, якія складаюць асноўны фонд замоўнай творчасці.

Як вынікае з назіранняў дарэвалюцыйных і сучасных збіральнікаў, замовы складалі прыналежнасць не толькі так званых калдуноў, чараўнікоў, знахараў. Найбольш практычна неабходныя былі вядомы многім гаспадыням, якія карысталіся замовамі і адпаведнымі сродкамі ў тых выпадках, калі такая дапамога выклікалася неэкстрэмальнымі падзеямі. Гэта, умоўна кажучы, хатне-бытавое чараўніцтва; знаўцы такіх замоўных сродкаў не вылучаліся з агульнай сялянскай масы і не ўспрымаліся як носьбіты нейкіх незвычайных сіл. Яны, па вобразнаму вызначэнню Раманава, «ведзьмакі навучоныя», бясшкодныя

[8] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1893. Т. 2. С. 551.
[9] Там жа.
[10] Шлюбскі Ал. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Мн., 1927. Ч. 1. С. 39—40.
[11] Там жа.

ў адрозненне ад страшных «прыродных ведзьмакоў» [12]. Менавіта дзякуючы такой распаўсюджанасці замоў назапашаны збіральнікамі фальклору досыць шматлікі матэрыял.

Але існавала катэгорыя людзей, якія валодалі спецыяльнымі відамі чарадзейства ці яно ім прыпісвалася. Яны надзяляліся таемнаю сілаю і, як падае ў сваёй працы А. Шлюбскі, мелі дзве здольнасці: маглі і шкодзіць, і ратаваць ад шкоды. Гэта чараўнічая эліта. Да такіх знахараў, калдуноў звярталіся не толькі сяляне, але і мяшчане, нават паны, да іх прыязджалі здалёк. Вось якая характарыстыка даецца ім рознымі даследчыкамі: «Калдуны, чараўнікі і знахары — гэта звычайна маўклівыя, паважныя людзі, з уладным поглядам, фізічна вельмі дужыя, з вялікай і моцнай сям'ёй, пераважна сынамі. Чараўнікі звычайна маюць шырокія сувязі з гэткімі ж чараўнікамі ды знахарамі. Людзі яны вельмі небяспечныя. Яны могуць сваёй таемнаю сілаю сапсуць і чалавека і яго гаспадарку... Жывуць звычайна чараўнікі, калдуны і знахары багата, маюць моцную будоўлю, добры інвентар, добрых коней. Усё гэта большаю часткаю з'яўляецца вынікам заработку ад іх прафесіі» [13] Не выключалася магчымасць атрымання таямнічых здольнасцей ад «нячыстай сілы», таму да такіх знахараў адносіліся вельмі асцярожна. Вядомы выпадкі і негатыўнага, здзеклівага стаўлення да іх, што характэрна для перыядаў, калі пахіснулася вера ў дзейснасць знахарскага майстэрства і саміх замоў. А. Шлюбскі прыводзіць прыклады зняважлівых адносін да знахараў і нават «жорсткай расправы» над імі [14]. Але гэта не ўплывала на агульны погляд на замовы як сродак магічнага ўздзеяння. Да нашых дзён яны захоўваюцца не толькі ў глыбінях памяці старэйшага пакалення, але пераймаюцца нашчадкамі і ўжываюцца ў бытавой практыцы.

Апошнім часам назіраецца ўсплеск цікавасці да гэтага віду бытавой культуры, што звязана з многімі фактарамі духоўнага і эканамічнага жыцця. Не апошнюю ролю адыгрываюць прыродазнаўчыя і фізічныя навукі, якія скіравалі ўвагу на магчымасці чалавека, узаемасувязі розных элементаў жывой і нежывой прыроды, што пашырае ўяўленні пра здольнасць узаемадзеянняў на розных узроўнях і прыадчыняе завесу над з'явамі, якія раней трактаваліся як забабонныя вымыслы. Вывучэнне замоў на міфалагічным узроўні дае падставы гаварыць не толькі аб адчуванні чалавекам сваёй прыналежнасці да макракос-

[12] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Витебск, 1891. Вып. 5. С. VII.
[13] Шлюбскі Ал. Матэрыялы. С. 24—25.
[14] Там жа. С. 26—27.

му, але і выяўляе дастаткова стройную і распрацаваную сістэму ведаў, у аснове якой разуменне неаддзельнасці чалавека ад усёй касмічнай сферы, разуменне ўзаемазвязанасці і ўзаемаабумоўленасці ўсіх яе элементаў. Менавіта ў замовах, як і ў міфах, вучоныя бачаць наяўнасць логікі, якая абумоўлівае стратэгію паводзін. «Асноўнай рысай гэтай логікі можна лічыць разуменне прычынна-выніковых адносін як усёахопнай (глабальнай) і ўсёпранікальнай (інтэгральнай) сістэмы дэтэрміністычных сувязей (рэальных і фантастычных), адлюстраванне свету ў выглядзе (згодна са словамі французскіх даследчыкаў Р. Юбера і М. Моса) «гіганцкай варыяцыі на тэму прынцыпу прычыннасці». Французскі вучоны Л. Леві-Бруль назваў гэту логіку «логікай парціцыпацыі» (сопричастности), у адпаведнасці з якой звышнатуральныя сілы, прырода і чалавек, як элементы адзінага касмічнага парадку, разглядаюцца як нейкае неперарыўнае поле разнастайных узаемадзеянняў і аб'ектаў магічнага ўздзеяння»[15]. Суладдзе чалавека з прыродай, самім сабой, усёй касмічнай сістэмай адыгрывала вялікую ролю ў пошуках шляхоў і метадаў рэгуляцыі жыццядзейнасці ў розных яе праявах. Гэта суладдзе спрыяла выяўленню, прымяненню і кіраванню шматлікімі элементамі матэрыяльнага свету і яго энергетычнымі рэсурсамі. І ўсё ж пры ўсім ухваленні і нарэшце са станоўчымі ацэнкамі, дакладней пераацэнкай значэння і аб'ёму ведаў і ўмення ў сістэме магічна-медыцынскай практыкі і народных вераванняў, трэба прызнаць, што глабальны дэтэрмінізм, на якім заснаваны ўсе магічныя ўтварэнні, а сярод іх і замовы, не дазволіў ім падняцца да ўзроўню навуковых абагульненняў з іх дыферэнцыяцыяй прычын і следстваў і спрыяў адыходу ў разрад перажыткаў з паступовым развіццём навуковых ведаў. Негатыўны перахлёст у ацэнцы замоў, як і наогул многага ў народнай культуры, абярнуўся вялікімі стратамі не толькі для духоўнага развіцця грамадства. Пагарда да вопыту мінулага, да назапашаных стагоддзямі ведаў і практычных навыкаў у розных галінах, у тым ліку ў народнай медыцыне, забыццё важнага асэнсавання чалавекам свайго месца ў прыродзе, сувязі з касмічным светам сталі прычынай многіх бедстваў ва ўсіх сферах матэрыяльнага і духоўнага жыцця. Усё гэта і новы віток развіцця навукі прымушае апошнім часам іншымі вачыма ўгледзецца ў спадчыну продкаў.

Пры ўсёй цікавасці прадстаўнікоў розных школ і напрам-

---

[15] Топоров В. Н. Заговоры и мифы // Мифы народов мира. М., 1980. Т. 1. С. 450.

каў, асабліва міфолагаў, стаўленне да замоў было не адэкватным іх значэнню як з'явы культуры і з'явы побыту. Складаная прырода замоў, надзвычай ашчадная захаванасць у іх рысаў рознастадыяльных напластаванняў выклікалі розныя адносіны да гэтых твораў. Вучоныя здаўна звярнулі на замовы ўвагу як на творы архаічнай культуры, якія нясуць звесткі пра розныя бакі жыцця нашых продкаў, асаблівасці іх светапогляду на ранніх этапах развіцця грамадства. У той жа час у розныя перыяды з замовамі як з'явай звычаёвага і духоўнага жыцця народа вялася жорсткая барацьба. Распачатая афіцыйнай рэлігіяй, яна не прынесла жаданых вынікаў. Адбыўся адваротны працэс: замовы пад уплывам хрысціянскай ідэалогіі прыстасоўвалі новыя паняцці да язычніцкай асновы. Свайго апагею барацьба дасягнула ўжо ў недалёкія ад нас часы. Прыгадаем выкараненне замоў на Беларусі ў 30-я і пасляваенныя гады, шквал абвінавачванняў у адрас даследчыкаў і збіральнікаў замоў, абвінавачванняў, якія мяжуюць з палітычнымі даносамі, што нанесла вялікі ўдар не толькі па вывучэнню гэтага важнага пласта народнай фальклорна-звычаёвай культуры, але і па захаванню, зберажэнню яго ў бытавой практыцы. Фактычна пасля саліднай публікацыі Е. Р. Раманава і падборкі замоў у выданнях П. В. Шэйна, У. М. Дабравольскага, А. Шлюбскага, М. Федароўскага [16] замовы з'яўляліся ў друку эпізадычна, а цэлыя дзесяцігоддзі, перадваенныя і пасляваенныя, дзякуючы вульгарна-сацыялагічнай крытыцы былі перыядам вынішчэння навуковай думкі ў гэтай галіне.

Трэба сказаць, што ў дарэвалюцыйныя гады пытанням чарадзейства, знахарства і ў тым ліку замовам як аднаму са сродкаў чарадзейства ўдзялялася ўвага ў этнаграфічных працах. У іх мы знаходзім цікавыя звесткі пра розныя бакі такой важнай галіны народна-бытавой культуры, як традыцыйная медыцына, звесткі пра адносіны далёка не адназначныя да знахарства і знахараў, пра суадносіны рацыянальнага і забабоннага ў прыёмах і метадах, пра веру ў сілу слова і дзеяння і г. д. Акрамя ўжо адзначаных, варта прыгадаць працы Я. Тышкевіча, Ю. Крачкоўскага, М. Доўнар-Запольскага, Ф. Вярэнькі,

---

[16] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 5; Ён жа. Из области белорусской народной медицины // Могилевская старина. Могилев, 1903. Вып. 3; Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1887. Т. 1, ч. 1; 1893. Т. 2; Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. СПб., 1891. Ч. 1; Шлюбскі Ал. Матэрыялы; Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Kraków, 1897. T. 1.

А. Е. Багдановіча, І. Бермана, К. Машынскага, М. Я. Нікіфароўскага[17] Беларускія замовы прыцягваліся як ілюстрацыйны матэрыял рускімі вучонымі пры даследаванні іх як пэўнага праяўлення архаічнага мыслення і як цікавай фальклорна-этнаграфічнай з'явы. Тут можна назваць працы Н. Пазнанскага, А. Ветухова, В. П. Пятрова[18]. Як від народнай паэзіі беларускія замовы разглядае Я. Ф. Карскі[19]. Ён закранае пытанні, звязаныя з прыродай гэтага жанру, прыводзіць звесткі аб ужыванні замоў і чарадзейства з летапісаў. Самі замовы аналізуюцца ў адпаведнасці з іх прызначанасцю. Пры гэтым вучоны выкарыстоўвае схемы, па якіх сістэматызуюцца такія творы ў зборах М. Майкава, П. С. Яфіменкі, пачынаючы разгляд замоў з любоўных[20]. Абзорныя агляды замоў падаюць К. П. Кабашнікаў, М. Я. Грынблат, М. А. Янкоўскі[21].

Праблема класіфікацыі замоў, як наогул любога жанру, досыць складаная. Даследчыкі замоў кожнага з усходнеславянскіх народаў прапаноўвалі свае схемы. Разнастайнасць замоў па зместу, прызначэнню, форме, спалучальнасці формул і іншых асаблівасцях абцяжарвае задачу стварэння універсальнай класіфікацыйнай сістэмы, якая ўлічвала б усе гэтыя параметры[22]. Збіральнікі замоў пры іх публікацыі прытрымліваліся даволі выпадковых прынцыпаў размяшчэння. Нават у фундаментальным зборы Е. Р. Раманава, які па колькасці матэрыялу, па паўнаце сюжэтаў, тэматычнай разнастайнасці не мае сабе роўных

[17] Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847; Крачковский Ю. Быт западнорусского селянина. М., 1874; Довнар-Запольский М. Чародейство в Северо-Западном крае в XVII—XVIII вв.: Историко-этнографический этюд // Этнограф. обозрение. М., 1890. № 2; Werenko F. Przyczynek do lecznictwa ludowego // Mat. antropologiczna-archeologiczne i etnograficzne. Kraków, 1896. T. I; Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895; Берман И. Чаровники и знахари северо-западного простонародья // Виленский вестник. 1903. № 152, 158, 160, 164; Moszyński K. Kultura ludowa słowian. Warszawa, 1934; Никифоровский Н. Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897.

[18] Познанский Н. Ф. Заговоры: Опыт исследования происхождения и развития заговорных формул. Пг., 1917; Ветухов А. Заговоры, заклинания, обереги и другие виды народного врачевания, основанные на вере в силу слова: Из истории мысли. Варшава, 1907. Вып. 1—2; Петров В. П. Заговоры.

[19] Карский Е. Ф. Белорусы. М., 1916. Т. 3, ч. 1.

[20] Там жа. С. 68—69.

[21] Кабашнікаў К. П. Нарысы па беларускаму фальклору. Мн., 1963; Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. Мн., 1967; Беларуская народнапаэтычная творчасць. Мн., 1979.

[22] Падрабязна пра прынцыпы класіфікацыі замоў гл.: Барташэвіч Г. А. Магічнае слова. С. 12—16.

не толькі ў беларускай фалькларыстыцы, назіраецца некаторая непаслядоўнасць у падачы матэрыялу. Замовы групуюцца па прызначэнню ў групы, шматлікія варыянты аб'яднаны ў гнёзды, але самі групы могуць паўтарацца, перабіваюцца іншымі, што нельга ставіць у віну складальніку, улічваючы цяжкасці з публікацыяй, пра якія ён сам гаворыць у прадмове. Галоўнае, што не страчаны для нашчадкаў вялікі і каштоўны матэрыял.

Найбольш прыдатнай для карыстання ўяўляецца сістэматызацыя замоў па прызначэнню, што адлюстроўваецца ў іх тэматыцы. Можна вылучыць некалькі вялікіх груп, у якія ўключаюцца творы, блізкія па сваёй агульнай накіраванасці, але размеркаваныя па асобных падраздзелах у залежнасці ад канкрэтнай прызначанасці. Гэта замовы, звязаныя з гаспадарчай дзейнасцю (пры паляванні, лоўлі рыбы, пры развядзенні пчол і інш.). Сюды ж уваходзяць і ахоўныя (ад злых духаў і шкодных істот, прыродных з'яў: ад перуна, ад дамавога, хлеўніка, лесавіка, ведзьмы, чараўнікоў, ад залому, «нячыстай сілы», ад русалкі, ад порчы і пры першым выгане скаціны, а таксама ахоўныя ад звяроў: ад гадзюкі, ваўкоў, сабак, ад шалу). Другая вялікая група замоў уключае ўсе творы лекавага характару ад розных хвароб. Пералік іх даволі шырокі. І апошняя група — замовы, звязаныя з сямейным і грамадскім бытам. Тут асноўную масу складаюць любоўныя, вясельныя, салдацкія, на поспех у судзе.

Такая класіфікацыя дапамагае арыентавацца ў вялікім і разнастайным замоўным матэрыяле, хаця і яна не пазбаўлена недахопаў, не выключае таго, што ўмоўна адны і тыя ж творы могуць быць аднесены да розных груп. І ў практыцы, як сведчаць носьбіты, адны і тыя ж творы ўжываюцца ў розных выпадках. Так, замовы ад хвароб жывёлы могуць ужывацца і як ахоўныя пры выгане на пашу ў першы раз; замовамі ад хвароб карысталіся і пры лячэнні людзей, і пры лячэнні жывёлы і г. д. Што да тэматыкі, вобразнай сістэмы, наяўнасці матываў, якія ўлічваліся пры аб'яднанні твораў у тэматычныя гнёзды, то і тут многае залежыць не толькі ад агульнай накіраванасці твора, што вызначае яго слоўнае афармленне, але і ад мясцовай традыцыі, ад схільнасцей выканаўцы замоў. Асабліва гэта адбіваецца на ўступных і заключных формулах.

Колькасна і па разнастайнасці варыянтаў вызначаныя групы таксама не аднолькавыя. Найбольш захаваліся лекавыя замовы, а з гаспадарчых — звязаныя з аховай жывёл, з хваробамі іх. У апошняй групе (сямейны і грамадскі быт) вызначаюцца любоўныя замовы (прысушкі, адсушкі, «любжы»).

Кожная з вызначаных груп уключае творы рознастадыяльныя. Напластаванні розных эпох, розныя ўяўленні адчуваюцца і ў асобных творах. Напрыклад, у паляўнічай замове (№ 5) спалучаюцца матывы, звязаныя з культам усёмагутнай прыроды (вады, перуна і маланкі), і ў той жа час прыродныя сілы апякуюцца хрысціянскім святым Міхаілам-арханґелам. Такая ж пярэстасць і ў паралелістычнай формуле: «як ніхто не можэць уняць ні грома, ні малонні, ні вострыя стралы, так ніхто не можэць уняць і мяне, раба божага стралца, і маю ружыну-ружніцу і булат-зялеза» (№ 5).

У прамысловых замовах захаваліся водгаласы старажытных ахвярапрынашэнняў перад паляваннем, заклінанні, звароты да ўсяго, што звязана з паляваннем: лес, звер, апякун лесу і ўсяго жывога ў ім, які ў замовах называецца лясным гаспадаром. У гэтым сэнсе красамоўны прыклад уяўляе паляўнічая замова, якая прамаўлялася ў выніку паспяховага палявання: звер папаў у пастку, перш чым яго забраць, трэба задобрыць лес і яго гаспадара, каб не пакрыўдзіць іх, забяспечыць поспех і надалей: «...а лесу часному і лясному хазяіну паклон аддаваў і падаркам яго надзяляў: хлебам да соллю, да каленкораву рубаху, да шаўковую падпаяску» (№ 7).

Дарэчы, такімі тыповымі старажытнейшымі дахрысціянскімі ўяўленнямі, на якіх базіраваліся і рытуалы і заклінанні-прыгаворы, замовы, прасякнуты і ахоўныя замовы-звароты да лесавіка, хлеўніка, дамавога[23]. З міфалагічнымі традыцыямі звязаны найменні гэтых дэманалагічных персанажаў. Забарона называць іх сапраўдным імем (калі такі зварот ёсць, то з дадаткам іерархічнай пачцівасці: «Цар дваравой! Царыца-дваравіца! Твае дзеткі царанята!» або «цар лесавой», «цар хазяюшка дваравой») прывяла да шматлікіх сімвалічных абазначэнняў: «Добры вечар табе, дзядзішча, шырокая барадзішча, кучаравая галавішча» (№ 37); «Хазяюшка бацюшка частной дамавой», часта ўжываюцца ўласныя імёны: «лясной цар Анопрый», «Дзяменьці Дзяменьцевіч, Кляменьці Кляменьцевіч» і інш. Просьба да іх, як правіла, падмацоўваецца абяцаннем падарунка, што суправаджаецца адпаведным дзеяннем — у пэўным месцы кладуць акрайчык хлеба, пасыпаны соллю.

Уяўленні аб падпарадкаванасці з'яў, прадметаў, сітуацый пэўным сілам характэрны многім замовам. Скажам, у замовах ад пажару гэта і цар Гарадзей, якому прыпісваюцца канкрэтныя функцыі («агнём не ўладзей, жаркіх іскраў не раскідай, густога дыму не пускай» — № 22), і не заўсёды зразумелыя

[23] Гл.: Барташэвіч Г. А. Магічнае слова. С. 62—66.

царыкі («Упрашаю царыкаў: жаркага агняннага, вадзянога, вётранога, паланянага, вінагра, сікру, тура, ляснога бацьку і лясную матку... Упрашаю вас і ўмоляю вас, царыкаў і багатыроў» — № 24). Калі царыкі тут яшчэ могуць суадносіцца з уладарамі розных стыхій, то багатыры могуць уяўляць ці нейкія дадатковыя сілы, ці іх упамінанне выклікана імкненнем падкрэсліць магутнасць царыкаў (царыкі-багатыры). Як вынікае з іншай замовы (№ 27), багатыр сімвалізуе саму стыхію агню, пажар. «Агромнаму магучаму багатыру», які агароджаны зялезным тынам, ды яшчэ над ім і тучы грозныя, і мора сіняе, прадпісваецца не кранацца з месца («Сядзь, багатыр, ні кверху, ні кнізу, ні на стырыну»), а апеляцыя да цара Давыда і цара Касцянціна мае на мэце «ўкраціць» яго. Распаўсюджана параўнальная формула: «Вы ўкрацілі зямлю і ваду — украціце гэтага багатага багатыра на гэтым месце».

У адпаведнасці з практычнай накіраванасцю замовы, для ўзмацнення яе дзейснасці, што залежыць, па ўяўленнях нашых продкаў, ад дакладнасці і выразнасці слова, знаходзіцца ўвесь набор паэтычных вобразаў і сродкаў. Чырвоны колер як сімвал пажару, агню невыпадкова часам праходзіць праз увесь тэкст як арганізуючы эпітэт: «Ехаў Касьцянцін на красным кані ў красным жупані, у красных чаботах, у красных нагавіцах і ў краснай шапцы» (№ 26). Скразны эпітэт адразу вызначае характар замовы, бо выбіраецца па асацыяцыі з той з'явай, супраць якой накіраваны. Можна сцвярджаць, што менавіта асацыятыўнасць адыгрывае вялікую ролю ў замовах. Матыў цудоўнай агароджы ў замовах на захаванне жывёлы, матыў замыкання, матыў месца адсылкі хвароб або застрашвання пэўным пакараннем — усе яны вынікаюць з такога ходу думкі, такога прыёму мыслення, калі ў аснове супастаўлення не адцягненая сімволіка, метафарычная ўмоўнасць, а апора на якасныя характарыстыкі прадметнага свету. Падабенства гэтых характарыстык, заўважанае назіральным розумам, давала штуршок для атаясамлівання канкрэтнага прадметнага вобраза з сімвалічным вобразам замовы. Як замок загароджвае бытавыя прадметы ад парушэння, так і замоўны замок перашкаджае зверу нанесці шкоду жывёле.

Кожная група замоў — функцыянальная, тэматычная — дае вельмі цікавы матэрыял для характарыстыкі асаблівасцей светапогляду і асаблівасцей мастацкага ўвасаблення адпаведных уяўленняў. Гэтаксама і кожны замоўны матыў можа стаць прадметам спецыяльнага даследавання.

Самымі распаўсюджанымі, агульнавядомымі і шматлікімі

з'яўляюцца замовы ад хвароб, або лекавыя, якія прымяняліся для дапамогі людзям і хатняй жывёле. Ужо сам пералік хвароб, ад якіх ужываліся замовы, сведчыць пра даволі шырокія веды нашых продкаў у анатоміі і народнай медыцыне, а тэксты замоў з пералічэннем органаў і касцей пацвярджаюць гэта. Менавіта замовы як адна з састаўных частак народнай медыцыны могуць лічыцца папярэднікам медыцыны навуковай. Да таго ж істотным элементам лячэбнай магіі было прымяненне лекавых траў, выкананне пэўных фізічных дзеянняў, якія лічыліся магічнымі, але фактычна аказвалі дабратворнае ўздзеянне, напрыклад масажы, націранне тлушчам і рознымі настоямі траў, змыванне вадою і г. д. Зараз не адмаўляецца роля саміх замоў як гіпнатычнага сродку, што сапраўды мог даваць станоўчы вынік, калі ўлічваць такі немалаважны фактар, якім была шчырая вера і заклінальніка, і самога хворага ў дзейснасць замоўнага рытуалу.

На жаль, погляд на замовы толькі як на рэшткі забабонаў прывёў да негатыўнага стаўлення да іх і выкаранення ўсімі магчымымі спосабамі, выключыў магчымасць і спробы паглядзець на механізм іх уздзеяння з псіхалагічнага пункту погляду. А між тым на заганнасць такога стаўлення звярталі ўвагу некаторыя даследчыкі яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы. А. Ветухоў абсалютна справядліва пісаў: «Сучаснае навуковае мысленне ў сваім шырокім патоку, які нясе субстанцыі, рэчы, матэрыю ў бездань з'яў, працэсаў і сіл, на розных пунктах, у розных галінах навук улаўлівала ў розных кутках і выносіла на сярэдзіну цячэння асобныя факты, назіранні, якія пралівалі святло на сутнасць, на асновы жыцця гэтай магутнай зараз,— і заўсёды прызнаваемай за такую,— сілы — унушэння, уздзеяння словам на самыя інтымныя бакі чалавечага духу, яго псіхікі» [24]. Ён настойліва даводзіў, што помнікі народнай творчасці неабходна ўлічваць, бо «дзякуючы настойлівым работам навуковай думкі многія з'явы, якія засведчаны помнікамі народнай творчасці, але лічыліся домысламі пустой фантазіі, становяцца на глебу рэальнасці» [25].

Праблема значэння слова, гіпнозу слова для асобнага чалавека і ўсяго грамадства прыцягвала ўвагу філосафаў, паэтаў і пісьменнікаў, вучоных розных накірункаў. Да апошняга часу сіла слова менш за ўсё бралася пад увагу медыцынай. Феномен жывучасці замоў, відаць, можна растлумачыць і значэннем менавіта слова, яго ўплывам на чалавечую свядомасць. М. Бяр-

[24] Ветухов А. Заговоры, заклинания, обереги... С. 103.
[25] Там жа. С. 101—102.

дзяеў у кнізе «Лёс Расіі» пісаў: «Словы маюць агромністую ўладу над нашым жыццём, уладу магічную. Мы закалдаваны словамі і ў значнай ступені жывём у іх царстве. Словы дзейнічаюць як самастойная сіла, незалежная ад іх зместу» [26] І хоць філосафа цікавіць роля слоў у грамадскім жыцці, але адзначаная ім улада слоў, якія самі па сабе і натхняюць, і забіваюць, уздзеянне слоў як нельга лепей стасуюцца да ролі слоў у замовах.

У нашы дні, калі ўзрастае цікаўнасць да мінулага ў розных яго праяўленнях, абуджаецца цікавасць і да розных бакоў народнай медыцыны, да розных спосабаў лячэння, уздзеяння на чалавека і словам. Але, як часта бывае, цікавасць гэта накіравана на тое, што аддзелена ад нас вялікімі адлегласцямі і малавядомымі традыцыямі. Мы імкнёмся пранікнуць у таямніцы індыйскай, тыбецкай, лаоскай, в'етнамскай медыцыны; некаторыя вучоныя становяцца на абарону такіх з'яў, якія яшчэ дзесятак гадоў таму выклікалі ў лепшым выпадку скептычныя ўсмешкі. Зараз раздаюцца разважныя галасы, маўляў, можа не варта ўсё нам незразумелае падводзіць пад рубрыку цемрашальства, забабонаў і невуцтва. Можа, варта пашукаць і ў гэтым незразумелым нейкія рацыянальныя пачаткі.

Тэматыка лекавых замоў надзвычай разнастайная. Яны ахопліваюць практычна ўсе вядомыя на пэўным этапе сітуацыі, звязаныя з парушэннем нармальнага цячэння чалавечага жыцця, і накіраваны на папярэджанне ці выпраўленне такіх сітуацый. У залежнасці ад узроўню ведаў і праяўлення хваробы (канкрэтна бачнае і таму лёгка тлумачальнае або ўнутрана скрытае і выяўленае толькі праз агульны стан) замовы ўпамінаюць агульнавядомыя хваробы (крывацёк, удар, скула, зубны боль і г. д.) і такія, якія цяжка суаднесці з пералікам хвароб прафесійнай медыцыны: падвей, сцень, стаццё, прыстрэк. Гэтыя назвы часцей за ўсё ўказвалі не на саму хваробу, а на яе сімптомы, канкрэтныя праяўленні. Сучасныя інфарматары пры тлумачэнні падвею абавязкова звязваюць гэту хваробу з благім ветрам (халодным, «паганым», «чорт знае, адкуль ідзе»), а вынік можа быць розны: запухне твар, пакрыецца баляўкамі, падхопленыя падвеем дзеці не спяць, блага адчуваюць. Яшчэ больш неакрэсленае ўяўленне пра стаццё, прытча (ад дзеясловаў стаць, прычыніцца), што нібыта напускаецца на чалавека ці жывой істотай, ці стыхіяй. Адпаведна і ў замовах такая хвароба адсылаецца да сваіх вытокаў: «...стаццё вадзяное, стаццё земляное, стаццё ветравое, стаццё агнявое; земляное ў зямлю, а вадзяное ў ваду, а агняное на 'гонь, а ветраное на вецер» (№ 192).

---

[26] Бердяев Н. Судьба России. Главы из книги // Москва. 1990. № 1. С. 174.

У аснове лекавых замоў спалучаюцца агульныя светапоглядныя ўяўленні, у першую чаргу элементы анімістычнага мыслення, калі ўласцівасці жывой істоты прыпісваліся не толькі прадметам, але і з'явам псіхічнага, пачуццёвага характару (стан чалавека, пачуцці і г. д.), і водгаласы поглядаў, звязаных з першабытнай практыкай, у якой вялікае месца належала інстынктыўным дзеянням і назапашаным вопытам рацыянальным спосабам дапамогі. Хваробы ў замовах выступаюць як нешта матэрыяльнае, тое, што можна выгрызці, вынесці, узяць у рукі, тое, што прыходзіць і можа адысці. Хвароба персаніфікуецца, да яе звяртаюцца як да жывой пэўнай істоты, таму часта ў замовах да хваробы даецца характарыстычны дадатак: удару — гаспадару, каўтун — добры чалавек, скула — красная дзявіца, залатнічок — панічок і г. д. У сферы хвароб існуюць, па ўяўленню нашых продкаў, сямейныя адносіны, для іх характэрна іерархічная падначаленасць, вылучэнне галоўнай распараджальніцы. Так, у замове ад звіху «звіховая маці» дае распараджэнне сыну-звіху: «Звіхова маці па полю хадзіла, свайго сына-звіха будзіла: «Устань ты, мой сыньку-звіху, і памажы етаму ліху» (№ 551, вар.). Гэтаксама віхрава маці распараджаецца сынамі, і ад іх прыходзіць «падвей»: «На сінім моры віхрава матка гуляла. Парадзіла на той бок сіняга мора дванаццаць сыноў. Пасылала на еты бок сіняга мора, штоб яны пілі, гулялі і там раба божага падбівалі» (№ 1008). Тут жа сярод віхравых сыноў вылучаецца старшы: «На моры-акіяне, на востраве Буяне стаіць дуб на дванаццаць каранёў, на дванаццаць какатоў; на тых какатах па дванаццаць гняздоў, у тых гняздах па дванаццаць віхроў. Адзін віхр старшы» (№ 1008).

Персаніфікаваныя і іншыя хваробы. У выглядзе жанчыны ўяўлялася ліхаманка. Яна мела розныя назвы: «хінця», «цётка», «варагуша», «цяцюха», «трасавіца», «трасца». Звычайна ліхаманка ў замовах выступала ў выглядзе многіх жанчын: «Па первым вяснянка, а втарая лядзянка, а трэцця лістападніца, а чацьвертая касцяніца, пятая квактухка, шостая начніца, сёмая смутніца» (№ 858). Іх называюць «дочары», «жоны», «сёстры»; колькасць таксама вар'іруецца: сем, дванаццаць, семдзесят сем. Сутнасць хваробы як матэрыяльнай адухоўленай істоты падкрэсліваецца апісаннем знешнасці: «... выйшла дванаццаць жон, босыя і проставалосыя, беспаясыя» (№ 861); «... стрэлі яны семдзесят сем жон, голых і босых і проставалосых» (№ 866); «устрэцілісь ім дзвянаццаць дзеў — нагі, босы, растрапаны косы» (№ 866, вар.). Пад уплывам апакрыфічнай літаратуры ліхаманкі ў замовах пастаўлены ў сваяцкую сувязь з вя-

домым сваёй жорсткасцю царом Ірадам. У такіх творах пакаральную функцыю выконваюць святыя (Бахмуці, Аўрам, Ісак, Маісей, Аксенці і інш.). Але старадаўняя аснова і тут захоўваецца даволі трывала. Вера ва ўласныя сілы («Як пайду я ў лес, як высеку я алехавы дубец, як стану вас біць, як стану я вас сцябаць» — № 862), упамінанне стыхійных сіл, зваротак да зорак (№ 865) — усё гэта водгаласы язычніцкай ідэалогіі, якія часта суіснуюць з новымі ўяўленнямі, узросшымі на глебе афіцыйнай рэлігіі. Спалучэнне ў замовах розных плыняў ішло насуперак забаронам хрысціянскай царквы, адносіны якой да гэтага жанру заўсёды былі адназначна адмоўныя. Гэта яшчэ адно пацвярджэнне, што старадаўнія народныя традыцыі нельга вынішчыць, яны прыстасоўваюцца да новых умоў і захоўваюцца нават пры супрацьдзеянні.

Уяўленням пра хваробы як нешта матэрыяльнае адпавядаюць і спосабы вызвалення ад іх. Часам гэта незвычайныя сродкі і ажыццяўляюць іх фантастычныя істоты. Так, звіх выпраўляе чорны воран — «ґалава яго стальная, дзюбка залатая, кіпці сярэбраныя, крылы арліныя». Ён звіх «дзюбкай выклёвываў, кіпцюрамі выдзіраў, крыллямі вымятаў» (№ 553). Той жа звіх лечаць «тры каты», якія «кожы паскідалі, суставы ўстаўлялі» — элементы рацыянальнага спосабу (№ 527, вар.). Гэтаксама фантастычнае і практычна магчымае пераплятаюцца і ў наступнай замове: «Па крутой гарэ хадзілі тры панны Купанны, усякія зеллі ірвалі і звіх шапталі, і сустаў к суставу прыкладалі, і цела шкурай павалакалі, і ядрась і вопух шапталі, і жылы кроўю палівалі» (№ 527). У лекавых замовах дапамагаюць хвораму розныя асобы: і сам заклінальнік з яго ўпэўненасцю ў сваю магічную магчымасць, і фантастычныя істоты накшталт ворана або арла, ястраба, часам без галавы, без крылляў, без дзюбкі, невядомыя панны, браты, сястрыцы, міфічныя старыя, пазнейшая традыцыя — Бог, Прачыстая, святыя. Несумненную цікавасць уяўляе замова, дзе здароўе забяспечваюць продкі. Тут не толькі прамое ўказанне, да каго звяртаюцца з просьбай: «Папрашу таго, кім кладбішча занімалі», а і пералік іх — «старыя і малыя, блізкія і далёкія, свае і чужыя» (№ 456). Традыцыйнае задобрыванне іх хлебам-соллю стасуецца з такімі ж дзеяннямі падчас розных каляндарных абрадаў.

Некаторыя замовы, дзе галоўная роля адводзіцца старэнькаму дзядку, старыцы, і па свайму зместу, і па кампазіцыі збліжаюцца з чарадзейнымі казкамі[27] Надзвычай паказаль-

---

[27] Падрабязна пра сувязь замоў з рознымі жанрамі гл.: Барташэвіч Г. А. Магічнае слова. С. 90—92.

ныя ў гэтым сэнсе замовы «ад шалу» (шаленства). Старэнькая бабка (у некаторых замовах старыца) з'яўляецца ўладаром шалёных сабак або жала смяротнага (№ 430, 431). Менавіта ёй гучыць пагроза пакараннем, калі яна не выканае просьбу «ўняць» сваіх падначаленых. Такую ж функцыю выконвае і стар-старычок, сівенькі старэнькі дзедзька, які таксама «ламаець трусок калінавы, пускаець пашок малінавы» (№ 434, 446 і інш.). Яму таксама пагражаюць громам і маланнёю пры невыкананні просьбы заклінальніка. Нягледзячы на пагрозы ў адрас гэтага апекуна кусачых сабак, да яго даволі пачцівае стаўленне ў замовах, аб чым сведчаць і звароткі да яго (дзедзька-лябедзька, дзедзічка-лябедзічка), апісанне яго самога (старэнькі, сівенькі, стары барадаты) і ўсяго, што з ім звязана. Яго нават называюць «шалны цар»: «... узыду я на крутую гару і гляну пад красную зару — там стаіць медны дом і залатая аграда, і сярэбраныя вароты. Усерадзі таго дома ляжыць белы камень, на том белым камні сядзіць стары дзеду — шалны цар, сіні агонь раскладаець і кала яго сілны агонь шыбаець» (№ 443). Усё стварае атмасферу не толькі таямнічасці, а нейкай магутнай сілы, з якой неабходна абыходзіцца з вялікай асцярожнасцю. У адной з замоў сам Бог і Прачыстая вядуць з такім дзедам размову разважліва, на роўных (№ 444). І зусім казачны дзед з'яўляецца ўвасабленнем самога шалу: «З вусходу сонца на запад сонца ідзець старычок — сам з ногаць, барада па пояс, пуга сем сажаней, пугаўё з локаць. Ето самы шал» (№ 448). Але гэтым не вычэрпваецца сутнасць вобраза. Нават самы фантастычны («дзед на дванаццаць галоў») і проста старэнькі старычок з «залатым цапочкам» (ці не для кусачых сабак?) выступае як лекар ад злога шалу. Ён «карэнне капаў, галлё ламаў, агонь разжыгаў... яд загаварваў» (№ 449); або «дзедзька-лябедзька, па імянню Аўдзейка, зялезнай пугай сілістая, яры зуб замаўляя, з буйныя галавы, з гарачыя крыві шал выбівая» (№ 435). Як у чарадзейных казках Баба-Яга адсылае да сваёй сястры за дапамогаю, калі яе ўмення не стае, так і дзедзька-выратавальнік раіць звярнуцца да другога стар-старычка з «залатым цапочкам». Тут і падрабязнае паўтарэнне дыялогаў, і апісанне месца адсылкі па законах развіцця казачнага сюжэта.

Нават на адной групе сюжэтаў відаць, наколькі разнастайная вобразная сістэма замоў, як вар'іруюцца асобныя дэталі, але пры гэтым захоўваюцца асноўныя светапоглядныя ўяўленні, захоўваецца ўзаемазвязанасць складовых частак, якія і ўтвараюць замоўны тэкст. Хвароба як нешта жывое існуе самастойна, яна прыходзіць да чалавека, яе неабходна выгнаць, і для

гэтага існуе шмат спосабаў — угавор, пагроза, фізічнае выдаленне, выгрызанне, вымыванне, злізванне і г. д. Многія з такіх дзеянняў, якія ўспрымаюцца як сімвалічныя, маглі мець сваімі вытокамі рэальныя паводзіны (напрыклад, абмыванне, злізванне парадзіхі, як гэта вядома і жывёльнаму свету) або метады першабытнай хірургіі. Для замоў характэрны матыў застрашвання хваробы, абароны не толькі ўласнымі сіламі заклінальніка, але і пры дапамозе стыхій (перуна, маланкі, жаркага сонца, хмар), Бога, святых. Пагроза пакараннем у адрас персаніфікаваных хвароб і абмалёўка пакарання складаюць функцыянальна абумоўленую неад'емную частку замоў. Для іх характэрны сталыя формулы, слоўныя клішэ, якія ў адной мясцовасці або ў аднаго заклінальніка пераходзяць з тэксту ў тэкст рознай тэматыкі. А наогул можна вылучыць агульныя сталыя формулы. Гэта пералік частак цела, адкуль хвароба выганяецца, пералік адзнак хваробы (у замовах ад рожы, скулы, ад укусу змяі, ад уроку і інш.), формулы забароны («вам тут не стаяць, не бываць, касці не ламаць, жыл не таміць, сэрца не сушыць, глаз не смуціць, галавы не шуміць»), формулы месца выгнання («на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, на крутыя горы, на жоўтае карэнне, на белае каменне»). Месца адсылкі вар'іруецца. Ім можа быць гіблае месца, дзе хвароба канчаткова загіне (мхі, балоты), хтанічнае царства («дзе сонца не грэе, дзе вятры не веюць, дзе пеўні не спяваюць і гусі не крычаць, і сабакі не брэшуць, і птушкі не пяюць, і людзі не ходзяць» — маўклівае царства мёртвых); гэта могуць быць і мясціны, прывабныя, па ўяўленнях людзей, для хвароб, месцы раскошы, дзе прыгатаваны напіткі, наедкі, «лёгкае ўздыханне», адным словам, хваробу спакушаюць жыццёвымі радасцямі.

Многія лекавыя замовы прыстасоўваліся і для лячэння дарослых, і для дзяцей, маглі ўжывацца і людзям, і жывёле. Так, папераджальная замова ад несвоечасовых родаў прымянялася да розных жывых істот: «Можна і карове, і кабылі, усім, хто родзіць,— ужо даносіць да пары» (№ 1111). Група замоў пры родах і адпаведныя дзеянні грунтаваліся на прынцыпах магіі па падабенству (падобнае выклікае падобнае). У залежнасці ад таго, на лёгкія роды ці супраць заўчасных ужывалася замова, лічылася неабходным правесці пэўныя дзеянні, якія спрыяюць жаданаму выніку. Адчынялася ўсё, што можна адчыніць (або замыкалася), расшпіляліся гузікі, развязваліся вузлы. Адпаведна і ў замовах найбольш пашыраны матыў замка і ключа. Уласцівы жанру загад у такіх замовах адрасаваны і бытавым і свяшчэнным прадметам, самой прыродзе: «Вы, замочкі, ад-

мыкайцеся, царскія вароты, адчыняйцеся... Гара, разайдзіся, камень, раскаціся, жалеза, растапіся, шкло, разбіся, вада, разліся, дубок, развейся, маладзенец-маладзенька, на гэты свет з'явіцеся» (№ 1122). Часта загад дапаўняецца просьбаю вытрымаць пару: «І ці рыбачка, ці вакунец, выдзяржы, пакуля табе выйдзя рачанец, без майго чысла, без майго ведама» (№ 1096).

Матыў своечасовасці жаданага выніку выяўляецца рознымі параўнаннямі. Тут і супастаўленне з жыццём прыроды: «Няма пары — няма й травы, царськія вароты пазапіраны і кворткі пазамыканы» (№ 1121), з рухам нябесных свяцілаў: «Ясны месяц, парою ўсходзіш, парою заходзіш» (№ 1113), і пажаданне лёгкасці, як рух стралы: «Прыйдзя час і пара — выхадзі, як із лука страла» (№ 1114). Усё павінна ісці сваёй парой, сваёй чаргой, але і гэту заканамернасць трэба падтрымаць даступнымі чалавеку, дзейснымі, на яго думку, сродкамі. На дапамогу заклікаюцца сам Бог, Прачыстая, усе святыя. Яны валодаюць залатымі (сярэбранымі) замкамі і ключамі (колькасць іх вар'іруецца ў межах сімвалічных лічбаў), якімі адмыкаюць і царскія вароты, і сустаўчыкі парадзісе, маці Прачыстая калянай стралой па полю размятае хваробы (№ 1120) і ў той жа час робіць, што магла бабка-пупарэзніца: «Чараз поле чыстае, чараз мора быстрае шла маць Прачыстая. Там яна траўку рвала, вадзіцу брала, рабу божую Ганну ўсё цела падмывала і ў мора спускала» (№ 1118). Як і ў творах розных жанраў, у такіх замовах святыя выконваюць неабходныя для нармальнага ходу жыцця функцыі, і тым яны і цікавы людзям. У той жа час даецца парада самому нараджэнцу: «А ты, янгёл, не ляжы, ножкамі папіхайся, даверху дабірайся» (№ 1123).

Антрапамарфізм характэрны для замоў ад пасляродавых хвароб. Грудніцу (яе называюць маладзіцай) адсылаюць у чыстае поле («ідзі ў чыста поле» — № 1126), яе можна здуць, сплявацъ («здую, сплюю... грудніцу»). З нагоды такога спосабу пабудовы мастацкай тканіны твораў слушную думку выказаў В. П. Пятроў: «Што замоўныя вобразы ствараюцца, паслядоўна вырастаючы з агульнай тэмы-спосабу выдалення хваробы ў адпаведнасці з агульным поглядам на яе, асабліва ярка відаць на прыкладзе замоў, дзе размова ідзе пра заяданне, адкусванне, загрызанне хваробы»[28]. Гэта тычыцца і іншых тэм, такіх, як зашыванне ў замовах пры крывацёках, злізванне пры парушыне ў воку, змыванне ў замовах ад сухот, ад валасня і інш.

[28] Петров В. П. Заговоры. С. 104.

Дастаткова вялікую групу складаюць замовы, пры дапамозе якіх імкнуліся aберагчы дзіця ад розных хвароб. Тут і замовы ад спецыфічна дзіцячых хвароб, такіх, як начніцы, крыксы, плаксы, дзяцінец, радзімец, і ад хвароб, уласцівых і дарослым (урок, пужанне, звіх, грыжа, сухоты, сцень і інш.). Характэрна, што ад кожнай хваробы існавалі творы, тэматычна разнастайныя, з адпаведнымі дзеяннямі. Так, замовы ад начніц, ад крыксаў-плаксаў, калі дзіця па невядомай прычыне не спіць, крычыць начамі, бываюць кароткімі прыгаворамі з абавязковымі дзеяннямі і тэматычна разгорнутымі з малітоўным уступам, зачынам, зместавай часткай (№ 1136, 1149, 1161 і інш.). Начніцы, па назіраннях А. Я. Багдановіча, уяўляліся маленькімі і злымі духамі ночы. Таму дзейсны сродак супраць іх — сонца, агонь. Менавіта сонейка, па замове, «дзень начынаець, начніц праганяець, дзянніц насылаець, боль сунімаець» (№ 1130). Адпаведна дзіця «палаюць» (калышуць) перад полымем у печы пры замаўлянні, а апошнія словы замовы «Шух у печ! Шух у печ!» якраз і павінны садзейнічаць выгнанню духаў у палаючы агонь.

У замовах ад начніц звяртаюцца з просьбай то да зор («зоры-зараніцы, забірайце крыксы-начніцы»), то да курэй («куркі-сакатушкі, вазьміце ад маладзенца начнушкі» — № 1140); крыксы-плаксы нясуць ад дзіцяці сарокі («панеслі цераз чароты, цераз балоты да ўтапілі ў яр глыбокі» — № 1145); ролю збавіцеля ад гэтых хвароб выконвае і ваўчок-ваўчышча (№ 1146), ваўчыца (№ 1147), дванаццаць вараноў (№ 1156) — знаёмы і па іншых замовах вобраз. Сустракаюцца тут і міфічныя бабка, якая павінна занесці крыксы («крыкі, зыкі, начніцы, палуначніцы» і яшчэ доўгі пералік іх з упамінаннем усіх зораў) «за дунай-мора, за дунай-поле», дзе ім «піць-гуляць, добра сабе мяць» (№ 1149), і дзядок з доўгаю пугаю (№ 1151), «дзевяць дзевяцей дзявіц» (№ 1152). Бабка і дзядок аб'ядноўваюцца сюжэтам пра братанне, кумленне або шлюб дзяцей і падзел паміж дзецьмі крыксаў і добрага спання-прыбывання. Што бабка і дзед сімвалізуюць нейкія духі, вынікае з іх характарыстыкі: дзед лесавы, бабка лесавая (вар.: заморская, балотавая, чаротавая). Зваротак да іх часам суправаджаецца гуканнем, быццам выклікаюць іх здалёк: «Лесавы дзед — гу-у, лесавая баба — гу-у! Пасватаемся, пабратаемся. У цябе маладзён, у мяне маладзёніха. Вазьмі ў маёй маладзёніхі крыксы, плаксы, занясі сваёй маладзёніхі» (№ 1168). Невыпадковасць азначэння гэтых асоб лесавымі пацвярджаецца і замовай, дзе фігуруе дуб Лебядзін (№ 1171). Яму прапануецца забраць «плаксы і крыксы, і варык-

сы» і аднесці іх «на цёмныя лясы, на тоўстыя дубы, на шырокія лісты — там вам піць і буяць». Менавіта дуб часта ў замовах выступае то як суб'ект дзеяння, то як месца, дзе знаходзяцца здзяйсняльнікі магічнага дзеяння (№ 1156, 1157, 1162). Часам крыксаў задобрываюць падарункамі (хлебам-соллю, белай рубашачкай, красным паясочкам) у абмен на добрае здароўе і сон для дзіцяці (№ 1138). Тут яны выступаюць у такой жа ролі, як прадстаўнікі ніжэйшай дэманалогіі: ім таксама прыносяць ахвяры, з імі ўступаюць у дагаворныя адносіны. Звяртаюцца і да самога дамавога, якому зычаць прыбытак у абмен на здароўе дзіцяці (№ 1174).

Цыкл «універсальных» замоў ад комплексу хвароб уключае творы, дзе хвароба не канкрэтызуецца. Гэта могуць быць наогул боль, усе «балезні», пералік многіх хвароб або вытокі іх («мо табе нароблена на хадзе... на ядзе... следу узята... у печ... пад парог» і г. д.— № 1233). Некаторыя творы ўяўляюць сабой хутчэй малітвы, словы не столькі ад хвароб, колькі ад усяго дрэннага, што можа напаткаць чалавека ў жыцці. Як правіла, такія творы заканчваюцца ахоўнай формулай: «Хто гэту малітву прачытае, той у вагне не згарае, у вадзе не патанае, пад нажом не бывае, на вяроўцэ не павісае, пад пулямі не страдае, страшнай смерцю не ўмірае». Жыхарка в. Рачэнь Любанскага раёна Е. К. Ляўчэня ў час вайны чытала падобную малітву, тройчы абышоўшы партызанскі лагер у час блакады. Па яе перакананню, гэта дапамагло пазбегнуць вялікіх людскіх страт [29] Просьбы агульнага характару шапталі на ваду і давалі абціраццa хвораму, на хлеб, пісалі на паперы і падкідалі на скрыжаванне дарог (напрыклад, «Падкідка» — № 1242).

Якія б фантастычныя вобразы ні насялялі замовы, якія б неверагодныя, на наш погляд, спосабы знішчэння хваробы ні ўпаміналіся ў іх, замовы нельга адносіць толькі да шкоднага перажытку, хаця сляпая вера ў магчымасці замоў магла прыводзіць да негатыўных вынікаў, калі ў час не звярталіся да неабходнай кваліфікаванай дапамогі. Значэнне лекавых замоў не толькі ў тым, што яны адлюстроўваюць назапашаны дапрафесійнай медыцынай вопыт, некаторыя рацыянальныя спосабы і сродкі, знойдзеныя на шляху пошукаў і памылак. Уздзеянне словам, асабліва калі ў магічнае слова верылі, аказвала дабратворны ўплыў на псіхічны стан чалавека, спрыяла мабілізацыі ўнутраных сіл, што з'яўляецца важным фактарам у працэсе лячэння.

---

[29] АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 96, сш. 6, л. 15—16, № 8. Зап. Г А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Рачэнь Любанскага р. ад Е. К. Ляўчэні, 1902 г. н.

У лекавых замовах, як і ў іншых, бадай, самым распаўсюджаным прыёмам з'яўляецца параўнанне. Параўнанні разгорнутыя і кароткія, параўнанні па формуле «як — так» і якія толькі падразумяваюцца, адмоўныя параўнанні — усе яны з'яўляюцца арганізуючым структурным элементам твора. Як мастацкі прыём параўнанне ўзнікла на шляху развіцця працэсу мыслення, працэсу пазнання заканамернасцей рэчаіснасці. Простае супастаўленне, устанаўленне адрозненняў або падабенства вялі чалавецтва да адкрыцця сувязей ва ўсім навакольным свеце. У замовах з іх асноўнай прызначанасцю дасягнуць жаданага выніку магчымасць гэтага падтрымліваецца верай у дастатковасць яго параўнання з вядомым і надзейным фактарам: як мёртвым не ўставаць, так не бываць урокам (№ 274), як з пасечанай калінкі кроў не канула, каб так не канула кроў у чалавека (№ 500), як сухім дубчыкам «карэння не пускаці, голлейкам не меці, лістом не шумеці, расою не прыпадаці, так етаму ўдару не ядрыцца, не балеці» (№ 581) і інш.

На прыёме параўнання будуюцца і многія замовы, якія адносяцца да сферы душэўнага стану чалавека або грамадскіх адносін.

У любоўных замовах у аснове параўнанняў ляжаць уяўленні пра каханне як пра сілу, якая гарыць агнём, сушыць, адсюль і назва іх — «прысушкі», адсюль і вобразы, набор эпітэтаў. «Як краснае сонейка... прыпякае мхі і балоты, чорныя гразі, так бы... прысыхаў ка мне раб божы» (№ 1287), «Як дню без краснага солнышка не бываць, а ночы без яснай зары... так раба божая... не можа ні жыць, ні гуляць без...» (№ 1298) — параўнанне праводзіцца з такімі з'явамі, заканамернасць якіх не выклікае сумнення. Народная фантазія ставарае незвычайныя вобразы, сутнасць якіх вызначаецца нададзенай ім функцыяй: «На небе ёсць тры зарніцы, яны ўсе тры сястрыцы: адна прывара, друга прынуда, трэйця прысуша. То прывара прыварыла, прынуда прынудзіла, прысуша прысушыла раба божага...» (№ 1312). Варыянт гэтых вобразаў — зажога, запека, прылюбка (№ 1311), іх лік можа павялічвацца, але функцыі застаюцца: «Знуда, нудзі, засуха, сушы, прываротніца, прывярні, прывара, прывары» (№ 1313). У замовах ім надаецца вялікая сіла: «Як прывара прыверне, дак ніхто не адверне. Адам і Ева спарышы, етай пары ніхто не нарушы!» (№ 1313). І тут падмацаванне параўнаннем са спасылкай на дастаткова надзейны аўтарытэт — пачынальнікаў людскога роду.

У любоўных замовах звяртае на сябе ўвагу апеляцыя да такіх сіл, супраць якіх накіраваны іншыя замоўныя творы — бе-

саў, калдуноў, «чартоў» (№ 1289—1292, 1305, 1281 і інш.). Іх запрашаюць на службу («Паслужыця мне, як служылі Іраду цару»), каб сабраць усю нуду і сухату з птушак, звяроў, рыб і «ўсякага роду людзей», каб прысушыць каханага чалавека. Е. Р. Раманаў прыводзіць замову, дзе акрамя бесаў магічныя дзеянні здзяйсняе Баба-Яга: «У чыстым полі стаіць сарачынскі дуб, із-пад дуба выхадзіла Баба-Яга і паджыгала трыдзевяць кастроў дубовых дроў. Так жарка, так ясна каб разгарэлісь у дзявіцы ясныя вочы...» (№ 1289).

Спектр параўнанняў у любоўных замовах надзвычай шырокі, ён ахоплівае розныя сферы прадметнага свету і сведчыць пра назіральнасць творцаў: як рыба не можа жыць без вады, як сонца і месяц на ўвесь свет свецяць, дня няма без сонца, як птушка беражэ сваё яйка і любіць сваіх дзяцей, як яловая «прыталка» стаіць ля дзвярэй, як дзіця прыгартаецца к грудзям, як не можа маці без дзіцяці, карова без цяляці, асліца без асляняці і шмат іншых. Тут і адлюстраванне здаровай народнай маралі, калі ўзорам любві ставіцца любоў маці да свайго дзіцяці: «Штоб ён мяне так любіў і жалеў, як маці малое дзіця» (№ 1318).

Сярод любоўных, акрамя прысушак, існуе шэраг замоў на захаванне кахання. Іх у некаторых месцах называюць «прысмуты», «на людскую любоў». Адсушлівых замоў няшмат, некаторыя з іх невыразнага зместу, таму ў нашым зборы ўпамінаюцца ў каментарыях. Відаць, да твораў чорнай магіі можна аднесці замову з Лельчыцкага раёна, устаноўка якой «накідаць нянавісць»: «Я цябе (імя) устрачаю, я на цябе нянавісць накідаю. Ты ў балоце нарадзілась, у мухах (?) (відаць, маецца на ўвазе мох.— *Г Б.*) скруцілась, у чаратах хрысцілась. Ты караваю жабаю ўмывалась, гадзюкаю ўціралась, вужом падперазалась, яшчаркамі засцегалась. На чарапасе ехала ты, гідке, брыдке, якое-то халоднае. Каб ты была сваяму (імя мужа ці інш.) така гідка, брыдка, каб ён на цябе хракаў, пляваў і ад цябе уцякаў» [30]. Можна меркаваць, што гэты твор выкарыстоўваўся «разлучніцай», каб парушыць сям'ю ці «адбіць» ад пáры.

Замовы, звязаныя з грамадскім бытам, позняга паходжання. Найбольш значныя колькасна сярод іх «ад суда» (або «на поспех у судзе») і салдацкія. Наконт апошніх, запісаных Раманавым, збіральнік адзначае, што яны ўзяты з рукапіснага зборніка 30-х гадоў мінулага стагоддзя і нясуць адзнакі кніжнасці

[30] АІМЭФ, ф. 8, воп. 85, спр. 229, л. 21. Зап. А. Ю. Лозка ў 1985 г. Бытавала ў вв. Прыбалавічы, Мілашавічы Лельчыцкага р.

і ўплываў іншаэтнічных традыцый. У замовах ад суда вялікае месца адводзіцца матыву замка-ключа, што натуральна асацыіруецца з замаўляннем мовы суддзям. Характэрны для іх таксама матыў прыезду на суд незвычайным спосабам: «Еду на мядзведзю, гадам паганяю» (№ 1344), «На вужу еду, гадзюкаю паганяю» (№ 1349), «Ступаю еду, таўкачом паганяю, макам след засыпаю» (№ 1359).

Замовы позняга паходжання будуюцца па аналогіі са старажытнымі. Наогул схема пабудовы замоў вытрымліваецца даволі паслядоўна. У іх можна вылучыць наступныя кампазіцыйныя элементы. Звычайна пасля малітоўнага ўступу, кароткага або разгорнутага, ідзе зачын. Характэрны зачын: «Устану я раненька, памыюся бяленька» і г. д. Эпічная частка замоў, або дакладней сказаць сэнсавая, можа быць дыялагічнай або265 маналагічнай. Дарэчы, замовы-дыялогі часам не маюць зачынаў, абыходзяцца нават без малітоўнага ўступу. Яскравы прыклад — замовы ад болю зубоў. Эпічная частка, асабліва калі яна разгорнутая, уключае некалькі матываў, якія могуць утвараць формулы, што пераходзяць з замовы ў замову. Найбольш распаўсюджаныя формулы пераліку, формулы невыканальнай умовы, формулы месца выгнання, формулы застрашвання, формулы пагрозы, формулы забароны і іншыя, пра што ішла размова вышэй. Заканчваюцца замовы закрэпкай, якая таксама можа быць вельмі кароткай (адно слова — «зааміньванне») або разгорнутай («датуль ты хадзіла... пакуль...»). Галоўны матыў закрэпкі — замыканне. Таму матыў замка ў ёй найчасцейшы. Кароткая формула «Маім славам ключ і замок» разрастаецца за кошт удакладнення, якая роля ім адводзіцца: «Замок замкну і ключ знясу ў акіян-мора пад Латыр-камень» (№ 1289); або «Бяру я свае загаворы, замыкаю семдзесят сямі ключамі, семдзесят сямі замкамі і бяру тыя ключэ ўкідаю ў акіян-мора (у агонь, у мора, пад белы гаручы камянь Алатыр)» (№ 130, 128). Для замацавання крэпасці замовы такая закрэпка заканчваецца формулай невыканальнай умовы: «Хто тыя ключэ мажэ выняць з мора, той мажэ...»; або: «Хто мудрэй мяне найдзецца, хто перацягае пясок з усяго мора, той адгоніць...»

Мастацкія прыёмы ў замовах падпарадкаваны іх практычнай прадвызначанасці і абапіраюцца на веру ў сілу прамоўленага слова. Тое, што мы вызначаем як мастацкі прыём, у замовах было неабходнай формай адлюстравання пажадання, г. зн. выканання асноўнай і неабвержнай яе функцыі.

*

Том уключае творы з друкаваных і архіўных крыніц. З апошніх асабліва поўна прадстаўлены экспедыцыйныя матэрыялы супрацоўнікаў ІМЭФ, зробленыя на працягу апошніх 10—15 год. Пры адборы матэрыялу прымаліся пад увагу многія абставіны, у першую чаргу навуковы характар выдання, унікальнасць саміх тэкстаў як твораў, якія даюць магчымасць прасачыць вытокі найстаражытнейшых відаў вуснапаэтычнай творчасці, шляхі іх трансфармацыі, асаблівасці народнага светапогляду. У тэкставую частку ўключаны найбольш дасканалыя з мастацкага боку творы, у якіх адлюстраваліся як старажытныя, так і пазнейшыя ўяўленні чалавека аб прыродзе таго зла — хваробы, стыхійных бедстваў, няшчасцяў, з якім замовы павінны змагацца. Уключэнне ў асноўны корпус тэкстаў па некалькі варыянтаў аднаго сюжэта неабходна не толькі для таго, каб паказаць надзвычайнае багацце і разнастайнасць гэтага жанру народнай творчасці беларусаў, але і для высвятлення многіх навуковых пытанняў, напрыклад аб суадносінах імправізацыі і магічнай функцыі замоў, што вымагае дакладнасць у рытуале і ўсіх яго кампанентах.

Замовы адчулі ўплыў хрысціянскай ідэалогіі, што прывяло ў многіх выпадках да фармальнага ўключэння ў іх хрысціянізаваных элементаў. Разам з тым узнікалі творы, у якіх цесна перапляталася старадаўняя традыцыя і хрысціянская атрыбутыка. Такія творы ў навуковым выданні апраўданы. Яны даюць магчымасць прасачыць фальклорны працэс, высветліць шляхі ўзаемадзеяння афіцыйнай рэлігіі і народнага светапогляду. Іх аналіз сведчыць пра жыццястойкасць дахрысціянскіх поглядаў і абраднасці, пра наяўнасць у народным светаўспрыманні зерняў стыхійнага матэрыялізму.

У аснову сістэматызацыі тэкстаў пакладзены функцыянальна-тэматычны прынцып, што дазваляе арыентавацца ў багатым матэрыяле шырокаму колу чытачоў, а навукоўцам аблягчае работу па вызначэнню месца розных груп замоў у агульным фондзе. Запісы, не ўключаныя ў асноўны корпус тома, адзначаны ў каментарыях, што характарызуе аб'ём жанру, а прыведзеныя фрагменты замоў і іншыя дадатковыя звесткі даюць уяўленне пра працэсы, якія адбываюцца на шляху бытавання гэтых твораў.

У томе праведзены агульныя для шматтомніка прынцыпы тэксталагічнай падрыхтоўкі матэрыялу. У той жа час зроблены

крокі па шляху як мага большага набліжэння да асаблівасці мовы той мясцовасці, дзе запісаны тэкст. Захоўваюцца лексічныя, а таксама некаторыя фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці мовы. З другога боку, пры тэксталагічнай рабоце ўлічвалася неабходнасць зрабіць том даступным шырокаму чытачу, не перайсці тую мяжу, за якой успрыняцце тэксту як мастацкага твора можа аказацца немагчымым.

У выяўленні матэрыялу з архіва ІМЭФ АН Беларусі прымала ўдзел Л. П. Барабанава. Складальнік выказвае падзяку ўсім, хто ўдзельнічаў у падрыхтоўцы і абмеркаванні тома, а таксама выкладчыкам ВНУ рэспублікі А. С. Емяльянаву, В. С. Новак, А. М. Пяткевічу і нашаму пастаяннаму карэспандэнту настаўніку А. У Русіновічу за дасылку запісаў.

*Г А. БАРТАШЭВІЧ*

# ЗАМОВЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З ГАСПАДАРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦЮ ЧАЛАВЕКА

## 1. Паляўнічая

Іду на ’хвоту ў чыстае поле чэраз парогі, крыжовыя дарогі, там звер у варотах.

## 2. Паляўнічая

На сінім моры,
На беражочку,
На жоўтым пясочку,
Стаіць дуб зялёны,
К зямле нахілёны.
А з таго дуба
Як узнімаліся
Шуры да буры,
Ветры кавуры;
Як нанасілі
Глусцоў, цяцерак,
Гусей і вутак,
Малага птаства,
Як цёмнай хмары;
Як наганялі
Лісіц і зайцаў,
Ласей і дзікоў
Мне на патрэбу.
Ой, ляціце, пташкі
І шэрыя вуткі,
Ка мне, стральцу-малайцу!
Бяжыце, лісіцы
І шэрыя зайцы,
На маю стрэльбу!
А мая стрэльба
Ручоная — вучоная,
Каб маху не давала,
Усякае жывяло
На месцы клала.

### 3. Паляўнічая

Госпадзі Божа, багаславі і, царыца, пасабі.

На кітаі-моры ляжыць камень; з-пад таго камня выходзіла красная дзявіца з залатымі ключамі, і атымкала ружжо, і пазваляла біць не на жывое, а на мёртвае, і на векі вяком, амін.

### 4. Паляўнічая

Памяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротась яго, і вялікую памяць яго. Судзяржаў цар Давыд ваду і зямлю, судзяржай жа раба Якімава ружжо. Якімава ружжо — Булат жалеза і штаба Мар'я (і пакласці ў ручай на сход сонца).

Здрастуй, вадзіца-царыца, красная дзявіца, божа ўгодніца, рака Міляўка. Каціласе вадзіца па дням, па начам, па вячэрнім зарам, змывала вадзіца бела каменне і сера карэнне; змывай жа, вадзіца, раба Якіма ружжо, Булат жалеза і штаба Мар'я.

На сінім моры да на лукамор'і сядзіць ястраб без какцей, без нахцей, без быстра крылля, без востра носа. Як у етага ястраба ні какцей, ні нахцей, ні быстра крылля і ні вострага носа, каб так у Якімавым ружжы ў ствале ў жалезі і ў штабі Мар'і не було ніякіх уроц. І няхай уроцы хуваюцца бабам пад наметкі, а мальцам пад куўпакі, а дзеўкам пад платкі.

Святы Міхаіл-архангал, сільны магучы багатыр, убядзіцяль нябесны,— убіваў ён уражу сілу з нябес на сырую зямлю, каб так раба Якімава ружжо — Булат ствол, штаба Мар'я ўбівала ўсякую звярыну — бягучую, лятучую.

### 5. Паляўнічая

Вадзіца-царыца, усяму свету памашніца, як ты змываеш сырое карэнне, серае і белае каменне, так змый і маю ружынуружніцу і булат-зялеза. Як страляець з неба Міхаіл-архангал громам імаланьнёй,і вострай стралой, і як ніхто ня можэць уняць ні грома, ні маланні, ні вострыя стралы, так ніхто ня можэць уняць і мяне, раба божага стралца, і маю ружыну-ружніцу і булат-зялеза. А над маёй ружынай-ружніцай і булат-зялезам нету спаругання ва векі вякоў.

### 6. Паляўнічая

Зара-зараніца,-Госпадня памашчніца; рэчка (мясцовая або бліжэйшая), моеш ты крутыя беражкі, жоўтыя пяскі, сырыя карэння, чорныя крамення,— умывай ты раба божыя (імя) і бур'ян-жалеза руж'я яго ўсі ўроцы, перапалоцы, мужскія, жэнскія, падзіўныя, паглядныя, памоўныя, пагаворныя, дзявічага сына і бабкінага сына. Як на моры, на кіяні, на востраве на Буяне ляжыць Латра-камень; на том камні сядзіць бабка. Бабка ты, бабка! Прынімала ты Іісуса Хрыста на сваі перста, прымі ты і раба божыя (імя), і бур'ян-жалеза руж'я яго, і сваею чорнаю рызаю ўсі ўроцы сатры.

### 7. Паляўнічая

Как этаму дзераву на карні не стаяць, атросткаў не пускаць, так маім звярам нікому не ўракаць. Лес драмучы, звер бягучы! Звер прабягаў, но маяго следа не відаў, а я, добры маладзец, на яго напаў, а лесу часному і лясному хазяіну паклон аддаваў і падаркам яго надзяляў: хлебам да соллю, да каленкораву рубаху, да шаўковую падпаяску.

### 8. Паляўнічая

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся. На моры, на кіяні, на вострaві на Буяні стаіць ізба без вокан, без дзвярэй. Хто ў той хаці? А ў той хаці тры вараны, тры арлы ружжо замаўляюць і замочуюць порах і свінец, і страляць ужо ружжу канец.

### 9. Паляўнічая

На моры, на лукамор'і стаіць дуб (або явар) мамрыські; пад тым дубам ляжыць белы камянь; на белым камяні стаіць прастол; на прастоле Сус Хрыстос сядзіць, залатою трасьціною апіраецца і срэбраным мечам намяраецца на дзядоў-чараўнікоў і на баб-чараўніц, штоб майго ружжа ня нялі і ня паднялі. Етае ружжо маё праходзя скрозь сонца і месяц і звёзды. Хто яго йме, ня можа яго ўзяць і падняць.

### 10. На паспяховую лоўлю рыбы вудачкай

Цар Няптун, упрашаю цябе, умаляю цябе, пасылай на маю ўду-ўдзіцу рыбу-рыбіцу із глубі, із мелі, з віроў, з карчаўя і пе-

няўя. Мая ўда кедрова, мая леска шаўкова, воскам навошчана, лоскам налошчана. Будзе рабу бож'ему ўдача ва векі вякоў, амін!

### 11. Для пчол

Стой, рой малады! Не іграй, да сырой зямлі прыпадай.

Вось вам, пчолкі, святліца — новая, цясовая, адмысловая. Жыць вам тут і быць сто лет і зім і дзвесце дзяцей павадзіць. І ты, матка ліпа Валляна, ліпа красная дзявіца, і ты, труцень Іван, параней уставайце, сваіх дзетак пабуджайце і пасылайце іх у цёмныя лясы, у шчырыя бары. Майце шум баравы, майце роў прудавы, мядзведжую лапу, воўчы рост. Саграбайцеся, змятайцеся. Да чужых пчол не лятайце і чужых да сябе не пускайце. Як маці зямлі, свайго месца пільнуйцеся.

### 12. Каб пчолы вяліся

Перад плашчаніцаю (у вялікую пятніцу, стаўшы на коленкі перад плашчаніцай) жаркую свячу палю і паліць буду, Госпада хваліў і хваліць буду. Госпада міласэрнага прашу і малю ўсімі нябеснымі сіламі: зарадзі, Госпадзі, вазможную, прэўкрасную дзявіцу-пчаліцу, вазмажы, вазрадуй, вазвесялі. Прашу Госпада міласернага не лі сябе, а лі гасподнія божыя ахвяры: ва ўсі храмы гасподнія буду жаркія свечы паліць і тройськім пакланеніем пакланяцца, атніні да канца веку.

### 13. Для пчол

Маруна царыца, божая памашніца і ўсім роям патрэбніца, садзісь ціха на работу, пану Богу на хвалу, а гасудару на ўцеху. Іванаўна царыца, Кабітка царыца, Пчалянка царыца, Чарняўка царыца і Магуча царыца, садзісь ціха на работу: маё дрэва кедрава, лоскам налошчана, воскам навошчана,— і цары і мядзі. Пасылай сваю сілу ў цёмныя лясы, па густыя мяды, на вялікія рої; чужога не бяры і свайго не кідай.

### 14. Для пчол (рою)

Як етыя пальцы да маёй далоні не прыстануць, так етыя мецішча не ўстануць. Матка Зорка! Будзем Госпада Бога брахаць і етае мецішча абіраць.

### 15. Ад залому

Штоб жаў — не ляжаў,
Штоб еў — не хварэў.
Не лажысь, квяціна,
Не прападзі, скаціна.
Не лажысь, колас, на землю,
Не будзі хваробу на сем'ю.

### 16. Ад залому

Мікулай-чудатворац і святы божы! І памілуй нас ад худога, ад ліхога, ад злога. Мікулай святы па межам ходзіць да рож росьціць па цёплым начам, па вутранім зарам, а ліх чалавек па межам хадзіў да залом ламіў па цёплым начам, па халодным росам. А пашлі яму, Божа, на смерць, на балесьць, а на куту ляжаць; яму хлеба ня з'ісць, вады ня піць, а ў магіле быць, а рабе Праскоўе здаровай быць, Мікалаю святому малебен служыць. Амень.

### 17. Ад залому

Госпадзі Божа, благаславі, пасабі мне еты вянок вырваць (скруціць залом і наступіць на яго).

Іду я па Юр'евай расе, па зямчужнай траве, Юр'евай расою ўмываюся, малебнаю скацерсцю ўціраюся, і пайду ў цэркву-сабор. У том саборы стаіць гроб, у том грабу ляжыць мяртвец, у таго мертвяца занямелі яго зубы і цела. Хто еты залом заламіў, занямей яго цела і кроў на векі вяком, і амін яму!

### 18. Ад залому

Прачыстую мацьупрашаю, Суса Хрыста прынябеснага. Ідзець святая Ірдань, нікога не ўлякаецца — ні чараўніц, ні чараўнікоў, ні каралёў, ні князёў; так не ўлякайся, ніўка (ці скацінка), ні чараўніц, ні чараўнікоў. ус Хрыстос здзержыў небу і зямлю і нас судзержай, грэшных.

### 19. На жыта, супраць шкоднікаў

Чэр нападаіць, кор пад'ідаіць. Чэр кіпучая, чэр магучая, ідзі з нашага поля на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, а калі ня

пойдзеш, то святэй Міхайла-арханій сашлець пціц з нябес з жалезным носам. Будуць драць, клюваць, вашу жысць рашаць. Ва векі амінь.

### 20. На ўраджай

Жыта часць, сеяць цябе час. На сам сабою, Госпад Бог мой са мною.

### 21. Пры жніве

Шышка-супурыжка,
Абыйдзі вакруг палаці,
Пасабі мне жаці;
Пайдзі к нам палуднічаць
І з сваею лустачкаю.

### 22. Ад пажару

Цар Гарадзей,
Агнём не ўладзей,
Жаркіх іскраў не раскідай,
Пустога дыму не пускай.
Цур-амін,
Стаўбом дым.

### 23. Ад пажару

Цар зямны, цар нябесны, цар вадзяны, цар агняны, цар лесавы, цар дамавы, прашу я вас, малю я вас, уцішыця, уніміця.

### 24. Пры пажары

Упрашаю царыкаў: жаркага огняннага, вадзянога, ветранога, паланянага, вінагра, сікру, тура, ляснога бацьку і лясную матку. О Госпадзі, явіся, на помач рабу божаму станавіся. Упрашаю вас і ўмаляю вас, царыкаў і багатыроў. Амін.

### 25. Ад пажару

Святы Іван і Хвядос, і Адам, святы Міхайла-арханій будзець вас у чыстае поле зганяць, у зялёныя лугі; будзець вам ставіць цясовыя сталы, будзець на сталах зялёнае віно, будзе-

ця вы выпіваць і хароміны раба божага не чапаць. Святы Міхайла-арханій будзець задзержаць.

### 26. Ад пажару

Ехаў Касьцянцін на красным кані ў красным жупані, у красных чаботах, у красных нагавіцах і ў краснай шапцы.

— Куды едзеш?

— Я еду агонь заліваці. Ты ж, Кандраці, ты ж годзі браці, а ты, Цярэшко, не кідай галавешкі.

Ішла Божа маці сінімі марамі, зялезнымі мастамі, залатой чашачкай брала вады еты агонь заліваці.

### 27. Ад пажару

Сядзіць багатыр, агромны і магучы.

Сядзь, багатыр, ні кверху, ні кнізу, ні на старану!

Над табою стаяць тучы грозныя, пад табой стаіць мора сіняе, агарожаны вы зялезным тынам.

Памяні, Госпадзі, цара Давыда, цара Касцянтына, вы ўкрацілі зямлю і ваду — украціце гэтага багатага багатыра на гэтым месце. Амінь.

### 28. Ад агню

На моры, на кіяне стаіць дуб на тры і дзевяць какатоў, пад тым дубам зрублена на шэсць вуглоў хата (або авін). Святы цар Зосім стаіць на вугле святою сваею праваю нагою, угаль аціскаець, агонь унімаець, вецер занімаець, ні пол (полымя), ні іскраў не распускаець: ні па крышах, ні па ўсіх маіх связях. Сам Ісус Хрыстос окала этага агня ходзіць і абчырчываець, і агонь унімаець, ні пол, ні іскр не распускаець. Святы Ілля прарок надзеляшчы па сіняму мору ходзіць і святою сваёю праваю рукою ваду разгарнываець, ваду чэрпываець, на агонь узліваець і агонь пагашаець. Амінь.

### 29. Пры пажары

Святы Госпадзі, багаславі, і мне, грэшнаму, памажы.

На гарэ-востраві стаіць божы дом; у том домі стаяць тры 'посталы: Васіль і Марціяній і святы Антонія, і дзержуць у руках па свячы із ярага воску, і ўпрашуюць старшага царыка Агена: унімайця вы сваіх адзінаццаць братоў, і самі дванаццатыя ўні-

майцеся! На гарэ-востраві стаіць божы прастол; састаўлен тэй прастол ні з вады, ні з зямлі, а састаўлен прастол з пламена вогненна. Што заняў, то патрэбляй, а лішняга не чапай ва векі вяком.

### 30. Ад пажару

Агенец мой каханы, ты ад Бога прысланы, не раскачывайся як дым! Прыслаў цябе Гасподні Сын (паказаць рукой, дакуль можа ісці і, дзьмухнуўшы ў той бок, загадаць): у бок, да Бога свечкай!

### 31. Ад пажару

Аганёк, аганёк ад Госпада Бога, да не даў табе Бог раскошы ні гарэць, ні ўгарацца, вадой разліваецца. І даў табе Бог так гарэць, як гасподняй свячэ. Табе, харомiна, дагараць, а ты, аганёк, лажысь спаць.

Прыкрыў аганёк Мікіта, Лука, трэцья Хрыстова рука.

### 32. Ад пажару

Ходзіць Алёна па полю, каменне збірае, колле забівае, далей пажару не пускае.

### 33. Ад маланкі

Сцеражы, Божа, тучу гразавую,
Збережы, Божа, ніву трудавую,
Дай Божа ў добры час.

### 34. Ад гразы

Божай маці пакланюся. Маць Божа, будзь у помачы.

На Сіяньскай гары, на Сіяньскай зямлі там хадзіла Прасвятая Багародзіца Божая маці. Яна сабе мала пачыну. Прыйшоў да яе Ісус Хрыстос:

— Ох ты, маці, мая маці, ці ж ты спіш, ці ляжыш?

— Не, мой сынку, я ні сплю, ні ляжу, ва сне цябе віжу, як табе кап'ё надзявалі, навокраст ручкі распіналі, за ногці скобкі заганялі, кроў гарачу пралівалі, шупшынаю галоўку падперазалі.

А ў нядзелю рана сонейка не ўсходзіць, ужо Божая маць

Прасвятая Багародзіца свайго сынку за ручаньку водзіць. Павяла яго на ютрань, з ютрані на службу, з службы на сіняе мора. На сінім моры ляжыць камень, на том камені стаіць цэрква, у цэркві прыстол, на прыстолі Сус Хрыстос ляжыць, сем раз малітву творыць. Прыйшоў да яго Пятро і Павел:

— Ох ты, Сусе, наш Сусе, за каго ты страдаеш? За нас, грэшных, муку прымаеш.

— Пятро і Павел, бярыце хрэст у рукі, ідзіце па беламу свету, закажыце старому, сляпому, глухому, малому: хто етую малітву будзе ўмець, рана і ўвечар будзе пець, ня будзе яго гром забіваць, ня будзе ў вагне згараць, ня будзе ў вадзе патапаць, ад наглае смерці сахраніцца.

### 35. Ад дажджу доўгага

Як настойніка свянціла, я тучы не бачыла.

Тучы-адлятучы, ідзіце на сухія землі, на сухія староны, а маю хату мінеце.

### 36. Ад навальніцы, дажджу

Туча, туча, ідзі бокам,
Апыніся над Глыбокім:
Там піражкі пякуць,
Табе крошкі дадуць,
І цябе паджыдаюць.

### 37. Ад дамавога

Добры вечар табе, дзядзішча, шырокая барадзішча, кучаравая галавішча. Калі ж ты свой дамавы, жыві ж на месце, абходзься каля гэтай скаціны, бурай (чорна-пёстрай) шарсціны па чэсці. А калі ты чужы, насылальны, ідзі к яму пагуляй, яго скаціну паганяй, а ў маём дварэ не бывай.

### 38. Да дамавога

Мой дамавой, хадзі разам са мной, жыві на месце, абходзься кала рабы божае Ганны (ці Моці) па чэсці. А калі ты чужой, дак абыдзі мяне стараной.

## 39. Ад дваравога

Цар дваравой! Царыца-дваравіца! Твае дзеткі-царанята! Дарую я вас і хлебам і соллю, мілуйця і вы маіх жыватоў, карміця вы іх ярай пшаной, паіця вы іх мэдавой сытой, пакрыйця вы іх шаўковай пеляной, блюдзіця вы іх ад чужога дваравога, ад чужога палявога, ад падмежніка, ад кацярэжніка, ад кустоўніка, ад грыбоўніка.

Супастат, супастат! Табе майго двара не відаць, у кароў малака не аднімаць: ні ў Цярнушкі, ні ў Бурэшкі, ні ў Рыжушкі, ні ў Звяздошкі. А вы, ссыльныя, прассыльныя! Ступайця ў трыдзевятае царства, у трыдзесятае гасударства, у цёмны лес. Там вам пасьцель паслана: ізгалоўе крутавое, пярына пуховая, кунья шубка, суболі шапачкі, гардовы чулочкі, саф'яны сапожкі. Вам у цэркві не бываць, Хрыста не цалаваць, а на кеяні на моры прападаць. Амінь.

## 40. Ад дваравога

Цар хазяюшка дваравой! Царыца хазяюшка дваравіца! І дарую я цябе і хлебам, і соллю, і нізкім паклонам, а што сам ем, п'ю, цем цябе дару. А ты, хазяюшка-бацюшка і хазяюшка-матушка, мяне берагі і скацінку блюдзі! Амінь.

## 41. Ад дамавога

Дамавы хазяін і дамавая хазяюшка, прашу вас, упрашываю, малю вас, умаліваю, што ў гэтым доме жывіце і жывотных не абіжайце: коней і кароў — і карміце, паіце і прыглядайце, а нахожых і наброжых хлеўнікаў і хляўніц, і дамавікоў і дамавіц да гэтага хлева не дапускайце — і ведзьмаў калмыкоў і калдуноў-чараўнікоў, ведзьмаў-калмыцаў і калдуніц-чараўніцаў да гэтага дома не дапускайце, што яны падносы падносяць і падкладаюць і ў благачасцівым доме скот умаляюць.

Вы, ведзьмы-калмыкі, калдуны-чараўнікі, выбірайце з благачасцівага дому свае падносы паднасяшчыя і падклады падкладзяшчыя.

Ведзьмы-калмыкі і калдуны-чараўнікі, выхадзіце з благачасцівага дому ў шары бары, на цёмныя лясы, за мхі, за балоты, за ржаўцы балоты — а ў гэтым доме не 'трыгацца вам ні на маладзіку, ні на палнаўе, ні на сходзе вітаха, ні на перакрою месяца,— не быць ім атрыгу, не быць ім пакряту!

## 42. Да дамавіка

Дамавік, дамавік, ідзі шукай лесавіка. Тут табе не бываць і ўрэда не дзелаць ні схода, ні малода, ні пад поўна, ні маладзіком, ні вавек вяком.

## 43. Ад дамавога

Госпадзі Божа, багаславі, памажы, Сус Хрыстос, мацер Божая, Дух Святы, Тройца Святая.

Дзень добры, Хазяін часны, лясны і дамавы, і вадзяны, і ты, Косьцян і Кучын, і Кучуба, і Лена, і Ева. Я ж вас усіх упрашаю, сталы настаўляю, скацерсцямі засцілаю, хлеб-соль накладаю, мёд і віно ў кубкі наліваю, каб ад мяне, Петрака, словасы прынімалі, сваю ярасць унімалі з такога-та раба чалавека, з буйнае галавы, з румянага ліца, з чорных бравей, з ясных вачэй, із нутрэй, із печані, із жыл, із пажыл, з сустаў, з палусустаў.

## 44. Ад нячыстай сілы

На моры на Сіяні, на рацэ Ірдані стаяць тры дзявіцы Лукамірыцы; яны стаяць і Богу молюцца, Бога просюць і молюць, і вадзіцу сабіраюць, і чалавеку на помач аддаваюць. І просім мы Хазяіна лесавога і палявога, і дамавога: памажы рабу божаму ад прыткі раннія і палудзенныя, і вячэрнія і палуношныя, і з буйнай галавы, з ясных воч, з румянага ліца, з гаручай крыві, з буйнай касці і 'д жыл і 'д сустаў, ад чорнага печаня, ад белага леганя.

## 45. Ад дамавога

Госпаду Богу памолімся і матары Божай прыклонімся! Хрэст Хрыстоў у рабу божам (Паўлу), хрэст Хрыстоў і на Паўлу; храстом Хрыстовым бесяў адганяяць. Адступіцеся, бесі праклятыя, да ня дзелайця ні ядыныя ўрэды! Тут жывуць ангалы і архангалы, харувымы і сарахвымы і чатыры вангалістыя: Матвей і Марка, і Лука і Іван Баслоў, і раб божы Павял.

## 46. Ад хлеўніка

Як у нас Юр'я
Коні пасецъ,
Статак сціражэць,

Нячыстую сілу
Проч адганяіць,
Хлеўніка і цмока
Вожахам порыць,
Прыгаварываіць:
«Хіра ў лес!»

### 47. Ад хлеўніка

Упрашаю Хадзяіна дамавога, палявога, выгоннага, межавога і самага старшага старшога — Дзяменьція Дзяменьцевіча і цябе, Кляменьці Кляменьцевіч, і цябе, Хвёдар Хвёдаравіч, і цябе, Аграсім Аграсімавіч! Прашу я вас, не астаўця нас, любуйця раба божага маіх коней і мілуйця, і прылядайця, як самі знаеця. Прашу вас, не астаўця нас.

### 48. Ад хлеўніка

Багаславі, Госпадзі, і памажы ад хлеўніка!

Устану я рана-раненька, умыюсь бела-бяленька, пайду ў чыстае поле, зірну на сіняе мора. На сінім моры выспа, на выспе зеляная ель, на той елі шаўковая плець, на той плеці залатое чарасло, на том чарасле Прэсвятая матар Божая стаяла, Суса Хрыста на руках дзяржала. Прыляцелі к ёй трыдзевяць паграбатых, а трыдзевяць пашкрабатых, тую ель хацелі сеч-рубаць, а Хрыста ў вочы павідаць. Адказуя ім Гасподзь Сус Хрыстос:

— Адкасніцеся вы, трыдзевяць ідалы! Як вам етага дрэва і не сеч, не рубаць, Хрыста ў вочы не відаць, так і варанога каня есць не няць. А мне, рабу божаму, адмаўляць, і Госпада Бога на помач прызываць і Прэсвятую матар Бугуродзіцу і ўсіх святых.

### 49. Ад лесуна

Цар лесавы, царыца-лесавіца!

Прымі ты наш падарак і нізкі паклон, і прымі ты маіх малых рабят і адпусьці іх дамоў, штобы яны па лесу не плуталі, пад сасной не начавалі, шэрай калоды не елі, ключавой вады не пілі, да дому дахадзілі; а табе ў лясу спаць, з дзеткамі па пням хадзіць, з жаной на мху спаць, а маіх рабят у глаза не відаць. Амінь.

## 50. Супраць лесуна

Хажу па лясам, па кустам, па мхам, па балотам, па лыкадзёрам, па гнілецям, па чарніцам, па малінам, куда ль не хажу, нікагда не блужу, сонца — па сонцу, луна — па луне, пры частых звяздах, пры вячэрніх зарах, хажу не блужу, а табе, лясной хазяін, пакорнасьцъ аддала, ад мяне, раба, адшатнісь, у бярозу абярнісь. Амінь.

## 51. Ад лесуна

Іду ў лес, бяру хлеб і соль і нясу лясному хазяіну, Кляпяке і Астраке, і падзі ад мяне, няшчасны, на мхі, на балота, на гнілую калоду. Там табе пасьцель паслана, ізгалоўе высокае, пярына пуховая; там табе спаць, а майго не відаць. Не я цябе ганю, гоніць ця Хрыстос і святая Лука, гоняць цябе огнем, пламенем, жалезным прутом.

## 52. Супраць русалкі

Вадзяніца, лесавіца, шальная дзявіца! Атвяжысь, аткацісь, у маём дварэ ня кажысь; табе тут ня век жыць, а нядзелю быць. Ступай у рэку глубокую, на асіну высокую. Асіна, трасісь, вадзяніца, уймісь. Я закон прынімаў, златой хрёст цалаваў; мне з табой не вадзіцца, не куміцца. Ступай у бор, у чашчу, к лясному хазяіну, ён табе ждаў, на мху пасьцелюшку слаў, муравой усцілаў, у ізгалоўіца калоду клаў; з ім табе спаць, а мяне хряшшонага табе ня відаць. Амінь.

## 53. Перад ад'ездам у дальнюю дарогу

Першым разам, добрым часам. Госпаду Богу памолімся, Хрысту паклонімся.

Учора з вячора соўнійка іграла, добрую дарогу правяшчала; сягоння з ранку зара занялася, у небе на парозе з сонцам спаткалася, залатыя ключы ў ручкі брала, дубовую дзверку адмыкала, шоўкавы полаг падымала, соўнійка на неба выпушчала, добрую дарогу правяшчала. Устаў (або ўстала) я рана — падыйду к ваконцу; шчыра я шчыра ўздыхну да Бога: дай жа мне, Божа, шчаслівую дарогу! Аж святы Юры каня запрагае, святы Аўлас памагае, ад бяды, напасці зберагае.

## 54. Замова ў дарогу

Святы Ягорай-пабеданосец, у цябе мячы, бяры ў Бога ключы, замыкай тры пуці ад звера бягучага, ад гада паўзучага, ад злога паганага чалавека, ад буйнога ветру. Зберагаў жа мяне ў малых гадах, зберагай у сярэдніх. Амінь.

## 55. У дарогу

Лес часной, дуб зеляной, Прачыстая маці, благаславі мяне дзень перабываці ў карасці, у радасці, у добрым здароўі і вечара даждаці. Сядзіць маць Прачыста на прыстоле і дзяржыць трыдзевяць ключы ў прыполе. Замкні маім урагам, звярам, гадам зубы, губы і ярыя вочы.

## 56. Замова ў дарогу

Мяне маці нарадзіла,
Сонейкам абгарадзіла,
Месяцам падпаясала,
У дарогу адпраўляла.
Ранні бег — не дабег,
Позні бег — не дабег,
А мне ад Госпада Бога —
Шчасліва дарога.

## 57. Замова ў дарогу

Пуць кароценькі. Салодка дзерава к горкаму не прыстане, к чалавеку пуць не прыстане. Як конь жарабя не прывядзе, так і пуць не прывядзе; як і певень яйца не прынясе, так і пуць не прынясе; як бык цяля не прывядзе, так і пуць не прывядзе.

## 58. Замова ў дарогу

Прачыста святая, твая ручка залатая. З медзянага пальчыка спусці, а мне дарожку прайсці пусці.

## 59. Пры ўваходзе ў лес

Ішоў пан Езус дарожкай, нікога не спаткаў: ні псоў, ні ваўкоў, ні гадзюкаў, ні злых людзей. Пайду і я за ім па яго слядочках, па яго сцежачках, каб я нікога не спаткала.

### 60. Пры ўваходзе ў лес

Усю зіму марозы трашчалі,
Буры вылі, ветры шумелі,
Сосны і елі скрыпелі;
Ваўкі хадзілі, галасілі —
Есці прасілі:
Чы ты дай галаву авеччу,
Чы чалавеччу!
На святое Благавешчанне
Усе звяры на вырай пайшлі;
Ваўкі выюць, свінні стогнуць,
Мядзведзі мармочуць,
Зубамі скрыгочуць,
Есці хочуць:
Чы ты дай галаву авеччу,
Чы чалавеччу!

### 61. «Замова ў дарогу ці куды»

Святы Юра, святы Мікола, і святы Антоній і Хвядосій, Ілля і Пакрова, храбры пабедаяносец, зашчыці і памілуй ад звера лясного, ад чалавека ліхога, ад чарадзей, ад ліхадзей, ад непрыяцеляў, ад наступетнікаў, ад ябеднікаў, каторы на нас наступаюць і нам усё зло думаюць. І ўсе святыя, памілуйця нас. Кузьма-Дзямян, ачысце (назваць імя чалавека ці клічку жывёлы) душачку, цела.

### 62. Пры ўваходзе ў новую хату

Хата, камна́та, на ўсё штоб была багата і на людзей здарова. Хата, камната, штоб на ўсё была багата і на людзей здарова.

### 63. Пры выхадзе з хаты

Выхаджу я за варот, маць Прачыстая напярод, рызаю закрывае, ад усіх урагоў спасае. А я, раба божая (імя), іду, сонцам асвячуся, месяцам абгараджуся. Іду, раба божая (імя), нікога не баюся.

### 64. Пры выхадзе з бані

Лазенька, парэнька! Табе на стаяння, а мне на здароўя! Вадзіца-царыца, ачысцелніца наша, бяжыш ты па мхам, па бало-

там, абчышчаеш карэння-камення — абчысьці ты маё цела грэшнае ад усякай сквернасьці!

### 65. Для збіцця масла

Ішоў дзядок старэнькі,
Нёс каменьчык маленькі.
Каменьчык, кацíся,
А масла — бíся.

### 66. Гаспадарчая (біццё масла)

Біся, біся, масла, біся,
У камочак сабярыся,
Ад маслянкі адлучыся.
Біся, біся, масла, біся,
Ад маслянкі адлучыся,
У камочак сабярыся.

### 67. Ад вераб'ёў

Ты, верабейка Адам, я табе загона свайго не дам. Ляці ў алешнік на карчы. Там табе засціланы стол, ядзенне і піценне.

### 68. Ад нячыстай сілы, нарадкі

Вадзіца-царыца, красная дзявіца, нябесная пелясніца, божая стошніца і марськая пажарніца,— пасылаецца і памагаецца рабу божаму, і порч выганяецца із русага воласа, із бумажнага цела, рацівага серца, з усіх жыл, з усіх пажыл, са ўсіх сіл. Стань, Госпадзі, на помач, маць Прачыстая, на пасобу, ангалы, на радась, усі святыя ўгоднікі божыя, на помач. Святы Юры-Ягоры і Мікола — скоры памошнік, і Міхайла — нябесны вайвода, саскачы з вышняга неба, сталяным мечам закалі ведзьму, роджаную і навучоную; каторая ззадзі даганяець, тую закалі, і каторая наперад забягаець, тую закалі, каторая збоку заглідаець, тую закалі. Рабу божаму пазволь жыць на белам свеці і ў карысьці, і радасьці, у добрам здароўі.

### 69. Ад нячыстай сілы, нарадкі

Станаўлюся я, раба божыя, і загаваруюся і замаўляюся ад чараўніка. Станаўлюся на медзяным тазу, закрываюся залатым

тазам, абгараджываюся зялезным тынам, замыкаюся трыдзевяць замкамі, трыдзевяць ключамі, і загаваруюся і замаўляюся ад чараўніка і ад чараўніцы, і 'д разлушніка і ад разлушніцы. Палажу я тэя ключы ў божжым храмі на прэстолі; няхай етыя мае ключы ляжаць нярушыма на прэстолі ў божжым храмі. Ляжыць белы камень на гарэ Сіяньскай. Як таго белага каменя злы ўраг ня ўгрызнець,— і раба божжага злым помыслам сваім ні ва векі вякоў ня ўвоймець, і на ета ўрэмя і на ўсякі час. Амін, амін, амін.

## 70. Ад нячыстай сілы, нарадкі

Зара зару занімаець, свету-сонца бажаець, Прэсвятая Бугуродзіца ангалаў ажыдаець. Ангалі мае храніцелі, збаўця раба божага ад нячыстыя сілы, ад трыдзевяць калдуноў, ад трыдзевяць ведуноў і вядунняў, ад калдуна і ад калдуніхі, ад уражэскія сілы, ад нячыстага духа, ад ведзьмы-чарадзейніцы. Агарадзі яго, Госпадзі, каменнаю сцяною і накрый яго, Госпадзі, гарачаю ска'радою, падмасьці яму, Госпадзі, зялезнаю даскою. Тады яго ведзьма-чарадзейніца імець, як каменную сцяну ілбом праб'ець, гарачую ска'раду языком праліжэць, зялезную даску нагою праломіць.

На гарэ Васіяньскай стаіць цар-цэркуў, у тэй цэркві прэстолы стаяць, ютрэні ўспеваюць, службы савершаюць, праскаміды вынімаюць,харуім васпяваюць. Свято Міхайла на прэстолі стаіць, відзіць ён нас,праведнікуў і ябеднікуў, і наганіцелеў, і ведзьмаў-чарадзейніцуў; і разбіваець вялікаю грамою, пякучаю маланнёю, калянаю скалою, багатырськім канём, булатным нажом. Асвяці, Госпадзі, сію ваду на ўсякім часі, на ўсякай гадзіні!

## 71. Супраць ведзьмаў

Первым разам, божым часам, Госпаду Богу памалюся, сваё дзіця карміць бяруся, жалезным тынам абгараджуся, кап'ём абаб'юся, змей, ведзьмаў не баюся.

## 72. Ад нячыстай сілы, нарадкі

Госпаду Богу памалюся, маці Прачыстай пакланюся. Не сам сабою, Гасподзь са мною. Прачыста мамачка, стань нам на помач.

Станаўлю раба божага на сярэбраным кругу, на залатом масту (абвесці шнурком або ніткай круг). Маць Прачыстая

шаўковыя шнуры чапаець, шаўковымі шнурамі абводзіць, напярадзі жаркае сонца становіць, залатым храстом пабіваець, нячыстую сілу адбіваець. І святы Міхаіля-арханя, сталяным кап'ём пабіваеш, нячыстую сілу адбіваеш. Сам Гасподзь Сус Хрыстос святым духам дыхаець, нячыстую сілу зганяець.

### 73. Ад нячыстай сілы, нарадкі

Госпадзі Божа, багаславі, святая маць Прачыстая, памажы. Выгаварую я ету балезню-нарадку ад усякага злога прыхватку. Будзем ад етыя балезні зорычкамі агражданца, месічкам асвяшчацца. Ангалі-храніцелі, храніця ету душу і ў дні і ў ночы, і ва ўсякам божым месці. У чыстых палях і ў зялёных лугах там сталы засціланыя, кубы наліваныя, вот там табе гуляць і буяць, а раба божага не чапаць. Чэраз святую сыботу, маць-раку, давала маці Прачыстая руку ад усіх злых ад чараўнікоў і чараўніц. Ёсь на Сіяньскам моры, узлукамор'і выспа, на той выспі стаіць дуб на дванаццаць какатоў. На том дубі зві сабе, чорны воран, гняздо, і жыві-пражывай, і свой злы яд вынімай. А ня будзеш свайго злога яду вынімаць, будзець цябе Гасподзь Бог наказуваць вялікімі грозамі, вялікімі хмарамі і вялікімі пярунамі.

### 74. Ад злога чаравання

Памолімся мы і паклонімся Госпаду Богу і Духу Святому, Тройцы святой ядынай, і Прачыстай мацеры Божай, і Святому васкрасэнійку Хрыстоваму, чэснаму, міласэрнаму, і ўсім сяточкам, гадавым празьнічкам, кіяўськім, пячэрськім і рымськім, і русалімськім, і Ісакаву і Якаву, і Антоняму і Хвядосяму, і святому Юру і Ягору, і святому вотчу Міколу. І святы вотча Міколачка, вы скорыя памошнікі, вы божыя ўгоднікі, вы вялікія малітвеннікі, вы ж скоранька памагаеця,— гэтаму рабе божаму чалавеку з'едзь замаўляйця і злога чалавека на мхі, на балоты ссылайця. І найсвеншая Марэя, іна стаіць у храмі Гасподням, дзяржыць іна свае ключыкі залатэя пры сталі, чараўніку і злой хваробі замыкая губы і зубы, засылая іна яго і злую хваробу на мхі, на балоты, на ніцую лозу, на калючую грушу, дзе ж быдлы не бегаюць, дзе пціцы не лятаюць, дзе вужы-гады не жывуць — там няхай злы чалавек і злая хвароба пражывая і прабывая.



### 75. Ад злога чаравання

Святы апостал-храніцель, сахрані раба божага ад напасьніка, ад навушніка, ад чарадзейніка, ад паганых рачэй, ад завісных вачэй, каторыя на мяне нацекаюць і людзей з'ядаюць і вачмі, і гаворкамі, і мыслямі. І вадзіцу ету словам тым апостальскім і рачмі к слаўнаму здароўю ўкрапі і хваробу прагані.

### 76. Ахоўная

Васкрос Гасподзь Бог, ешчэ собяжыць сам Сус Хрыстос. Як воск ад агня, так сатана ад Хрыста: аткаснісь, атсатаніcь ад майго дому, ад мае хаці! У маём домі ні долі, ні волі,— прастол на прастолі; на тым прастолі латрый-камень, на тым камні Мікіта-мучанік; а перад ім стаіць сам Сус Хрыстос, а перад ім стаіць маць Прасвятая Бугуродзіца: сцеражэць, беражэць,— у дзень на работкі, у ночкі на пасцелькі, пад красным сонцам, пад ясным месяцам, пад лунным лунам, пад частым звездам. Амін.

### 77. Ад злога духу

На сінім моры камень, на тым камні дуб, на тым дубе трыдзевяць катоў, на тых катах трыдзевяць гняздоў, на тых гнездах трыдзевяць сарок, трыдзевяць урок ад жаночага, ад хлапечча, ад мужчынска — русы волас, рыжы волас, белы волас. Святыя святочкі, хадзіце ка мне на помач; я з славамі, Бог з духам; як стала, так перастала.

### 78. Ад злога чаравання

Двананцаць ангалаў, двананцаць апосталаў, мацер Божыя пачаеўськая, раба божага на помач станавіся. Святы цар Давыд, на помач станавіся. Казаньская Божая мацер, рабу божаму памогі дай, сахрані, Божа, памілуй, маць Прачыстая, сам Сус Хрыстос, раба божага сахрані і памілуй ад вятроў, ад чарадзейнікаў, ад душагубнікаў, ад уразьскія сілы. Сахрані, Божа, маць Прачыстая, сам Сус Хрыстос, сахрані і памілуй раба божага ад чорнага вока, чорнага воласу, громкага голасу, ад сухоты грудзей, жывата, сэрца, ад ламоты, ад ташноты, ад бядноты, ад уразьскія сілы.

### 79. Ад нячыстай сілы, нарадкі

Госпадзі Божа, багаславі рабу божаму вадзіцу браць.
На моры на Сіяні, на гарэ Кіяні стаіць цэрква. Ніхто ў тэй

цэркві не бываець, акрымі Міхаіла-архангала — ліятрапія гасподняга. Пасярод яе стаіць прастол, на том прастолі па чатыры краі ляжыць чатыры храсты; пасярод яго ляжыць пашанішная праскура, гарыць ярая свяча, ляжыць кніга — вангалія. Міхаіла-архангал на 'бедню становіцца, кнігу вангалію чытаець, ведзьмакоў заклінаець: што вы задумалі, загадалі, то ваша дзела не прыдзецца: як вам на ўсім свеці расы ня біць і травы не таптаць, і ўсяго свету не злятаць, і на ўсім свеці хлеба не пажыраць, і ў моры вады не папіць, і ў моры глыбіны не дастаць, і 'д мора да неба вышыны не сазнаць, і на небі звёзд не пералічыць, вышэ месіка не хадзіць, і жаркага сонца не зняць, і гасподнія калясніцы не павярнуць, і ў етай цэркві ня быць, кыла прастола не хадзіць, і храсцей не цулуваць, і пашанішнай праскуры не зьядаць, і ярыя свячы не гасіць, і кнігі вангалія не чытаць,— так жа вам, ведзьмакі-чарадзейнікі, і навучоныя і нараджоныя, і храмыя і сляпыя, і бяззубыя і сухарукія, і крываногія,— так жа вам не зведзьмуваць, не счаруваць раба божага. Як стаіць Гасподзь Бог на духу і гасподнія калясніца, так жа стань рабу божаму серца на стану. Святыя кіяўськія Антоній-Хвядосій, прашу вас на помач к сабе. Святыя ангалы, станьця на права плячо і на лева, услышыця малітву маю і данясіця Гасподу Богу.

### 80. Ад нячыстыя сілы

Ізганяю я з раба божага (такога-та) бясоў, дзьявалоў, нячыстых духоў і самазлейшых духоў, ізганяю з такога-та раба, з такога-та воласа, із ярых воч, із серца, з зубоў, з целясоў, з рота, з носа, з віскоў, із мазкоў, із шыі яго, з плеч, з хрэбётныя касьці, з рабёр і з сярэдзіны, із рук, із ног, із сустаў, з нутры яго, з утробы, із жыл, і з пажыл, із крыві, з целеса, із дыханія, із узгляда. І ссылаю вас, бясы-дзьявалы, нячыстая сіла, на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, на паганыя воды, ідзе Садом і Гамора стряблена. Заклінаю я вас, бясы-дзьявалы, нячыстая сіла, ветраных і віхорных, і вадзяных і жывотных і насякомых. Заклінаю ўсемагушчым Богам су вышніх вобалак, чатырмя евангалістамі: Іванам і Маркам, Лукою і Матвеям. Адступайця, злыя духі, ад раба божага (такога-та), тут ангелы божыя прабываюць і архангелы: Міхаіл і Гаўрыіл, Рахваіл, Міхаіл, Сасахваіл, Гадуіл, Вархвалаіл, херуімы і серяхвімы і ангел-храніцель ва векі, амін.

## 81. Ад нарадкі

На моры-лукаморы сто сястрыц, сто дзявіц гулялі, сталы засцілалі, кубкі налівалі, госця дажыдаліcь, Ісуса Хрыста на помач прызывалі, злога духа ў (імя) выганялі. Нарадкі ў раба божага (імя) не бываць. Ідзіце на лясы, на балоты, сосны паламайце. Нарадкі ў раба божага (імя) не бываць, дзевяць раз гавару, дзесяць прымоўлю, дуну, плюну.

## 82. Ад чарадзея

Ваду праз абух праліваю, чарадзея, злога духа, як абухам, адбіваю, ад белага ліца, ад русага воласа. Як мы кáлу не ўжываем, так (імя) ніякай болі няхай не знаіць.

## 83. Ад ведзьмакоў

Отча наш... Як Хрыстос нарадзіўся, на Ярдані-рацэ хрысціўся, хрысціў неба і зéмлю і сéю ваду,— на ўвесь свет брызкі ляцелі. Як етых брызак нікому ня сабраць, і карэння ўсяго ў зямле ня парваць, і звёзд з неба ня пазнімаць, і камяня ня ўгрызнуць, і неба языком ня лізнуць, і зямлю ўсяе ня пажраць — так раба божага ведзьмаку ня зьядаць!

## 84. Ад паддзелу

Святое Благавешчанне, Хрышчэнне, Васкрасенне, бацюшка-цудатворац, Дух, Тройца, Купала Іван, казанская Божая маць, святая маць Бугуродзіца.

Як агонь коціцца, так ад (імя) ведзьма вароціцца, як пуля з ружжа вон, так у ведзьмі душа з касцей вон, а (імя) на добрая здароўя. Амін, амін, амін.

## 85. «Адмаўляць закручанага чалавека»

Божа маці на прэстолі стаяла, Ісуса Хрыста на руках дзяржала, усёму свету дапамагала.

Па Сіянскай гары Божа маці хадзіла, у прыполі трое ключоў насіла: адные жалезныя, другія медныя, трэція залатыя. Жалезныя — мужчынскія, медныя — жаночыя, залатыя — дзявочыя. Вона брала ўсе сундукі паадмукала.

Божа маці ў карыці купалася і ўмувалася. Мы ту воду бралі, (імя) цела абмувалі. Як Ісус Хрыстос на расп'яці буў, з расп'яц-

ця ўзняўся на небеса, усе замкі паламаў, чараўніка, чараўніцу не дапускаў. На масточку тры дзявіцы пашылі Ісусу Хрысту сарочку. Узышлі да сталі Ісуса Хрыста зазываць, сталі ўсім помач даваць, усе замкі ламаць.

## 86. Ад порчы

Пумяні, Госпадзі, цара Давыда, цара Саламона, прамудрасць іх і з хітрасцямі іх.

Цар Давыд, цар Саламон, сакрацілі зямлю і ваду і весь мір праваслаўны — сакраціця етыва раба, чалавека, ад ведзьмы-калмыка і ад калдуна-чараўніка і ад ведзьмы-калмыцы і ад калдуніцы-чараўніцы.

І вы, ведзьмы-калмыкі і калдуны-чараўнікі, на чом далі, на чом саздалі етаму рабу порчу і нарад: ілі вы на піцянні, ілі вы на ядзянні, ілі ў паходзі, ілі на рабоці, ілі на торнай дарогі, ілі на мяккай пасцелі, ці на пішчы даваўшы ілі след вынімаўшы — выхадзіця, порчы і нарады, ад етыва раба і чалавека, із касцей, із машчэй, із жыл, пажыл, суставаў і малінькіх сустаўчыкаў, ад буйной галавы, ад рабочых рук, ад быстрых ног.

Я вас пасылаю, порчу, ад етыва раба за мхі, за балоты, за ржаўцы-патопы, на Чорныя мора.

На бірагу Чорнага мора там стаіць ізбушка; у той ізбушкі сідзяць дзве Анны-панны, яны ні гуляюць — ету порчу прынімаюць ад такога-та раба божыя; маладых малайцоў жэнюць, а дзявіц замуж аддаюць. Там етый порчы гуляння, там ей красування!

## 87. Ад нячыстай сілы

Памяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротась яго і вялікую памяць яго. Судзяржаў цар Давыд ваду і зямлю і нашы грэшныя душы, судзяржай жа нарадашную балезнь з такога-та раба божага. Міхайла-архангел, багатыр нябесны, пабіваў ён уражу сілу з нябёс на сыру зямлю, каб так пабіў уражу сілу з такога-та чалавека. Святы Ягоры-беданосец і святы Міколушка-чудатворац, і Спасіцель і Божжая мацер, так, як вы прэждзе памагалі і нячыстую сілу выбівалі, і пользу давалі, так каб із естага чалавека нячыстую сілу пабілі.

### 88. Ад нячыстага духа

Чарнорэц са дна мора ўплываець. Укланяюся вам і прашу вас, памілуйця нас! Адступся, нячысты дух, ад етага грэшнага чалавека; хто цябе напусьціў, прыступіся к таму.

### 89. Ад злога чаравання

Госпаду Богу памалюся,
Прачыстай пакланюся,
Крастом крашчуся,
За святыя рызы бяруся,
Урагоў не баюся.
Станаўляю ведзьмам-чараўніцам
Вочы стаўбамі, рукі граблямі,
Каб яны свае пальцы кусалі,
Проці сэрца кроў смакталі,
Каб маёй сівай (рабай і г. д.) каровы
Уладзення не малі.
Кароўка-ўдарнічка, не будзь ты ўрочна,
Будзь ты малочна.
Ударым цябе па бакам,
Салодкім малакам, густым смятанам,
Чужога спору не забіраем,
Свайго не выпускаем.
Дзе ты будзеш, кароўка,
Расу збіваць, траву з'ядаць,
Часамі будзе спор прыбываць.
Ехаў Юрай на сваём кані,
Дзяржаў задатую меч,
Засякаў наглым ведзьмам губы і рэч,
Каб ведзьма не хадзіла,
Чорнай сцежкі не таптала
І да маёй сівой кароўкі
Уладзення не мала.
Ідом да цябе, кароўка,
З хлебам і з паскаю.
А ты да нас з спорам і ласкаю.
Зара-зарнічка, божая памачнічка,
Памагаеш людзям, памагі, Госпадзі, і нам.

## 90. Ад злога чаравання

Ідзі, мая скаціна, бурая шарсціна, на Юр'еву расу, на Міколіну траву. Міколінай травой наядайся, Юр'евай расой напівайся. Не бойся, мая скаціна, бурая шарсціна, ні ведзьмаў, ні ведзьмакоў, ні чараўніц, ні чараўнікоў, ні паганых дум, ні паганых глаз, не забывай на сваё малачко па ўсякі раз, не забывай, да прыбывай, не будзь ты ўрочная, да будзь малочная.

## 91. Ад уроку жывёлы

На полі ігрушка, пад таею ігрушкай стаіць мая карова, пад ею — залатыя падкоўкі. Рожкамі адкаліся, залатымі падкоўкамі адсякайся, урокаў не пужайся, ведзьме не паддавайся.

## 92. Ад злога чаравання

Вадзіца-царыца, крыніца, брата ў цябе трыдзевяць траў, брата ў цябе трыдзевяць рос, брата ў цябе трыдзевяць калоў, брата ў цябе трыдзевяць driючоў. На той бок балота ходзя ласіца, нося малокі, поўны мхі глыбокі. Чужога не займае, свайго не папускае, гэтае скаціне, бурае шарсціне, малако давае. Малака прыбыўнога, верху глыбокага, масла жоўтага. Не бойся, мая скаціна, бурая шарсціна, ні ведзьмаў, ні ведзьмакоў, ні чараўніц, ні чараўнікоў, ні паганых дум, ні паганых глаз, не забывай на сваё малачко па ўсякі раз, не забывай, да прыбывай, не будзь урочная, да будзь малочная. Сваім ты ўмом прыхадзі дамоў, сваё малачко прынасі дамоў.

## 93. Ад злога чаравання

Першым разам, божым часам, Бог з помаччу, а я са словам! Адкуль сонца ўсходзіць, з той стараны месяц усходзіць, з той стараны Божа мацер на мой двор прыходзіць. На Наталліным двары прастол стаіць, за прастолам Божа мацер сядзіць, дзяржыць тры па дзевяць ключэй. Замыкая маю рабую кароўку ад чарадзея і ад чарадзейніцы, ад ведзьмака і ад вядзьмачкі, ад калдуна і ад калдунні, ад злых людзей, ад плахіх вачэй. Замыкая на замок і брасая ключы ў мора-акіян пад камень Латар. Як пад каменем Латарам мора не высыхая, так чараўніку, чараўніцы, ведзьмаку, вядзьмачцы, калдуну, калдунні, злым людзям, благім вачам ключы не дастаць. Быць маёй кароўцы здаровай і вясёлай. Аддавай, мая кароўка, усё малако супална. Аддавай і не затаяй. На гэтым канчаю і закрапляю. Ху!

## 94. Ад злога чаравання

Хадзіла Насвенчая матачка па стрылецкай гары. Вяла рабую кароўку і цягла вяроўку. І пусціла рабую кароўку на божую расу, на шаўковую траву. А цераз сіняе мора ляжала кладка, тудэю ішла Божая матка, вяла кароўку, цягла вяроўку і несла даёначку. І з мора ваду брала і кароўку рабую абмывала, каб кароўка малачка давала і гаспадыню к боку падпускала. Ачко, ачко, аддай маё малачко, чужога не забірай, свайго не пакідай, дай Божа на свеце жыць, сваё малачко спажыць. А ты, ведзьма, хадзіла лугамі, барамі, лясамі, жоўтымі пяскамі, ляці не залятай, рабае кароўкі малачка не чапай.

## 95. Ад злога чаравання

Вячэрняя зара-зараніца, усяму свету памачніца, ка мне на помач прыступай і рабу божаму помачы давай.

Устану я рана-раненька, умыюся белым-бяленька, паганю я сваю скаціну, чорна-белую шарсціну, на шырокую даліну, на расу не збітую, на траву не з'етую. Выйшла ка мне тры дзявіцы-змяі, тры дзявіцы-чарадзеі, травічку з'елі, расічку збілі, шэрсць парвалі, хвосцік паддубілі, вымца разарвалі, малако, сыр-маселцо забралі.

Адна дзяржала шчотку, другая — грабёнку, трэцяя — малака даёнку. Сыйду я на Саянскую гару, расплачусь, разрыдаюсь перад Прачыстай мацер'ю. Прачыстая маць пачула.

— Што ты плачаш, рыдаеш, раба божая?

— Як мне не плакаць, не рыдаць. Устала я рана-раненька, умылась бела-бяленька, адзелась харашэнька, пагнала сваю скаціну на шырокую даліну, на расу не збітую, на траву не з'едзену. Выйшлі ка мне тры дзявіцы-змяі, тры дзявіцы-чарадзеі, тры дзявіцы-разяў-рты, травічку з'елі, расу збілі, шэрсць парвалі, хвост паддубілі, выймецо разарвалі, малако, сыр-маселцо забралі.

— Раба божая, ідзі спаць, я буду ў сваей скацінкі ў галоўцы стаяць, змей-чарадзей не дапускаць.

Не сваімі славамі, а гасподнімі малітвамі. Не сама сабой, а маць Прачыстая са мной. Дай, Госпадзі, помачы!

## 96. Ад злога чаравання

Стаіць змяя пад страхой, цягае маю салому, пугае маю карову. Не стой, змяя, пад страхой, не цягай маёй саломкі, не пугай маёй кароўкі. Над маёй кароўкай стаіць Ісус Хрыстос з залатым

крастом, з Прачыстай мацеры. Маю кароўку закрывае залатой рызай, а вас, ведзьмароў і ведзьмаў, іссылае за балоты, за белыя камні. Там вам качацца і да маёй кароўкі не дабрацца.

## 97. Замова на карову

У чыстым полі стаіць дуб. А пад дубам стаяла карова. К той карове чорнае цяля прыбягала, а каровы не ўсысала. Вот над хазяіна хлявом чорная змяя лятала. Прарока Ілля спорныя Іваны белымі канямі яго ад бора аралі, і пахалі, і гарохам засявалі, штоб змяя не праляцела, ніхто ні прайшоў, ні праехаў: ні генералы, ні папы, ні паповы дочкі. Етае каровы малако, бы з бочкі. Вялікія ўдоі, у іх вада гарляна, етае кароўкі малако жырана: густая смятана і жоўтае масла, што кароўка з поля спасла.

## 98. Ад злога чаравання

Бяру я сваю карову, бяру я яе на шоўкавы павады і даю я ёй мядзведзеву сілу, зайцаву вёрткасць, чалавечы розум, і будзь ты не ўрочна, не прыгаворна.

Хто карову ўракне — таму кроўю вочы завалакне.

Чужым вачам — соль да пячаль.

## 99. Ад уроку

Ішла Прачыстая матка цераз поле. Яна ішла і крапіўку рвала і кароўцы давала, і кароўку даіла, і на цадзілкі цадзіла. Хто маю кароўку ўракне — хай свайгог... лізне.

## 100. Ад уроку

Ідзі, мая кароўка,
Ідзі, мая чорная,
У чыстае поле,
На сіняе мора.
Прынясі малака
Поўныя бака:
З рожак,
З ножак,
З галавы —
Ад травы,
Ад вады,

Ад расы.
Сонцам асвяціся,
Месяцам агаражайся,
Урокаў не пужайся,
Ведзьме не паддавайся.
Хто мысліць злое —
Адвярні яму, Бог, тое.
Паганым вачам —
Кроў да пячаль.
Хто маю кароўку ўракне —
Кроўю да луною вочы завалакне.

### 101. Ад злога чаравання

Ідзі, кароўка, на шырокія палі, шаўкову траву з'ядай, расу хватай, сабе малака дабывай. Малака па бака, сыроваткі па капыта, смятаны па рага. Ідзі, мая кароўка, з поля, на цябе будзе сматрэць чарадзей, чарадзейніца, ліхадзей, ліхадзейніца; сакалінымі глазамі прысматры, капытамі адграбі, рагамі адмахні, хвастом адгані. Ніхто мае кароўкі не ўкусе — ні мужчына, ні жанчына, ні малае дзіця, ні якая сатана. Ты, мая кароўка, стой; дасць маць Прачыстая спор з дзевяці гор. Ты ка мне са спорам, я к табе з добрым словам. Ты ка мне з апаскай, я к табе з ласкай, ты ка мне з гарою, я к табе з зарою.

### 102. Ад злога чаравання

Божа маці на прэстолі стаяла, Ісуса Хрыста на руках дзяржала, усёму свету дапамагала.

Добры дзень, вадзіцы-крыніцы! Мы не прыйшлі па ваду, мы прыйшлі па сваё малако. Як у крыніцах вада прыбувае мінутамі, гадзінамі, часінамі, шоб малако прыбувала мінутамі, гадзінамі, часінамі. Як нам Бог ёго даў, шоб у нас ёго не адабраў. Я не іду ваду браць, іду ў Госпада Бога спору браць.

Просім у Бога спору з высокіх гораў, з глыбокіх мораў, з густых карэннёў. Зямля — наша маці будзе пітаці, чараўніка, чараўніцу да да нашага табара не пускаці. Мы ўсе варота адчыняем, Госпада Бога прымаем. Выйдзі, Гасподзь, з неба, як ты нам трэба. Сам не зайдзеш, то нам дзвенаццаць ангелаў адпраўляй. Адзін ад зайдзе, другі ад ліхіх вачэй, а трэці ад ваўкоў... Адзін ахраняе, другі паганяе да чараўніка, чараўніцу ў табун не пускае.

Усе цяпер варота адчыняюць. Ідзе наша худобка з вялікага

куста, із-пад жалезнага гвазда. Як вялікага куста ўрагам не паламаці, жалезнага гвазда зубамі не пакусаці, то так наш табун нікому не наракаці. Цяпер у нашага табуна колавыя рогі, дубовыя ногі, із памяла хвост. Рожкамі адбіся, ножкамі адбяжыся, хвосцікам адмахніся, чараўніка, чараўніцу не дапусціся. А стойце аднэ коло аднаго, як агонь у яме. Ідзі аднэ за адным, як вада ў Ярдане.

Госпадзі, спасі, сахрані. Ззаду падганяй, папераду прыпыняй, чараўніка, чараўніцу ў наш табун не пускай.

У лесе дубок, а пад дубком сядзіць дзядок. Вон не пашэ, а толькі наш табун пасе. А пасе наш табун на сенажацях. Нашаму табуну і ўдару не палучаць, крыві не разліваць. Будзе Божая маці нашы сем'і карміць, Ісус Хрыстос будзе паганяць, да дадому зажэне, да ў пасцель спаць пакладзе, залатымі замкамі ўсе варота пазамыкае, чараўніка і чараўніцу ў варота не пускае.

## 103. Ад злога чаравання

К кароўцы саджуся, нікога не баюся — ні змея-чарадэйніка, ні змяі-чарадэйніцы. Я ім камянем зубы павыб'ю, а пяском вочы засыплю, штоб чарадэйнік і чарадэйніца к маёй скацінцы не падышлі, у маёй скацінкі малака не ўзялі: ні ў полі, ні ў доме, ні на дарозе, ні на раду, ні на хаду.

## 104. Ад злога чаравання

Першым разочкам, добрым часочкам. Чур-чурамы, Гасподзь з вамы. Не бойся ні чараўнікоў, ні чараўніц, ні ўрошнікаў. Чараўнікам і чараўніцам камення грызць і палення грызць. Пакуль палення паясцё, камення пагрызяцё, я ад свае кароўкі благадаць вазьму. Рабу божаму (імя) прыступіла і ўгаварыла сваімі славамі, Гасподнімі думамі. Ху!

## 105. Ад ведзьмы

Госпадзі Сус Хрыстос, сын Божы, памілуй нас грэшных. Цар Давыд скрапіў неба і зямлю, зоры і ясны месяц, скрапі, Госпадзі, маю просьбу.

Лягу я пазненька, устану я раненька і ўмыюсь бяленька, памалюсь Богу вярненька і выйду я на крутую гару, гляну я пад жаркае сонца, на сіняе мора, на лукамор'я. Ажно ідзець Прачыста маць па сінім моры, ідзець, у руках крапілца нясець, у сіне мора макаець і кароўку падмываець, ад усякае чарадзей-

ніцы, каторая малокі адбіраець. Ідзець яна па сіню мору к калінаваму масту — мост калінавы, а стаўбы малінавыя. Ля калінава мо́сту стаіць куст ракітавы; у том кусьце тая самая чарадзейніца, каторая малокі адбіраець. І едзець па калінавым масту сьвяты Ягоры з кап'ём, войстрым мячом: выхадзі ты, нячыстая сіла, з ракітава кусту на калінавы мост. Войстрым мечам буду цябе сеч-рубаць, кап'ём прабіваць, тваю кроў разліваць: аддавай малако краснай карове.

## 106. Ад ведзьмы

Карова мая чорная! Ад паганых вачэй і [няшлюбных] дзяцей вочкамі асвяціся, вушкамі атматніся, ножкамі аттапчысь, хвосцікам адмахнісь. Будзь ты не ўрочна, не прыгаворна. Хто маю карову ўракне — таму кроўю вочы завалакнё. Чужым вачам — соль да пячаль. Што думаеш мне — палучы сабе.

## 107. Ад ведзьмы, як малако ў каровы адбярэ

Не сама я сабой, з Госпадам Богам, з сяннішнім днём, святым чацьвяргом. Угаваруй, умаўляю, у Госпада Бога міласьці ўпрашаю, святога Міхаіла-архангала на помач прызываю, етай скаціні, рыжай шарсьціні, помачы даваю ад малашніка і 'д малашніцы.

На гарэ Сіяньскай, на вадзе Арданьскай стаіць залаты намастыр, на том намастыры трыдзевяць углоў, трыдзевяць булоў, трыдзевяць вакон, трыдзевяць дзьвярэй і трыдзевяць шнуроў; на тых шнурах стаіць сівы конік, на том сівом коніку сядзіць сьвяты Міхайла-архангал, у святым месьці, у залатым крэсьлі, кнігу-вангілю чытаець, хіруімы усьпеваюць, у Госпада Бога міласьці ўпрашаець, етай скаціні, рыжай шарсьціні, помачы даваець, малако к ёй прысылаець, і на векі вякоў яе ядро устанаўляець, ад малашніка, ад малашніцы ўкрываець сваёю пелянёю, жытворяшчую рызаю на векі вякоў. І сярод таго намастыра стаіць залаты прэстол, за тым прэстолам сам Сус Хрыстос, маці Прачыстая, самі з сабою размаўлялі, у Госпада Бога міласьці ўпрашалі, з залатога кубка ў кубак віно пералівалі, і етай скаціні, рыжай шарсьціні, помачы давалі, малако к ёй прысылалі, і яе ядро на векі вякоў устанаўлялі, ад малашніка, ад малашніцы ўкрывалі, ад пагібшага вока, ад няшчаснага языку, сваёю пелянёю, жытворяшчую рызаю. Перад імі стаіць гара мясная, свяча залатая, перад імі стаіць залаты ясен, усяму свету красен, белая бяроза, усяму свету прыгожа; з-пад тые бярозы працяка-

ла крыніца, у той крыніцы трыдзевяць вуглоў, трыдзевяць ключоў. І ету вадзіцу-царыцу ўсі праваслаўныя хрысьцяне бралі, у Госпада Бога міласьці ўпрашалі, і ету скаціну, рыжую шарсьціну, вымя падмывалі, і піць ёй давалі, і прыміж рожак ёй мачылі, і крыжам хрысьцілі, і Госпада Бога прасілі-ўпрашалі, етай скаціні помачы давалі, і малако ёй прысылалі, і на векі вякоў ёй ядро сустанаўлялі. Перун б'ець, малоння паліць, малашніка і малашніцу ад етай скаціны, рыжай шарсьціны, за дванаццаць сажнеў адкідаець і сваім войстрым кап'ём наскрозь ёй жылы-пажылы прабіваець, і на дванаццаць пакаленій малашніка і малашніцы кроў заклінаець.

## 108. Ад ведзьмы, як малако ў каровы адбярэ

На моры, на кіяні, на востраві на Буяні ляжыць белы камень, а на том белом камні Прэсвятая Бугуродзіца сядзіць і ў воду глядзіць. Яна цару Владыміру пуці казала, жыць павелевала. Як ты, царыца-вадзіца, сілна і няўрэдна, каб так і мая скацінка была сільна, неўрадзіма ад усякага зла і ад злаключэнія людзей.

## 109. Як карова не дае малака

Первым разам, гасподнім часам, памажыце святой Прачыстай, мацеры Божай, станьце ў помашч.

Угаварую з вушэй, з вачэй, з рог, з ног, з буйнай галавы, з жоўтай касці, з жыл, з паджыл, з мяккага жывата, з шчырага сэрца, з вым'я з дояк стала маленькае і цёпленькае, як макавае зярнятка. Як маку ведзьмам не сабраць, так у етай каровы спору не ўзяць. Міколачка-татачка, пасі ету карову па позняй і ранняй расе, штобы спор і ўдой прыбываў. Ехаў Ягор на сівым кане, спор увідаў, замыкнуў замкі медныя, ключы срэбныя, зла незабычнае («па-маему, эта ад паганае»,— заўвага інфарматара) назад заварачвае. Госпаду Богу памалюся, стань, святы Ягор, у помашч. Як лес развіваецца, так у Жанкі (Рабкі, Белкі) малако прыбаўляецца. Як ведзьме не падымацца к мору і к сырой зямле, так і этай чорнай карове і мне. Святая маць Прачыстая, накрый эту карову залатою скацерц'ю — рогі, ногі, буйную галаву. Сцаляй, Госпадзі, сцаляй малако ёй, засцілай вочы плахай ведзьме, як цёмная ноч. Як цёмная ноч нявідная, штоб не была мая карова жадная («на траву, наверна, у мяне такая карова і е, не жадная»,— заўвага інфарматара). Абсыпаю сваю карову макам. Хто эты мак сабярэ — той маей карове ўракне. Амін.

## 110. Ад уроку жывёлы

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай матцы пакланюся, усіх святых празнікаў папрашу.

Добры дзень, карова, прыйшла к табе з хлебам і соллю на адведкі. Ранняй зарою, добраю парою, з вымем тоўстым, з малаком густым, з верхам поўным, з маслам жоўтым. Вочкамі аглядайся, вушкамі адківайся, рожкамі адкаліся, ножкамі атрасіся, урокаў не пужайся, ведзьме не паддавайся, на сваю хазяйку не забывайся.

## 111. Ад уроку жывёлы

Кароўка мая, я к табе іду і з хлебам, і з соллю, і з шчасцем, і з доляю. Я цябе засцерагаю ад ліхіх ведзьмаў, ад сільных вятроў, ад дробных дажджэй, я цябе ссылаю на буйныя вятры, на ніцыя лозы.

## 112. Ад ведзьмы

Чур неба, чур зямля, чур звёзды, чур луна! А ты, акаянная, стой, ні з места!

## 113. Ад уроку жывёлы

Уганяю я сваю кароўку
На шырокую вуліцу,
На шаўковую травіцу,
У глыбокую крыніцу
Па светлу вадзіцу.
Шаўковай травіцы наядайся,
У глыбокай крыніцы напівайся,
Карысці набірайся,
Урокаў не пужайся,
Ведзьме не паддавайся.

## 114. Ад уроку жывёлы

Кароўка мая ўвабранка. Уганяю цябе на шыроку вуліцу, на шаўкову травіцу, на святую крыніцу, прынясеш мне малака поўныя бака. З касцей, з мажчэй, з усіх печаней. На тварог густы, а на верх таўсты. Вочкамі асвяціся, рожкамі адкаліся, хвосцікам адмахніся, а ножкамі адбрыкніся, а хто цябе, кароўка, уракне, таму кроў вочы завалакне.

## 115. Пры выгане скаціны ў поле

Красна сонца і ясён свет, і са лунамі яснымі, і са звёздамі частымі, і з зарамі вогненымі, і з утраняй расой і з вячэрняй, і сушу і мора асічаеш (асвяшчаеш) і маць сыру зямлю ўграваеш, і з вясеннім цяплом і з летнім агнём. І ўгрэй, упар сыру зямлю, распусьці зялёну траву па лясам, па лугам, па канавам, па кустам. І сахрані ты маіх мілых жыватоў ад усякага ліхадзея! Даруй маім жыватам піценне і ядзенне, пакрый іх шаўковай пеляной, акружы жалезным тынам, а ліхадзея ўбей вогненнай стралой, вогнем-пламенем. Ідзіце, матушкі, у чыста поле, у зялёныя луга! Там вам яда — трава зялёна, там вам піццё — вада студзёна. І ўгрэй іх, красна сонца, а дамоў прывядзі, ясен месяц. І саблюдзі іх, красна сонца, ад ліхога чалавека, ад цара палявога, ад цара вадзяного, ад цара лесавога, ад яго дзетак-царанят, штобы ён кароў дамоў ня вадзіў і царат малаком ня паіў; і сахрані іх ад стралы вогненнай, ад звера бягучага, ад гада паўзучага, ад змяі-папілухі. Амінь.

## 116. На зберажэнне скаціны

Ах, Юр'ева матка
Ўсю ночку не спала,
У Пятра ключы брала,
Зямліцу адмыкала,
Расіцу выпускала.
А вы, людзі-хрысціяне,
Раненька ўставайця
І скацінку сваю выганяйця
На Юр'евы росы,
На Мікольскія травы.
Каб ваша скацінка
Здаровенька была,
Роску спажыла
І да дому гасподняга
Здаровая прыйшла.

## 117. Пры выгане скаціны ў першы раз

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай пакланюся.

Ідзі, мая кароўка, на Юр'еву расу, на замшовую траўку. Ножкамі патапчы, вушкамі патрусі. Як на табе шарсці не злічыць, так табе, кароўка, урагам не ўрачыць.

## 118. Пры выгане скаціны ў Юр'еў дзень

Ідзі, мая каровачка, на Юр'еву расу, на Юр'еву расу, на Міколаву траву. Прыходзь, мая каровачка, з Юр'евай расы, з Міколавай травы з вялікімі малакамі, з таўстымі сырамі, з глыбокімі смятанамі. Я не знаю, сам Гасподзь Бог знае ды нам памагае. Я з словам, Гасподзь Бог з помаччу і Духам Святым.

## 119. Каб карова сама пáсцілася

За варо амі дубок стаіць, а пад дубком сівенькі дзядок сядзіць. Ён пашанькі не паша, толькі каровачку пасе, да спераду падганяе, да лютага звера не дапускае, зверу рот замыкае.

## 120. Пры выгане скаціны першы раз

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай мацеры пакланюся. Прачыста Божа маці на прэстолі стаяла, на сябе залатыя рызі накладала, усёму свету помач давала.

У чыстым полі стаяў дубочак, а пад тым дубочкам сівы дзядочак. Ён не арэ, не паша, толькі мае кароўкі пасе. Спераду прыпыняе, а ззаду падганяе. Ідзеце, кароўкі, у поле ножкамі, а траву рожкамі... Травы наядайцесь, у поўнае крыніцы вады напівайцесь да дадому зараней не збірайцесь. Да глей, кароўнько, як брат сястры. Да йдзі паміж чарады, як муж з жаною.

Другім разочкам, лепшым часочкам...

## 121. Як першы раз карову выганяюць

Ты ж, дзеду-сівабарадзеду, ты ж не пахаеш, ты ж не гарэш, ты толькі худобачкі пасеш. Ідзі ж ты, мая цялухначка (масць), у чыстае поле рожкамі, ножкамі, а еж ты травічку роткамі, а еж ты травічку, паядай, крышталёву ваду папівай. Як брат і з сястрою, так ты з чарадою, як чалавек за жонкай, так ты за чарэдкаю, і ззаду не аставайсь і ўперад не вырынайсь, пасярэдзіне. Тагды ж, мая цялухначка, дадому прыходзь, як сонейка заходзіць, ад плота да плота, прама ў мае варота.

## 122. Калі выганяюць каровы першы раз у чараду

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся аб помачы шаптаць.

Уганяю я кароўку на пашу. Сонейка ўзыходзіць — кароў-

ка на пашу ходзіць, сонейка заходзіць — кароўка дамоў прыходзіць. Уганяю я кароўку святою серадою. Ты ж ідзі, мая кароўка, за чарадою, бо я пастух без бароды і я не пажэну чароды. Пятро і Паўло дапамагаў і маю кароўку ў чараду заганяў. Спераду прыпыняў, а ззаду падганяў, па баках наварачаў. Стой, кароўка, у табуне, як агонь у яме, а вада на Ярдане. Пятро і Паўло ту саму кароўку маю дамоў прыганяў, у пасцель спаць пакладаў, на ўсей год, на ўсе лета хазяіну спакой даў. Амінь!

Другім разочкам, лепшым часочкам...

## 123. Пры выгане скаціны на пашу першы раз

Первым разам, лепшым часам паганю я сваю скацінку, рыжую (або іншая масць) шарсцінку, на шырокую даліну, на зялёную траву. Там сядзеў дзед касаты, касатая баба, маю кароўку ўляклі і малака прыбаўлялі, вымца стужылі, а ваду ўлажылі. Туды ішла Дуня, плакала-рыдала і мацер Божую гукала. Чулапачула мацер Божая:

— Чаго ты, Дуня, рыдаеш, мне надакучаеш? Я сама вазьму гэту скацінку, паганю на шырокую далінку, на зялёную траву, а там я яе напасу і ў сінім моры напаю, і вам разганю гасподнюю благадаць, укладу крэпкага тварагу і жоўтага масла, і смятаны. Амінь.

## 124. Як гоняць першы дзень скаціну на пасту

Жана Лілея, доч Праскавея, сын Самсон, Самуіл, скоры ўгоднік, божы памочнік, прашу я цябе, упрашаю, пасі маю скацінку-залацінку дзень пад сонцам, ноч пад мясёнцам ад усіх звярэй лесавых, балатных, махавых, лугавых, яраўцаў-падаліцаў. Вы, усе зверы, сабірайцесь ка мне, я вам замкну зубы жалезнымі замкамі, залатымі ключамі. Залатыя ключы ў мора панясу, у мора ўпушчу. Чур-амін.

## 125. Ад урокаў карове

Ідзі, мая Мурка, на крутыя горы гуляці, шаўковых траў з'ядаці, на быстрыя воды співаці. Жоўтых маслоў, крутых сыроў. Рогамі пакалі, нагамі патапчы, хвастом замяці. Хто табе веры не мае — хай пад хвост заглядае.

## 126. Урокі карове

Госпаду Богу помолюся, святой Прачыстай Божай маці пакланюся. Я словамі, Бог з помаччу.

У мяне ў хляве ў адном кутку пэрэн стоіць, у другом вода верэсціць, у трэцім огонь горыць, у чацвёртом сыр, масло стоіць. Не йдзі, моя Мурка, дзе пэрэн стоіць, не йдзі, дзе вода верэсціць, не йдзі , дзе сыр, масло стоіць. Да йдзі лугамі, да йдзі берагамі, да травы з'ядай, да воды сцівай. Да не йдзі, моя Мурка, дзе пэрэн стоіць, да йдзі, дзе тры пані стоіць, тры кубкі ляжыць. Там оні стоялі, моей Муркі ўрокі выговоралі.

## 127. Як скаціну на пашу выганяюць

Варота як адчыняюць, як тавар на пашу выганяюць, злому зверу рот замком замыкаюць, штоб ён вушамі не цягнуў і вачамі не глянуў, і рота не разяўляў, год да мае худобкі не прыступаў, дзень пад сонейкам, ноч пад месяцам, пад яснымі зарамі, пад гасподнімі славамі...

## 128. Як скаціну першы раз выганяюць на пасту

На сінім моры, на лукаморы стаіць дуб какаты, на тых какатах ляжыць белы камень. Як таму камню ніхто не йме, так нашае скацінкі ніхто не йме і не займе: ні гад паўзучы, ні звер бягучы. Я прашу цябе, упрашаю, святое Юр'е, выхадзі са сваімі замкамі, залатымі ключамі. Замкамі затварай сваім слугам няверным зубы, губы, першым, сярэднім, пасреднім. Штоб наша скацінка здавалася ў полі мятай, камнем, на даліне купінай, а ў лесе калодай, кустам на дарозе, сокалам. І прашу цябе, святое Юр'е, Міхаіл, умёршага, спасіце, зберажыце нашу скацінку. Благапалучна, спакойна, пака з поля прыйдзе.

## 129. Пры выгане скаціны

Памолімся мы Госпаду Богу і святому Юрыю, і святому Хралу і Лаўрыю, і Уласію і Панасію аб рагавом скату, і Хрыстоваму Настасію і Мамонцію аб авец, і Васілію Русалімскаму аб свіней (параўн. духоўны верш.— *Е. Р.*),— прыміця, Госпадзі, прашэнія і малітвы нашы аб скацінцы двушэрстныя. Аддаём скацінку на вашы рукі, на божжыя росы, памілуй яе, Госпадзі, пад сваімі 'блакамі і пад сваімі ліцамі гасподнімі; памілуй, Божа,

пад цёмнымі начамі, пад грознымі тучамі, памілуй, Божа, ад ваўка-ярка, ад ваўчыцы-ярчыцы, ад ваўчанят-ярчанят; ад ваўка Масея, ад ваўчыцы Каліны. Як месяц гасподні нараждаецца, жаркім сонцам агараждаецца, аградзі яе, Бог, ад усякіх злучаяў худых. Абарачаецца скацінка ў лесі копінаю і выскаддзёю, і зялёным кустом, а ў полі — гарою, а ў лузі — курганом, а ў лядзі — пенюхом. Памілуй яе, Божа, на ўсякае ўрэмечка, на ўсякі часочак, на ўсякі разочак, на ўсякую гадзіну, на ўсякую мінуту, на ўсякім месьці, на сваём прышэстві.

### 130. Пры выгане скаціны на пасту

Святы Юрай-Ягорай, сцаляй, спасай маю чорну карову да й дадому прыганяй, сваёй залатой рызай пакрывай. Скідайся на пагоні туманам у бару, пнём у лугу, калодай у лесе.

Хаме-Хаміхе, ваўку, ваўчыцы замыкай губы і зубы на цэлы год.

### 131. Пры першым выгане скаціны вясною

Госпаду Богу памалюся і ўсім святым пакланюся, кіяўськім, пячэрськім, божым прападобным.

Выганяем мы сваю скаціну на поля, на даліну, выяжжая к нам Гасподзь Бог на белым кані і ў белым плацці загараджаваць нашу скаціну зялезнымі тынамі, замыкая залатымі ключамі, панясе залатыя ключы на сіняе мора, падложа пад Латара-камяня. Як ніхто не мажэць сіняга мора выпіць, а Латара-камяня падняць, залатых ключоў узяць, так ніхто не мажэць рабы божыя скаціны бурыя, рабыя, красныя ўзяці: ні люты змей, ні лютая змяя, ні гад паўзучы, ні звер бягучы.

### 132. Пры першым выгане скаціны вясною

Святы Юр'я — Ягор'я, памажыця вы мне маю скацінку адратаваць. Выганяю я сваю скацінку на Юр'еву расінку, на шаўкову травінку, цераз сіня мора, цераз зялёна, цераз жоўта, цераз чорна. Добрую, мая скацінка, траву зьядай, а паганую вяху пад ногі падбівай, і на мяне, хадзяйку, ня забывай.

## 133. Як выганяюць тавар першы раз на пашу

От, к прымеру, я з вечора перад варотамі хаваю дубчык (вярбу) свенчаны, замкнула замочка, поклала каменьчыка, поклала сякеру і бяру той дубчык, і тым дубчыкам тры разы сваю корову трэба ўдарыць.

І кажу:

— Ідзі, пасіся, сцеражыся, а ў ср... вочы май, ні на каго ні заглядай (так 3 разы).

А потым кажу:

— Іду я дарогаю, сустрэчаю трох друзей: попа, войта, чорта. Попу дала штаны, войту рукава, а чорту пералогі. А ты, мая Мурка, усё патапчы пад ногі, ідзі пасіся, а ў ср... вочы май.

## 134. Як жывёлу выганяюць на Юр'я

Святы Юрай-Ягорай, спасі маю худобку ад гада паўзучага, воўка бягучага, змея лятучага, злога чалавека. Накрый яе, Госпадзі, сваёй рызай святой, схарані, памілуй.

Чараз поле чыстая, чараз мора быстрая шла маць Прачыстая. Там яна траву рвала, вадзіцу брала, рабай (масць) кароўцы вымца падмывала. Як у моры ў калодзежы ўвечар вады прыбывае, каб у маёй кароўкі малачко прыбывала.

Юрай-Ягорай, спасі маю худобку ад гада паўзучага, воўка бягучага, змея лятучага, злога чалавека. Накрый яе, Госпадзі, сваей рызай святой, сахрані, памілуй.

## 135. Ад прыстраку

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай пакланюся, усім святым слаўным вялікім апосталам кіеўскім, пяшчэрскім, манастырскім, іерусалімскім, святому Міколі, вобразу чудому, святому Юр'ю-Рыгору.

Ехаў святы Юры-Рыгоры із-пад гары сіняй, вёз трыста дзевяць жалезных ключоў, замукаў змеям бягучым, паўзучым, лятучым губы і зубы. Не сам я замукаю, а замукае святы Юры-Рыгоры. Як святому Юр'ю-Рыгору на зямлі не бываць, так і змеям бягучым, паўзучым, лятучым ад етай кароўкі спору не атымаць.

Каюсь, каюсь, каюсь, штоб век не атрыгалась.

## 136. «Каб воўк карову не з'еў»

Ты, кароўка мая, асталася ты ў полі, будзь, мая кароўка, не шкадзімая, а будзь урадзімая ад цёмнай ночы, ад гада паўзучага, ад змея лятучага, ад цёмнай ночы, ад злых людзей. Будзь, мая кароўка, не ўрошная, да малошная. Ідзі, кароўка, у поле траўку зьядаць, расу співаць, малачко прыбаўляць і будзь, мая кароўка, хадзяйцы не ўрошная, а малошная.

## 137. На Юр'я, два разы ў год

Першым разам, добрым часам прашу Госпада Бога, Духа Святога.

Святы Георгі-пабеданосец закрыў неба звяздамі, землю травой, дрэва ліствой, рыбу лускойй, закрый маю худобу сваёю рызай святой ад гада паўзучага, ад вора крадучага, ад агню гаручага, ад звера бягучага, ад балезні калючай і ад чалавека лютага. Любі мой лёгкі дух. Ху!

## 138. Пры выгане скаціны на пашу

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Прачыста Божа маці, прыступі, дапамажы кароўку ўганяць.

Ганю кароўку ў поле. Там табе шаўкова травіна і халодна вадзіна. Шаўковай травой напасешся і халоднай вадзіцы нап'ешся. Будуць пастушкі крычаці і дадому тавар гнаці, то будзеш ісці да свайго цяляці.

## 139. Пры выгане скаціны

Ёсць у моры серы камень і гнілая калода. Хто гэты камень глытне — той маю скаціну вазьме.

## 140. Ад ваўкоў

На моры, на кіяне стаіць дуб, пад тым дубам стаіць карвацьразубражана, разукрашана; на той карваці ляжыць прысільны магучы багатыр сівы воўк, дзяржыць дзвенаццаць ключоў залатых і сабіраіць усіх сваіх лютых звярэй: ярых, палуярых, ярцоў і палуярцоў і замыкаіць губы і зубы і раціва сэрца. Я ж цябе, сільны, прысільны, магучы багатыр сівы воўк, умаліваю і ўпрашываю, штобы па маяму стаду ваўкі хадзілі і рота не разявалі,

глаз не ўскідывалі і маяго стада (або табуна) не кусалі: ні малых, ні старых, ні ўзрослых, ні няўзрослых. Я ж цябе ўпрашываў і ўмаліваў, сільны, прысільны, магучы багатыр сівы воўк; ежалі я цябе не ўпрашу і не ўмалю, то ўпрашу святога Ягорыя з'ездзіць к табе. Святы Ягоры з вострым кап'ём і з вострым мячом, ён тваю карвацць разарыць і цябе ў сіне мора выкініць.

## 141. Як згубіцца ў лесе жывёла

Прашу Госпада Бога і Юр'я святога зацінаці, засякаці (успамянуць від і масць згубленай жывёліны) ад габа-габіхі, дыла-дыліхі, свідра-свідрыхі. Жалезным замком замыкаю, жалезным замётам закідаю ўдзень, уночы і ўпоўначы зубы, губы, скіліцы, віліцы і ўсё. Яго, Госпадзі Божа, спасі, святы Юры, засячы. Амін.

## 142. Ад ваўкоў, звяроў

Першым разам, божжым часам. Госпаду Богу памалюся, святой матары Божжай прыкланюся.

Ёсць у свеці многа царыкаў, а мне тры трэба: першы царык — ясен месяц на небі; другі царык — воўк у калодзі; трэці царык — мядзведзь пад выскаддзей. Як мне з імі ня схадзіцца, а ім за 'дзін стол ня садзіцца, і ня піць і ня есць, ня гуляць, ня бяседаваць, так рабу зверу з маёй скацінкай, з бурай шарсцінкай, ня схадзіцца, ня відацца, ня стракацца. Я сваю скаціну загаварываю, дзьвёмі зарамі — ранняй і вячэрняй — застанаўляю, цёмнаю ноччу пасьцель усцілаю, дробнымі звяздамі абсяваю, ясным месяцам пакрываю. Ваўку валаўство, ваўчыцы юцы, чорнай рызай вочы засцілаю, застанаўляю і замыкаю зубы, губы, ногці, кохці залатымі замкамі, сярэбранымі ключамі. Я ж тыя ключы вынімаю і на сіне мора кідаю. Маёй скаціні, бурай шарсціні, чур ад пары да пары, да слушнага часу.

## 143. Ад ваўкоў

Воўк і ваўчыца і ваўчаняты, вашы ногі павыламаты, вашы зубы пазамыкаты залатымі замкамі, зялезнымі ключамі. А ты, царык гасподні, Ігнаці Дабрахочы, спасі (ад пасціць) маю скаціну, ідзе мая скаціна ходзіць: у полі купінаю, а ў лесі кустом, а ў лузі калодаю.

## 144. Ад ваўкоў, звяроў

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся, усім святым апосталам.

І етая скаціна, сівая шарсціна, стань ты на дарозі сокалам, на чыстым полі камянем, у лесі выскаддзю; месячкам абсадзіся, звёздамі абгарадзіся, чорнай хмарай пакрыйся, медзяным замком замкніся. І загаварую ваўку і ваўчыцы і зубу і губу, і жарась і ярась, і кохці і нохці, і слюну і блюму, і да пары-ўрэмя, пакуль соўнюшка ўзайдзець, раса на зямлю падзець.

## 145. Ад ваўкоў

Святы Ягоры, і святы Антоні, і святая Лісавета Хвёдараўна (лясун і лесуніха), прашу я вас і кланіюсь я вам вялікімі ўпросамі і нізкімі ўклонамі: садзяржайця сваіх хартоў, замыкайця ім губы і зубы залатымі замкамі, сярэбранымі ключамі. Святы Ягоры, і святы Антоні, і святая Лісавета Хвёдараўна, прашу я вас і кланіюсь я вам: ходзіць маіх тры скаціны — рыжая, гнедая і палавая проці ночы ў чыстым полі, на шаўковай траве, на зямчужнай расе; загарадзіця ж вы іх жаркім сонцам, ясным месяцам, дробнымі звяздамі. Святы Ягоры, і святы Антоні, і святая Лісавета Хвёдараўна, закрыйця вы іх сваёю залатою пеляною. Здайся яны ў полі пнём, у лесі калодаю.

На моры, на лукамор'і стаіць камора, у той каморы сядзіць красная дзявіца. Краснае каханне, закрый наша паданне! Чуру, амін.

## 146. Каб воўк карову не чапаў

Міхайло-архайло, нябесны воздух. Юрко і Юрчыха, і Юркавы дзеці. Завялі сваім хартом і харчыцам, штоб маіх кароў не чапалі. Мая карова чорнай і белай шэрсці здаецца ў полі жоўтым цветам, а ў бару гарэлым пнём, а ў лугу гнілою калодаю, а ля вады жоўтым пяском.

## 147. Ад ваўкоў

Закачу, завалю камянною сцяною, божыя міласьці просючы, ад воўка-царыка, ад ваўчыцы-царыцы. Прашу Госпада Бога: калі конь мой — скінься зялёным яварам, а карова — зялёнаю ракітаю, а свіння — чорнаю махныткаю (галаўнёю), а авечка — махавою кочкаю.

## 148. На скаціну, як згубіцца

Святы Юры-Ягоры, садзіся на варанога каня, аб'едзь кругом сяла, загані гэту скаціну, (масць) шарсціну, калі блізка — ка мне ў двор, а далёка — пастаў каменнай гарой, калі ў лузе — шаўковай травой, а калі ў лесе — гнілой калодай. А табе, ваўку, загаварваю быстрыя, ярыя вочы і вострыя зубы і кіпці, штоб грыз у лесе гнілую калоду, а ў лузе — шаўковую траву, а ў полі — каменную гару. А ты, святы Юры-Ягоры, агарадзі гэту скаціну жалезнымі тынамі і крутой гарой, а табе, ваўку, грызці гэтую сталь, грызці не перагрызці і да ўсхода сонца не чапаць. Амінь.

## 149. Ад ваўкоў, звяроў

Первым разам, божжым часам. Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы прыкланюся — станьця мне на помач.

Месяцам асвячуся, соўнейкам абагрэюся, зорачкамі асеюся, залатым тынам абгараджуся, стану я на мядзянам масту, замкнуся я трыдзевяць замкамі, трыдзевяць ключамі, укіну я ключы ў Сыботу ў раку; пападуцца тыя ключы Прачыстай матцы ў руку. Як у Прачыстай маці ключоў ня ўзяці, так зверу мае скаціны, чорнай шарсціны, ня ўзяці. Воўк Мяллян, ваўчыца Улляна, сунімай сваіх слуг і старых, і малых; а ня будзеш сунімаць, будзя маць Прачыстая замыкаць зубы, губы, іклы, паклы, язык слабкі, бодрыя ногі, ярыя вочы, шэрую шэрсць, белае цела.

## 150. Ад ваўкоў, звяроў

Госпаду Богу памалюся і маці Прачыстай прыкланюся. Маць Прачыстая вастошніца, скорая памошніца, станьця ка мне на помач. Прашу я і Юр'ю-Ягор'ю і Міколу надзяляюшчага, і святы Піліпі і Халімоні, станьця ка мне на помач, маць Прачыстая на радась.

На сінім моры, на лукамор'і ляжыць камень люты, у том камні ляжыць сука Кіда, чырвоным сукном накрыта; парадзіла Кіда шчанят чатырох: Хомера, Хомерыха, Порфіра і Ковыла. А царык Лесавік Бурык, а царыца Лесавіца Маўра, унімайця сваіх шэрых псоў. Псы вашы торкі, вочы яркі, ногі жосткі, вушы бодры, хвасты доўгі. Выйшла Божая маці са свячамі і з жалезнымі дубцамі, святы Міхаіл з вострымі мечамі і з жалезнымі замкамі. Святы Міхаіл, ты па свету раз'язджаеш, у залатую трубу іграеш, і сваіх псоў судзяржаеш, і раты замыкаеш. Бяжы, мая скаціна, наядайся і ў двор хапайся.

## 151. Ад ваўкоў

Юра-Ягора, выйдзі на Сіянскую гару, затрубі ў залатую трубу. Сабірайцеся, харты і харчыцы, харты і пахартыкі, загаварваю вам зубы і губы, ясныя вочы, сластны язык,васкаддзём-каладдзём закачваю, жалезным тынам закоўваю.

Як васкаддзя-каладдзя не адкаціць, жалезнага тына не ламаць, так маёй худобы нікому не няць: ні ведзьмакам, ні вядзьмачкам, ні шчырам, ні прышчырам.

Пакрывая Гасподзь лес лістом, лог травою, неба звяздою, пакрый, Госпадзі, маю скаціну святой рызай.

## 152. Ад ваўкоў, звяроў

Святы храбры Ягорай, бяры сваю залатую трубу, брытай свайго серага каня, кладзі сваё залатое сядло, выяжжай на Высіяньскую гару і змані сваіх трох хартоў, ахацькоў, і ваўкоў і ваўчыц і ваўчанят, і праежжых гасьцей, і сівых, і серых, і рудых, і ўсіх сваіх худых і белых малаканых. Пазавязуй сваім шаўковым шнуром іх войстрыя пікі, пазавешуй сваім залатым платком іх ясныя глазы. Святы прападобны Хролій, і ты ж іх спастыр, спасі ету скаціну. Святая ўсердная, к вам прыбягаю, Госпадзі вышні Ісуся Хрысце, Сыня Божы, маць Прачыстая, Прэсвятая Бугуродзіца. Святая маць Прачыстая, спасі ж ету скаціну, засцялі сваёй рызай, нятленнай плашчаніцай іх нямерныя глазы. І просім святога Міколу, божага ўгоднічка-чудатворца: святы Мікола-чудатворац, спасі ету скаціну, Госпадзі наш міласэрдны, сам ты вялікі цару, сам ты бяз началу, пашлі святога свайго архангала Міхайлу, гасподзьнюю суддзю, вялікага князя, першага ваявода, шасцікрылатага, да 'градзі, Госпадзі, сваёй правай рукой, камянной сцяной — як неба ад зямлі ў чатыры рэдзі. Няхай ета скаціна пасецца, пакойна да дому валачэцца. Святыя кіяўськія, пячэрськія, спасі, Госпадзі.

## 153. Ад звера

Цар Арон, прашу я цібе і жану тваю прашу Малан'ю: унімай сваіх дзяцей і маленькіх дзіцінятак, унімай на запад сонца: гнілую калоду на сніданія, а скаціну, штоб ні трымаць.

## 154. Ад ваўкоў, звяроў

Госпаду Богу памалюся, матцы Прачыстай пакланюся, усім святочкам, гадавым празьнічкам,— памажыця і багаславіця. Святы Міхаіла-архангала, вазьмі ты сваю сямігласную трубу, і ўзыйдзі ты на Сіяньскую гару, і змані і струбі ўсіх сваіх анахаў. Замыкаю я ім зубы і губы, і шчокі і пашчакі; агароджаю огольчак рыжых гарою камянною, ад зямлі да да неба. І святы Юрай і Ягорай, станьця ўсі на помач. І ты, святы Аной, стань на помач нам.

## 155. «Худобу зацінаюць»

Зацінаю зубы, губы хорцу, харцісе, харцянятам, шоб вушы не чулі, а вочы не бачылі, а мысай не шчуваў. А святы Юрэй-Рыгорэй, спасай, сахраняй, ад маей кароўкі чорнай злога духа адганяй.

## 156. Ад ваўкоў, звяроў

Госпаду Богу памалюся і матары Божай прыкланюся, і святому Юр'ю-Ягор'ю.

Святы Юрай-Ягорай, прашу цябе, міласэрны, рассылай сваіх яўрэяў (ваўкоў) па цёмных лясах, па дзікіх балатах і па чыстых палях; у цёмныя лясы калоды грызць, а ў дзікія балата куп'я лізаць, а ў чыстае поле пяску разграбаць, а маіх каней сцаляць. Закачуй, Госпадзі, загараджуй, Госпадзі, гарою камянною, дробнымі звёздамі і ясным месячкам і праведным сонцам ад звера бягучага, ад гада паўзучага, ад злога чалавека.

## 157. Ад ваўкоў, звяроў

Святы Юры-Ягоры, ня распускай сваіх псоў-хартоў. Я сваю скаціну загаваруе, засцерагаю, калоддзем, ашлоццем закідаю, з лезным тынам загараджую, зялезнымі замкамі зубы, ляпы ім замыкаю, на сіня мора залатыя ключы закідаю. Як з сіняга мора ключоў ня дастаць, так мае скацінкі псам-хартам ня ўзяць.

## 158. Ад ваўкоў

Дзе эта скацінка (масць) будзе хадзіць, там будзе і начаваць. Дзень была пад сонцам, вечар пад месяцам, сонцам асвяцілась, месяцам агарадзілась, зорачкамі асыпся. Ехаў сам Ісус

Хрыстос на сівым кані з Юрыем-Ягорыем, везлі залатыя замкі, срэбраныя ключы замыкаць ваўкам раты. Замыкаць ваўкам і ваўчыцам, маленькім ваўчаняткам, як будуць бегаць сціскаўшы, штоб не разінуліся, а як разінуўшы, штоб не сціскаліся. Амінь.

## 159. Ад ваўкоў, звяроў пры першым выгане

Храстом я кшчуся (перахрысціцца), храстом пячатаюся. Хрэст нада мной і хрэст пада мной, і хрэст унутрэ мяне (перахрысціць статак). Гасподзь Бог мае стада храсціць храстом яго пячатавая (абыходзячы вакол статка). Святы Юры-Ягоры і святы вотчай Мікола!

Святы Ягоры ездзіў на сваем сівенькам і бяленькам кані, ездзіў па лясох, па палёх і па чыстых барох, і па зялёных лугох, і сабіраў сваіх лютых псоў, дзікіх лясных ваўкоў, сабіраў сівых і шэрых, і рудых, і тры сарты. І заганяў іх за сцяну камянную, і замыкаў ім і зявы і раты, каб ня маглі на маю скаціну ні на якую — ні на сівую, ні на шэрую, ні на чорную, ні на белую зявоў не разявіць, зубоў не разняць і ў маю скаціну вострых сваіх нечасьцівых клыкоў ня ўпушчаць. Не я ж іх за сцяну камянную заганяю, і не я ж ім і зявы і раты замыкаю — заганяець іх, замыкаець ім сам святы Ягоры. І замкні, святы Ягоры, на ўсе лета ад мае скаціны, амін.

## 160. Ад ваўкоў, звяроў (як заблудзіла жывёла)

Госпаду Богу памалюся і ўсім святым пакланюся, кіеўськім, пячэрськім; усі святыя апосталы, прыступіця і памажыця мне, Госпадзі, загавараваць скаціну.

Загаварую і замаўляю бурую скаціну ў полі кустом, а ў лесі пнём, ад ваўка, ад ваўчыцы, ад набегаюшчага, ад насілаюшчага. І сашлю я вас на мха, на балота, на ніцыя лозы, гарой закачу, зялезным тынам загараджу, зорамі абсею, месяцам накрыю, штоб мая бурая скаціна з Богам хадзіла, штоб тыя скаціны нішто ня відала, штоб мая скаціна дамоў прыхаджала.

## 161. Ад ваўкоў

Святы Юры-Ягоры, Міхайла-архангал, запры, замкні маім урагам яры зуб, губы і зубы, да пары да ўрэмя; залатымі ключамі, медзянымі, сярэбранымі замкамі.

## 162. Ад ваўкоў, звяроў

Госпаду Богу памалюся, святой Тройцы пакланюся.

І засякаю, і замаўляю сваю скаціну, красную шарсціну, ад серага ваўка і чорнага мядзведзя; камянной гарой закачу і к небу прытачу. Нарадзіўся раб божы Сямён (шаптун) пад жаркім сонцам, пад ясным месяцам, пад дробнымі звяздамі.

## 163. Ад ваўкоў, звяроў

Святы Ягоры ўзышоў на Сіяньскую гару і ўзяў залатыя ключы і сярэбраныя замыкаць звярам ірты, каб не ўцялі кабыл з жарабятамі, і кароў з цялятамі, авец з ягнятамі, свіней з парасятамі. І замыкаю я ім ірты, ва векі амін.

## 164. Ад ваўкоў

Госпадзі Божа, багаславі, Прачыстая пасабі (замкнуць замок і закапаць у зямлю пад варотамі). Замыкаю і загаварую замок. Як я замкнуў замок, каб у звера замкнуліся рот і санкі; як ня відзіць ніхто етага замка, каб ён ня відзеў мае скаціны, чорнай шарсціны.

## 165. Ад ваўкоў

Божа маці на прэстолі стаяла, Ісуса Хрыста на руках дзяржала, усяму свету памагала.

Цар Крутаус, царыца Егіпта пазамукала ваўкам і ваўчыцам губы, зубы, сківіцы-івіцы. Назад вочы пазаварачала карчовым, і лугавым, і палявым. Як у нашага дзеда вусокія барканы, то ім жа не пералязаць, не перsucceedаць, не паламаць, так табе на кароўку не пазіраць, на кароў рота не разяўляць.

## 166. Ад ваўкоў

Ва імя 'тца й Сына і Святога Духа (без амінь.— *Е. Раманаў*). Святы Аўрамі (лесавік), пазгонь ты ваўкоў і мядзьведзеў, каб ета скаціна, чорная шарсьціна, была цэла. А ежлі ня будзець цэла, то пайду к Госпаду Богу на суд, і к Сусу Хрысту, і к Сыну Божаму, і к святэй Прачыстай.

## 167. Ад ваўкоў

Цякі, зямля і вада, замыкаюцца банадзеямі зубы і губы, паўзучымі, бягучымі. Бяжыце і адбягайце, і рыжай скацінкі не чапайце. Дайце ёй знаць, дзе ёй ночку начаваць. Сяку, засякаю, сухавеі супрашаю, цёмных ночачак, ясных зорачак, зберажыце рыжую скацінку. Дайце ёй знаць, дзе ёй ноч начаваць.

## 168. Ад ваўкоў

Госпадзі Божа, благаславі, святая маць Прачыстая, памажы.

Прашу я вас, Ціхан Ціханаў, Трыхван Трыхванаў і Барыс Клімаў, прашу я вас і жон вашых, і дзяцей вашых, і слуг вашых: замкніця ўрагоў-супастатаў усемагушчыя жылы і гаручую кроў, ярыя зубы, ясныя глазы, чутыя вушы, сапыя ноздры, вострыя кокці. Замыкайця маю скаціну, чорную шарсціну, ад цёмнае ночы заберагайця.

## 169. Ад ваўкоў

Іван Лук'янавіч, спасі маю скацінку, рыжую, чорную... і ты, Дабрахот, сахрані ва весь круглы год. Я цябе памяну хлебамсоллю і добрым здароўем.

## 170. Ад ваўкоў

Зара зарушчая, саберагаеш ты ясен месяц, саберагай маю скаціну пад цёмнымі лясамі, пад яснымі зарамі. Саберагай маю скаціну, рыжую шарсціну.

## 171. Ад ваўкоў, звяроў

Як тапару ў печы не ляжаці, так шэраму зверу скаціну не відаці: здайся пнём і агнём.

## 172. Ад урокаў карове

Госпаду Богу памалюся, прачыстай Божай мацеры пакланюся. Божа маці на прэстолі стаяла, на сябе залатыя рызы накладала, усёму свету помач давала. Прыступі да памажы маёй (масць каровы) кароўцы ўрокі шаптаці.

Ішоў чорны дзед чорнаю дарогаю, чорныя пасталы, чорныя

валокі, чорныя нучы, чорныя штаны, чорна рубашка, чорна світа, чорна папруга, чорна шапка. Нёс на плячэ сокеру. Стаў чорнага дуба рубаці, сталі асколкі лятаці.

Урокі-ўрочышчэ, прыстрэх-прыстрэчышчэ, шоб вас не було ад маладосці да старасці.

### 173. Ад чарвей

Як на моры, на лукамор'і там ляжыць бел камень, пад тым камнем ляжыць гнілая калода, на той калодзі чорны чарвяк, з чорнаю галавою. Чорны чарвяк, выганяй сваіх чарвей з рабыя кароўкі, каб яны цела не тачылі, сэрца не сушылі і яе не нудзілі — не пушчай ваду. Сашлю я на цябе грозную тучу, буду я цябе біць, драць і наказаваць паленнем і каменнем.

### 174. Ад чарвей

На моры, на лукамор'і бел камень, пад тым камнем гнілая калода, пад той калодай чарвяк белы, чорнагаловы, над усімі ён чарвямі большы, старшы. Чарвяк белы, унімай з етыя скаціны чарвей, каб яны скаціны косці не ламілі і сэрца не нудзілі. А то я цябе буду судзіць і наказываць, нашлю на цябе тучу грозную, гарачую ваду, жаркае каменне.

### 175. Ад чэмеру

Выходзіць раб божы Хведар (імя знахара) у чыстае поле, на крутыя горы, прызываю я чэмернага цара Васіля, царыцу Васілісу. Чэмерны цар Васіль, царыца Васіліса, унімай сваю чэмер у такія-та скаціны; полна табе скаціні мучыць нутру, сэрца яго, і жылы і жоўць яго, і печань пілою піліць, і кроў і целеса марыць. А табе йці на мхі, на балоты; там стаіць сухі дуб, пад тым дубам стаіць цясовая карвацъ, у тэй карвацi пуховыя пярыны і шаўковыя прасціры. У етай карвацi табе ўлягацца, а такой-та скацінай не ўладаць. Як етаму сухому дубу веццем не махаць, так табе, чэмер, скаціну не марыць.

### 176. Ад хвароб жывёлы

На моры, на кіяні, пад крутымі берагамі ляжыць даска, пад тою даскою чэмерная патніца. Я сілу панімаю, доску ўзнімаю, чэмерную патніцу вынімаю з ясных вачэй, з быстрых вушэй, доўгага хваста, шырокага капыта, рыжыя шэрсьці.

## 177. Ад хвароб жывёлы

За сінімі марамі, за крутымі гарамі стаіць дуб-какацішча, міз тых какацішчаў гняздзішча; у том гняздзішчы цар-лішышча, цар-грызішча. Ён гарэлку гоніць, вяселля іграець, кубкі віна наліваець, слуг сабе прызываець, дзянных, палудзённых, нашных, палунашных, часовых, памінутных, жалосных, намоўных, нагаворных, сурошных, урошных. Ідзіця, ухадзіця па добрай волі, а то стану Ніколушку-бацюшку прасіць, скорапамошніка: «Станьця нам на помач!» Выгаварую ж цябе пры ясных зарах, пры красным сонцы, выгаварую ж цябе, ясны месяц, на сходзі, а краснае сонца на ўсходзі; краснае сонца на сходзі, а ясны месяц на ўсходзі.

## 178. Каб конь быў здаровы

Устану па вутру па ранніму,
Па вечару па позніму,
Выйду на сільны вецір,
На лёхкі воздух,
Вазьму я асінаву ветку,
Пайду я к добраму хазяіну
На чэсцён пір.
Із-пад левай нагі,
Із-пад правага капыта
Аблажу і абвяжу
І кругом абнясу,
Штоба быў па-стараму,
Па-прэжнему,
Чышчэй і луччэй,
Штобы не была болій нéдуга,
Куды б ні паехалі.

## 179. Ад хвароб жывёлы

Божухна-бацюхна, Прачыстая матухна, зара-зарыца, божая памачніца, праведнае сонца!

На моры, на каяні ляжыць камень Школат, на том камні Школаці сядзіць пан-чальчак. Пан-чальчак, упрашаю цябе і ўмаляю, не сам сабою, а Госпадам Богам: унімай сваіх слуг і пóслуг, і вынімай балезнь з раба божага скаціны, чорнай шарсьціны, з нутрэй і панутрэй, з жыл, із пажыл, з касьцей, з пакосьцеў, з цвёрдага зуба, з ясных воч, з чорнага капыцця.

### 180. Ад чэмеру

Ляцеў арол чэраз шчыры бор, чэраз мхі-балоты, шаўковай ніткай зацягуваў, сераму каню чэмер загаваруваў, вугалем зачэрчываў. Госпадзі, памажы, Госпадзі, багаславі.

### 181. Ад крывацёку з саскоў у каровы

Прачыстая мая маці, хадзі хомаўку даглядаці. Зялезнымі тынамі абгараджуся, меднымі замкамі замкнуся. Святая Пакрова, мамка Хрыстова, закрый сваёй рызай залатой ад паганых рачэй, ад паганых вачэй, ад усякага гаду, ад усякага ўпадку, закрый, заступі.

### 182. Ад хвароб жывёлы

Чамярыца і патніца, выхадзі з касьцей, з машчэй, з бумажнага цела, з рыжыя шарсці, на мхі, на балоты. Там табе гулянне, буянне; на скаціні, рыжай шарсціні, нет ні гуляння, ні буяння. Ёсь на свеці тры цары: первы цар — ясён месяц на небі, другі цар — чорны рак у моры, трэці цар — серы воўк за морам. Як тым царам у кучу не сходзіцца, за дубовыя сталы не садзіцца, чары віна не піць, хлеба-солі не кушаць, так етай болі не балець, не гарэць, у етага раба божага скаціны.

### 183. Ад чэмеру

Есць у свеці, есць у свеці, есць у свеці тры цары, тры цары, тры цары: первы цар, первы цар, первы цар — месіц на небі, месіц на небе, месіц на небе; утарой цар, утарой цар, утарой цар — рак у моры, рак у моры, рак у моры; трэці цар, трэці цар, трэці цар — серы воўк у балоці, серы воўк у балоці, серы воўк у балоці.

Как еты цары адзін у аднаго ні бываюць і напіткі і наедкі ні кушаюць і ні бяседываюць, так етай чэміры ў раба божага ні бываць і раба божага ні нудзіць, ні марыць і па румянаму целу ні хадзіць, і белую косць ні ламіць, і гаручу кроў ні разганяць, пухавога воласа ні раздумаць.

І ты выхадзі, чэмір злая, чэмір ліхая, ад етага раба із касцей, із машчэй, із жыл, із пажылак, ад буйнай галавы, ад быстрых глаз, ад рабочых рук, ад быстрых ног, ад нутрынасцей чалавечаскіх!

Ні трыгацца табе, чэміры, ні на маладзіку, ні на паўнаце, ні на піракроі месіца, ні на сходзі вастока!

### 184. Ад урокаў карове

Первым разком, господнім часком, Госпаду Богу памалюсь, святой Прачыстай пакланюсь. Свята Прачыста маці, прыступі ўрокі шаптаці.

У полі стаіць тры дзявіцы да тры сястрыцы, а там царыца, а кала царыцы крыніца, а там цячэ рэчка. Як у тых крыніцах, у тых рэчках вада прыбывае, так у маёй кароўкі малачко прыбывае. Як мой дух ціхенькі, лёгенькі, добранькі, дай, Госпадзі, помач. Я словамі, господзен дух.

### 185. На добрае жывёле

Добры дзень, Дунаю, я к табе прыбываю не за вадою, а за малаком, маслам, сырам і тварагом тваім.

### 186. На добрае жывёле

Добры дзень, маладзею Максім, вада Аксіння, бяру я спор са ўсіх рэк, мораў і азёр, з первай зары, з Асіянскай гары. Як гэтым рэкам, морам, вадзе не высыхаць, так маёй чорнай карове малаку не адбываць, а прыбываць.

### 187.«Каб малака ніхто не адабраў ад каровы»

Ідзе хазяйка к сваёй кароўцы Дроўцы, загароджвае жалезным тынам. Пака вядзьмар з ведзьмаю збяруцца, дык яны абарвуцца. Сарокі-варокі, вазьміце прыстыкі і ўрокі, нясіце гэтай кароўцы з усіх старон малокі. А ты, кароўка-пчолка, як пчолы носяць свайму хазяіну мёд, штоб ты сваёй хазяйцы прыносіла малако. Уранні і ўвечары прыбывай, малако, з поўнага месяца, з яснае зары, з залатое гары. Паска святая, утрань залатая, пакрывай землю травою, расою; напаўняеш мара, рэкі вадою, а рыбы лускою, а кароўку малаком ад цёлу да цёлу.

### 188. Ад уроку карове

Першым разам, добрым часам. Госпаду Богу памалюся і мамцы Прачыстай пакланюся, і Госпада Бога папрашу з усімі сіламі нябеснымі, кіяўскімі, пячэрскімі,— а ўсе вы праведнічкі прападобныя, станьця ж, Гасподухначка, на помач божай кароўцы чорненькай (ці якой).

У полі стаяла богава стаенька, а ў той стаенцы богава кароўка, а ў тые кароўкі залатыя рожкі, мядзяныя ножкі, сярэбраны язык. Прыйдзі ж, кароўка, к маёй божай кароўцы, палі-

жы, кароўка, маю кароўку, ножкі і рожкі і вымечка. Як жа ў моры вадзіца прыбаўляецца, штоб у мае божай кароўкі божжа малачко прыбаўлялася; як жа ў моры бераг з беражком ня сходзіцца, штоб і к маёй божай кароўцы ўрокі ня прыходзілі: ні жаноцкія, ні хлапоцкія, ні дзявоцкія, ні схода, ні маладзіка і не пад поўнае, і ветрам не наносныя. І дай жа ты, Госпадзі, маёй божай каровачцы белага малачка, жоўтага маслячка, тоўстага сырцу. Ня будзь жа ты ўрошна, да будзь жа ты малошна, як было, так штоб і было, штоб даў Бог яшчэ болі прыбыло. А хто завідуя да прыглядаецца, дак соль ім у вочы і галаўня ў зубы, і гаршчок штоб між шчок, і палена між калена.

### 189. «Як малака карова не дае»

Добры вечар, скацінка, прыйшла к табе хазяячка з залатой даёначкай, з шаўковай цадзілачкай. Маць Прачыстая цябе даіла, а хазяячку малачком надзяліла, крэпкім малачком і жоўтым маселцам, харошай смятанкай. Ні сваімы думамы, а гасподнімы славамы, прылюбі мой душок ціхенькі, лягенькі, дай, Госпадзі, на помач.

### 190. Карове, як ацеліцца

— Добры дзень, кароўка!
— Здароў!
— Прыйшла к табе я і з хлебам і соллю, і ласкаю, а ты ля мяне малочна, а сама для сябе каб не была ўрочна.

### 191. Карове, каб хадзіла з таварам на пашы

Ты ідзі, мая кароўка, у поле нагамі, у травіцу рагамі, травіцы наядайся, вадзіцы напівайся, з поўнае крыніцы вадзіцы напівайся, паганым вачам не ўдавайся, а хадзі з чарадою, як муж з жаною, сматры чарады, як муж жаны, а брат сястры, а маці дзетак. Ні наперад не ўбівайся, ні ззаду не аставайся, пасярод чарады, кароўка, цягайся.

### 192. Ад хваробы жывёлы

Уставала я ранюсенька, умывалася бялюсенька, выганяла я кароўку ў зялёную дуброўку, на юр'еву роску, на мікульную траўку, на скацерку-атаўку ў чыстае поле. У чыстым полі стаіць прыстол. На прыстоле сядзіць святая матка Прачыстачка-

Багародзіца і дзяржыць на прыстоле Ісуса Хрыста і накрывае чорнаю рызаю. Як Ісусу Хрысту з чорнае рызы не ўставаці, так блудніку-самаблудніку каля маёй каровы не биваці, з маёй кароўкі плоду, малачка не браці. Мая кароўка будзе ўросная, прарасная і будзе добра малосная. Будзе па чысту полю пахаджаці і капыцікам траўку збіваці, і роску злізаці, і сваёй хазяйцы малачко збіраці з дзевяці жылачак у чатыры цыцачкі. Смятанка жоўценька, тлусценька, тваражок гусценькі.

Кароўка на пажытак, малачко на прыбытак.

### 193. Ад хвароб жывёлы

Памолім мы, папросім Госпада Бога на помач, ангала на радошчах, і маць Прачыстую і дзеву чыстую, Івана Ксьціцеля, Спасіцеля і Міхаілу-архангала, і ўсіх сіл нябесных.

— Добры вечар *, Чарналутка-рака! Адкуль ты цякла?

— Із усходу на заход, із падлунных зор, з-пад жаркага сонца, із-пад яснага месіка.

— І што ты ўмывала?

— Крутэя берагі, жоўтыя пяскі, сырое карэнне, белае каменне, чорнае краменне.

— Вымывай жа ты з естыя скаціны-жываціны, з (такей-та) шарсьціны, з буйнай галавы, з жоўтага мозку, з рацівага сэрца, і з трыдзевяць касьцей, з трыдзевяць пáкостак, з трыдзевяць жыл, з трыдзевяць пáжылак, з гаручай крыві і з цёплага мяса, і з белага жывата — вымывай ты і мокры макрэц, і гнілэй гнілец, і сухей сухец. І мокры макрэц на такую-та раку, сухей сухец на сухей лес, гнілэй гнілец на гнілую калоду.

### 194. Ад хваробы карове

Крынічка Магдалена, стаіш па калена, дарую я цябе хлебам і соллю, надары рабую кароўку добрым здароўем, жоўтым маслам, белым сырам. На сінім моры белы Кандроль. Белы Кандроль, прашу цябе: як у моры прыбываець пенка, каб у рабае кароўкі прыбывала смятанка. І зорка Селізорка, падкаціся пад кароўку жоўтым маслам, белым сырам, а ведзьме сываратка. Солнышкам падкачуся, месяцам абгарнуся, святая Прачыстая матушка, прызпадаблюся.

Ляцеў птах цераз божы дах, разбіў грабовы дошкі на крошкі, а ты, Хвядэй, забірай сваіх людзей, на сіняе мора іх адсы-

---

* Калі замаўляецца раніцаю — «Добры дзень» (прамаўляецца 12 разоў без перадышкі).

лай. А ты, Мікіта, аддай малако скарэй назад, аддай скарэй з усіх старон — з Сяргея траціна, з Маркі палавіна, а з Андрэя ўсё. А ты, Хвядэй, забірай сваіх людзей, на сіняе мора іх адсылай. Там табе з імі гуляць-бушаваць, а ў рабае кароўкі больш не бываць. Амін.

## 195. Ад уроку каню

Першым разам, добрым часам. Вадзіца ж ты царыца, божая памашніца, красная дзявіца, вастошніца і памошніца! Памагаеш ты ўсім мохам і балотам; памажы і майму божаму конічку сівенькаму. Ішла ж ты мохамі і балотамі, і крутымі гарамі і жоўтымі пяскамі, і змывала ты крутыя горы, і жоўтыя пяскі, і глыбокае карэнне, і шырокае лісце і зялеза марськое і важкое — ізмый жа ты з майго божага конічка ўсякае ліха прыгаворнае і наброднае, і жаноцкае і парабоцкае, і мужыцкае, і дзявоцкае. А святая серада (дзень замаўляння), стань жа ты, Гасподухначка, на помач майму божаму конічку. І ад Бога помач, а мой дух.

## 196. Ад каровічага ўроку

Первым разам, добрым часам. Госпаду Богу міласэрнаму памалюсь, і станьця ўсі святыя етай скаціні на помач.

А вадзіца-царыца, Улляніца, румяніца, змываеш ты жоўтыя пяскі і зелля карэння і адсюль траву, ізмый ты етаи скаціны ўрокі і падуманыя і пагаданыя, і прыстрэшныя і прысмешныя, і дзянныя, палудзянныя, нашныя, палунашныя, і мужчыньскія і жаноцкія, і дзявоцкія і парабоцкія, і дзяцінныя.

## 197. Як у каровы малако прападзе

Первым разам, добрым часам прашу Госпада Бога і Духа Святога, усіх ангелаў-храніцеляў.

Пры крыніцы, пры вадзіцы зялёны тын стаяў. Пад тым тынам крынічка. Той крынічкай мацер Божая заведала, крынічку адмыкала. Раба божая Агата прыступала, вадзіцу набірала, красну кароўку падмывала, штоб яна зацёна не мала, у ёй малачко прыбывала. У калодзежнай вадзіцы свяшчэннік малітвы чытаў, маць Прачыста птушак рассылала: «Ляціце, мае птушачкі, канапелькі збірайце, маёй кароўцы малачка шукайце: патойнага, падзіўнага і падумнага, прыгаворнага — усякага».

## 198. Ад уроку карове

Первым разам, лепшым часам дай, Госпадзі, на палучанне, маёй карове малака на прыбыванне, кароўцы на здароўе, другім сціхам, гасподнім слыхам. Дзень добры, вада-вадзіца, красная дзявіца і руданіца, вымываеш ты горы і даліны, змый ты маёй кароўцы (масць) урокі, прыгаворы ўрочныя, прыгаворныя, дзіўныя і раздзіўныя, паспешныя, пасмешныя, жаласныя і радасныя, дзявоцкія, хлапоцкія, жаноцкія, бабскія і мужскія, хазяінавы, хазяйкіны, удовіныя, удаўцоў і ўсіх удалых малайцоў.

Другім сціхом, гасподнім слыхом, мацер Божая святая, Ісусам Хрыстом, святым Раждзяством з Пятром і Паўлам і святым Міхаілам. Ішлі яны дарогаю шырокаю, прыйшлі яны к сіняму мору, сярод сіняга мора сталі, у сінім моры вадзіцу бралі, етай вадзіцай кароўку (масць) падмывалі, малако прыбаўлялі, урокі, прыгаворы змывалі, падуманыя, пагаданыя, урочныя, прыгаворныя, пацешныя, пасмешныя, жаласныя, радасныя, жаноцкія, дзявоцкія, бабскія, мужчынскія, удовіны і ўдаўцоў і ўсіх удалых малайцоў. І прыняўся сам Бог і мацер Божая з залатым сваім крастом, ссылай і здымай з маёй скацінкі з жыл і пажыл і з усіх сарака суставаў, штоб маёй скаціны ня ўрэдна было.

## 199. Ад хвароб жывёлы

Первым разам, добрым часам. Госпаду Богу памалюся і Прачыстай маці пакланюся, і ўсім святым, кіяўскім, пячэрскім, прападобнікам божым.

Зоры-заранiцы, божы памашнiцы, вынімайця із етай скаціны, рыжай шарсціны, паралогі й патніцы. На сінім моры ляжаў белы камянь, на том камяні сядзіць тры дзявіцы, і ўсі воны тры сястрыцы. Адна дзявіца шоўкам вышывала, а другая златам пабівала, а трэцяя паралогі і патніцы вымаўляла.

## 200. Як малако прападзе ў каровы

Памалюсь я Госпаду Богу, папрашу я Госпада Бога, станьця на помач мне. Цар садзіў, Гасподзь палівау, Божая мацер хадзіла, капала, за пажыткам пасылала цераз тры лясы нярубленыя, цераз тры сенакосы някошаныя, цераз тры крыніцы вады нябраныя.

Добры дзень, крыніца Іарданная. У гэтай крыніцы тры чараўніцы: адна мядова, друга вінова, трэцяя малочна. Ні прыйшла вады ўзяць, а прыйшла армянскі сыр узяць. Сыр на іспры-

шчэнне, а масла на пасвяцэнне. Гэй, рабая, на высокую гару! Іспасла шаўковую траву, расу іспіла, хазяйцы вядро малака прынесла, ударыла па баках, прынесла па цэлых гладышах. Ёсць на небе тры зарніцы, і ўсе яны памачніцы: адна да жынак, другая да дзевак, трэцяя да кароў. Прашу і прылагаю, за карысцю прысылаю. Сыроватка жуірам (сабакам), а карысць наша.

### 201. Карове

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай мацеры пакланюся. Свята Прачыста Божа маці, прыступі да памажы рыжай (лысай) карове зацён зацінаці.

— Месяцу Грыгорыю, дзе ты бываў, што ты чуваў?

— Бываў я за трыма морамі, за трыма землямі, за трыма рэкамі. Бачыў тры зарніцы, тры сястрыцы. Адну прыпуду, другу прытэчу, а трэцю заваротню. Ты, прыпуда, прыпудзі, а ты, прытэча, прытачы, а ты, заваротня, паганыя мыслі адвярні. Як стаіць свяча ў храму божаму на прыстоле, штоб так мая рыжа, лыса кароўка стаяла на ўборы.

### 202. Ад хвароб жывёле

Ішоў Бог Сус Хрыстос і Юры-Ягоры. Стрэлі яны трох босых, трох праставалосых і трох голя-на́-голя. Пытаецца Юры-Ягоры ў Госпада Бога Суса Хрыста:

— Што ета ідзе, босыя, праставалосыя, голя-на́-голя?

Атвяшчая Гасподзь Бог Сус Хрыстос:

— Адна чамярніца, другая западніца, трэцяя паралогі.

— А куды яны ідуць?

— Ік буйнай касьце, к гарачай крыве, к вараному каню. Замаўляю і ўгаварую я, раб божы, чамярніцу, западніцу, паралогі ветравыя, сцюдзяныя, дзянныя, палудзе́нныя, вячэрнія, пасмешныя, пацешныя, із жыл, із пажыл, із буйныя касьці, із гаручыя крыві, із варанога каня шарсьці.

### 203. Ад вяхі

Прачыстая маці, прыступісь на помач, а святы панядзелак на радась.

Ёсь у полі тры травы: первая — варанец, а другая — вехавец, а трэцяя — паўвяхі. Г сашлець Бог з нябес трох ангалаў, трох апосталаў, высылаць із етыя скаціны із жываціны і абжыр

і аб'едзь. Первы ангал ідзець — залатыя грабелькі нясець, а другі ідзець — зямчужны венічкі нясець, а трэці ідзець — сярэбраны капачык нясець. І абжыр і аб'едзь грабелькамі выграбаюць, венічкам вымятаюць, капачыкам вышкрабаюць. Дай Бог на помач.

### 204. Ад хвароб жывёлы

На моры, кіяне ляжыць тры псы: адзін чорны, адзін рабы, трэці белы. Чорны выбрэхуя вячэрнюю зару, а рабы палуношную, а белы ранешнюю. Як тым псам на белам камяні не ляжаць, так на етай скаціні паралогам не бываць: ідзіця, паралогі, на сухія лозы, а ету скаціну памілуй, Госпадзі.

### 205. Ад хвароб жывёлы

Ішло іх тры дарогаю: ішоў войт, і чорт, і мужык. Найшлі яны рукавіцу і вязёнку, трэці пералог. Войту рукавіца, мужыку вязёнка, а чорту чэмер і пералог, а сяму каню ад чэмеры і пералогу помачы.

### 206. Ад хвароб жывёл

Ішоў апостал Пётра, а з ім ішоў чорт. Пётра нясець паляніцу (ляпёшку), а чорт рукавіцу. Чорт, чорт, кінь рукавіцу, вазьмі чэмер і патніцу.

### 207. Ад хвароб жывёл

Госпаду Богу памолімся і матары Божай, святой Прачыстай прыклонімся, і ўсім святым угоднічкам і ўгодніцам божым, і святому Пятру і Паўлу.

Ішоў святы Пятро-Павял, нашлі рукавіцы — адпадзіця ў етага каня чэмер і патніцы, адпадзіця і пад белы камянь ідзіця, а з-пад белага камня да пад асіну: там вы і днуйця, там і начуйця, і там вам днаваць, там і начаваць, а ў етага каня ня бываць, ва векі вяком.

### 208. Ад пералогаў

На моры, на кіяні стаяў дуб, на дубу карватка, а на той карватцы Пятро і Павял, трэцці дзявал. Пятру мальнічка, Паўлу рукавічкі, а чараз коньскія ногі чорту паралогі.

## 209. Ад патніцы

Ішоў Пятро і Павел. Ішлі паўз лес. Пад лесам стаяла трохугольная хатка. Зайшлі ў тую хатку. Паклалі рукавіцы на паліцы. Пятро сеў на куце, а Павел возле яго. Кароўкіны патніцы, ідзіце ў рукавіцы.

## 210. Ад патніцы

На моры, на кіяні стаіць дуб, на том дубі сядзіць чарціца; табе, чарціцы, патніцы, а мне рукавіцы.

## 211. Ад пералогу

Дзесь-ня-дзесь, пры шляху, пры дарозі стаіць пнішча і дурнішча, а ў том пнішчы ў дурнішчы сядзіць чарцішча. Нуця думаць і гадаць, каму пэрэлогі аддаць? Аддалі пэрэлогі старшому (чорту) у ногі, няхай нясе за мхі, за балата, за ніцыя лозы, за крутыя горы, дзе пеўні не пяюць, дзе й гусі ня крычаць,— от там ім быць і жыць, там раскошаваць, а ў аголчыка (ці ў аголачкі) ня буваць, і косьці ня ламаць, і крыві ня сушыць, і жыл ня паліць.

## 212. Ад патніц

Выгаварую, вымаўляю трыдзевяць патніц, трыдзевяць чэмырыц, трыдзевяць ярыцкіх, трыдзевяць жарыцкіх, трыдзевяць парыцкіх, трыдзевяць ветраных, трыдзевяць нутраных, з буйныя галавы, з ясных вачэй, з чорных броў, з рэцівага сэрца, з воласу, з голасу, з доўгага хваста, з быстрага капыта. І ты, соль, царыца, травіца, божая памашніца, і не я цябе буду даваць, і будзець цябе даваць святы Адам, і будзець казаць: «Етай скаціні, краснай шарсціні, ад чэмеры помачы дам».

## 213. Ад хвароб жывёлы

Памалюся Госпаду Богу і ўсім святым. Вазьміця вы семдзесят нажоў, выражця семдзесят прутоў, і выганяйця з мае скаціны, рыжыя шарсціны, чэмер, паралогі і патніцы, з касьцей, з мажджэй, з жыл, з пажыл, з сярэдзіны, з доўгага віду. Пасылаю цябе на мха, на балата, на 'гнянныя рэкі, на шырокае поле. А там стаіць кельня, а ў той кельні караваць цясовая, падушка і пярына пуховая. Там табе, чэмер, наспацца, наляжацца і ўсягды аставацца.

## 214. Ад пералогаў

Стаяла ў полі грушка, а на той грушцы курка-рабушка. Яец не нясе і дзяцей не вядзе, а на сябе пералогі бярэ. Ідзеце, пералогі, да з ног у рогі, з рог упалі да і прапалі.

Ішлі пералогі чэраз тры дарогі, а Міколка папераду. І сеў на варотах у чырвоных чаботах, чобаты спалі, з імі пералогі прапалі.

## 215. Ад хваробы жывата

Стаіць дуб пры дарозе на дванаццаць каранёў, на дванаццаць какатоў, на дванаццаць вярхоў. А ў том дубе дванаццаць чэмязявых гняздоў, а ў тых гняздох па дванаццаць пціц. Яны к жывату прылятаюць, лапамі разграбаюць, дзюбамі раскляваюць з чэлядзі, мерадзі кляваюць, выбіраюць, пад крыла забіраюць, на сіняе мора ўлятаюць, там вам прыбыванне, яданне, добрае спачыванне.

Едзьце вы з чэлядзі за мора жаніцца, вазьміце з сабою дзевяцёх баб. З дзевяцёх асталось васьмёх, з васьмёх — сямёх, із сямёх — шасцёх, із шасцёх — пяцёх, із пяцёх — чатырох, із чатырох — трох, із трох — двох, із двох — адзін; з аднаго — ніроднага.

## 216. Ад хвароб жывёлы

На полі на кіяньскім, кала Сіяньскага мора, стаіць дуб Ракітані, на том дубі дванаццаць какатоў, на тых на какатах дванаццаць патніц. Яны жжадаліcь, у такой-та скаціны сабіраліcь. Вам у ём ня быць, вам з яго вон выхадзіць. Выхадзіця, дзянныя, глазныя, вадзяныя, з буйнага храбта, з рэцянога хваста, з рацівых ног, з касастыя грывы, з слушных вушэй, з быстрых вачэй, з пышных наздзёр. Ідзіця вы на гасподскія двары, на гасподскія дамы, там коней многа: коні сівыя, коні пляснівыя, там жа ёсць коні — залатая шарсьцінка і сярэбраная. Будзеця вы там гуляць, вас скорым урэмям будуць высылаць на сіяньскія лугі. На сіяньскіх лугах лаза расцветаець; там цясовыя сталы станавіліcь, на тых на цясовых сталах берчастыя скацерсьці, на тых на скацерсьцях тры кубкі зелянога віна. Вы там будзеця піць і гуляць і тэя кубкі выпіваць; вас аттудава ніхто ня будзець высылаць. Я не сам сабою, Гасподзь са мною, Прачыстая матка на помач ка мне, Міхаіла-архаіла ўсёю сілаю нябеснаю.

## 217. Ад хвароб жывёлы

Выйду я ў чыстае поле, гляну пад жаркае сонца, гляну на кіян-мора. На кіяні-моры ляжыць камень Латыр, пад каменем Латыром стаіць дуб-бартняк; на том дубі дванаццаць сукоў; на дванаццаці суках дванаццаць гняздоў, у тых дванаццаці гняздах дванаццаць вуціц. Дуб-бартняк, вазьмі з естыя скаціны чэмер-чамярыцу, асаблівённую, аддзелённую патніцу з трыдзевяць шарсьцей, з трыдзевяць касьцей, з трыдзевяць суставаў, з трыдзевяць палусуставаў. Не сам сабою, Прачастаю святою.

## 218. Ад хвароб жывёл (пералог, патніца, чэмер...)

Госпаду Богу памалюся і святому Юр'ю-Ягор'ю пакланюся, і святому Хролу і святому Лаўрыю.

І на моры, лукамор'і стаяў дуб на дваненацаць какатоў, на дзевяць каранёў; пад тым дубам святы Хрол, і святы Ягоры, і святы Лаўрый дзяржалі сабе псоў лі ўсякія няпадобія. Святы Хрол, і святы Ягорый, і святы Лаўрый, высылайця сваіх псоў ік етаму каню ўгрызаваць усё непадобнае: рыжы — рыжая (ае), а гнéды — гнедае, а вараны — вараное, а мышасты — мышастае, а серы — серае, а сівы — сівое; а ты, белы, выгрызуй з галавы на грыву, а з грывы на хвост, а з хваста пад сіні капыты, на векі вяком.

## 219. Ад вяхі

Госпадзі, на полі стаіць дуб, на дубі дванаццаць какатоў, на какатах дванаццаць янгалій. Прашу я вас, пціцы-янгалі, павымятаць, павышкрабаць вяху з рыжага вала, з буйныя галавы, з ясных воч, з рыжага мяса, з шырокія косці, з жыл, з пажыл, з кіндзюхоў, з трабухоў, на гразь пабрасаць, кіпцямі папарваць. Як гразь чорна, так штоб і ён счарнеў, і схляў, і счах.

## 220. Ад вяхі

Сашлець Гасподзь з неба трох ангалаў із зялезнымі капачамі, а чорнага ворана з какцямі. Ангалы капачамі вычышчаюць, а чорны воран какцямі вышкрабая; ангалы шаўковымі мятламі вымятаюць і бурай скаціні ад вяхі помачы даваюць.

### 221. Ад хвароб жывёлы

На моры на Сіяні там ляжыць сіні камень, на том сінем камні стаіць чорны воран з борздымі нагамі, з вострымі какцямі — выскрэбаець, выдзіраець дванаццаць чамярэй з естыя скаціны, белыя шарсьціны, на ўсі стораны брасаець, на мхі, на балоты, на гнілэя калоды, на цямнэя лясы, на шчырэя бары, на быстрыя рэкі, на сінія мара, на крутэя берагі, на жаўтэя пяскі, на зелянэя лугі. Не сам я сабою — Прачыстаю святою, Госпадам Богам Ісусам Хрыстом, Іванам Залатавусам. Іван Залатавус, унімай сваіх дванаццаць чамярэй, па ету гадзіну, па ету часіну.

### 222. Ад хвароб жывёлы

На моры, на кіяні стаіць дуб, у етым дубі трыдзевяць каранёў і трыдзевяць какатоў. На тым дубі сядзела пціца Галіца — пер'я залатое, какацця медзяное, сярэбраны нос. Носам выдзюўбала, какаццём выдзірала, ету скаціну-жываціну, такую-та шарсьціну, на др-ню пераганяла.

### 223. Ад хвароб жывёлы

На моры, на кіяне, на востраві на Буяні стаіць стар дуб, на том дубу дванаццаць кокатаў, на тых кокатах воранава гняздо, у том гняздзе цар-воран сядзіць — медная дзюбка, сярэбраныя кокці, залатое крылле. Гэты цар-воран к скаціні, к гнедай шарсьціні прылятая, чэмер, пералогі крыллем выбівая, кокцямі выдзірая, дзюбкай выклявая, з шчырага сэрца, з рацівага жывата, з чорныя печані (і г. д.) выганяя: з галавы ў шыю, з шыі ў спіну, з спіны ў хвост, каб быў мой конь прост ад чэмеры, ад пералогі.

### 224. Ад хвароб жывёлы (пералог, патніца, чэмер...)

Ідзе мора, стаіць лукамор'я; над тым лукамор'ем стаіць дуб; на тым дубе гняздо, а ў тым гняздзе чоран воран — медзяная дзюбка, сярэбраныя кохці, залатое крылля; к каню прылятая, чэмер выбірая, дзюбкай раздзюўбая, кохцямі выдзірая, крыллям разбівая, па полю рассылая, ідзе людзі ня ходзюць, ідзе скаціна ня ходзя. Выхадзі, чэмер, з грывы ў спінку, а з спінкі ў хвост, каб быў конь прост.

### 225. Ад чэмеру

Ідзе мора, сярод мора стаіць востраў, на тым востраві стаіць дуб, на тым дубі сядзіць воран — медзяныя крылля, сярэбраная дзюбка, залатыя кокці. Ён к скаціне прылятая, садзіцца на грыву, чэмер выбірая, з грыўкі ў спінку, з спінкі ў хвосцік, каб быў конік просцік.

### 226. Ад хвароб жывёлы

Памяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротась яго і вялікую памяць яго. Судзяржаў цар Давыд ваду, зямлю і нашы грэшныя душы, судзяржай жа чэмерную балезь у скаціны, рыжай шарсьціны, пользу давай і вопух палягай.

На сінім моры на востраві стаіць дуб без макушкі, без вярхушкі, без сучкоў, без ражкоў. На том дубі сядзіць воран — сам чорны, а нос у яго доўгі, ногі красныя, глазы ясныя. Выскрабай жа ты, чорны воран, чэмерную балезь з скаціны, рыжай шарсьціны, із жыл, з пажылак, з касьцей, з машчэй, з буйныя галавы, з ясных воч, выскрабай і пользу давай, і вопух палягай. А ня будзеш выскрабаць, будзець на цябе Гасподзь Бог гразу насылаць, каменнем пабіваць і градам засякаць.

### 227. Ад хвароб жывёл

На моры, на кіяні, на востраві Буяні стаіць дуб Міллян без макушкі, без голля; на том дубі сядзіць чорны воран, еты дуб разбіваець без кління, без даўбні; еты дуб разбіваець, чэмер і патніцу вынімаець з скаціны, краснай шарсьціны, з грывы, з хваста, з падгрывы.

У чыстым полі на граніцы ляжыць белы камень, на том камні сядзіць тры красныя дзявіцы, яны сідзяць, не гуляюць, а платочкі вышываюць і чэмер з скаціны вынімаюць; чэмер вынімаюць, усе жылы ажыўляюць.

### 228. Ад хвароб жывёлы

Сяннішні дзянёчак, добры часочак — аўторак. Упрашаю я Божжую мацер на помач, Божжую мацер ояўленную — Мугулеўськую, Пачаеўськую, Варкалабаўськую. Упрашаю вас не сам сабою, а Божжыю мацер'ю; а Божжая мацер упрашыець не сама сабою — Спасіцелем; Спасіцель не сам сабою — упра-

шыець святога Яна; святы Ян упрашыець вараноў: прыступіця, памажыця етай скаціні з помаччу.

На моры, на лукамор'і стаіць дуб на дванаццаць какатоў, на тых какатах дванаццаць гняздоў, у тых гняздах дванаццаць вараноў. Вараны, вараны! Прылятайця к етай скаціні з помаччу, выдзірайця і выбівайця сваім крыллем і сваімі какцямі патніцу і чэмярыцу з ясных воч, з чорных броў, з буйныя галавы, з гаручыя крыві, з жывата, з печаня, з жыл, з пражыл, з касьцей, з машчэй, з пакостак і ўзнасіця на сіня мора, і пушчайця па сіняму мору, самі ўсхадзіця на Латыр-камень. На Латыры-камені там ваша гулянне, там ваша ўспіванне, там ваша зьяданне, а етай скаціні на помач.

## 229. Ад крыжаўніка

На сіянь-моры стаіць дуб, на том дубі дванаццаць сукоў, на тых суках па дванаццаць кокатаў, на тых кокатах па дванаццаць варановых гняздоў — кокці жалезныя, а дзюбы сярэбраныя. Вараны, злятайця, боль жалезнымі какцямі выдзірайця, голавы сцінайця, сярэбранымі дзюбамі боль із скаціны вынімайця, амін.

## 230. Ад хвароб жывёл

На полі на Кіяні, на моры на Сіяні ляжыць камень Латыр, на камені на Латыры стаіць нарыца, у той нарыцы стаіць патніца. На тую нарыцу, на тую патніцу налетаець чорны воран; ён патніцу сам раздзюўбаець, кокцямі раздзіраець, крыллям, пер'ям па чыстаму полю разношаець. Потнік! Потнік! Лезь вон! Лезь вон па добрай волі! А то стану прасіць Міхаілу-арханія, ён вас накажэць, накараець, на заход сонца пазганяець. Выгаварыю ж цябе, раба божага скаціны, рыжай шарсьціны, пры ясных зарах, пры красном сонцы, пры вутры, пры вечары.

## 231. Ад вяхі

На сінім моры, на зялёнам стаіць дуб на дванаццаць какатаў, у тых кокатах гняздо, у тым гняздзе сядзіць чоран воран без касьцей, без мажджэй, без жыл, без пáжыл, без усякіх жыватоў — вяху з каровы дзюбкай выдáўбуя, кіпцем вышкрабуя, а крыллем вымятуя.

### 232. Ад хвароб жывёл

На моры, на лукамор'і стаіць дуб без караня і без каката, і без галавы; на том дубі сядзіць сокал без крыла, без носа, і ўсьпеваець, на ўвесь свет голас пускаець, і чальчак вынімаець. Ух, лёгкі дух!

### 233. Ад розных хвароб

На моры, на кіяні стаіць дуб, на том дубі сядзіць чоран воран. Я ж таго чорнага ворана бяз ружжа ўб'ю, бяз нахцей абскубу, бяз агня абсмалю і бяз зуб зьем.

### 234. Ад хвароб жывёлы

Цар Давыд скрапіў неба і зямлю, зоры, ясны месяц — скрапі, Госпадзі, маю просьбу.

На моры, на палуморы, на каморы, на выспі стаіць дуб, на тым дубі гняздо, у том гняздзе сядзіць ястраб — глазы ясныя, какаты вострыя, сам рабы, хвост даўгі. Вынімай сваю дурась з лошадзі, з касьцей, машчэй, з усіх сустаў. Будзець цябе сьвяты Ягоры сеч і рубаць, кап'ём прабіваць, тваю кроў разліваць, калі ня будзеш свайго дуру вынімаць з ясных глаз, гаручыя крыві.

### 235. Ад воб'едзі

На моры, на малакаморы стаіць купарэз-дрэва. На купарэзе сядзіць жар-пціца з жалезнай дзюбкай, з жалезным крыллем, з жалезнымі кокцямі. Кокцямі разграбае, крыллямі размятае, паганую воб'едзь ад рабой каровы жалезнай дзюбкай выбірае. Ху!

### 236. Ад хвароб жывёлы

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай пакланюся, кіяўскім, пячэрскім, Антонію, Хвядосію, Саку, Якаву і святому Пятру-Паўлу. Святы верхавы апостал, вазьмі ты златы ключы, замкні ўрагу-супастату зубы, губы, лютае сэрца.

На сінім моры, на лукамор'і стаіць дуб, на том дубі звіў арол кубло бяздоннае, і знёс яечка бязжоўтнае, і вывеў дзяцёнка бязвочнага і бязногага і бяскрылага. Як таму дзяцёнку пó сьвяту ня лятаці, свайго роду ня відаці да па зямле ня хадзіці, так у ета-

га каня сівага паралогам ня бываці, белых касцей ня ламаці; на маха́ да на балата́, на ніцы лаза́ паралогам іці, а белыя касці ня ламаці. Цур яго і памі́луй.

## 237. Ад хвароб жывёлы

На сінім моры стаіць дуб на дваццаць восем сукоў, на тым дубі сядзіць арол на дваццаць восем вачэй, на дваццаць восем вушэй — далёка відаець, далёка слыхаець і раб божы ад патніцы і ад чамярыцы помачы даваець — ад стрэшныя, падзіўныя, прыгаворныя, мужчыньскія, жаноцкія, дзявоцкія, хлапецкія, удоў і ўдавіных дзяцей, і з крыку і з глазу. Ня мы ж прыступаем — мацъ Прачыстую прызываем і Яна Храсьціцеля Ісуса Хрыста і Пётру-Паўлу.

## 238. Ад хвароб жывёлы

На войстраві на Каяні бел камень ляжыць, на том камяні кедрава дрэва стаіць. Сокал прылятая — гняздо зьвівая, арол прылятая — гняздо збрасая. Як на гэтым дрэві гнязду ня быці, на кедравым, так жа ў гэтыя лошадзі, у рыжыя, селязьню ня быці. Ранняю зару і вячэрняю зару словам божым Бога ўмаляю і селязню ўмаўляю. Прыстань, Бог, на помач! (хукнеш тры разы і солі сыпнеш у ноздры, яна чыхнець). Скачы на гару шажко́м, пад гару трушком.

## 239. Ад хвароб жывёлы

Першым разам, добрым часам. На сінім моры, на чыстым полі стаяў дуб без карэння, без карчэўя, без макушкі і без галля. І на етам дубі сядзеў арол без галавы, без какцей, без пер'я, без крылля. Як етаму арлу па свету не лятаць, разных пташак не пабіваць, так у етай скаціны, чорнай шарсьціны, чэмеры, патніцы, еляніцы і пералогу не бываць. Як чэраз сіняе мора, чэраз чыстае поле ішоў, плыў воўк,— з рота полымя, з наздзёр іскры, вачамі мігаў і вусамі ківаў, і зубамі сціна́ў,— із естыя скаціны, чорнай шарсьціны, разныя чэмеры, патніцы, еляніцы і пералогу ад'ядаў. Як чэраз сіняе мора, чэраз чыстае поле ішоў Гасподзь і Маць Прачыстая.

— О, Госпадзі і маць Прачыстая, прашу я вас вярнуцца!

— Мы ня вернемся!

— О, Госпадзі, агляніцеся!

— Мы не глянемся — пойдзем у чыстае поле і ў зялёныя лугі разных траў шукаць, із естай скаціны, чорнай шарсьціны, разныя чэмеры, патніцы, еляніцы і пералогу адганяць.

### 240. Ад чэмеры

Пад каранём караністым,
Пад лістом шыракістым
Сядзіць вапер,
Рылам пашыць,
Зубамі рвець.
Што ета он дзелаіць?
Ета он дзелаіць:
Іскаіць таго караня,
Што выганяіць
Ад асудных прычынных
Двінаццаць чэмярэй
З буйнай галавы,
З чуткіх вушэй,
З наздзёр і з жыл,
Із пажылак, із сірадзіны,
Із нутра, із жывата
І су ўсяго сэрца,
З ног, са капытоў,
Рыжая, буланая (match колеру).
Амінь.

### 241. Ад жабы

Ёсь на моры-акіяні выспа, на той выспі ляжыць залатэй пранік, пад тым пранікам ляжыць залатое гняздо, у тым залатом гняздзе ляжыць жаба. Жабіца-царыца, унімай сваіх жаб-жабянят і дзет-дзецянят, маладзіковых, ветаховых, днёвых, паўднёвых, мінутных, часінных. Не ўпрашу я цябе, упрашу святога Міхаіла-архангала. Святы Міхаіл-архангал будзець вас усіх сабіраць, Кузьме-Дзям'яну ў кузьню перадаваць. Кузьма-Дзям'ян будзець сваё жажло распякаць і вам зубы-губы выпякаць.

### 242. Ад жабы

На моры, на кіяні востраў, на том востраві стаіць ябланя, на той яблані вісіць кашэль, у том кашалі ляжыць чорнае руна, у том чорнам руні ляжыць жабіца Шкурапея. Жабіца ты Шку-

рапея, вынімай ты свае жалы балючыя і зубы кусучыя з такогата раба чалавека, з буйныя галавы...

### 243. Ад жабы

Янгалі-сахраніцелі, ка мне на помач.

Жаба-жабішча, родная сястрыца, вас дванаццаць сясцёр: Лісавета, Кацярына, Грыпіна, Мар'я, Мархва, Прося, Юстына, Зяноўя, Хадора, Алена, Праскоўя, Аўгіння. Гавару і выгаварую вас, здымаю духамы, лёгкамы вятрамы. Дай Божа на помач.

### 244. Ад хвароб жывёл

Упрашаю Госпада Бога, умаляю аб скацінцы двушэрстнай. Прасіць буду святога Іоргія, Храла і Лаўрыя, коньскага празьніка. Святы Іоргі будзець ехаць на сівом кані, на залатом сéдлі, з залатою кап'ёю — станьця етай скацінцы двушэрстнай лі помачы, лі пользы, памілуйця ад патнішных, чамярышных, ад жывотных балезней.

На моры Буяні там ёсь кургон шырокі, вісокі; на том кургоні дуб бур'ян, пад ім карэнне залатое; у том карэнні сідзяць купцы-таргоўцы. Польна вам, купцы, таргоўцы, шкуры развешаць, а пара ўжо патнішныя і чамярышныя і нутраныя балезні высылаць із скацінкі двушэрстнай.

### 245. Ад хвароб жывёлы

Упрашую, умáлюю дванаццаць цароў, дванаццаць каралёў, дванаццаць манархаў і высылаю выпадка і пачачуя на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, дзе куры не ўспяваюць і пташкі не лятаюць. Там цябе будуць паважаць і будуць пачытаць, і добрыя мысьлі маць; а тут ня будуць ні пачытаць, ні паважаць, ні добрыя мысьлі маць — тут табе ня быць і ня жыць. Як етаму суку ня 'джываць, так у етага каня выпадку і пачачую ня бываць.

### 246. Ад хвароб жывёлы

Ішло дванаццаць царыкаў на Туру-гару і гаварылі пра Фоньскую (вар.: коньскую) галаву — каторы большы брат, старшы? Старшы, большы брат Ільва ліхую боль патніцу, чэмер вынімаў і патніцу-чамярыцу на белы свет выпушчаў, і рабу божаму скацінцы па духу па Господнем помачы даваў.

## 247. Ад чэмеры

На́ мары, на́ мары, на ікані стаіць ракітавы куст, на тым кусці ляжыць гал-камінь, на тым камні сідзяць дванаццаць маладцоў, дванаццаць багатыроў, дзіржаць дванаццаць малатоў, б'юць как дзень, как ноч, выбіваюць чэмір з рыжай шэрсці, із буйнай галавы, із яркіх вачэй, із жыл, із пажыл, із лёхкага вздыханія...

І просім цябе, Прасвятую Багародзіцу...

— О Госпадзі, закрый і памілуй ад усякага ўпадку! Міхаіла-архаіла су ўсею нябеснаю сілаю... Пумагі!

## 248. Ад хвароб жывёлы

На моры, на кіяні ляжыць бел камень Латыр, на тым белым камні Латыры стаіць залатая кузьня. У той кузьні Кузьма-Дзям'ян, Купалны Іван. Меець жа сабе Кузьма-Дзям'ян, Купалны Іван дванаццаць малайцоў, дванаццаць малатоў. Кузьма-Дзям'ян, Купалны Іван! Бейця, пабівайця ліхую чэмер, выбівайця з раба божага Грышкі гнядога каня, выбівайця з буйныя го́лавы, з ясных глаз, з чорных броў, з рацівага сэрца, з жылля, з пажылля, з пячэння, з лягення, з касьцей, з па́касьцей, із-за капытоў. Хух, Гасподні на іх дух!

## 249. Ад хвароб жывёлы

Госпадзі Божа, багаславі, памажы; не сам сабою — Госпадам Богам і Духам Святым.

Ой, патніца, чамярыца, трэцяя духаўніца, чацвёртая залажніца (залоза-жаляза),— не гуляйця вы, не буяйця ў етай скаціні, етай шарсьціні. Патуль ты гуляла ў етай скаціні, патуль ты буяла, пакуль я ўзнаў; а цяпер табе не гуляць, не буяць. І высылаю ж я цябе і выганяю з естай скаціны, з естай шарсьціны на мхі, на балоты, на гнілыя калоды — там вам гуляць і буяць, а на ету скаціну, ету шарсьціну пара забываць. У чыстым полі ходзіць табун коней, а ў том табуне сіўцы, бурцы, касатыя і мышатыя, сівыя, гнядэя; вот там на каторага ўсядзеця, на тым і паедзеця... Вот там вам і гуляць і буяць.

## 250. Ад хвароб жывёл

Первым разам, божжым часам, Госпаду Богу памолімся, Госпада папросім.

Ішоў Гасподзь з нябёс, выламіў лазінку, святую вярбінку на рыжую скацінку. Скалатніцеся, страпяніцеся (ударыць па жывату)! Умаўляю і выгавараваю пот і паралогі з сарака жыл, з сарака па́жыл: вам тут, поты і паралогі, ня стаяці, буйныя галавы ня ламіці, шчырага сэрца ня ташніці. Ідзіця вы, поты і паралогі, на мха, на балота, на ніцыя лозы, на крутыя горы, на жоўтае карэння, на белае камення, ідзе людзі ня ходзяць, ідзе сабакі ня брэшуць, дзе пеўні не пяюць.

## 251. Сухая кроў худобы

Ляцеў змей чэраз сухі дуб. Крычыць, верашчыць:

— У каго дзеці цыцкі хочуць ссаць?

Пакіньце, змею, ссаці да хадзеце з мае каровы чорнае крове сасаці — з яе губоў, з яе зубоў, з вачэй, з плячэй, з вушэй, з сэрца, з лёккага, з пячонкі, з крові. Пайшла та кроў у рогі, а з рог да ў ногі, да ўпала і прапала.

## 252. Ад хвароб жывёлы

Угаварую вончак скаціні, белай шарсціні, сем семярэй. Ішлі перал́огі па шырокай дарогі да каню ў ногі, а з ног у морду, а з морды ў ноздры, а з наздзёр у вочы, а з вачэй да ў вушы, а з вушэй у галаву, у мазкі, і ў жылы, і ў суставы, і ў кроў, а з крыві да ў косьці, а з касьцей да ў скуру, а з скуры да ў грыву, а з грывы да ў хвост, а з хваста далоў.

## 253. Ад пералогу, патніцы

Было ў цара лева дванаццаць жон; было ў етага каня варанога дванаццаць пералог, трынаццатая патніца: а з дванаццаці на ’дзінаццаць, з адзінаццаці на дзесяць, з дзесяцёх на дзевяць, з дзевяцёх на восем, з васьмёх на сем, з сямёх на шэсць, з шасцёх на пяць, з пяцёх на чатыры, з чатырох на тры, з трох на два, з двох на ’дну, з аднаго на нягодную. Як жа еты жоны раз’язджаюцца, так чэмер, патніцы рассыхаюцца ў вараном кані і ў касцях, і ў машчах, і ў чорнай шарсці.

## 254. Ад пералогаў

Быў сабе Самсон, меў сабе сем жон; вот ён з імі не качаўся, не валяўся, харашо абхадзіўся. Так і вы, пералогі, етыя скаціны, гнедыя шарсціны, не качайця, не валяйця і вахадзьця з буйныя галавы, з шырокія касці, з правяднага сэрца, з яркіх вачэй.

## 255. Ад чарвей

На моры, на лукамор'і ляжыць белы камень, а на том камяні чоран воран.

— Чоран воран, ці многа ў цябе чарвей?

— Дзевяць, а з дзевяці восем, а з васьмі сем, а з сямі шэсць, а з шасці пяць, а з пяці чатыры, а з чатырох тры, а з трох два, а з двух адзін, а з аднаго ніґоднага.

## 256. Ад чарвей

Адна баба — адзін дзед, дзве бабы — два дзяды, тры бабы — тры дзяды, чатыры бабы — чатыры дзяды, пяць баб — пяць дзядоў, шэсь баб — шэсь дзядоў, сем баб — сем дзядоў, восем баб — восем дзядоў, дзевяць баб — дзевяць дзядоў, дзесяць баб — дзесяць дзядоў. Дзевяць баб — дзевяць і дзядоў, восем баб — восем і дзядоў, сем баб — сем і дзядоў, шэсь баб— шэсь і дзядоў, пяць баб — пяць і дзядоў, чатыры бабы — чатыры і дзяды, тры бабы — тры і дзяды, дзве бабы — два і дзяды, адна баба — адзін і дзед. Нету бабы, нету дзеда, нету раны, нету і чарвей.

## 257. Ад чарвей

Ажаніўся чарвяк з дзевяццю жонкамі. Із дзявяці стала восім, із васьмі — сем, із сямі — шэсьць, із шасьці — пяць, із пяці — чатыры, із чатырох — тры, із трох — дзве, із двох — адна, із óднаю — ніводнага. Адсыпцеся, чэрві, да воднага!

## 258. Ад аўёху

Ідзе Навум дарогаю да сустракае Сома.

— Куды ідзеш, Сом?

— На сіне мора чарэт ламаці, бераг таптаці, свае каровы чырвонай касці аўёх шаптаці.

Праз рот улез, круз с... вылез.

## 259. Ад уздуцця

— Добры дзень, акула!

— Добры дзень, Адула!

— Куда ідзеш, акула?

— Ямкі капаць.

— Нашто ямкі?

— Адулу хаваць, хаваць, каб не ад'ятрывалася.

## 260. Ад хвароб жывёлы

На трыдзесятам царстві, на трыдзесятай зямлі там кабыла сівая, рыжагрывая, галава вялікая, ноздры шырокія. Яна сарпала і на ўвесь свет пералогі давала. Польна табе сарпаць, пералогі даваць, пара табе да сябе прынімаць. На етай кабылі ехала маць Прачыстая, і прыехала яна к ростаня́м, к старадарожжу; там жа стаіць дубовы пень, у том пні сядзіць сівы чорт. Маць Прачыстая, выганяй ты пералогі з естай скаціны, жываціны, з такой-та шарсьціны, з буйныя галавы, жоўтага мозгу, з рацівага сэрца, з трыдзевяці касьцей, з трыдзевяці пакостак, з трыдзевяці жыл, з трыдзевяці па́жылак, з гаручыя крыві, з цёплага мяса, з белага жывата. Ніцыя лозы, выганяйця вы з правага боку вярбінкаю, з левага боку лазінкаю, а пералогі чорту на рогі, ступай па дарогі. Амін.

## 261. Ад урокаў

Ішла Прачыстая маць кароўцы ўрокі выгавараць — падуманыя, пагаданыя, людскія, саседкіны, хазяйкіны, мужчынскія, бабскія, дзявоцкія. Мужчынскія ў шапку, бабскія ў чапец, дзявоцкія ў коску, жаўне ў глотку. Царскія вароты, атварыцеся, чорнай масці кароўцы ўрокі мініцеся. Царскія вароты атвараліся, чорнай масці кароўцы ўрокі міналіся ад злога чалавека, ад злога духу, ад буйнага ветру, жоўтай касці; гарачай крыві не гарэць, не балець ніколі ў свеце. Амін.

## 262. Ад хвароб жывёлы

Госпаду Богу памалюся, мацеры Прачыстай пакланюся. Першым разам, добрым часам, вячэрняю зарою, добрай парою. Ішоў сам Гасподзь Бог шырокай дарогай з Ісусам Хрыстом, з мацер'ю Божай. Сустракалі яны трох ангелкоў, пыталіся ў іх:

— Што за людзі?

— Мы не людзі, мы ўсе тры прочыя: адна — чараўніца, другая — распятніца, а трэці — піералог.

— Дык ляціце ж вы на нябёсы, прынясіце мне семдзесят асінавых дубцоў, дайце мне ў белыя рукі, каб сагнаці мне з гэтай кароўкі мукі: з крутых рог, з бягучых ног, з вісучага хваста, з сапучых наздрэй, з чуюшчых вушэй, з белага вымя. Тут табе не стаяць, касці не ламаць, цела не пушыць, сініх жыл не сушыць, рацівага сэрца не ташніць.

Соль вам усім у вочы, жэрдка ў бок, штоб не стала маёй кароўцы на ўрок. Я з духам, словам, Бог з помаччу.

### 263. «Як карова малако згубіць»

Выгаварваю з гэтай скаціны, чорна-рабой (можа быць рыжай, палавой, бурай і інш.) паўсціны, урокі і прыгаворы. Хадзіла гэтая скаціна, чорна-рабая паўсціна, па крутых гарах, па буйных вятрах, прыключыліс бальшыя заторы і ня стала малака, ці ад спадобных людзей, ці ад спасобных вачэй. Я, Праскоўя, і плачу, і рыдаю, на помач мацер Божую прызываю. Мацер Божая пытае:

— Чаго ты, Праскоўя, плачаш і рыдаеш, на помач мацер Божую прызываеш?

— Маць мая любая, маць мая мілая, як жа мне не плакаць, не рыдаць, на помач цябе не прызываць? Што хадзіла гэтая скаціна па крутых гарах, па буйных вятрах, прыключыліс бальшыя заторы і не стала малака.

Мацер Божая кажа:

— Праскоўя, не плач, не рыдай, будуць у святы храм гасподні святыя Варвара-велікамучаніца, святы Панцялей, святая Магдаліна-Марыя, будуць несці залатыя тры ключы, храм гасподзен адкрываецца, рэкі пераходзяць. Так у гэтай скаціны, чорна-рабой паўсціны, праткнецца раса божжа, Гасподзь з помаччу, а я з лёгкім духам.

### 264. На прыбаўленне малака карове

Вада-вадзіца, царыца Улляніца-румяніца! Прыбаўляесся ты із гор, із вод, із вялікіх ключоў, прыбаў ты, Госпадзі і матар Божая, святая царыца Бугуродзіца, етай скаціні малачка. І зорызарыцы, ёсць трыдзевяць сястрыцы, між вамі ёсць большая сястрыца Ева. Святая Ева, святы Восіп, пашліця вы сваіх слуг шукаці етыя скаціны малачка. А дзе ж яго шукаці: ці ў гляках, ці ў паграбах, ці ў дубовых шулах? Святая Бугуродзіца, стань на помач!

### 265. На прыбаўленне малака

Первым разам, добрым часам, прашу Госпада Бога і Духа Святога.

На моры, на акіяне, на востраве на Буяне стаіць камень. На тым камні мацер Божая стаяла, свае ножанькі абмывала, рабе божай (калі жанчына, або краснай карове) грудзі (вымя) абмывала і піць давала, каб малака сколькі было, столькі зноў давала.

Любі мой лёгкі дух. Ху!

### 266. Ад хвароб

Шоў Буг піраз луг адганяці паралуг, з залатою трусцінаю, шаўковаю хусцінаю; трусціною трахне, хусціною махне — паралугі адпадуць, і ўрошныя, і стрэшныя, падуманныя, пагаданныя, падарожныя, вадзяныя, земляныя.

### 267. Ад розных хвароб

Ішла Прэсвятая маць дзева Бугуродзіца па залатом масту, у залатых рукавічках, у залатых чаравічках, і залатым пасарком (пасашком) папіралася; і стрэла яна трох вахмістаў. Тыя вахмісты размахнулісь — калёсы раскацілісь. Так чэмер і патніцы, разыйдзіцесь із ног да ў грыву, а з грывы да ў хвост, штоб вараны конік быў прост. І яму простаму бываць, а мне, рабу божаму, адмаўляць, і Госпада Бога прызываць, і на помач вараному каню даваць. Стань, Госпадзі, на помач, Прачыстая матка, на радасць.

### 268. Ад розных хвароб

Ёсь у свеці Усіяньская гара; на тэй Усіяньскай гары ляжыць дарожка, па тэй дарожцы бяжыць конь (па масці хворага) і сустракаець святога Юр'ю.

— О Госпадзі, святы Юрыя! Заберажы і засцеражы мяне ад чараніцы, ад патніцы і ад жыватніцы!

Святы Юр'я адпраўляець:

— Бяжы, конік, дарогаю, і сустрэнеш святога Міколушку — тэй цябе засцеражэць і заберажэць ад патніцы, ад чараніцы і ад жыватніцы!

Сустракаець святога Міколушку. Святы Міколушка адпраўляець:

— Бяжы, конік, дарогаю, дарогаю шырокаю, сустрэнеш святога Міхайлу — тэй цябе засцеражэць і заберажэць ад патніцы, ад жыватніцы і ад чараніцы і зялезным мечам рассячэць.

І давай Бог помачы. Святы Ціхан, прападобны, уцішы гэту боль.

### 269. Каб не брыкалася карова

Шаўковымі ніткамі вязала, жалезныя кандалы накладала, каб ты, кароўка, стаяла, рожкамі не махала і ножкамі не брыкала. Як на калках віць-віта, каб ты стаяла, як урыта.

### 270. Каб не брыкалася карова

У полі кол, а ты, кароўка, стой, як рыта-віта стой. Табе, кароўка, стаяць, ножкаю не трапаць, рагамі не махаць, мне малачко даваць і цяля гадаваць.

### 271. Як згубіцца карова

Занімаю пушчу на сем міль, зачыняю зеву духу злому мятровымі ключамі, залатымі замкамі, а ты (назваць карову) хоць іціме дзвесьце, стой на месце.

### 272. Ад рознага

Святая Ілля і Пятра, каб рабай кароўцы была чыстата. Святыя Грамніцы, убіце злога чалавека ў зямліцы, змея лятучага, гада паўзучага, каб ра́ба (чорна і г. д.) карова была здарова, каб давала малака памногу, каб ціха стаяла, а малако было жырнае.

### 273. Ад розных хвароб

Першым разком, лепшым часком, Госпада Бога прашу, чыстага поля, сіняга мора. На сінім моры стаяў капец, а ў тым капцы ляжаў мярцвец. Як таму мерцвяцу не ўстаць, так з Рабкі малачка і жырнасці не ўзяць.

### 274. «Ад уроцы»

Святая нядзелька, памажы, Божачка, ад уроцы.

Адзін уракаець, а ўтрох адракаюць, сам Бог, Сын, Дух Святы, Ісус Хрыстос, тры асобы святых. Усе святыя святочкі, гасподнія дзянёчкі, станьце на помач краснай кароўцы. Я ж нічога не знаю, толькі Госпада Бога, Духа Святога, Ісуса Хрыста. Як мерцвякам не ўставаць, так карове ні балезні, ні ўроцаў не знаць. Ідзіце, кароўкіны ўроцы, на мхі, на балоты, на ніцыя лозы каменне гладаць і ваду хлібаць, каб у кароўкі ўроцам не бываць ні ў маладзіку, ні ў віташку, ні ў круглым гадку. Уроцы, уроцы, гарыце на агні. Амін.

### 275. Ад чэмеру

Мор-марыца, чэмер-чамярыца, красная дзявіца. Заклінаю цябе господнім словам: як чыст бел камень на вадзе, каб так стала чыста ў скаціны на жываце. Як мяртвец ўміраець і ня 'тжываецца, каб так і ты ў лошадзі ня 'тжывілась, амін.

### 276. Ад чэмеру

На моры, на лукамор'і ляжыць камень, на том камяні сядзіць дзявіца. Яна шыя, чорным шоўкам вышывая. У тыя дзявіцы чорнага шоўку ня стала, так у рыжыя скаціны чэмеру ня стала.

### 277. Ад урокаў

Плыла мядзведзіца з медзведзянятамі чэраз сіняе мора. Як яе халодныя воды не панімаюць, так на Жанку (карова) урокі не нападаюць — ні дзявоцкія, ні жаноцкія, ні парабоцкія, ні хлапоцкія, ні панскія, ні цыганскія. Амін.

### 278. Ад пералогу

Сядзіць Бог на куце, а чорт пад кутом. Ізняў з чорта рожкі, праганяў пераложкі.

### 279. Ад хвароб жывёл

Цераз мост, цераз коньскую кось пайшлі пералогі ў зямлю. Сядзеў пан на куце, паня на парозі, шылі пану чабаты, пані чаравікі, вынімалі пералогі з коньскія касьці ў сырую зямлю. Святыя святочкі, гадавыя празьнічкі, хадзіця ка мне на помач.

Я з славамы, Бог з думамы — як стала, так перастала.

### 280. Ад хвароб жывёл

Первым разам, господнім часам. Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матары пакланюся, усім святым пячэрськім, і святому Русаліму і сцянам яго.

На моры камень, на камяні дуб, на дубу галуды. А галуды з дуба далоў, а патніцы і паралогі, із каня ідзіця вон. Тут вам ня гуляць, буйных касцей ня ламаць. Ідзіця на маха, на балата, на ніцыя лозы.

## 281. Ад хвароб жывёл

Памяні, Госпадзі, цара Давыда, цара Касьцянціна, усю кротась яго, ласку святую, атца — мацер яго.

Высылаю цябе, чэмер, з жывата з пупа, з жоўтых касьцей, з разных шарсьцей. Ехаў Сус Хрыстос цераз мост, бабка чхнула, Хрыста здрыгнула.

— Ахці, бабка, чорная галка: я цябе з свету збаўляю!

— Не збаўляй мяне, Госпадзі. Я духавіцу выганяю і скаціну направляю! Хух, прылюбі мой дух!

## 282. Ад уздуцця

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся. Прыйдзець да паможэць здуцье шаптаці.

Ехаў Гец на белам кане, на залатом сядле, вёз ключэ на правам плячэ. Пайшоў цэркаўку адмукаці, у каровы здуцье адганяці. Амінь!

Другім разочкам, лепшым часочкам...

## 283. Ад чарвей

Бульняк-бульнячына, белая на табе цвяціна, загну цябе, заламлю цябе, пакуля ў маёй скаціны, чорнай шарсціны, чэрві павысыпаюцца; а тагды разагну цябе, адламлю цябе.

## 284. Ад чарвей

На двор чарвей,
На гарод чарцей.

## 285. Ад чарвей

Седла грымяць, вузды брынчаць, у парожні мех ехаці па хмель, па лёгкі тавар чарвям!

Ляціця зá мара: там у чарвей свадзьба, іўца ялывіца — пішчы́на; о здзеся чарвям агонь, сера гаручая, смала кіпучая — бягіця, чэрві, атселя зá мара!

## 286. Ад урокаў каровы

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай мацеры пакланюся. Божа маці на прэстолі стаяла, на сябе залатыя рызі накладала, усёму свету помач давала.

Бегла ваўчышчэ чэраз (імя) дварышчэ, выставіла дурнішчэ. Усе людзі зяхнуліся, і ўрокі мінуліся.

### 287. Замова карове

Прачыстая мая маці, хадзі маю карову чорна-рабую даглядаці, жалезнымі тынамі абгараджваць, меднымі замкамі замкаці.

Святая Пакрова — мамка Хрыстова, закрой сваёй залатой рызай ад усякіх рачэй, вачэй, закрый, заступісь. Не я знаю, Гасподзь знае і мне памагае.

### 288. Ад вяхі

Вяха вехавая, ты не векавая, а ты расавая. Раса спала — вяха прапала.

### 289. Ад хваробы каня

Конь мой вараной, у цябе склад залатой. Па-малецку ступай, да далека сцябай, да гары да крутой, а з гары ў пералог. У пералозе былінка, на той былінцы верабейка. Верабейка страпянецца, коньскі рух мінецца.

### 290. Ад хваробы свіней

На моры-а́мары, на сінім камені стаяў дуб, на том дубу дванаццаць какатоў, на тых какатах стаяў дом, а ў том доме сам Гасподзь жыў і Прачыстая. Гасподзь нёс рыбу, а Прачыстая крэст, сустрэлі мужчыну, сталі пытаць:

— Што ў вас чуваць?

— Хочуць свінні здыхаць.

— Наце ячменю, наварыце крупеню, дайце пад'есці, і не будзе ўпадку.

### 291. Ад хваробы свіней

Ішоў Ісус праз Ерасалім і сустрэўся з Яўхімам і пытаецца, што за навіна.

— Хварэюць на золзы свіння.

— Вазьмі тры горсці ячменю на імя мае, будуць здаровы свіння твае.

## 292. Ад гадзюкі

Госпадзі Божа, благаславі, Прачыстая матка святая, памажы; не сам сабою, Прачыстаю святою. Первым разам, добрым часам.

У чыстам полі стаіць яблань какацістая і кудравістая. На той яблані змяінае гняздо; у том гняздзе ляжыць змяя Шкурапея. Ты, змяя Шкурапея, ляжы, да не праляжа́й, да сваіх слуг з усяго свету сабірай: падмежных, падсценных, палявых, лесавых, вадзяных, падкарчовых, падкалодных, балотных, усякіх; і спрасі ты, каторая па́ра божую скаціну (ці чалавека) укусіла. А ня будзеш ты слухаць і будзеш ты праляжаць — будуць цябе на гаручы камень ускладаць і залатою меччу рубаць; будуць цябе жаркім сонцам выпякаць, і будуць цябе сільным буйным ветрам выдумаць, і будуць з етай скаціны жала, яд вынімаць і етай скаціні помачы даваць. Хух, святэй дух.

## 293. Ад гадзюкі

На моры, на лукамор'і, на шырокім раздоллі ляжыць Латыркамень, на том Латры-камені стаіць ліпавы (вар.: альховы) куст, у том ліпавым кусьці чорнае руно, у чорным руні ляжыць зьмяя-багатырка. Зьмяя-багатырка, вынімай сваю ярасць з раба божага, з буйныя галавы, [із ясных вачэй, із чорных бравей, із гаручыя крыві, із чорнага пячэння, із жыл, із пажылак, із касцей, із пакастак]. А ня будзеш вынімаць — буду цябе праклінаць божымі звяздамі, божымі балакамі, божым громам, яркім сонцам. Мой раб божы, не ўлякайсь: Бог з табою.

## 294. Ад змяі

Гадзя, гадзя, гадзя! Унімі свой ядзе, а не ўнімеш свайго яду — буду гадзю заклінаць ясным сонцам, дробнымі звяздамі і ўсім мірам праваслаўным, Міхаілам Архістрацігам, чудным Іярэмаю, утрэнняю і вячэрняю зарою.

## 295. Ад гадзюкі

Просім цябе, сонца краснае, месячко ясны, святых вясёлых звёзд, і святога Івана Ксціцеля, каторы ксціў Ісуса Хрыста, і зямлю і ваду, і ўсіх нас грэшных,—просім вас і кланяемся вам.

Ёсь на моры камень, сіні і белы, і на камяні цар Ёсіп, царыца Мар'я, памошніца Ганна іх. Яны дванаццаць дачок маюць, па

ўсяму свету бываюць, усякія трóвы і цвяты і зелля-карэння знаюць, рады-помачы даюць ад гадыні лясовыя, ад гадыні палявыя, ад гадыні межавыя, ад гадыні балотныя, ад гадыні калодныя, ад гадыні гнаявыя... Просім вас і кланяемся: дайця ж рады й помачы рабу божаму (ці скаціні, рыжай шарсьціні).

## 296. Ад гадзюкі, вужакі

На Ягіпецкам полі стаіць тры ябланы, на тых ябланах трыдзевяць каранёў, трыдзевяць какатоў, трыдзевяць вярхоў; на тых трыдзевяці каранях, на трыдзевяці какатах і трыдзевяці вярхах там зьмяінае гняздо; у том зьмяіным гняздзе зьмяя старшáя, бальшáя Галёна-Алёна. Што ты ляжыш, праляжаеш, свой гад па беламу свету распушчаеш? Устань, не ляжы, свой гад па беламу свету ўнімі, падстрэшных і [падпешных, і чаротных, і балотных, падколных, намоўных, нагаворных і падмежных, земляных і вадзяных]. А ня ўнімаеш ты сваіх гадаў, ня вынімаеш ад раба божага ядлу, вопуху па зашкур'ю ня выдымаеш, дак пайду я да Госпада Бога. Сашлець Гасподзь Бог Міхаіла-архація, і ўзойдзець ён на Сіяньскую гару, затрубіць ён у залатую трубу — будзеця вы сабірацца, вужы і зьмеі-яшчары, будзеця вы станавіцца на праведнам суду; а не станеця на праведнам суду — будзеця бяз ветру выдыхаць, бяз сонца высыхаць, корчыцца. Рачэ Міхаіл-архація рэчы: «Вы вужы, зьмеі, вынімайця вы свой гад-ядла, вопух па зашкур'ю выдымайця; а ня будзеця свайго гаду-ядлу вынімаць, вопуху па зашкур'ю выдымаць — паганю я вас за Сіяньскія горы, за паганыя моры, буду вас біць-пабіваць, зялезным пруццем пасякаць! Выдымаю я не сам сабою — Госпадам Богам, Сусам Хрыстом, Міхайлаю-арханіем, страсцкім вялікім суддзёю праведным, амін.

## 297. Ад гадзюкі

Святы Георгі (Юры?) храбры распушчан па ўсей зямлі на зверы, на змеі, на гады лютыя. Гадзіна вадзяная, земляная, сляпні і вужы, змеі і вужакі, ярыца, пераярыца! Аддайце і вазьміце сваю жаласць і ярасць у рыжай каровы (калі скаціна ўкушана, то гаварыць з яе прыкметай, калі чалавек — у раба божыя такога-та). Еслі не аддадзіце сваёй жаласьці і ярасьці, то не будзець вам сбудзішча ні пад кустом, ні пад лістом, ні пад карнямі. Сонца і яркі месяц не будуць вам свяціць і не будзець прынімаць вас сыра мяць-зямля.

## 298. Ад змяі

Аўгіння і Марыля, садзяржайце сваю сям'ю. Еслі не будзеце садзяржаць, я вас выведу на каменную гару, ілі сонцам выпеку, ілі дажджом вымыю — змяю вадзяную, змяю межавую, змяю баравую, змяю рудую, змяю шэрую, змяю чорную, змяю верацяную, змяю рудую, а дванаццаты гад, як ты ёсць гад, вынімай із цела свой яд.

## 299. Ад гадзюкі, вужакі

На моры, на лукамор'і, там ё зялёны лужок, а на том лужку стаіць бальшы гурган; у том гургані ляжыць вужа Ева. Ты вужа Ева, сабірай сваіх вужоў, усіх добрых мужоў, і вінных, і нявінных, і вынімай сваё жала з раба божага Грыгора. А то я на твой гурган нашлю гром і маланню: громам разаб'ю і маланнёй спалю, а ветрам папялом размяту, архаіла Міхаіла, суддзя праведная, сваёй меччу галаву яму (?) ссяку.

## 300. Ад змяі

У полі за полем стаіць ліпа Матруна, у той ліпі Матруні болнае гняздо, у том гняздзе зьмяя Шкурапея, зьмяя Палагея, зьмяя Кацярына — дзяцей парадзіла, на сьвет пусціла. Вот яны ўкусілі там раба божага (імя). Унімай-ка ты сваіх дзяцей — лятучых, бягучых... забудных і заблудных. А ня вымеш ты іх — будзець табе граза, гром і маладня, востры меч, агняная печ. Затрубіць архаіла Міхаіла ў свае трубы і будзець вас зганяць у ровы шырокія, у пячуры глыбокія. Там вам будзець амін.
Хадзіў Бог па шаўковай траве, па зямчужнай расе, залатою трасьцінаю папіраўся. Залатая трасьціна пераламілась — у зьмяі жала прыламілась.

## 301. Ад укусу змяі

Святая Прачыстая Бож'я маці по полю ходзіць, шукае, а ў яе сам Гасподзь пытае: «Чаго ты ходзіш, шукаеш?» — «Хаджу, шукаю Шкурапеі-змяі». Шкурапея-змяя на высокай гарэ, пад сінім каменём. Адна — Шкурапея, другая — Пелагея, трэця — Кацярына. Радзілі яны па дзевяць дачок разные змеі: лесавую, палявую, вадзяную, межавую, падплотную, гарохавую. Вот ты, Кацярына, закрый свае рыла, бо прыйдзе сам Юрый з кап'ём, праб'е яго кап'ём.

## 302. Ад змей

Гад-гадавіца, вуж-вужаніца, яшчар-яшчарыца, слівень-слівяніца, каторыя вы раба божага кусалі, свой яд распушчалі: ці дамовыя, ці кутовыя, ці падпешныя, ці гнаявыя, ці межавыя, ці падплотныя, ці падтынныя, ці рассадныя, ай тыя, што ў зялёнай папараці? І вымайця вы свой яры зуб, і ўнімайця сваю ядрасць. А ня вынеця сваіх ярых зуб, ня сунімеця сваёй ядрасьці, то я скажу цару Далыду — ён вас пагоня на 'гнянную раку, на быструю ваду, патопя вас і папаля вас і пасмаля вас — ні 'днаго вас ня будзя ў белым свеці.

## 303. Ад змяі

Ёсць у свеці сіня мора, на тым сінім моры ляжыць камень, на тым камні стаіць дуб, на тым дубі крываць, на той крываці пярына, на той пярыні ляжыць змія Кацярына і вуж Сіміён. Ах ты, змія Кацярына і вуж Сіміён, сабірайця сваіх слуг і прыказыйця сваім слугам, каб яны ўнімалі сваё жгала — палявое, межавое, лугавое, курчыжнае, гнаявое, земляное,— унімайця і высылайця. А ня выніця сваё жгала, пойдзем к Госпаду Богу, возьмем гром і маланню, будзем і паліць і смаліць, ваша семя вывадзіць.

## 304. Ад змяі

На моры, на кіяні стаіць дуб, пад тым дубам ліповы куст, у том кусці ляжыць змяя Шкурапея. Ты змяя Шкурапея, а я раб Яўстрат (знахар): сабірай свой народ з усіх старон, са мхоў з балотаў, з нятленных гнаёў, з цёмных лясоў, з шчырых бароў і з крутых меж, і вынімай змяіны яд з касцей, з машчэй, з русых валос. Не паслухаеш таго, нашле на цябе Гасподзь тучу — гром і маланню.

## 305. Ад змяі

Памяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротась яго і вялікую памяць яго. Судзяржаў цар Давыд ваду, зямлю і нашы грэшныя душы, судзяржай жа змей скурлупей — падпешных, запешных, зашчытных, гнаявых і падмежных, лесавых.

На сінім моры ды на востраўі бягіць рака Смародзіна; чэраз тую раку ляжыць дуб гнілы, дуплянасты, а ў том дубі сядзіць змяіны цар Сакатын. Унімай жа ты, цар Сакатын, сваіх змей

скурлупей, унімай і жало вынімай, і вопух палягай, і пользу давай. А ня будзеш унімаць, будзець Гасподзь гразу насылаць, каменнем пабіваць, градам засякаць.

### 306. Ад змей

На моры на востраві стаяў куст, а ў том кусце залатое гняздо, а ў том гняздзе тры старшых: адна Куліна, а другая Марына, а трэцяя Кацярына. Сабірайця ўсіх сваіх — і балацяных, і гняявых, і махавых і лесавых, вынімайця з естага чалавека з касьцей зуб свой. А калі ня вымеця, то нашле Бог гром і малонню, і паб'е і папаля.

### 307. Ад змей

Гад-змяя паха, гад-змяя верапаха, гад-змяя Шкурлупея, пажанавітая, хлеўная, вадзяная, межавая, верасовая, зялезовая, лятучая, паўзучая, серанавая, ідзі к рабу божаму, вынь сваю ярасць, паганае жала-жыгала. Ня вынеш ты ў раба божага сваю ярасць, паганае жыгала—перавяду ваш род і пакаленне, усю вашу хвамілію. Буду ў Бога прасіць святога Міхайла-арханела і з гразой, і з періуном, і з дажджом; ня будзець вам памесця нігдзе: ні ў грудзі, ні ў нары, ні на сухапуцці. У грудзі я цябе агнём спяку, у нары перуном заб'ю, на сухапуцці вадой залью — сам я, раб божы Лукаш.

### 308. Ад змей

Госпадзі, памілуй, баславі, Госпадзі.

На моры на Кіяні, на быстрым буяні стаіць ліпавы куст, пад тым кустом ляжыць бел камень, у белым камні чорна руна, у чорнай руні змяя Шкурлупея, сястра Палагея, цётушка Аўхім'я. А ты, змяя Шкурлупея, сястра Палагея, цётушка Аўхім'я, змірай сваіх змей, а то буду прасіць Міхайла-арханела — ён цябе громам заб'ець, маланнёю спаліць, буйным ветрам попел разнясець. Унімі сваіх змей, сіпучых, лятучых, паўзучых, земляных, вадзяных, навозных, дзярновых, крышачных, бярновых, падкалодных, карчавых, падмежных, запечных, качарэжных. Госпадзі, памілуй, баславі, Госпадзі.

### 309. «Ад укушэння змяі»

На моры, на кіяні стаіць куст, ліпавы куст. У том кусце ляжыць скаварода; пад скавародай ляжыць чорная руна. У том чорным руні ляжыць змія Шкурапея. Унімай сваіх лютых дзя-

цей. Еслі штоб яны ні кусалі: сіпуху, храпуху, падстрэшную, падмежную, лугавую, палявую, зімляную, шчыпяную, дравяную. Ня ўніміш — буду прасіць Міхайлу-архангіла. Громам заб'ець, праскаміцый сквозь гняздо цябе возьмéць.

## 310. «Ад укушэння змяі»

На ржаном на жнівішчы стаіць куст ракітавы, пад тым кустам ракітавым стаяць криваці цісавыя, пярыны пухавыя, адзіялы шаўкавыя, ляжыць руно шэрсці; і ў том руні шэрсці сядзіць змія Шкурупея, змія Шкурупея, змія Партупея, змія Настасея, змія Марэя. І прашу я вас, усех змеяў набальшых: унімайця вы ўсех сваіх змяёў: падкутных, вуглавых, і дамавых, і паднавозных, і палявых, і міжавых, і вадзяных, і ўсех гадаў, паўзучых па зямлі, і махавых, і балотных, і плаваюшчых па рэках, і лятаюшчых па воздухáх, што аны ходзя зброднічаюць, распутнічаюць: укусілі скаціну разнай шэрсці і сваё змяінае жала ўпусцілі. І скажыця вы ім, штобы аны ўзялі к себе свае жала. А еслі аны не возьмуць к себе свайго жала, то я буду прасіць Спасіцеля і Міхайлу, вялікага Архістраціга. Міхаіл — вялікі Архістраціг прыйдзіць судзіць з сваім страшным судом, з жызлом зялезным. Разаб'ець криваці цісавыі, і пярыны пухавыі, і руну шэрсці. І вашы будзіць на зялеза матаць кішкі, і вас саміх будзіць біць малатамі, і вас саміх будзіць агнём паліць, штоба вас не была на зямлі. Ня будзіць вас на зямлі і ня будзіць вашага змяінага жала. Амінь.

## 311. Ад змяі

Цар змей Скурупей і царыца змяіца Скурупяіца, сабірайця сваіх змей і спрашывайця, каторыя хадзілі, каторыя брадзілі і такую-та жывотную кусалі, і злое жыгала пускалі, і лютую ярасць.

І вы сабірайця і спрашывайця, змеі балотныя, змеі лугавыя, і змеі куставэі, і змеі падкалодныя, і змеі падкурчэжныя, і змеі дамавэя падугольныя, і змеі чорныя, і змеі рудыя, і змеі пірапялёсыя, і ты, лютая змія, злая віраценніца.

Сабірайцісь, усі змеі, вынімайця свае злоя жыгала і лютую ярасць, штоб вам тут ня быць і ня жыць, і такую жыватную скаціну ні нудзіць, і ні марыць, і яе кожу ні кусаць, і вопуху ні пушчаць.

Вынімайця свае лютыя жала і ліхую ярасць ад етай жывотнай із касцей, із машчэй, із жыл, із пажылак, із сустаўцаў, із

паўсустаўцаў і маліалькіх сустаўцаў, і ад буйнай галавы, і ад быстрых ног, і ад храбетнай касці, і ад длінняга хваста. То мы будзім прасіць святога Міхаіла-архангіла і нябесныя сілы, напраганяюшчых усех урагоў і супастатаў: святой Міхаіл-архангіл і нябесныя сілы ўсех змяёў пажгець, пупякець, святым сваім копіім пасякець, сямі огнінная кадзіла агнём запякець і вітрамі і віхрамі ў паганыя мора попіл знясець.

## 312. Ад змяі

Ва імя Атца і Сына і Святога Духа, амінь.

Прасвяты дзень і святы аўторак (упамянуць дзень, у які гаворыцца замова). У чыстым полі на такавішчы там высокы курган, пад тым высокім курганам сядзіць цар Халіман і царыца Ягіпа. Туды едзіць святы Міхаіл-архангел з вострым мечам, з нябеснаю сілаю.— Памагай Бог, цар Халімон і царыца Ягіпа.— Добрае здароўе, святы Міхаіл-архангел. Унімай сваіх лютых змеяў, лятучых, паўзучых, падпечных, падстрэшных, каліновых, рабіновых, асіновых, сунічных, бруснічных, межавых, гнаявых, вадзяных, балотных, калодных; унімай лютыя яды рыжаі, ярыя жалы раба божыя (імя яго) з чорнага воласа, з белай касці, з чырвонай крыві, у дні пад сонцам, уночы пад месяцам, перад раннімі росамі, перад вячэрнімі зарамі; не будзеш унімаць — буду залатым крастом пабіваць, вострым мечам галаву зрубаць [па коллю мяса расторкаць], па сырой зямлі кроў разліваць.

## 313. Ад змей

На моры, на кіяні стаіць дуб Пракурон, на том дубі трыдзевяць какатоў, на тых какатах трыдзевяць гнёздаў, к тым гнёздам прылятала, прыбягала трыдзевяць зьмей: кутовая, печавая, бярновая, гнаявая, падтынная, крапіўная, гаравая, палявая, межавая, куставая, вадзяная, лугавая, бярозавая, асінавая, крушынавая, ляжэнька, бяжэнька, лятучая, паўзучая, серанавáя, жоўтая Шаўра, шкурапея Хаўра,— сунімай сваіх слуг, вынімай жала раннія, паўднёвыя, вячэрнія зары. Будзець ехаць святэй Міхаіл з залатою меччу. Ён цябе пасячэць і парубіць, попел па полю разадзьмець.

На моры, на кіяні стаіць дуб Пракурон, на том дубі трыдзевяць какатоў, на тых какатах трыдзевяць гнёздаў, к тым гнёздам прылятала, прыбягала трыдзевяць змей: кутовая, печавая, бярновая, гнаявая, падтынная, крапіўная, гаравая, паля-

вая, межавая, куставая, вадзяная, лугавая, бярозавая, асінавая, крушынавая, ляжэнька, бяжэнька, лятучая, паўзучая, серанава́я, жоўтая Шаўра, шкурапея Хаўра,— сунімай сваіх слуг, вынімай жала раннія, паўднёвыя, вячэрнія зары. Будзець ехаць сам Гасподзь із агнём, із пе́рунам, і пасячэць цябе, парубіць, і попел твой па полю разнясець. Вынімай і корань твой выведзь.

### 314. Ад гадзіны

На моры, на акіяні, там стаяў ліповы куст, пад тым ліповым кустом чорная руна, у той руне змяя Шкурупея, сястра Палагея, цётка Хіма. Унімай сваіх дзяцей: балотных, калодных, махавых, лугавых, палявых, падмежных, сустрэчных, лятучых, паўзучых, сыпучых, дваровых, страховых. Калі ты іх не будзеш унімаць, то я буду жалавацца святому Міхаілу-архангелу, каб і громам разбіла, маланкаю спаліла, па ўсім полі раскідала. Аддуну, адплюну ад чорнай шэрсці.

### 315. Ад гадзюкі

На сінім Буяне, на сінім акіяне стаіць кіт-дрэва на ста карнях, на ста вярхах, на ста какатах. Там жыве сама гадзіна Кацярына. Сабірай свой яд, вынімай свой гад із краснай краві, із жоўтага мяса, із скаціны серай. Слухайце, гадзюкі: махавая, гнаявая, падтынная, межавая, балотная, мінутная, часовая, на хвасце стаячая і харошы муж — бязврэдны уж. А не будзеш, гад, сабіраць свой яд, будзе цябе ангел, архангел маланнёй папаліць і громам паб'ець.

### 316. Ад вужакі

Выйду я за вароты, гляну ў чыста поле. У чыстым полі на сінім моры стаіць дуб. Што на тым дубе залатое гняздо, што ў тым гняздзе вуж-вужаніца і гад-гаданіца, і ўсім вужам-гадам царыца. Не будзеш ты сваіх вужоў-гадаў збіраць, не будзеш ты ім гразу даваць: паспешных, крапіўных, махавых, балатавых, гнаявых, падкалодных, межавых, земляных, не будзеш ты іх збіраць, не будзеш ты ім гразу даваць, будзе ехаць Пётр і з пе́рунам і з маланнёю. Маланнёю будзе паліць, пе́рунам вам будзе гразу даваць, на сінім камені галовы адсякаць. Вуж-гад, слівень-гад, гад-гаданіца, вуж-вужаніца, вазьмі сваё жала, вазьмі Алены боль.

### 317. Ад змей

У чыстым полі на сінім моры стаіць дуб шыракаліст, пад тым дубам воўцы стары, пераяры, чорная воўна. На тэй воўні ляжыць змяя змяіная. Змяя-змяішча, вынімай сваё жала, высылай сваіх слуг, падпечных, падмежных. Не вынеш сваё жала, не пашлеш сваіх слуг, пашлю на цябе тры грозныя тучы: адну вагняную, а другую вадзяную, трэццю камянную: агнём спякець, камнем заб'ець, вадой пальец — корань выкіпіць.

### 318. «Ад укушэння вужа»

Цар кудыка, цар мудыка, унімай вужа, слушнага мужа; і ўнімай, і вынімай янысці, ярысці, гадысці з такей-та скаціні!

Ня ўніміш і ня выніш сваю янысць, ярысць, гадысць — што пайду к усім святым, буду прасіць Госпада Бога Ісуса Хрыста і Масіера з нябеснымі сіламі.

Нашлець Госпадзі тры тучы грозных: адну камянную, другую вітравую, трэцюю агняную — агнём пупаліць, камнім разаб'ець, ветрым попіл разнясець.

### 319. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Ісаакія святая і Руся, Палюся, Саламіда Расасвецкая, унімайця ўсякага свайго ската, палявога, лесавога (і г. д.). Ежлі ж ня воймеця, пабідзіць вас Гасподзь Бог піцьма тучамі: першаю камянною, другою мечавою, трэццяю стралавою, чацьвёртаю дажджавою, пятаю агня́наю. Камянная выб'ець, мечавая высячыць, стралавая выстраліць, гразавая вызнабіць, дажджавая вымачыць, агняная выпячэць.

### 320. Ад змей

На чыстым полі яблань, пад той ябланею з чорнага барана руна гняздо; а ў тым гняздзе змяя серавокая, белавокая, старша́я, бальша́я. Унімай ты сваіх змей — ламавых, палявых, гнаявых, межавых, лесавых, вадзяных, курдупых, лятучых, паўзучых, з-пад ку́стаў, з-пад кручаў, штоб яны ярасць вынімалі і пухліну сымалі. А то я буду прасіць самаго Госпада Ісуса Хрыста. Пашлець на вас тры тучы — грамавую і дажджавую, агняную. Громам паб'ець, дажджом пальець, агнём папаліць.

## 321. Ад гадзюкі, вужакі і сліўня

Выяжжаў Бог на вараном каню, вызываў змію Шкурапію. Змія Шкурапія, выхадзі і сваіх слуг вывадзі, і лесавых і гнаявых, сунішных, бруснішных, балотных і падкалодных, падпешных і запешных, межных і падмежных, крапіўных і затынных. А ня будзеш выхадзіць і сваіх слуг вывадзіць, то асыплем вас грэцкаю крупою, дробнаю чарствою. І пашлець Бог на вас тучу камянную, і павыпаліць і павыкаціць вас з етага света, амін.

## 322. Ад змей

На моры, на кіяні, на гарэ на Сіяні стаіць дуб; на том дубі тры какаты; на тых трох какатах тры гнязды, а ў тых трох гняздах тры змяі: первая змяя Шкурапея, другая змяя Сахвея, трэцяя змяя Палагея. Змяя Шкурапея, змяя Сахвея, змяя Палагея, гукніця вы і сабярыця сваіх слуг верных, і лесавых, і махавых, вадзяных, палявых, дамавых, хатніх, кутніх,— гдзе б яны ні былі, і выньця вы сваё ядо з раба божага. Ну ня вынеця вы свайго яда з раба божага з кален, з сукален і з сукаленачак, із жыл, з паджылачак, дык я пайду к святому Міхаілу на жалабу. Святы Міхаіл нашлець на вас тры тучы грозных: первую тучу агня́нную, другую тучу камянную, трэцюю — скаловую. Агня́ннаю тучаю будзець у лесі паліць, камянною тучаю будзець па полю біць, скаловаю тучаю будзець у вадзе біць.

## 323. Ад гадзюкі

Первым разам, добрым часам прашу Госпада Бога і Духа Святога.

Змяя бушма, змяя бушміня, змяя цар-цакадзін, царыца-цакадзільніца, змяя рабая, змяя палавая, змяя выблюдак, дак вазьмі сваё жала з белага, з румянага з цела, з чырвонай крыві, з жоўтай касці. Не возьмеш, Гасподзь на цябе нашле тры тучы: первую тучу — камнем заб'е, другую — агнём спале, трэцюю — ветрам садзьме. Раба божая Агата прыступіла і ўгаварыла не сваімі славамі, Гасподнімі думамі. Дай Бог у добры час. Любі мой лёгкі дух. Ху!

## 324. Ад змей

Цар змяіны Ір
І царыца Ірыца!
Лютых сваіх змей унімай,

Ліха жала вынімай:
Первую змяю дваравую,
Втару змяю лесавую,
Падмежніцу, карэжніцу,
Палявіцу, вадзяніцу.
Не будзеш унімаць,
Напусціць на цябе
Сам Гасподзь Бог,
Сам Ілля-прарок
Тучу цёмну, пелену огненну
І пажнець ця, паццнець ця,
І па ветру разнясець ця;
І будзеш унімаць,
Будзеш сакрашчаць,
Будзеш жыць, царыць,
Дзяцей вывадзіць.

### 325. Ад змей

На моры, на паўмор'і, на камні, на выспе (вар.: у полі на гарэ) стаіць іва зеленая (вар.: явар). На той іве залатое гняздо з чорнага руна, там жывець змяя Шкурапея-Праскавея (вар.: Настасся) *. Унімай сваіх сясцёр адзінаццаць, а ты дванаццатая, падкалодных, лесавых [чаротных, балотных, падколных, намоўных, нагаворных, падмежных, падпечных, падстрэшных, земляных, вадзяных]. Вынімай сваё жала з раба божага, з буйныя галавы [із ясных вачэй, із чорных бравей, із гаручыя крыві, із чорнага пячэння, із жыл, із пажылак, із касцей, із пакостак]. А ня будзеш вынімаць — нашлю на цябе тры тучы: адну грамавую, другую дажджавую, а трэці — востры меч. Не зацэлееш ты ні ў курчы́, ні ў мяжы, ні ў якей пажарыне.

### 326. Ад змяі

На моры, лукамор'і стаіць дуб, на том дубу трыдзевяць какатоў, на тых какатах трыдзевяць гнёзд, у самом шчыці белая палата, у тых палатах змяя Скарупея. Улляна, Улляна, сунімай свой чэр, нашлю на цябе грама́выя тучы, лукавыя стрэлы — разаб'юць тваё ўсё Ягіпецкае гняздо.

---

* Вар.: Становіцца Іван Нікіпаравіч Богу на помач ад змяі Шкарлупеі, ад змяі Палагеі. Стаіць у полі за полем, у моры за морам ліпавы куст, а ў ліпавым кусьці чорнае руно, а ў чорнам руні змяя Шкарлупея, змяя Палагея.

## 327. Ад змей

Пад каменем Барласом там ёсь змеі Шкурапеі: Ягіпа і Ульяна, Матрэля і Сахвея. Унімайця вы сваіх слуг і жалы і яды; а то стану перад святым Міхаілам Архістра́цілам на каленях. Будзець Міхаіл Архістраціл выязджаць сы 'гня́нным пламем, з залатою меччу, з пабойнаю стралою, будзець сеч і рубаць, і агня́нны град кідаць, і па коллю мяса торкаць.

## 328. Ад змяі

Первым разам, божым часам Госпаду Богу пamалюся, Прачыстай мамцы пакланюся. Стань, Гасподзь, на помач!

На гарэ на Саянскай ляжыць гнілая калода, пад той калодай ляжыць скураная гадзюка. Эх ты, скураная гадзюка, сабірай усіх сваіх гасцей, сунімай іх зубы і жалы, падтынных, падпечных, лятучых, крапіўных, падкалодных і якіх я толькі не знаю. Сунімай ім зубы і жалы. Еслі ты мяне не паслухаеш, то я ўзнімусь у небеса, пажалуюсь святому Міхаілу. Святы Міхаіл вас усіх будзя сабіраць, у кучы складаць, жалезным прутом перасякаць, а рабу божаму чалавеку помачы даваць.

## 329. Ад змяі

На моры, на лукамор'і стаіць куст ракітавы, у том кусці барання руня, у том руні ляжыць змяя Шкурапея. Ты, змяя лютая, лятучая, збірай сваіх змей—лятучых, бягучых, сіранавых, махавых, калодных, крапіўных, падтынных, мяжэўных, вынімай свае жала і зубы ад раба божага. А то не я цябе паб'ю, паб'е цябе сам Сус Хрыстос, выйдзя ў чыстае поле, наложа каля́ную стралу, праб'е цябе, лютую змяю.

## 330. Ад змей

Госпадзі Божа, багаславі, Госпадзі Божа, памажы. Госпаду Богу памолімся і Прачыстай матцы паклонімся. Прачыстая маць прыступая і ад гадаў помачы давая.

Прашу вас, змеі, прашу вас, гады, і цябе, вуж, добры муж, вуж Сакадын, і змяю саму́ Саламу́, і змяю Саўру, і змяю Салапею, і змяю Шкурапею. І слуг — сваіх падруг сунімай і жалы замаўляй, і ў раба божага вопуху ня пускай і жыл ня трудзі, і крыві ня гнаі і сэрца ня ташні. І прашу ж я вас. Калі ж вы мае просьбы не паслухаеця, нашлець на вас Гасподзь грамавую ту-

чу, камянны бой. Ён вас нігдзе ня 'ставя: ні ў ямі, ні ў пячарах, ні ў дрэві, ні пад дрэвам, ні ў камяні, ні пад камянем. Ён вас камянем паб'ець на грэцкія крупы, драбней чорнага маку.

### 331. Ад змей

Госпадзі Божа, благаславі! Памяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротась яго. Сакручыў Божа зямлю і ваду, сакручы, Божа, і змяю Шкурлупею.

На сінім моры ляжыць камень Латыр, на том камні стаіць яблынь, на той яблыні змяінае гняздо, у том гняздзе тры шэрсці: шэрсць чорная, шэрсць белая і шэрсць рыжая. У той шэрсці ляжыць змяя Шкурлупея. Змяя Шкурлупея! Не ляжы, а прабяжы, сваіх чадаў унімі: Сахвей і Палагей і Марэй. А ня ўнімеш сваіх чадаў і ня вынеш сваіх жал, то буду маліць Госпада Бога і прасіць Прасвятую маць Багародзіцу, Ісуса Хрыста, Міхайла-архангала, Іллю-прарока, ангалаў-храніціляў і ўсіх святых Хрыстовых апосталаў і ўгоднікаў божых, штоб наслаў на цябе сам Гасподзь Бог тры тучы, тучы грозныя: адну камянную, другую вадзяную, трэцюю агняную. Камянная заб'ець, вадзяная затопіць, агняная спаліць. Ня будзець табе места ні ў мохах, ні ў балотах, ні ў гнілых калодах, ні ў цёмных лясах, ні ў зялёных лугах, ні ў быстрых рэках, ні ў крутых берагах, ні ў жоўтых пясках, а ні за мяжою, а ні пад мяжою, ні ў траве, ні ў крапіві, ні ў гнаі, ні ў зашчыці. Первым разам і добрым часам плюю і дую на цябе, бясстудную.

### 332. Ад змей

На полі на кіяні стаіць дуб Ракітан, пад тым дубам куст ракітавы, а ў том кусьці ракітовым камора, а ў той каморы куст явору, а ў том у кусьці, у яворы, гняздо, а ў том гняздзе яйцо, а ў том яйцы тры змяі: адна Гея, другая Палагея, трэцяя Шкурапея. Унімайця сваю чэр, ярхаў і пераярхаў, і падмежных, і падбярозных і падкалодных... Ня будзеця ўнімаць, будзем Госпада Бога ўпрашаць і Міхаілу-суддзю праведнага. І Міхаіла навядзець з небеса камянную тучу, разаб'ець вашы норы і пячоры сваёю сілаю нябеснаю. Сам Гасподзь із Міхайлаю коло сіняга мора ходзіць, залатою тросьцю апіраецца: ці вынімалі паганыя жалы з раба божага, ці залізувалі крывавыя раны?

### 333. Ад змей

Памяні, Божа, цара Давыда і ўсю кротась яго.

Змія Ева, змія Куртупея, змія Чарапея, змія Вад, вынімай

свой яд з гаручыя крыві, з тоўстага мяса. Каторыя вы кусалі — ці большая, ці меньшая, ці дваравая, ці гнаявая, ці падмежная, ці падграніцкая, ці падкамяніцкая, ці лесавая, ці падкалодная, вынімайця свой яд! Ня вынеця вы свайго яду з гаручыя крыві, з тоўстага мяса (ці шарсціны),— ну, стаіць дуб на сінім моры на дванаццаць какатоў, ну, на том дубу стаіць гняздо. Нашлю я на тое гняздо грамавую тучу, навяду я каменную стралу: як ударыць — разаб'ець на дванаццаць грань. Толькі ета ня помач. Пайду я к самому Госпаду Богу, вазьму я меч-самасеч, пасяку я, парубаю, па ўсём чыстаму полю пакідаю. Слова маё, дух гасподні.

### 334. Ад сліўня

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай маці пакланюся і ўсім апосталам — кіяўськім, пячэрськім, пачаяўськім, русалімськім; не сама сабой, Гасподзь Бог са мной, Прачыстая маці перада мной.

Пояс сінянькі, слівянь белянькі, вынімай свой яры зуб, пахучае жала. І ня выніш, будзя цябе Міхайла біць зялезным кнутом, нашлець на цябе тучу камянную, тучу грамавую. Ён цябе выб'я, агнём выпаля, твой народ выведзя.

### 335. Ад змей

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай пакланюся, усім атцам прападобнікам, бальшым угоднікам.

Ішла змяя Шкурапея са сваімі змяямі; яна ўсіх сабірала, па іменню ўзывала. Змяя Шкурапея, усіх цяпер — і жарых, і рабых, і ярых — усіх цяпер я дамаўляю, выгавараваю: выбер зубі. Ня выберэш зубі, пайду на агнянную печ, вазьму гойструю меч, агнём прыпяку, мячом засяку, дзёгцем замажу.

### 336. Ад змяі

На сінім моры-акіяне стаіць дуб, пад тым дубам ляжыць Латыр-камень, пад тым камнем ляжыць чорная руна, у той руне жывець змяя, змяя Скурапея, сястра яе Палагея, Сцепаніда, Арына, Куліна, Салепянета, Цыкліда.

Змяя-змяіца, ярая ярыца, унімай свой ужыны яд, унімай сваіх дзяцей падмежных, курчыжных, запечных і падпечных. А то не будзеш вынімаць, будзе святы Мікалай рубаці на дванаццаць часцей, у вогненную печ кідаці.

Амінь! Амінь заразе!

## 337. Ад змей

Первым разам, добрым часам, не сам сабою, Прачыстаю святою.

На рацэ на Смуродзіні стаіць калінавы мост: на калінавым масту стаіць дуб Мелляноў на дванаццаць какатоў; на тых какатах змяіны гроб; у том грабу змяя Шкурапея, над усімі старшая, бальшáя, над усім гадам. Змяя Шкурапея! Унімай сваіх гад, вынімай свой яд (з скаціны, з чалавека). А ня ўнімеш свой гад і ня вынеш яд, то пайду к святому Міхаілу і вазьму* меч і залато капіе, вашу гадзінскую сілу парублю і пасяку, на ўсём свеці ўвесь корань перавяду, жаркім сонцам запяку, яснымі зарамі, ясным месяцам і зямчужнымі росамі.

## 338. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Дзве зары-зарніцы, родныя сястрыцы, станьця на помач святому Юр'ю-Ягор'ю, святому ангалу Міхайлу.

У садзі-вінаградзі цвілёвае гняздо, у том гняздзе змяя Шкурупея, другая Данілея, трэцяя Сахвея,— сабірай ты сваіх слуг крапіўных, гнаявых, і падтынных, і серановых, і падпечных, і падмежных, і лятучых, і паўзучых, і вынімай ты пчалінае жала, а праклятый яд, а ня выніш пчалінага жала, праклятага яду — я пайду к Міхаілу-архангалу, суддзе нябеснай, то возьмець ён войстры меч, то ссячэ вас, зрубая, у асінавы груд паскладая, па чыстаму полю попел распылая, раба божага ачышчая.

## 339. Ад гадзюкі

Устану я раненька, памыюся бяленька, памалюся Госпаду Богу і самога Госпада Бога папрашу.

У чыстым полі, у цёмным лесе стаіць ліпавы куст, пад тым кустом ляжыць гадзюка-змяя Шкурапея. Ох ты, гадзюка Шкурапея, сабірай сваіх гадзянят, змеянят, вужанят, гнаявых, падпечных, падпольных, крапіўных, палявых, лясных, балотных, вадзяных, сабірай і ў етага (імя, каму шэпчаш) опухі і яды ўнімай. А еслі не будзеш унімаць, то я буду ўнімаць, Міхаіла-гасподніка ўпрашываць. А ты, Міхаіл — гасподні памочнік, выйдзі ў чыстае поле, вазьмі свой огненны меч і разбі той ліпавы куст, разбі гадыню Шкурапею, дым і пыл яе разнясі.

---

* У тэксце возьню.

## 340. Ад змяі

Стану я рана, умыюся бела, пamaлюся Богу верна, выйду я ў чыстае поле, гляну на кіян-мора. Там ідзе Божжая мацер, Ісус Хрыстос, Сын Божжы, і Дух Святэй. Яны ішлі і жаўтыя пяскі бралі, і змяіныя раны прысыпалі, і вужыныя жалы, і такому рабу чалавеку помачы давалі (дунуць). Дух Святэй на пользу!

## 341. Ад змей

Первым разам, божым часам. Госпаду Богу памолімся і матары Божай паклонімся і сонцу й месяцу, і зарам-зараніцам, божым памашніцам.

У полі на якоры на белам камяні сядзіць цар Арцямон і царыца Уліта. Прыходзя к ім святы Алістрацій Міхайла: «Што ж вы, цар Арцямон, імееця сабе двананцаць братоў, двананцаць пабрацімых, і ты, царыца Уліта, імееш сабе двананцаць сясцёр і двананцаць палусясцёр. Што ж вы іх ня сунімаеця, ня судзержаеця, па бялý свету рассылаеця. Калі ж вы іх ня будзеця сунімаць, судзяржаць, і па бялу свету рассылаць, і паганы пракляты зуб будзеця ўсылаць, то я буду іх войстрым кап'ём к беламу камню прыганяць і войстрым мячом голавы сымаць. І святы Міхайла — архангал Гасподзянь, будам жа мы іх сунімаць, судзяржаць, і па бялу свету ня будам пускаць, і з раба божага будам паганы пракляты зуб вынімаць».

## 342. Ад змяі

— Змія корпія, змія квірыта! На што сваіх дзяцей распусьціла? Пайду я к Іісусу Хрысту. Хрыстос возьмець остры меч, пойдзець тваіх рубіць і сеч.

— Чалавеча божы! Не йдзі к Іісусу Хрысту! Я сваіх дзяцей уйму і ім жало замару.

## 343. Ад змей

Куцішча, адкуцісь, пухліца, адпухлісь, пяніца, адпянісь, рабіца, адрабісь, мяжа, адмяжысь, вада, разаллісь, а ты, гад, вынімай свой яд із раба божага, а то едзець на цябе святы Міхаіл з агня́нным капіем. О Госпадзі, ху!

### 344. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Поле-полём, едзя святы Ягоры сівым канём, з залатым кап'ём. Ён едзя, праяжжая, усіх гадаў пабівая: балотных, падкалодных, махавых, земляных, дваравых, гнаявых, падугольных, лесавых, палявых, вадзяных, межавых, падкаменных. Ёсь самая старша Пуцімея, Расхацімея, старая Саламаніда,— вынь гэта жыгала з раба божжага.

### 345. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

На чыстым полі стаіць груша, пад той грушай стаіць ложа, на тэй ложы ляжыць пуховая пярына, на тэй пярыні ляжыць Шаўрон. Ну-ка ты, Шаўрон, вазьмі сваё цяжкае, аддасі наша лёхкае; ня возьмеш свайго цяжкага, ня 'ддасі нашага лёхкага — будзя ехаць святы Юры і Мікола, будзя вас сабіраць і меччу галовы адсякаць.

### 346. Ад гадзюкі

На сінім моры-велікаморы стаіць дуб, на тым дубе змяінае гняздо, у тым гняздзе тры змяі-гадзюкі. Первая — Салоха, другая — Лізуха, трэцяя — змяя Курапея, чацвёрты брат, унімі сваіх сясцёр. Ты ўнімі, сакрушы, з тых зубоў вопух не сашлі. Сашлю іх на крутую гару. Прыедзе святы Юры на белым коніку з вострай кап'ёй, з вострай мечай, з колкай шупшынаю, стрыкучай крапіваю. На свентым Здзвіжэнні будзе вам там крушэнне. Будзе сеч і стракаць стрыкучаю крапіваю, норы-пячоры будзе зарываць, наказанні даваць — і падпечныя, і падмежныя, вадзяныя, земляныя.

### 347. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Ёсць на моры, на кіяні выспа, на той выспі стаіць дуб курганаваты, бурганаваты. У том дубі залатое гняздо; у том гняздзе ляжыць змяя, усім змяям царыца. Прашу ж я цябе, змяя-змяіца, усіх змей царыца, унімай жа ты ўсіх сваіх змей-шкурапей, і змей-змеянят, і яшчар-яшчаранят — і балотных, і падкалодных, і лесавых і махавых, і куставых, і палявых і падмежных, і падпешных, і пунявых, і гнаявых. Унімай жа іх, і к етай бурай карові-бадзяцы прыганяй, і з двашэрснай шарсьціны жала вымай, і яд выняй, і раны етыя зажыўляй, і на помач давай. Не ўпрашу ж я цябе, ня будзеш ты ўсіх змей сваіх шкурапей уні-

мацъ, і змей-змеянят к етай карові прыганяць, і жала вынімаць, і яд выганяць, і раны зжыўляць, на помач ёй даваць — упрашу святога Міхайлу-архангала. Святы Міхайла сыйдзець з неба на землю з сваёю залатою меччу і цябе, змяя-змяіца, сваёю меччу пасячэць і парубіць, і Кузьме-Дзям'яну ў залатую кузьню аддасць. Кузьма сваё жэзла распякаець і табе зубы, губы і жала запякаець, і ва векі вяком, амін.

## 348. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Там на моры на Сіяні стаіць ябланка, на той ябланцы залатое гняздо; у том гняздзе змяя Шкурапея. Змяя Шкурапея, унімай сваіх змей, а ня будзеш унімаць, буду прасіць Кузьму-Дзям'яна і Міхайлу-архана. Возьмець ён булатную меч, булатны нож, пасячэць ваша мяса, паторкаець па тычынах. Вынімай жа яд з жыл, з пражыл, з гаручага жывата, з рацівага серца, з буйныя галавы, з крупішныя печані.

## 349. Ад укусу «ужа» (змяі)

На дуброве стаіць ябланька; на ябланьцы сядзіць муж-уж. Ох ты, вуж, добры муж, сваім джалам не ківай, Аляксея (імя) не кусай. Да прыедзе Міхаіл-архаіл, будзе твае косьці ламаці, на тычынніку растыкаці. Вуймя войстры меч і ссечэ табе галаву з плеч, і шчэ зрубае, і твой яд павыньмае, цела паабмякчае, наблягчае.

## 350. Ад гадзюкі

Первым разам, добрым часам, другім разам, добрым часам і трэцім разам, добрым часам. Жыў я дванаццаць гадоў, імеў я іх дванаццаць сартоў: лугавую, баравую, маравую, палявую, балацяную і калялюжную. Шчука-рыба лялява па мору гуляла і яд пускала. Трэба печы паабіваць і яд адганяць. Не быць табе ў рабай шарсці, не ламаць касці, а ляжаць табе ў жоўтым пяску, імець таску. Ішоў архангел і нёс вострую меч, і пазнімаў ім галовы з плеч, каб паўмалі із рыжай скаціны жалы.

## 351. Ад гадзюкі

На моры на сінім стаяў дуб дубаваты. Пад тым дубам ляжаў гад гадаваты. Гад-гадзіца, гадава царыца, я вас усіх знаю, усіх на імя называю: чорна-чарнавата, жоўта-жаўтава-

та, бела-белавата, сера-серавата, красна-краснавата. Я вас усіх знаю і ўсім вам яд замаўляю.

### 352. Ад вужакі

На моры-акіяне, на востраве Буяне стаяў дуб Якуб на дванаццаць какатоў, на дванаццаць парасткаў. На тым дубе залатое гняздо, у тым гняздзе ляжаў вуж.

Якуб, прашу я цябе, упрашываю і ўмаліваю, забяры ў Ганны яд з кашчэй, з машчэй, з шчырага сэрца, з ярых вачэй, з буйныя галавы, з длінных рук, з пыльных ног.

Ты па касці не хадзі, касці не ламі, шчырага сэрца не знабі, краснай крыві не тамі, ясных вачэй не засмучай, рук і ног не ламай. Выбіраю і на сіняе мора адпраўляю, на крутыя горы, на нізкія лозы. У гарах пакрычаць, у моры пакупацца, нізкія лозы паламаць, а ў Ганны вужынага яду павек яе жызні не бываць. Ежалі ты не выбярэш, я пажалюся самому архангелу. Архангел цябе забярэ, на сіні камень галаву пакладзе, войстрай меччу галаву адсячэ, малашнёй сажге, буйным ветрам разнясе, а Ганне пользу прынясе.

### 353. Ад сліўня

Первым разочкам, гасподнім часочкам, Госпада Бога ўпрашаю, а Прачысту мамку на помач прызываю. Святая гасподня, вялікая зара-зараніца, рабы божай Дар'і памашніца. Стань, Госпадзі, на помач, Прачыстая матка, на ратунак, ангелы, на радасць. Я, бабка, славамы, Гасподзь сваімы думамы.

У кісойскім балоце на гнілой калодзе ляжыць пан слівень. А ты, пан слівень, не ляжы, унімай свой яд гаручы, калючы, балючы. Не будзеш унімаць, будзе ехаць архайла Міхайла на буланым кані з вострым мечам, з колкім штыхам. Будзе цябе колкім штыхам калоць, вострым мечам сеч, на дванаццаць кусочкаў пасячэ.

Дай Бог час добры, любі мой дух лёгкі. Ху!

### 354. Ад вужа

На балоце, на калодзе стаіць вярбовы куст, пад тым кустом сядзяць гады, яды, гадзюкі, вужы, вужаняты. Вужа, вужа, гукай свайго мужа, сваіх вужанят, сваю вужыху і ідзі з раба божага (імя) яд выбірай. Ня будзеш яду выбіраць — будзя архірэй на сівым кані выязджаць і гострым мечам ссякаць, у Ягіпет адпраўляць і на колікі саджаць.

## 355. Ад вужа

Як у полі стаіць сад вішнёвы, а ў тым саду залатая яблыня, пад той яблыняй стаіць краваць цясовая, пярына пуховая, на той пярыне святы Гаўрыла спачывае. Прашу цябе, святы Гаўрыла, сунімай сваіх братоў-сухотных, ламотных, пуганых, ляканых, радасных, жаласных, пацешных, пасмешных, урочных, прыгаворных. Як будзеш сунімаць, то да веку будзеш спачываць, а не будзеш сунімаць — папрашу святога Міхаіла-архангела, пярыну тваю пуховую пасякуць, парубаюць, падушкі цвілёвыя падзяруць, негдзе будзе табе спачываць, і будзеш Якаву помач даваць.

## 356. Ад вужоў

Здунуў Гасподзь мост; у канцы таго маста стаіць дуб; на том дубі гняздо; у том гняздзе ляжаць тры вужы, тры цары: первы Сахон, другі Аўрам, трэці Сарпон. Па том масту ішла сястра Мархва, ішла, крычала — віннага шукала. Знайдзя яна віннага, пасячэ, парубая, на 'гні спаля, з естыя скаціны жала вынімая. Вы, вужоўя, вы, братоўя, вынімайця ўвесь свой яд, усіх сваіх сляпнёў і вераценнікаў. А ня ўнімецця — буду прасіць Міхайлу-архангала і Суса Хрыста. Будзя ехаць Міхайла-архангал і Сус Хрыстос са б[у]латным мячом, будзя вас сабіраць — усіх вужоў і сляпнёў і вераценнікаў — сеч і рубаць, па коллю мяса растыкаць.

## 357. Ад вужа

Первым разам, гасподнім часам Госпаду Богу памалюся, маці Прачыстай пакланюся, усім святым апосталам.

Вуж-белавус, слівень сіні, яшчар зялёны, упрашаю я вас: выньце ўсе свае зубы і джалы. Не выніце самі — я вазьму меч-самасеч, вяроўку-самавязніцу і ўсіх вас павысеку, павырублю, із гнязда павыганю. Ідзіце ў сухія лясы. Не я знаю — Гасподзь знае і мне памагае. Амінь.

## 358. Ад змей

У полі на падолі стаіць вярба, на той вярбе караваць, на карваці ляжыць красная дзявіца Васіліса. Красная дзявіца Васіліса, згукавай сваіх слуг,— каторая сваю волю ўчыніла, яры зуб усадзіла: ці дваровая, ці хлявовая, ці крапіўная, ці падтынная,

ці лесавая, ці баравая, ці лугавая. І ты, вуж, чэсны муж, выняй свой яры зуб; а ня будзеш зуба выняці, то Сус Хрыстос будзя табе ўсё тулава на мелкія часці рубаці і за камянную сцяну закладаці.

### 359. Ад укусу гадзіны

Гадзіна-гадзішча, шыпучая, паўзучая; гадзіна-гадзішча, вынімай сваё зубішча. На моры ёсць птах з жалезнай дзюбай. Ён вас выдзеўбе, выклюне і з пакалення вас звядзе. А свенты Геллеш вязе меч, будзе вам галовы сеч.

### 360. Ад змей

На моры, на лукамор'і сядзіць Хам і Хама́. Хам і Хама́, ня пускай свайго харкавіння, вынімай сваё жаркае жала. А ня вынеш — вялю сабраць дванаццаць кавалёў і дванаццаць абцугоў і дванаццаць малатоў, вялю біць і куваць, і з свету збіваць, каб вас ня було, а волна па свету хадзіць і шкоды не рабіць.

### 361. Ад змяі

У чыстым полі на сцяне стаіць ігруша, на тэй ігрушы дзевяць, і дзевяць, і дзевяць сукоў; то ня сучча — усё родн[ы] брацця. Зьверх сучча Хавіна гняздо, у том гняздзе Хава з Хавою і зьмей Сакатун. Хава з Хавою і зьмей Сакатун, унімай, навучай сваіх дзяцей і ўнукаў, праўнукаў, прашчураў — палявых, лесавых, дамавых (і г. д.). Калі не ўнімеш, не навучыш, нашлець на цябе сам Гасподзь Бог жалезны град, сілны дождж; нашлець на цябе дванаццаць малайцоў, па пояс у золаце, па ногі ў серабры, із вострымі мечамі: ссякуць цябе і зрубяць, і ў палон цябе забяруць.

### 362. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Памолімся, паклонімся Госпаду Богу і цару Давыду. У цара Давыда на моры сінім ляжыць сіні камень, на том сінім камні стаіць карвацъ, на той карваці пуховыя падушкі, цвілёвыя засцілкі. На тых падушках, на тых засцілках ляжыць Хама-Хаміца, усім змеям царыца. Ежалі ты, Хама-Хаміца, усім змеям царыца, ня вынімеш з раба божыя свайго жала, буду цябе праклінаць і ў празнічкі памінаць. Не ўцалееш жа ты ў лесі, ня ўца-

лееш пад курчамі, а ў полі пад межамі, а ў будынках пад вуглямі, а кала лазен пад мяллем. Святы Спас, святы Пётра-Павел, памілуй нас.

## 363. Ад вужа

Багаславі, Госпадзі, памажы вужыныя жалы вымаўляць і Госпада Бога на помач прызываць.

Баравы Сандамір, махавы Самасцей, сунімайця сваіх слуг. На моры, на кіяні ляжыць камень кірбіч, на камені ляжыць вужу. Вужу, чэсны мужу, сунімай сваіх слуг: і лятучых і паўзучых, і падтынных і крапіўных, і палявых і баравых, і гнаявых і земляных — вынімайця сваё жала з раба божага. Як ня будзеця вынімаць, прыедзя к вам Спас спасіталь з кап'ём, з ружжом, із мячом із галавасéчам, то вас і ссячэ і зрубая, і на 'гні папаля, і дым разнясе, і попел размяце. Дай Госпадзі на помач, Прасвятая маць Бугуродзіца.

## 364. Ад змей

Госпаду Богу памолімся і матцы паклонімся.

Як на моры на Сіяні і на Сіяньскай гарэ стаіць ігруша белая, пад тою ігрушаю карваць цясовая, на той карваці пярыны пуховы, на тых пярынах падушкі цьвілёвы, на тых падушках маць Прачыстая і з сваім сынам, і з Святым Духам. І Госпадзі, і маць Прачыстая, прашу к сабе на помач, і ўкланяемся нізенькім уклонам мы вам. Маць кажаць: «Мы ня пойдзем, сына пашлём!» Сын гаворыць: «Мы ня пойдзем, слуг пашлём! Мы пашлём святога Ягорыя з войстрым мячом, святога Мікалая з жаркім агнём, святога Міхайла з доўгім кап'ём. Ёсь жа ў свеці тры змяі: змяя Рабея, змяя Шкурапея і змяя Улляна. Еслі ж вы будзеця сваіх слуг рассылаць і яд распушчаць, то будзець вас святэй Ягоры войстрым мячом рубаць, святэй Мікалай жаркім агнём будзець паліць, будзець святэй Міхайла доўгім кап'ём прабіваць і з стоку на зáсток закідаць».— «Вы, святэй Ягоры, войстрым мячом не рубіця, і святэй Мікалай, жаркім агнём не паліця, і святэй Міхайла, доўгім кап'ём не прабівайця, і з стоку на засток не закідайця: мы будзем сваіх слуг сабіраць і яд заўнімаць, і рабую рабуху, куцую купуху, і сакатуху». І вас выгаваруецца трыдзевяць стай (для скаціны): выціраецца едзь із буйнай галавы, із ясных вачэй, із чорных бравей, із гаручыя крыві, із чорнага пячэння, із жыл, із пáжылак, із касьцей, із пáкостак.

## 365. Ад яду, ад ятрасці

На бялянскім полі стаіць грушка, на той грушцы гняздзечка, на тым гняздзечку гадзюка-верацёніца. Верацёніца, прымі свае паслугі чаратавыя, балатавыя, гаравыя, палявыя. А не будзеш прынімаць — буду вострай сабляй на голы камень галаву адсякаці і з рыжага мяса яд выганяці.

Тфу, тфу, тфу!

## 366. Ад змей

Ох вы, гады, ох вы, змеі: адна Сохва, другая Вохва, трэцця Гараська — сіла уразьска, дзе вы яе ўкусілі, дзе вы яе паймалі — ці ты лугавая (вар.: ці пад купінай, ці пад лазой, ці пад ракітавым кустом), ці ты палявая, ці ты балотная, ці ты вадзяная, ці ты падкарчэўная, ці ты падкутная, ці ты падкалодная, ці ты земляная, ці ты падуголная, ці ты падплотная, ці ты падмежная, ці ты падкустная. Ну ты, Бугіма (вар.: муж магністы) агністы, унімай свой яд, а то буду агнём печ і кнутом сеч.

## 367. Ад вужа

На сінім моры тры камяні сініх, на тых камянях тры паненкі сідзяць, залатым кіем махаюць, ужом жала замаўляюць. Ты, вуж, ня кусай і вопухі ня пускай, бо спалю і спяку, і попел садму. Гасподзь Бог з помаччу.

## 368. Ад гадзіны

Ёсць на моры, на лукамор'і куст, а ў том кусці чорнае руно, а ў том руні чорная гадзіня Адарэнадзіня. Вот я прашу цябе, Адарэнадзіню, вынь ты свой зуб; а ня выніш свайго зуба — я цябе саломай абнясу і спалю, і папялок разадму.

## 369. Ад вужа

Вуж, вуж, добры муж, жана твая царэўна. Прашу-ўпрашаю яду не пушчаць. Калі будзеш яду пушчаць, будзем цябе з лесу выганяць, будзем на цябе камні гарачыя качаць.

### 370. Ад вужа

У чыстым полі стаіць дуб, пад цем дубам стаіць цісовая кравать. На той краваці ляжыць пуховая пярына, у той пуховай пярыне ляжыць вуж — добры муж. Ох ты, вуж — добры муж, вынімай свой яд, вымі сваё жала. Не будзеш вынімаць — буду цібя агнём абкладаць і святым Здзвіжэннем праклінаць. Амін.

### 371. Ад змей

У чыстым полі на даліні, на Сіяньскай гарэ, на 'гняной рацэ стаіць ракітавы куст; у тым кусьці тры зьмяіных гнязды; у тых гняздах сядзіць тры зьмяі: зьмяя Паляха, зьмяя Дамаха, зьмяя Шкурапея. Унімайця вы сваіх зьмяіных дзяцей, ад ярага яду. Ежалі ня ўнімеш сваіх дзяцей, то я пайду к святому Кузьме-Дзям'яну, то ён гнёзды твае ўкінець уво 'сінавы груд і спаліць, і попел лубком разаб'ець, і па полю ветрам разнясець.

### 372. Ад сліўня

Выйду я ў чыстае поле, гляну на кіян-мора: над кіянам-морам стаіць ясен, на ўсё мора красен.

— Я цябе, ясен, ссяку і зрубаю, і карэнне тваё параскідаю!

— За што ты мяне будзеш сеч і рубаць, і карэнне маё раскідаць?

— А за то, што пад табою ляжыць слівень слівішчовы і яшчар-кашчар. Слівень слівішчовы і яшчар-кашчар, унімай сваіх слуг і загаварывай жалы балючыя і зубы кусучыя. Ня будзеш унімаць, то я буду прасіць Івана Прадцечага, то ён вас паб'ець і пасячэць, і ня будзя вас, ні сліўня, ні яшчара.

### 373. Ад вужа

Ішоў Ісус Хрыстос па чыстаму полю, па цёмных лясах, па шырокіх барах, па топкіх балотах, па зялёных лугах. Ён ішоў, усіх гадаў, ужоў сабіраў, жоўтым пяском пасыпаў, студзёнай расой паліваў. Ты, уж Ермалай, усіх сваіх гадаў-братоў сабірай: падкутных, запечных, замежных, панытных, крапіўных, лятучых, курчучых, мяшавых, граявых, вадзяных, стрэхавых, легавых, рабых, жарых, і з етага раба божага (імя) свой яд выганяй, з буйнай галавы, з шчырага сэрца, з гарачай крыві, белага цела, румянага ліца і быстрых глаз, з рук, ног, касцей, мазгоў, жывата і жыл і пажыл. А то прыйдзе святы Міхаіл-архаіл —

будзе вас сваім судом судзіць і штыхом сажаць, у ражжонную печ брасаць, і не будзе вам пашчады на святое Уздзвіжанне. На моры, на акіяне ляжыць камень Алтыш; табе, уж Ермалай, на галаву залаты вянец, а ў етага раба божага яду канец.

## 374. Ад змяі

Першым разам, гасподнім божым часком Госпада Бога прашу прыступіць. Памажы гасподняй Прачыстай мацеры ўсялякага гада яд угавараці.

Ішоў Гасподзь із кіем, а ў тым кіі Хрыстова кроў, а ў тэй крыве ўсе вужэ, усе мухі, слімене, мухі-рабухі, жабы-жабіцы, яшчарэ-яшчарыцы. Усе гэтакія збірайцеся, усялякага гада яд угаварайце, Хрыстовае кроўю злівайце, вопухлі, гарачку выключайце.

## 375. Ад змей

Баславен Бог, баславен Сус Хрыстос, баславенна дзева Марэя.

Загаварую я Арыну, Марыну, Катрыну, Магдалену, Галубею, Аўдакею, Шкурлупею, Настасею. Змяя-вераценіца, унімі сваю вайську́, пухліну і ярасць і жарасць. Ня унімеш ты — я ўніму: у караб цябе пасаджу, на сіняе мора ўспушчу. Як узымецца вална бура, разаб'ецъ тэй карабель. Я карабель сабяру, зялезным [і] гвоздзям [і] саб'ю, на вас чарвей нашлю. Ты, вадзіца-царыца, абмывала крутыя беражкі і жоўтыя пяскі, абмый раба божага — табе на сінім моры слава.

## 376. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Змяя ж ты вераценіца, змяя пярвовая і друговая, трэцёвая, чэцьвяртовая, пятовая і шастовая, сямовая і васьмовая, дзевятовая, дзесятовая,— унімі сваю вайську́, пухліну і ярасць, і жарасць. Ня ўнімеш жа ты, я ўніму: Госпаду Богу памалюся, Ісусу Хрысту пакланюся, святога Міхайлу-арханела з неба спрашу. Раскапаю я вашы пяскі, горы і пяшчэры, вывяду я ваш род і плямення. Ты вадзіца царыца, абмый раба божага — табе на сінім моры слава.

## 377. Ад змей

На кыяньскай гарэ, на трыяньскай траве стаіць яблыня; на той яблыні залатое гняздо; у том гняздзе змяя — царыца Еле-

на. Царыца Елена, унімай ты сваіх змей — вадзяных і палявых, і лесавых, падмежных, падстрэшных, падкутных, і лятучых, і рабых, і чорных, і перапялёсых. А ня будзеш ты ўнімаць — будзем кожу тваю чартаваць. Сіні агонь, раскладзіся, і рана, залячыся, і жала, запякіся.

## 378. Ад гадзюкі

На сінім моры стаіць дуб зялёны, на тым дубі трыдзевяць каранёў, на тых трох дзевяці каранёў да трыдзевяць какатоў; на тых трох дзевяць какатоў да трыдзевяць гняздоў; у тых трох дзевяці гняздоў да трыдзевяць гадзюк; над тымі да трыдзевяць гадзюкамі да тры старшых: адна Гася, другая Зося, трэцяя Яўгіння. Куцая, жарая, рабая, сірановая, хлявовая, гнаявая, крапіўная, падтынная, і лесавая, і баравая, і верасава́я, балацяная, махавая, земляная, вадзяная — каторая ето гадзюка ўпусціла жала і запуская ядрасць? Я ж ёй кажу і гражу: вынімай сваё жала! Ня вынеш ты етага жала, такога зелля табе дам — з жывыя з цябе парву жылы і па́жылы.

## 379. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Ездзіў конь па чыстаму полю, шукаючы і пытаючы ад гада зелля — ад лятучага, ад паўзучага, ад межавога, ад лесавога, ад палявога, ад падпешнага, ад падмежнага, паддарожнага (і г. д.). Ты, дзявіца, сваю жэсь умаўляй, і людзей ня кусай, і вопухі ня пускай. І господзь Бог з помаччу, а я з словам.

## 380. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Ішоў Гасподзь Ісус Хрыстос у зялёныя лугі гуляць, усякіх разных траў, цвятоў сарываць, і ўсякія разныя раны змяіныя прыкладаць і ўсе яе раны заціраць. Фуф, на яе господні дух! Ішоў Гасподзь у зялёныя лугі гуляць з гліную, з пячыную і ўсякую разную кірпячыную, і ўсякія разныя раны змяіныя прыкладаць і ўсе яе раны заціраць. Фуф, господні на яе дух! Маць, царыца нябесная, Божжая мацер Казаньская, устань рабу божжаму на помач, а нам з хазяіным на радасць.

## 381. Ад змей

Ішоў Аўгуст па шырокай дарозе, узыйшоў на крыжавую дарогу; на крыжавой дарозе стаіць дуб, у тым дубу змяіны зуб —

кусаў і рваў рабу божаму цела. Я твой яд вымаю, канапляным і макавым зернем адсыпаю, цябе праклінаю і адсылаю к дубу, к змяінаму зубу.

### 382. Ад змей

На моры, на кіяні, на востраві на Буяні стаіць стар дуб, пад тым дубам стаіць карваць, на той карваці ляжаць пярыны мяккія, пухавыя, на тых пярынах ляжыць вуж із вужаніцай, муж із мужаніцай. Я к ім прыходжу і іх прашу: вуж із вужаніцай і муж із мужаніцай, вылятай, выпаўзай, сабірай сваіх верных подданых вужэй і вужаніц; сабірай падтынных, сабірай вадзяных (і г. д.), падплатных, грэбельных, і падкалодных, і падмостных, і вынімай сваё лютае жала і злы яд з раба божага, з шчыра сэрца, з раціва жывата (з круглага капыта — у каня, і з двайнога капыта — у каровы), каб і сэрца ня сушыла, і жывата ня крушыла, і цела ня знабіла, і касцей ня ламіла. Каторыя слава запомніў — тым амін.

### 383. Ад гадзюкі

Сядзіць гадыня ў пні, дзяржыць ключы сярэбраныя, замыкаець усім гадам зубы і губы. Гад, унімі свой яд, гад, унімі свой яд — буду біць цябе кнутамі, буду цябе сцябаць прутамі.

### 384. Ад гадзюкі

Вотча... Гад-гадзік, гад-гадзік па межам хадзіў і ўклюнуў чалавека раба божжага курыным носам, і не запусціў кур'яга носа і агнянага джала. А ўклюнуўшы, кі мору пайшоў (3 разы). Кі мору прыйшоў, не пераплыў дунай-мора, не замачыў залатога чэрава, зялезнага хваста, кур'яга носа. Кур, кур, кур! Ху!

### 385. Ад укусу змяі

Змія гад, вазьмі свой яд! А то я вазьму тры кіі зялезных, тры кіі медзяных, тры кіі дзеравяных і выб'ю ўсе твае царства і пакалення. Амін, амін, амін.

### 386. Ад гадзюкі, вужакі і сліўня

Сас муж, а царыца Хаўра, унімай сваіх слуг і падруг падкалодных, падбалотных [і палявых, і лесавых, і заблудных,

і курдупых]. А ня будзеш унімаць — буду прасіць святое Юр'я і Ягор'я. Прыедзець святы Юры і Ягоры на белым кані, возьмець тры пруты медных, тры пруты зялезных і пагоніць вас на зялезны ток, і будзець біць, прабіваць і скрозь землю праганяць. І ня будзець вам збыту [ні ў лузе пад травою, ні ў полі пад мяжою, ні пад кустом, ні пад лістом, ні ў доме пад бярном і ні пад гноем].

### 387. Ад гадзюкі, вужакі і сліўня

Ёсь на моры, на кіяні выспа, на той выспі стаіць караваць, на той караваці ляжыць залатое гняздо, у том гняздзе ляжыць вуж. Вуж ты мой, вуж, добры ты мой муж. Сам ты ў серабры, рожкі твае ў золаці — унімай, вуж, вужнят, слімень, слімянят і жала вынімай з жоўтай касці, [з буйнай галавы, з ясных вачэй, з чорных бравей, з гаручай крыві, з белых жыл, з усіх сустаў]. А ня ўнімеш, не ўпрашу я цябе — упрашу святога Міхаіла-архаіла: будзець ён вас усіх сабіраць, Кузьме-Дзям'яну ў кузню перадаваць. [Кузьма сваё жэзла распякаець, і табе зубы, губы і жала запякаець].

### 388. Ад вужакі

Па дуброві, па шчыру па бору ляжыць дарога; па той дуброві ездзіў Міхаіла-архііла; ля тэй дарогі стаіць сасна звонкая, сасна громкая, сасна сухавершавая; на той сасне сядзіць вуж, чэсны муж, цар Мікідыён.

— Цар Мікідыён, нашто ты майго раба ўкусіў?

— Не я!

— Ты!

— Не я!

— Не, ты!

— Не, не я!

— Ну, ня ты — дзеці твае, ня дзеці — унукі, ня ўнукі — праўнукі, ня праўнукі — прашчыры. Унімай сваю чэр, не пушчай свае паганыя рыдосьці, а то будзем прасіць Госпада Бога і Міхаілу-архіілу. Міхаіла будзець варанога каня сядлаць, зялезны кнут куваць, на Сіяньскае поля ўзганяць. Там ляжыць камень Латыр; будзець к камню прыганяць, вашы галовы адсякаць, за сінее мора брасаць — вашага і 'трыгу ня будзець. Не сам сабою, Гасподзь са мною.

## 389. Ад гадаў

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай мацеры пакланюся, усім сетым празнічкам рокавым, прыступайце, дапамагайце (імя), вужа ўгаварайце. Не я шаптала, Прачыста Божа маці з прэстола ўставала, на сябе залатыя рызі накладала, Ісуса Хрыста на ручках дзяржала, усёму свету помачы давала, ад раба божага (імя) вужа ўгаварала.

Ехаў Юрэй-Грыгорэй на вараном кане, на залатом сядле. Рубае розкі і бярозкі на пановай сенажаці. Сабралісь вуж і вужыцы, гады і гадзіцы — семдзесят сем. Адна гадзіца, самая царыца, каторая з га́дамі грала, шоб вона яду не пускала, да сэрца опуху не дапускала. Серэд балота ляжыць гніла калода. Там дзявіца Марыта, там гад, рабы гад, паловы гад, чорны гад, рабы гад, забярыце свой яд.

## 390. Ад гадзюкі

У вялікі дзень да абеда спусціўся Гасподзь і з неба на буланым кані. Конь па полі гуляе, к сіняму мору падбягае. На тым моры ляжыць камень, на тым камні кава-кавіца, красная дзявіца, не ўмее чытаць, ні пісаць, толькі гадам і гадзюкам жала замаўляць. Я з словам, Гасподзь з помаччу.

## 391. Ад сліўня, сляпня, сліжа

На Вялікадзьня да абеду сашоў сам Сус Хрыстос з неба, ездзіў па полю на буланом каню, яду шукая, зяленую траву прыкладая, жоўтым пяском прысыпая. На сіням моры, акіяні ляжыць Латар-камень, на̂ Латары-камні Хава-Хавіца, красная дзявіца, пісьма зная да імя ня зная,— раба божая Агапа ад гада памагая: з жоўтыя касці, з буйныя галавы, з ясных вачэй, з гаручыя крыві, з салодкага мозку, із жыл і з пажылак; і не камар укусіў — не свярбя й зажыве.

## 392. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Цар Паўлік, цар Жаглік, царыца Паўліца і царыца Жагліца, царыца Рупія і царыца Пратупея, упрашаем вас: заклінайце сваю заклятую чэр! А ня будзеця заклінаць, то будзем мы піва варыць, сыту сыціць, кануны спраўляць, а з вас жылля-карэння выцягаць.

### 393. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

На моры, на кіяні, на востраві на Буяні стаіць стар дуб; пад тым стар дубам стаіць ліпавы куст; пад тым ліпавым кустом ляжыць чорнае руно; пад чорным руном ляжыць змяя Сукрапея, і змяя Ярая, і змяя Пераярая — тры сорты. Я к ёй прыходжу і яе прашу: ты, змяя Ярая і змяя Пераярая, вылятай і выпаўзай, і сабірай усіх змей Сукрапей, Ярых і Пераярых, чорных і рабых, і жоўтых і жоўтабрухіх, сабірай палявых, сабірай межавых, лесавых, балотных, і падкалодных, і падтынных, і падавінных, і падхатных; і вынімай сваё люта жала з рыжыя шэрсці (ці з раба) і свой злы, ліхі, акаянны яд з шчырага сэрца, з рацівага жывата, з чорныя печані, з белых лёгкіх і патраха, з галосныя гартані, з ясных вачэй, з слухавых вушэй, з баявых наздрэй, з буйныя галавы; калі ня будзеш вынімаць, то буду цябе заклінаць са ўсімі святымі царквамі і са ўсімі святымі кіяўськімі, пяшчэрськімі машчамі. Каторыя слава запомніў, тым амін.

### 394. Ад сліўня, сляпня, сліжа

Ехаў цар на буланым кане, на сярэбраным сядле, сярэбраным вяслом аграбаецца, да царыцы Зіпы дабіраецца. Ты, царыца Зіпа, прыкажы сваім сястрам родным: як етаму чалавеку ня загібаць і к зяленай плахці гадыніну галаву прыкладаць, сярэбраным палашом галаву адрубаць да жоўтыя касці, да рыжага мяса. Як на моры стаіць явар, пад тым яварам ляжыць белы камень, на том камяні сядзіць святы Пятро, у кніжку чытая, ён гадыні сіпучай кіпучай зуб замуўляя.

### 395. Ад сліўня, сляпня, сліжа

Слівянь слівяністы, рассучы, паўзучы, калазовісты, палазовісты, сляпы, нявідушчы, нашто ты етага хрысцяніна пакусаў, нашто ты яго абідзеў? Пойдам к Богу судзіцца, з ранныя зары да вячэрнія, а з вячэрнія да звёзд, ад звёзд да месяца, ад месяца да яснага сонца, ад яснага сонца да Госпада Бога. Вот там будзя сліўню мука і трэсканне, лопанне і вялікае высцянанне.

### 396. Ад сліўня, сляпня, сліжа

Хадзіў Гасподзь Бог па сіняму мору, сварыўся й гразіўся на гада і на гадзіну і на гідаўніка. Калі гад укусіў — выкацься

бабовым зерням; а гадзіна ўкусіла — выкацься макавым зерням; а гідаўнік укусіў — выкацься вячэрняй зарой, чужаземськай расой з рыжага мяса, з белай касці, з гаручай крыві.

## 397. Ад гадзюкі

На паповай сенажаці, на дзяковай ніўцы, там сядзела тры дзявіцы: адна шые, друга вышывае, трэця вужаку шэпча. Ішоў Госпад мостам-пакостам, устрачае Божу мацер:

— Куды ты йдзеш, Божая маці?

— Іду к рабе божай (імя) вужаку шаптаці ад яе салодкага мяса, ад яе чырвонай крыві, ад яе жоўтай касці, ад яго шэрсці, каторы жало ўстрамляў, каторы яд пускаў. Ты, паўзушчая, згінь, прападзі, а ты, жывушчая, жыві.

Выйду я на гару. Збірайцеся, гадзюкі і гадзянята, яшчаркі, яшчаранята, вам Божа маці прыказала, шоб вы бела цела не чапалі, чырвонай крыві не сасалі. Там зялёны луг, там зялёны дуб, пад тым дубам ляжыць зялёны вуж. Уставай, вужэ Гарасіме, забірай сваё стада, вядзі на сіне мора, там будзе цар і царыца і гадзюка-шасцярыца. Каторы жало ўстрамляў, каторы яд пускаў, ты, паўзушчая, згінь і прападзі, а ты, жывушчая, жыві.

## 398. Ад укусу гадзіны

У полі стаіць ліпавы корч, пад ліпавым карчом ліпава калода, на той калодзе шло тры дзевы Марыі. Яны шэпчуць ад усякіх гадаў, ад усякіх ядаў. Гад рабы, гад белы, гад жоўты, гад чырвоны, гад палавы, гад балотні, гад падкутні, гад падпарожні. Гад, бяры свой яд, нясі ў крутыя горы, у глыбокія норы. Там табе піці, есці, гуляці і свой яд забіраці, і маю (каму шэпчуць) кароўку не кусаці.

## 399. Ад гадзюкі

На залатым полі стаяла залатая ігрушка, на залатой ігрушцы залатое гняздзейка, а ў том гняздзейку цар з царыцай словы прамаўлялі, пухліну замаўлялі ад усякага гада — ад чорнага, ад рабага, ад белага.

## 400. Ад вужакі

Вужака, сіпуха, хрыпуха, у межы ляжала, хрыпела ад усходу да захаду. Прыйшла да яе прысвятая Пяценка з трыма дачкамі. Первая Роха, другая Зося, трэцяя Тацяна. Тацяна жыгала вымала, ад вужакі замаўляла. Гэтаму свету канца нет, а табе, жыгала, канец.

## 401. Ад вужа

Ад усходу сонца да заходу шла святая Пяцінка Праскавея з трыма дачкамі. Адна ў срэбры, другая ў злаце, трэцяя ў сапаце.

— Куды ідзеш?

— Гадуню замаўляці.

Старшая сіпіць — сіпуха. Садзяржы сваіх дванаццаць дачок: межавую, куставую, хатнюю, хляўную, вадзяную, лясную... і тую паросную. Нашлюць цябе пціцы бацяном, звядуць твой род і плод. Вынімай свой яд назад. Як жоўтым пяском не растаці, так ў (імя) жыгла не бываці.

## 402. Ад укусу змяі

У чыстым полі, у шырокім раздоллі ляжыць камень, а на камні — змяя. Прашу я цябе, змяя, унімай сваіх слугаў: хатніх, падхатніх, аконных, падаконных, чаратавых, лазовых і мяжовых. А не будзеш унімаць, то будзем тваім ядам і кроўю чорную карову памазваць, і болі не пускаць, і ятрасць замаўляць.

## 403. Ад змяі

У полі, у полі стаіць грушка, у той ігрушцы — кубельца, у тым кубельцы ляжала тры гадзюкі: адна чорна, друга раба, трэцця чырвона. Чорная, раскруціся мачынкаю, рабая, раскруціся гарошынкаю, а чырвоная, раскруціся ружаю. Сыдзіся, брыдзіся, век не памяніся.

## 404. Ад гадзюкі

Ішлі тры гадыні па шырокай дарозі, узышлі на крыжавую дарогу. На крыжавой дарозі стаіць дуб, у тым дубу змяіны зуб. Я твой яд атымаю, цябе праклінаю і адсылаю к дубу, к змяінаму зубу.

### 405. Ад гадзюкі

На сінім моры стаіць дуб, на том дубе ляжыць падушка пухавая, на той падушцы ляжыць змяя серанавая, збірае ўсіх сваіх падруг: паравых, гнаявых, куставых, балацяных, падтынных, падплотных, каляінных, падхатніх, падкаменных, лугавых, баравых. Загаварую чэлюшчы-прашчурышчы. Выйдзі, яры зуб, далой. Ссылаю на мхі, на балата, на ніцыя лозы, там, дзе сабакі не брахалі і сарокі не шчакаталі.

Госпадзі, любі мой дух!

### 406. Ад вужа

Дзень добры, вуж, добры муж, чырвоная галава, залатая барада. Тут табе не быць, душы не таміць, касцей не ламіць, сэрца не спаліць.

### 407. Ад вужа

Хадзіў куцы-буцы па лясам, па балатам, па шчырым барам, па жоўтым пяскам, яд пускаў рабу божаму Пятру. Раба божая Агата захваціла, яд загаварыла, вопухаль не пусціла — ні свярбучага, ні калючага, ні балючага. Я, бабка, славамі, Гасподзь сваімі думамі. Дай Бог у час добры, любі мой дух лёгкі.

### 408. Ад гадзюкі, вужакі, сліўня

Святы аўторак, ранная зара, сонца ўсходзіць, іграець, сырая зямля ўсіх нас садзяржаець, праслаўных хрысціян, і звяроў і гадаў — і лятучых, і бягучых, і паўзучых. Я ж гадыню замаўляю кутавую, печавую, межавую, баравую, лазавую, хлевавую, садовую, вадзяную, гнаявую, бягучую, паўзучую, лятучую — іх дванаццаць сясцёр — усіх замаўляю, усіх забіраю. Гад, гад, аддай свой яд, а як не 'ддасі, я цябе закляну і з свету звяду.

### 409. Ад гадзюкі

Лячу гадзюку шэрую, жоўтую і белую, хатнюю, межавую, хлевавую, падпечную, дамавую. Збірайцеся ўсе. Калі не зберыцёся — пасяку, парубаю, на колле паўстыркаю.

## 410. Ад гадзюкі

На моры, на лукамор'і стаіць вярба, на той вярбе семсот галля, а ў том галлі звіта лапухова гняздо, у тым гняздзе ляжыць Ева-царыца. Ева-царыца, сунімай сваю чэлядзь — гнаявую, сцернавую, сіранавую і жарую і чорную, палавую і рудую, буланую, земляную і вадзяную, не давай волі, вынімай свае жалы і яды із жоўтыя касці, ясных вачэй, гарачыя крыві, з белых жыл, з усіх суставаў.

## 411. Ад змей

Даю ад гадыні, ад куціхі, ад гнаіхі, ад кусьціхі, яд мяжыхі, ад рабухі, ад чарнухі, ад сіпучыя, ад хрыпучыя, ад паўзучыя, ад лятучыя, ад палявыя. Лесавая, свае сям'і не распускай і вопуху не пускай.

## 412. Ад гадзюкі

Госпадзі Божэ, прыступі і памажы чорнай карові яд угавараць, жала замаўляць. Старшы Захарэвіч, чаго ты замсціўся, чаго спакусіўся, сціскай зубы і опухаль не пускай. Вадзяны, да вады, лазяны, да лазы, травяны, да травы, дарожны, да дарогі, ідзіце, жала цягніце. Не ачучвайся, не ат'ятрывайся, не ўпамінайся ні ў маладзіку, ні пад поўнай, не ўрушай ні ўсхода, ні перэкрой месяца.

## 413. Ад гадзюкі

У чыстым полі залатая галава. Каля тае галавы сабіраліся гадзюкі — шаранавыя, берагавыя, верасавыя. Сабіраліся, гулялі, свой яд размаўлялі. Табе, яд, гнілую калоду глытаць, а (каго лечыш) прастор даць.

## 414. Ад змяі

На сінім моры стаіць тры дубы, а на тых дубах па тры гнязды, а ў тых гняздах па тры сястрыцы сядзіць. Не первая, дак другая, не другая — трэцяя, не трэцяя — чацвёртая, не чацвёртая, а пятая, не пятая — шостая, не шостая — сёмая, не сёмая — восьмая, не восьмая — дзевятая, не дзевятая — дзесятая, не дзесятая — адзінаццатая, не адзінаццатая — дванаццатая. Гад, гад, прымі свой яд.

## 415. Ад укусу змяі

А зьмія, зьмяіца-скарлупіца! Ад чаго ты, зьмія, зарадзілася: ці 'т лун, ці зьвезд, ці яснага месяца, ці ад краснай солнушкі? Зарадзілася я, зьмія, ня 'т лун, ня 'т зьвезд, ні ад яснага месяца, ні ад краснай солнушкі — зарадзілась я, зьмія, з-пад ракітага куста, з-пад кацістага камня. Арэхаў куст вон — з мяне дух вон.

## 416. Ад ґадаў

Гад Якаў, гадзіца Якавіца! Гад, гад! Вазьмі свой яд. А ня возьмеш свайго яду, я пайду на Кіян-мора. На Кіяні-моры ляжыць Латыр-камінь. Я з Латыра-камня вазьму агню, з пітуна крыві, выжгу ўсі мхі, усі балоты, усі крутыі берагі. Ня будзіць вам ні прыстанішча, ні прыбежышча.

Ветка і млада марто, мая месяца — ва векі вяком.

## 417. Ад змяі

Вуж-вужавень, пад мяжой не ляжы, чалавеча цела пры сабе не дзяржы. Чалавечае цела аддай чалавеку, а сваё да сябе бяры.

## 418. «Ад укушэння змяі»

На сінім моры дванаццаць дубоў. Пад тымі дубамі дванаццаць папоў чытаюць, паганыя зубы замаўляюць.

## 419. Ад вужа

Вуж-вуж, гадзіна! Ярка хвосцікам вільніся, язычком лізніся, вымі жалка.

## 420. Ад змяі

А ты, змяя-гад, вазьмі свой яд. Ня возьмеш свой яд — пойдзеш у землю.

## 421. Ад вужакі

Медуніца, медуніца, караніся караніста, а ў вярху верхавіста. Святой вадзіцы ў ражок, а здароўе ў жыватак.

### 422. Ад гадзюкі і вужа (як ідзеш у лес)

Іду я ў дарогу, нікога не баюся. Вуж — нядуж, гадзюка забалела.

### 423. Ад змей

Змей паўзучы, змей лятучы, змей кусучы, паўзі ў яму, сядзі, пака я набяру ягад. Закрые табе хай цёмным пяском вочы, штоб ты не бачыў мяне ні ўдзень, ні ўночы.

У лес уходжу; харошы чалавек, прайдзі, а плахі не дайдзі, а я што сабе жадаю, тое сабе дабываю.

### 424. Ад змяінага ўкусу

Змяя Шыпуха, бойся майго духа да мелкай вады, поснай каляды.

### 425. Ад змей

Вуж-вужыла, твой цар Даніла, кусаў, ірваў раба божжага цела. Я твой яд вымаю, цябе праклінаю.

### 426. Ад вужа

Я з таго свету Яўхімачку ўспамінаю, усякага вужа загаварую: вужа чорнага, вужа сівога, вужа рабога, жарага, ядавітага. Дванаццаць вужоў, дванаццаць князёў, прыступіце і з Валяччынага цела ўсякую вопух як здыміце.

### 427. Ад сліўня, сляпня, сліжа

Пятніца не ядрыцца, сыбота памаганніца, нядзеля падыманніца,— памагаеця ўсяму міру храшчонаму, пamажы рабу божаму. Як на сінім моры агонь патухая, так у раба божага ядрасць (пухліна) аблягая.

### 428. Ад гадзюкі

Ехаў святы Ягор на сівым кані ў залатым сядле і залатым срэбры. З меха зерне рассыпае, з нагі яд зганяе, яд вужовы, яд гадзючы, яд балючы. Гад, бяры яд назад. Святы панядзелак, дай Божа нам на помач.

## 429. Як вужака ўкусіць

Вужаку замаўляю,
Бога на помач зазываю.
Вужаку замаўляю вадзяную —
Стань, Божачка, на помач.
Вужаку замаўляю балотную —
Стань, Божачка, на помач.
Вужаку замаўляю лясную —
Стань, Божачка, на помач.
Вужаку замаўляю межавую —
Стань, Божачка, на помач.
Вужаку замаўляю падпечную —
Стань, Божачка, на помач.
Вужаку замаўляю кубавую —
Стань, Божачка, на помач.
Вужака-гад, вынімі свой яд.
Ранняя зарыца,
Усяму свету памачніца,
Памажы.

## 430. Ад шалу

Госпадзі Божа, багаславі, Прэсвятая маць Бугуродзіца, помачы дай!

У чыстым полі на Сіяньскай гарэ стаіць дуб; пад тым дубам сядзіць старушка стáранькая, кладзець аганёк сіненькі і сільненькі, пякець сала і пускаець духі на ўсе сухія цёмныя лясы. Унімай, бабка, сваіх ярых шалёных сабак ад ярага зуба, ад жаркага агня, дай помачы рабе Ганні. Не дасі помачы, то я пайду к Міхайлі-суддзе праведнаму, то будзець цябе судзіць, зялезным пруццем мяса тваё рубіць. Ета ж не я гавару — гаворыць сам Гасподзь Бог, Ісус Хрыстос, і Прэсвятая маць Бугуродзіца, а я раб-чалавек лі помачы.

## 431. Ад шалёнага сабакі

На моры, на кіяні, на востраві на Буяні стаіць дом; у том домі стаіць старыца і дзержыць ана жала.

Ты, старыца, вазьмі свае жала і прыйдзі к рабу божаму (імя), вынь із раба божага (імя) жала смертныя!

Загаварыю раны калючыя на руках, на нагах, на галаве, ва лбу, на затылкі, на брывях і на падбародкі. Будзьця ва векі

вякоў на сабакі чорный, серый, красный, сядой, рыжый, белый — сядзіця і ва векі не сходзіця!

## 432. Ад шалу

Стану я рана, умыюся бела, памалюся Богу верна, выйду я ў чыстае поля, гляну пад вутраную зару на каянь-мора. Віджу-бачу — на каяні-моры стаіць старэнькі старычок з залатым цапочкам.

— Дзень добры табе, дзедзічка-лябедзічка!

— Здароў! Чаго ты, чалавек Пятрок (знахар), ходзіш?

— Хаджу я к табе — паратуй мяне!

— Чым цябе ратуваць?

— Паратуй мяне, Петрака: пакусаў маіх шалёны сабака і кусака кароў і коней, авец і свіней, і сабак і кошак!

— Да, чалавеча добры: нахалнаю смерцю не прападаць — нада ратуваць. Я цябе не паратую, а я табе насаветую: выйдзі ты ў чыстае поля і глянь пад вутраную зару на каянь-мора. На каяні-моры востраў, на том востраві тожа стаіць стар старычок з залатым цапочкам,— тэй цябе паратуя і хлеб табе нагавора ад шалёных сабак і кусак!

Выйду я ў чыстае поля, гляну на каянь-мора пад вутраную зару, віджу-бачу — стаіць старэнькі старычок з залатым цапочкам.

— Дабрыдзень, дзедзічка-лябедзічка, паратуй ты мяне!

— Здароў! Чым цябе ратуваць?

— Пакусаў шалёны сабака і кусака маіх кароў і коней, авец і свіней, сабак і кошак!

— Я табе хлеб нагавару ’д шалёнага сабакі і кусакі. І шалёных сабак зганю я за шчырыя бары, за цёмныя лясы, за мхі, за балоты, за гнілыя калоды і за лютыя воды, а дзе людзі ня ходзюць і зьверы ня бегаюць, і пціцы не лятаюць; там ня слышна ні кароўськага рыку, ні пятуховага крыку,— там ім прападаць, шалёным сабакам і кусакам, і назад не ўзварачацца. А хлеб табе нагаварыў: будзя помашчай тваім каровам і коням, і оўцам і свінням, і сабакам і кошкам. Дух Святы памагай табе, амін.

## 433. Ад шалу

Первым разам, добрым часам. На моры, на кідані, на рацэ на Ірдані, на круценькам беражочку, на жаўценькам пясочку, там сядзіць дзедзька, беленькі, маленькі, невялічкі: ходзіць ён па чыстаму полю, па сіняму мору, ламаець трусочак калінавы

да малінавы (вар.: рабінавы); раскладаець сіні [а]ганёчак, пушчаець ён свой душочак на ўвесь белы святочак ад таго шалякі — ад сабакі, ад ярага зуба, ад сукі. І ссылаю і збаўляю раба божага чалавека (ці скаціны, чорнай шарсьціны) не сам сабою — Госпадам Богам, Ісусам Хрыстом, Міхайлаю-арханіем, страсцкім вялікім суддзёю праведным, ваяводаю. Ссылаю, збаўляю шаляку, сабаку, шум яго, дур на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, а гдзе людзі ня ходзюць, птушкі не лятаюць, расы ня 'ббіваюць. Там табе і быць, і гуляць, і дур свой пускаць, і ў раба божага чалавека (ці скаціны) век вешны ня бываць, агнём не паліць, касьцей не ламіць. Амін.

### 434. Ад шалу

На полі на кіяні, на моры на сіяні ляжыць камень Латыр; на камені на Латыры сядзіць сівенькі старэнькі дзедзька, ламаець трусок калінавы, пускаець пашок (пах) малінавы. Ты, старэнькі дзедзька, унімай жа ты сваіх слуг — сабакаў-шалякаў, каб яны пó свету не хадзілі, скату і народу не кусалі. А то я буду самаго Госпада Бога прасіць, будзець цябе сам Гасподзь Бог громам біць, маланнёю паліць. Загаварую ж я зубы-пáзубы, губы-пáгубы, лёхкі-пáлехкі, жылы-пáжылы, косьці-пáкашчы.

### 435. Ад шалу

Зара-зараніца, божая памашніца, памажы мне, Госпадзі, шал загавараваць (прыкласці хлеб к паленцу). Як етаму дрэву на сём свеці ня шумеці, ня меці зялёныя квеці, так чалавеку (ці худобіні) шалу ня меці.

На Сіяньскай гарэ стаіць хатка, у тэй хатцы дзедзька-лябедзька, па ймянню Аўдзейка, зялезнай пугай сілістая, яры зуб замаўляя, з буйныя галавы, з гарачыя крыві шал выбівая. Выгаварую з касьцей, з машчэй, з жыл, з пажыл, з гаручыя крыві, з жоўтыя касьці, з ясных воч.

### 436. Ад шалу

Памяні, Госпадзі, першага цара Давыда, сына яго Саламона, усе кротасці яго. Як цар Давыд меў сілы, сакруціў неба, воды і землі, цароў, каралёў і прочых сілных-магушчых багатыроў, сакруці, цар Давыд, яры шал з раба божага Івана, з усяго скага, з усяго прыклада (калі ня ведаеш, каго пакусаў, каго не). І вывадзі, цар Давыд, яры шал з коней з гнядых, з вараных,

з сівых, з пегіх, з пляснівых. І вывадзі, цар Давыд, яры шал з кароў і з быкоў, і з цёлак, з рыжых, з чорных, з рабых. І вывадзі, цар Давыд, яры шал і з авец і з бараноў, з белых, з сівых, з чорных і з рыжых. І вывадзі, цар Давыд, яры шал з свіней і з вапроў, і з парасят, з белых, з чорных, з перапялёсых. І вывадзі, цар Давыд, яры шал із сабак, і з сучак, з буйныя галавы, з ясных воч, чорных броў, з рацівага сэрца, жылля і пáжылля, із касьцей, із пакасьцей, з печанёў, з леганёў, із-за капытоў, із-за нагцей. І вывадзі, цар Давыд, яры шал на мхі, на балоты, на гнілэя калоды.

На мхах, на балотах, на гнілых калодах стаіць дубовы пень; на дубовым пні ярае шалава гняздо; у тым ярым шалавым гняздзе залатэй ланцуг; на тым ланцугу стаіць ярні шал: во там табе, яры шал, жыць-прабываць, бяседаваць, а ня тут табе. Хух! Плюх! Гасподні на іх дух! О Госпадзі Божа, мацер Божая, Прачыстая наша, Смаленьская, Пустыньская, Любаўская, стань рабу божаму і скаціні на помач, нам на радась.

### 437. Ад шалу

Ішоў Сус Хрыстос з ардою па калінаваму мосту. Ты, арда, вярніся, Ісус, ка мне абярніся, і шал, унініся.

### 438. Ад шалу

Памяні, Госпадзі, цара Давыда і цара Касцянціна, Веру, Надзежду, жываты вешныя. Судзержаеш царэй-каралей, сільных, магучых багатырэй, зямлю і ваду — удзéржы ету ярную шаласць. Выгаварую ярную шаласць разных шарсьцей із буйных касьцей, із рацівага серца, з буйныя галавы — вятхом і маладзіком, і чэсным днём суботаю: аставайся, ярная шаласць, на неспасобных местах, на сухіх дзеравах, на дымавых трубах.

### 439. Ад шалу

Памяні, Божа, першага цара Давыда і сына Саламона і ўсю кротась яго.

Зісподняга бярна, з яловага сука на пні не стаяці, суччу ня бушуваць, вецьві ня шумець. Ідзі ты на сіняе мора, на сінім моры Лот-камень, на Лот-камні тры слішнія панны. Там вам стаяць, суччу бушуваць, вецьві шумець.

Арóн, Мірён, Катарóн, Ідзіéн, Фідзіéн, Дзіус, Мэус, Ардэрон, Касія, Катарон, Брáса — устань, тры дзявіцы, амін.

## 440. Ад шалу («када сабака пакусае»)

Шопат, ропат, губам, зубам, жарам, ярам, яртус — вон.

## 441. Ад шалу

Ацец наш Аўрам усё поля ўзараў; жана яго Сара па полю хадзіла, цьвяты еты садзіла. А хто іх капаў, таму Бог памагаў.

## 442. Ад шалу

Стану пад ясным небам, пад яснымі зарамі, перад дробнымі звяздамі, перад жаркім сонцам і ясным месікам і нябеснаю калясніцаю. На моры-кіяні, на гарэ Сіяньскай, там ходзіць старычок, старэнькі, маленькі; ён ходзіць, гуляець, трусочак зьбіраець, калінавы і малінавы, жаркі агонь раскладаець і яры шал вынімаець, залатым храстом вугражаець і раба божага па імені ўзываець, Госпада Бога ўпрашаець.

На моры-кіяні, на востраві Буяні стаіць стоўп медны; кала таго стаўпа меднага прыкаваны тры цапы зялезных; на тых цапах прыкаваны тры пса лютых; кала тых псоў стаіць тры [а]собы: Кашура і Маўшура, Вахта і Бахта. Вы, тры [а]собы, прашу я вас: унімайця вы сваіх лютых псоў і не пускайця яду па беламу свету, на русы волас, на буйную галаву, ік рацівамy сэрцу! А не будзеця вы ўнімаць, то я пайду да самаго Госпада Бога. Госпадзі мой, Госпадзі, на вастоцы жарка сонца, на заходзі цар Давыд, сын Касцянцін, матушка Алена і Міхайла-архангал, суддзя вярхоўны, з апосталамі судзяржаюць неба і зямлю і храмы гасподні — судзяржайця вы і вынімайця еты яд, і печатуйця васкову свячу, і Гасподнею рукою наўсягды, ва векі вякоў, амін.

## 443. Ад шалу

Памяні, Госпадзі, першага цара Давыда і ўсю кротась яго, ласку святую.

Устану я раненька, і ўмыюся бяленька, і памалюсь Богу вярненька, узыду я на крутую гару і гляну пад красную зару — там стаіць медны дом, і залатая аграда, і сярэбраныя вароты. Усерадзі таго дома ляжыць белы камень, на том белым камні сядзіць стары дзяду — шалны цар, сіні агонь раскладаець, і кала яго сілны агонь шыбаець. Я к етаму к цару зайду і прыкажу:

— Ах ты, дзяду, ты дзяду, ты шалны цар! Занімай ты свой паганы шал і пракляты яд з раба божага (ці з скаціны). Ня будзеш занімаць — сымагушчага Госпада Бога буду на помач прызываць, і буду святых апосталаў Пятра і Паўла і Аноха ўпрашаць, і буду тваю сілу святымі апосталамі праклінаць, каб ты занімаў шал і яд пракляты з раба божага хрысьцяніна. А ня будзеш ты занімаць — сашлець Гасподзь Бог на цябе святых апосталаў Пятра і Паўла і Аноха; і сашлець Гасподзь сымагушчы на твой яд паганы Міхаілу-архангала, вялікага Архістраціха з войстрым, вогнянным мечам: усю тваю сілу акаянную і паганую агнём выпаліць і мéчам вырубіць (прыкладаць да ілба распаленае жалеза); сашлець тваю сілу і паганы яд на трохісподнюю зямлю, і на стаючыя воды, і на разучыя сокі, ідзе і сонца не грэець, і месяц не свеціць, і звёзды не глядзяць. І па сей дзень, і па сей час, па сею мінуту; і скоры поспех і на скорае ўрэмя.

## 444. Ад шалу

Як выйду я пад жаркае сонца і гляну на Сіяньскую гару — на Сіяньскай гарэ дзедзька-лябедзька, старэнькі і сівенькі, устаець ранёшанька, умуваецца бялёханька, ідзець на Сіяньскую гару, пад ясную зару, пад ясны месік, пад праведнае сонца. І страчаець сам Госпадзі і святая маць Прачыстая: дзедзька-лябедзька, старэнькі і сівенькі, устаеш ранёшанька [умуваешся бялёханька, ідзеш на Сіяньскую гару, пад ясную зару, пад ясны месік, пад праведнае сонца], і сабірай і васылай сваё шаластво з скаціны, рыжай шарсьціны, каб тваё шаластво жывата не паліла і ў галаве закрутнасці ня мела; і васылай сваё шаластво на Сіяньскую гару. На Сіяньскай гарэ стаіць Віхта і Бáхта, Мавшура і Бавхтýра, увесь шал прынімаюць і ўнімаюць.

## 445. Ад шалу

На моры, на лукамор'і ляжыць белы камень, на тым камні сядзіць дзедзька-белабарэдзька. Прашу ж я цябе, дзедька-белабарэдзька, штоб ты вынімаў шал ад гэтага сабакі-кусакі, забраў дух нячысты. Штоб ад гэтага сабакі-кусакі галава не балела, у вушах не шумела, мазгоў не круціла.

## 446. Ад шалу

Устану я рана-раненька, умыюсь бела-бяленька, узыду на крутую гару, зірну пад ясную зару — там стаіць дзедзька-лябедзька, стары, барадаты. Дзедзька-лябедзька, унімай свайго сабаку-кусаку, круцяку і вярцяку: укусіў ён раба божага, вынімай шал із касьцей, із машчэй, із чорных печаней, із сініх жыл, з гаручыя крыві і буйныя галавы, штоб у раба божага косьці ня ламіла, гаручыя крыві ня марыла, ясных вачэй ня круціла.

## 447. Ад шалу

На моры, на кіяні, на востраві на Буяні сядзіць старэнькі сівянькі дзядочак, калінку ламаець, сіні агонь прапускаець і шал і бешанства выганяець з скаціны, рыжыя шарсьціны, з шчырага сэрца, з рацівага жывата, з чорныя печані, з двайнога капыта.

Міжда крутых гор стаіць там буры вол. Як гэтаму бураму валу век з естых гор ня выхадзіць, каб так шалу-бешанству ў гэтай скаціні ня бываць, амін.

## 448. Ад шалу

Цар Давыд, скрапіў неба, зямлю, зоры і ясны месяц, скрапі маю просьбу.

З вусходу сонца на запад сонца ідзець старычок — сам з ногаць, барада па пояс, пуга сем сажаней, пугаўё з локаць. Ета самы шал. Вынімай сваю дурасць з касцей, машчэй, суставаў, буйныя галавы, ясных воч, з гаручыя крыві, з раба Панаса. А ня будзеш вынімаць — будзець цябе святы Ягоры сеч і рубаць, кап'ём прабіваць, тваю кроў разліваць.

## 449. Ад бешанага сабакі

Першым разам, добрым часам, вячэрняй зарою, добрай парою. На Саянскіх гарах, на недаўскіх землях там стаяў дуб на дванаццаць какатоў, там бываў дзед на дванаццаць галоў. Карэнне капаў, галлё ламаў, агонь разжыгаў, зубы і губы, сумашэчыства, яд загаварваў. Зубы і губы ад чорнага яду замаўляў, загаварваў, у сіняе мора патапляў. Я з духам, словам, а Гасподзь на помач.

## 450. Ад шалу

Кручу свёрдлам сухое дрэва, выганяю шал із душы, із цела ў шчыры бор і ў зялёны бор. Як у сухому дрэву і ў шчырам бару і ў зялёнам бару адростку ня 'драстаць, так у божжу ўздыханню шалу ня бываць і ня 'трыгацца.

## 451. Ад шалу

Травіца-шальніца, цябе Бог на свет нараджаў, а мне вялеў ірваць, а людзям помачы даваць.

## 452. Ад шалу

Першым разам, божжым часам. Наперад Госпаду Богу памалюся, а Прачыстай матцы пакланюся: Прачыстая матка, стань ты мне на помач — унімай ты свайго сабаку-кусаку, перакінь ты ключы цераз Сыботу-раку, а Прачыстай матцы ў руку. Як у маткі Прачыстыя ключоў нікому ня 'дбіраць, так ету скаціну, красну шчаціну ня ўражаць, па свету пускаць, па еты час, па ету гадзіну.

## 453. Ад шалу

На сінім на моры стаіць дуб кудравы, пад тым дубам кудравым стаяць краваці цісавыя і залаты пярыны пуховыя і адзіялы шалковыя. У тых у пярынах пухавых, ва дзіялах шалкавых ляжыць руна шэрсці, у той руні шэрсці сядзіць пціца Садзяржыца і Сакраціца, каторая садзіржаіць і закрычаіць усех сваіх пціц палетных і сабак забежных, і захожых, разных шарсцей, што яны ходзя зброднічаюць, распутнічаюць: укусілі скаціну, свае жала ўпусцілі. Скажыцця ім, штоб яны ўзялі к сабе, а еслі яны ня возьмуць яго к сабе, то я буду прасіць Міхайлу, вялікага Архістраціга. Ён прыйдзіць судзіць сваім страшным і грозным судом, з жазлом зялезным: разаб'ець краваці цісавыя, і пярыны пуховыя, і адзіялы шалковыя, і руну шэрсці, і будзіць вас біць па галавах малатамі, і будзіць вашы матаць кішкі на калясо, і агнём паліць, штобы вас не было на зямлі і вашага шалу. Амінь.

## ЗАМОВЫ
## СУПРАЦЬ ХВАРОБ

### 454. На забеспячэнне здароўя

Іду я к мору з вялікага гора, а ты, рыбка, страпяніся, ад гора адбіся. За тваю дабрату — хлеб-соль кладу. Хлеб-соль прынімайце і здароўе надзяляйце.

### 455. На забеспячэнне здароўя

Прашу я Бога і цябе, зямелька, ад цябе прытча стала. Калі не дзівіла — дак не дзіві, а падзівіла — дак адпусці. За тваю дабрату хлеб-соль кладу. Прымай і здароўе надзяляй.

### 456. На забеспячэнне здароўя

Папрашу таго, кім кладбішча занімалі. Святкі святыя, старыя і малыя, блізкія і далёкія, свае і чужыя, хлеб-соль прымайце і здароўе надзяляйце.

### 457. На забеспячэнне здароўя

Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем — наце вам круп усем. Крупы гэтыя прынімайце — здароўе надзяляйце.

### 458. Ад крывацёку

Ехаў Даніла на сівой кабылі і вёз жбан вады. Жбан атарваўся, вада разлілася. Стаіць хатка на курынай ножцы, а ў тэй хатцы старая бабка хлеб запякала і рабу божаму Грышку кроў замуўляла, маладзіка, ветаха і пад поўна.

### 459. Кроў замаўляць

Ехаў Даніла на сівай кабыле. Кабыла прыстала, у Ганны кроў перастала.

## 460. Ад крывацёку

Ішла святая Прачыстая матка Хрыстова гарою, нясла ваду дугою. Дуга, разагніся, вада, разалліся! Дуга разагнулась, вада разлілася, а ў раба божага кроў сунялася, печаной запяклася.

## 461. Кроў замаўляць

Ішла баба гарою,
Несла глёк з вадою.
Глёк разбіўся, вада палілася —
Кроў сунялася.

## 462. Каб кроў сунялася

Несла баба воду, зачапілась за калоду. Вада разлілася — каб кроў запяклася.

## 463. Ад крывацёку

Сусілі, мусілі, сем Селіванаў. Шоў дзяк чэраз масточак, нёс вады цэлы клечычак. Вада разлілася — кроў унялася.

## 464. Ад крывацёку

На сінім моры, ва кеяне ляжыць бел камень, на тым камні сядзелі тры панны Ганны, красны шоўк маталі, кроў астанаўлялі.

## 465. Ад крыві, ад ціску

Першым разам, гасподнім часам. Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамцы пакланюся і ўсім святым апосталам. Станьце (імя) на помач.

На полі стаяў дуб, на ім сядзелі тры дзявіцы — ні ткахі, ні прахі, толькі вышывахі. Чорным шоўкам вышывалі, кроў гаручую ўместа злівалі і з (імя) боль (урок, спуг, боль галавы і крыві) убіралі. З касцей, з машчэй, з рацівага сэрца, з буйной галавы, з гаручай крыві, па касцях не хадзі, жыл не тамі, сэрца не знабі. Ідзі, уся боль, на сінія моры, сухія пяскі. Там табе жыць-пажываць, а ў (імя) не бываць. Не я знаю — Гасподзь знае і мне памагае. Я з духам, Бог з помаччу. Амінь.

### 466. Ад крывацёку

На гарэ на Сіяні, на раке на Ірдані стаіць дрэва купарэс. Пад тым дрэвам купарэсам стаяць сталы дубовыя, ні цясовыя; за тымі за сталамі за дубовымі, за ніцясовымі сядзяць тры сястрыцы, і дзявіцы-красавіцы, і прадуць красны разны шоўк. Прадуць, выпрадаюць і ўзоры набіраюць. Сястрыцы-дзявіцы, прадзіця красны разны шоўк, выпрадайця і ўзоры набірайця, і краснага шоўку на зямлю ні ўраняйця, і з зямлі ні падымайця! У раба крові ні бываць! Амін.

### 467. Ад крывацёку

Цякець рэчка крававая,
На тэй рэчцы белэй камінь,
На ём тры дзявіцы.
Яны шыюць краснаю нітачкаю,
Нітачка парвалась —
Кроў увырвалась.

### 468. Кроў загаварваць

Прэсвятая маць Бугародзіца на залатую прасліцу прала, нітку атарвала, кроў завязала.

### 469. Ад крывацёку

Іду я з Госпадам Богам, з святой серадою. У Грышкі стаіць у полі ігрушка, пад тэй ігрушкай сядзіць тры сяструшкі: адна шыя, другая вышывая, трэцяя кроў замаўляя. Сам Сус Хрыстос із барана руно знімая і жарало затыкая і кроў сунімая.

### 470. Ад крывацёку

Ішлі тры Марэі і тры Марэі, усі тры родненькіх сястрыцы, ішлі яны з святым Міколам. Святэй Мікола сваю войструю меч вынімаець і кроў унімаець.

Ішлі тры Марэі і тры Марэі, усі тры родненькіх сястрыцы, ішлі яны сы святым Ягор'ям. Святэй Ягор'я сваю войструю меч вынімаець і кроў унімаець.

Ішлі тры Марэі і тры Марэі, усі тры родненькіх сястрыцы, ішлі яны сы святым Міхайлам. Святэй Міхайла сваю войструю меч вынімаець і кроў унімаець.

### 471. Ад крывацёку

Чараз залатыя кладкі, чараз сярэбраны мост іщлі тры сёстры, усе тры родны. Адна нясла злата, другая срэбра, а трэцця іголку і нітку шоўку — загуварывалі вопухі, ядрась, і зашывалі рану, і замуўлялі кроў.

### 472. Ад крывацёку

На моры, на акіяне, на востраве Буяне ляжыць гарачы камень Алатыр. На тым камяні сядзіць чырвона дзявіца, швачка-масцярыца, трымае іголку булатную, удзявае нітку мяльковую, руду жоўтую замывае, раны крывавыя зашывае. Загаварваю я раба (імя) ад заразы. Булаты, згінь, атстань, а ты, кроў, цячы перастань.

### 473. Ад крывацёку

На моры, на кіяні, на вострaві на Буяні стаіць дуб, на том дубу дванаццаць какатоў, на тых какатах нітка. А ты, нітка, уварвісь, у раба божага, кроў, уваймісь.

### 474. Замаўляць кроў

Первым разам, добрым часам стань, Госпадзі, на помач, святыя святочкі, гадавыя празнічкі.

Ішлі тры браты, тры Кандраты, няслі па тапару сіні камень рассякаць, рабу божаму Мікалаю крыві не пускаць. Датуль ты хадзіў, буяў, пакуль раба божая (імя шаптухі) прыступіла, лёгкім духам ухадзіла і ўгаварыла сваімі славамі, а Гасподзь сваімі думамі. Любі мой лёгкі дух. Ху!

### 475. Кроў замаўляць

Ішло тры браты дуба рубаць. Дуба не зрубалі і кроў замаўлялі. Цякло тры рэчкі: адна вадзяна, друга медзяна, трэця краўляна. Вадзяну вуллю, медзяну вуп'ю, краўляну замоўлю.

### 476. Ад крывацёку

Ішлі калекі чараз тры рэкі, капалі лужу, сеялі рожу; тая рожа ня ўзышла — штоб у раба божага кроў ня пашла.

### 477. «Ад крыві»

Ішлі тры калекі цераз чатыры рэкі. Лозу (чарот) уламалі і кроў замаўлялі: «Ішоў Ісус Хрыстос і Яне, няхай на тваёй ране кроў стане».

### 478. Ад цячэння крыві

Ішлі тры калекі цераз быстрыя рэкі, лозы ламалі, росы збівалі, расаду саджалі. Расада, прымайся, кроў, замаўляйся. Стань, кроў, на ране, як вада на Ярдані.

### 479. Ад крыві («када кроў ідзець»)

За морам дзеўкі гулялі, зямлю аралі, пяском засыпалі. Как етаму пяску не ўсхадзіць, так і рабу божаму (імя) крыві не выхадзіць.

### 480. Ад крывацёку

Із-пад ясныя зары, із-пад белыя гары цякло тры ракі. Рака малочная, вадзяная і крывяная. Я малочную разап'ю, вадзяную разаллю, а кравяную астанаўлю.

### 481. Кроў замаўляць

Ішлі тры калекі
Цераз тры рэкі,
Каліну ламалі,
Кроў замаўлялі:
— Кроў, кроў, стань на ране,
Як Ісус Хрыстос на рацэ Іярдані.

### 482. Замова крыві

Ішлі тры калекі праз тры рэкі, лозу ламалі, капусту саджалі. Капуста, прымайся, кроў, замаўляйся.

### 483. Кроў замаўляць

Зоры-заранічкі, божы памашнічкі, памагалі Богу, памажыце й нам. Ішла Бабка цераз мост, пляла пастол, а ты, кроў, пастой. Ішло тры дзявіцы, секлі, вырубалі, кроў замаўлялі.

### 484. Ад крывацёку

Ішло з вышняга неба дванаццаць малайцоў і няслі дванаццаць тапарусоў — секлі, рубалі і рабу божаму кроў замаўлялі. Хук! Кроў ні пук!

### 485. Ад крывацёку

Ішоў дзед калінавым мостам. Мост пахіліўся, дзед паваліўся — кроў запяклася, рана зажылася.

### 486. Ад крывацёку

На моры, на кіяні ляжыць камень Латыр; на том на камні на Латры сядзіць пятух красны. Пятух, страпяніся, і кроў, уніміся. Не я занімаю — цар Давыд кротасьцю сваёю.

### 487. Ад крывацёку

На моры, на кіяні, на востраві на Буяні стаіць дрэва, на том дрэві цар воран сядзіць. Цар воран, ня каркні, і кроў у раба божага ня кані. Амін.

### 488. Ад крывацёку

Ішла чорная карова чараз роў, ішла да стала, і кроў ісці перастала.

### 489. Ад крывацёку

Госпаду Богу памалюся, матары Божай прыкланюся і ўсім святым — і прыступіця і памажыця рабу божаму.

Ішла дзеўка-сямілетка калінавым мостам, нясла хрэст; каліну ламала і кроў замаўляла, і жылную і верхавую. Каліна расцвілася — і кроў сунялася.

Ляцеў жораў чараз сіняе мора, нёс шаўковую нітку рану зашываці і кроў судзяржаці.

### 490. Ад крывацёку

Ляцеў воран чараз мора, нёс іголачку, шоўкаву нітачку рану зашываць і кроў замуўляць.

## 491. Ад крывацёку

Ляціць змяя з дванаццаці галавамі, з войстрымі насамі, цюкнула ў камень. Як з каменя кроў не канець, каб із рукі не канула.

## 492. Ад крывацёку

Бег конь па пужару, ступіў на шкубару; шкубару не праламіў, у етага раба кроў угаіў. Маць Прачыстая па полю хадзіла, шоўк-траву рвала, у етага раба чалавека кроў умуўляла.

## 493. Ад крывацёку

Ішло тры ракі: адна вадзяная, другая мядава́я, трэцяя крывавая. Вадзяную вылівацъ буду, мядавую выпіваць буду, крывавую замаўляць буду.

## 494. Ад крывацёку

Ішоў Ісус па траве, абрэзаў ногі да крыві. Прыйшоў Ісус к сіню мору, на сінім моры Латыр-камень, на Латыру-камню раба-баба. Раба-баба па камню ляп — і кроў не кап. Амін, амін, цьфу!

## 495. Ад крывацёку

Ішоў Бог цераз вялікі роў, парэзаў нагу аб жорсткую траву. Божая мацер прыбяжала, парадак ране давала, рану шаўковай травіцай перавязала. Як астанавілася сэрца ў пакойніка, астанавіся кроў алая ў раба божага (імя). Амінь.

## 496. Ад крывацёку

Ішоў Бог чараз новы лог, скалоў ножаньку на цярэмшаньку. Цярэмшанька стала — кроў перастала. Ішла маць Прачыстая чараз тры паля і кроў суняла. Ехаў Даніла на сівой кабылі; кабыла прыстала — і кроў перастала. Дай Бог на помач.

## 497. Ад крывацёку

Госпаду Богу памалюся і Прасвятой матары пакланюся,— стань, Госпадзі, на помач рабу божжаму кроў замаўляць.

Ішла маць Прачыстая па полю чыстаму, залатою трасцінаю папіралася, траву рвала, рану затыкала. Залатая трасцінка, параламіся, рабу божжаму кроў уніміся.

### 498. Ад крывацёку

Ехала маць Прачыстая на серым кані цераз калінавы мост, дзяржала ў правай руцэ залатую тросць. Тросць з рукі ўпала — кроў перастала, гаручая, балючая, з жыл, з пажылля, з касьцей, з пáкасьцей, з буйныя галавы і гаручага серца.

### 499. Ад крывацёку

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай матары пакланюся. Ішла Прасвятая маць Бугуродзіца па калінавым мосту, у красных чаравічках, з краснай трасцінай, з святымі апосталамі. Трасціна зламілась — кроў супунілась.

### 500. Ад крывацёку

Госпадзі Сусе Хрысце Божа наш, прымі жэртву сію ва 'стаўленіе грахоў раба божыя. Благаславі мне кроў замаўляць.

Ішоў Сус Хрыстос чэраз калінавы мост, нёс сякірку з сабою. Пры дарожцы стаяла калінка, ён тую калінку цюк-цюк-цюк! Як з тыя калінкі кроў ня канула, так каб і з раба божага (ці з скацінкі, рыжай шарсцінкі) кроў ня канула. Стань, кроў, унімісь, жыльная, пажыльная, падумная, мыслянáя, ветранáя.

### 501. Кроў загаварваць

Ішоў Ісус Хрыстос цераз калінавы мост. Пад пахай нёс забалаць, у руках тросць. Кроў загавараю, жылу замаўляю, камар кусае, вярба зарастае. Сеяла дзеўка рожу, рожа не ўзышла, штоб з Тацянінае жылкі кроў не пайшла.

### 502. «Ад крыві» і «ад парэзу»

Вадзіца-травіца па мору хадзіла, пясочык сеяла, пясочык не ўзайшоў — крыві не пусьціў. Камар укусіў — крыві не пусьціў, муха ўкусіла — крыві не пусьціла.

## 503. Кроў загаварваць

Ішоў Ісус Хрыстос цераз калінавы мост, скалоў ножачку на свізёну іголечку, вярнууўся назад — ні крыві, ні ятрасці.

## 504. Кроў замаўляць

Ішоў Гасподзь із небеса, баран із-за мора. Сустрэліся на калінавым масту. Зняў Гасподзь із барана руно і затыкаў крывавае жарало.

## 505. Ад крывацёку

Першым разам, лепшым часам пасылала мяне Прачыстая маці (імя, каго лечаць) кроў замаўляці.

Ішоў Сус Хрыстос чэраз калінавы мост, ішла Божая маці ў Крым крыві замаўляці; а ты, смала, пацячы, усю кроў запячы.

Другім разам, лепшым часам пасылала мяне Прачыстая маці (імя) кроў замаўляці (далей паўтараецца спачатку).

## 506. Ад крывацёку

Хадзіў Бог па гарах, па межах, па калінавых мастах, унімаў кроў рабу божаму: уйдзі кроў у кроў, костка ў костку, жылка ў жылку, сустаўка ў сустаўку.

## 507. Ад крывацёку

Ехаў Ісус Хрыстос ракою,
Паганяў валы мятлою.
Астанавіся, кроў, уранні,
Як Ісус Хрыстос у Іардані.

## 508. Кроў замаўляць

Ішоў апостал залатым мостам, насустрач яго Божая маці.
— Куды, апостал, ідзеш залатым мостам?
— К (імя) крыві замаўляці, жалеза выгавараці.

## 509. Ад крывацёку

Госпаду Божачку памалюсь, Прасвятой мацеры Марыі пакланюсь.

На сінім моры, на ціхім акіяне стаіць дуб, пад тым дубам Прасвятая маць Марыя ўмываецца, шаўковай шырыначкай уціраецца. З гэтага дуба ветачкі ламала, з гэтай рабы бож'яй Надзькі кроў замаўляла.

## 510. Ад крывацёку

У полі пад дубам стаяла баба з тлубам — жылкі зжывацца, суставы сустаўляцца. На моры быў цар, яго конь кар, а ты, руда, перастань. Амін рудзе, амін рудзе, ялілуя, ялілуя, слава табе, Божа наш.

## 511. Ад крывацёку

Ішла баба з Тумароў,
З нагі ў бабы цякла кроў.
Села яна аддыхаць,
Стала кроў замаўляць.
Замаўляла яна так,
Штоб ні шла ніяк.

## 512. «Ад крыві» і «ад парэзу»

Госпадзі Божа, благаславі, я спаць кладуся — Богу малюся, устану — перахрышчуся і благаслаўлюся; пайду я ва чыстае поля, стану я на сырую зямлю, ва сіняе ва зморье; стану я на сырую зямлю, пагляджу я пад васточную зару: з-пад васточнай зары ляцяць тры вараны — родныя браты, нясуць яны дванаццаць ключоў і дванаццаць замкоў; і замыкалі яны, і запіралі яны воды і рэкі, і моры, і руччы, і руднікі; замкнулі яны, запёрлі яны рабы божага (імя); як з сіняга неба дажджа ні ка́ніць, так з раба божага крыві ні каніць.

## 513. Ад крывацёку

Ішла Саламання Хрыста бабіць, несла ў прыполі ячмень сеяць. Пакуль еты ячмень з-пад серабра і золата ўзойдзе, так етая кроў не пойдзе.

### 514. «Ад крыві» і «ад парэзу»

Вецер веіць —
Пясок сеіць;
Пясок ня ўзойдзіць —
Кроў ня пойдзіць.

### 515. Ад звіху, удару

Первым разам, добрым часам прашу Госпада Бога, Духа Святога, мацер Прачысту, стань на помачы. Я словам, Бог помаччу.

У лесе стаіць елачка, пад той елачкай сядзіць дзевачка. Яна не умее ні шыць, ні мыць, ні ткаць, ні бяліць, толькі звіх да ўдар гаварыць, сустаўку да сустаўкі састаўляць.

### 516. Ад звіху

Прашу Госпада Бога, Духа Святога, мацеры Прачыстай — прыступіцеся, памажыце, станьце Мані на помач.

У чыстым полі стаіць караватка трасявана, мулявана, на ёй сядзіць красная пані. Яна не ўмее ільну ні шыць, ні мыць, ні ткаць, ні браць, ні бяліць, толькі ўмее Мані звіх гаварыць, сустаўка з сустаўкай састаўляць і шкуркай зацягаць. Ху! Не мой дух, Гасподні.

### 517. Ад звіху, выбою, удару

На сінім моры, на лукамор'і сядзіць дзевіца-красавіца. Яна шыла, вышывала, усякія зоры (магчыма, і 'зоры-ўзоры.— *Е. Р.*) перабірала. А я ўрадзілася ні ткаха, ні праха, пагуляха, толькі ўрадзілася звіх гаварыць, жылы выцягаваць, суставы настаўляць і ўдар угавараваць.

### 518. Ад удару

Первым разам, добрым часам.

У полі стаіць святліца. У той святліцы тры сястрыцы. Адна тонка прала, другая громка ткала, трэцяя бела бяліла і ўдар гаварыла.

### 519. Ад звіху, выбою, удару

Госпаду Богу памалюся і Прачыстай пакланюся, усім сілам нябесным, Антоніям і Хвядосіям.

Ішлі тры паны, скумпаліся, косці з касцямі складаліся, няслі ад звіху зелля, і к касцям прымяралі, і к суставам прыкладалі, і жылы кроўю налівалі, і целам зацягалі, і храшчонаму, нараджонаму, малітоўнаму помачы давалі. Ад Госпада Бога помач, ад мяне дух лягéнькі, ціхéнькі.

### 520. Ад звіху, выбою, удару

На моры, на лукамор'і там хадзілі тры дзявіцы і рвалі тры травіцы: первая — зелля жоўтае, другая — зелля краснае, трэцяя зелля сустаўляла і звіх замуўляла.

### 521. Ад звіху

За сінімі марамі, за божымі славамі там гуляла тры паненкі. Яны не гулялі — сіні камень рубалі, костачкі збіралі. Костачка к костачцы, сустаўчык к сустаўчыку. Як у варатах дзверы пахаджаюць, так каб ножка (ці ручка) на места ўстала.

### 522. Ад удару

На святое Вялікадня ішло тры дзевіцы з ярымі свячамі, з вострымі нажнямі. І еты ўдар нажнямі выразалі, свячамі выжыгалі, етаму рабу помачы давалі. Як нам іх у глаза не відаць, так у (імя) болі не бываць, калючай, балючай, урочнай, падзіўнай, па ету пару, па вячэрню зару.

### 523. Ад звіху

Первым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, мацеры Прачыстай святой пакланюся, усім угоднічкам божым — кіеўскім, пячэрскім. Малю я вас і прашу я вас, памажыце, Госпадзі, мне ўсе.

На моры на сінім там стаяла крынічка, ля той крынічкі сядзелі тры сястрычкі. Адна прала, другая ткала, а трэцяя ўдар і звіх выгуварывала раб божай Ганне. Датуля ты, звіх, быў у раб божай Ганны, дакуль я цябе не знала. Стала я цябе знаць, стала я цябе выгавараць, умаляць, упрашаць, на цёмны лес пасылаць. Тут табе не бываць, тут табе не гуляць і раб

божай Ганне касцей не ламаць, гарачай крыві не разліваць, сэрца не знабіць, белага цела не пушыць, не таргаць, не калоць, не балець, а навек занямець. Пасылаю я цябе, удар і звіх, на цёмны лес, на крутую гару. Там дзеўкі гуляюць, сталы засцілаюць, вінoм чары наліваюць, цябе ў госці дажыдаюць. Ідзі ты, звіх, к ім туда, там табе будзе піцяннё, едзяннё, спаннё, гулянне, лёгкае прапітанне. Я не знаю, сам Гасподзь Бог знае і нам памагае. Я з словам, Гасподзь Бог з помаччу і святым духам.

## 524. Ад удару, звіху

На сінім моры цэркаў, у той цэркві прастол, за тым прастолам тры папы, тры дзякі вычытваюць і выпісваюць і ўгаварваюць ізвіх, удар раба божай Машы.

## 525. Ад удару

Первым разам, лепшым часам малюся я, Богу пакланюся. Матка Божа, будзь у помачы рабе божай Галі ўдар угавараць.

Удар угавараю, на сіне мора ссылаю. На сінім моры на белым камені там сядзела чатыры сястрыцы. Яны нічога не парабляюць, толькі ўдары ўгавараюць — з касцей, з машчэй, з гарачай крыві, з жоўтай касці. Тут табе не стаяць, касцей не ламаць, етаму падзіўку не стаяць, яго нада атагнаць. А я з словам, а Божа маць у помачы. Дую, здуваю, з раба божай Галі падзіў зганяю.

Тфу.

## 526. Ад удару

Прашу Госпада Бога: памажы ранняй зарой, божай дзявіцай, памагаеш людзям — памажы і нам. Ехаў Ісус Хрыстос на сівам кані з трыма сынамі, з трыма тапарамі. Адзін сячэ, другі рубае, а трэці ўдар загаварае.

## 527. Ад звіху, выбою, удару

Первым разам, добрым часам. Госпаду Богу памалюся і матцы Прачыстай пакланюся з усімі сіламі нябеснымі. Кіеўскія, пячэрскія, усе правядніечкі прападобныя, станьця ж вы, гасподухначкі, на помач рабу божаму.

Ехаў жа сам Гасподзь Сус Хрыстос чараз залаты мост на

сівом кані; конь спатыкнуўся — і звіх і выбой мінуўся. Стой жа ты, конь, ня спатыкайся, а ты, звіх і выбой, у сваё места зноў зварачайся.

Па крутой гарэ хадзілі тры панны Купанны, усякія зеллі ірвалі і звіх шапталі, і сустаў к суставу прыкладалі, і цела шкурай павалакалі, і ядрасць і вопух шапталі, і жылы кроўю палівалі, і рабу божаму помачы давалі. I святая серада, стань ты, гасподухначка, на помач. Ад Бога помач, а мой дух.

## 528. Ад звіху

Ехаў звіх па зялёнаму лугу, а там дзеўкі краскі рвалі, звіх паймалі. Звіх ты мой харошы, звіх ты мой прыгожы! Датуль ты балеў, пакуль я цябе не стрэў, а цяпер ты і балець, і гарэць перастань! Дай Божа на помач (імя).

## 529. Ад звіху

Удару, удару, гаспадару! Парадзіла цябе Ева на сінім моры, на белым камені, там табе піваці, ядаці, у Параскі не бываць, касцей не ламаць, цела не пушыць, суставаў не крышыць. Бог с помаччу, а я з духам! Фу-фу, тфу-тфу!

## 530. Ад звіху, выбою, удару

Зьвіхі, зьвіхі, ідзіця з раба божага на сіне мора. Тут вам не хадзіць, касьці не ламіць, сэрца не нудзіць, жывата не сушыць, а йдзіця на сіняе мора. На сінім моры там вам будзець добра: на сінім моры чары залатыя, напіткі дарагія, падушкі пуховыя, засьцілкі цвілёвыя — там вам добра будзець.

## 531. Ад удару

Госпаду Богу памалюся, святой Прачысце пакланюса. Святая Прачыста Божа маці, прыступі к майму дзіцяці ўдару ўгавараці.

Удару-ўдару, слаўны гаспадару, ад бою ні да бою не жыць мне з табою. Я цябе пасылаю, куды — сам не знаю.

## 532. Ад звіху

Звіх-удар, добры гаспадар. З кіем ішоў, на кій паваліўся — і звіх адваліўся.

## 533. Ад удару

Буду Госпада Бога прасіць рабе Мар'і ўдар ветраны, вадзяны, прыстрэшны загаварыць. Удар, удар, добры гаспадар, ідзі ў чыста поле. Там конікі шаўкову траву з'ядаюць, крынішную ваду співаюць, з Мар'інага цела ўдар зганяюць.

Бог з помаччу, я з словам. Амінь.

## 534. Ад звіху

Звіх, павіх, развіх, тут табе, звіх, не бываць, жывой сырой касці не ламаць, белага цела не сушыць. Ідзі, звіх, на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, дзе людзі не ходзяць, петухоў голас не заходзіць. Ідзі, звіх, на асіну, на лясіну; ідзі, звіх, на асіну, на лясіну; ідзі, звіх, на асіну, на лясіну.

## 535. Ад звіху і ўдару

Божухно, бацюхно, звіх і ўдарухно-гаспадарухно! Марыя, Іосіп звіх і ўдар разносіць.

## 536. Ад звіху-ўдару

Ты, звіх, ты, удар, ты, прыстрэк, ты, паганы чалавек, на цябе харкаюць, на цябе плююць, цябе грэбуць (з хаты). Ідзі ты ў цёмны лес, там ляжаціме воўк. Ты на ём упадзі, ты на ём прападзі, ты яго косць памні, ты яго мяса грызі, ты яго кроў ссі, ад рабы божай (імя, ці ад худобіны) адчапіся, адкасніся, ад іе буйной галовачкі, ад іе карых вачыц, ад іе насочка, ад іе раточка, ад іе бародкі, ад іе шыйкі, ад іе ручыц, ад іе нажыц, ад іе грудзіц, ад іе кішэчок, ад іе нажачок, ад іе салодкага мяса, ад іе сорак сустаў, ты ета ўсё на месці пастаў.

Як етай левай ножцэ ўперад не ўмукацца (уперад жа не ходзіць левая нага), так етаму звіху-ўдару не буваць ні ў вяшку, ні ў маладзіку, ні ў трэцяку, ні пад поўнай, ні сходзя, ад тваей маладосці да да старосці.

## 537. Ад звіху

Ехаў царык шырокаю дарогаю, зялёнаю дуброваю; конь спатыкнуўся — звіх звіхнуўся. А ты, звіх, ня будзь ліх, не ламі касьці, выхадзі на наружку із касьцей, із машчэй, із суставаў, кроў разганяй, вопух унімай.

## 538. Ад звіху

Ехаў цар Давыд па чыстаму полю, па сыром карэнню, па белам каменню; конь спатыкнуўсь — і віх звіхнуўсь. Віх, віх, не будзь ты ліх, не сушы ты етага чалавека, не крушы рацівага сэрца, не ламі буйнай галавы, касьцей і нагцей. Як станець поп на Ірдані, так стануць усе суставы на месьці. Амін.

## 539. Ад звіху, выбою, удару

Зьвіх, зьвіх, ня будзь ліх, жылы не цягні, косьці не ламі. Ехаў цар Давыд на вараных конях. Конь спатыкнуўся — зьвіх зьвіхнуўся; конь устаў — зьвіх на месьці стаў, на месьці на стану́, у сваім даму.

## 540. Ад звіху

Звіх, звіх, не будзь ліх, не ламай белу косць, а ламай белу тросць. Жыла баба без ума, загаварывала звіх дарма: косці і суставы, каб усе на месці ў (імя) сталі.

## 541. Ад звіху

Звіх, звіх, не будзь ты ліх, не хадзі па касцях, а хадзі па лясах, не ламі касцей, а ламі хвасцей.

## 542. Ад звіху

Звіх, звіх, не будзь ліх. Звіх, звіх, не будзь ліх. Звіх, звіх, не будзь ліх. Косткі, жылкі, страпяніцеся, скалыхніцеся, станьце на месца, (імя) на добрае здароўе, штоб звіху не было.

## 543. Ад звіху

Звіх, звіх, ня будзь ты ліх, каб кожны сустаў на места стаў. Сук усыхай, а ў (імя) звіх прападай.

## 544. Ад звіху

Звіх, звіх, не будзь ліх, перастань, на вецер стань.

## 545. Ад звіху

Ехаў звіх на сівой кабылі на крутую гарý. Кабыла ўпала — рабу божаму ад звіху перастала. Божая мацер па гарэ хадзіла, травіцу ірвала, свайму сыну, рабу божаму, помачы давала. Хух, прымі мой дух.

## 546. Ад звіху, выбою, удару

Зьвіх, зьвіх, ня будзь ліх, не хадзі па касьці, не ламі касьці. Ехаў Ягор'я на сівом кані. Конь стаў — звіх перастаў.

## 547. Ад звіху

Ёсь сіне мора, на тым моры калінавы мост, па тым калінавым масту едзець святы Юры і святы Мікола, і святы Паўла й Пётра. І калін-мост абламіўся — зьвіх расхадзіўся: па касьцях, па машчах, па суставах, па жылах, па пажылках. Давайця помачы рабу божаму ад зьвіху.

## 548. Ад звіху, выбою, удару

Первым разам, божым часам. Госпаду Богу памалюсь і матар Божую папрашу. Матар Божая, царыца нябесная, прыступіся раба божага зьвіху гаварыці, прыдуманага, прыгаворнага, уцешнага, пасмешнага. Чараз сіня мора ехаў святы Ягоры на сівом каню, у залатом сядле. І мост праламіўся, і конь спатыкнуўся, а рабу божаму сустаў з суставам саткнуўся, залатымі замкамі замкнуўся.

## 549. Ад звіху

Ехаў святы Юры і Ягоры на вараном кане і ў залатом сядле; конь спаткнуўся — сустаў на сустаў узышоў. Ізьвіхова маці па полю хадзіла і сваіх сыноў зьвіхоў будзіла: «Сыны мае зьвіхі — і Іван, і Раман, і Даніла, памагайця етаму ліху!»

Первы косьці складаў, а другі суставы сустанаўліваў, а трэці кроў судзяржаў і вопух іздымаў.

## 550. Ад звіху

Первым разам, добрым часам Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся. Матар Божая святая, правядная, стань ты ка мне на помач.

Ізьвіхова маці, прашу я твае вялікія міласьці. Па полю ты хадзіла, сына зьвіха будзіла: «Устань, мой сынку зьвіху, устань, спамагайсь і етаму ліху памагайсь». І тут, у касьці, яму ня буваць, касьцей яго не ламаць, цела ня пушыць і раба божага ня сушыць.

Ехаў Юры, вялікі Ягоры на буланом кане, па шаўковай траве, па зямчузькай расе. І як етаму каню шаўковай травы ня зьядаць, зямчузькія росы ня співаць, так етаму ліху ў касьці ня бываць, касьці ня ламаць. І прашу я цябе, святы зьвіх міласьлівы, правядны, сустаў на суставі стань, а рабу божаму на помач дай.

## 551. Ад звіху

Устану я, раб божы, ранéнька, умыюся бялéнька, памалюсь Богу вярненька, выйду я на крутую гарý, гляну я пад ясную зару: там ідзець віхова маці, віха пабуджая:

— Устань, устань, віху, памажы етаму рабу божыю ад звіху!

— Не магу я ўстаці, 'д звіху памагаці — будзя ехаць сам Гасподзь Бог сы вышняга неба на буланым кані, з войстрым мéчам, з залатою трасьцінаю. Конь спатыкаецца, меч угібаецца, трасьціна ламаецца — етаму рабу божыю звіх унімаецца з ясных воч, з чорных броў, з белага ліца, з шчырага сэрца, з белых рук, з бодрых ног і ня трыгаецца ні маладзіком, ні сходам і ні кажнага месяца.

## 552. Ад звіху

Ехаў архайла Міхайла на сваём добрам кані. Масьнічка к масьнічцы, сыйдзіцесь, жылы з касцей, з пярсцей, з рыжага мяса, зрасьціцесь.

На моры, моры, на лукамор'і стаяў дуб, на том дубі дванаццаць какатоў, дванаццаць гняздоў, дванаццаць арлоў; дзюбкамі раздáўбаюць, нагамі разгрáбаюць, крыллям размахаюць.

У полі, полі вішанька стаіць, пад той вішанькай тры панны сядзіць — ні ткаць, ні прасць, толькі зьвіх выцягаць, залаты хрэст настаўляць.

## 553. Ад звіху

На моры-акіяне стаіць дуб, на тым дубе дванаццаць какатоў, на тых какатах па дванаццаць гнёзд, у адным гняздзе сядзіць чорны воран, галава яго стальная, дзюбка залатая, кіпці сярэбраныя, крылы арлініыя. Ён з гэтага гнязда вылецеў, з гэтай скаціны (масць) звіх дзюбкай выклёвываў, кіпцюрамі выдзіраў, крыллямі вымятаў з касцей, з масцей, з белага цела, з шэрсці, з крутых рог, з гарачай крыві, з шырокага сэрца, з буйнай галавы і жыл, з дліннага хваста і белых капытоў, з голаса і воласа і па гэту пару, па вячэрнюю зару і патуль бывала, голасу ісчувала, і прымі мой дух, а гэта не мой дух, а Гасподні. Амінь.

## 554. Ад звіху

Первым разам, добрым часам Госпаду Богу памалюся.

Ехаў Сус Хрыстос чэраз калінавы мост, давай думаць і гадаць, як звіх састаўляць. Звіх з падзіўку, з падумку, з прыстрэку, з прысмоку, падуманага, пагаданага. Звіху не стаяць, касці не ламаць, сэрца не сушыць і ядою не бушаваць.

## 555. Ад звіху

Ішоў Ісус Хрыстос цераз калінавы мост, залатою трасцінкаю папіраўся. З етага раба божага (імя) штоб удар улягаўся, і пступ, і звіх, і мах калючы і балючы, і гаручы, і падзіўны, пагаворны, пацешны і смешны, жаласны і радасны. Косць за косць не захадзі, крыві не палі, цела не сушы, цела не сушы, жыл не тамі. Костачка аб костачку чырканісь, на сваё месцечка станавісь.

## 556. Ад звіху

У чыстым полечку ехаў Божачка на сівенькім конічку. Конь спатыкнуўся — звіх звіхнуўся. Конічак устаў — звіх на стан устаў: костачка ў костачку, сустаўка ў сустаўку, жылачка к жылачцы, цела к целу, мяса к мясу. Як сухому дубу ў лесе не раскідацца, так узвіху не атрыгацца. Амін.

## 557. Ад звіху, удару

Ехаў Гасподзь на сівым кані на калінавы мост, на ракітавы куст. Куст пахіснуўсь, мост праламіўсь, а конь спатыкнуўсь, а Гасподзь улякнуўсь, у раба божага (імя) звіх, удар, вопух мінуўся.

## 558. Ад звіху, выбою, удару

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матары пакланюся і кіяўськім, пячэрськім, усім прападобным хрыстамаленцам,— прыстаньця ка мне на помач.

Ехаў Сус Хрыстос чараз калінавы мост на аслёнку, на жарабёнку. Калінавы мост абламіўся — Ісус Хрыстос астанавіўся. Так станьця, суставы, на сваём месьці, на залатом крэсьлі,— па касьці ня хадзіць, сэрца ня крышыць, гаручыя крыві ня таміць. І ўгаваруую я, Варка (знахарка), ліха гаручае, калючае і ламучае, пацешнае, пасмешнае, падумнае, пагаднае, і ад атцоў і ад маладых маладзенцаў, і жаноцкае і парабоцкае, і рабяцкае і хлапяцкае, і сабацкае.

## 559. Ад звіху

Госпаду Богу памолімся, матары Божай прыклонімся і ўсіх святых на помач папросім.

Ехаў Сус Хрыстос з Сіяньскія гары на сівом кані, чараз агнянную раку, чараз драцяны мост. Мост праламіўся, конь спатыкнуўся, сустаў саткнуўся, штоб етаму рабу божаму звіх мінуўся.

## 560. Ад звіху

Ехаў Ісус Хрыстос цераз калінаў мост. Калінаў мост праваліўся — сівы конь паваліўся. Сівы конь на места ўстаў — Галін сустаў на места стаў.

## 561. Ад звіху

Ехаў пан Ісус па златой гарэ, па шаўковай траве. Конь спатыкнуўся — сустаў звіхнуўся. Стой, пёсся мяса, сустаў, не звіхайся, састаў і пастаў.

Ішла матка Насвенша з усімі святымі. Масты масціліся, костачкі, жылачкі ўместа схадзіліся.

## 562. Ад удару

Удар Купрыян, удар ударыўся, хвалі Бога, што не задаўніўся, стралі — не ўстраляй, сужылак не пацягай. Госпадзі, пасоб, памажы, у жоўтым пяску не сушы ні паўгадзінкі, ні паўчасінкі, ні паўмінуткі. Мой душок лёгенькі, згінь, удар, скоранька. Амін.

## 563. Ад звіху

Ехаў апостал залатым мостам на сівым коніку. Мосцік скалыхнуўся — і звіх мінуўся.

## 564. Ад звіху, удару

Ішоў Ісус Хрыстос чаратамі, балатамі, скалоў ножку на чарэцінку. Сеў на дубовым пяньку аддыхаць, звіху шаптаць і помачы даваць. Як таму пяньку пэрсткаў не пускаці, так звіху, удару і вопуху палягаці.

## 565. Ад звіху

Першым разам, лепшым часам Госпаду Богу памалюсь, святой Прачыстай мацеры пакланюсь. Святая Прачыстая мацер Божая, вялікая памошніца, прашу я цябе ў помашч да сябе ўдару шаптаці.

Ехаў Сус Хрыстос залатымі гарамі, залатымі мастамі, мост увагнуўся, а сустаў звіхнуўся. Мусіў Сус Хрыстос з каня злязаць, (імя) сустаў к суставу настанаўляці і вопухаль не дапускаці.

## 566. Ад звіху-ўдару

Першым разам, божым часам, Госпада Бога ўмаляючы. Святыя ўгоднікі божыя! Прыходзьце, кіеўскія, пячэрскія прыпадобнікі божыя! Прыходзьце мне на помач рабе божай Марыі ўдары-звіхі выгаварваць з нагі.

Ехаў Ісус Хрыстос на сівым кані па Сіянскай гары. Конь спатыкнуўся — рабе божай Марыі ў назе сустаў стаўхнуўся. Выгаварваю Марыін удар, і звіхі, і выбоі з гаручай крыві, з жоўтай касці, з сямідзесят жылак, з сарака суставаў і ссылаю Мар'іны ўдары-звіхі на маха, на балота, на ніцыя лозы.

## 567. Ад звіху, выбою, удару

Ішоў Гасподзь цераз гару, цераз мяжу. Бог спатыкнуўся, ножка спавіхнулася, костачка з костачкі, суставачка з суставачкі: стань на стану, як стаяла, а рабі так, як рабіла, а хадзі так, як хадзіла. Я з словам, а Бог з помаччу.

## 568. Ад звіху, выбою, удару

Ішоў Гасподзь гарамі із Юрам, з Міколам, святым Пятром-Паўлам. Яны горы лічылі, горы счыталі, каб горы з гарамі схадзіліся, і рэкі з ракамі, і жылы з жыламі, кроў із кроўю, кось з косьцю, зьвіх з зьвіхам. Святы Пётра і Паўла гэты зьвіх і ўшыб састаўляя, гэты зьвіх і ўшыб ніколі больш ня бывая.

## 569. Ад звіху

Ехаў Мікола на шасці колах, кол зламіўся, звіх на месца станавіўся ў раба божай Аўгінні.

## 570. Ад звіху

Ехаў цар Давыд на белай кабылцы з Богам ваяваць. Стой, цар Давыд, не едзь з Богам ваяваць, а будзь сведам араць! А ты, звіх, не будзь ліх, касьцей не ламі, сэрца не тужы, жывата не сушы.

## 571. Ад звіху

Першым разам, господнім часам, ранняя зарніца (калі ўранні), господняя памашніца, стань жа на помач раб божаму Міколу.

Ішоў Ісус Хрыстос цераз калінавы мост, цераз белы камень, залатой трасцінай папіраўся. Звіся-ўдар, мініся (імя). На сінім моры, на чыстым полі стаіць дуб, на том дубе гняздо, у том гняздзе яйцо, у том яйцэ зай, раб божаму (імя) звіх загрызай. І з сініх жыл, і з жоўтае касці, і з гаручае крыві і з румянага сэрца рассып на макавае зерне. Ні я ж угаварала — угавараў сам Госпадзі Ісус Хрыстос, ні мой дух, да Господні.

## 572. Ад звіху, выбою, удару

У нядзельку параненьку ішоў сам Гасподзь Бог, сустракая бабку:

— Куды йдзеш, бабка? (вузел завязаць).

— Іду даваць коніку-саколіку рады (вузел), каб яго косьці ня ламіла (вузел), цела ня пушыла (вузел),— кось выпраўляць (вузел), шкура нарастаць і сустаў у сустаў устаўляць (тож вузэльчык на нітцы на ільняной завязаць і нагу ля зьвіху абвязаць).

## 573. Ад звіху

Первым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, матцы Прачыстай пакланюся і ўсім святым гадавым празнікам. Усе святыя гадавыя празнікі, станьце на помач, Прачыстая маць, хадзі ты на радасць.

Ішла Галя па ржышчу, па мургавішчу, скалола свае ножкі і вочкі; ідзець Галя і плача. Маць Прачыстая ідзець:

— Галя, чаго ты плачаш?

— Як жа мне, мамка Прачыстая, не плакаць? Хадзіла па ржышчу, па мургавішчу і скалола і звіхнула ножкі, скалола вочкі.

— Раба божая Галя, не плач, не рыдай. Едзя Юрай на сівым кані, за ім бяжыць тры харты. Адзін белы, другі серы, трэці чорны. Белы бяльмо зганяя, серы туску сцягувая, а чорны звіх вымая.

## 574. Ад звіху

Стань, Госпадзі, на помач, стань, Прачыстая, на помач. Не радуйся, змей-ліхадзей, не радуйся, змей-чарадзей, не радуйся, змей палятучы. Ехаў Гасподзь па Сіяньскай гарэ на вараном кане, прыязджаець к рабу божыю звіх-ламоту ўністажаць, косьці-суставы ўстанаўляць. Оттаець (яко таець) воск, а счазаець дым — пагібнуць усе бясы-ўрагі.

## 575. Ад звіху, выбою, удару

Хадзіў Хрыстос па гарах-гарах, па межах-межах, шатаўся, валяўся і зьвіху не баяўся. І ты, раб божы Іванька, зьвіху ня бойся.

## 576. Ад звіху, выбою, удару

Шоў Гасподзь па шырокай дарозі, па вялікіх лясах, па зялёных лугах, костачкі-сустаўкі сабіраў, рабу ад зьвіху помачы даваў.

## 577. Ад пералогу

Выйду я з дзвярэй у дзверы, з варот у варота. Зайду я ў чыстае поле. У чыстым полі залаты стоўб стаіць. На тым стаўбе Божая маці сядзіць, залатую голку дзяржыць і шаўковыя ніткі. Якому Івану раны зашываці, шчоб і не шчымелі, шчоб і не балелі, шчоб яго душы спакой давалі. Адвярні, Госпадзі, гэтыя болі на сухія лозы, дзе сонца не сходзіць і месяц не сіяе і народ не бывае.

## 578. Ад звіху

Звіх угавараці, звіх умаўляці. Звіхнухна мой бацюхна, па жылках не хадзі, крыві не гані, жоўтага мозгу не сушы, белае касці не ламі. Ляцеў воран праз мора, пусціў кальцо касцяное. Як таму кальцу не ўсплываць, так (каго лечыш) звіху не бываць. На сучку каціся, на сучку лажыся, (імя) дапамажы.

## 579. Ад звіху

Госпадзі Божа, благаславі, матка, памажы, святая суботычка матычка, стань на помач. Упрашаю ўвесь мір Гасподні, і ўпрашаю Хазяінаў дамавых і палявых, і загаварываю віх.

Віх, віх, не будзь ты ліх, не хадзі ты па касьцях, не ламі касьцей. Як сухой ігрушы на корані не стаяць і веццем не махаць, так у рабы віху па касьцях не хадзіць і касьцей не ламіць. Загаварую віхі жэньскія і мужчыньскія [маладзіччыя, дзявіччыя, малеччыя, пасмешныя і пацешныя, жаласныя і радасныя і нагаворныя, падзіўныя], вядзьмацкія і чараўніцкія.

## 580. Ад звіху

Як сухой елі атростку не пушчаць, так етаму чалавеку злому звіху не бываць, буйной касьці не ламіць, рацівага сэрца не знабіць. Етага чалавека не ламіць, не крышыць, а ламіць, крышыць асіннік, бярэзнік, арэшнік, алешнік.

## 581. Ад удару, звіху

Як сухім дубчычкам тром на пні не стаяці, карэння не пускаці, голлейкам не мéці, лістом не шумеці, расою не прыпадаці, так гэтаму ўдару не ядрыцца, не балеці. Расходзься, удару, па белай касці, па бягучай крыві, па салодкаму мясу, па сініх жылах, па сарака сустаў. Госпадзі, на первом здароўі пастаў. Разыдзіся, раскаціся, рассватайся, разбратайся з чыстаплоннаю, ражджэннаю, ад (імя) адчапіся, адкасніся. Не памінайся, удару, ты ні ў маладзіку, ты ні ў траццяку, ты ні пад поўнай, ты ні ўсхода, ні ў перакрой. Шоб яна на сабе гора не мала ніколі.

У чыстым полі ўшак стаіць (калок стаіць), на калку ўдар сядзіць. Калок павярнуўся, рабы божай (імя) удар памінуўся.

## 582. Ад звіху

Звіху, звіху, божы чалавечэ, а не так і звіхнуўсь, сам сабе ўлякнуўсь, косці на косці, жылы на жылы, кроў на кроў, какаткі на какаткі, сустаў на сустаў, а ты, звіх, на месці стань (разачкí трэ ўзяць з венічка, з бярэзкі). Як етым разачкáм на карэньчыку не буваць, і лісточкам не махаць, і расой не прыпадаць, і перад сонцам не сядзець, так етаму звіху ці ўдару на Марце (ці на Насці) не бувацъ.

## 583. Ад удару

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай мацеры пакланюся. Божа маці на прэстолі стаяла, залатыя рызі на сябе накладала, усёму свету помач давала.

Горад з горадам не сходзіцца, так і етаму ўдару з ударам не страчацца, не ўспамінацца. Костачка на костачку, жыла на жылы, кроў на кроў, сустаў на сустаў, Госпадзі, на месці пастаў. Як сучкý на пянёчку не стаяць, так і етаму ўдару не бувацъ.

Другім разочкам, лепшым часочкам...

## 584. Ад удару

Удару-гасудару, не ўпамінайся ты ні ў красу, ні ў цвяту, ні схода, ні пад поўня. Сам Госпадзі, прыступі і памажы, у здароўечка пастанаві.

На дубовым пянёчку стаіць ліпка. Той ліпцы карэньчыкаў не пускаці, лісційку не зелянеці, а ў етага чалавека касталомцы

не буваці, па касцях не хадзіці, касцей не ламіці, не крышыці, не калоці, не балеці, не гарэці і не ўпамінацца.

### 585. Ад звіху, выбою, удару

На Сіяньскай гарэ мамка Прачыстая хадзіла, свайго сына звіха будзіла: «Ой ты, сын мой звіху, устань ты к етаму ліхому ліху!» Едзе сам Сус Хрыстос па Сіяньскай гарэ, водзя раба божага па крутой гарэ, па шаўковай траве, па сілнай расе. Як тые крутыя гары ня таптаці, шаўковыя травы ня зьядаці, сілныя росы ня 'ббіваці, так звіху-ліху ў раба божага ня быванці. Патуль ты стаяла, пакуль я цябе ня знала, а цяпер я стала ўхажаці, косць на косць настаўляці і жылу на жылу, і кожай прыкрываці; ядрасць і вопух выганяць, гаручую кроў разганяць.

### 586. Ад звіху

Госпадзі, прыступі, дапамажы.

Я ж Наталачку з таго свету ўспамінаю, усякі ўдар загаваараю. Прыступі, Гасподзь, дапамажы. Каб у Валячкі ручачка не балела, не калола, па жылачкам не хадзіла, жылачак не сушыла, костачак не ламала, лічачка не смуціла. Згінь, прападзі, з цела сыйдзі. Як з таго свету Наталачцы не ўстаць, так звіху падвярóзу, ніякія болі ў руцэ ці назе не бываць.

### 587. Ад звіху, выбою, удару

Ушыб і зьвіх, падзіўны, прыгаворны, угаварую із жыл, із сустаў, із вушэй, із касьцей. Па касьцях не хадзіць, касьцей не ламіць, сэрца не сушыць. Стань на месьці, як маць парадзіла, на залатом крэсьлі пасадзіла. І Гасподзь Бог з помаччу, а я з словам.

### 588. Ад звіху, удару

Первым разам, лучшым часам Госпаду Богу памалюся, Прачысце святой пакланюся, мацеру Божу папрашу, усіх святых кіеўскіх, пячэрскіх, займатоўскіх. Прыступіце, памажыце да й удару гаварыці.

Да дзень добры табе, удару-гаспадару. Тут удару не стаяці, касцей не ламаці, жыл не сушыці, крыві не смактаці. Доўга ты тут стаяў, косць ламаў, да я цябе не знала, не ўдувала, а цяпер я цябе знаю, удуваю, угавараю з касцей, з машчэй,

з чорнай крыві, з чырвонай крыві, з белых жыл, з сініх жыл, з белай касці, з жоўтай касці, з белага воласу, з рыжага воласу, з чорнага воласу.

Ідзі ты сабе, удару-гаспадару, на крутыя горы, на нізкія лозы, на быстрыя воды, там вам гулянне, буянне, раскошуванне, а табе (імя) на лёгкае дыханне.

### 589. Ад звіху

Першым разам, божым часам, Божай маткі ўпрашаючы: прыступі і памажы звіх угавараці.

Звіхі звіхнуліся, кроў улякнулася, звіх, не звіхніся, кроў, не ўлякніся. Сівы конь з гары спускаецца, віхор із віхорам страчаецца, сустаў із суставам злучаецца, кроў із кроўю зліваецца. Ты, царыца-памочніца, заступіся, звіху мініся.

### 590. Ад звіху (падвяроту)

Падвярот, падвярот, ідзі пад лёд, там табе дабрэнька і міленька, і чысценька, бяленька. Ідзі сабе гуляй, балесці не давай, з сініх жыл балезні вынімай, з сініх жыл, з румянае крыві, з залатых касцей. Ішоў падвярот дарогамі крамяністымі, камяністымі, дзе неба з зямлёй стыкаецца, там Аўдоцейкай падвярот знімаецца.

### 591. Ад звіху

Звіх па жыту ходзіць, няхай жыту не шкодзіць, не шкодзіць Нінінай назе. Вымайце звіх з сініх жыл, з румянае крыві, з залатой касці. Ішоў звіх дарогамі крамяністымі, камяністымі; дзе неба з зямлёй спаткаецца, няхай звіх змінаецца. Ідзі, вывіх, з хаты пылам, з печы дымам за сухія лясы, за быстрыя рэкі, дзе сонейка не грэе, дзе ветрык не вее. Ідзі туды, там табе будзе дабро і харашо.

### 592. Ад звіху

Было ў цара Давуда
Сем валоў, сем бугаёў,
Сеў цар на крэсле —
Стаў сустаў на месце.

## 593. Ад удару

Первым разам, божым часам Марына Кандратаўна ў хату нагой, назад пятой. Марына ўдарыла, із рабы божае Галі ўдар ізваліла.

Кандрат, мой брат, серад мосту ляжаў, трастом папіраўся, із Галі боль вынімаў, паганую кроў разганяў, косць Галіну ўкрапляў на костачках, на сустаўчыках.

## 594. Ад звіху

Ехаў Даніла на сівой кабыле. Кабыла прыстала, і каб у (імя) нага балець перастала.

## 595. Ад звіху

Жылы на жылы, сустаў на сустаў, шапчу, штоб звіх перастаў.

## 596. Ад зубнога болю

Іду я не вуліцаю, не дарожкаю, а па пустых перавулках, па канавах, па ярах. Насустрач мне заяц. Заяц ты, заяц, дзе твае зубы? Аддай мне свае, вазьмі мае.

Іду я не пуцём-дарогаю, а шэрым борам, цёмным лесам. Насустрач мне шэры воўк. Воўк, ты шэры воўк, дзе твае зубы? Аддай мне свае, вазьмі мае.

Іду я не зямлёю, не вадою, а чыстым полем, квятастым лугам. Насустрач мне старая баба. Старая ты баба, дзе твае зубы? Вазьмі ты воўчыя зубы, аддай свае выпалыя. Замаўляю я зубы моцна ў раба па цяперашні дзень, па цяперашні час і на векі вякоў.

## 597. Ад зубнога болю

Госпадзі, як начынаўся свет, было на свецi тры царыкі: первы царык — зялёны дуб у полі, другі царык — белы камень на моры, трэці царык — шырокі месяц на небі. Як крэпак зялёны дуб у полі, каб так былі крэпкі зубы ў році; як бел белы камень на моры, каб так былі белы зубы ў році; як свецел шырокі месяц на небі, каб так былі светлы зубы ў році. Не я зачэрчаю, не я загаварую — зачэрчая, загаваруя сам Гасподзь Бог Ісус Хрыстос і Прасвятая маці Багародзіца са ўсімі святымі анга-

ламі і архангаламі; яна зачэрчая і загаваруя і ўсіх пад зубамі чарвякоў у раба божыя вымарывая. Як мёртваму чалавеку да страшнага суду ад гроба ня ўстаць, каб так у раба божыя скорбі, зубной балезні да смерці яго ня бываць.

### 598. Ад зубнога болю

Зара-зараніца, божжа памашніца, і Прачыстая маці, памажы памагаці.

На кіяні-моры стаіць дуб, пад тым дубам камень, на камяні жарства, на той жарстве стаіць цясовы стол, на стале пярчастая скацерць, на той скацерці стаіць тры кубкі віна, перад тым віном сідзіць тры царыкі: первы царык ракаў, другі воўчы, трэці ясен месяц. Як тым царыкам трох кубкаў віна ня піваць, так у раба божага касьцям-зубам ня балець.

### 599. Ад зубнога болю

На небі — месяц малады, у лесі — дуб таўсты, а ў полі — камень сяды; як етым тром царам умесці не бываць, мёду-віна не піваць, так і маім зубам не шумаваць.

### 600. Ад зубнога болю

Цар маладзік на небі, цар арак на моры, цар дуб на зямлі. Як етыя тры царыкі ўкучу ня сходзюцца і не ваююцца, каб так раба зубы век не балелі, косьці не ламілі.

Ляжыць мяртвец у гробі, ня чуець ні болі, ні ламоты, каб так у раба божага на век боль не балела і косьць не ламіла.

### 601. Ад зубнога болю

Первым разам, божым часам, ранняю зарою, вячэрняю парою стань жа ты, Госпадзі, на помач, рабе божае Ганне на пользу.

У моры рака, а ў дубе чарвяка, на небе месяц. Як гэтым тром братам уместа не схадзіцца, мёд-віно не піць, між сабой не гаварыць, так у рабы божае Ганны зубам не балець, касці не ламіць, крыві не паліць. Дыхні, Госпадзі, сваім духам господнім. Стань, Госпадзі, на помач, рабе божае Ганне на пользу.

## 602. Ад зубнога болю

Ёсць у полі лён, у лесі клён, а ў вадзе лін. Як гэтым тром дзелцам укучку ня схадзіцца, так зубы раба каб век-вешны ня балелі.

## 603. Ад зубнога болю

Першым разком, гасподнім божым часком. Памажы, Прачыстая Божая мацер, зубны боль угавараці.

Месяц із неба, мярэц із гроба, камень із мора — усе к Ганне на вячэру збірайцеся, а вы, зубы, ад болю ўнімайцеся.

## 604. Ад зубнога болю

Памолімя Госпаду Богу, Прачыстай матаццы святой, святым усім апосталам і святым святочкам, гадавым празьнічкам.

Стаіць на моры дуб, а за морам камянь. Як тым двом укучу ня схадзіцца, так у раба божага зубам ня балець.

Зубы-зубішчы, станьця на днішчы; як камянь акамянеў і анямеў, так зубам акамянець і анямець, і болі ня чуць.

Вадзіца-царыца, прасвятліца, Ульляна, па ўсім свету гуляла, сэрца ўзрадавала. Атыйдзі жылы, і агонь і жар унімі. Баба Хіміся — усё ліха ўніміся.

## 605. Ад зубнога болю

Маладзік малады, у цябе рог залаты, на моры купаўся, нам паказаўся, табе на цёмныя ночы, а нам на светлыя вочы, вам на стаяння, а нам на здароўя, вам на высату, а нам на красату.

Первы цар — ясен месяц на небі, другі цар — зелян дуб у полі, трэці цар — белы камень у моры. Сколькі тым тром царом укучы ня схадзіцца, столькі рабу божаму зубам ня балець і косці не шчаміць і крыві ня псуваць. Дай Бог на помач.

## 606. «На зубы»

Маладзік малады, у цябе рог залаты, на моры купаўся, мне паказаўся. Табе цёмныя ночы — мне светлыя вочы. Табе на высату — мне на красату. Табе на ўбытак, а мне на прыбытак. Пытаўся стары ў маладога, ці баляць зубы ў мяртвога. Не баляць у смерці і ў мяне да смерці.

## 607. Ад зубнога болю

Маладзік малады, у цябе рог залаты, ты на моры купаўся, а мне ў сне паказаўся. Маладзік Афанасавіч, быў ты на тым свеце?

— Быў.
— Бачыў ты мёртвых?
— Бачыў.
— А баляць у іх зубы?
— Не.
— Штоб не балелі і мне.

Рыба ў моры, заяц ў полі, а мядзведзь у лясу. Як етыя тры едзініцы сойдуцца і будуць піць і гуляць, так няхай тады зубы баляць. А етыя едзініцы не сойдуцца і не будуць ні піць, ні гуляць, хай ніколі і зубы не баляць.

## 608. Ад зубнога болю

На небе месяц высока, у моры камень глыбока, у лесе дуб далёка. Як гэтыя тры браты зыйдуцца да месца, да будуць піць і есці, то тады ў Віці будуць зубы балеці. Маладзік ты малады, ці быў ты на тым свеце?

— Быў.
— А ці баляць у мёртвых зубы?
— Не, не баляць.
— Так няхай і ў Віці не баляць.

## 609. Ад зубнога болю

Ёсць на свеце тры царыкі: ясны месяц на небі, сіні дуб на зямле, чорны камень у вадзе. Як этым царыкам не піць, не гуляць і ўмесце не схадзіцца, так у раба божага Івана зубам балець не гадзіцца.

Спрашываў малы ў мяртвога, ці баляць у яго зубы? — Не баляць. Так няхай даець Бог, каб у раба божага Івана няхай не баляць, не шумяць, чарвяку не тачыць, белага мяса не пушыць.

## 610. Ад зубнога болю

Госпаду Богу памалюсь, святой Прачыстай пакланюсь. Свята Прачыста маці, прыйдзі зуба шаптаці.

Ты, яснае сонца, вы, ясныя зоры, ты, ясны месяц, праведнае сонца.

— Ясныя зоры і ясны месяц, праведнае сонца, а ці бачылі вы мёртвых людзей?

— Бачылі.

— А ў іх зубы не баляць?

— Не баляць.

— Штоб так хрышчонай-крышчонай (Гані, Марыі) зубы не балелі. Як проці цёмнай ночы ўвесь мір сцішыцца, зніжыцца, так штобы ў хрышчонай-раджонай Марыі зубы сцішыліся, зніжыліся.

Як мой дух ціхенькі, лёгенькі, добранькі, дай, Госпадзі, помач.

### 611. Ад зубнога болю

— Маладзік, маладзік, дзе ты быў?

— У Вадама!

— Ці былі людзі ў Вадама?

— Былі!

— Шчо яны ядзяць?

— Камень!

— Ці баляць у іх зубы?

— Не баляць!

— Няхай у раба божага Грышкі не баляць.

### 612. Ад зубнога болю

— Маладзік маладэй, ці быў ты на том свеці?

— Быў!

— Ці бачыў цара Давыда?

— Бачыў!

— Ці баляць у яго зубы?

— Не!

— Каб і раба чалавека зубы не балелі, і ў галаве не шумела, і касьці не ламіла, і маладзіком, і сходам. Загаварую я зубы гнілэя, а станавіцеся зубы сталянэя.

### 613. Ад зубнога болю

— Маладзік маладой, у цябе рог залатой, ты па свету ходзіш, усіх людзей знаеш. Ці быў ты на тым свеце, бачыў ты (хто памёр — назавеш), ці баляць у яго зубы?

— Не баляць.

— Няхай жа і ў цябе, раба божай, не баляць, не шумяць. Штоб яны не балелі, не шумелі, навек занямелі. Я з словам, а Бог з помаччу і святым духам.

## 614. Ад зубнога болю

— Маладзік, маладзік, дзе ты ўчора быў?
— На тым свеце.
— А што ты бачыў?
— Гроб.
— А ў гробі што?
— Раба божага цела мэртвае.
— Ці баляць у таго раба божага зубы?
— Не, не баляць.
— Каб жа і ў гэтага раба божага не балелі.

## 615. Ад зубнога болю

Первым разком, добрым часком, прашу Госпада Бога і Духа Святога.

— Маладзік малады, у цябе рог залаты, ты ўсюды бываеш, многа відаеш. Ты на тым свеце быў?
— Быў!
— Маю бабу бачыў?
— Бачыў.
— Ці баляць у яе зубы?
— Не!
— Дак хай жа яны не баляць і мне.
Не сваімі думамі, гасподнімі славамі. Любі мой лёгкі дух.

## 616. Ад зубнога болю

— Маладзік малады, ці быў ты на тым свеце,
А ці бачыў ты мёртвых?
А ці баляць у каго зубы, як у маёй губы?
— На тым свеце я бываў
І ўсіх мёртвых відаў.
Ні ў кога не баляць зубы,
Як у тваёй губы.
Век не балелі зубы, не балелі, не чувалі,
На тым чале заміралі.

### 617. Ад зубнога болю

— Маладзік маладзенькі,
Твой ражок залаценькі.
На могілках бываў?
— Бываў.
— Мёртвых відаў?
— Відаў.
— Мёртвыя спяць?
— Спяць.
— Іхні зубкі не баляць?
— Не баляць.
— Хай і мае не баляць.
— Хай не баляць.
— Як табе, маладзіку, жаны ня мець,
Так маім зубам не балець.

### 618. Ад зубнога болю

Маладзік, маладзік малады, твой рог залаты, у моры ўмываўся і нам паказаўся. А над морам дуб стаіць, а пад дубам мярцвец ляжыць. Як у тога мерцвяца нічога не баліць, каб так у Мар'і зубы не балелі. Ні я памагаю, а сам Госпад Бог Ісус Хрыстос; Найсвенчая матка, стань на помач.

### 619. Ад зубнога болю

Месячка, месячка! Стаіш ты высока, відзіш ты далёка. Быў ты на том свеці і на этам, відзеў ты людзей жывых і мёртвых. Не баляць у мёртвых людзей ні зубы, ні дзясны, ні поддзясны, ні шчэкі, ні зашчэкі, ні пашчыкі; і штоб у цябе, Васіля, не балелі зубы.

### 620. Ад зубнога болю

Маладзік малады,
Твой розум залаты.
Як табе век на зямлі не бываць,
Так век хай мае зубы не баляць.

### 621. Ад зубнога болю

А ты, месяц малады, табе вянок залаты. Дай Бог табе на пастаянне, а маім зубам на добрая здароўя.

### 622. Ад зубнога болю

Маладзік малады, у цябе рог залаты; чарвякточыць мае зубы, а ты патачы чарвяку губы.

### 623. Ад зубнога болю

Маладзік, маладзік, на моры купаўся, нам паказаўся. Табе крутыя рогі, а рабе божай (імя) прудкія зубы (ці здаровыя ногі); табе старавацъ — рабе божай (імя) панаваць; табе на прыбытак, а рабе божай на здароўе! Як тром мёртвым з гроба не ўстаць і рук не падняць, так рабу божай зубам (нагам) не балець.

### 624. Ад зубнога болю

Я ж з таго свету бабачку ўспамінаю, у зубачках усякую балезнь загавараю. Прыступі, Гасподзь, дапамажы. У месяца зубы не баляць — не баляць; у маладзіка зубы не баляць — не баляць, і ў мерцвяца не баляць. Трэба каб у Валечкі да смерці зубачкі не балелі, не калолі, балезні па жылачкам не хадзілі, лічачка не смуцілі, жылачак не сушылі.

Другім разам, бабаччыным указам, я ж Госпада Бога ўпрашаю, у зубачках усякую балезнь загавараю. Прыступі, Гасподзь, дапамажы. У месяца зубы не баляць — не баляць; у маладзіка зубы не баляць — не баляць, і ў мерцвяца не баляць. Трэба каб у Валечкі да смерці зубачкі не балелі, не калолі, балезні па жылачкам не хадзілі, лічачка не смуцілі. Згінь, прападзі, з зубачак сыйдзі! (паўтарыць шэсць разоў, а потым): І як печ на месце, каб сталі зубачкі на месце.

### 625. Ад зубнога болю

Месяц ты, месяц, сярэбраныя твае рожкі, залатыя твае ножкі.

Зыйдзі ты, месяц, знімі маю зубную боль, занясі боль пад аблокі, мая боль не малая, не цяжкая, а твая сіла магучая.

Мне болі не перанесці. Вось зуб, вось два, вось тры — усе твае, вазьмі маю боль.

### 626. Ад зубнога болю

На небе месяц, у дубе чарвяк змярцвеўшы, рыба мае зубы анямеўшы — каб так і зуб анямеў.

### 627. Ад зубнога болю

На моры валмяным ляжыць сіні камень. А на том камені ляжаць дваццаць пяць мерцвякоў. У іх не баляць зубы век, каб і ў мяне не балелі.

### 628. Ад зубнога болю

Святы Ягоры, вотча Мікола, і святыя зоры, і святыя нябёсы Хрыстовы: як у мертвых у дзядоў, у баб зубы не баляць, дай Госпадзі ў гэтага чалавечка не балелі. Ёсь у полі дрэва: яму з места ня рыцца, так зубом ні разу не балець. Ёсь у лесі гнілая калода: калодзі гніць, а зубом ні разу не балець.

### 629. Ад зубнога болю

Здраствуйця вам, коні,— начхання, нафарсення, а зубам на добрая здароўя. Як у вас, коні, копы не баляць, так у раба божыя (імя) зубы і дўпла не баляць. Амінь.

### 630. Ад зубнога болю

О вы, зубы, зубы! Чаму ж вы не белы, да руды? Хіба вы што кепска жавалі, што хваробы дасталі. Перастаньце жа вы хварэці, будзеце, як велькі пан у гарэці. А коль не перастанеце балеці, то мы будземо вас жалезам цягнуці. Ідзі жа ты, хвароба, у шырока поле, у сухія ляса да ў мокрыя балата, а хваробы нам жадной не трэба, бо яна прыйшла ад чорта, але не з неба.

### 631. Ад зубнога болю

Са святога неба ішла маць Прачыстая з залатым крастом, з залатой талеркай, у моры ваду даставала, прычча, шпачча выбірала, рабу божжаму (імя) боль з зубоў, з дзясень выбірала, Госпада Бога на помач к сабе прызвала, па ету порачку, па раннюю (вячэрнюю — якой парой шэпчаш) зорачку.

### 632. Ад болю зубоў

Ішоў Хрыстос чэраз раку Іардань, сказаў раке Іардань: стань, а ты, зуб, балець перастань.

### 633. Ад болю зубоў

Стаіць дуб, у дубе смоль, каб із зуба вышла боль.

### 634. Ад зубнога болю

Млад маладзік! Млад маладзік нараждаецца
Ў цёмных начах, у вячэрніх зарах,
Не чуяў ён ні стукату, ні грухату,
Ні заносных лун да ні солнышка.
Раб Мікалай у ўтробе мацеры зараждаўся,
Не чуяў ён ні стукату, ні грухату,
Ні краснага сонца, ні яснага месяца.
Дай Госпадзі, штобы яго зубы не балелі
І балезні ў сабе ня імелі. Амінь.

### 635. Ад воўчага зуба

У цёмным лесе стаіць хатка, у той хатцы сядзіць бабка.
— Што ты, бабка, робіш?
— Не п'ю, не гуляю, воўчы зуб замаўляю.

### 636. Ад зубішча, цемянніка

Госпаду Богу памолімся, Прачыстай мамцы паклонімся, усім святым апосталам, усім святым гадавым празьнічкам — усе мне станьця на помачы.

Зубішча, зубішча, ідзіця на дубішча, бакавыя, рэкавыя, гарлавыя, цемянныя, імянныя, нутраныя, ветраныя і прыгаворныя. А калі ня пойдзеця, я к вам прыйду з косамі, з тапарамі, з добрымі малайцамі, і я вас пакашу, парубаю і ў груд складу і спалю і попел разадму.

### 637. Ад зубішча, цемянніка

Зубішчы, зубішчы, выхадзіця на дубішчы. Сухі дубішча, вазьмі етыя зубішча ад етага дзіцяці, цёменныя, ёменныя, бакавэя, гарлавэя, і калючыя і балючыя, і падуманыя і пагада-

ныя, і паглядныя, і пасмешныя, і пастрэшныя і папярэшныя, і радасныя і жаласныя — з буйныя галавы, з русага воласа, з румянага ліца, з ярых глаз, з чорных броў, з дванаццаці жыл, з сараку сустаў і з сараку палусустаўцаў. Выхадзіця вы на мохі, на балоты, на топкія патопы. Там вам цясовыя краваці, пуховыя пярынкі, цвілёвыя падушкі; там вам спаць і гуляць, і красавацца, а ня ў етым дзіцяці, рабе божам Іваньку.

## 638. Ад зубішча, цемянніка

Госпаду Богу памалюся і матары Божай пакланюся. Святая маці Хвядорычацкая, высылайця пошліных і к маладзенцу на помач.

Зубішчы, ідзіця вон у дубішчы. Дубішчы, вазьміця ў раба божага зубішчы, у верх вярховыя, а ў бок бакавыя, а ў корань караняв́ыя, із цемя із палуцемя, із куткоў із палукуткоў, із шчаляпей із палушчаляпей, із касьцей, із ясных вачэй.

## 639. Ад цемяннога зубішча

Ва імя Атца і Сына і Святога Духа. Амін.

Багаславі, Госпадзі Хрыстос і Прэсвятая Багародзіца, ты, вялікая стошніца, усім дзілам памошніца, пумагі нам і пасабі сваім Святым Духам выганяць цімяннэй зубішча і зуб на зялёны дуб (у рату пацісківаць, а на дуб ваду выліваць).

Вы, зубы, зубішча, ідзіця на дубішча, но ты, цімяннэй зуб, ступай на зялёны дуб! На зялёным дубу, на дзівятым суку, там царыца Марэя і прысвятая Праскавея. Аны шатры разбівалі, краваці станавілі і вяночкі савівалі: но ты, цімяннэй зуб, ня быдзь туп — паспішай туда; саўюць і табе, а то табе бяседываць з імі некада.

Я цібе пувяду на Чорныя мора. На Чорным моры там стаіць востраў. На том вострава ляжыць серы камінь. Там ты стань, прыжывісь, вальною ты ўмувайся, рыбаю ты пітайся; толька рыбы еш тэй сорт, якей ня есць хрышчоны народ.

Штоба табе і звароту адтэль ні було (ваду каля шула вылі).

## 640. Ад зубішча, цемянніка

На моры, на лукамор'і стаіць дуб; а ў том дубу два какаты́, а ў том какату́ два зубы — адзін цемянны, другі бакавы. Дуб-дубішча, вазьмі сваё зубішча! Калі возьмеш — я цябе люблю, а не возьмеш — я цябе зрублю.

## 641. Ад зубішча, цемянніка

На моры, на лукамор'і стаіць дуб. Дуб, дуб, вазьмі маладзенца цéменны зуб, а вы, сучышчы, вазьміця зубішчы — цéменныя, éменныя, бакавыя, гарлавыя, урошныя, смяротныя, вадзяныя, ветраныя, агняныя, палыня́ныя. А ня возьмеш — з'есь ён цябе з галлём і з карэннем. Выгаваруюю з буйныя галавы [з русага воласа, з румянага ліца, з ярых глаз, з чорных броў, з дванаццаці жыл, з сараку суставў і з сараку палусуставўцаў].

## 642. Ад зубішча

Першым разам, лепшым часам. Дубішчы-дубішчы, вазьміце Васькавы (Мар'іны) зубішчы. Зуб цéменны, зуб éменны, зуб і бакавы, зуб і рагавы, зуб і цемянны. Угаварваю цябе з Васькавай буйнай галавы, з румянае крыві, і з рацівога сэрца і белага ліца, з чорных броў, з жыл, з пажыл, з касцей, з машчэй, з усіх печаней.

Другім разам, божым часам. Дубішчы-дубішчы, вазьміце Васькавы зубішчы. Зуб цеменны, зуб еменны, зуб і бакавы, зуб і рагавы, зуб і цемянны. Угаварваю цябе з Васькавай з буйнай галавы, з румянае крыві, і з рацівога сэрца і белага ліца, з чорных броў, з жыл, з па́жыл, з касцей, з машчэй, з усіх печаней, з ясных вачэй. У раба божага Ваські ў роце не бываць, у галаве не стаяць, па жылах не хадзіць, жыл не тужыць, вопуху не пушыць, сэрца не знабіць, гаручае крыві ў роце не паліць.

## 643. Ад зубішчаў (як зубы растуць ды баляць)

У лясішчы стаяць дванаццаць дубішчаў. Што на тым дубішчы сядзіць зьмяішча. Ты, зьмяішча, вазьмі ў Ванькі зубішчы, ветраныя, грудныя.

Хух, палюбі мой дух!

## 644. Ад зубішча, цемянніка

Як Госпадзь нарадзіў і на еты свет пусьціў, так і помачы маладзенцу давай.

На моры, на кіяні стаіць дуб; на том дубу чорны воран, выгаваруець зуба цемяннога, і гаручага, і калючага, і балючага, і злога і прызлога, харошага і худога, і бацькавага і маткінага, братняга і сёстрынага. Сам Госпадзь выгаваруець, Сус

Хрыстос, і Божая мацер Прэсвятая Бугуродзіца су свячою, і святы Мікола, і святы Міхаіл-архаіл. І выгаваруюць з касьцей, з мазжэй, [з усіх печаней, з буйныя галавы, з ясных вачэй, з чорных броў, із ліца румянага]. І зуб Максім, і зуб Васіль, выхадзі сусім!

### 645. Ад зубішча, цемянніка

Первым разам, Гасподнім часам. Паперад Госпаду Богу памолімся і ўсім святым паклонімся, усім святым святочкам, гадавым празьнічкам — і станьця мне ўсе ў помачы.

На Ярдані на рацэ, на Сіяньскай гарэ стаіць дуб на дванаццаць какатоў, на дванаццаць варатоў; на том дубі сідзяць галубяняты. Галубяняты, галубяняты, выбірайця зубяняты ў раба божага, бакавыя, рэкавыя, гарлавыя, цемянныя, імянныя і ўрошныя, прыгаворныя із жыл, із пажыл, з касьцей, з машчэй, з усіх печаней, з буйныя галавы, з ясных вачэй, з чорных з броў, із ліца румянага.

### 646. Ад зубішча, цемянніка

Стаіць дуб на полі. Як мне з етага дуба не знімаць ні злата, ні срэбра, так у етага младзенца раба божага няхай ня будуць зубішчы ні куцьнія, ні пярэднія, ні цемянныя, ні ветраныя.

### 647. Ад зубішча, цемянніка

Як етаму дрэву на корані не стаяць, залатым веццем не махаць, птушачкам не сядзець, гняздзечкі ня віць, дзетак ня вывадзіць,— раба твая божая,— так етаму зубішчу ў році ня быць: ні бакавэй, ні вісакавэй, ні ніжні, ні вісучы (гаварыць, абвёўшы пальцам сучок у сценцы).

### 648. Ад зубішча, цемянніка

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся — ка мне Бог на помач, Прачыстая матар на радасць.

Угаварую я зубішчы, бакавыя, гарлавыя, сцісковыя, патылашныя, грудковыя, бацькавы, маткіны, завісныя, карысныя, моўныя, прыгаворныя, дзявоччыя, парабоччыя, хто і чуў, хто і бачыў. Як табе, дубя Даніла, бяроза Кацярына, як табе на корні ня стаяць, голлям ня махаць, карэння ня пускаць, так у раба божага маладзенца зубішчу-цемянніку ня бываць,

бакавому, гарлавому. Угавараваю, умаўляю зубішча ў раба божага маладзенца. Не я гавару — Гасподзь Бог Сус Хрыстос, янгеллім словам, святым духам. Дубя, дубя, вазьмі свае зубы, бакавыя й гарлавыя.

### 649. Ад зубішча, цемянніка

Вотча... Багаславі, Госпадзі, мацер Божыя Бугуродзіца, царыца нябесная.

Загаварўую зуб цемянны, ветраны, вадзяны, уцешны, пасмешны, із буйныя галавы, з таўстыя касьці, з гаручыя крыві. Цар Аўхіён, ці мееш ты сілу на етаму дрэву? Як етаму дрэву (гаворыцца тройчы ля дубовага коліка) на пні не стаяць, зялёнаму ня буваць, веццийкам не махаць, так у раба божага зуба цемяннога ня буваць, жывата-сэрца ня ўзрываць. Хух, любі мой дух!

### 650. Ад зубішча, цемянніка

Зара-заранiца, божая памашніца, Прачыстая маці, памажы памагаці.

Як папу пад стаўпом ня стаяці, храстоў ня паднімаці, званоў ня біваці, харуімы ня ўспеваці, так у раба божага зубішчам ня бываці, ні цемянніку, ні вісковым, ні грудным, ні падпятным, ні падпашным. І ўрошныя і прыгаворныя зубішчы, ідзіця на старыя дубішчы.

### 651. Ад зубішча, цемянніка

Раба божая Хоўра я ўсё знаю і зубішча загавараваю, цемянныя, бакавыя, пе́ракавыя (папярэчныя), падумныя, прыгаворныя, радасныя, жаласныя, уцешныя, пасмешныя і ўрошныя (куском дубовага дрэва гладзіць па цемю). Сколькі сухому дубу ня раскідацца, столькі ў раба божага зубішчам ня 'трыгацца. Вам тут ня стаяці, касьцей ня ламаці, крыві ня псуваці. Дай Бог на помач.

### 652. Ад зубішча, цемянніка

На моры камень, на зе́млі дуб, на небі месяц. Як гэтым тром царком укучу не схадзіцца, так рабу божаму зубішчам не балець: ні гарлавым, ні бакавым, ні цемянным.

## 653. Ад зубішча, цемянніка

Першым разам, божым часам. Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся, усім сілам нябесным, кіяўскім, пячэрскім, Антонія, Хвядосія, стань, Госпадзі, на помач.

І на моры і на лукамор'і стаяў дуб на тры какаты, і на том дубу сідзяць тры дзявіцы; адна шыла золатам, а другая серабром, а трэцьцяя нічога ня зная, толькі цемянны зуб замуўляя, урошны, прыгаворны, наносны, набродны, калючы і балючы. Тут табе ня стаяці, касьці ня ламаці, сэрца шчырага ня знабіці. Ад Госпада Бога помач, а мой дух ціхі, мяхкі.

## 654. Ад зубішча, цемянніка

Сьвяты чацьверг, стань мне на помач зубішчы ўгавараваць. На моры, на лукамор'і стаяць тры дубяняткі, на тых дубянятках сідзяць тры галубянятки. Як етым дубянятках не стаяць, галлём не мятаць, так у раба божага зубішчу ня бываць.

## 655. Ад зубішча, цемянніка

Першым разам, добрым часам.

Дубішчы ж вы, дубішчы, вазьміця ж вы ад раба божага маладзенца зубішчы, і цёмянныя і ёмянныя, і патылашныя, і бакавыя, і верхавыя, і прыгаворныя, і набродныя, і жаноцкія, і парабоцкія, і хлапоцкія, бацькавы, маткіны, і радасныя, і жалосныя. Калі ж вы будзеця мне салодкі, дак я вас праглыну, а як горкі — праплюю (плюнуць тройчы). І ссылаю вас, зубішчы, у гнілыя дуплішчы. Тут вам ня стаяць, касьці ня ламіць, галовачкі ня паліць, шчырага сэрца ня знабіць.

Сьвяты аўторак, стань, Госпадзі, на помач рабу божаму маладзенцу. Ад Бога помач, а мой дух.

## 656. Ад зубішча, цемянніка

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся. Прачыстая ідзе памагаці зубішча лячыці.

Дубішчы, дубішчы, вазьміця свае зубішчы, бакавыя, цемавыя, прыдумныя, прыгадныя, жаноцкія, парабоцкія, хлапоцкія. Ня 'дбаўляю ні піцення, ні ядзення — адбаўляю зубішчы на ніцыя лозы, на крутыя горы. Там вам і піць і гуляць і ў маладзенца ня бываць.

### 657. Ад зубішча, цемянніка

Вішшо́ адсякаем, к сырой зямлі пакідаем, ад касьці боль адхінаем, на мхі, на балоты, на чорныя воды адсылаем: вада збягаець, гэтую боль адцінаець.

### 658. Ад зубішча, цемянніка

Вылілася мора, а над морам бяроза, пад бярозай ляжыць баба няжывая. Як гэтай бабі ня 'тжывацца, так гэтым зубішчам ня 'трыгацца.

### 659. Ад зубішча

Дымішча, дымішча, вазьмі ў гэтага дзіцяці зубішча (перад адчыненай печчу).

### 660. Ад зубішча

Зубішча, зубішча, ідзі на дымішча. Пака я вас не выгаварала, вы горла закладалі, неба падпіралі. Цяпер вам горла не закладаць, неба не падпіраць, табе (імя) пры здароўі стаць.

### 661. Ад зубішча

На сінім моры стаіць дуб зялёны, на тым дубе залатая кара, сярэбраная, там гулялі цараняты, паняняты. У Настасі цёменны зуб атнімалі, пад залатую кару, сярэбраную схавалі.

### 662. Ад урокаў і скулы

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай пакланюся. Святая Прачыстая мацер Божая, прыступі і памажы.

На моры кашавіца, у кашавіцы тры сястрыцы; што яны вымаўлялі — скулу ўгаварали. Скуліца, маравіца, раданіца, крыжаўніца, прыстрэшніца, я цябе ўмаўляю, угавараю ад жоўтай касці, ад рыжага мяса, ад шумнай галавы. Сем пятніц малі, святую Прачыстую ждалі, скулу ўгаварали. Скулухна-галухна, тут табе не сядзець, Раманавай крыві не піваць, касці не ламаць. Ідзі сабе за ніцыя лозы, за цёмныя лясы, сухія балата. Там сабакі не брахалі, пеўні не спявалі, тапарамі не рубалі. Там табе сталы засціланыя, кубкі наліваныя. Там табе папіць, пагуляць, пакрасаваць. Прыстрэкі, падзіўкі, падумкі,

хлапоцкія, дзявоцкія, жаноцкія, пасмешныя, паветраныя, падуманыя, пагаданыя — усіх вас сабіраю. Я славамі ўгавараю, а Гасподзь з помаччу.

### 663. Ад скулы

Першым разком, божым часком, Маняю звацъ, скулу выгаварацъ.

Цераз сіне мора кладачку кладуць, там тры ангелы ідуць. Прыступіла Божая маці Мані скулу выгаварацi. Перша залатуха, другая рыжуха, трэцяя з любімага духа.

### 664. Замаўлянне скулы

У полі стаяла ігруша, а пад той ігрушай стаяла тры дзявіцы: Арына, Марына й Кацярына. Яны не ўтыкалі, не ўшывалі, толькі скулу-рожу і скулу-залатуху, і мізіперніцу ўгаваралі. А з чаго ж ты паднялася? Ці ты з яснага сонца, ці ты з буйнага ветру, ці з паганых вачэй, ці з паганых муслéй? Я ж вас угавараю і ссылаю на вялікія рэкі, дзе волны гуляюць. Там скулу разганяюць на цякучы раўчакá, на цёмныя ляса. Дзе пеўняў і голас не заходзіць, там вам упіваць і гуляць. А гэтаму Іваньку век і зроду скуле не бываць.

### 665. Ад скулы

На моры, на кіяні стаіць стол, на тым стале скацерці бярчастыя, на тых скацерцях стаіць тры кубкі маляваныя, маляваныя, наліваныя. За тымі сталамі сядзела тры панны — там скýлу гукалі, там скулу бажалі, ад раба божага выбаўлялі з белага цела, з румянага ліца, і з сустаў і з касьцей, з воласа, з голаса, калючую, балючую, гнаявую, крывавую, і на ніцыя лозы, на мхі, на балоты ссылалі. Як на Хрыстоў дзень, на Вялікадня, яечка мы дажыдаем, так яны ад раба божага адбаўляліcь. Добрым часам, лёхкім духам.

### 666. Ад скулы

На Васіяньскай гарэ стаіць камора, у той каморы стаіць трыдзевяць сталы дубовых, на тых трыдзевяць сталах дубовых там заслана трыдзевяць скацерсці шаўковыя, за тымі сталамі сідзяць там трыдзевяць панны — краснухі і чарнухі, бялухі і жаўтухі, злыя ўнутраныя залатухі. Як гэтым тромдзевяць

скацерсцям век з гэтых сталоў ня знімацца, як гэтым паннам век з-за гэтых сталоў ня вылазіць, каб і так у раба божага ня бываць у яго ні скуллянкам, ні гноялкам, ні крываўкам, ні краснухам, ні чарнухам, і ні жаўтухам, і ні злым урэдным унутраным залатухам. Ня бываць у раба божага на шчырым яго сэрцы, на чорнай печані, у буйнай галаве, у гаручай крыве. Каторае слова запомніў, тым амін.

## 667. Ад скулы

Святы ацец Мікола, Антоні-Хвядосі, станьця мне на помач. Ішла Божыя мацер у поле гуляці і стрэла трох дзявіц:

— Тры дзявіцы, што вы ўмееця рабіць?

Адна гаворыць: я ўмею ўзор нашываць; а другая: платок нашываць; а трэцяя: ад Башыхі загаварываць. Ад Башыхі мужыцкія, ад Башыхі жаноцкія, дзявоцкія, дзіцяцкія, хлапецкія, ветраныя, вадзяныя, урошныя. Тут табе не гуляць і не буяць, белыя касьці не ламіць і чорныя крыві не сушыць. А там табе гуляць і буяць, ідзе казак канём не іграець, дзявіца касой не маець,— там табе гуляць і буяць атныні і да веку. О Госпадзі, амін.

## 668. Ад скулы

Первым разам, добрым часам Госпаду Богу памолімся, святому васкрасенню (які дзень) паклонімся.

Угаварую, упрашаю скулу красную, скулу чорную, скулу розавую, скулу ветраную, скулу вадзяную. Па касці не хадзі, касці не ламі, жывата не тамі, сэрца не сушы. Дай жа ты, Госпадзі, гэтай (імя) на помач. З буйнай галавы і з русых валасоў, з чорных брывей, з шчырых вачэй, з румянага ліца і з шчырага сэрца, і з краснай крыві, з жоўтых касцей і з ножак, ручак, і з жылля, пажылля. Патуль ты таміла, патуль ты ламіла, пакуль я цябе не ўгаварыла. Угавараю скулу красную, скулу чорную, скулу розавую, скулу ветраную, скулу вадзяную. Угавараю, умаляю, на быстрыя воды пасылаю, на жоўтыя пяскі, на зялёныя травы.

На моры, на акіяне стаяла ліпа. Пад той ліпай сталы пазасціланы, кубкі паналіваны, тры дзявіцы, тры сястрыцы п'юць і гуляюць і ў (імя) скулу выбіраюць. Маць Прачыстая ішла, залатым кіёчкам падпіралася і з Госпадам Богам пастрачалася.

— Маць Прачыстая, куды ты ідзеш?

— Іду ў рабы божае (імя) скулу выбіраць. Скулу красную,

скулу чорную, скулу розавую, скулу ветраную, скулу вадзяную. На быстрыя воды, на вячэрнія зоры, на ранішнія зоры. Пакуль вячэрнія зоры патухаюць, то ў (імя) балезнь пакідаюць.

### 669. Ад скулы-бяліцы

Першым разам, гасподнім часам памалюся Госпаду Богу і прашу цябе, Госпадзі, маць Прачыстую на паратуначак, святая пятніца вялікодная, святы вобраз першацудоўны.

Цякла рэчка крыніца, тудой ішла скула бяліца, гарлавіца, жабіца, і ўрошная, і прыгаворная, і падзіўная, і пагадная, і паглядная. Я ж гэту боль угаварала бабськую з-пад чапца, мужчыньску з-пад шапкі, дзявоцку з-пад платка, хлапоцку з-пад казыра.

Над рэчкай быстрай, крыніцай, халоднай вадзіцай стаяла карваць цісавая, ляжала пасцель пухавая. На ёй Ганна-панна спала, к сабе скулы ззывала, па імені называла, сястрыцамі ўкладала. Вы ж мае скуліцы, вы ж мае сястрыцы, вы жы ўмувайцесь, вы жы ўсцілайцесь, вы жы ўкладайцесь. Нашто ж вы раб божую Арыну ў роце зачапілі? Па касці не хадзіце, касці не ламіце, цела белага не паліце, сэрца і жывата не знабіце. Ні я ж ўгаварала, к сабе Госпада Бога на помач звала. Дай Божачка час добры і дух лёгкі. Не мой душок, да Гасподні.

### 670. Ад скулы

Ішла мамка Прачыстая па Сіяньскай гарэ, святую ваду насіла і раба божага змывала, і балячку выганяла, свярбучую, калючую, балючую, абкладную, абложную. Ё ў полі дуб, на небі звёзды, на моры камень — тры браты родных. Як ім у кучу ня схадзіцца, умесці не бяседаваць, так етай балячцы ня бушаваць. Патуля ты бушавала, пакуля я цябе ня знала. А цяпер я стала цябе ўпрашаці і высылаці з касьцей, з машчэй скулу-нарыцу, скулу-залазніцу, скулу-працаўніцу, скулу-макрыцу і скулу-рожу. Я цябе пасылаю з буйнай галавы, з касьцей, з машчэй на мхі, на балоты, на быстрыя рэкі. Там ляжыць белы камень. Ударся ты аб еты камень і рассыпся на мелкія частачкі.

## 671. Ад скулы

Госпадзі Божа, Прачыстая маці, прыступі-памагі скулу-рожу выгавараці.

У лузе стаяла каліна. На той каліне сядзела Кацярына, сама сабе гаварыла: «Ня ўмею ні шыці, ні прасці, ні ткаці, толькі ўмею скулу-рожу выгавараці». Яна выгаварала, на вецер пускала. Ідзі ты за цёмныя лясы, за сінія лозы, дзе тры рэчкі сходзяцца, дзе людзі не ходзяць — там табе быць, там табе прабываць. Амінь.

## 672. Ад скулы

Первым разам, гасподнім часам, я з славамі, а Гасподзь з помаччу, прыступі, царыца нябесная, ка мне на помач і памажы мне, Госпадзі, скулу гаварыці.

Добры дзень табе, скула, ты скулавіца, сіняя сінявіца, белая белавіца, чорная чарнявіца, скула ж ты красуха, бялуха, чарнуха, брусуха, калуха, залатуха. Адчаго ты, скула, узнялася: ці ты з вады, ці ты з зямлі, ці ты з смеху, ці ты з прыгавору, ці з натугі, ці з падымку ай з падзіўку? Ад таго ж ты, скула, уцічаішся і ўлягаішся, я ж цябе, скулу, прашу, я ж цябе, скулу, малю, да не я цябе, скулу, сашлю, а сашлець цябе сам Гасподзь, мацер Божая. Выйдзі ты, скула, з касцей, з мясцей, з ярых ачэй, з буйныя галавы, з жоўтыя крыві, з рыжага мяса, з румянага ліца, і з рук, і з ног, і з галавы, і з усіх жылачак раба божага (імя). Ідзі ж ты, скула, на махі, на балаты, на ніцыя лозы. Там каліна-маліна піва варыла, кубкі налівала, цябе, паню, у госці дажыдала. Там табе будзя пасідзення і паляжання, там жа табе будзя і гуляння.

Ішоў сам Гасподзь з венічкам і з лапатачкай. Венічкам вымятаў, лапатачкай выкідаў, із раба божага скулу павыкідаў. Ішла мацер Божая, несла тры розачкі. Первую зламала, другую ссушыла, трэцяй рабу божаму (імя) скулу-рожу ўтушыла. Прылюбі, Госпадзі, мой дух.

## 673. Ад скулы

Першым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, мамцы Прачыстай прыкланюся, раба божае Вулляне на пользу даць.

Скула і ўрошная, скула і прыгаворная, скула і ветраная, скула і вадзяная, скула і калючая, скула і балючая, скула і ла-

мучая, скула і свярбучая, скула-рожа, скула-каўтун і скула-павікавіца, скула-сінюга, скула і бялюга, скула і краснюга, скула-за́ўшыца. І ўгаварываю скулу-скуланіцу, скулу красную дзявіцу. Ну, я ж цябе захапіла, ну, я ж цябе ўгаварыла і вопуху не пусціла. Па касцях не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не знабіць, гаручае крыві не паліць, і несці не сцягаць, і раба божае Вулляне на пользу даць. На сінім моры там прыстолы, сталы пазасціланы, кубкі паналіваны. І там цябе, скула-скуланіца, скула красная дзявіца, там жа цябе дажыдалі. От там табе кубавацца, драбней маку рассыпацца. Рассыпся ты, разыйдзіся драбней маку, не квяйся ты ні схада, ні маладзіка. Не любіш ты мяне, прылюбі мой дух.

## 674. Ад скулы

Памалюся, пакланюся Госпаду Богу і ўсем святым святочкам, гадавым празнічкам, ранняй (вячэрняй) зорачцы, святому аўторачку. Госпада Бога прашала, прачысту мамачку на помач прызывала і рабу божаму (імя) помачы давала.

Скула-скуліца, усценіца белая, красная, чорная, чырвоная, сіняя, уцешная, паўзучая, свярбучая, усмешная, мужская, дзявоцкая, жаноцкая, хлапецкая, дзяцінаая, удавіная, месячная, сонечная, я ж цябе, скула ніцая, залатушная, угаварываю, на сіне мора адсылаю. Там табе на сінім моры красавацца, а ў мяне (імя) у галаве, у пальцах, у ліцэ, у румянцэ, у вісках, у вачах вечна не атрыгацца. На сінім морэ, на лукаморэ стаіць дуб на дванаццаць какатоў, у тых какатах стаіць стол. Столікі цісовыя шолкамі і скацеркамі засланыя. На тых сталах стаяць кубачкі з віном паналіваныя, за тымі сталамі сядзяць дванаццаць скул-сясцёр прыбраныя. Там жа вам, дванаццаць скул, сёстрам піць-гуляць, красавацца, а ў мяне рабо божай (імя) вечна-навечна не атрыгацца, па ету зорачку, па раннюю (вячэрнюю) зорачку.

## 675. Ад скулы

Успіраецца, узнімаецца, худы час бываець, вецер павеваець, сонца ўгрэваець. Святы аўторак, вячэрняя зара, добрая пара.

Скула-скуляніца, родная сястрыца, я цябе адбаўляю, з касьці боль вымаю, цепляную, вадзяную, лесавую, земляную, жаноцкую, мужчыньскую, дзявоцкую, хлапяцкую, урошную, прыгаворную, падуманую, пагаданую і падзіўную, свярбучую, балючую; і гэту боль адкідаю, ваду даваю. Божа, не гнявіся, Сус Хрыстос, на помач станавіся, і гэта боль, разыйдзіся.

## 676. Ад скулы, рожы

Высылаю я, вымаўляю я — ідзі ты, скулішча, на сіняе мора. На сінім моры белы камень ляжыць, на том камні два прастолы стаіць, на тых прастолах два кубачкі стаіць: у вадзін кубачак жоўты пясочак засыпаецца, у другі кубачак злота і срэбра пераліваецца. Там жа ты будзь, там жа ты прабывай, свой вопух пушчай, а рабы Параскі не чапай: будзець яна цябе праклінаць, Госпада Бога ўпрашаць.

## 677. Ад скулы

Першым разам, добрым часам прашу Госпада Бога, Духа Святога, святую царыцу, скулу-скуліцу. Угаварваю скулу раба божага Міхаіла: калючую, балючую, урошную, прыгаворную, уцешную, смешну, уракану, улякану, падзіўну, падумну і пагадну, дзявоччу, жаноччу, мужчынскую, бабскую, дзедаву, бабіну, матчыну, усіх мірскіх хрысціян, і ўпрашаю і ўгавараю дванаццаць скул: разуху, сівуху, наравеніцу, панікніцу, чарнуху, бялуху, жаўтуху, журавініну, скулу-рожу, скулу белу, скулу сіню. Сядзець табе, скула-рожа, сядзець табе тут непрыгожа. Высылаю, высяляю на зялёныя лугі, на крутыя берагі. Там лугі зеляныя, травы шаўкавыя. Там табе гуляць і буяць, і варэшкі таптаць, там у Міхаіла не бываць і галоўкі не паліць, сэрца не знабіць, вочак не цямніць, кроў не марыць. Датуль жа ты хадзіла, галоўку паліла, сэрца знабіла, вушкі глушыла, вочкі цямніла, кроў марыла, жоўту косць сушыла, пакуль Агата прыступіла і ўгаварыла не сваімі думамі, а гасподнімі славамі. У час добры, спалюбі дух лёгкі (дзьмухаць).

Другім разочкам, дробным часочкам прашу Госпада Бога, Духа Святога, святую царыцу, скулу-скуліцу. Скула-скуліца, красная дзявіца. Сама атыдзі, сваіх дзяток адвядзі. Ідзі сама на Сіяньскую гару. На Сіяньскай гары стаіць хата, а ў той хаці скуліная маці з яснымі вочкамі, з краснымі дочкамі. Там табе і кубачкі паналіваныя, сталы пазасціланыя, там цябе будуць частаваць і шанаваць, у арэшачкі таптаць. У рабы божай (імя) не бываць, і галоўкі не паліць, і сэрца не таміць, вушак не глушыць, вочак не цямніць, кроў не марыць. Датуль жа ты хадзіла, галоўку паліла, сэрца знабіла, вушкі глушыла, вочкі цямніла, кроў марыла, жоўту косць сушыла, пакуль Агата прыступіла і ўгаварыла не сваімі думамі, а гасподнімі славамі. У добры час, спалюбі дух лёгкі (дзьмухаць).

## 678. Ад скулы

Дванаццаць сабраўшы, кажную па іменню назваўшы: першая рабая, касцяная, нутраная, сілная, патылная, і нагаворная, і на вецер пушчаная, залатушная, узбітая, падлітая, суніца, каторая з кажанём гуляла, усякія балезні разганяла да па сіняму мору, да па чыстаму полю, да па буйных вятрах, да па глыбокіх азярах. Да ацец Мікола, да матка Хрыстова, да злюбі, Божа, мой дух. Да не пятрыся ні з ходу, ні з народу. Калі з ветру, то ідзі на паветра, калі з аччу, то ідзі на заплеччу.

## 679. Ад скулы

Благаславі нам, Госпадзі, прасвятая Пяцінка Праскавея, мучаніца Хрыстова, стань жа, Госпадзі, на помач, Прачыстая маць, на радась.

Як на моры, на лукамор'і стаіць зялёны явар, пад тым яварам цясовая карваць, на той карваці слішная панна піры пірувала, гасьцей частувала, сахо́рным яблачкам шыбала, махала, гуляла, скулку ўпрашала: скулухна сінява, скулухна краснава, скулухна ніцая, скулухна ўрошная, падуманая, пагаданая, радасная, жаласная, унімісь, уцішысь, уляшысь у раба божага етага чалавека з буйныя галавы [з гарачыя крыві, з жоўтыя касці, з румянага ліца, з ярых вачэй, з белых грудзей]. Як камяню на корані не стаяці, веццем не махаці, лісцем не шумеці, так у раба божага ў буйнай галаве болі не балеці, не шумеці, не ламіці, падзіўнай, прыгаворнай [падуманай, пагаданай, прысмешнай, прыстрэшнай, урошнай, паветранай], па сей час, па сею гадзіну. Не я ж цябе радзіў, я раба божага ад скулы адхадзіў. Мой душок ціхонек, лягонек.

## 680. Ад скулы

Госпаду памо́лімся.

Вадзіца-царыца, красная дзявіца, вымываеш ты з мо́ра белыя камушкі і перамываеш жоўтыя пяскі, абмый раба божага скулу-скуліцу, красную дзявіцу, і сінюю сінюгу, і белую бялугу, і жоўтую жаўтугу, із раба божага з русага воласа, з бумажнага цела, з румянай крыві. І скула-скуліца, красная дзявіца, выхадзі, выступай на зялёныя лугі, і на шырокія лісты, і на шчырыя бары, і на тоўстыя дрэвы́,— там табе гуляння, там табе буяння — у раба божага нет ні гуляння, ні буяння. Ня будзеш жа ты выхадзіць, скула-скуліца, вазьму дванаццаць

прутоў і дванаццаць ігол, буду скуліцу калоць і пароць, сеч і рубаць, на зялёныя лугі выганяць і на шчырыя бары, і на тоўстыя дрэвы — там табе гуляння і буяння.

### 681. Ад скулы

Гасподняя Божая маць-заступніца, памажы мне, Госпадзі, раба божжаму Івану загаварыць скулу. Скула-карытніца, панітніца, рожа, крупчатка, вадзяная, ветраная, прыдумная, прысмешная, кіпучая, гаручая, каўтунніца, абдульніца. Ідзіце, мае скулы, на сінія мара, на сухія ляса, там будзіце піць і гуляць і скулы свае замаўляць. Я вас, мае скулы, загаварыю і вышэптую: і з жыл, і з паджыл, і з краснай краві, і з матушкі трыбушынай. Штоб Івана не сушылі і серца не скамілі. І сунімаецца воінства. Суніміся, скула.

### 682. Ад скулы

А скула ж ты скуляніца і сіняя муравіца, жоўтая жаўтавіца, і белая бялавіца, і красная красавіца, і чорная чарнявіца, і гадавая і палугодная, і часовая і мінутная і разовая. І ўсе ж вы калючыя і балючыя, і прыгаворныя, і набродныя, і жаноцкія, і параболкія, і дзявоцкія, бацькавы і маткіны, радасныя і жаласныя. Я ж цябе ўпрашаю і выгаварую з касьцей, з мажджэй, з палукасьцей, з буйнай галавы, з румянага ліца і з усіх жыл і з паджылачак. І тут табе ня стаяці і касьці ня ламаці, і галавы ня паліць, і шчырага сэрца ня шчаміць. Я ж цябе выгаварую і ўпрашую, і выйдзі ж ты, скула-скуляніца, на гуляй-поле. Там табе мяккія падушкі і белая пасцелька; там табе сталы засланы і кубкі паналіваны, там табе гуляння, там табе буяння, там тваё красавання. І тут табе ня стаяць, і касьці ня ламіць, і галовачкі ня паліць, і шчырага сэрца ня знабіць. І рассыпся там на макава зерня. І святая Пяцінка Хрыстова, стань ты, Госпадзі, на помач. І ад Госпада Бога помач, а мой дух ляхкі.

### 683. Ад скулы

Першым разам, добрым часам прашу Госпада Бога і Духа Святога, святую царыцу і скулу-скуліцу. Ты, скула-рожа, тут табе сядзець непрыгожа. Ідзі ты ў чыста поле, у сіне мора, дзе птах не залятае, канюх не заязджае, тапарамі не замахаюць. Там табе прыстолы пазасціланы, ском'і пазастаўляны, праскоўкі

панаразаны. За тымі прыстоламі сядзяць тры скулы, п'юць, гуляюць, у карты іграюць, мяне, рабу божую Ганну, на пір зазываюць. А мне некалі піру піць, а трэба рабу божаму (імя) скулу ўхадзіць. Скулу-агнявіцу, скулу-муравіцу, скулу-рожу, скулу прыгаворную, скулу пасмешную.

Ты, чоран воран, ляці ў Кіеў. У Кіеве стаіць капліца, пад той капліцай крыніца. Набяры ты з тае крыніцы вадзіцы, падкладзі пад правае пяро, пад правае крыло. Прынясі рабу божаму (імя) напіцца, памыцца. Ад скулы-агнявіцы, скулы-муравіцы, скулы-рожы, скулы прыгаворнай, скулы пасмешнай.

Не сваімі думамі, гасподнімі славамі. Любі мой лёгкі дух. Ху!

## 684. Ад скулы

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай Божай маці пакланюся. Святая Прачыстая Божая маці, прыйдзі Ганне скулухну-матухну шаптаці.

Ох ты, скула Ганна, ты красная панна, чаго ты шумовая, ці ты з работы, ці ты з таўкоты, ці ты пахадзюшча, ці ты рабацюшча, ці ты прыстрэчна, ці ты ўрошна, ці ты падумана, ці ты пагадана? Тут табе не стаяці, касцей не ламаці, красы не цяраці. Ішла мацер Божа цераз сіняе мора з залатою кніжкаю, стрэла яна чорнага ворана:

— Ох ты, чорны воран, вазьмі ты скулухну-матухну, нясі туды, дзе вецер не вее, дзе сонца не грэе, дзе салавей не лятае, каб яна рассыпалася, раскацілася макавым зярняткам і па нізкіх лозах, і па быстрых водах, не адчынялася, не спаміналася ні ў поўдні, ні на маладзіку.

Маі словы, а божэнны дух.

## 685. Ад скулы

Ля дарогі стаяла бяроза. На той бярозе стаяла дванаццаць какатоў. На тых какатах дванаццаць салаўёў. Яны пяюць і спяваюць, із рабы божай (імя) скулу выгавараюць, урошную, прыстрэшную, прыгаворную, калючую, балючую, яднючую, залатушную, рассыпную, ражавую, залатушную. Угаварваю я скулы з рабы божай Евы, з буйнай галавы, з румянага ліца, з шчырага сэрца, з гарачага жывата, з белай касці, з светлых жыл, з яркіх вачэй, з усіх печаней; угаварваю я скулу ў рабы божай Евы па касцях не хадзіць і касцей не ламіць і дух мой злюбіць.

## 686. Ад скулы

Выгаварую я ету балезню скулу, і прыдумную, і прыдзіўную, і прыгаворную, і жаноцкую, і дзявоцкую, і хлапецкую, і мушчыньскую, і ўцешную, і пасмешную. Скула-скуліца, пракрасная дзявіца, не тут табе гуляць і не тут табе буяць і раба божага не чапаць. Есь на Сіяньскам моры, на злукамор'і стаіць дуб, пад тым дубам цясовая караваць, на тэй караваці пракрасная дзявіца: вот там табе гуляць, вот там табе буяць і раба божага не чапаць.

## 687. Ад скулы

Добры вечар, вада-вадзіца, божжа памашніца! Цякла ты су 'току сонца, з-пад яснага месяца, з-пад з Алтыра-каменя і мыла-памывала жоўтыя пяскі, крутыя беражкі, бела камення, сырое карэння, лугі, балонння, шаўковую траву — і мый-памывай раба божжага маладэнца. Ой, скула-скулавіца, сіня-сінявіца, бугра-бугравіца, і залатуха, ніцуха і ўпрашаю вас, і ўкрашаю, не сам сабою — Госпадам Богам, Прачыстаю святою,— і не гуляйця вы, не буяйця ў етага маладэнца ні ў белым ліцы, ні ў рацівым сэрцы, ні ў жылах, ні ў пажылках.

На моры на сіяні стаіць воструў, на той воструві стаіць хатка, а ў той хатцы жывець бабка, і ў тые бабкі стаіць карваць дубовая, цясовая; на той карваці ляжаць падушкі пуховыя, цьвілёвыя — на тых падушках вам гуляць і буяць, а на етага раба божжага маладэнца пара забываць. Не сам сабою — Прачыстаю святою: Прачыста маць наражала і помачы давала, і духам сваім дунула і скулу атагнала.

## 688. Ад скулы

Вадзіца-царыца, красная дзявіца, каціласе з рэк, з парэк, з ключэй, з падключ, з-пад крутых гор, з-пад ясных зор, з-пад цёмнага булуќа (хмары), з-пад яснага месяца, з-пад краснага сонца. Скула-бялуха, скула-краснуха, скула-чарнуха, скула-жаўтуха, скула-зелянуха, скула-вішнюха — вас дванаццаць скул, вас дванаццаць красот. На чом скула схвацілася, на чом уз'явілася: ці на паходзі, ці на рабоці, ці на піцянні, ці на едзянні? Як мертваму чалавеку па свету ня хадзіці, з людзьмі не бяседаваці, так у раба божага ўроцы ня біваці.

### 689. Ад скулы

Скулухна-матухна, на сінім моры, на лукамор'і, там цябе чорны чарнец дажыдаець, белу пасьцель засьцілаець і скулухну-матухну дажыдаець і ўпрашаваець. Там табе цясовыя карвацi, пуховыя пярыны, цвілёвыя падушкі. Там табе піць і гуляць, крусувацца.

### 690. Ад скулы

Ты, зара-заранiца, ты, раса-расiца, ранняя і вячэрняя! Ты, скулiшча-асудзiшча, ты, скула белая, ты, скула чорная, ты, скула сiняя, ты, скула жоўтая, ты, скула завiсная, ты, скула радасная, я цябе высылаю з касцей, з машчэй, і з ясных вачэй, з буйнай галавы і сэрца, з усіх жыл і паўсустаў, каб раб Іван хварэць перастаў. Ты ідзі, скула, на сiняе мора. А на тым моры ляжыць белы камень, на белым камнi дзявiца сядзiць. Яна не шые, яна не мые, яна не тчэ і не прадзе, толькi рабу Івану помашч ад паганых скул дае.

### 691. Ад скулы

Сам Гасподзь Ісус Хрыстос!

Выганяю я ету скулу на мхi, на балоты, на сухей лес: там вам красавання, там вам лiкавання. На чым жа ты схапiлася: цi на радасцi, цi на пiцяннi, цi на едзяннi? На чым жа ты схапiлася, на тым і перастань. Дарагiя радзiцiлкi, еслi не ваш — не сушыце: даю вам пшанiчку на куцейку.

### 692. Ад скулы

Скула-залатуха, чаго ты раскрачавалася: цi на пячэнне, цi на ядзенне, цi на господняе памышленне, цi ўрошная, цi малошная, цi дзiцяцi, цi дзявочая? Ёсць на сiнiм моры камень, на тым каменi прыстол стаiць, на тым прыстоле дванаццаць куб вiна налiта. Сам Бог сядзiць, умаляе, Насвенчай маткi дапамагае, усе болi адганяе. Тут табе пiць, жывата не тамiць, касцi не ламiць.

### 693. Ад скулы

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры Божай пакланюся, кiеўскiм, пячэрскiм усiм сiлам нябескiм, усiм святым гас-

поднім божым угоднікам і ўсім святым гасподнім скорым памочнікам. Усе святыя гасподнія божыя ўгоднікі, усе святыя гасподнія божыя скорыя памочнікі, прыступайце рабе божай Галі да помачы з паддзіўку, з-пад разгавору, з-пад зляку, з-пад удару, з-пад нерваў, з-пад унушэння, з паддзелу, з-пад ветру, з-пад вады, пузыр, нарыў, волас, скулу парнýю, адзінарную ўгаварваць. Скула-скуліца, красна красавіца, бела бяліца, сіня сініца, чорна чарніца, рожа-разавіца, скула-ніца, скула-камяніца, скула-муравіца, скула-пляснівіца, скула-паўзуха, скула-залатуха, скула-ангіна, скула-нежыперсніца, скула-акзема, скула-жаўна, скула-крапіўніца, скула з падвою, скула з-пад разгавору, з-пад шапкі хлапочай, з-пад касы дзявочай — шаптала, угаваравала з касцей, з машчэй, із карых ачэй, з румянага ліца. Тут табе не стаяць, жоўтай касці не ламаць, чырвонай крыві не разжыгаць, цела не пушыць, сэрца не ташніць. Адпраўляю цябе на чарата, на балата, на ніцыя лозы, на быстрыя воды, на сіняе мора. На сінім моры гуляла дзявіца Еўхрасіння, сталы засцілала, кубкі налівала, піла-гуляла, сладка ўядала і ўсякія скулы з етага чалавека выганяла, на сіняе мора адпраўляла. Там ім піць-гуляць добра самім, а ў рабы божай Галі з падзіўку, з-пад разгавору, з-пад зляку, з-пад удару, з-пад нерваў, з-пад унушэння, з паддзелу, з-пад ветру, з-пад вады, пузыр, нарыў, волас, скулу парную, адзінарную не быванць. Я з духам, Гасподзь з помаччу.

### 694. Ад скулы

Вячэрнія зоры-зараніцы, божыя памашніцы, памажыце скулу выгаварываць із касці, із машчы, із буйнай галавы, з гаручай крыві, з сіняй жылы, з салодкага мозгу. Думана, пагадана, пацешна, пасмешна, умоўна, прыгаворна. Скула-скулавіца, божая муравіца, сіняя сінявіца, жоўта жаўтавіца, колкая калкавіца, рожа-ражавіца, тут табе не хадзіць, сэрца не знабіць, жывата не пушыць. Ідзі ж на мха, на балата, дзе пташкі не шчабечуць, сабакі не брэшуць, там табе піць-гуляць, ніцыя лозы ламаць, не стаяць ні сходам, ні маладзіком, ні пад поўна.
Выхадзі, скула, выхадзі, скула, выхадзі, скула!

### 695. Ад скулы

Госпаду Богу памалюся, Госпада Бога папрашу. Госпад Бог з дапамогай, а я са словам. Святая субота, прыступі, дапамажы. Першым разам, лепшым часам.

Скула-скуліца, скула-галаўніца, скула-вачаўніца, скула-насаўніца, скула-губаўніца, скула-зубаўніца, скула пад'язычная, скула гарліная, скула нутраная, скула й балюча, скула й калюча, скула й свярбюча, скула й працаўніца, скула й падвушніца, скула й падручніца, скула й рожа, скула й прастрэльна, скула й залатуха, скула й пасэрдніца, рожу я ўгавараю, прастрэльную прыпамінаю, каторую не знаю, тую ўспамінаю, дванаццаць скуліцы, дванаццаць сястрыцы, я вас усіх уместа сабрала, я вас усіх на імя назвала, скаціцеся са Сцяпанавага русага воласу, з белае касці, чырвонай крыві семянным зерняткам к жоўтаму масту, к зялёнай траве, к бягучай вадзе, там вам будзе піценне і ядзенне і ад Госпада Бога спачуванне.

## 696. Ад скулы

Первым разам, лепшым часам скулу-залатуху ўгавараючы, (імя, каго лечыш) дапамагаючы. Первая залатуха, другая рыжавуха. Залатуха галаўная, вушавая, зубная, нутраная, верхавая, рассыпная, захаладзёная, застудзёная, падзіўленая, падумленая, страханая, пасыланая. Скулачкі балючыя, скулачкі пякучыя, скулачкі свярбучыя. Дванаццаць скулачак, дванаццаць сястрычак, я ж вас усіх супрашаю, я ж вам цвяток пасылаю: калінавы, малінавы, сунічны, бруснічны. І самая найстарэйшая Маруся, каб ты агнём не паліла, холадам не халадзіла. У кучачку збірайся, кашлю не набірайся, і з румянага ліца, і з русага воласа, і з белае касці, і з чырвонае крыві. Ідзіце вы, скулачкі, к вялікаму масту, Госпаду Богу на дапамогу, а мне на славу, а (імя) на паправу.

## 697. Ад скулы

Госпада Бога ўпрашаю, прыступі, Госпадзі, дапамажы. Як Наталачцы не ўстаць, так у Галечкі ніякія скулы да смерці не бываць. Каб у Галечкі скула не балела, не калола, не жывела, не свярбела, па целе не хадзіла, жылачак не сушыла, лічачка не смуціла. Згінь, прападзі, з цела сыйдзі. Як з таго свету Наталачцы не ўстаць, так ніякія скулы, залатухі да смерці ў дзіцятка не бываць.

Другім разам, Наталаччыным указам, я ж Госпада Бога ўпрашаю, усякую скулу загаварaю: скулу-залатуху, скулу-верхавуху, струплюху, чарнюху, наглюху *. Каб у Галечкі скула

* Самая наглая.

не балела, не калола, не жывела, не свярбела, па целе не хадзіла, жылачак не сушыла, костачак не ламала, лічачка не смуціла. Згінь, прападзі, з цела сыйдзі. Як з таго свету Наталачцы не ўстаць, так у Галечкі скулы-залатухі да смерці ў галовачцы ніколі не бываць.

Трэцім разам, господнім указам, я ж Госпада Бога ўпрашаю, Наталачку з таго свету ўспамінаю. Прыступі, Гасподзь, дапамажы. Каб скула ў Галечкі не балела, не калола, не жывела, не свярбела, па целе не хадзіла, жылачак не сушыла, костачак не ламала, лічачка не смуціла. Згінь, прападзі, з цела сыйдзі, з ґаловачкі сыйдзі. Гасподзь, дапамажы.

Чацвёртым разам, Наталаччыным указам, я ж Госпада Бога ўпрашаю, усякую скулу загавараю: скулу-залатуху, верхавуху, струплюху, чарнюху, наглюху. Каб у Галечкі скула не балела, не калола, не жывела, не свярбела, па целе не хадзіла, жылачак не сушыла, костачак не ламала, лічачка не смуціла. Згінь, прападзі, з галовачкі сыйдзі. Як Наталачцы з таго свету не ўстаць, так ніякія скулы да смерці ў Галечкі ніколі не бываць.

Пятым разам, Наталаччыным указам, я ж Госпада Бога ўпрашаю, усякую скулу загавараю: скулу-залатуху, скулу-верхавуху, струплюху, чарнюху, наглюху. Каб у Галечкі скула не балела, не калола, не жывела, не свярбела, па целе не хадзіла, жылачак не сушыла, костачак не ламала, лічачка не смуціла. Згінь, прападзі, з цела сыйдзі. Як Наталачцы з таго свету не ўстаць, так ніякія скулы ў Галечкі ў галовачцы і целе да смерці не бываць.

Шостым разам, Наталаччыным указам, я ж Госпада Бога ўпрашаю, усякую скулу загавараю: скулу-залатуху, скулу-верхавуху, струплюху, чарнюху, наглюху. Каб скула ў Галечкі не балела, не калола, не жывела, не свярбела, па жылачкам не хадзіла, костачак не сушыла, лічачка не смуціла. Згінь, прападзі, з цела сыйдзі. Як з таго свету Наталачцы не ўстаць, так ніякія скулы ў целе і на галовачцы ў Галечкі не бываць. Прыступі, Гасподзь, дапамажы.

### 698. Ад скулы-залатухі

Первым разком да добрым часком, Госпада Бога супрашаю, скулу-залатушку злячаю. Залатую, ветраную, рассыпную, па касцях не хадзіць, касцей не таміць, сесці лягонечка, ціхонечка на месцечку, на залатом крэслечку. Як шаўковай нітачцы не перарвацца, так скуле з месца не сцянацца.

## 699. Ад скулы

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матары пакланюся, табе, вячэрняя зарыца, божая памашніца. Прачыстая маці, памажы памагаці.

Табе, скула-скуляніца, красная дзявіца, табе тут ня хадзіці, косьць ня ламіці, жывата-сэрца ня сушыці. Скула-скуляніца, красная дзявіца, ідзі на зялёны дубравы, на жоўтыя краскі — там сталы засціланы і кубкі наліваны. Як з трох кубок віна ня піваці, так табе ў раба божага ня биваці, і ўрошнай, прыгаворнай, і падуманай і пагаданай. Цур табе, храшчонага-нараджонага.

## 700. Ад скулы

Скула галаўная, скула вачаўная, скула вушная. Скулачкі мае сястрычкі, запрагайце коні, едзьце ў чыста поле. У чыстым полі Прачыста Божа матка столікі пастаўляла, у кубачкі-блюдачкі мёд-віно паналівала, госцікаў частавала. Як у тых кубачках-блюдачках мёду-віну не биваці, так у (Насці) скулы не биваці.

## 701. Ад скул

Скула восыдная, скула воклітная, скула радасная, скула зáвісная! Я цябе ўмаліваю, цябе ўпрашываю — адкацісь, адвяжысь ад кагцей, ад нагцей, ад жыл, ад пажыл, ад ясных вачэй, ад буйнай галавы, ад белых рук, ад быстрых ног. На чым усхапілась, на тым і паляж, раба божыя (імя) не сушы, не крушы. Амін, амін, амін.

## 702. Ад скулы

Святая нядзелька, памажы, Госпад Бог, ад скулы.

Найсвенчая матка хадзіла па жоўтым пясочку, па крутым беражочку, мора замыкала, скулу замаўляла, на ніцыя лозы адпраўляла, на чорнае карэнне, на шэрае каменне. Ідзі, Вольгіна скула, на ніцыя лозы, сухія балоты, пад чорныя калоды, на чорнае карэнне, на шэрае каменне, каменне гладаць, ваду хлібаць, каб скуле ў Вольгі не биваць ні ў маладзіку, ні ў віташку, ні ў круглым гадку.

### 703. Ад скулы-залатухі

Куха-каклуха, сіняя каклуха, не тут табе быць на рабе божай Насці. Сыйдзі ў чыстае поле, на ніцыя лозы. Там табе быць і род-племя вадзіць. Асінка горка, а табе яшчэ гарчэй.

### 704. Ад скулы

Проця ютрані, проця службы ішла маць Прачыстая па залатом мосту, залатой трасцінай папіралась. Сустракая яе Сус Хрыстос:

— Куды ты, маць Прачыстая, ідзеш?

— А іду к рабе божай скулу выгаваравваць. І выгаварую і вымаўляю скулу-скулавіцу, сінюю муравіцу, красную краснавіцу, колкую калкавіцу, чорную чарнавіцу, бурую буравіцу, белую бяловіцу, каўтун-каўтунніцу, залатуху, шумуху, лапатуху, сходавую і маладзіковую, злую, ліхую, прыгаворную, урошную. Скáчуйся, высыпайся па макаваму зерню; як з крутых берагоў, жоўтых пяскоў скачуваецца вадзіца — скацісь у рабы божай усё ліха, калючая, балючая і гаручая. Цяпер ідзі на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, ідзе людзі ня ходзюць, ідзе птах ня залятая, ідзе звер не забягая,— там табе качаццаваляцца, а на мяне, рабу божую, забывацца.

### 705. Ад скулы

Скула-суніца, скула-чарніца, скула-маліна, скула-камяніца. Скула калінавая, малінавая, сунічная, бруснічная. Скулу ўгаварваючы, а (імя) дапамагаючы.

Скула-суніца, скула-чарніца, скула-камяніца, скула-маліна, скула-смародзіна, скула-парэчка, скула крушынавая, скула рабінавая, скула-брусніца, скула-ажына, скула-журавіна. Скулкі-нежыткі, дванаццаць вас, я ж вас угавараю — крыві не валнуйце, нéжыта мне здымайце, ад балючае касці да галавы. Галоўкі не таміце да касцей не ламіце. Ішло дзве кароўкі з нізенькай палавенькай. Ідзіце вы, кароўкі, на вялікія папары, на зялёныя травы. Траўкі ўразайце, а (імя) прастор дайце.

### 706. Ад скулы

Першым разам, добрым часам. Прачыстая мамачка, памажы і пасабі выгаварываць у рабы божыя з грудзі, з цыцкі скулу белую бялугу, красную краснюгу, сінюю сінюгу, жоўтую

жаўтугу. Ідзі ты на мора, на лукамор'я — там твае сёстры не п'юць, не ядуць, нічога не работаюць, дарагім каменнем качаюць, цябе к сабе гукаюць.

## 707. «Ад скулкі»

Ва імя Атца і Сына і Святога Духа. Амін!

Ты, зара-зарыца, ты, раса-расіца, раннія і вячэрнія, ты, скулішча, ты, асудзішча, ты, скула белая, ты, скула чорная, ты, скула сіняя, ты, скула багровая, ты, скула жоўтая, ты, скула, завісная, ты, скула радосная, ты, скула ўрошная, ты, скула ўгрумая, ты, скула-грудзішча, ты, скула-залатніца,— якая бы ты ні была,— ну, я, раб божы, я цябе вупрашаю, я цябе высылаю із касці, із машчэй, із ясных вачэй, із буйнай галавы, із рацівага серца, ізу ўсіх жыл, ізу ўсіх палусустаў, штоба раб божы балесць перастаў.

Ты ступай, скула, на сіняе мора: на сінім моры ляжыць бялой камінь, на бялом камні сядзіць там дзявіца, ана ні шыіць, ана ні мыіць, ана ні ткець, ана ні прадзець, толька рабу божыю помашч ад скул даець. Мы жа просім:

— Красная дзявіца, сама чыстая вадзіца, ты йшла з марскога ключа, із зімлянога нутра, ты размувала жаўтыі пяскі, ты падмувала крутыі біражкі — змый з раба божага (імя хворага) скулу ўгрумую і ўсю балесць!

## 708. Ад скулы

Скула-скуляніца, ты мая сястрыца, тут табе не сядзець, касцей не ламаць. Сядзела дзеўка на камені, белы кужаль прала, ятрасці адмаўляла: калючыя, балючыя, ветраныя, прыстрэчныя, угаданыя, усякія.

## 709. Ад скулы

Добры дзень (а рана — добры вечар). Скула-скулаўніца, галаўная чарніца, прыстрэчная, нутраная, ветраная і залатушная. Скула белая, ідзі на белую бярозу, скула красная, ідзі на красную каліну, скула-рожа, ідзі на рожу, скула чорная, ідзі на чорную чарніцу, вадзяная, ідзі на ваду, ветраная, ідзі на вецер — ідзіця вы, скулы, на ніцыя лозы, на быстрыя рэкі, на цёмныя ляса, на шчырыя бара. Там вам столікі засціланы і кубачкі наліваны, там вам піваці і ядаці і ў етага чалавека скулы не бываць. Не гарэць, не балець, не ўпамінацца.

## 710. Ад рожы

Рожа-рожа, ты не прыгожа, ідзі ты на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, на ніцыя лозы, на сцюдзёныя росы, на быстрыя воды. Я цябе словам убіваю.

## 711. Ад рожы

Ой, рожа, рожа, не будзь ты гожа. Тады ты хадзіла, тады ты таміла, як я цябе не знала. Як я цябе знаю, я цябе ўпрашаю, я цябе ўмаляю, агнём выпаляю, на сіняе мора пасылаю. Сыйдзі ты ў Тані з ручак, з ножак, з вочак, з буйнай галавы, з чырвонай крыві, з белай касці, з рыжага мяса.

## 712. Ад рожы

Первым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, мацеры Прачыстай святой пакланюся, усім угоднічкам божым, кіеўскім, пячэрскім, самаму Госпаду Ісусу Хрысту. Мацер Божая святая, сам Гасподзь Ісус Хрыстос, памажыце, Госпадзі, мне, раб божай Ганне, скулу-рожу выгаварваць. Скула ж ты рожа, скула ж ты прыгожа, скула-скуліца, красная дзявіца, выгаварую я цябе, умаляю, упрашаю пухлую, наружную, калючую, балючую, свярбучую, урошную, прыгаворную, прыдумоўную, падзіўную, жаноцкую, парабоцкую, хлапоцкую, дзявоцкую, мяшчанскую, цыганскую, папоўскую, бабскую, удавіну, вадзяную, земляную, пухлую, наружную, калючую, балючую, прастудную, ветраную. Патуля ж ты, скула-рожа, была ў раб божай Ганны, пакуль я цябе не знала. Стала я цябе знаць, угаварваць, умаляць, на цёмны лес пасылаць. Тут табе не бываць, тут табе не гуляць, у раб божай Ганны касцей не ламаць, гарачай крыві не разліваць, сэрца не знабіць, па касцям не хадзіць, касцей не ламаць, не таргаць, не калоць, не балець і навек занямець. Пасылаю ж я цябе, скулу-рожу, на цёмны лес, на крутую гару. Там дзеўкі гуляюць, сталы засцілаюць, віном чары наліваюць, цябе ў госці скулу-рожу дажыдаюць. Ідзі ж ты, скула-скуліца, красная дзявіца, скула-рожа, скула ты ж прыгожа, ідзі ж ты туда к ім у госці. Там табе будзе піцяннё, едзяннё, спанне, гулянне, лёгкае прапітанне. Я не знаю, сам Гасподзь Бог знае і нам памагае. Я з словам, а Гасподзь Бог з помаччу і святым духам.

(Запаліўшы кужаль.) Па акіянскай гарэ, па святой гарэ

ішоў сам Гасподзь Ісус Хрыстос, нёс ён тры розы. Адна ўпала, другая звяла, а трэцяя — ветрам здула. Я не знаю, сам Гасподзь Бог знае і нам памагае. Я з словам, а Гасподзь Бог з помаччу і святым духам.

## 713. Ад рожы

Стань ты, Божа маці, стань ты ў помачы рабы божай раджонай (імя) балячку шаптаці. Дзевяці балячок шаптаці, дзевяці прышчэвок шаптаці, дзевяці безвершніц шаптаці і тры балячкі шаптаці: і залезніца, і вэдова, і разава́. Ты ж, балячко-залезніца, чаго ты садзілася, чаго ты сшумелася: ці ты ад вады, ці ты ад яды, ці ты ад работы, ці ты ад ахоты? Ці ты наспана́, ці ты наслана́, ці ты ветрана́, ці ты нагаворана, ці ты падумана, ці ты пагадана, ці ты жэньска, ці ты мужчыньска? Я цябе цяпер угавараю, я цябе цяпер умаўляю. Годзі ты хадзіла, кось ламала, пад сэрцэ падлягала, піці-есці не давала. Я цябе цяпер угавараю, я цябе цяпер умаўляю. Ты ж, балячко, ты, гарачко, розавая разавуха, васковая васкаўніца, ты сіняя ты сініца, ты вялікая паненко. Сіні на сіні цвет, рожа на рожы, красны на красны, белы на белы цвет. Я лозу капаю, рожу сею, а рожа не ўзышла, а з нагі (ці рукі) балячка пайшла.

## 714. Ад рожы

Хадзіў Бог па ўсём свеці, па чыстаму полю, цвяткі рваў і нам на помач ад рожы даваў: ад рожы-ражавіцы, ад краснай краснавіцы, ад сіняй сінявіцы, ад белай белавіцы, ад сухотныя, ад ламотныя, ад ірвотныя, ад касьцявыя, ад жылавыя, ад пажылныя, ад дзянныя і палудзянныя, ад вячэрнія, ад нашныя, ад палунашныя, ад заравыя, ад раннія. Ісус Хрыстос нарадзіўся, рабе божай прыгадзіўся. Разгані, Божа, гаручую кроў па касьцях, па мазчах і пастаў па сваіх мястах.

## 715. Ад рожы

Госпадзі, прыступі, дапамажы. Я ж з таго свету Ігнатачку ўспамінаю, усякую рожу загавараю. Каб рожа не балела, не свярбела, не жывела, па целе не хадзіла, лічачка не смуціла. Згінь, прападзі, з цела сыйдзі! І як з таго свету Ігнатачку не ўстаць, так ніякія рожы да смерці на целе ў (імя) не бываць.

## 716. Ад рожы

Ружа, ружа, яка ты красіва, чырвона, прыгожа. Адкуль ты прыйшла, шоб туды ты пайшла. Па ветру разляціся, а ў моры вадой заліся, а ружа чырвона, красіва, назад не вярніся. Ружу паліла, Госпада Бога прасіла, адкуль ты прыйшла, шоб туды і пайшла.

## 717. Ад рожы

Спаць я лажуся, Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся. Гасподзь Бог у галавах, маць Прачыстая ў нагах, ангелы па баках. Ангелы-храніцелі, сахраніце маю душу з вечара да поўначы, з поўначы да свету, да цэлага веку, Богу малюся, Бога прашу: Гасподзь Бог, памажы на помашч, маць Прачыстая на радасць Мані.

Рожа-ражыца, красная дзявіца, прымі мой дух, лёгкі мой дух, лёгенькі, з падзіву, ветру, з прыгавору. Табе тут, рожа, не жыць, не бываць, касці не ламаць, жыл не таміць, сэрца не сушыць, карых глаз не смуціць, галавы не шуміць. Табе, рожа, тут не бываць, на сінім моры бываць. Там, на сінім моры, тры дзявіцы, родныя сястрыцы, вы ж не гуляйце, з мора ваду выганяйце, з (імя) болі выганяйце — з галавы, жыл, рук, ног, з вачэй — на вецер пускайце. К чорнаму мору пушчай рожу чорную, сінюю, красную, зялёную, жоўтую, ветраную, прыгаворную.

Стаіць дуб, на тым дубе сядзіць арол. Арол, арол, арол, прымі мае слава. Твае когці залатыя, твае крылля дарагія, твае глаза залатыя, прымі, прымі, прымі рожу зялёную і ваду ключавую. Як гэтай вадзе тут не гуляць, так гэтай рожы ў (імя) не бываць, галавы не знабіць, касці не ламіць, сэрца не сушыць, карых глаз не смуціць, жыл не таміць. Амінь.

## 718. Ад рожы

У чыстым полі стаяў дуб зялёны, кудравы. Мы яго па імені не знаем, па лісцях не адгадаем. Пад тым дубам ляжаў камень, на тым камені стаяла цэркаў, у той цэркві стаяў прастол. За тым прастолам сядзіць маці Прачыстая ў залатых чанах, дзяржыць яна тры рожы ў руках: рожу сінюю, чорную, чырвоную. З чорнай рожы цвет сарвала, сцерла, змяла, у раба божага (імя) рожу выганяла, пасылала яе ў чыстае поле, на зялёныя луга, на пракрасныя мяста. Там табе, рожа, гуляць, буяць, а ў раба божага (імя) век не бываць.

## 719. Ад рожы

Ішла Насвенчая матка чэраз чыстае поле, нясла тры рожы ў прыполе. Першая пала, другая прапала, трэцяя сама звяла. Амінь.

## 720. Ад рожы

Ішоў Хрыстос па полю, нёс тры розы: адна акамянела, другая адзервянела, трэцця згінела, згінь і ты, боль, нячыстая рожа.

## 721. Ад рожы

Ішоў Ісус Хрыстос па чыстаму полю і нёс шэсць рож у падоле: адна з камянём, другая з памялом, а трэцяя вадзяная, чацвёртая ветраная, пятая агнявая, а шостая рожа — разайдзіся, боль, урозь.

## 722. Ад рожы

Госпаду Богу памалюся, Божай мацеры пакланюся. Госпадзі, прыступі да памажы (імя) ружу шаптаці, ружу-ружаўніцу, галаўну-галаўніцу і вяліку ніжыпорніцу.

А чаго вона схадзілася, а чаго вона збурылася? Ці вона з вады, ці з хады, ці з работы, ці з вачэй, ці з нужды, ці з іспугу, ці з ляку, ці з прыстрэку?

То ты, ружо-ружаўніцо, галаўна-галаўніца, ты вялікая ніжыпорніца. Ты ў галаву не хадзі, шуму не рабі, на цела не налягай, цягосць не давай, косці не заварачай і ў выварaку не ўкідай, і з ног не валяй. Я цябе на 'гне спалю, а слюною заплюю, усё роўна з цела праганю. То ты майго слова пужайся да з цела, галавы ўбірайся, бо я буду цябе паліці, словамі гаварыці, слюною пляваці, цябе буду з галавы (ці з іншых частак цела) праганяці.

І Божэ памажы, і Божэ памажы, і Божэ памажы!

## 723. Ад рожы

Ты рожа, рожа! Ты вазрасла і да цела грэшнага прыйшла; хутчэй жа расці да расцвітай і, звяўшы, з твару прападай.

## 724. Ад рожы

Ішоў Сус Хрыстос лесам, сама Прачыста маці дарогаю, стрэліся яны з скулой-рожай. Вяртайся назад, рожа. Ідзі на ляса, ідзі на луга, ідзі на бара, ідзі на рэкі, ідзі на азёра, ідзі на мара. Там табе гуляць, а ў етага чалавека скулы-рожы не буваць. Ні шумець, ні балець, ні гарэць, ні ўпамінацца.

## 725. Ад рожы

Ішла рожа ў чыста поле, у адно поле яравое; у другое ржаное, у трэцяе ў папар. Рожу здую, рожу сплюю, рожа звяла, рожа прапала ад рабы божай ад Маўры. Рожу здую, рожу сплюю, рожа звяла, рожа прапала. Амін, амін, амін.

## 726. Ад рожы

Зялеза награваіць, ніхай рожа прападаіць. Ад твайго духу каб не было пуху, цела не балела, косці не ламіла. Рожа, адкасніся, адвяжыся — на сухей лес, на бягучыя воды, Мар'і на добрае здароўе.

## 727. Ад рожы

Ішла Насвенчая матка па чыстаму полю, несла ў правай ручцы белую кветку, спаткалася з панам Езусам. Пан Езус узяў Насвенчую матку за правую ручку:

— Насвенчая матка, кінь белую квятку, гэта ёсць белая рожа. І рожа, гінь-прападзі, гінь-прападзі, гінь-прападзі.

Ішла Насвенчая матка па чыстаму полю, несла ў правай ручцы жоўтую кветку, спаткалася з панам Езусам. Пан Езус узяў Насвенчую матку за правую ручку:

— Насвенчая матка, кінь жоўтую квятку, гэта ёсць жоўтая рожа. І рожа, гінь-прападзі, гінь-прападзі, гінь-прападзі.

Ішла Насвенчая матка па чыстаму полю, несла ў правай ручцы сухую кветку, спаткалася з панам Езусам. Пан Езус узяў Насвенчую матку за правую ручку:

— Насвенчая матка, кінь сухую квятку, гэта ёсць сухая рожа, ветраная, прыгаворная, вадзяная, касцяная, і дзяўчынская, і мужчынская, і дзявоцкая пад вянец, і гэтай рожы канец. Рожа, гінь-прападзі, гінь-прападзі, гінь-прападзі.

## 728. Ад рожы

Ішла матка Прачыстая па Сіянскай гарэ, святую воду насіла і раба божага змывала, балячку выганяла, свярбючую, калючую, балючую, абкладную, абложную. Ё ў полі дуб, на небе звёзды, на моры камень — тры браты родных. Як ім у кучу не сходзіцца, умесце не бяседаваць, так той балячцы не бушаваць. Патуля ты бушавала, пакуля я цябе не знала, а цяпер я цябе стала ўпрашаці і высылаці — з касцей, з машчэй — скулу-нарыцу, скулу-залозніцу, скулу-працаўніцу, скулу-макрыцу, скулу-рожу. Я цябе высылаю з буйнай галавы, з касцей, з машчэй на мхі, на балоты, на быстрыя рэкі. Там ляжыць камень белы, ударся ты аб еты камень і рассыпся на мелкія часцічкі.

## 729. Ад рожы

Не сама сабою — вячэрняю зарою, вячэрняя зарыца, усяму свету памачніца. Рожа-ражавіца, красная дзявіца, я цібе выгаварываю, умаўляю, з Надзькавай галавы, і ярых воч, і з белага ліца, і чорных валос, штоб па Надзькавых касцях не хадзіла, касцей не ламіла, серца не знабіла і кроў не сушыла. І падумную, і пагадную, і пасмешную, і пацешную; маткіны, бацькіны, цёткіны, дзядзькіны, брацціявы, сёстрыны. Выгаварываю рожу з рацівога серца — і запітую, і заетую, і з сініх глаз, і з чорных глаз, і з серых глаз, і з белых глаз.

## 730. Ад вогніку

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай пакланюся. Ішоў гарэлы дзед гарэлым мостам да гарэлай бабы прасіць масла мазаці Івану раны, расшарпаны, разрываны. Штоб не ад'ятрываліся, не раскідаліся ні пад поўняй, ні пад маладзіком, ні вавекі вяком.

## 731. Ад вогніку

Ехалі паны, чорныя жупаны, красныя каўняры, чорны карэты. Тут табе, вогніку, ня прабываць, мочы ня пускаць, ліца ня псуваць. Патуль ты тут быў, пакуль я цябе заспеў. Я цябе заспяваю і выбіваю і высякаю, і ад раба божага выганяю — не сам я сабой — Госпадам Богам, імем сваім Гаўрылам.

### 732. Ад вогніку

Адкідаю вогнік агняны на агонь, вадзяны на ваду, росны на расу, і калючы, і свярбучы, балючы, штоб у раба божага не бывала. Амінь.

### 733. Ад вогніку

Огнішча, огнішча, вазьмі свае вогнішча. Як етаму агню згарэць і патухнуць, нічога ня быць, так і етай болі ў раба божа каб ня було — абсохнуць і абсыпацца.

### 734. Ад вогніку

Агонь, агонь, гаручы, балючы, табе макрата, а мне сухата — па еты час, па ету мінуту.

### 735. Ад вогніку

Госпаду Богу памалюся, сетой мацеры Прачыстай пакланюся. Прачыстая маці, прыйдзі (імя) балячкі шаптаці. І рожу прыстрэчную, нагаворную. Балячухно-матухно, балячухно-панухно, балячухно-царыца, галаўна галаўніца, мазгаўна мазгаўніца, ударна ўдарніца, нашэйна нашэйніца, ці ты сухаверха, ці ты безверха, ці ты падумана, ці ты пагадана, ці ты чырвонка, ці ты мядзёнка, ці ты засватанка, ці ты забратанка, годзі ты хадзіла, (імя) галовачку (ці на руцэ, ці на галаве, ці на чом) ламіла, салодка мяса смактала, кроў гарачу разжыгала, і халадам зацірала, і гарачым аблягала, пакуль я цябе не ўгаварала, пакуль я цябе не ўмаўляла, цяпер угавараю, умаўляю. З хаты дымам, з двара ветрам выпраўляю, ты за вецер ухапілася, на асіне запнулася, ад раба божае чыстаплоннае, ражджэннае, благаславеннае адчапілася, адкаснулася, к ёй не вярнулася. Ідзі ты, балячухно, ідзі ты, матухно, ідзі ты, панухно, дзе свет не світае, дзе соўнейка не сходзіць, дзе збожайка не родзіць, дзе пеўнеў голас не заходзіць — там табе й піценне, й ядзенне, й гулянне, супачыванне. Там наймічка з парабкам перакачваюцца, перабенчваюцца, будуць цябе паважаць, (нажом) падцінаць, з хаты дымам, з двара ветрам напраўляць. За вецер ухапілася, на асіне затнулася, ад рабы божае чыстаплоннае, ражджэннае, благаславеннае (імя) адчапілася, адкаснулася і к ёй не вярнулася. Балы на балы, піська на піську, віська на віську, крычыць, верашчыць, з хаты дымам ляціць.

### 736. Ад вогніку

Першым разком, гасподнім часком, Госпаду Богу памалюсь, святой Прачыстай пакланюсь. Свята Прачыста маці, прыступі вогніка шаптаці.

Ішоў дзед балючы, гаручы. Згубіў лапці ў горы, сам астаўся голы.

### 737. Ад астуды

Госпаду Богу пакланюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Прачыста Божа маці, дапамажы да прыступі (імя) астуду шаптаці.

Астуда-чуда, я цябе знаю, умаўляю, уклікаю з чырвонае крыві, з белай касці, з жоўтага мозгу, з салодкага мяса. Адсылаю за крутыя горы, за густыя боры. Быстрыя рэкі мыюць каменне, карэнне, рабе божай (імя) астуду змываюць. Каб не было астуды і гуды ні ў дзень, ні ў ноч, ні ў маладзіку, ні пад паўна, ні ва ўсходзе, ні ў перакроі ды і ніколі.

### 738. Ад жару

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Прачыстая Божа маці на прэстоле стаяла, (імя) шаптала.

Ішла раба Божая маці з цясовымі вёдрамі, з залатымі мётламі ад рабы божай (імя) агонь убіраць з ручак, з ножак, з ачыц, з плячыц, з пальчыкаў, з сустаўчыкаў, з белае касці, з чырвонае крыві, з салодкага жываточка. Каб агонь не пачынаўся ні ў маладзік, ні з усхода, ні ў падкове, ні перакроя, зроду ніколі. Каб раба божая (імя) спала, прыбывала, вяліка расла.

### 739. Ад прастуды

На Сіянскім моры едзе Марыя залатым мастом; залаты мост разбівала, залатыя карэнні разрывала, на мора брасала, явара зварачала. З явара выйшла сем дзевак. Ох, мора, мора валнавалася! Там сем дзевак чыталі, пісалі, прастуду ўгаваралі, вадзяную, ветраную, прастудзёную. Угаваралі з ножак, з ручак, з пальчыкаў, з сустаўчыкаў, з сярэдзінкі, із галавы, із вушэй і ачэй.

Вы, угоднікі гасподнія, прыступайце, мне, рабе божай Настассі, прастуду ўгавараць памагайце, на Сіянскае мора ссылайце, дзе вецер не вее, сонца не грэе, там прастудзе прабываць, каб яна там піла, ела, спала, у целе прыбывала.

## 740. Ад лішая

Іду я ў гумно і бяру палову і свінням мяшаю, а ты, лішай, рабу божаму не мяшай і выхадзі з яго із касьцей, із мажджэй, із ясных вачэй, із гарачай крыві і з усяго целясі, із чыстага цела, і карэння не пускай. І здымала цябе матар Божая духам сваім і ссылала цябе на мха і на балата і на дзікія людзі. Там яны гуляюць і сталы засцілаюць, і ўсіх лішаёў дажыдаюць: і красных і белых, і лупляных і коляных, і падзіўных і прастудных, і пасмешных, і ветраных і вадзяных, і знаюшчых і ня знаюшчых. І цур цябе, хрышчонага, нараджонага!

## 741. Ад лішая

Круг-лішаю, з г... цябе змяшаю, з белага цела зганяю — калючы, ламучы, свярбучы, вадзяны, ветраны, палявы, лесавы, вогненны, пацешны, пасмешны, жаласны, радасны, урочны, прыгаворны, падушны, пагаданы, дзявоцкі, хлапоцкі, мужчынскі, бабскі, удоўскі і ўсіх удалых малайцоў.

Скаціся ты, круг, бокам, прабіся на спіцу, у які́м там табе быць, гуляць, бушаваць і ў (імя) не бываць, сэрца і крыві не піць, галавы не бунтаваць, рук, ног не ламаць. Выганяю з буйнай галавы, з белага цела, з яснай крыві і з сэрца, з тонкага воласа і голаса, белых рук, ног, і на гэту пару вячэрняй і ўтрэнняй зары, не бываць ні маладзіком, ні сходам.

## 742. Ад лішая («ад кругоў»)

Як гэтаму дрэву на крэні ні стаяць, сырога карэнню ў зе́млю ні пушчаць, веццям ні махаць, лістам не шумець, белага сьвету ні відаць, так гэтаму кругу́ век-векам не бываць. На чом усхапіўся — ці на едзянні́, ці на піцарні́, ці на радасьці, ці на завісьці — устрэтным, папярэчным — адкаціся, адваліся ціхонька, лягонька ад кагцей, ад нагцей, ад жыл, ад па́жыл, ад буйнай галавы, ад белага ліца, ад ясных вачэй ціхонька, лягонька — ці на маладзіку, ці на вятаху, ці на кроме месяца. Раба божыя (імя) не сушы, не крушы па мой прыход, па мой прыгавор. Амін, амін.

## 743. Ад лішая

Узяць на маленькі палец з вакна поту і на захадзе сонца пацерці ім месца, дзе выступіў лішай, сказаць:

Лішай, свінням мяшай;
Лішай, дабранач,
Ідзі да свіней нанач.

### 744. Ад лішая

Лішаю, лішаю, я цябе рашаю —
Я цябе рашаю, як свінням мяшаю.

### 745. Ад лішая

Першым разком, божым часком Госпада Бога прашу прыступіці памагаці Агапе лішая ўгавараці. Як месячык рога паднімае, лішая ўгавараю: лішай, лішай, кал мяшай, свінням давай, а ліхея, пустэя на быструю рэчку пускай.

### 746. Ад валасня

На моры, на кіяні, у ракітавым кусьці, на белым камні, на Латыры-камні, там валасьнёва маці жыла-пражывала. Ніхто яе не знаў, ніхто ня 'твядаў, ніхто да яе не дахаджуваў,— толькі я, раб Платон (знахар), яе знаў, яе 'твядаў, да яе дахаджуваў і рабу божаму помач даваў.

### 747. Ад валасня

Разыйдзіцеся вы, валасьні, па чорнай зямлі, па цёмным лясу, па шчырым бару, па белым камяню, у чырвону сасну: там сабе будзьця, там вы прабувайця, свой вопух пушчайця, рабы божай не чапайця.

### 748. Ад валасня

Первым разам, добрым часам, ранішняя зараніца, божая памашніца, памажы нам, Госпадзі. Первым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, мацеры Прачыстай святой пакланюся, усім угодначкам божым, кіеўскім, пячэрскім, памажыце, Госпадзі, мне, раб божай Ганне, волас выгаварваць, дзянны, палудзенны, нашны, палунашны, валасень прыстрэшны, прыгаворны, падымны, падзіўны, пасмешны, жаноцкі, парабоцкі, хлапоцкі, дзявоцкі, мяшчанскі, цыганскі, маскоўскі, жыдоўскі, папоўскі, мужчынскі, бабскі, удавіны, вадзяны, земляны, гусіны, курыны, свініны, авечы, чалавечы, коньскі, кароўскі, саба-

чы, жарабячы, цялячы, ваўчыны, зайчыны, кацiны, дзяцiны, вараб'iны. Волас ты, волас, патуля ты быў у раб божай Ганны, пакуль я цябе не знала. Стала цябе знаць, стала цябе выгаварваць, умаляць, упрашаць, на цёмны лес пасылаць. Тут табе не бываць, тут табе не гуляць, у раб божай Ганны касцi не ламаць, гарачай крывi не разлiваць, сэрца не знабiць, касцей не ламаць, па целу не хадзiць i белага цела не пушыць, не таргаць, не калоць, не балець i навек занямець. Волас, волас, выдзь на колас, волас, волас, выдзь на колас.

(Тры каласкi або пяць, як на руках пяць пальцаў, жыта каласкi ў цёпленькую вадзiцу мачай i гавары, i вадзi так, i тую вадзiчку спускай).

Волас, волас, выдзь на колас, волас, волас, выдзь на колас, волас, волас, выдзь на колас. Тут табе, волас, не гуляць, касцi не ламаць, гарачай крывi не разлiваць, сэрца не знабiць, белага цела не пушыць, не таргаць, не балець, не калоць, а навек занямець. Пасылаю я цябе, волас, на крутую гару. Там дзеўкi гуляюць, сталы засцiлаюць, вiном чары налiваюць, цябе ў госцi дажыдаюць. Iдзi ты, волас, к iм туда, там табе будзе пiцяннё, едзяннё, спаннё, гулянне, лёгкае прапiтанне. Я не знаю, сам Гасподзь Бог знае i нам памагае. Я з словам, Гасподзь Бог з помаччу i святым духам.

## 749. Ад валасня

I памолiмся, i паклонiмся Госпаду Богу i Духу Святому, Тройцы святой ядынай i Прачыстай мацеры Божай i святому Васкрасэнiйку Хрыстову, чэснаму, мiласэрнаму, i ўсiм святочкам, гадавым празьнiчкам, кiяўськiм, пячэрськiм, i рымськiм, i русалiмськiм, Iсакаву i Якаву, i Антоняму, i Хвядосяму, i святому Юру i Ягору, i святому вотчу Мiколу. I святы вотча Мiколачка, ты божжы ўгоднiчак, ты скоры памошнiчак, ты вялiкi малiтвеннiчак, ты ж скоранька памагаеш, валасень вылiваеш i на мхi яго, на балоты ссылаеш.

Валасень, валасень, чаго ты сядзiш у грэшнага чалавека? Плывi ты на мора, плывi ты на сiняе. На сiнiм моры стаiць дуб, пад тым дубам стаiць стол, ён жа i засланы, ён жа i прыбраны. За тым за сталом сядзiць пан з паняй, яны седзючы мед-вiно п'юць i к сабе валасьня ждуць, i непраменна ждуць — i калючага, i балючага, i прыгаворнага, i падзiўнага, i прырошнага. Ну й ня 'трыгайся ты, i ня 'тзывайся ты нi вятхом, нi маладзiком, нi месяцам марцам.

## 750. Ад валасня

Упра́шаю і ўма́ляю дванаццаць царэй, дванаццаць каралей, і цара Да́выда і ўсю кротасць яго. Угаваруюю я валасьня ветранога, вадзянога, падумнага, пагляднага, пацешнага, пасмешнага, стрэшнага, папярэшнага, і шэра вока і бела вока, і чорны волас і белы волас, із жыл із пажыл, і рацівага сэрца. Тут табе ня быць, раба божага ня сушыць. Ідзі ты на сіня мора, на белы камень, карэння капаці, веццям шугаці, па сінім мору гуляці. І ідзі ты на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, дзе людзі ня ходзюць, ветры ня шугаюць, буйныя дажджы не зама́чыюць. Станьця, ангалы, на радасць, сятыя вотча Мікалай, на помач, і ўсе празьнічкі, божыя ўгоднічкі, скорыя памошнікі, памажыця мне ў карысці, у радасьці, у добрым здароўі. Як сук нем, каб і валасень так занямеў.

## 751. Ад валасня

Ёсь на моры белы камень, на том камні святая Бугуродзіца сядзела, русую касу часала, ніцы волас выбірала, на ваду брасала і з раба божага валасень злы, валасень люты вынімала і на вецер пускала. Валасень, валасень, калі ўрошны, ці падумны, ці прыгаворны, хто ўрок ці прыгаварыў — калі жанчына, то нясі сабе пад наметкай, калі мужчына — нясі пад шапкай, калі дзеўка — нясі пад хустай, калі хлопец — нясі пад шапачкай. Бог яго, раба свайго, іспасі ад злага нечасьцівага, ад валасня ліхога. Скорбі-балезні амін.

Выхадзі, злы, нечасьцівы волас, на трыдзевяць колас.

## 752. Ад валасня, валасніка

Чорны валасень, красны валасень, белы валасень, русы валасень, прашу я цябе, выхадзі з касьці, з жывата, з раба божага Івана, із яго нутра. Ці прыдзіўны, ці прыгаворны, ці прысмешны, ці прыдумны, ці вадзяны, ці ветраны, пакарысь майму прыказу.

## 753. Ад валасня

Воўчы валасы, ідзіце на каласы,
Мядзведжы валасы, ідзіце на каласы,
Цігравы валасы, ідзіце на каласы,

Сланёвы валасы, ідзіце на каласы,
Валовы валасы, ідзіце на каласы,
Кароўі валасы, ідзіце на каласы,
Конскія валасы, ідзіце на каласы,
Свінні валасы, ідзіце на каласы,
З ветру валасы, ідзіце на каласы,
З вады валасы, ідзіце на каласы —
Усе валасы, ідзіце на каласы.

### 754. Ад валасня

Як на небі месяц, так у лесі дуб, на сінім моры белы камень, на белым камяні пятух. Як тэй пятух не пяець, так табе, валасень, па касьці не хадзіць, касьці не ламіць.

### 755. Ад грыжы

На моры, на кіяні два малойцы гуляюць, сабе грызі жалаюць, у етага раба божага адбіраюць і к сабе прынімаюць. Прашу я цябе, грызіца, красная дзявіца, выхадзі ты на шчырыя бары, на сухія лясы — там табе цясовая карвацъ, пуховыя пярыны, цвілёвыя падушкі; там табе жыць і быць, і раскошувацца, сяго раба чалавека буйныя галовы не ламіць, румянага ліца не сушыць, чорных бравей і ясных вачэй, і нутрэй, і печаней, і легяней. Як жа нем сук у дрэві, анямей нямей етага сука і ня ватрыгайся ні маладзіка, ні сходу, ні поўнага месяца.

### 756. Ад грыжы

На моры, на кіяні,
На тэй рэчкі на Сіяні
Ляжаў камінь Латыр.
На том камні Латыры
Дзве сястры Мар'і,
Трэці брат Мікіфар.
А ў брата Мікіфара
Конь кар.
Грызь, перастань
На еты час, на ету мінуту
У раба (імя).

### 757. Ад грыжы

Первым разам, добрым часам, святыя святочкі, гадавыя празнічкі, станьце рабе божай на помач.

І ты, грызь-грызяўка, паганая казяўка, табе тут не быць, касці не ламіць, сэрца не знабіць. Там у лукамор'і стаяў дуб зялёны. Там дзеўкі пяюць і цябе ждуць. А мой дух ціхенькі, лёгенькі, а то я сабака, я цябе з'ем (плюнуць на сучок). Як у гэтым дзераве сучку не бываць, так табе, грыжа, у касці не быць (грызці руку).

### 758. Ад грыжы

Першым разам, добрым часам. Умаўляю ў раба божага трыдзевяць грызеў, трыдзевяць пагрызеў, урошных, наносных, вятровых, часовых, гадзінных, падзіўных, каторы вокам заглідаець, не змоўчыць — уракаець. Гам-гам-гам! І закушу трыдзевяць грызеў, трыдзевяць пагрызеў. І сук-сукавіна, вазьмі раба хрутавіну ўрошную, наносную [вятровую, часовую, гадзінную, падзіўную], з касьцей, палукасьцей, з жыл, пажыл, нутранога жывата, амін.

### 759. Ад грызі

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся і ўсім святым апосталам — ангалы на помач, ангалы на радась, і не сам сабой — Прачыстая мацьса мной.

Закусую грызь і загаварую і зубу і губу, і рода, і племя, і губіцу-перагубіцу. Як етаму дрэву на корані не станавіцца, не караніцца, не какаціцца, так у етага раба божага грызі ня быць. І высылаю, і выдымаю на мха, на балата і на цёмныя ляса, з румянага ліца, з ясных воч, з чорных броў, з шырокія касьці, па жывату не хадзіць, касьці не ламіць, крыві не сушыць.

### 760. Ад грыжы

Узяць драч без лісцьеў або палку з сукам і гаварыць:

Як етаму дрэву на пні не стаяць, корнеў не пускаць, лісцьеў не распускаць, так каб у етага (імя) грыжы не бываць: ні галаўныя, ні ўнутраныя, ні пупавыя, ні наружныя, ні ядравыя, каб па касці не хадзіла, касцей не ламіла, галоўкі не паліла, не крышыла, сэрца не таміла, крові не паліла. Адкаціся, адыміся памаленечку, паціхонечку, рассыпся дробненька, на малюсень-

ка, на макавы зернеткі, і штоб не бываць табе ні пад поўнае, ні маладзіком, ні схадком, па ету порачку, па раннюю (або вячэрнюю) зорачку.

### 761. Ад грыжы

Дуб на моры, месяц на небе, а ў месяца два браты ўмесце не сыходзяцца. Каб ета грыжа разышлась, разьмелась па бабіне, па гарошыне, па калапніне, каб яе ветрам здула, каб у гэтай (імя) грыжы не было.

### 762. Ад грыжы

Первым разочкам, гасподнім часочкам. Госпада Бога ўпрашаю, а Прачыстую мамку на помач прызываю. Святая господня, вялікая зара-зараніца, рабы божай Дар'і памашніца. Стань, Госпадзі, на помач, Прачыстая матка, на ратунак, ангелы, на радасць. Я, бабка, славамі, Гасподзь сваімі думамі.

Есць на сінім моры камень, паўлінае пяро. Як таму камню наверх не ўсплываць, паўлінаму пяру на дно не ўпадаць, так рабе божай (імя) грыжы не быць, па касці не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не таміць, жылак не марыць, вочак не цямніць, галовачкі агнём не паліць, у вобмарак не вадзіць. Патуль ты хадзіла, буяла, гуляла, пакуль раба божая Дар'я прыступіла, ухадзіла, угаварыла, высылала із жыл, з паджыл, з белага цела, з яркіх воч, з чорных броў, з шчырага сэрца, з белага целца.

Дай Бог час добры, любі мой дух лёгкі.

### 763. Ад грыжы

Цар Давыд Аўсеевіч, сакрушыў ваду і зямлю, сакрушы ету боль балючую і грызь грызучую. Цар камень-няпыпарапь, ляжыш на махах на балатах, на сцежках на дарожках, ніхто цябе ня імець — ні гад паўзучы, ні звер бягучы, ні змей лятучы, ні злы чалавек,— каб не няла грызь раба божага. Святога Міхайлу прызываем: агняным мечам адсякаець, ангалскім крылам замятаець.

### 764. Ад грыжы

Грызь-грызішча, вазьмі Таніна знудзішча. Ты каза, я воўк, я не абедала, я не снедала, я есці хачу. Гам, гам, я цябе з'ем.

## 765. Ад грызі

Грызь, грызь — есь хачу: у сераду ня ела, пятніцу загавела, раба твая божа,— етай болі амін, з жыл, з пажыл, з сустаў, з суколен, з храбецьней касьці, выхадзі ета боль пад шапкай (мальцова), пад хустай (дзявоцкая), пад каўпаком (мужчынская), пад чапцом (жаноцкая).

## 766. Ад грыжы

Сук-ялiначка, тут табе не стаяці, табе ў Колечкі не бываці, табе, Колечка, грызі не знаць. Грызь-грызяўка, дрэнная казяўка, выхадзі, грызь, з чырвонага мяса, з белага цела. Крактуха, балтуха, урочная, малочная, выхадзі, грызь, з чырвонага мяса і з белага цела. Цябе воўк еў, цябе мядзведзь еў, і я цябе з'ем, і я цябе з'ем, і я цябе з'ем.

## 767. Ад грызі

На моры стаіць дуб, на дубу гняздо, у гняздзе яйцо, у яйцы заяц. Заяц нічога не знае, з рукі (імя) грызь выгрызае, з белых костачак боль выганяе.

## 768. Ад грыжы

Первым разам, добрым часам. Дай Бог час добры, выгаварываю з Надзькінага мяса, выгаварываю грыжу, падзіўную, пагляднную, прыгаворную, пацешную, пасмешную, радасную, жаласную, дзіцячую, рабячую, бабскую, мужскую, ветраную, халодную, вадзяную. Я цібя выгаварываю, я цібя вымаўляю з белых касцей, з сініх жыл, з чорных броў, з печані, з серца. Я цібе выгаварываю, я цібе высылаю, на сіняе мора адпраўляю. На сінім моры стаіць дуб на дванаццаць какатоў, пад тым дубам ляжыць гняздо, у том гняздзе ляжыць заяц. Заяц-заяц з Надзькіных касцей грыжу выгрызаіць. Постны час па еты раз. Амінь.

## 769. Ад грыжы

Хадзіла Праскоўя па мху, па балоце, па гнілой калодзе. Шукала Праскоўя сабе прыжыўлення ў мху, у балоце, у гнілой калодзе. Не знайшла Праскоўя сабе прыжыўлення ні ў мху, ні ў

балоце, ні ў гнілой калодзе. А знайшла Праскоўя сабе прыжыўленне ў Іванавым пупе, у косці, у жыле.

Я яе выганю, зямным зубам выкушу. Амін.

## 770. Ад грыжы

Госпадзі, памажы ў маіх дзялах, у маіх славах.

Грызь, грызь, не грызі ў раба божага (імя) ні ў пупу, ні ў пахвінах, ні ў ядрах, ні ў праходзе. Грызь грызучая, грызь грымучая, выхадзі ў раба божага (імя) з пупа, з пахвін, з ядраў і з праходаў, а не выйдзеш — я на цябе нашлю Міхаіла-архангела. Ён цябе разаб'ець, па чыстаму полю разнясець, пры сухіх лясах, пры мокрых балатах, на гнілых калодах, а дзе лісце не варашыцца, карэнне не варашыцца. Там вам усім прападаць дзвенаццаці, у раба божага (імя) не бываць.

Грызь, грызь грызу, ты раз, я два, ты тры, я чатыры, ты пяць, я шэсць, ты шэсць, я сем, ты сем, а я восем, на дзевятым разу закусваю.

## 771. Ад грыжы

Грыжу, грыжу, я цябе грызу.
Ты мяне раз, то я цябе два,
Ты мяне два, то я цябе тры,
Ты мяне тры, то я цябе чатыры,
Ты мяне чатыры, то я цябе пяць,
Ты мяне пяць, я цябе шэсць,
Ты мяне шэсць, я цябе сем —
Да і адгрызу цябе заўсем.

## 772. Ад грыжы

Ішла бабка із кесу, із лесу, з мядзведчым ротам, з воўчымі зубамі. Ідзі, грызь, я цябе з'ем.

## 773. Ад грыжы

Грызь-грызіца, добрая маладзіца, ты косці не ламі, сэрца не тамі. Няма табе месца ў целе раба божага. Ідзі ў цёмны лес, там ляжыць у цёмным лесе гнілая калода. Там табе месца грысці. Амінь!

### 774. Ад грыжы

Я не руку грызу, да грызь грызу. Выйдзі, грызе, з рукі на сухія сукі.

### 775. Ад грыжы

Грыз загрызаю, на сукý пакідаю. Грызі, грызь, сук, а не Шуркін пуп.

### 776. Ад грыжы

Грызь, не грызі маё цела. Я кошка, а ты мышка. Гам, з’ем.

### 777. Ад грыжы

Хворы: «Што ты грызеш?»

Шаптуха, грызучы грызь: «Я грызь грызу».

Хворы: «Грызі болей, каб не балела». (І так кажуць тры разы.)

Шаптуха далей: «Грызухна, матухна, я грызь грызу, а ты сук грызі». (Тут трэба папляваць на сучок у лаве, ці сцяне і пацерці рукой.)

### 778. Ад залатніка

Цары б’юцца — сунімаюцца, дарога ўсцілаецца, залатнік астанаўляецца на залатым крэсьлі, на сваім месьці.

### 779. Ад залатніка

Загаворваю залатнік ступны, стрывожаны, калючы, падзіўны, прыгаворны, дзявочы, жаночы і хлапечы. Дванаццаць разоў загаворваю і замаўляю: не гарэць, не балець, не ламіць і жыл не сушыць. Цары, каралі б’юцца, сякуцца і зноў усціхамірваюцца. Так і ты, залатнічок, хадзі, расхадзіся і ўсціхамірвайся, на сваё месца станавіся, якое табе Гасподзь Бог паказаў. Уніз не схадзі, касці не ламі, раба божага (імя) не сушы. Як чорны мак пасеўны, так і ты, залатнік, пяром угору ўзніміся, на сваё месца станавіся не ніжэй, не вышэй пупа. Як на небе маладзічок, зоркі і балачынкі круг свету ходзяць, расходзяцца і на сваё месца становяцца, так і ты, залатнічок, хадзі, расхадзіся, свайго месца пільнуйся і на сваё месца станавіся — ля пупа, ля пупа, ля пупа.

### 780. Ад залатніка

Первым разам, лепшым часам Госпаду Богу памалюся, Божай матцы пакланюся. Маць Божа, будзь у помачы раб божай Галі жывот гаманіць. Я жывот гаманю, гаманіла.

Жывот, жывот, жываток мой, залатнік, залатнік, залаціся, на месца, залатнічок, станавіся. Тут табе не стаяць, бакоў не закладаць, на месца жывату-залатніку стаць, рабе божай Галі ў помачы стаць. Я словам, Божа маць у помачы. Дую, здуваю з Галі залатнік, у помачы памагаю. Тфу.

Другім разам, лепшым часам малюся, я Богу пакланюся. Маць Божа, будзь у помачы раб божай Галі залатнік падымаць. Залатнік, залатнік, залаціся, на месца, залатнічок, станавіся. Тут табе не стаяць, бакоў не закладаць, на места жывату-залатніку стаць, раб божай Галі ў помач стаць. Я словам, Божа маць у помачы. Дую, здуваю, раба божай Галі залатнічок на месца пастанаўляю. Тфу, тфу.

Трэцім разам, лепшым часам (ізноў тое самае).

### 781. Ад залатніка

Було ў Куліны (імя знахаркі) тры касы: адна грудная, другая бакавая, а трэцяя па жывату ходзя, залатніка водзя. Каса-касіца, ня гуляй, ня буяй, залатніка адбуўляй, станаві на месьці, як царыца ў крэсьлі: ёсь ля цябе месьцічка з макава зернячка.

### 782. Ад залатніка

Госпаду Богу памалюся, святой Божай мацеры пакланюся. Святая Божая маці, прыступі, памажы. Я шаптаннем, а ты спамаганнем.

Ты, залатнік-залатнічку, добры чалавечку, цябе мамка радзіла, на крэсле пасадзіла. Угавараю залатнічка з рознымі валаскамі: і з русымі, і з чорнымі, і з белымі.

Ішлі тры калечкі цераз рэчку, кійком абпіраліся і залатнічка на места ўстанаўлялі. Залатнічка ўгавараю, на сіня мора адпраўляю. І ў (імя) не бываць, ідзіце на сіня мора гуляць. І мора шырока, і мора вяліка. Там спяванне, гулянне, з'яданне. Там сталы накрытыя і кубачкі налітыя.

### 783. Ад залатніка

Первым разам, божым часам памалюся Госпаду Богу, Прачыстай Божай мацеры, усім сілам нябесным.

Залатнічок, залатнічок, божы чалавечак, стань на сваё места ў залатое крэсла. Тут табе не стаяць, жывата не пушыць, сэрца не ташніць. Стань на сваё места.

Ёсць у полі тры дарогі. Тымі дарогамі ішлі тры бра́ты, гра́кі, неслі белыя сыры. Склалі тыя сыры ў кучу і гавораць: «Браце мой, браце, што ты ўмееш?» Адзін гаворыць: «Лук наганяць», другі гаворыць: «Стрэлы пускаць», а трэці гаворыць: «Залатнік выгавараць».

Я гавару-выгаварую, помашч даю з кашчэй, з машчэй, з жыл, з пажыл. Я з духам, а Бог з помаччу.

### 784. Ад залатніка

Святы Мікола — божы памошнік, зоры-заранніцы — божыя памачніцы, прыйдзіце на Сіяньскае мора; там сядзяць тры бабкі. Яны сядзяць, залатнічка дзяржаць да й вымаўляюць, на сваё места настаўляюць. Залатнік залаты, стань на сваём месце, на залатом крэсле. Тут табе не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не ташніць рабы божай Машы.

### 785. Ад залатніка

На небі вясёл месяц, на моры белы камень, а ў лесі чорны мядзьведзь. Як тым тром царыком не схадзіцца, не ваявацца, так у рабу божаму залатніку ня ’трыгацца.

### 786. Ад залатніка

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся, матцы Хрыстовай, усім святым апосталам.

Залатнік залаты, чаго ты ўсхадзіўся: ці ты з падымку, ці з падзіўку, ці з прыстрэку, ці з прыгавору? Каціся ты пярцом, гарохавым зярняткам; цябе маці радзіла, на сваім месці пасадзіла: сядзь ты на сваім месцячку, на залатым крэслячку. На залатым крэслі садзісь, шоўкавай нітачкай падпе345ражысь, пад вароты ня хадзі, косці ня ламі; жоўтыя косці ня ламаць, гаручыя крыві ня разліваць, вопуху ня пускаць. Як мой душок ціхе́няк, ляге́няк, так штоб табе было ціхенька, лягенька.

### 787. Ад залатніка

Першым разком, госпадзнім божым часком. Гасподняя Божая маці, прыступіся, памажыся (імя) залатніка ўгавараці.

Залатнічок-падымачок, я цябе прашу, угавараю божымі славамі, госпаднімі хваламі, вярніся, на месца стань, касцей не ламі, сэрца не сушы, на спінку не ападай, бок не закладай, пад грудзі не падпадай. Сядзь сабе на месцечка, на залатым крэслечку, там цябе матка раджала, тонкай ніткай звязала. Там табе ядзенне, піценне, усякае весяленне. Датуль ты хадзіў, бушаваў, пакуль майго духу не чуваў (падзьмуць, плюнуць на зямлю, скрануць з месца хворага).

### 788. Ад залатніка

Залатнік залаты, твой рог залаты, з чаго ты ўзняўся: ці з хады, ці з яды, ці з падыму? Стань на месце, на божым крэсце, як мамка радзіла, як бабка бабіла, каб твой жыватоқ, як ад жаны піражок. Каб твой жыватоқ анямеў і ніколі не балеў. Бог даў помачы, а я да рады.

### 789. Ад залатніка (паднімку)

Первым разам, божым указам, лепшаю гадзінкаю, лепшаю часінкаю. Ісус Хрыстос, стань у помачы, і святая Багародзіцка, матка Божая, заступніца, святыя ангелы-храніцелі і святыя апосталы-ісцяліцелі. Памажы мне, Божа, Ганне паднімку ўгавараці.

А ты, паднімачку, божы ўраднічку, чаго ты ўсхадзіўся, чаго ты ўзбушаваўся? Ці ты з хады, ці ты з бяды, ці з цяжкае работы? Ганніна матка парадзіла, на столік пасадзіла. Па сталу не хадзі, сэрца не нудзі, галоўкі не клапаці, касцей не ламі, цела не сушы, уніз не ападвай, бакоў не закладвай, ад паперачка адкаціся, касцьмі не бярыся. Я цябе ўгавараю, на места ўстаўляю, ідзі на сваё месцечка, там табе залатое крэслечка. У садочку столікі засланыя, кубачкі налітыя, без цябе не пітыя, ідзі напіся, спаць палажыся. Знясі ліха з Ганнінага стану на сухі лес, на ніцыя лозы, на жоўтыя пяскі, дзе сонца не свеціць, месяц не ўзыходзіць, пташкі не лятаюць,— туды цябе ссылаю.

## 790. Ад залатніка

Першым разком, божым часком прашу Госпада Бога і Гасподняе маткі, прыступай і памагай Ганне жывот шаптаці і ўгавараці.

Ехала прошча цераз залезныя мосты, валялася, спатыкалася, жывот шаптаці паспяшалася. Ты, залатніку, у плечы не ўлягай, бакоў не закладай, нізка не ападай, пад грудзі не падварачай. Стань на месцечку, на залатом крэслечку, тут цябе матка радзіла, на месца пасадзіла, яна ж цябе ўмаўляла, паннаю называла. Тады ты хадзіў, тады ты бушаваў, як ты майго духу не чуваў, а цяпер я цябе прашу, умаляю, за ніцыя лозы адпраўляю, дзе сонца не свеціць, вецер не вее, дзе пташкі не далетаваюць. Там табе залатая пасцелька, там твой бацька і маці будуць цябе паважаці, паннаю называці.

## 791. Ад залатніка

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся. Залаты залатнік, ідзі на свае места, сядзь на крэсла, будуць медам паіць і пірагамі карміць. Ідзі на свае места, сядзь на крэсла — тут табе ня быць, у рабы божыя касьці ня ламіць, крыві ня сушыць і сэрца ня знабіць.

## 792. Ад залатніка

Первым разком, лепшым часком Госпаду Богу памаліся, святой Прачыстой матке пакланіся. Свята Прачыста матка, прыйдзі, дапамажы да Галі здароўя пашлі.

Залатнік-залатнічку, палкоўнік-палкоўнічку, я цябе ўгавараю, я цябе ўмаляю, на краснага каня сажаю, на сіне мора высылаю, штобы ў Галі па жывату не хадзіць, пад бака не падпалагаць, не пад бок, не пад спіну, не пад плахую гадзіну. Як табе бабка пупок завязала, сваё месцечка паказала. Сідзі на сваём мясцечку, на залатом крэслечку. Там табе выпіванне, выяданне, а ў Галі не бываць, па жывату не хадзіць, касцей не ламаць, цела не сушыць, суставы не крушыць. Бог у помач, і я з духам.

## 793. «Ад порвы жывата»

На моры, на акіяне Прысвятая Багародзіца стаяла, залатнічком кіравала: уверх не падымайся, у бакі не раздавайся, стань у гняздзечка, будзь, як яечка. Памагі рабе божай (імя).

## 794. Ад залатніка

Госпад Божачка, матка Найсвенчая, раба божая Мар'я і раба божая Вольга. Святая нядзелька, памажы, Госпад Божачка, Вольге ад залатніка. Залатнік мужчынскі, залатнік жаноцкі, залатнік падзіўны, залатнік парыўны, залатнік грудны, залатнік галаўны, залатнік нутраны, не хадзі па касці, па чырвонай крыві, па румяным ліцу, жывата не крушы, касцей не ламі, жыл не сушы, галоўка, не шумі, не балі. Крушы крушыну, горкую асіну, узыйдзі на гару, стань на стану, макавым зернем, селязнёвым пер'ем, як мамка радзіла.

Госпад Божачка, памажы, Божачка, ад залатніка. Залатнік удаўцоў, залатнік удавін, залатнік нудны, залатнік грудны, залатнік падзіўны, залатнік парыўны, залатнік галаўны, залатнік нутраны, залатнік касцявы, не хадзі па касці, па чырвонай крыві, па румяным ліцу, жывата не крушы, касцей не ламі, жыл не сушы, галоўка, не балі. Крушы крушыну, горкую асіну, узыйдзі на гару, стань на стану, макавым зернем, селязнёвым пер'ем, як мамка радзіла.

Госпад Божачка, матка Найсвенчая, памажы, Госпад Божачка, ад залатніка ад жаноцкага, ад мужчынскага (ёсць жа ўдаўцы, і дзецюкі, і жанатыя, нада ўспамінаць, і мужыку і мальцу загаварваць). Найсвенча матка, дзе ходзіш, дзе бываеш, залатнічок замаўляеш, на места стаўляеш, як родная мамка радзіла, а хросная пад хрэст паднасіла, у Госпада Бога здароўя прасіла пад яснымі зарамі, пад анельскімі крыламі, пад ясным месяцам, пад ясным сонцам. Дзе Найсвенчая матка ходзіць-бываець, Госпада Бога на помач прызываець, залатнік замаўляець.

Святыя святочкі, гасподнія дзянёчкі, памажы, Божачка, ад залатніка. Я ж нікога не знаю, толькі Госпада Бога, Духа Святога, Ісуса Хрыста, мертвяца. Як мертвяцу не ўставаць — Вольчыну залатнічку не бываць. Ідзі, Вольчын залатнічок, на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, на гнілую калоду гладаць, каб залатнічку не бываць.

## 795. Ад залатніка

Залатнік-залатнішча, з чаго ты ўсхадзіўся? Ці з яды, ці з вады, ці з уроку, ці з прыстрэку, ці з падымку, ці з падзіўку? Датуль жа ты калоў, датуль жа ты пароў, пакуль я к табе не прыступілась. Цяпер табе ні калоць, ні пароць. Шукай свайго месцечка з макава зернетка, дзе цябе маці парадзіла, на зала-

том крэслі пасадзіла, макавым зернем пасыпала, шаўковай нітачкай падвязала, «не руш мае месцечка» — прыказала. Тут табе не хадзіць, жывата не пушыць ні сходам, ні маладзіком, ні пад поўна, ні сходам, ні маладзіком, ні пад поўна.

Ні я ж гавару, а Гасподзь, не мой дух, а гасподні, не мая сіла — гасподня. Як мой дух ціхенькі, лягенькі, штоб табе было ціхенька, лягенька. Прылюбі мой дух, прылюбі мой дух, прылюбі мой дух!

### 796. Ад залатніка

Першым разковам, гасподнім часковам Госпада Бога папрашу, святога чэснага дзянёчка — нядзелькі. Залатнік-залацінец, ты ляці, братачку, стань на месцечка на залатым крэслечку. Цябе матка радзіла, пупком абкружыла, цябе бацька пачынаў, на еты свет пускаў; выкацься гарошынкаю, рассыпся на дробненькі мак, мак, а ты, залатнік, садзісь у сваё крэсла проста на места.

### 797. Ад залатніка

Першым разам, добрым часам. Прашу я Госпада Бога і Духа Святога, стань, Бог, у помач, ангалы, на радась.

Залатнік-залатнічаньку, мой мілы панічаньку, я цябе прашу нізкімі ўклонамі, пакорным словам, стань на стану, сабярыся ў хмялёву шышачку, разыйдзіся па макавым зернятку.

### 798. Ад залатніка

Ішоў залатнік па залатому масту, спускаў свае косы па сырой траве, па сырой зямлі.

У нядзельку ўставала — залатнічок (імя) замаўляла. Сыйдзіся, залатнічок, у мясцечка, як макавае зярнятка.

Божа, памажы! Божа, памажы! Божа, памажы!

### 799. Ад залатніка

Залатнік-залатнічку, стань ты на сваём месцечку, на залатом крэслечку. Кляновым лісцікам засцяліся, макавым зернейкам закаціся, на сваём месцечку астанавіся.

Гараваць — не яраваць, сырую зямельку таптаць. Як той бабе Кацярыне з таго свету не ўставаць, з жонамі не жана-

ваць, мёду, віна не ўпіваць, так залатніку не бываці, касцей не ламаці, крыві не турбаваці.

### 800. Ад залатніка

Як Тацяну мамка радзіла, бабка бабіла, кума куміла, пад хрэст паднасіла, так табе, залатнічок, па касці не хадзіць, касці не ламіць, стаці на сваім месцечку ў залатым крэслечку. Шаўковым шнурочкам падперажыся, залатымі замкамі замкніся, у макава зернейка сыйдзіся і ніколі больш не развіся.

### 801. Ад залатніка («Роды, выкідыш, залатнік, маціца»)

Первым разам, добрым часам. Ішла маць Божыя Прачыстая па калінавым масту, па малінавым масту, нясла яна залатыя ключы і сярэбраныя, замыкала і запірала рабе божай залатнік і выхаднік і пладнік, ветраны, нутраны, падучы, гаручы. Чаго ж ты ўзняўся, чаго ты падняўся; ці ты з яды, ці ты з хады, ці з падойма, ці з падарвання, ці з вялікага прыгавору? Прашу цябе, залатнік-братачка, ня шумархай, касці ня ламі, жывата ня знабі, сэрца ня ташні, сярэдзінкі ня крышы, па жывату ня качайся, ня валяйся, у сваё места спадзявайся. Пры табе мамка Прачыстая стаяла, залатымі замкамі замыкала, на месці залатнік сустаўляла. Баба з рача́мі, а Гасподзь Бог з помаччу; не я знаю — Гасподзь зная, маць Прачыстая святым сваім духам падыхая, на стану сустаўляя.

### 802. Ад залатніка

Быў я ў цярніцы. Купіў я трыццаць тры ключыкі, трыццаць тры замочкі. Трыццаць тры ключыкі, замкнецеся, замочкі, запрэцеся, а ў (імя), залатнічку, на месца станавіся. Стаць, пад грудзі не падхадзіць, у пелену не ўварачаць. Стаць, абгадзіць, абнаравіць, на сваем месцечку, на залатом крэслечку.

### 803. Ад залатніка

Я з таго свету Агапачку ўспамінаю, усякі падымачак загавараю. Прыступі, Гасподзь, дапамажы. Ішоў Гасподзь і з сякерамі, з тапарамі, з жалезнымі гваздамі. Сталі секчы і рубаць, сталі залатнічку местачка шукаць. Дзе бабка шаўковенькай

ніткай завязала, там залатнічку местачка паказала. Як салавеячку на вароцечках не ўспяваць, так у Валечкі падымачку-падвяроду ў целе да смерці не бываць.

## 804. Ад залатніка

Марылін залатнічок прымаўляю, Найсвентшу матку віленску астрабрамскую ўспамінаю.

Залатушачка мая птушачка, ляжы ў сваім месцечку, як у крэслечку. Як цябе мамка радзіла, як цябе бабка бабіла, як цябе кумы хрысцілі, Божачку ў помач прасілі. Стань, Божа, да помачы. Марылін залатнік пры пятніку, стань, Божачка, пры залатніку.

## 805. Ад болі ў жываце

Печ, печ, я цябе падніму — сціхні, жывот! А не сціхнеш — я цябе падніму.

## 806. Ад залатніка

Госпаду Богу памалюся і матары Божай прыкланюся,— прыступіця і памажыця рабе божай. Сыботачка-мамачка, як ты свет аснавала, жаркае сонейка і яснае месячка, і зоры-зараніцы і божыя памашніцы, прыступіця і памажыця рабе божай.

Залатнік залаты, падымала цябе святая Сахвея сваімі рукамі і залатымі замкамі. Залатнік залаты, стань на сваем месці, на залатом крэслі, на бацькавым саснаваніі, на маткіным параждэніі. Не ў паказаным табе месці ня стаяці і касьцей ня ламаці, і жывата ня ташніці, і пад сэрца ня падхадзіці, жылную кроў судзяржаці, а родную высылаці.

## 807. Ад залатніка

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай мацеры пакланюся. Божа маці на прэстолі стаяла, на сябе залатыя рызі накладала, усёму свету помач давала.

Залатнічку, добры чалавечку, па касцях не хадзі, не ламай, у чарэсца не залязай, пад грудзі не падварачай, піць і есці не заслучай. Ідзі ты на сваё месцечка, на залатэ крэслечка. Баба пупа завязала, табе месцечка паказала. Месцечка, залатэ крэслечка, шоўкам падвяжыся, жалезным тынам адгарадзіся, ад раба божае (імя) хрышчонае адкасніся. А ты, залатнічку,

зоркаю ў лес каціся, мачынкаю адгарадзіся, вузлікам завяжыся, а лісцінкаю рассцяліся.

Другім разочкам, лепшым часочкам...

### 808. Ад залатніка

Пасоб, Божа, памажы, Прачыстая маці, Волі залатніка выгавараці.

Залаты залатнічок, малады маладзічок, я цябе знаю, я цябе выгавараю, на сваём месцечку пастанаўляю. Стань ты на месцечку, на залатом крэслечку, там табе піценейка, там табе ядзенейка, там цябе матка нарадзіла, на залатом крэслечку пасадзіла, там табе месцечка спакойна. Прашу я цябе — успакойся. Ты ж колеш у нажыцы, ты ж колеш у ручыцы, ты ж колеш у грудзіцы. Прашу я цябе не хадзіць, не калоць, не вылязаць, на месцечку стаць.

### 809. Ад залатніка

Матар Божая, царыца нябесная, прыступіся раба божага залатніка падымаці.

Залатнік-залатнішча, і ты, жывот-жывацішча, стань ты на сваем месці, на залатом крэслі, як цябе маці радзіла, на залатом крэслі садзіла ў красняпькам каўпачку, у шаўковенькай шапачцы; красным повясам падпяразаўся, у бокі ўзяўся, па жывату хадзіў і сэрца знабіў, пад бокі падлягаў і дыхаць ня пускаў, як я цябе не гаварыла. А цяпер я гавару, выгаварую — табе, залатнік, на стаяння, а рабе божай на здароўя.

### 810. Ад залатніка

Золат залатнічок, стары старычок, які быў ты ад малку, такі будзь і да старку, па Алёшкаваму жывату не хадзі і касці не ламі, стань на месцы, як сокал у гняздзе, Гасподзь Бог у небе, Ісус Хрыстос на сваім месцы.

### 811. Ад залатніка («донніка»)

Да ні я ж бабка — Прачыстая матка...

Госпадзі, благаславі (3 разы). Доннічак-залатнічок, стань жа на месьці, як сокал на гнезьдзі, як цібе татка сатварыў, як цібе матка радзіла, прынёмная бабка прынімала і на места пасадзіла і цьвецікам абсадзіла, карашок прыжывіла; як цібе хросная

матка пад хрост насіла, хросны бацька ў храшчоную веру ўвадзіў і на места пасадзіў. Табе, доннічку-залатнічку, у рабе божжым (імя жанчыны) па беламу целу не хадзіць і белага цела ні сушыць, і касьцей ні ламіць, і цьвецікам ні цьвіцець! Доннічак-залатнічок, прашу ж я цібе, малю ж я цібе, стань жа на месьці, як сокал на гнезьдзі сьвята нінарушыма!

### 812. Ад залатніка

Прашу я цябе, малю я цябе, маташніка, маціцу і нябесную царыцу, і ўсю сілу гасподнюю, і ўсю калясніцу нябесную! Залатэй доннік, сярэбраны доннік, прашу ж я цябе, малю ж я цябе: выступі ты з бодрых ног, з гаручай крыві, з хрэбетнай касьці, з буйной галавы, з белага ліца, з румянага цела. Залатэй доннік, сярэбраны доннік, прашу ж я цябе — на чом ты скаціўся, на чом ты схваціўся, ці сход ветаха, ці прыход ветаха, ці сход маладзіка, ці прыход маладзіка, ці ўсмешнае, ці ўцешнае, ці на паходзі, ці на рабоці, ці ў піцянні, ці ў едзянні,— на тым ты астануйся. Залатэй доннік, сярэбраны доннік, патуль ты хадзіў, патуль ты нудзіў, пакуль я цябе не захваціла: я з славесамі, Гасподзь Бог з помаччу. Залатэй доннік, сярэбраны доннік, стань ты ў пупе, у макавым зярне: тут тваё мясцечка, як салаўю гняздзечка; тут тваі дамы, тваі харомы, тут тваё красування, тут тваё прабування. Як етаму дрэву (веніку) на корні не стаяць, веткамі не махаць, так етаму донніку ў дыні не ўступаць, пад бакі не падпіраць і сэрца не нудзіць, і рабу божыю не сушыць.

### 813. Ад залатніка

Святое сонейка, святое месячка і святое Раждзяство. Іезус маленькі нарадзіўся ад чыстай паненкі.

Із-за лесу, із-за гаю цякла вада на сіняе мора. На сінім моры ляжаў сіні камень, на тым камені стаяла цэркаўка, а ў той цэркаўцы два папкі і Божая матачка. Яны пішуць і чытаюць і залатнікі астанаўляюць. Залатнічок-панічок, сэрца не тамі, касці не ламі, крыві не сушы. На залатом крэслечку садзіся і залатым кіёчкам падапрыся. І як Божай матацы з цэркаўкі не выхадзіць, так залатнічку з места не схадзіць. Залатнічок-панічок, прашу цябе, і Госпад Бог з помаччу, а я з духам.

## 814. Ад залатніка

На сінім моры велікаморы стаіць яблыня залатая. Пад той яблыняй карвацць цісовая, на той карваці ляжыць маці Прачыстая. Прыйшоў к ёй Ісус Хрыстос: «Маць мая, маці, памажы рабе божай (імя) залатніка падымаці».

У прасветлым полі стаіць дрэва, пад тым дрэвам Адам і Ева. Як Адаму з Евай з раю не выхадзіць, так етаму залатніку па жывату не хадзіць, не бушаваць і крэпка на сваім месцечку стаяць. І вот табе, залатнік, месцечка, залатое крэслечка і на ім прыгаворнаму, пагаданаму, прыгляднаму.

## 815. Ад залатніка

Ішла Насвенча матка мостам з залатым шостам, мост увагнуўся, залатнік улякнуўся. Сядзь ты, матка Насвенча, у залатым крэслі, стань, залатнік, у (імя) на сваім месцы.

## 816. Ад залатніка

Залатнік, залатнік залаценькі!
Я ж цябе прашу, я ж цябе малю,
Найсвентша матка казала,
Каб Настачка здарова стала.
Стань на меры, як Хрыстос на веры.

## 817. Ад хваробы жывата

Ішоў Ісус Хрыстос праз жалезны мост, залатым кіёчкам апіраўся, у залатых лапціках, шаўковых аборках. Лапцікі, дзяржыцеся, аборкі, парвіцеся, жывоцік, суніміся.

## 818. «Ад жывата»

Умаляю Госпада Бога, гасподняе сатварэнне, матчына параджэнне. Ішоў Ісус Хрыстос з залатым крыжом, сустрэўся з залатнікам:

— Залатнік, залатнік, божы памочнік, па касці не хадзі, касці не ламі, сэрца не знабі, крыві не мары. Залатнік, на месцы стань, спакой дай. Як макаўка расцвітае, так залатнічка ападае, як макавачка ападае, так залатнічка на сваё месца пападае. Не мой дух, а господня сіла. Я з словам, а Бог з помаччу.

### 819. Ад залатніка

Залатнік, залатнічок,
Залаценечкі ражок!
Сядзь на сваём месці,
Як пан на крэслі.

### 820. Ад залатніка

Быстры рэкі, сыйдзіцесь, круты берагі, сайдзініцесь, царскія вароты, расчыніцесь, жоўтыя пяскі, збяжыцесь, белыя камення, з крутых гор скаціцесь, залаты рог, з касьцямі зрасціцесь. І вас, залатнічок, упрашую, умалюю: як мамка раджала, бабка бабіла, стань на сваём месьці, у залатым крэсьлі, як у цесьці.

### 821. Ад залатніка («донніка»)

Доннік, доннік, доннічок — залаты залатнічок, стань ля пу́па — быць табе ту́та. Рабу божыю (імя жанчыны) не крушы. Амін, амін.

### 822. Ад залатніка

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай Божай маці пакланюся. Святая Прачыстая Божая маці, прыйдзі Ганне залатніка шаптаці.

Ішоў Гаспод дарожкаю і цёг з сабою залатніка:

— Залатнічку, залатнічку, добры чалавечку, сядзь сабе на сваём месцечку, на залатому крэслечку. Годзе табе шумаваці да пад бокі падпіраці, прашу цябе на сваё месцечка стаці. Не сядай пад дубком, а сядзь пад пупком. Я словамі гавараю, вымаўляю, на сіняе мора выпраўляю.

Мае словы — гасподні дух.

### 823. Ад залатніка

Гасподзь Бог, Ісус Хрыстос, у трох ліцах Дух Святы стаіць на помач гэтаму чалавеку.

Залатнічок-панічок, залаты камочак, па гэтым чалавеку не хадзі, жылы, касці не ламі, жывата не балі, садзісь на сваім месцы ў залатым крэсле на залатым замочку, на шаўковым паясочку, замкніся, завяжыся, на божай помачы, на маім слове астанавісь і мінісь.

### 824. Ад залатніка

Бацюшка (імя) зачадзіў, матушка (імя) зарадзіла, залатніком надзяліла, пасярод жывата пастанавіла. Як дрэву клёну па лесу не хадзіць, лістам не лятаць, так у (імя) залатніку па жывату не хадзіць. Амінь!

### 825. Ад залатніка

Залатнік-залатніча, стой на сваём месці, на залатым крэслі. Як мяртвому ня ўставаць, па зямле ня хадзіць, расы ня таптаць, так табе з свайго места ня сходзіць, косці ня ламіць, жыл ня сушыць, жывата ня ташніць.

### 826. Ад залатніка

Вадзіца-царыца, божжа памашніца. Як гэтай вадзе на месьці не стаяць, не гуляць, так гэтаму залатніку па жывату не хадзіць, у касьці не стаяць. Стаяць яму ў крэсьці, у залатым месьці. Святы Міхайла-архайла на помач рабе божжай Матруні.

### 827. Ад залатніка

Залатніца-донніца, стань на пупішчу, на сваім месьці. Як быў у дзявіцы, так стань у маладзіцы (абвесці венікам вакол жывата, націскаючы). Крэпка бярозка на корні стаіць, так стань, залатнік, на сваім месьці таго крапчэй.

### 828. Ад залатніка

Госпадзі Божа, багаславі, маць Прачыстая, памажы. Загаварую рабе божай Агапі залатнік залаты, маладзік малады: стань ты ў крэсьлях, на сваіх месьцях. Як яна ў дзеўках бувала, цябе не знала, так цяперыцька на стану станавіся. Як цябе пад хрост паднасілі, у Бога долі-шчасьця прасілі, а я ў Госпада Бога добрага здароўейка.

### 829. Ад залатніка
### («Роды, выкідыш, залатнік, маціца»)

Залатнік замаўляю, Божжую мацер на помач прызываю, святы аўторак, ранняя зара — добрая пара. Божжая мацер

Суса Хрыста спарадзіла, сорак нядзель насіла, у божжай пасьцелі ляжала; к рабе божжай прыхадзіла і гэту боль адвадзіла, за повесьці ў добрам месьці станавіла. Ну, так жа ты не гнявіся: як сакступіў, так на сваём месьці станавіся.

## 830. Ад залатніка

Залатнічок, панічок, гніся, віся, на сваём месьці станавіся, Ясён месік занімаецца, спалягаець, спатухаець, дробныя звёзды на ноч занімаюцца, на дзень спалягаюцца, спатухаюцца — спатухнець, спаляжэць рабе божай ета хуртувіна.

## 831. Ад каўтуна

Не я ж падзімаю, матка Хрыстова. Калі каўтун-каўтуніца, то ідзі шырокімі балатамі, чыстымі палямі, сінімі марамі за цёмны лес, за цёмну цямнічку, за глыбоку крынічку, там ты западай-прападай, на целе не бывай.

Каўтуночак-галубочак, узлезь Мані на вяршочак, я табе ўгаджу, віна-мёду навару, залатыя кубачкі палажу, срэбну мякку пасцелечку пасцялю. Айцец Мікола, матка Хрыстова, злюбі, Божа, мой дух. Калі Бог памажэ, то і я памагу.

На гары стаяў дубок, пад тым дубком бабка. Не ўмела ні чытаць, ні пісаць, толькі ўмела каўтуна і каўтуніцу выгаварацъ. Яна ўгаварала, мне памагала. Прыляціце, пташачкі, з бору, забярыце каўтуна і каўтуніцу з сабою, занясеце на сіняе мора, на чыста поле, дзе кароўкі траўку не з'ядаюць, вады не співаюць, там каўтуна і каўтуніцу пакідаюць.

## 832. Ад каўтуна

Каутун-баўтун, добры чалавек, чаго ж ты расхадзіўся? Ці ты з крыку, ці ты з работы, ці ты са зла, ці ты з пуду, ці ты з увяроду? Я ж цябе прашу, табе смачна есці даю, мякку пасцель сцялю, цябе, каўтуна, спаць кладу, табе, каўтуну, угаджу, цябе, каўтуна, прашу па касцях не хадзіць, касцей не ламіць, крыві не валнаваць, у (імя) каўтуну не бываць. Стаць табе, каўтунок, угадзіць, абнаравіць на сваём месцечку, на залатом крэслечку. Прачыста Божа матка столікі настаўляла і ў кубачкі-блюдачкі мёд-віно паналівала. Як у тых кубачках-блюдачках мёду-віну не бываць, так у (імя) каўтуна не бываць.

### 833. Ад каўтуна і каўтуніцы

Прачыстая Божая мацер, прыступай і памагай каўтуна і каўтуніцу ўгавараці. Я ўгавараю і ўмаляю, хлебам-соллю страчаю і вас перапрашаю — падвераджоны, прастуджоны, й варавіты, і працавіты — па касцях не хадзіце, касцей не ламіце, крыві не смакчыце, галавы не марачыце, сэрца не смуціце, жывата не сушыце, жыл не падрывайце, духоў не закладайце.

### 834. Ад каўтуна

Первым разам, гасподнім часам Госпаду Богу памалюся. Мацеры Гасподняй памалюся. Ні сама я сабою — Прачыстая маці са мною. Прыступіся, Госпадзі, на ету часінку, на ету мінутку (імя) выгаварыць, вымалвіць тры дзевяці каўтуноў, тры дзевяці каўтуніц, падумных, намоўных, прыгаворных, смешных, пацешных, свярбучых, пякучых. І пакуль ты, каўтун, буяў, гуляў, ні ў сваім месцы стаў, сладкае мяса аб'ядаў, цяпер я цябе ўхажываю, угаварываю, тры дзевяці каўтуніц, тры дзевяці каўтуноў, із буйныя галавы, з гарачае крыві, з чорныя печані, з сустаўцаў, з палусустаўцаў, з пальцаў, з голасу, з воласу. І раннія зорачкі, вячэрнія ўнімаліcь, улягаліcь, тры дзевяці каўтуноў, тры дзевяці каўтуніц, сходам мінайся, маладзіком не атрыгайся, на сваём месцы вастанаўляйцесь. Прымі мой дух. Амінь.

### 835. Ад каўтуна

Госпаду Богу памолімся... А прашу я цябе, старшы Каўтун, унімай сваіх слуг, падзіўных, падумных, намоўных, сурошных, урошных, вадзяных, нутраных, дзянных, палудзённых, нашных, палуношных, часовых, памінутных. Выгаварыю я цябе з ясных вачэй, з гаручыя крыві, з лёгкіх печаней, з лёхка, з пáлехка, з жыл, з пажыл, кашчэй, машчэй, пáкашчаў — пры ясных зарах, пры красным сонцы, пры ранніх зарах, пры вячэрніх, пры вутранніх.

### 836. Ад каўтуна

Першым разком, гасподнім божым часком (імя) каўтуна ўгаварaю. Каўтунчыку, сівы божы галубчыку! Спрашываю я цябе

добрымі славамі, лёгкімі духамі. Каўтунчыку, ці ты палявы, ці ты баравы, лугавы, вадзяны, снегавы, расяны, зорны, начны? Па (імя) целе не хадзі, касцей не ламі, сэрца не тамі, крывей не бушуй. Выйдзі з (імя) вачэй, з плячэй, з вушэй, з касцей, з крывей, із пальчыкаў, із сустаўчыкаў, з усяго. Ідзі на сіняе мора. На сінім моры явар, на явары калышыся, па карэнні балячкамі судзіся, а ад (імя) белага цела адступіся.

### 837. Ад каўтуна

Каўтун, каўтунішча-дурнішча, ад чаго ты ўзняўся: ці ты з падзіўку, ці ты з пасілку, ці з цяжкага падымання, ці ты з цяжкага падыхання? Я цябе ўмаўляю, я цябе ссылаю на сінія моры, на буйныя ветры. Там табе столікі пазасціланы, кубачкі паналіваны, там табе піценне і ядзенне, там табе піць і гуляць, да Івана патрэбы не маць, спакой яму даваць.

### 838. Ад каўтуна і каўтуніцы

Пасоб, Божа, памажы, Прачыстая маці, (імя) каўтуна выгаварaці. Каўтун-каўтуніца, брат і сястрыца, па садочку хадзілі, цвяточкі зрывалі, вяночкі звівалі. Каўтунчыку ні хадзіць, галавы ні крушыняць, костачкі ні ламаць, чырвонай крыві ні ганяць, сініх жыл ні затрудняць, белых касцей ні ламаць, сэрцу ні ўяць. Ні падбіваць каўтунчыку ні пад грудзіцы, ні пад бачыцы (каўтун жа ўсюды.— *інфарматар*). Пасоб, Божа, каўтуна і каўтуніцу ўняць.

### 839. Ад каўтуна

Я з таго свету Адарачку ўспамінаю, ўсякі каўтун загавараю. Сыйдзі, каўтун, на дубочак, на кляночак, на яварочак; сыйдзі, каўтун, на хвоячку, на елачку, на бярозачку; сыйдзі, каўтун, на лясіначку, на лозачку, на бруснічачку; сыйдзі, каўтун, на высокія ляса, за крутыя горы, за глыбокія Дунаі, за шырокія межы, дзе ніхто не ходзіць, дзе ніхто не тупае; там табе месцечка — залатое крыльцечка. Сыйдзі, каўтун, з галовачкі, з цела; сыйдзі, каўтун-каўтунішча, з галовачкі, з цела.

### 840. Ад каўтуна

Дванаццаць скул угаварaю, каго лячу — дапамагаю.

Каўтун галаўны, вушавы. Ты самец-маладзец, ты саміца-

сястрыца. Каўтун галаўны, вушавы, зубавы, нутраны, верхавы, рассыпны, захаладжоны, застуджоны, страхаўны, засыланы. Ты, самец-маладзец, ты, саміца-сястрыца, па касцях не хадзі, касцей не ламі, сэрца не смуці, крыві не смакчы, каго лечыш — не смярці. Дасюль ты хадзіў, дасюль ты душу смуціў, пакуль майго духу не смуціў. Не дапамагаю я, хай дух дапаможа. Як мой дух лёгкі, каб табе было лёгка па касцях, па нутрах, па тваіх суставах.

### 841. Ад каўтуна

Госпаду памолімся. Бог з помаччу, а мы з духам. Зорка-зараніца, крэўная сястрыца, памагаеш людзям, памажы і Ганне.

На моры ляжыць белы камень, на камені сядзіць дзявіца, хустку вышывае, каўтун замаўляе. Я каля яе ішла, сырымі карэннямі, белымі каменнямі, карэння прарывала, каменне прамывала. Тудэмі ішла Прачыстая, у дзéвіцы пытала, дзевіца атвячала. Я дзéвіца-мініца, каўтунова ліхая, мініся. Я хустку вышывала, каўтун замаўляла, з касцей, з вачэй, з падгруз, з усіх вачэй выганяла. Каўтун ці саміца, на галаве звівайся, Божай мацерай здымайся. Каўтун ці саміца, на ваду апускайся і на вербы абвівайся ці ў зямлю закапайся.

### 842. Ад каўтуна

Первым разам, добрым часам, Бог с помаччу.

Вячэрняй зарой (ці ранняй зарой), добрай парой. Зара, зара, не запрыступіся (імя) рачонаму, хрышчонаму.

Каўтун-каўтуніца, сом і саміца, братка, сястрыца — усіх жа вас троячка. Я ж вас угавараю, я ж вас умаўляю, на цякучыя рэкі ссылаю. Там вам купацца, умывацца, у (імя) не стаяць, касці не ламаць, сэрца не крушыць, гарачкі не паліць.

### 843. Ад каўтуна

Каўтун — добры чалавек. Потам выступаю, па целу не раздзіраю, здароўя не адбіраю, жыл не сцягаю, гарачку ўцішаю, крыві не змяраю, сэрца не астаўляю, косць на косць пастаўляю... Калючыя, балючыя, агнючыя, пякучыя болі сунімаю. Каўтун — добры чалавек. Пасватаймось, пабратаймось, пакумімося, пашарсцімося, пацалуймося і разыйдзімося.

## 844. Ад хваробы вачэй

Вячэрняя зарніца, гасподняя памачніца, стань на помач. Ішла Прачыстая маці дарогаю, ішла Прачыстая маці шырокаю. Тудою ідзець раб божая Маня, плача, убіваецца, аб шыроку дарогу валяецца.

— Чаго ж ты, раб божая Манечка, плачаш, убіваешся, аб шыроку дарогу валяешся?

— Як жа мне ні плакаць, ні ўбівацца, аб шыроку дарожку ні валяцца, што мне бяльмо вочка занімае, на белы свет глядзець ні пазваляе.

— Ідзі ж ты, раб божая Манечка, да хаты свае, я прышлю к табе трох хартоў: белы — бельмы змыляе, красны — кроў замаўляе, чорны — яснасць у вочы ўстаўляе. Махна́ махну́ топча, яснасць у вочы. Я ж гэту боль угавараю, пабойную, прыгаворную, калючую, балючую.

## 845. Ад бяльма

Госпаду Богу памалюся, святой матары Прачыстай пакланюся. Прачыстая маці, хадзі вока шаптаці і бяльма зганяці. Ішоў Сус Хрыстос па калінавым масточку, за ім беглі тры харточкі: первы рабы, другі красны, трэцці серы. Рабы наваloку сцягая, красны кроў залізая, а серы вочы ўстаўляя.

## 846. Ад хваробы вачэй

Хадзіла, гуляла маць Прачыстая па чыстаму полю. Падняліся буйныя ветры, запарушылі Івану левае вока, вырасла бяльмо. Маці Прачыстая плача-рыдае, к сырой зямлі прыпадае. Тудой ехаў сам Ісус Хрыстос.

— Маці мая, чаго ж ты плачаш, чаго рыдаеш, к сырой зямлі прыпадаеш?

— Сынку мой, сын, як мне не плакаці, не рыдаці, к сырой зямлі не прыпадаці? Хадзіла, гуляла па чыстаму полю, падняліся буйныя ветры, запарушылі Івану левае вока, вырасла бяльмо.

— Маць мая, не плач, не рыдай, к сырой зямлі не прыпадай. Буду я ехаць па сялянскай гарэ на сівым кане, за мной будзе бегчы тры хорты: адзін чорны, другі белы, трэці рабы. Первы лізне — слязу злізне, другі лізне — таску злізне, трэці лізне — так з раба Івана бяльмо злізне.

### 847. Ад хваробы вачэй

Першым разам, добрым часам. Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай пакланюся. І прашу я твае вялікай міласьці, матка Прачыстая: ачысьці рабу божаму быстры вочкі, шоб яно ў вачах ня калола, ня парола, ня смаліла, ня паліла, ня шумела, ня гуло і галавы ня ламіла.

Другім разам, добрым часам папрашу я вялікага Юр'я. Ехаў святы Юры на сівым кані і вёў ён за сабою трох хартоў: первы хорт белы, другі хорт чорны, трэці хорт руды. І прашу я твае вялікія міласьці, святы Юры, вялікі Ягор'я, завялі сваім хартом ад раба божага бяльмо злізаць і сагнаць, і руду, і луну, і туман, із яго быстрых вачэй. Первы руды як лізнуў — руду злізаў; другі чорны як лізнуў — і луну і туман злізаў; трэці белы як лізнуў — бяльмо злізаў, сагнаў і сцёр, з яго быстрага вочка, на ніжнюю вейку слязою сыйшло і скацілася.

### 848. Ад хваробы вачэй

Госпадзі Божа, памажы да прыступі ў раба божага (імя) бяльмо шаптаці.

У нядзельку раненька сонейка не ўсходзіць. Сам Гасподзь Бог па небу ходзіць, за сабою тры кролікі водзіць: на сінём паязджае, белым паганяе, красным, харошым да з вачэй бяльмо зганяе. Амінь!

Другім разочкам, лепшым часочкам, скарэйшым, памачнейшым...

### 849. Ад бяльма, ад хваробы вачэй

Месяц — князь малады!
У цябе рог залаты.
Ты ў моры купаўся,
Ты нам спадабаўся.
Табе ясныя ночы,
А людзям ясныя вочы.
Табе на прыбытак,
А вачам на здароўе.
Па саду хаджу,
Купіны саджу,
Купіны зрываю,
Боль выганяю.
Птху, бяльмо, птху, бяльмо,
Каб цябе ніколі не было.

### 850. Ад хваробы вачэй

Маладзік малады, у цябе рог залаты, табе на сіяння, а мне на здароўя; табе цёмныя ночы, а мне светлыя вочы.

### 851. Ад парушынкі ў воку

Первым частковам Госпада Бога папрашу, святога чэснага дзянёчка — нядзелі. Бегла ваўчышча цераз масцішча, хвастом паматала, з етага Івана порах выймала.

### 852. Ад парушынкі ў воку

Ішоў Ісус Хрыстос цераз калінавы масток, нёс сухое трасцё. Трасцінка зламілася, і парушынка з вока выкацілася.

### 853. Ад парушынкі ў воку

Порах у вока, козы ў восець, ваўкі за казамі, порах за слязамі. Мой душок лёгенькі, згінь, балезь, скоранька.

### 854. «Як парушынка ў вока»

Госпадзі, прыступі, памажы запаруху шэптаць (імя), з ока вынімаць. Мядзведзь у проса, карова з проса, а запаруха з ока.

### 855. Ад парушынкі ў воку

Вока, вока, пабач у [моры], чы глыбока. У моры вадзе не стаяці, у крыніцы парушыне не буваці. З мора парушына выплывае за вадою, а мне з вока са слязою.

### 856. Ад ячменю на воку

Ячмень, ячмень,
На табе кукіш,
Што хочаш,
То і купіш.
Купі сабе тапарок,
Сячы ячмень папярок.

## 857. Ад ячменю на воку

Каб ячмень сышоў з вока, то калі хто запытае:

«Што гэта, ячмень?» або «У цябе ячмень?» — трэба сур'ёзна (без жартаў) адказаць:

— Лжэш, прароку, пшаніца на воку.

## 858. Ад ліхаманкі

Па первым вяснянка, а втарая лядзянка, а трэцця лістападніца, а чацвертая касцяніца, пятая квактухка, шостая начніца, сёмая смутніца! Аткацісь, адвалісь, ад грудзёў і ад бела цела, ад буйнай галавы! Ты дзеўкай ня шляйся, на мяня ня зірайся, я ў хаце ляжу, на вуголь гляжу. Как вуглю згарэць, так табе ў катле кіпець. Бягі, ня зірайся, назад ня вяртайся, ступай у пні, у калоды, у гнілое балота, там табе жыць, са мхоў ваду піць. Амінь.

## 859. Ад ліхаманкі

Стаіць дуб на сінім моры, а ў том дубу Ірода. Было ў яго дзевяць-сем дочак. Ішлі яны па сіняму мору і ўстрэцілі іх святыя атцы Ісак і Іакаў.

— А куда вы ідзеце, Ірадавы дочкі?

— Ідзем мы на Белую Русь белую косць крышыць, гарачую кроў ліць.

— Ідзіце вы лучша на сыр-бор, серае балота, крышыце курчаўе-пеняўе, непатрэбнае, і забудзьце дарогу на святую Русь.

Ірадавы дочкі дарогу забудуць, а ў раба божага (імя) павек трасца не будзіць.

## 860. Ад хінцюхі

Первым разам, божым часам.

Выйду за новыя вароты, пагляджу на сіняе мора. Сіняе мора, скалыхніся, вада, вазмуціся. З таго мора выходзяць дванаццаць дачарэй. Насустрач ім святы Бахмуці і спрашуя ў іх:

— Чые вы ёсць дочары?

— А мы ёсць дочары цара Ірада.

— А куды вы йдзяцё?

— А мы ідзём у праваслаўны мір к такому-та і такому-та (у каго малярэя, на імя назавуць) галаву ламіць, сэрца знабіць, кроў разжыгаць і цела халадаць.

— Даю я вам за гэта па дзвінаццаць ран, штоб вы не хадзілі к таму і таму.

Прасіліся ж яны ў яго:

— Святы Бахмуці, не давай жа нам па дзвінаццаць ран. Хто ету будзе малітву знаць, мы будам таго навекі вешныя аббягаць. Навекі вякоў амін.

## 861. Ад хінці, цёткі, варагушы, трасцы

Вотча... Да васкрэсне Бог... Памяні, Госпадзі, цара Давыда... Стань, Госпадзі, на помач, ангелі на радась.

На чорным моры, на белым камні стаіць каменны стоўб, у том стаўбе спасаліся ўгоднікі божыі — святы Сусой і святы Саксені. Увідзілі яны ў чорнам моры вазмушчэнную ваду; з вазмушчэнныя вады вышла дванаццаць жон, босыя і праставалосыя, беспаясыя. Угоднікі божыі спрасілі ў іх:

— Што вы за жоны, якога роду і куды ідзецё?

— Мы ёсь роду брата цара Ірада, ідзём у мір грэшных мучыць!

Угоднікі божыі вазмалілісь ку Госпаду. Услышыў Гасподзь малітвы ўгоднікаў, саслаў чатырох евангелістаў — Івана, Марка, Луку, Матвея, даша ім па пруту жалезнам, даша ім па трыдзесяць ран. Узмалілісь яны ку Госпаду, злыі трасавіцы:

— Не давайця нам ран, угоднікі божыі грозныі, мы ня будзем мучыць раба божага Івана бальнога да хтарога прышэствія!

— Даю хтарую казынь злым трасавіцам: будуць угоднікі божыі, святы Сусой і святы Саксені, жалезнымі грэбнямі драць і святыі ангелі, архангелі грозныі будуць громамі біць і вогненнымі мечамі галаву рубіць!

— Не дзярыця нас, угоднікі божыі, грэбнямі жалезнымі! І святыі ангелі, архангелі грозныі, Міхаіл і Гаўрыіл і Рахваіл, ня біця нас громамі, ня рубіця головы вогненным мечам: мы ня будзем мучыць раба божага Івана ва векі, амінь.

## 862. Ад хінці...

Памолімся Госпаду Богу і Духу Святому... Ты скора чалавеку памагаеш і дванаццаць трасцаў замаўляеш, і на мхі, на балоты ссылаеш. Вас дванаццаць трасц, вы Ірадавы дочкі, чаго вы ў яго сядзіцё, чаго вы на яго глядзіцё? Як пайду я ў лес, як высяку я алехавы дубец, як стану вас біць, як стану я вас сцябаць — будзя мне святы Мікола памагаць, каб вы па міру не хадзілі, касьцей не ламілі, хрысціяньскія крыві не смакталі.

## 863. Ад хінці...

Па вуліцы шырокай, па мураве зялёнай ішло дванаццаць дачок цара Ягіпецкага. Стрэў іх Міхаіла-архайла і спрасіў у іх:

— Куды йдзецё, дочы цара Ягіпецкага?

— Ідзем па гарадах, па дзярэўнях, народ пасушаці і кроў высысаці!

— Вярніцеся, дочы цара Ягіпецкага, ад раба божага (хворага), а то я вас жажлом і копіем грудзь вашу праб'ю, і народ ваш пракляну, ня токма сам сабою, ну й святымі кіяўськімі і пячэрськімі — Антоніям і Хвядосіям, і Аўрамам і Ісакам, амін.

## 864. Ад ліхаманкі

Усіх святых на помач папросім, і Міхаілу і архіілу, суддзю праведнага.

На полі, на кіяні стаіць дуб Ракітані; на том дубі дванаццаць какатоў, на тых на дванаццаці какатах дванаццаць Цяцюх (цётак, ліхаманак), яны зжадаліся, у раба божага сабіраліся. Вы, дванаццаць Цяцюх, выхадзіця з раба божага: вам у ём ня быць, вам з яго вон выхадзіць, з жыл, з пажыл, з гаручай крыві, з галавы і з ног. І хадзіця на сіяньскія лугі, там калінавыя кусты; вы там будзеця гуляць, і калінавыя кусты і зялёныя лугі вытрасаць, ну, вас аттудава ніхто ня будзець высылаць.

## 865. Ад хінцухі

На моры, на акеяне стаіць дуб на дванаццаць какатоў. На тых какатах дванаццаць пасцелей, на тых пасцелях дванаццаць дзевушак. Хішух — самая старшая. Хішух, Хішух, Хішухі, сунімай сваіх хішушак, не пускай іх голых, босых, проставалосых на ранніх зорах, на вячэрніх росах, на цёплых начах. Зоры не ўцяшалі, росы не ўспівалі, цёмныя ночы не пачывалі, у раба божага (імя) крыві не высасалі, буйныя галавы не круцілі, румянага ліца не сушылі, белых рук і ног не крышылі, шчырага серца не тамілі. Угаварую з буйных галоў, з румяных ліц, белага цела, з касцей, мазгоў, із жыл, жывата і гарачай крыві. Амінь.

### 866. Ад ліхаманкі («хінці, цёткі...»)

Ішоў святы Аўрам з сваім сынам Сакам, няслі яны залаты шост і стрэлі яны семдзесят сем жон, голых і босых і проставалосых.

— Куды ж вы, жоны, ідзеця?

— А ідом у хрысціяньскі мір, знабіць і трусіць і калаціць, косьць ламіць, сэрца крушыць.

— Святы Ісак, вазьмі ты залаты шост, пабі іх і пазнабі іх, патрусі іх і пакалаці іх, штоб іх плен павывяўсь.

— Святы Ісак, ня бі нас, ня знабі нас, ня трусі нас і ня калаці нас! А хто ету малітву будзя рання і вечара гаварыць, таго будзем да веку вешнага мінаць.

### 867. Ад хіндзі

Вас хіндзяў семдзесят сем. Прыйдзіце, я есці дам усем. Паю віном, гадую кіслым малаком, адпраўляю на векі вяком, загараджаю жалезным платом, б'ю драцяным кнутом. Б'ю, убіваю, дарогу паказваю. Няхай перастануць па сялах па людзях хадзіць. Вам па ніцых лозах хадзіць. На ніцыя лозы, на быстрыя воды, на крутыя горы. Дзе голасу не слыхаць, там вам, хіндзям, прападаць.

### 868. Ад ліхаманкі

Варагуша, атыйдзі ты, варагушка праклятая, ад такога-та чалавека,— ідзі ты, праклятая, ніізжанымі дарогамі, крывымі згародамі, на мхі, на балота, на скрыпучыя дзірыва.

### 869. Ад ліхаманкі

На святой гарэ,
На Сінаі,
Там стаяўшы
Дванаццаць апосталаў,
І кала іх шло
Дванаццаць сястрыц дзявіц.
Святэй Ісіман у іх
І спрашываець:
— Куда вы ідзеця?
Святэй жа ў іх

Спрашываець Маісей,
Святэй жа ў іх
Спрашываець Сіміон,
Святэй у іх
Спрашываець Кузьма —
І спрашываець у іх
Святэй Міхаіл,
І спрашываець у іх
Святэй Пётр,
І спрашываець у іх
Святэй Андрыян,
І спрашываець у іх
Святэй Кірык,
І спрашываець у іх
Усе дванаццаць Іваныў,
І ўсем яны
Атвяшчалі:
— Ідзем мы
У хрысціянску веру
Біць-калаціць.
К смерці вараціць,
Штоб он страдаў-скарбеў,
Да смерцію умір.
Усе апостылы
На іх узсірчаліся,
Узсірчаліся і сказалі:
— Еслі вы будзіця біць-калаціць
І не выступіця ў раба
З буйнэй галавы,
З рэцівага серца,
З чуткіх вушэй,
З нутра з жывата —
То, ісцінна, мы вам гаварым
(узялі яны дванаццаць зялезных дубін):
Паб'ём мы вас
Дванаццацью зялезнымі дубінамі,
Загонім вас
У махі і ў ва рэкі,
Гасподзь жа вас
Будзіць біць краменнім
І будзіць біць грамамі
І паліць маланьямі,
І сашлец за вамі Гасподзь

З неба на землю
Ветраў і віхраў:
— Ветры і віхры,
Сыйдзіця з неба на землю!..
Ветры і віхры
Попіл ваш разнясуць
І размятуць:
Ня будзіць вас на зямлі.
І прашу я нá помыч
Усех святых:
Уцішыця-сакраціця,
Ізбаўця раба
Ад дванаццаці сястрыц
І разных трысяніц!
Прашу я нá помыч
Святую зару-зарніцу,
Вячэрнюю Мар'ю,
Нашную Дар'ю,
Увутрэнную Мархву,
І прашу я на помыч
Цара Давыда, цара Касцянціна
І сына Саламона.
Вы ўкрацілі зямлю і ваду,
Ўкраціця рабу дванаццаць сястрыц,
Нутраных, кашчавых
І ўсякіх.
Амінь.

## 870. Ад ліхаманкі

Прэсвятая маці Бугуродзіца, пасабі ў маім нагаворы, аб чом цібе буду прасіць, буду маліць.

Памяні, Госпадзі, отча Аксенція ў царстві нябесным, сатвары яму, Госпадзі, царства нябеснае, светлы рай. Сакруціў ён (отча Аксенці) дванаццаць сясцёр у калодцы. Сакруці ад раба дванаццаць сясцёр ліхарадак: Арыну, Польку, Кацьку, Аўдоццю, Праскоўю, Дамнеку, Ампіаду, Хоўру, Марушку, Хрузку, Яўгешку, Фяклушку.

На ваду дух пусціш.

Пумяні, Госпадзі, отча Аўксенція, у царстві нябесным, саблюдзі яму светлы рай. Отча Аксенці, цябе прашу, цябе малю: вышлі ліхарадку па чэсці з касцей, з машчэй, з жыл і з суставаў, із буйнай галавы, із ясных вачэй. Выхадзіця вы ў пуховыя

пярыны к гаспадам: там вам чай, кахвяі і стулля мяхкая,— а то я буду прасіць отча Аксенція: заганіць вас у маха, у гнілыі балота гнілыя калоды гладаць. Нагаварылася вада на дванаццаць зор ад дванаццаці вас ліхарадак, ата ўсіх. Арына, большыя сястра, ты ўпрашывай усіх сваіх сясцёр.

### 871. Ад ліхаманкі

Асінка, асінка! Вазьмі маю трасцынку, аддай маё здароўя.

### 872. Ад урокаў («проці зглазу»)

Царыца-вадзіца, красная дзявіца, марская крыніца, божжа памачніца, і ўгодніца Ульяніца, і румяніца, рака вялікая. Коцішся ты, вадзіца, па дням, па начам, па вячэрнім зарам, ідзеш з-пад крутых гор, з-пад красных зор, з-пад жаркага сонца, з-пад яснага месяцу, з-пад Латыра-камню, (па) тонкім жылам, марскім сілам. Падмываіш ты крутыя берагі, жоўтыя пяскі, калоды валяныя, траву шаўковую, вымываіш сыроя карэння, белая камення; абмуваіш камішкі дробныя, крамення чорныя і жалеззя марскоя цяжкоя. Ачышчаіш цароў, каралёў і ўвесь народ хрысьціянські, абмый і сцалі рабу гэту нядужную ад першага вока аднавокага, і ад карага, і ад ярага, і ад белага, і ад шэрага, ад стрэчнага, ад пупярэчнага, ад падзіўнага і пасьмешнага, ад падумнага і пагляднага, ад прыгаворнага і набреднага, ад галоснага і ад злоснага, ад завіснага і ад радаснага, ад вадзянага і сухавейнага, і скразіцельнага, і скрозьплотнага, і сьветавога, і агнявога, і гаравога, і палявога; ці схода, ці маладзіка, ці пад поўная; ад часіны, ад хвіліны, і дзённага, і ночнага, і ранняга, і вячэрняга, і паўночнага, і паўдзённага, і радзімага, і насыланага, і падымнога, і сьветавога, і калючага, і балючага, і ламучага, і гаручага; ці панскага, ці цыганскага, ці дзякоўскага, ці жыдоўскага, ці мужчынскага пад вянцом, ці жаноцкага пад чапцом, ці хлапецкага пад шапачкай, ці дзявоцкага пад завіткай, ці ўдовіна, ці ўдаўцова, ці дзядова, ці бабіна, ці бацькіна, ці маткіна, ці братава, ці сястрына, ці рабячага, ці сабачага, ці дзядзькіна, ці цёткіна, ці ад старых старыкоў, ад старых старушак, ад ведзьмінскіх і чараўніцкіх і таго біззаконнага ўдовіна наваражджэнца, які два разы маць сасець; і на чым бы яны ні былі: на піцянні ці на ядзянні, на гулянні-красаванні ці на мяккім спачыванні.

Вадзіца-царыца, зямная і нябесная! Зара вячэрняя, зара вутраняя, сонца красная, месячык правядны, зорачкі частыя,

панядзелачак сьвяты, сьвятачкі сьвятыя, празнічкі гадавыя! Станьця, гаспадухначкі, на помач, сьвятыя анёлы, на радась, памажыця мне зглаз-урокі загаварыць! І выхадзіця вы, зглаз-урокі, з раба гэтага нядужнага, з буйнай галавы, з жоўтага мора, з белага ліца, з ясных вачэй, з чорных бравей, з слухавых вушэй, з баявых наздрэй, з рацівага сэрца, з сільнага жывата, з чорнай печані, з белага лёгкага, з гарачай крыві, з пальчыкаў, з сустаўчыкаў, з русых кос, з трыдзевяць касцей, з трыдзевяць жыл, з трыдзевяць пажылак, з ногцікаў, з локцікаў, з белых рук, з хрэбетнай касьці, з гаручых сьлёз. Ідзеця вы, зглаз-урокі, на імхі, на балоты, на топкія аржавання, на ніцыя лозы, на гнілыя калоды, на сухія лясы, на жоўтыя пяскі, на буйныя вятры, на неадчыняныя дзверы, на ніхрышчоную зямлю, дзе сонца ня грэіць, дзе вятры ня веюць, дзе пеўні ні спяваюць і гусі ні крычаць і сабакі ня брэшуць, і птушкі ні пяюць, і зьвярро ня бегаіць, і людзі ня ходзюць. Там вам курганы — пагуляны, там на белым камні стаяць сталы цясовыя, што на тых сталах абрусы белыя, на тых белых абрусах кубкі вінныя; там стаяць ложкі цясовыя, на тых ложках пярыны пуховыя; там у шэрых барох, у цёмных лясох ёсць прыгожая сенажаць, сярод той распрыгожай сенажаці стаіць куст ракітавы, пад кустом ракітавым сядзіць паненка — пірагі пякець і вас да сябе ў госьці клічыць, і піва наварыла і мёду насыціла.

Там вам гуляння-красавання, там вам адпачывання; там вам гуляць, вінныя кубкі выпіваць, на цясовых ложках аддыхаць; там вам быць, там вам жыць, там і раскашавацца. Тут жа вам ні хадзіць, касцей ні ламаць, шчырага сэрца ні знабіць, цела ні пушыць, ні калоць, ні пароць, ні гарэць, ні балець. Чур табе!

Вазьмі ты, вецер ціхі, вятровая ліха; дзе ты гуляў; дзе ты буяў, дзе ты рабу гэту балезную сустракаў, што ты ёй даў, каб назад адабраў.

Правялікі пан дамавы! Правялікі пан, лесавы — безымяньшчык! Правялікі пан, баравы — Сьцяпан! Правялікі пан, палявы — Антон! Правялікі пан, лугавы — Хвядос! Правялікая паня маці, малання-бліскуха! Прасіця вы сваіх сыноў, дванаццаць ціхіх вятроў, які нам шкоду зрабіў, адабраць вятровая ліха.

Чурайся, ліха, адракайся ад раба гэтага і ідзі вятровая на вецір, зямноя на зямлю, вадзяноя ў ваду, агнявоя ў вагонь. Амін!

## 873. Ад урокаў

Царыца-вадзіца, Кацярына, Марына, абмываеш ты крутыя берагі, жоўтыя пяскі, сырое карэння, шэрае камення — абмы-

вай і ачышчай рабы божыя, на чом яму ўроцы прэвасхадзілісь: у піцянні ці ў едзянні, ці на гулянні, ці на красаванні, ці на мяхкам спачыванні, ці ад ясных глаз, ці ад чорных броў, ці ад таго беззаконнага ўдовіччага нарождэнца. Будзьця вы, уроцы, маляні і лёганькі, як макавае зёрнушка, як паўлінае пёрушко; ляціця вы, уроцы, у чыстыя паля, у цёмныя ляса і ў шэры боры. А ў цёмных лясах і ў шэрых барах там ёсь раскрасівы луг; сярод раскрасівага луга стаіць ракітавы куст, пад ракітавым кустом сядзіць паненка, пірагі пячэць і вас у госьці завець. Там вам, уроцы, красавання, там вам, уроцам, спачывання — па касьцям уроцам не хадзіць і касьці уроцы не ламіць.

## 874. Ад уроку

Дванаццаць царэй і дванаццаць каралей, і цара Давыда ўпрашаю і ўмаляю. І там на моры, на лукамор'і злішныя панны гулялі і ўроцы вымывалі, ветравыя, вадзяныя, падумныя, паглядныя, пацешныя, пасмешныя, стрэшныя, папярэшныя; шэрае вока і чорнае вока, белы волас і чорны волас. І вадзіцацарыца, красная дзявіца, мыла горы, даліны, жоўтыя пяскі, умый, абмый і ў раба божага ўроцы; і тут ім ня быці, раба божага ня сушыці; на сінім моры там ім буваць і гуляць. І ўсі празьнічкі, божыя ўгодзьнічкі, памажыця мне ў карысьці, у радасьці, у добрым здароўю. Вячэрняя зара, палуношная зара і светавая зара ўвесь свет сакрашалі і Госпадам Богам памагалі.

## 875. Ад уроку

Госпадзі Божа, благаславі, Госпадзі Божа, памажы, і прасьці мне, рабу божжаму грэшнаму, і ўслыш маленіе маё, і пасабі рабу божжаму (хвораму).

Дабрыдзень табе, вадзіца-царыца, прэкрасная дзявіца, марськая крыніца! Ішла ты з-пад крутых гор, з-пад ясных зор, тонкімі жыламі, марськімі сіламі, падмывала ты крутыя берагі, мыла ты жоўтыя пяскі, умывала ты сырое карэння, белае камення, калоды валяныя, шоўкаву траву,— ну, прашу цябе, вадзіца-царыца, не сам сабою,— Прачыстаю святою, абмый жа ты ў раба божжага ўсю з яго балезь, калюшчую, і гарушчую, і ламушчую, і радзімую, і падзіўную, і папрышную, і ўрошную, і гарушчую, і прыгаворную, і ветравую, і мінутную, і часінную, і зарынную, і паўдзённую, і вячэрнюю, і паўношную; і ўмывай з усіх з яго з печаней, з лежаней, з раціва серца, з тонкіх белых

жыл, і з прыжылак, і з буйных суставаў і з палусуставаў, із буйныя галавы і русага воласу, громкага голасу, із ясных глаз, із гаручых слёз, із румянага ліца. Не сам жа сабою прасіў, вадзіца-царыца, а Прачыстаю святою. І стань, маць Прачыстая, на помач! І ўсёй етай балезі ў раба божжага бывыць па еты час, па еты раз і па мой прыгавор. І ідзі з раба божжага на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, ва векі вяком, амін.

## 876. Ад уроку

Госпадзі Божа, благаславі, маць Прачыстая, памажы, дай жа нам, Божа, добры час.

Рэчка Чарналутка! Адкуль ты цякла: з усходу на захад, із-пад лунных зор, з-пад жаркага сонца і з-пад яснага месіка,— што ты вымывала крутыя берагі, жоўтыя пяскі, сырое карэння, белае камення, чорнае крэмення. І вымывай жа ты з раба божыя ўроцы перважэнскія, другажэнскія і трыжэнскія, і дзявоцкія і рабяцкія, і падзіўныя і падумныя; вымывай жа ты з буйныя галавы, із жоўтага мозку, з рацівага сэрца, з трыдзевяць касьцей, з трыдзевяць пáкостак, з трыдзевяць жыл і з трыдзевяць пáжылак, і з гаручыя крыві, з цёплага мяса, з белага жывата, із руса воласа, із румяна ліца. Вымывай жа ты на Чарналутку-раку, а Чарналутка-рака ў Бесядзь-Аксюту, а Бесядзь-Аксюта ў Сож-Максім, а Сож-Максім у Непр, а Непр у мора, а мора ў кіян-мора. На кіяні-моры там жа вам, уроцы, караваць цясовая і пярыны пуховыя, і падушкі цвілёвыя: і польна вам у рабе божым красавацца,— там вам красавання, прэбывання, і там вам Каліна піва наварыла і мёду насыціла, амін.

## 877. Ад урокаў

О Госпадзі Божа, багаславі, Госпадзі Божа, памажы. Госпаду Богу памалюся і Прачыстай матцы прэкланюся. Прачыстая маць прыступая і ад прытчы помачы давая.

Ты ж царыца-вадзіца, прэкрасная дзявіца, божжая памошніца, вадзіца-вастошніца, усяму свету памошніца. Выцекала ты з сіняга мора, узнімалась са мхоў, з балатоў, з-пад крутых берагоў, размывала ты жоўтыя пяскі, абмывала сырое карэння, белае камення, чорнае крэмення. Абмый раба божага прытча і шпадча, музьское і жэньскае, хлапеччая і дзявоччая, і паньскае, і цыганьскае, і жыдоўськае; і ветраное, і нутраное, і намоўнае і нагаворнае, і падумнае, і пагаднае, і ад усякіх ад выпляткаў чарадзейнікаў. І я выгаварую, вымаўляю ў раба божага із буй-

ныя галавы, із ясных вачэй, із чарных бравей, із рацівога сэрца, із сілнага жывата, із кашчэй, із машчэй, із жыл, із пажыл, і з воласу, і з голасу. І выгаварую-вымаўляю, на рэкі на сутокі ссылаю. На рэках, на сутоках ляжыць белы камянь; на тым белым камяні стаяць сталы чэсавыя, што на тых сталах скацерсці бялыя, паналіваны кубкі вінныя, там стаяць карваці чэсавыя, на тых карвацях падушкі пухавыя. Там табе, прытча, гуляць, жоўты пяскі вымуваць, за сталом сядзець, вінныя чары сапіваць і на чэсавых карвацях у пуховых падушках аддыхаць, а ў раба божага ня бываць.

## 878. Ад уроку

Стань, Госпадзі, на помач, прэсвятая Бугуродзіца, янгалы, на радась.

Вадзіца-царыца, красная дзявіца, прашчаніца, прасці раба Грышку! Загаварую я ўроцы і прароцы, стрэшныя і папярэшныя, завісныя і радасныя, жаноцкія і дзявоцкія і дзяцюцкія, шэрае вока, краснае вока, чорнае вока, белазорае вока і ўсякае вока, і ўсякага часу і ўсякай гадзіны. Ідзіця вы, уроцы, на мхі, на балоты, на гнілыя калоды: там вам гуляння, красавання, цясовыя вароты, пуховыя пярыны, а рабу Грышку на добрае здароўе. Ты, вадзіца-царыца, абмывала крутыя беражкі і жоўтыя пяскі, шэрае камення і белае карэння,— абмый раба Грышку. Табе на сінім моры слава, ва ймя ’тца і Сына і Святога Духа, амін.

## 879. Ад урокаў

Царыца-вадзіца, красная дзявіца, кацілася, валілася з Іардана-ракі, амывала, абчышчала круты берага, бела карэнье, шэрае каменье, амый, абчысьці раба (імя) ад буйной галавы, ад ясных воч, ад русых кос, ад румяна ліца, ад рэціва сэрца, ад храбтовай касьці, ад срэнней часьці, ад жыл, ад пажыл, ад суставаў; урокі і парокі, і завісныя і радасныя, і спераду сустракая, і з боку заглядая, ззаду наганяя, і старыя старыкі і маладыя малодушкі, і дзеўкін сын, і дзеўкіна доч, прасьціця, благаславіця раба (імя). Я вас пасылаю, гдзе сонца ня свеціць і месяц ня блеснець, у мхі, балота, гнілыя калоды, не сама сабой — гасподней магутой, Сусам Хрыстом, мацер’ю Прачыстай. Амінь.

## 880. Ад уроку

Царыца-вадзіца, красная дзявіца, самацветніца і ўгодніца, і хадзіла і гуляла, рыдысь-брыдысь абмывала, круты берагі абрывала, жоўты пяскі прынасіла, бела камення, сыро карэння. Абмывала царэй, каралей і ўвесь народ хрысціяньскі,— абмый раба божага (імя). Угаваруюя яго ўроцы, стрэшныя і папярэшныя, падзіўныя і пасмешныя, жэньскі і мужскей і дзявоцкіі ліхеі. І ссылаю, і здымаю ўсю печ яго — не сам сабою, Госпадам Богам.

## 881. Ад уроку

Вадзіца-царыца, красная дзявіца, божжа памашніца, марськая пажарніца, вымываеш з мора белыя камушкі, жоўтыя пяскі і крутыя беражкі, і палку, і царубалку, і зялёную траўку, увесь белы свет абмываеш. Абмый раба божжага чалавека з уроцы рабяччай, дзявоччай, і музькія, і жэнськія, із руса воласа, із бумажнага цела. Відчыку-завідчыку соль яму ў вочы, траскучае палена ў калена, нож яму пад бок, па сей час, па мой прыгавор, па ету секунду.

## 882. Ад уроку

Вотча... Вадзіца-царыца, ішла ж ты лугамі і крутымі берагамі, жоўтымі пяскамі, шаўковую траву падымала і руду абмывала. Там Прачыстая Божжая мацер рукі мыла; я ваду браў і рабу божжаму помач даваў.

## 883. Ад уроку

Святы Міхайла-арханел, нябесных сіл ваявода, стань да помачы! Не сам я сабой — гасподней помаччу, нябеснай калясніцы. Воін Змітры, вада Кацярына, вадзіца-царыца, ачышчэнніца, абмый, ачысьці круты берагі, жоўтыя пяскі, белы камення, сыро карэння, ачысьці раба божага ад языка ўрошнага, ад папярошнага, ад галоснага і ад залоснага. Ты гад-чарадзей, ты нявeрны ліхадзей, ты не ўракай і не ўцякай, ты пі яго моч і еж яго кал, амін.

## 884. Ад урокаў

Як гэта матушка-вадзіца бяжала без пятна, без поваратна і ўмывала крутыя берага, так штобы ва ў рабы божай Ірыны не было ні злых урокаў, ні агавораў, ні перагавораў ні ў белым целе, ні ў цёмным, ні ў светлых бравях, ні ў касцях. Амінь!

## 885. Ад уроку

Першым разам, божым часам, ранішняю (або вячэрняю) зарой, гасподняю парой.

Цякла рэчка сы вастока з-пад жаркага сонца. Яна цякла ракамі-берагамі, белае карэнне вымывала, у (імя) урокі-ўлёкі вымала, і кашэччы і мышэччы, хлапяччыя, рабяччыя, дзявоччыя, парабочыя, мужчынськія і бабськія, бацькавы і маткіны. Угаварaю я цябе ў (імя) із буйнае галавы, з гарачае крыві, із рацівога сэрца, з белага ліца, з чорных броў, і з жыл і з па́жыл, і з касцей да з машчэй, да з сухіх печаней, да з ясных вачэй. Угаварую я цябе з сухіх печаней да з ясных вачэй, і з буйнае галавы і румянае крыві, з рацівога сэрца, з белага ліца, з чорных броў, у раба божае (імя) не быць, па касцях не хадзіць, касцей не ламіць, сэрца не знабіць, гаручае крыві не паліць. Тут табе не быць і не стаяць, раба божае (імя) на помач даць.

Не маімі думамі, гасподнімі славамі. Прылюбі, Госпадзі, мой дух — ху-у!

## 886. Ад нарадкі

Святы Госпадзі Божа, багаславі на ўсе чатыры стораны.

Добры дзень, вадзіца-царыца, марськая ключавіца! Вуходзіла вада з крутога берага, із сіняга мора, із жоўтага камення і сырога карэння, із-пад лотры-каменя. Тый камень разгарэўся, са дна і да неба вална паднілася. Яны ўцякалі, убягалі, ліцо яго ня вазрылі. І на гарэ на Сіяні, на моры на кіяні стаіць прастол; за тым прастолам Яхімій, Пахомій і Ціхан прэпадобны. Адкуль узяўся святы Юрый-Ягорый храбры на белым кані і з залатым кап'ём, войстраю меч'ю. Яны прастол заберагалі, напіткі вапівалі і валну сакрушалі. І адгаварую я не сам сабою — ранняю, вячэрняю зарою ад прытчы і ад попрытчы, ад мужніх і ад жэнніх, ад жалосных, ад радасных, дзянныя, палудзенныя, нашныя, палунашныя, ці само найдзена, ці ветрам напушчана.

Святы Госпадзі Божа, благаславі на ўсе на чатыры стораны!

Тры цары грозныя, а тры браты родныя: адзін палявы, а другей дамавы, а трэцці лесавы,— вокрапілі зямлю, вокрапіця раба божага, русага воласа. Сус Хрыстос, маць Прачыстая, станьця на помач!

## 887. Ад уроку

Дзевяць скопаў, дзевяць урокаў, дзевяць накіданых, дзевяць прымоўленых і дзевяць прыгаворных.

На сінім моры кажухі знімаю, злога духа пабіваю і выганяю з касцей, з машчэй, з жывата, з сэрца, з рук, з печаней.

## 888. Ад уроку

Выходзіць раб божы Хведар у чыстае поля, на крутыя горы, пад ясныя зоры, агаражуецца чыстым ясным сонцам, светлым месяцам, частымі зарамі, божымі славамі,— ад первага-перваглазага, ад шэрага-шэраглазага, ад чорнага-чорнаглазага, ад белага-белаглазага, ад каўтуна-каўтунаватага, ад ведзьмака, ад чаруўніка, ад стрэшнага, ад смешнага, ад падумнага, ад пагляднага. Ісцалі мяне, Госпадзі, ад усіх злых прыгавор.

## 889. Ад уроку

Жарка сонца, ясны месяц, тры зарыцы — родны сястрыцы: вутрання зара, паўдзенная зара і вячэрняя; вада Ярданіца, твая матка валняніца, ішла ты цёмнымі лясамі, зялёнымі лугамі, крутымі берагамі, каменням, карэнням, памажы рабу божаму ад урочышч.

## 890. Ад уроку

Спамяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротась яго, усіх царыкаў польскіх, лесавых, земськіх, вадзяных, дамавых, Трахім'я. Упрашаю я і ўмаляю, з раба божага выгаварую з уроцы, з прытчы, з прыгавору. Выгаварую, высылаю на сухія лясы не сам сабою — атцоўськаю малітваю савяршэнею, сатварэнею. І ўпрашаю я ўсіх царыкаў: цар сонца на небі, цар месік на дубі, цар камынь на моры; сіне мора царыца, зара-зарыца, красная дзявіца, па сінім моры бегала і ліцо сваё ўмувала і рабу божаму помачы давала. Дай Божа паляхчэнія ня 'т мяне, ад Госпада Бога. Спамяні, Госпадзі, усе празьнічкі, апосталы — Вялікадня, Ушэсьця, Дух-Тройца. Хух, прылюбі мой дух.

### 891. Ад уроку («прыгавору»)

Зоры-зараніцы, господні памашніцы, памагалі Богу, памажыце й мне. Лятали й прыгаворы атнімалі: хлапоцкія, дзявоцкія, надуманыя і падзіваныя.

### 892. Ад уроку

Первым разам, божжым часам. Госпаду Богу памалюсь, Прачыстай матцы пакланюсь і ўсім святым нябесным апосталам, кіяўскім і пячэрскім, сонцу краснаму, месячку яснаму. Было ў месячкі тры братцы: адзін зоры спатухая, другі свет адсвятая, трэці ўрокі сунімая з раба божжага, з буйныя галавы, з рацівага серца, з русых кос, з жоўтых касьцей, з ясных вачэй, з белага ліца. Дух на цябе, усё ліха з цябе!

### 893. Ад уроку

Выйду ў чыста поле, зірну на сіня мора. На сінім моры дуб зялёны. Што пад тым дубам стаяць тры брацы з тапарамі. Канцы зсякаюць, корні зсякаюць, пасля таго ўрокі аднімаюць: белабокія, чарнавокія, серавокія, сінявокія, урочныя, падзіўныя, пасмешныя, ветраныя, вадзяныя, сухотныя.

Не я лячу — Кузьма, не мой дух — божы. Маць Прачыстая, на помач.

### 894. Ад урокаў, помыслаў

Буду бога прасіці, урокі гаварыці. Ад польскіх вачэй, ад руськіх вачэй, ад жэньскага стану, ад мужыцкага стану.

Мыз трыма дарогамі стаяла гаспода, каля тэй гасподы тры святыя — Пятро і Паўла і Юда. Паўлавы рукавіцы, Пятровы нагавіцы, Юды ўрокі і замыслы, помыслы; ганіце, занясіце ў цэласці на быстрыя рэкі, утапіце ўрокі, помыслы навекі.

### 895. Ад урокаў

Першым разам, божым часам, Госпада Бога й умаляючы, святых угоднікаў божых упрашаючы. Святыя ўгоднікі божыя, прыходзьце мне на помач рабе божай Марыі ўрокі выгаворваць.

У Кіеве ў капліцы там гулялі тры дзявіцы. Яны пілі, гулялі, яблычкі падшыбалі, рабе божай Марыі ўрокі забіралі, калючыя і балючыя, падумныя, падзіўныя, пагаданыя, пастрэшныя,

пасмешныя, дзявоцкія, хлапецкія, парабоцкія. Гэтым урокам не стаяць, не хадзіць, касцей не ламіць.

Выгаворваю ўрокі Марыі з кашчэй, з машчэй, з румянага ліца, з буйнай галавы, з гарачай крыві, з жоўтай касці, з сямідзесят жылак, з сарака суставаў. Амін.

### 896. Ад уроку

На моры-лукамор'і стаіць сасна, пад той сасной сідзяць тры вазлішных пані: адна шаўковую хусту вышывая, другая золатам падымая, а трэцяя ні ткаха, ні праха, толькі тая ўрокі адбірая — падзіўныя, прыгаворныя, жаноцкія, парабоцкія, з жыл, з пажыл і з суставаў. Я з словам, а прэсвятая Бугуродзіца на помач.

### 897. Ад урокаў

У чыстым полі цэркаўка стаіць, у цэркаўцы прыстол стаіць, за прыстолам тры паненкі сідзіць. Адна кніжачку чытае, другая 'бруса вышывае, трэця падумы замаўляе. Куды яна іх замаўляе? Гдзе сонейка западае. Западзіце, падумы, за хмарку, чы за снегавую, чы за градавую, чы за даждзевую, чы за палявую. Чы вы із падумленя, чы вы із памышленя, чы вы із крывошч, чы вы із радошч, чы вы з очу, чы вы серых, чы із чорных ачэй, із чырвонай крыве, белых касцей, сініх жыл, із румянага ліца. І сама гавару і Госпада Бога прасю. Госпадзі, прыступі, памажы.

### 898. Ад уроку

Первым разам, божым часам. Госпаду Богу памалюся, мамцы Прачыстай прыкланюся. Вячэрняй зарою, господняй парою, святы Юрай-Ягорай, святая матка Багародзіца.

На моры, на акіяне стаіць дуб, пад тым дубам тры дзявіцы. То ж не дзявіцы — родныя сястрыцы. Адна шыла, другая пашывала, а трэцяя ўрокі, улёкі, спугі, пярэпалахі вымала. Кашэччыя, мышэччыя, сабаччыя, рабяччыя, бацькавы, маткавы, урошныя, улёшныя, прыгаворныя, прыдумныя, прыгадныя, ветраныя, вадзяныя, калючыя, балючыя, ламучыя, свярбучыя, ліхучыя ўгавараваю з касцей, з машчэй, з ярых вачэй, з чорных броў, з румянага ліца, з рацівога сэрца. Па касцях не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не знабіць, гаручыя крыві не паліць, злую несці не сцягаць і рабе божае Вулляне на пользу даць.

### 899. Ад уроку

Хадзілі-гулялі ўрокі-прарокі па чыстаму полю, па сіняму мору. На сінім моры белы камянь, з-пад белага камня выйшлі тры дзявіцы, тры сястрыцы, яны разнасілі ўрокі-прарокі, шэры глаз, зялёны глаз, чорны глаз. Я, раба божая, тыя ўрокі-прарокі адгаварую і ссылаю на мхі, на балоты. Калі святая Багародзіца паможэць, і я памагу.

### 900. Ад урокаў («суроцы»)

На сінім морушку,
На белым камушку
Сядзелі тры бабушкі.
Шылі, вышывалі
І ад суроцы помачы давалі.

### 901. Ад нарадкі

Госпаду Богу памалюся, Прычыстай матцы пакланюся, устаньце (імя) на помач.

Устану я рана-раненька, умыюсь я бела-бяленька, выйду за новыя вароты, гляну ў чыстае поле і бачу дом новы, будовы. У ім тры юнашы, яны дзелаюць, аддзялаюць і к сабе трох старыкоў жыць прыглашаюць:

— Прыходзьце к нам жыць, вы нічога не будзеце рабіць. Первы будзе пісаць, а другі — чытаць, а трэці з (імя) нарадку выбіраць, з касцей, з машчэй, з ясных вачэй, з печаней, з буйной галавы, з гаручай крыві, з рацівага сэрца, з жыл і пажыл, са ўсіх суставаў. Ідзі, нарадка, у балота, там табе качацца, валяцца, а к (імя) не вазврашчацца ні маладзіком і ні навекі вякоў. Амінь.

### 902. Ад спугу, уроку, ад падучай хваробы (нязбытніка)

Госпаду Богу памалюся, мацеры Прачыстай гасподняй пакланюся. Першым разам, гасподнім часам, ранішняй зарою, добрай парою.

У чыстым полі там стаялі тры каморы. У тых каморах па тры караваці. На тых каравацях па тры дзявіцы. Яны не шыюць, не прадуць, пяскі перасыпаюць, воды пераліваюць, злёкі, урокі, нязбытнікі ўгавараюць з буйнай галавы, з белага цела, з ружовага мяса, з сініх жыл. Тут табе не бываць, касці не ламаць, цела не пушыць, сініх жыл не сушыць, рацівага сэрца не ташніць. Ляціце вы на ніцыя лозы. Там столікі засціланыя, стаканчыкі наліваныя. Там п'юць і гуляюць, там вас ажыдаюць, там вам і піць і гуляць. Я з духам, словам, а Гасподзь на помач.

## 903. Ад урокаў

Госпаду Богу памалюся і святой Прачыстай пакланюся, і стань, Госпадзі, на помач. І ад Госпада Бога помач і вячэрней зарой і добрай парой.

І на сінім моры там белы камянь, на том камяні там сядзіць тры ангалы, і ангалы нашы храніцелі. І ня ўмеюць ні шыць, ні бяліць, толькі ўмеюць урокі адагнаць: і мужскія і жаноцкія, і дзявоцкія і парабоцкія, і падумныя, і пагадныя, і прастудныя і ветраныя. І святы Мікола, раба божага ізбаўляй. Тут жа вам, урокі, не хадзіць і касьцей не ламіць, шчырага сэрца не знабіць. Выганяю ж я з буйныя галавы, з шчырага сэрца. І святы Ягорай, адамкні сваімі златымі ключамі вароты, адкрый сваю залатую рызу, прыбаўляй гасподнію расіцу. І вадзіца-царыца, змываеш жа ты лясы, балоты, жоўтыя пяскі, змый раба божага ад усякага зла. Стань, Гасподзь, на помач і святая маць Прачыстая, і святы Ягорай, закрый залатой сваёй рызай, замкні сваімі ключамі ад суха зла. З маім словам, а з божай помаччу. Пашлі Бог на помач!

## 904. Ад урокаў

Госпаду Богу памалюся, Божай мацеры пакланюся. Прыступі ўрокі (імя) шаптаці, урокі-ўрочніцы, урокі-прыстрэчніцы. Вы з вады, вы з хады.

Юрэй едзе на кане вараном, на сядле залатом. Вон каня сядлае, каня прымаўляе:

— То ты, конь вараны, я — кучар малады. Я ж цябе пакалзаю, я да (імя) пад'язджаю, у ёго ўрокі-ўрочніцы, рабочыя і прыстрэчныя, адганяю.

То ў месяца Радзівона було тры дзевіцы, усе тры сястрыцы. Воны хадзілі па садочку, а сеялі на калінавам масточку, Ісусу Хрысту змывалі сарочку. Ісусу Хрысту сарочку шылі, а (імя) урокі гаварылі. То вы, урокі, ад (імя) мінецеся, вы на ражне скалецеся, вы на касе зарэжцеся, у бустрой рэчцэ ўтапецеся, ад (імя) адкаснецеся. Божэ, памажы, Божэ, памажы, Божэ, памажы!

## 905. Ад уроку

На сінім моры, велікаморы ляжыць белы камень, белы камень Лагір. На тым камні сядзіць маць Прачыстая, дзяржыць Ісуса Хрыста ў паркалі, вымывае халоднай вадой. Прыйшло к ёй

трыдзевяць дзевякоў-чараўнікоў, трыдзевяць дзявіц-чараўніц. Я іх не баюся, сонцам асвячуся, звёздамі абгараджуся, зялезным тынам затынюся, царскімі варотамі зачынюся, залатымі замкамі замкнуся, камнямі закачуся. Як гэтага камня не ўгрызнуць, не ўлізнуць, так у раба божага (імя) падзіва-ўрока не ідуць. Атныне да веку, да суднага дня.

## 906. Ад уроку

Дзвенаццаць урокаў, дзвенаццаць рокаў, дзвенаццаць прыстрэкаў, дзвенаццаць прыгавораў.

У полі стаіць дуб, пад тым дубам гадзюка шчакоча, рагоча, траву з'ядае, із (імя) урокі знімае — думаны, пагаданы, пацешны, пасмешны, умоўны, прыгаворны, жаноцкі, хлапоцкі, панскі, цыганскі, каціны, мышыны, сабачы. Урок і спуд, тут табе не хадзіць, сэрца не знабіць. Ухадзі на мха, на балата, дзе пташкі не шчабечуць, сабакі не брэшуць. Там табе піць-гуляць, ніцыя лозы ламаць, у чалавека не стаяць (ці ў жанчыны) і касці пары ні ламаць. Ідзі на мха, на балата. Там табе піць-гуляць. Я з словам, а Бог з помаччу. Не я гавару — Гасподзь, не мая сіла — господня, не мой дух, а гасподні.

## 907. Ад уроку

У кіяні, на лукамор'і ляжыць камень ад цара Давыда, ад Евы, ад Адама, ад Кузьмы-Дземяна, срэбраніка; на том камні дзве змяіных панны: панна Мар'я, панна Магдалена — у краскі іграюць, ліцы-ўроцы адганяюць.

## 908. Ад урокаў («ад суроцы»)

На белым моры белы камень ляжыць; на том камні дзве бабкі жывуць, яны не шыюць, не вышываюць, ад суроцы помачы даваюць. Дай Божа на помач (такому-та).

## 909. Ад уроку

На сінім моры стаіць прыстол, на прыстолі панна сядзіць, шаўкі вышываець, усім людзём помачы даваець ад прытчы, ад прыгавору, ад стрэшных, ад падзіўных, жэньскіх, дзявоцкіх, ад удоў і ўдовіных дзяцей. Святы Міхаіл прыступаець, агняным мечам адсякаець, ангальскім крыллем адмятаець.

## 910. Ад уроку

Першым разком, добрым часком прыступі, Божа, памажы, Божа. Там на моры, на камені хатка стаіць, у той хатцы дзеўка стаіць, русата, валасата. Яна не ўмела ні шыці, ні прасці, ні вышываці, адно ўмела Іванавы ўрокі выгавараць — панскія, цыганскія, кашачыя, падзіў, птушачыя, падумленыя, памышленыя, ветраныя, дзіўляныя, хлапоцкія, дзявоцкія, парабоцкія, жаночыя, мужчынскія, і папоўскія, і жыдоўскія. Сабакі разбрэшуць, сарокі расшчабечуць, зайцы раскугечуць, воўкі развыюць, людзі разгаворацца. Табе, Сонька, спаць весяленька, а Іваньку на здаровенька.

## 911. Ад сурочання

На моры камень ляжыць, на камені хатка стаіць, там дзевачка жыве, не ўмее ні пісаць, ні чытаць, толькі ўрокі выгавараць — кашэчае, хлапечае, пташэчае, сабачае, цялячае, мужчынскае, жаночае, дзявочае. Ідзіце, урокі, з хаты пылам, з печы дымам на сухія лясы, на быстрыя рэкі, дзе сонейка не грэе, дзе ветрык не вее. Ідзіце туды, там вам будзе дабро і харашо.

## 912. Ад урокаў

Лячу з уроку, з прыгавору, з падзіву, з напраснага слова, першым разам, добрым часам.

У канцы сяла стаяла вярба, пад той вярбой сядзела ўдава, нічога не рабляла, урокі, прыгаворы, падзівы, падумы збірала — ранныя, познія, снядашнія, палудныя, вячэрнія, мужчыскія, жаноцкія, хлапоцкія, каціныя, дзяціныя, удавіныя, удаўцовыя, на сіне мора адсылала. На сінім моры пілі-гулялі, там урокаў патрабавалі. Маню кідай ды туды спяшай.

## 913. Ад падзіву («прыдзіву»)

Пад белай бярозай сядзела дзеўка. Не ўмела ні прасці, ні ткаці, а толькі Тані прыдзіў шаптаці.

## 914. Ад прымаўкі

Святы Госпадзі, праведны, Ісус Хрыстос нябесны і зоры зарыцкія, і божыя памачніцкі, і святая матка Прычыстачка гасподняга Бога, прыступіце, памажыце ўпрасіць і ўмаліць дванац-

цаць прымаўкі і ўгаварыць, адкуль яны ўзяліся: ці ветраныя, ці віхравыя, ці ўрочныя, ці ўлечныя, ці падуманыя, ці пакідоныя, ці памаўлёныя, ці пагавораныя, ці страча́ныя, ці насланыя? Прашу я вас усіх: выступіце з сляду, з печаней, з касцей, з вачэй, ад белае касці, ад чырвонае крыві, ад русых косак, ад чорных вочак. І прашу я Госпада Бога, ідзіце вы на сіняе мора. На сінім моры стаіць дуб зялёны, пад тым дубам дванаццаць панове гуляюць. Стаяць столікі засціланыя, кубачкі наліваныя, там вам піці, гуляці, а гэтаму чалавеку здароўечка даці. На лёгкае спанне, на смачнае ўжыванне, па беламу свету хадзіці і з добрымі людзьмі гаварыці.

Як чорнаю кароваю па мору не араці, чорным катом не баранаваці, жоўтым пяском не сеяці, у жоўтым пяску каласку не биваці, так ліхім людзям яго здароўечка не ўцінаці. Ісус Хрыстос васкрос, каб (імя) здароўе васкрасло.

## 915. Ад уроку

Слышная панна наша, Настася Прыкрася, іна наша заступніца і памошніца, заступі і забарані сваім духам. Слышная панна, скорая вышываньіца, Настася Прыкрася. Іна не хацела жыць ні ў гарадах ні ў царквах, а захацела жыць на сінім моры. На сінім моры ёсь выспа, на той выспі стаіць дуб, на тым дубу двананцаць сукоў, на тых двананцаць сукоў па двананцаць гняздзён, там разныя пташкі райскія песні пяюць, слышную панну Настасю Прыкрасю ўзвелічаюць. Слышная панна, Настася Прыкрася, іна хадзіла па свету, іна давала людзём і скатом помачы. Пашлі ж ты, Госпадзі, Прачыстая матухна, сваім духам на помач. Угаварую ад суроцаў і ўмаўляю ад музькіх і ад жэньскіх, ад рэбяччых, дзявоччых, ад паньскіх, папоўськіх, дзякоўськіх, цыганьскіх. Пашлі, Госпадзі, сваім духам і садмі ету балезь ад суроцы; дуні ж ты ету балезь сваімі зарамі — вячэрнімі зарамі, палуношнымі зарамі, светавымі зарамі.

## 916. Ад уроку

Прашу Госпада Бога, памажы, ранняй зарой, божай дзявіцай. Памагаеш люддзям, памажы і нам.

Што на сінім моры стаяў дуб зялёны. На тым дубе дванаццаць сукоў, дванаццаць кокатаў, дванаццаць дзевак. Яны шылі, вышывалі, яны самі ўрок размаўлялі, урок прыстрэчны, урок прыгаворны, урок прыдумчывы, урок удавіны, урок удаўцоў. Святы панядзелак, дай Божа на помач.

## 917. Ад урокаў

Госпаду Богу памолімся, Прычыстай мамке паклонімся, я з словам, Бог з помаччу. Зоры-заранічкі, Богу памачнічкі, памагалі Богу, памажыце і нам прыстрэкі ўгавараці, умаўляці з белай касці, з румянага цела (імя), прыстрэкі мужчынскія, жаночыя, хлапоцкія, дзявоцкія. Мужчынскія пад шапкаю, жаночыя пад чапцом, хлапоцкія пад шапкаю, дзявоцкія пад скіндачкаю. Ідзіце вы на сіне мора. На сінім моры камень, на том камені дзевяць какатоў і дзевяць братоў, і хто іх іме, таго душку выме. Я звёздамі ўшпулюся, за горку дакачуся, нікога не баюся, ні схода, ні пад поўна, ні маладзіком, ні вавек·вяком. Любі мяне, любі мой дух.

## 918. Ад уроку

Першым разам, гасподнім часам. Ішоў Бог Ісус Хрыстос чараз калінавы мост, залатой трасцінай папіраўся. Прыйшлі к сіняму мору; ля сіняга мора стаіць дуб на двананцаць какатоў, пад тым дубам двананцаць буслоў грала, з Іванькі ўрокі, прыгаворы сымала: і дзедавы і бабіны, і бацькавы і маткіны, і дзядзькавы і цёткіны, і хлапоцкія і дзявоцкія, парабоцкія, і дзіўныя, падзіўныя, пагаворныя, пасмешныя, пацешныя, із жыл, із пажыл, із буйныя касьці, із гаручыя крыві, із буйной галавы — раба божага Іванькі.

## 919. Ад уроку

Памяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротась яго і вялікую памяць яго. Судзяржаў цар Давыд ваду і зямлю і нашы грэшныя душы, судзяржай раба божага ўроцы.

Здрастуй, вадзіца-царыца, красная дзявіца, рака (такаято). Каціласяя вадзіца па дням, па начам і вячэрнім зарам, змывала вадзіца белае камення, серае карэння, змый жа, вадзіца, уроцы рабу Івану з жыл, з пажылак, з касьцей, з мазжэй, з буйныя галавы, з ясных воч.

На сінім моры, на лукамор'і, на востраві стаіць дуб без суччкоў, без ражкоў, без вярхушкі, без макушкі. На том дубу сядзіць ястраб без какцей, без накцей і войстрага носа і быйстрага крылля. І як у етага ястраба няма ні какцей, ні накцей, ні носа, ні крылля, каб так у раба Івана ўроцы не було. А няхай уроцы хуваюцца на мхі, на балоты і ў гнілэя калоды. Там ім гулянняс-буяння, а раба Йвана не чапаць.

### 920. Ад урокаў («Стацце»)

Прыляцеў ворлік у сініх чабоцях, сеў на жалезных вароцях. Як ворліку вароцяў не ламаць, так рабу Івану прыгавору не бываць.

Ішло тры браццяў у чыстыя бары пяскі капаць, так рабу божаму прыгавору не бываць. Як чорнаму бычку-трацячку карову не сысаць, так рабу божаму Івану прыгавору не бываць.

### 921. Ад уроку

Госпаду Богу памолімся, Прачыстай маці паклонімся. І маць Прачыстая, стань жа ты на помач, і выгаварыць етыя суроцы, і музьскія і жэньскія.

За гарамі і за палямі ляжыць белы камень; на том камені сядзіць белы лебедзь бяз крылля і бяз пер'я. Яе етаму лебедзю дзяцей не вадзіць, так етым суроцам тут ня быць. Загаварую і замаўляю пяць вок: адно карае, другое ярае, трэцця шэрае, чацьвертае белае, пятае дзявоччае — сына Максіма.

### 922. Ад урокаў («Стацце»)

Я ж з таго свету Агапачку ўспамінаю, усякае стацце загавараю. Прыступі, Госпадзі, дапамажы. Усе святыя, малыя, старыя, хлеб-соль васпрымайце і з Валяччынай душачкі і цела стацце здымайце. Стацце вадзянога, пладавога, ветранога, царкоўнага, мужчынскія, дзявоцкія, жаноцкія, дахавое, страхавое, падуманыя, перагавораныя. Як з таго свету Агапаццы ня ўстаць, так ніякія балезні, стацце ў (імя) не бываць.

### 923. Ад прымаўкі

На сінім моры стаіць дуб зялёны, на тым дубу гняздо. А ў тым гняздзе сарокі, вароны без ног, без крылля. Не ходзяць, не лятаюць, толькі прымаўку адганяюць.

### 924. Ад уроку

На сінім моры камянь, на тым камяні дуб, на тым дубі трыдзевяць какатоў, на тых какатах трыдзевяць гняздоў, на тых гняздах трыдзевяць сарок, трыдзевяць урок ад жаночча, ад дзявочча, ад хлапечча, ад мужчыньска, русы волас, чорны волас, рыжы волас, белы волас. Святыя святачкі, гадавыя празьнічкі,

хадзіця ка мне на помач; я з славамі, Бог з духамі, як стала, так перастала.

### 925. Ад уроку

Першым разам, божжым часам Госпаду Богу памалюся, матары Божжай пакланюся і ўсім сілам нябесным, кіяўскім, пячэрскім і ўсім прэпадобным Антонію і Хвядосію: стань, Госпадзі, на помач.

Адна рака Дзяміда, другая Саламіда, а трэцця Маланка — бліскуха. Яна свет асвячая, із мора карэння вымая, із раба божжага ўрок сымая, падуманы, пагаданы, пасмешны, пацешны, прымоўны, прыгаворны, калючы, балючы. Ад Госпада Бога помач, а ад мяне дух лёхкі.

### 926. Ад уроку

Першым разам, добрым часам. Госпаду Богу памалюся і матцы Прачыстай пакланюся і Госпада Бога папрашу з усімі сіламі нябеснымі, кіяўскімі, пячэрскімі. Вы правяднічкі, прэпадобныя, станьця ўсе гасподухначкі на помач рабу божжаму (імя).

Адна рака Дзяміда, а другая Саламіда, а трэцця Маланка — бліскуха ўвесь свет асвячала, з усяго мора карэння вымывала і з раба божжага ўрокі сымала і вымала: і падуманыя, і пагаданыя, і прыгаворныя і набродныя, і жаноцкія і парабоцкія, і дзявоцкія, і бацькавы і маткіны, і дзедавы і бабіны, і радасныя і жаласныя. І сам жа Самуян і сама ты Палагея і святы жа Якаў высылая і выдымая прытчу, прыгавор, і падуманы і пагаданы, прыгаворны і набродны, і жаноцкі і парабоцкі, і дзявоцкі і бацькоў і маткін, і рабяччы і сабаччы, і радасны і жаласны, із жыл із пажыл, із жоўтыя касьці, із гарачай крыві, з буйной галавы. І святая серада, (дзень, калі замова прамаўляецца) стань, Гасподухначка, на помач рабу (імя). Ад Бога помач, а мой дух.

### 927. Ад урокаў

Хмарушка цёмная, хмарушка ясная, ты ж, хмара, хмара божжая, садзяржы, Божа, (імя) ад худога чалавека, чалавека-ліхадзейніка, чалавека-чарадзейніка і ва векі вякоў. Амінь.

## 928. Ад уроку

Первым разам, добрым часам, ранішняя зарніца, божая памашніца, памажы нам, Госпадзі. Первым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, мацеры Прачыстай святой пакланюся, усім угоднічкам божым, кіеўскім, пячэрскім. Памажыце, Госпадзі, мне, раб божай Ганне, Маланьцы ўрок выгаварваць, дзянны, палудзенны, нашны, палунашны, урок прыстрэшны, прыгаворны, падумны, падзіўны, пасмешны, жаноцкі, парабоцкі, хлапоцкі, дзявоцкі, мяшчанскі, цыганьскі, маскоўскі, жыдоўскі, папоўскі, мужчынскі, бабскі, удавіны, урок вадзяны, земляны, гусіны, курыны, свінны, авечы, чалавечы, коньскі, кароўскі, сабачы, жарабячы, цялячы, ваўчыны, зайчыны, каціны, дзяціны, вараб'іны. Патуле ж ты, урок, быў у раб божай Маланкі, пакуль я цябе не знала. Стала цябе знаць, стала цябе выгаваараць, умаляць, упрашаць, на цёмны лес пасылаць. Тут табе не бываць, тут табе не гуляць, у раб божай Маланкі касці не ламаць, гарачай крыві не разліваць, сэрца не знабіць, касцей не ламаць, па целу не хадзіць і белага цела не пушыць. Пасылаю ж я цябе, урок, на цёмны лес, на крутую гару. Там дзеўкі гуляюць, віном чары наліваюць, сталы засцілаюць і цябе ў госці дажыдаюць. Ідзі ж ты, урок, туды к ім. Там табе будзе піццяннё, едзяннё, спаннё, гулянне, лёгкае прапітанне. Я не знаю, сам Гасподзь Бог знае і нам памагае. Я з словам, Гасподзь Бог з помаччу і святым духам.

## 929. Ад урокаў

Госпаду Богу памалюся, Прычыстай мацеры пакланюся, прыступі да памажы ўрокі шаптаці.

Покіль я вас не ўмаўляла, не ўгаварала, не адсылала, покіль я не ізбаўляла етых прыстрэкаў, етых намоў, нагавораў жаночых і дзявочых, і чалавечых, і паньскіх, і цыганьскіх, і папоўскіх, і вадзяных, і ходзяных, і насланых, і заспаных, то вы хадзілі, то вы балелі, то вы гарэлі, то вы ў гарачку ўкідалі, вы кроў гарачу разжыгалі, салодке м'ясо сасалі, па чырвонай краві хадзілі, па жоўтай касці, па сініх жылах, па сарака суставах у рабо божага (імя).

Бегла ваўчышчэ чэрэз твае дварышчэ, паказало с... А людзі стаялі да ўглянуліся, да зжахнуліся, а ў (імя) урокі-прыстрэкі ўсе мінуліся.

## 930. Ад прыстрэку

Госпаду Богу памалюся (імя) урокі шаптаці, прыстрэкі, нагаворы, падуманыя, пагаданыя, ветраныя, насланыя, падмоўныя, падгаворныя, спешныя, пачэсныя. Дзе ж вы, урокі, ці вы жаноцкія, ці вы дзявоцкія, ці вы парабоцкія, ці вы чалавечыя, ці вы ветраныя, ці вы насланыя? Дзе ж вы, урокі, дзе ж вы, прыстрэкі, дзе ж вы, нагаворы? Дзе свет не світае, дзе сонейка не сходзіць, дзе збож'ейка не родзіць і дзе пеўняў голас не заходзіць і дзе барын тапарыкам не рубне, дзе дзявіца касы не распляце. Там вам піценне і ядзенне, і гулянне, і супачыванне. Там вам скам'і засціланыя і кубачкі налітыя, наймічка з парубкам перакачваюцца, перабенчваюцца, будуць вас паважаці, з хаты дымам, з двара ветрам напраўляці. За вецер ухапіліся, на асіне заснуліся. Ад рабы божай чыстаплоннай, уражджэннай, благаславеннай (імя) адчапіліся, адкаснуліся, к ёй не вярнуліся.

## 931. Ад прыстрэку (уроку)

Ранняю зарою, добраю парою. Зоры-зараніцы, божыя памашніцы, прыступіце (імя), рабу божаму, прыстрэк угаварваць. З буйнай галавы, з жоўтай касці, з румянага цела. Мужчынскі — з-пад шапкі, жаночы — з-пад намёткі, дзявочы — з-пад кітайкі.

За гарамі, за марамі там дзве крыніцы, валы пячоныя, сталы засціланыя, кубкі наліваныя. Там прыстрэку піць і гуляці, (імя), раба божага, не займаці, касці не ламаці, жывата не пушыці, сэрца не знабіці.

Я словам, Бог з помаччу. Госпадзі, любі мой дух. Івану, рабу божаму,— на здароўе.

## 932. Ад урокаў («суроц»)

Уроцы ўрошныя пупярэшныя і стрэшныя пупярэшныя, на чом вы сталі, на чом вы прысталі: ні на торнай дарогі, ні на мяккай пасцелі, ні на піцянні, і на ідзянні, ай ад злога чалавека, ненавіснага глаза, ад белага, ад шэрага глаза і ад сіняга глаза і ад белазорага глаза, ад крывога глаза і ад сляпога глаза, ад белага воласа, ад русага воласа, ад чорнага воласа, ад сівага воласа, ад рыжага воласа — адвядзіця, адкасніцесь, уроцы, ад етага раба чалавека, выхадзіця із касцей, із машчэй, із жыл, пажылак, сустаўцаў, палусустаўцаў, ад буйнай галавы, ад быстрых глаз і ад румянага ліца, ад рабочых рук, ад быстрых ног і ад усей

нутрыннасці чалавечаскай — атыдзіця, уроцы, ад етага раба чалавека,— ідзіця вы за мхі, за балоты, за ржаўцы-патопы!

Ні ’трыгацца вам ні на маладзіку, ні на палнаце, ні на піракраі месіца, ні на сходзі вітаха!

### 933. Ад уроку

Кацілася, валілася з высокага неба, звалілася ў жоўты кусты. У жоўтых кустах вярба стаіць, у вярбе гняздо. Загавару ад уроцы, ад сівога воласу, ад чорнага воласу, ад русага воласу, ад рудога воласу, ад усякага голасу.

### 934. Ад уроку

Гавару, выгаварываю суроцы падзіўныя, падумныя, стрэшныя, папярошныя, дзянныя, палуношныя, паганага вока, серавокага, белавокага, паганага языка, музькага полу, бабськага полу, дзявоцкага полу, і таго выгаварываю, каторы два разы жаніўся, і таго выгаварываю, каторы два разы матку ссаў, і таго выгаварываю, каторы ў хлебі спор адбіраў. I выгаварываю з жыл, з пажыл, і з касьцей і з палукасьцей, і не сам сабой, Госпадам Богам. Дай Бог час добры.

### 935. Ад суроц

Сыйдзі, глазы серыі,
Бурыі, карыі,
Нада ўсімі чорны глаз,
Сыйдзі ўсі пірацёпы,
Пірасуды, пірагаворы,
Ад старых, ад малых,
Ад ніжанатага, ад перважэнца,
Ад другажэнца,
Атыйдзі на етыт час,
На ету мінуту,
Усі хваробы, усі балезні,
I з пальчыкаў, і з сустаўчыкаў,
I з буйнэй галавы, і з храбетнай касці,
Ад рэцівага сэрца!

## 936. Ад уроку

Первым разочкам, гасподнім часочкам. Госпада Бога ўпрашаю, а Прачыстую мамку на помач прызываю. Святая Гасподня, вялікая зара-зараніца, рабы божай Дар'і памашніца. Стань, Госпадзі, на помач, Прачыстая матка, на ратунак, ангелы, на радасць. Я, бабка, славамі, Гасподзь сваімы думамі.

Стаяла ў бару сосна, усяму бору прыкросна. Пад тою сасной залаты тын, пад тым тынам залатое крэсла. А ў тым крэсле сам Гасподзь Сус Хрыстос сядзіць, залаты крэст дзяржыць. І з таго краста выступае раса. Маць Прачыстая прыступіла і капельку падхапіла, рабу божаму (імя) урокі змыла — урошныя, прыгаворныя, падзіўныя, паглядныя, пасмешныя, намоўныя, з агня, з ветра, з вады; у раба божага (імя) не быць, па касці не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не таміць, галовачкі агнём не паліць, у вобмарак не вадзіць. Патуль ты хадзіла, буяла, гуляла, пакуль раба божая Дар'я прыступіла, ухадзіла, угаварыла, высылала з жыл, з паджыл, з белага цела, з румянага ліца, з яркіх воч, з чорных броў, з русага валаска, з шчырага сэрца, з белага целца. Дай Бог час добры, любі мой дух лёгкі.

## 937. Ад уроку

Зямля Таццяна, неба Вулляна, калодзесь Іван. Кала тога калодзеся стаяла баба Саламаніда, ваду брала, етага дзяцінку прамывала, усе ўрокі вымывала — і намоўныя, прыгаворныя, з паганых вачэй і паганых рачэй. Высылаю ўрокі, улёкі на мха, на балата, на ніцыя лозы. Там вам піць і гуляць, а етага дзяцінкі ў вочы не відаць. Высылаю на мха, на балата, на ніцыя лозы. Не сама сабой, з Прачыстай Святой, не сваімы думамі, гасподнімы славамі. Як мой душок ціхеняк, лягеняк, так сходам мінайсь, маладзіком не атрыгайсь.

## 938. Ад уроку (нядобрых вачэй)

Урокі-прарокі,
Мужчынскія, жаноцкія,
Дзявоцкія, дзяцёцкія,
Пайшлі ўрокі па бабскіх языках,
Па мужчынскіх галавах.
Дзяцёцкія — пад чапец,
Дзявоцкія — пад вянец,
Жаноцкія — пад касу,

А мужчынскія — пад шапку.
Пайшлі ўрокі па раках,
Па крутых берагах,
Па лёну, па балоту,
Па ніцах-крыніцах.
Вадзіца-крыніца,
Ты ўсім людзям памачніца,
Памагала ты лугам-берагам,
Памажы... (каму трэба дапамагчы — імя чалавека або скаціны).

## 939. Ад урокаў

Рабы божай ражджонай (імя) дзевяць урокаў шаптаці, дзевяць прыстрэкаў шаптаці, дзевяці ветраных, дзевяці насланых, дзевяці нагавораных, дзевяці падуманых, дзевяці пагаданых. Ці вы жэнскі і мужчыньські, і дзявоцкі і парабоцкі, і жыдоўськія, і папоўськія, і цыганьськія. Жэньськія — пад чапец, а мужчыньскія — пад картуз, хлапечыя ў персцень увярціцеся, дзявочыя ў косы ўпляціцеся, жыдоўськія ў халат, а цыганьськія ў пярыну. А я ж вас усех перагавараю, а я вас усех перамаўляю, да выйдзіць з буйнай галоўкі, з карых ачэй, са шчок і з румяных губачок, рабацяшчых, круцяшчых ручачок, спахадзяшчых нажачок. Да вуйдзіце із жывоціка і з самых із жылаў, із ее суставаў, із белай касці і салодкага м'яса, чырвонай крыві.

## 940. Ад суроку

Первым разам, добрым часам. Прашу Госпада Бога і Духа Святога. Стаіць касцёл, а ў касцёле прыстол, а за прыстолам Ісус Хрыстос сядзіць, крыжычак дзяржыць. З таго краста выступала раса. Маць Прачыстая расіцу збірала, раба божага Міхаіла ўціpaлa, суроку ўнімала — урошныя, прыгаворныя, улянаныя, спужана, жаноча, дзявоча, падумна, падзіўна, паглядна, пасмешна. Раба божа Агата прыступіла і ўгаварыла не сваімі думамі, а гасподнімі славамі. У час добры, спалюбі дух лёгкі.

## 941. Ад уроку

Выгаварую ад (імя) прыгаворы, урокі ўрочныя, улёчныя, смешныя, прыгаворныя, мужчынскія, жаночыя, дзявочыя, хлапецкія, панскія, цыганскія, татарскія.

У чыстым полі цэркаўка, у цэркаўцы прыстол стаіць, за

прыстолам сам Бог сядзіць з усімі святочкамі, з гадавымі празнічкамі. Цахуюць, рахуюць, дзе гэтыя ўрокі і прыгаворы падзяваці: мужчынскія — пад шапкі, дзявоцкія — пад платкі, а вы, сарокі, бярыце ўрокі, нясіце пад крутыя берагі, дзе травы не з'ядаюць і воды не співаюць. Тут табе, уроку, не бываць, па касці не хадзіць, касці не ламіць і жывата не шчаміць. Я словам — Бог з помаччу.

## 942. Ад уроку

Госпадзі Божа, благаславі, Прачыста матка, памажы, свята суботычка-мамычка. Упрашую ўвесь мір гасподні, і ўпрашую хазяінаў дамавых і палявых. І нагаварую ад суроцы, попрытчы, ад жэньскіх, мушчыньскіх, маладзіччых, дзявіччых, малеччых, пасмешных і пацешных, жалосных і радосных і нагаворных, падзіўных, ведзьмінськіх, чараўніцкіх, ветраных, наносных. І выгаварую з ног, з белых рук, з буйныя галавы, з румянага ліца, з рацівага сэрца, з крыві яго, із суставў, із жыл, із пажыл. І Прачыстая маці нарадзіла (яго) і адхадзіла, і кіяўськая і пяшчэрская, і пачаеўськая і смаленьская, і святэй дух і святая Тройца, і святэй трайчонак.

## 943. Супраць ліхога вока

Госпадзі, баславі, Госпадзі, пасабі!
Ад прысух, ад недух,
Ад урокаў, ад парокаў,
І дзвенаццаці цароў,
І двенаццаці каралёў,
І дзвенаццаці прысух,
І дзвенаццаці недух.
І аткуда вы прыкаціліся?
І на што жа вы спахваціліся?
Ілі на радасьцях?
Ілі на завісьцях?
Ілі на спорных?
Ілі на вздорных?
Ад красных дзявіц,
Ад маладых маладзіц,
Ад старых старыкоў,
Ад удалых маладцоў,
І ад перважонца,
І ад другажонца,
І ад чорнага глаза,

І ад чорнага, падзадорнага,
І з боку сматрашчага,
З боку захадяшчага.
Вам тут не быць, не жыць,
Прыткі прыстаўкі!
Ідзіце вы на мхі, на балота,
На гнілыя калода,
На леса дрэмучыя,
На места тапучыя,
Там ваш род-племені,
Явства сахарныя,
А рабу Івану добрага здароўя.

### 944. Ад уроку

Выхадзіця, уроцы, падумы злыя і нечасьцівыя прыгаворы, з раба божага, з яго з шчырага сэрца, з рацівага жывата, з чорныя печані, з белага лёхкага, із патраха, із галасной гартані, з ясных вачэй, із слухавых вушэй, із баявых наздрэй, із буйныя галавы, із белых рук, із бегавых ног, із сустаў, із касьцей, із нахцей, із валасоў, із жыл, із пажыл, із гарачыя крыві. Каб і сэрца ня сушылі, і жывата ня крушылі, і цела ня знабілі, і касьцей ня ламілі. Ідзіця, уроцы-падумы злыя, нечасьцівыя прыгаворы, на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, на сухія лясы, дзе ветры ня веюць, дзе й сонца ня грэя, дзе й пціцы не лятаюць і звяр'ё ня бегая,— скорбі і балезні — амін.

### 945. Ад уроку

Госпад Бог скрос, урагі разайдуцца, ад ліца адходзюць. Высылаю я вас, вымаўляю, уроцы падумныя, павумныя, жэньскія, музькія, дзявоцкія, вуношныя, палуношныя і ранныя і вячэрнія. Ідзіця вы, уроцы, на сіняе мора, на паганыя азёры, там жа вы будзьця, там вы прабывайця, свой вопух пускайця, а раба не чапайця. Будзець ён вас праклінаць, Госпада Бога ўпрашаць, і святога Пятра, і святога Пакрава́, і святога Ражства.

### 946. Ад уроку (прыстрэку)

Прыстрэча, добры чалавеча, сядлай сівых каней, едзь у чыстае поле росачку співаці, травачку з'ядаці, раба божага дай жа здароўечка надзяляці. Угаварую, умаўляю ад раба божай дай жа прыстрэча і спешны, і дзенечны, і начны, і падуманы, насланы і прыгавораны.

## 947. Ад урокаў

Первым разам, гасподнім часам памалюся і пакланюся Госпаду Богу і папрашу Господа Бога і цябе, святы Хрыстовы дзянёчак, на помач. І ўсе святыя святочкі, гадавыя празнічкі, памажыце, прыступіце, гэту балезнь угаварыце — урошную, прыгаворную, падумную, пасмешную, паспешную, калючую, гаручую, свярбучую, паньскую і цыганьскую, дзявоцкую, жаноцкую. Адзін укусіў, другі адгаварыў, а тры адходзіла. Адзін Бог Дух Святы, маць Прачыстая радзіла, яна цябе адхадзіла. І выгавараю з касцей, з машчэй, з сініх печаней, з чырвонае крыві, з буйныя галавы, з ярых вачэй, з жоўтых касцей, з жылачак, суставачкаў, з заногцікаў. І прыляціце, сарокі, вазьміце гэтых трыдзевяць урокаў — спіцца-спацца і пярэпалахі, і нясіце на сіне мора, на чорнае карэнне, на белае каменне, дзе птах не залятае, дзе звер не забягае. Там жа вам святушкі і мягкія падушкі, там жа вам гуляці, буяці і на мягкіх падушках спаці і рабу божу гэтаму (імя) балезні не знаці. Датуль жа ты гарэла і балела, і косці белы ламіла, і сэрца знабіла, пакуль мой дух не чула. Мой дух лёгенькі, мой дух харошы. І Господа Бога ўпрашаю, маць Прачыстую ўпрашаю. Маць Прачыстая, уладычыца, пакрый сваею рызай і сымі з гэтага (імя) балезць падумную, пасмешную, пацешную і злаязычную, дзянную, палудзенную, нашную, палунашную, пярэпалахную, ветраную, ударную, злоўмышленную і сашлі ж яе, Госпадзі, на сіняе мора.

## 948. Ад уроку

Памолімся Госпаду Богу, Прачыстай мацеры, усім святым апосталам, святым святочкам, гадавым празьнічкам: устаньця у помач і маліця Господа Бога за нас, грэшных.

Ішла маць Прачыстая па калінавам масту, сярэбранай трасьцінай папіралася. Сустракая яе сам Гасподзь Бог із Пятром з Паўлам:

— Куды йдзеш, маць Прачыстая?

— Іду к рабу божаму (такому-та) урокі замаўляць і загаваравацьǃ Трыдзевяць урокаў: які ты урок? Ці ты паньскі, ці цыганьскі, ці жыдоўські, ці мушчыньскі, ці бабські, ці хлапоцкі, ці дзявоцкі, удаўцоў і ўдавін, і ранні, паўдзенны, і вячэрні; ці заглядны, ці падзіўны, ці прыгаворны, ці скрозьшчэльны, ці скрозьплотны,— эй ты, урок, які ты, урок?

Ішла рака крутымі берагамі, жоўтымі пяскамі... Як быстрай рацэ не стаяці, так етаму рабу божаму ўроку не дзержаці.

Узнясі іх, Госпадзі, на мхі, на балоты, на ніцыя лозы; там ім пабываць, там ім пагуляць, а етаму рабу божаму павек вешны ўроку не дзяржаць.

### 949. Ад уроку

Первым разочкам, господнім часочкам Госпаду Богу памалюся і святой Прачыстай матары Божай пакланюся. Матар Божая, царыца нябесная, прыступіся раба божага ўрокаў гаварыці — прыдуманых, прыгаворных, уцешных і пасмешных, бацькавых і маткіных, жаноцкіх, парабоцкіх, і калючых, і балючых, і светавых, і заравых, уцешных і пасмешных.

Із горада Русаліма ехаў святы Якаў із сынам сы Сакам і стрэў святога пракраснага Восіпа.

— Куды ж ты ідзеш, святы Восіп?

— Іду я к рабу божаму хрышчонаму нараджонаму ўрокаў гаварыці — прыдуманых і прыгаворных, уцешных і пасмешных, калючых, балючых, светавых, заравых, бацькавых, маткіных, жаноцкіх і парабоцкіх. Яны стаялі, калолі, як я ня гаварыла, а цяпер я гавару і выгаваруе із жыл, із пажыл, із сустаў, з гарачыя крыві, із белага цела, з румянага ліца, з карых вачэй. Пасылаю на мха, на балата, на ніцыя лозы, на жоўтыя пяскі, на буйныя вятры, на ціхія воды. Там табе гуляць-бушаваць, рабу божаму спакой даваць. І мой дух ціханькі, лёгінькі,— котам адкачу, валам адвалю. Котам адкацісь, а валам адвалісь ад рук да да ног, ад ног да далоў. А я дамоў, а тваё ліха далоў.

### 950. Ад уроку

Па чыстаму полю маці Марэя хадзіла, сына будзіла:

— Сынку мой, сынку! Ці ня можна табе ўстаці, етаму дзіцяці помычы даці?

— Можна, маці мая благачасьлівая, можна!

Сус Хрыстос устаў, етуму дзіцяці помычы даў.

### 951. Ад урокаў дзіцяці

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Прачыста Божа маці на прэстоле стаяла, рабе божай (імя) урокі шаптала.

У нядзелечку параненька свет-сонейка ўсходзіць. Свята Прачыста Божа маці па вінаграду ходзіць з трыма крыжамі, з чатырма ангеламі.

— Чаго, Божа маці, плачаш-рыдаеш?

— Таго я плачу-рыдаю, што на сваю (імя) наглы крык маю. Сніўся сон мне ўдзіўлёны. Хто гэты санок адгадае? Раба божая (імя) адгадала, каб на сабе гора-бяды не мала ні ў ручках, ні ў ножках, ні ў вачыцах, ні ў плячыцах. Я гэты саночак адгадала, на сухі лес адпраўляла, а рабе божай (імя) спаць і прыбываць, на сабе гора і бяды не маць. Каб спала, прыбывала і вяліка расла.

### 952. Ад уроку

Первым разам, добрым часам, прашу Госпада Бога, Духа Святога, матку Прачысту на помач прызываю.

Вячэрня зара, сконна пара, Богу памажы (імя) лячыць, з хаты дымам, з гары ветрам, залатымі ключамі, вострымі мячамі, лячу прырокі дзеля тае сарыкі. У чыстым полі хадзіла Прачыста, палівала грады, там шукала чалавеку рады.

Я, бабка, славамі, Гасподзь думамі. У час добры, любі мой дух лёгкі.

### 953. Ад нарадкі

Папрашу Госпада Бога. Адкуль сонейка ўзыходзіць, Прачыстая матка прыходзіла, помач прыносіла ад нарадак ветраных, накідных, пасланых, прымоўленых, прыгаворных.

Скую вострую меч. Буду выганяць нарадку з галавы, з сярэдзіны, з плеч, з рук, з касцей, з машчэй, з жывата. Ссылаю за сінія мара, на жоўтыя пяска, дзе вецер не вее, дзе сонца не грэе, дзе сабакі не брэшуць, дзе певень не пяе. Там вам быць і гуляць, і спачываць, да патрэбы не маць, ніякіх балезней не падымаць.

### 954. Ад уроку

Маць Марэя сына мела, купала, раба божжага ўрокі выбірала, із касьцей, із устаў, з белага цела, з румянага ліца, із русага воласа, з голаса, што злы, злая ўракая, сам Бог памагая. Сам Бог на помач, янгалі на радась. Маць радзіла, зарой падперазала, усіх яго ўрагоў патаптала, каб косьці ня ламіла і сэрца ня сушыла.

### 955. Ад уроку

Прачыстая Божа мацер спарадзіла Суса Хрыста, сына свайго, узяла яго на праву руку, панясла яго па Сіяньскаму полю, із

Сіяньскага поля на Сіяньскую гару, із Сіяньскай гары на сіня мора. На сінім моры ляжыць бел Лакір-камень; палажыла Прачыстая Суса Хрыста на Лакір-камень і ўроцы сцірала — думныя, падумныя, дзіўныя, падзіўныя, дзявоцкія і хлапецкія, і жэньскія, музькія, стрэшныя і папярэшныя, каб яны мінаваліась, нікагда ня 'трыгаліась. Амін.

## 956. Ад уроку

Госпаду Богу памалюся, мацы Прачыстай пакланюся. Святая мацы Прачыстая, ліцо чыстае, стань на помач і ад уроку і ад прыгавору. На раба божага на такога-та дунуў, на нявернага, на праклятага плюнуў (дунуць на хворага і плюнуць на левы бок). Сам жа Госпадзі станя на помач і дасць час добры, гадзіну добрую.

## 957. Ад суроцы

Ехаў Бог па чыстаму полю на сівым коніку. Конік прыстаў — урэд перастаў. Урэд ягамосьці, выхадзі з косьці. Стань, Госпад Бог, нам на помач, святая Багародзіца, стань на помач, Ісус Хрыстос, стань на помач, святыя святочкі, гадавыя празнічкі, скольківу гаду маецеся, храні, Госпадзі, Анюціна цела.

## 958. Ад злога чалавека

Госпаду Богу памалюся. Мацеры Прачыстай гасподняй пакланюся. Першым разам, гасподнім часам. Ішло тры хмаркі. Адна дажджавая, другая грамавая, а трэцяя ветраная. Дажджавую дождж размывае, ветравую вецер раздувае, грамавую гром разбівае. Хто на рабу божую Ганну злабу мае, хай таму на лоб вочы павыпірае.

Я з духам, словам, Гасподзь на помач.

## 959. Ад уроку

Ішла мацы Божая Прачыстая па калінавым масту, вяла Ісуса Хрыста за правую руку, масьнічка праламілась, ад раб божый ад Маруты (імя) ўсё ліха адвалілась. Хто ўрок, таму скула ў бок. Перад рабам божым, перад Марутай, сам Ісус Хрыстос, сама мацы Бугуродзіца Прачыстая.

## 960. Ад уроку

Ішоў Ян-пазван цераз жалезны мост, жалезным кіёчкам апіраўся, ад урокаў адбіваўся. Ад усіх, ад усякіх, ад воч паганых. Хто Івана ўрачэ — таму кроў вочы завалачэ.

## 961. Ад уроку

Госпаду Богу памалюся і Прачыстай Святой матары Хрыстовай пакланюся і ўсім святым. Усе святыя, станьця мне на помач.

Выгаваруецца рабу божаму (альбо рабіні) урокі-ўрочышчы, жаноцкія і парабоцкія, мужчыньскія і бабськія. Хто якімі ўрокамі ўрачэ, хай яму кроўю вочы завалачэ. І ссылаю я ўрокі на нятворанаю гару, на няхрашчонаю зямлю, дзе і пеўні не пяюць, дзе й гусі ня крычаць.

Там вам быць, там вам і жыць, а ў раба божага ня бываць, кошчы ня ламаць, крыві ня сушыць. Там ім быць, там і жыць, там і раскóшавацца.

## 962. Ад уроку

Урок-урачышчэ,
Ідзі на цяплішчэ.
Ад каго стала —
Штоб на ім цела патрашчала.
Соль яму ў вочы,
Галаўня ў плечы.

## 963. Ад уроку і падзіву

Марціну, Марціну! Не станавіся рабу божаму (імя) падзіву, ані з хады, ані з яды, ані з думкаў, ані з мысляў. На моры на сінім там белы камень ляжыць; на тым камені стаіць дуб, а на тым дубе храпа. Хто тую храпу дастане, той маяму рабу божаму прыстане; хто тае храпы грызне, той маяго раба божага (імя) уракне.

## 964. Ад намаўкі

Госпаду Богу памалюсь, Прачыстай Божай мацеры пакланюсь. Прачыстая Божая маці з прэстола ўставала, к рабе божай (імя) прыступала, намаўку шаптала, намаўку ўгаварала. Намаўку ўгавараю: намаўка ва сне, намаўка ў ядзе, намаўка ў хадзе. Намаўку ўгавараю, на балота адсылаю, на балотах пцічкі

лятаюць, траўку з'ядаюць, воду співаюць, з рабы божай (імя) намаўку зганяюць.

### 965. Ад уроку

Памалюся, пакланюся Госпаду Богу, усім святым святочкам, гадавым празнічкам, ранняй (вячэрняй) зорачцы. Госпада Бога прашала, Прачыстую мамачку на помач прызывала і рабу божаму помачы давала, і ўрок угаварала з следу, з ветру, з яды, з вады, з боку паглядных, з пустых рачэй, з паганых вачэй, і соллю сціраала, сваім духам здымала. Як етай солі ў краме не бываць, таргоўцам ёй не таргаваць, так і ўроку не бываць ні схадком, ні маладзіком, ні пад поўная. Як была на раду, так стаць на стану, маць цябе нарадзіла, а я ўсю балезнь адхадзіла, па ету порачку, па раннюю зорачку.

### 966. Ад уроку

На моры, на кіяні сядзіць старушка на камяні з вагніўцом, з крэмянцом; суроцы, уроцы адсякала, адбірала і на мора адсылала. Вадзіца-царыца, як ты Латыр-камень разбівала, ніцыя лозы падмывала, так етаму маладзенцу помачы давай, ад уроцы музькея, жэнськія, рабяччыя, дзявоччыя...

### 967. Ад уроку

Первым разам, добрым часам. За сінім морам, за шчырым борам стаіць зялезны тын, пад тым тынам рассыпан чорны мак. Як таго маку ніхто не сабярэць, так раба божага ніхто не ўрачэць, амін.

### 968. Ад уроку

Як етаму дубу-дрэву на корані не стаяць, атросткаў не пускаць, веццем не махаць, як пакойніку з гроба не ўставаць, дарогі не тарыць, свету белага не бачыць, так у етай бабы ўроку не бываць, па касці не хадзіць, жылы не таміць, цела не паліць.

### 969. Ад уроку

У полі, на святому полі ябланька стаяла. На ябланьцы дзед сядзіць, стружачкі стружэ. Прыляцела тры янгалы з неба.
— Пакінь, дзеду, стружачку стругаць, ідзі раба божу (імя)

прыстрэты, намоўку ўгаварацць. Як мёртвым з таго свету не ўставаць, за сталом кубачкаў не піваць, так прыстрэту, намаўцы не буваць.

### 970. Ад урокаў (нячыстай сілы, нарадкі і г. д.)

Першым разам, добрым часам. Благаславі, Госпадзі, стань, Госпадзі, на помач, Прачыстая, на радась. Прэсвятое Стрэчаннійка Хрыстовае, памілуй, Госпадзі, ад 'сякія няшчасныя стрэчы, ад 'сякага паганага языка, ад ненавіснага глаза, пачутага, павіджанага, пагаданага, радаснага, жаласнага. І хто раба божага чалавека асурочыў, соль таму ў вочы, траскучае палена ў калена, штоб трашчэла і балела.

Як на моры Кіянскам, на гарэ на Сіяньскай, ранняя зара, вячэрняя зара, Абрамя, Храмя Ляксеевіч, і ты, Мар'я Хвёдараўна, упрашаю вас, умаляю, не сам сабою — кроўю сваёю, прашу вас на хлеб, на соль, із жаной, із дзеткамі. Лучэ, Лучэ, аддай нашы прытчы, каб раба божага етага чалавека суроцы не бралі, музькія, жэньскія, дзявоцкія, рабяцкія, падзіўныя, прыгаворныя, падумныя, пагаданныя, нашныя, дзянныя, ветраныя — уніміся, уцішыся, уляшыся. Як камню на карані не стаяці, веццем не махаці, так у раба божага етага чалавека болі не балеці, не ламіці, не калоці, не пароці, па сей час, па сею гадзіну, па сею часіну, пакуль я не гаварыў. Не я ж цябе радзіў, я раб божы етага чалавека ад суроцы, ад прытчы адхадзіў. Мой душок ціхонек, лягонек.

### 971. Ад уроку

У лесе на прыгорку стаіць сасна, тонкая, высокая, лісцем зялёная. Не баіцца ўлетку жары, а ўзімку марозу, ні жаркага сонца, ні яснага месяца, ні дробных зор. Так еты младзенец (імя) не баіцца ні ўрокаў, ні ўлёкаў, ні прыгавораў, ні падумных, ні памоўных, ні сярдзешных, ні пацешных, ні дзявоцкіх, ні хлапяцкіх, ні парабоцкіх, ні хазяінавых, ні хазяйкіных, ні мацерыных, ні атцовых.

Ні сваім духам — господнім, стань, Госпадзі, на помач, а етаму младзенцу (імя) на пользу.

## 972. Ад уроку

Першым разам, добрым часам прашу Госпада Бога і Духа Святога.

На гарэ цэркаўка, на цэркаўкі булдоўка, на булдоўцы крыжычак. Беленькі крыжычак той не баіцца ні хвілі, ні буры, ні туману, ні дажджу. Няхай так раба божая (імя) не баіцца ўроку, суроку, прыгавору, уцеху, і дзявочага, і жаночага, і ўсіх мірскіх хрысціян.

У час добры, спалюбі дух лёгкі (хукаць).

## 973. Ад уроку

Хадзіў Гасподзь па межах, збіраў косьці мужчыньскія, жаноцкія, хлапяцкія, дзявоцкія, коньскія, каровіччыя, авеччыя й сабаччыя, кашаччыя й птушаччыя. Ехаў Сус Хрыстос на вослiку, прыяжджаў к сіняму мору, станавіўсь на белым камяні. Як бел камянь нічога не баіцца, так, раба божая, ня бойся ні хромасьці, ні ломасьці, ні злых людзей, ні праклятых вачэй, ні чарадзейніка, ні чарадзейніцы, ні ўсякага зла. Спасі, памілуй, святы вотча Мікола, вялікі чудатворац.

## 974. Ад уроку

Хадзіў Гасподзь па зямле і па вадзе і па ўсякай моцы і не баяўся суроцы, уроку, улёку і прыгавору, ні пужання, ні ўлякання. І ты, раб божы, ня бойся ні ўроку, ні ўлёку.

## 975. Ад прыстрэку

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай пакланюся. Святая Прачыстая матка прыступала, (імя) помач давала, урэкі-прыстрэкі ўгаварала, умаўляла.

Ехаў Сус Хрыстос на вараном кане, на залатом сядле залатою грэбелькаю. Як зямля з небам васкраслася, усе грэшныя васкрасліся: дванаццаць сутокаў, дванаццаць прарокаў, дванаццаць урэкаў, дванаццаць прыстрэкаў. Ідзіце, урэкі-прыстрэкі, на чарата, на балата, на сіні клевата. Будзе памагацца, будзе (імя) душа ўспакаяцца. Я ўгавараю з касцей, з машчэй, з сэрца, з румянага цела, з русых валасоў, з сініх жыл, і з жыл і з пажыл. Я ўгавараю каціны, дзяціны, урэчны, прыстрэчны, парабоцкі, хлапоцкі, мужчынскі, дзявоцкі, і лекавы і векавы, сабачы, свінячы, і падуманы і пагаданы. Тут не стаяці, (імя) галавы не ламаці. Госпаду Богу, палюбі мой дух.

### 976. Ад уроку

Шла раба божая (імя) у горад Ерусалім. Несла на сваёй галаве залатую рызу, павесіла гэту рызу на царскіх варатах. Яе етай рызы нікому не знімаць, так у раба (рабы) божага болі не бываць, па касцям не хадзіць, касцей не ламіць, шчырага сэрца не таміць, гарачай крыві не распаліваць. Святая маць Плашчанея, вазьмі ету боль на свае рукі, нясі яе ў чыстае поле, на сіняе мора. Рассей ету боль па мхам, балатам, лугам, па жоўтым пяскам, па ніцых лозах, па белых бярозах, па гнілых калодах. Там табе гуляць-буяць, краскі рваць, а ў рабы божай болі не бываць. Госпадзі Божа, дух прынімі, боль у рабы божай (імя) аднімі.

### 977. Ад уроку («ад плахога глаза»)

Зоры-зараніцы, гасподнія памашніцы, памагалі Богу, памажыце і мне. Раннія зоркі, вячэрнія і божы дзянёчык, святая нядзелька, прыступіце, памажыце раба божаму (імя) ад плахога глаза.

Ляцеў птах па [Сіянскіх] гарах, сеў на (імя) варатах. Стаў шчабятаці, урокі сабіраці: жаноцкія, хлапоцкія, мужчынскія, дзявоцкія, падумляныя, насыланыя і прыгавараныя. Ён пашчабятаў, урокі насабіраў, паляцеў на сіне мора. На сінім моры ляжыць белы камень. Як таго камня не пасекці, не парубаць, так у раба божага (імя) уроку не бываць.

### 978. Ад уроку

Ба́слаў, Божа, ба́слаў, Божа, ба́слаў, Божа! Ёсь тры царочкі: первы цар земляны, другі цар ракуў, трэці цар воўкуў. Як етым царочкам за столікам не сядзець, хлеба-солі не зьядаць, так етаму чалавеку ўроцы не браць. Не сама сабою памагаюсь — святым Міхайлам-рахайлам, божым угоднічкам, памошнічкам. Памажы, пасабі!

### 979. Ад уроку

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры Божай пакланюся, кіеўскім, пячэрскім усім сілам нябеськім, усім святым гасподнім божым угоднікам і ўсім святым гасподнім божым скорым памочнікам. Усе святыя гасподнія божыя ўгоднікі, усе святыя гасподнія божыя скорыя памочнікі, прыступайце рабе божай

(імя) да помачы, лячыцца, загавараваецца ад людзей, ад паганых вачэй.

Сонейка ў вачах, месяц у плячах, зоры па рабрах, ангалы на небесах, камень у моры. Як таго камня ніхто не можа з мора падняць, так рабе божай (імя) ніхто не можа нічога паддаць ні ў думках, ні ў гаворках, ні ў падглядках. Як суччынага вум'я ніхто не можа ўкусіць, так рабе божай (імя) ніхто не можа нічога паддаць і паддзелаць.

Хто рабу божай (імя) урачэ, таму назад вочы заварачэ. Паганым людзям, паганым ачам соль ім у вочы, скула ім у рот, засланка ў плечы, не прыставайце к (імя) люцкія паганыя рэчы. Я з духам, Гасподзь з помаччу, мае слава, гасподні дух.

## 980. Ад суроц

Ва імя Атца і Сына і Святога Духа. Амінь. Прысвятая Бугуродзіца Дзева Марыя, ты хадзіла і гуляла па ўсім па лугам і па райскім садам са сваім сынам Сусам Хрыстом, з ангіламі, са архангіламі і са ўсімі апосталамі. Вы разныя травы іскалі і ўсі твяты сабіралі; ты, прысвятая Бугуродзіца, усі твяты тапіла і ўсіх бальных лячыла,— палячыця і пасабіця ад суроц.

Госпадзі Сус Хрыстос і маці Прачыстая Бугуродзіца і вялікая ты спамошчніца, і ўсяму міру памошчніца, пумагі і пасабі, аб чом мы цябе просім: умыць раба божыя (імя) ад зломнава глазу, ад злова пірыгавору, ад вучэных кулдуноў, ад ураждэнных, ад жэнскава роду, ад мужскова полу, ад рыбяцкіх шут, ад дзявіччых прасмехаў і ад старыка, сядэй барады,— і какея бы яны не былі: дзянныя, палудзённыя, нашнэя, палуношныя, а такжа пу вічарам і пу вутрам.

Слаўная рака Ірдань Саламаніда, ты ішла па святым гарам, па жаўтым піскам, па крутым біражкам, па зялёным лужкам, па махам, па балотам, па гнілым калодам, ты змувала і мхі, і балоты, і гнілэя калоды,— змый з раба божага (імя) суроцы пірагаворныя! Ну, я пайду ў раку Ірдань ваду браць, я ні сам сабою — Божжыя мацір са мною. Ана будзіць умуваць, пілінамі ўціраць, усі яго балезні ўнімаць ад відмавішчаў, ад учэных, ад ураждэнных, ад жэньскіх, ад музьськіх, ад дзявоччых, ад рыбяччых, ад старыка, сядэй барады,— якея б яны не былі. Ты святым сваім духам ты нас і пітаіш, ты ад усіх балезній ізбаўляіш — святым сваім духам — ва векі вякоў. Амінь.

Пумяні, Госпадзі, цара Давыда, цара Саламона, цара Касцянціна і мацір Алену і кротасць іх. Сакрацілі агні і ветры, і кру-

тэя горы — сакраці, Госпадзі, раба божыя (імя) ад раба божага (імя шаптуна) ад суроц. Амінь.

### 981. Ад урокаў

Урокі, урокі,
Ляціце на сарокі,
На зялёныя лясы,
На шумлівыя гаі,
За горы, за моры,
У глыбокія норы.
Забывайце сцежкі-дарожкі
Да нашай хацінкі-старожкі.
Нашу Таньку не чапайце,
Лепш у полі вы гуляйце.

### 982. Ад урокаў дзіцяці

У нядзельку параненьку светла сонейка заходзіць, светла Божа маці па садочку ходзіць, белага сыночка на руках носіць. Сустракае Ісус Хрыстос Божу маці і пытае:

— Чаго, матка, плачаш?

— Плачу-рыдаю, белага сыночка спавіваю. Ён ражоны, хрышчоны, горачка і ўрокаў не знаю.

Урокі, вы ўрокі, калі вы надуманы, калі вы нагаданы, ці вы жаноцкія, ці вы парабоцкія, ці вы бабскія, ці вы дзецкія? То ідзеце вы на шыпшыну, на горку асіну. Там вам прабываць, рабе божай (імя) урокаў не бываць, касцей не ламаць, пад грудзі не падпіраць, крыві не высысаць і галавы не разбіваць.

Ішла (імя) лесам і борам. А ў бары калода, на калодзе каліны, на каліне ягадкі. Ягадкі ўпалі да і ўрокі прапалі. Ляцелі сарокі і ўхапілі (імя) урокі.

### 983. Ад урокаў

Первым разам, гасподнім часам Госпаду Богу памалюся, мацеры Прачыстай пакланюся, сам Гасподзь Бог, стань нам на помач.

Угаварываю, выбіраю ўрокі, прыгаворы дзявоцкія, хлапоцкія, разных вачэй: вока чорнага, вока серага, вока карага, вока сіняга. Пасылаю ўсе еты ўрокі, прыгаворы на сарокі і вароны. А вы, сарокі і вароны, нясіце ўсе еты ўрокі і прыгаворы на жоўтыя пяскі, на крутыя беражкі, на сухія лясы, на балоты глухія, дзе

пціцы не пяюць, гнёзды не ўюць, дзяцей не маюць. Як у етых лясах нічаму жывому не бываць, так у нашай рабы (імя) болі не бываць, па касцям не хадзіць, касцей не ламіць, алай крыві не распаліваць. Амін.

## 984. Ад урокаў

Урокі, ідзеце на сарокі, на сухія лозы, на трэплозы ад чорнага глаза, ад белага, ад серага, ад галубога, ад чорнага.

## 985. Ад урокаў

Першым разам, лепшым часам Госпаду Богу памалюсь, святой Прачыстай мацеры Божай пакланюсь. Святая Прачыстая мацер Божая, вялікая памошніца, прашу я цябе ў помашч да сябе ўрокі шаптаці.

Урокі-прарокі, прыйдзіце, з Тэклі ўрокі зыміце і з ручак, і з ножак, і з пальчыкаў, і з усякіх сустаўчыкаў.

## 986. Ад урокаў

На моры калода, а на калодзе каліна, на каліне ягады, ягады ападаюць, у Колі ўрокі прападаюць.

## 987. Ад уроку

Першым разам, гасподнім часам. Ішоў Бог Сус Хрыстос цераз залаты мост. Масьніца праламілася — у раба божага Сямёнькі ўрокі адваліліся.

## 988. Ад урокаў («Стацце»)

Зара-зараніца, божая памашніца, памагала Госпаду Богу, памажы і (імя) урок гаварыць. Соллю засыпала, галаўнёю націрала, на ваду спускала.

Ідзіце, урокі, прыстрэкі, па лугам, па балатам, па ніцым лозам, дзе траву не з'ядаюць, воду не співаюць. Прыдумныя, прыгаворныя, прыстрэчныя, прысмешныя, і хлапоцкія, і дзявоцкія, і мужчынскія, і жаноцкія. Хлапоцкія пад клетку, дзявоцкія пад вянок, мужчынскія пад шапку, бабскія пад чапец.

На сінім моры стаялі жорны, усе ўрокі, прыстрэкі пажорлі, а табе (імя) Бог на помач.

## 989. Ад урокаў

Сяло-весяло, маё дзіцятка весялі. Яно не знае, ці тут напечана, ці тут наварана. Каб яно не знала ні ўроку, ні прыстрэку, ні падзіўку.

## 990. Ад нарадкі

Сонейкам асвяцісь, месяцам агарадзісь. На мядзведзю еду, сталь барэцка, штоб на мяне ніхто не гаварыў славечка.

## 991. Ад прымаўкі

Прымаўка, прымаўка, не хадзі па касцях, не ганяй ты маёй крыві, а йдзі ў чыста поле — зловіш там трое.

## 992. Ад урокаў («ад дзяцінца»)

У святую нядзельку памінаючы, а каго лечыш, успамінаючы. Первым разам, лепшым часам. Белы свет, на белым свеце сіне мора, на сінем моры стаіць слуп, на том слупе чорна пціца з сябе шэрсць адкідае. Урокі, улёкі, усё ліхое з галавы, з усіх касцей, з усіх нутрэй, з усіх печаней, ад белае касці, з чорнае крыві, ад русых косак, ад чорных вочак і ад слоў яго. Госпада з помаччу, сахрані, Госпадзі, ад усяго ліхога, ад чараўніка, ад чараўніцы.

## 993. Ад нагавору

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Прачыста Божа маці на прэстоле стаяла, нагавор шаптала.

Нагавор, нагавор, ідзі на папоў двор. Там ложа засцілана. На ёй поп і пападдзя перакачваюцца, пераменжваюцца, цалуюцца, мілуюцца. Да ўпаў сівы конь, да ўпала ад (імя) возка, праклён і нагавор. Нагавору не бываці, у холад і гарачку не шыбаці, за галоўку не браць, піць і есці не заступаць ні ў маладзік, ні схода, ні ў падкоўцы, зроду ніколі.

## 994. Ад уроку (карове)

Вадзіца-царыца, бегла ты з мора сы вастока, будзе табе слава да века, змывала ты сырое карэнне, белае каменне, так ізмый етай карове (трэба сказаць етай каровы масць) урокі, прыгаво-

ры прыдуманыя, прыгаданыя, прысмешныя, натужныя, наносныя, вадзяныя, ветраныя. Вам, урокам, не бываці, па жылках малака не разганяці, цела не сушыць, сэрца не знабіць. Выйдзі ж ты, урок, з касцей, з мясцей, з ярых ачэй, з буйныя галавы, з жоўтыя крыві, з рыжага мяса, з белага вымя, з усіх жылачак у етай каровы (гаварыць масць).

Цякла рэчка чэраз мора, прабівала каменныя берага, прапускала ключы вадзяныя. Так прапусці етай карове ключы малачавыя, пабочныя, падбрушныя, бакавыя, задавыя. Як у крыніцах і ў азёрах і ў калодзезях вадзіца прыбывала, так прыбудзь у етай каровы малачко з жылачак у вымячка, з вымячка у цыцачкі, з цыцачак у даёначку рабе божай (імя сваё). Яна цябе кормя, яна цябе поя, яна табе дабра жалая. Прылюбі, Госпадзі, мой дух. Амінь.

## 995. Ад урокаў худобе

Госпаду Богу памалюсь, святой Прачыстай пакланюсь. Свята Прачыста маці, прыступі ўроку шаптаці.

Выскаквае маладзік з арэхавага куста, з арэхавага ядра. Ен не можа ні чытаць, ні пісаць, толькі можа адны ўрокі гаварыць. Як на сінім моры вадзе ні западаць, ні прыбываць, так рабой карове ўрокам не стаць. Як мой дух ціхенькі, лёгенькі, добранькі, дай, Госпадзі, помач. Я словамі, гасподзен дух.

## 996. Ад уроку карове

На мяжы стаіць ігрушка, пад таею ігрушкаю столікі засціланы, сядзіць тры паны. Што ж тым панам даці: аднаму штанэ, другому сарочку, а трэцяму мачку, каб не было ў маёй кароўкі ўрачку.

## 997. Ад урокаў (карове)

Прашу вячэрнія зоры, абеднія, святога дзянёчка, ці матчын урок, ці бабчын, ці дзедкаў, ці таткаў, ці з чорных, ці з белых, ці з хлапоцкіх, ці з дзявоцкіх, ці з бабскіх, ці з мужчынскіх. Хлапоцкія пад картуз, дзявоцкія пад платок, бабскія пад чапец, мужчынскія пад шапку. Мы ўсе ўрокі знімаем, на сіня мора пасылаем. На сінім моры дуб зялёны, сядзіць тры дзявіцы. Адна віна варыць, другая ўрок знімая, а трэцяя на сіня мора адпраўляя. Уроку не стаяць, а рабай цёлкі касці не ламаць.

## 998. Ад уроку (карове)

Кароўка мая, паганяю цябе. У чыстым полі крыніца, парасла шаўкова травіца. Табе, кароўка, шаўкову траву з'ядаці, крынічну ваду папіваці, а мне прынесці малачка поўныя бачка — і з ног, і з рог. Ты, мая кароўка, зубкамі адкусіся. Хвосцік твой, як мяцёлка, са злымі вачамі не сустракайся.

## 999. Ад урокаў карове

На сінім моры, на Сіян-востраве шоўкавая травічка. Там мая кароўка ходзіць з рожкамі, шаўковую травічку з'ядае, Юр'еву расіцу співае, беленькае малачко ў вымцы сабірае із густымі вяршкамі, цвёрдымі тваражкамі, жоўтымі маселцамі.

Хто маю карову ўрачае — кроў яму на вочы навалачае. Ні будзь, мая кароўка, урочна, да будзь, мая кароўка, малочна. Хто маю кароўку ўрачае — кроў яму на вочы навалачае.

Сарока на кол прылятала. Сколькі сароцы на калу пабываць, столькі ў мае кароўкі ўроку пабываць. Сарока з кола зляцела — з мае кароўкі таварачыя ўрокі знімала: мужчынскія, жаноцкія, хлапоцкія, дзявоцкія і дзяціныя ізнімае, на сіняе мора іссылае.

На сінім моры ляжаў камень. На тым камні сядзіць воран, жоўтыя пяскі разграбае і з мае кароўкі таварачыя ўрокі ізнімае, на сіня мора ссылае. На сінім моры вада прыбывала, у рэках, у жыўцах, у калодцах вада прыбывала, так у маей кароўкі ў вымцы малачко прыбывала, штоб яго век вяком ведзьма ні з'ядала.

## 1000. Ад урокаў

Ідзе мацер Божыя залатымі мастамі людзей ратаваці, ад кароў урокі выганяці; каб наша карова жыла, гадавалася, урокаў не баялася, боль знішчалася, у цяльё прыбаўлялася, і ў малако прыбаўлялася, і ў цела прыбаўлялася.

## 1001. Ад стацця, прытчы

Прашу Госпада Бога і Духа Святога, стань, Бог, у помач, ангалы, на радась і пасабіця мне вымераць, выгавараваць з раба божага і стаццё і прытчо — стаццё вадзяное, стаццё земляное, стаццё ветраное, стаццё агняное: земляное ў зямлю, а вадзяное ў ваду, а агняное на 'гонь, а ветраное на вецер. Тут табе ня быць і раба божага ня сушыць. Чурайся, адракайся раба божага Іваньку.

## 1002. Ад сценю

Быў я ў матушкі сорак нядзель; ня відаў я ні божжага свету, ні прасовага парэзу, ні тапорнага замаху, ні краснага сонца, ні яснага месяца. Злато залатое, сэрца маё, сцень медзяны, душысь. Амін.

## 1003. Ад падвею («Пудвей»)

Ехаў Пудвей да на дзевяці каней, а з дзевяці на васемі, а з васемі на сямі, а з сямі на шасці, а з шасці на пяці, а з пяці на чатырох, а з чатырох да й на трох, а з трох да й на двух, а з двух да на адном. Адзін упаў да й прапаў, з хаты дымам, а з двара ветрам, і дзе людзі не ходзяць, дзеціній (пеўнеў) голас не заносіць, і дзе луна не даходзіць, і дзе сонейка не свеціць, і дзе хлопец тапаром не рубае і дзеўка касой не махае. Там табе напітацца, там табе нагуляцца, ад чыстаплоднай раджонай рабы божай (імя) адчапіцца.

## 1004. Ад падвею («Падвей»)

Ехаў цыган на чорным кане ў чорным жупане, чорнаю нагайкаю каня паганяе. За 99 граніц бабу страчае.

— Куды ты, цыган, едзеш?

— К Валі рабо божай у двор.

— Не едзь ты к рабо божай Валі ў двор, а едзь ты ў старшыноў двор. Там сталы засланыя, кубкі налітыя, ложкі раскладзены і слонцы папрыкаваныя і коні запраганыя. Даўно п'юць, гуляюць, на сіву кабылу спамінаюць.

І быў сабе Самсон да меў сем жон. Да з сямі шэсць, з шасці пяць, з пяці чатыры, з чатырох тры, з трох дзве, з дзвюх адну, з адной ні адну. Да на землю ўпаў да падвей прапаў.

Падвейно вражэ чалавечэ, чаго ж ты схапіўся, чаго ж ты збуяўся: ці ты з ветру, ці ты з пяску, ці ты з вады, ці ты з агню, ці ты насланы? Як із ветру, то за ветрам, як із пяску, то за пяском, вадзяны, то за вадою, а насланы, то за злым чалавекам. Падвею, ідзі ты ў чыстае поле. Там стаіць асінка. Асінаю трасі, а голлем трасі, да там западзі, да ад (імя) адчапіся.

## 1005. «Як віцёр падвіе»

Віцёр, віцёр, дзе ты ўстрэў — у марозі, у дарозі, з якей ты хмары — чорныі, білыі, сівыі, гнідэі, палавэі, крутавэі, снігавэі,

баравэі, касцянэі, пісчанэі, вадзянэі? Дзе ты завіяў — на заход, на ўзыход, на заход ці на поўдзень? Ідзі ты ў чужы край, а мне на здароўічко дай.

## 1006. Ад падвею («Пудвей»)

Госпаду Богу памалюся, Божай мацеры пакланюся. Госпадзі, памажы пудвей шаптаці.

У чыстом полі тры браты стаялі. Воны не касілі, не аралі, толька буйны ветры разганялі. Прыходзілі тры сястрыцы. Узялі еты пудвей, раскацілі, размялі, па чыстаму полю разняслі. А ты, нячысты нячысцік, чаго ж ты к ёму падкаціўся. Ты з паганага ўмуваўся, ты паганым запаразаўся. Ты ў (імя) не бувай, косці не ламай, жывот не ўздувай, пуд грудзі не пудварачай, есці не закрывай да ідзі ў чыста поле пагуляй, у цёмныя ляса, на сінія мара. У сінім моры вады напіся, у моры ўтапіся, а ад (імя) цела адкаціся.

Божэ, памажы, Божэ, памажы, Божэ, памажы!

## 1007. Ад падвею

На сінім моры ляжыць белы камянь, на тым камяні стаіць дуб на двананцаць какатоў, на тых какатах сідзяць двананцаць ангалоў, дзержаць яны па двананцаць прутоў сталяных, адсякаюць, адбіваюць ад рабы божыя ўсіх наглых урагоў і злыя ветры падвеі, буры злыя.

## 1008. Ад падвею

На сінім моры віхрава матка гуляла. Парадзіла на той бок сіняга мора дванаццаць сыноў. Пасылала на еты бок сіняга мора, штоб яны пілі, гулялі і там раба божага (імя чалавека, ці такога-та каня, ці каровы) падбівалі.

На моры-акіяне, востраве Буяне стаіць дуб на дванаццаць каранёў, на дванаццаць какатоў, на тых какатах па дванаццаць гняздоў, у тых гняздах па дванаццаць віхроў. Адзін віхр старшы. Срадзі поля стаіць кусток, вышчыкну лісток. Буду я цябе цяці, будзеш ты дагары сцаць, і буду я цябе трыма дубцамі высякаць і з сярэдзіны, з жывата (імя) злога духа выганяць.

Угавараю, умаўляю на тры гады, за тры гары, за мхі, балоты, за ніцыя лозы, за крутыя горы. Там табе піць і гуляць і ўцяшацца, у (імя) не стаяць. Патуль ты хадзіў, косці ламіў, гарачку паліў, пакуль я прыступіла із словам, Бог з помаччу. Прымі мой ціхі дух.

## 1009. Ад падвею

Госпаду Богу памалюся, Ісусу Хрысту пакланюся, і табе, ветру ціху. Вазьмі ты, вецяр ціхі, ад раба божага ветравое ліха, ідзе ты гуляў, ідзе ты буяў, ідзе раба божага сустракаў — што ты яму даў, штоб назад адабраў. Правялікі гаспадзін Дамавы, правялікі гаспадзін Палявы, правялікі гаспадзін Лесавы, правялікі гаспадзін Баравы, правялікі гаспадзін Лугавы! Правялікі гаспадзін палявы Антоні, лугавы Хвядосі, баравы Стахвані, безыменьшчык Лесавы, маці Маланьня правялікая гаспадыня! Прасі сваіх сыноў, каторы нам шкоду здзелаў! Ты ж іх раджала, ты ж іх упрашала. І па Сіяньскай гарэ ішоў святы Пятро-Павял з сваімі святымі апосталамі, стрэў ветра ціха і прыказаў ветру ціху: адбяры ад раба божага ета ветравое ліха! Я ж цябе стану ўпрашаці, і ўхаджаці, і ўяднаці, з буйной галавы шум і агонь выганяці і гаручую кроў разбіваці, а цябе, ветравое ліха, з сярэдзіны, з жывата выганяці і па чыстых палях пасылаці, па густых бур'янах гуляці.

## 1010. Ад падвею

Прачыстая ішла, ключы пагубіла, а соўнейка ішло ды ключы найшло. А месячык стаў ды на месце кроў пастаў. Ды святыя звёздачкі, Пранасвенчая матачка па небу хадзіла, свайго сыночка за ручку вадзіла ад касцёла да касцёла і на прыстоле садзіла, у Хрысціны падвей лячыла. А падвей з усходу і да захаду, і з поўначы да поўдня.

## 1011. Ад падвею

На сінім моры камень плыве, на тым камені залата цэрква стаіць, а ў той цэркві залаты прыстол. На том прыстолі тры чашы стаіць, Ісус Хрыстос сідзіць, із дзвюх чашэй мёд-віно пераліваe, а з трэцяй падвей выганяе. Ідзі ты, падвею, на горы крутыя, на рэкі быстрыя, на лясы драмучыя, на мхі густыя. Там жа табе пяскі перасыпаці, ваду пераліваці, мхі рваці і лес ламаці, да рабы божай Валі не бываці.

Ісчэзні воск ад агня, так ісчэзні, падвей, ад меня.

## 1012. Ад падвею

Упрашаю, умаляю Госпада Бога і Духа Святога, васкрэснага дзянька святога Вялічка, дай рады — помацы, дай ратунак ад усякага зла. Архаіла Міхаіла, Антоні і Хвядосі, кіяўськія і пячэрськія, станьця ж вы на помач, ангалы на радась.

Ёсь на моры белы камянь, на камяні стаіць цэркаўка, а ў той цэркаўцы сам Гасподзь Бог сядзіць, цвяты расцветаюць, ангалі песьні ўспяваюць. Прынайсвеншая матка па мору хадзіла, тры і дзевяць ключыкаў насіла, замыкала й упрашала і дванаццаць вятроў, дванаццаць братоў, упрашала і ўмаляла, да раба божага ня дапушчала. Стань, Бог, у помач, ангалі, на радась, дай рады — помацы, дай ратунак ад усякага зла!

## 1013. Ад «нарадкі» (ад чараў, «ад ветру»)

Госпаду Богу памалюсь, Божай мацеры пакланюсь. Стань, Бож'я мацер, на помашч. Бож'я памочніца, і ты, вадзіца-царыца, стань-ка на помашч.

Устану раненька, памыюсь бяленька, солнышкам агаражусь, месяцам падпеl ражусь, пайду ў горад Русалім. У горадзе Русаліме стаіць царскі дварэц, на том царскім дварцэ стаіць тры прэстола, на тых прэстолах маць Прачыстая сядзіць і трыста залатых ключэй дзяржыць. Замкні, мама, злому зубы і губы залатымі ключамі. Хто Надзьку хоча з'есць, тот пусць вынет жылле, пажылле, лёгкая, серца, гарачую кроў і занясёт у горад Русалім і пакладзёт пад камень пад кірпіч проціў царскіх варот. Как ані не могуць з сябе выняць жылля і пажылля, лёгкія, серца, гарачу кроў, так ані не могуць Надзькі з'есць.

## 1014. Ад ветру (ад калдаўства)

Выходжу я на поле, на шырокае раздолле. У чыстым полі, на шырокам раздоллі стаіць гара. На той гарэ — пастаўская цэркаў, у той цэркві — маць Прасвятая Благародзіца. Падайду к цібе пабліжа, пакланюсь паніжа. Служыце мне службу, не ў службу, а ў дружбу. Зніміце з гэтай Надзькі пазяўство і пацягаўства, а семдзесят жыл і семдзесят пажыл, ад бабкі-касматкі, дзеўкі-самакруткі. Будзьце маі слава крэпкі і ліпкі, крэпча замка, крэпча камня. Замок замкаю, ключ у ваду кідаю. Мой ключ ніхто не найдзёць і замок не адамкнёць. Амін ад ветра.

## 1015. Ад ветру

Зорка-заранiца, господняя памашнiца, святая пятнiца (дзень шаптання). На сiнем моры ляжыць камень — адзiн метр шырыня, сорак сажняў глыбiня, на iм стаяў сам Гасподзь Бог, залатым кiем апершы. Пад тым камнем ляжыць дзевяць камней. Стала камня не ўзняць, ключэй з мора не дастаць i не адамкнуць, так чарадзею, чарадзейцы ў мора вады не пажыраць, так у (iмя) болi не бываць, выходзьце з (iмя) голыя, босыя, касматыя, лахматыя, лесавыя, балотныя, ветраныя, дваровыя, палуношныя, заравыя — ветры злыя, ваша тут не сiла, не воля, а Божай мацер господней помашч. Па касцях не хадзiце, гарачую кроў не палiце, рацiвага сэрца не знабiце; iдзiце на сухiя лясы, сiнiя мара i жоўтыя пяскi, там вам качацца, валяцца i к (iмя) не вазврашчацца. Амiнь.

## 1016. Ад падвею

Госпаду Богу памалюся, Сусу Хрысту пакланюся. У горадзi Градзi там мамка Прачыстая службу служыла, за раба божага Бога прасiла. Раб божы па землях ухаджаў, i лiхi яго раб сустракаў i лiхое лiха яму ў серадзiну, у жывот, у сэрца ўганяў: сэрца сушыць, косцi ламiць, ногi й руку крушыць. Я, раба божая Прося (iмя знахаркi), па зямле ўхаджала, лiхога раба сустракала i ўпрашала: слух ты раб, датуля ж ты стаяў, як я цябе ня ўхаджала i ня ўпрашала; а цяпер стала ўхаджаць i ўпрашаць, мамку Прачыстую на помач прызываць. Iшла мамка Прачыстая i прыстала; прысеўшы, заснула. Прыйшоў к ёй сам Сус Хрыстос:

— Чаго ж ты, мамка Прачыстая, васнула?

— Буйны вецяр галаву мне раздуў i ў буйную галаву шуму нагнаў! А я ж з буйныя галавы шум выганяю, з сярэдзiны, з жывата нарадку высылаю на мхi, на балаты, iдзе людзi ня ходзяць i пеўнi не пяюць. Там табе пачываць, на раба божага забываць.

## 1017. Ад наслання, нарадкi («Враз»)

За первым разам, за божым расказам шла Прачыста Божа мацi враза вымаўляцi. Вразочку, вразочку, стань пад дубком, як пад пяньком. Тут табе ядзеннечка, тут табе ляценнечка, срэбная ложачка, пуховая падушачка. Як ты хадзiў, косцi ламаў, жылы смактаў, спацi не даваў, цяпер я Госпада Бога прасю i матэнкi Божае, каб ты на шэсцi стаў, касцей не ламаў, жыл не смактаў,

із сініх жыл, із белых касцей, із румянага ліца. І сама гавару, Госпада Бога прасю: Госпадзі, прыступі, памажы.

### 1018. Ад нарадкі

Іду дарогаю шырокаю, стракаю звера і на звера саджуся і зверам паганяю. І еду ў палі ў шырокія, у далёкія, у глыбокія. У тых у палях у шырокіх, у далёкіх жоўтыя пяскі. На тых на пясках на жоўтых ляжыць белы камень. На том камні ваўкі, змяї гуляюць і етай (каго лечаць) балезь дапамагаюць. Ну, вы з хлопцамі гуляйце, а етай (імя) балезь дапамагайце. Хто ёй даваў, таму нясіце, таго прасіце, не давайце ні спаць, ні ляжаць, ні гуляць, толькі гэту балезь дапамагаць. Заганяйце ў грабавую даску, накіньце яму цёмную таску, штоб ён ні піў, ні еў, таскаваў, (імя) балезь дапамагаў.

### 1019. Ад нарадкі

Угаманяю, угавараю: з касцей, з машчэй, з чорных печаней, з жыл і з пажыл, і з рук, і з ног, з русых валос, з галубых вачэй,— на бярозу адсылаю. Табе, бяроза, не красавацца, даліны не красіць, і кораня не мець, і вотпрыскаў не пускаць, і галлём не матаць, і лістам не шумець — табе нароблена хвароба.

### 1020. Ад ляку

Первым разам, господнім часам, я з словамі, а Гасподзь з помаччу. Прыступі ка мне, царыца нябесна Багародзіца, і памажы мне ляк выгаварываць.

Добры дзень табе, ляк, ты сцень, не хадзі, ты, ляк, ні ўначы, ні ўдзень. Завяжы ты свае вочы, не хадзі ты ні ўдзень, ні ўночы, ляк ты каціны, гусіны, сабачы, авечы, чалавечы, цыганскі, жыдоўскі. Адчаго ты, ляк, узняўся: ці ты з вады, ці ты з зямлі, ці ты з уроку, ці з прыгавору? Выйдзі ты, ляк, з касцей, з мясцей, з ярых ачэй, з буйныя галавы, з жоўтыя крыві, з румянага ліца, з радзімага жывата, і з рук, і з ног, з ўсіх жылачак раба божага (імя). Тады ж ты, ляк, пужаў, і паліў, і смаліў, і спакою не даваў, як мяне не знаў. А як стаў жа ты мяне знаць, рабу божую (сваё імя гавары), перастань жа ты хрысціянскіх дзяцей пужаць і рабу божаму спакою не даваць і прыстрэкі наганяць. Пастаў жа ты, Госпадзі, балезь лёгкую, як мой дух.

## 1021. Ад спужання

Начныя, вячэрнія, раннія, паўночныя, паўднёвыя, дзянныя, мужчынскія, жаночыя, хлапецкія, дзявочыя, ваўчыныя, матчыныя, із ног, із рук, і з ног з калень, з сярэдзіны, з галавы, з русага валаса, з вачэй, бравей рассылаю балезні на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, дзе вятры не веюць, дзе сонца не грэіць, дзе курыны голас не заходзіць. Так ім аставацца, растушавацца.

## 1022. Ад ляку

Первым разам, божым часам, Госпада Бога ўмаляючы і святых угоднікаў божых упрашаючы. Святыя ўгоднікі божыя, прыходзьце мне на помач рабе божай Палагеі (імя таго, хто лечыць) Насці ляк загаворваць: і труслівы, і калатлівы, і патлівы, і сярлівы, і дрысlівы, і сухі, і ліхі, і мядзведжы, і чалавечы, і конскі, і кароўскі, і сабачы, і кашэчы, і бацькаў, і матчын, і ветравы, і агнявы. Каб табе ў Насці у галаве не стаяць, не хадзіць, сэрца і нервы не знабіць, выгаварваю з Насці ляк і з касцей, і з машчэй, і з румянага ліца, і з шчырага сэрца, і з гарачае крыві, і з жоўтай касці, з сямідзесяці жылак, з сарака суставаў, і ссылаю я цябе, ляк, на маха, на балота, на ніцыя лозы. Рассыпся там, ляк, на дробны мак. Хай цябе дзікія звяры пазбіраюць і больш да (імя) не пасылаюць.

У святым храме мацер Божая вычытвала Насцін ляк з белага ліца, з буйнай галавы, з краснага языка, з больнага жывата. Вычытвала ляк, страснымі свечкамі выпальвала і выжыгала, і ссылала мацер Божая Насцін ляк у чыстае поле. У чыстым полі пры дарозе стаіць белая бяроза. Разрэжце Насцін ляк на белай бярозе, распаліце агнямі, рассячыце нажамі, развейце вятрамі. І ссылаю Насцін ляк на цёмныя лясы, дзе сонца не грэе, дзе вецер не вее; там на сухім дрэве ты пасяляйся, на мокрых балотах красуйся, развівайся, больш да Насці не варачайся ні ранішняй парой, ні вячэрняй, ні паўдзённай, ні паўночнай.

## 1023. Ад ляку

Ранняй зарою, добрай парою. Зоры-заранiцы, божыя памашніцы, прыступіце, пaмажыце рабе божай (імя) дзяцінец-іспуг угаварваць з буйнай галавы, з жоўтай касці, з румянага цела, з гарачай крыві.

За гарамі, за марамі, там стаяць прыстолы засланы, там дзяцінцу-іспугу піць і гуляць, рабу божую (імя) не займаць,

касці не ламаць, жывата не пушыць, сэрца не знабіць.

Я словам, Бог з помаччу. Госпадзі, любі мой дух. Рабе божай (імя) на здароўе.

### 1024. Ад ляку

Первым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, святой мацеры Прачыстай кланяюся.

У нядзелечку рана-паранесеньку сонечка ўсходзя, расіца ападая, на лякі асядая. Тут вам, лякі, не хадзіць, крамнога мяса не знабіць. Божую маці на помач жалаю. Божая маці малітву чытала, там рабе божай (імя) лякі выгаварувала: і балючыя, і калючыя, і нудлівыя, і труслівыя, і сярлівыя, і сцыклівыя, і бяссонныя. Выгаварыю з касцей, з машчэй, з яркіх вачэй, з румянага ліца, з шчырага сэрца, з жоўтай касці, з гарачай крыві. І выгаварую дзвянаццаць лякаў, дзвянаццаць пералякаў, дзвянаццаць дзяцінцаў, дзвянаццаць радзімцаў, і выгаварую з касцей, з машчэй, з яркіх вачэй, з румянага ліца, шчырага сэрца, з жоўтай касці, з гарачай крыві, з семдзесят сем жылак і сорак суставаў. ~~Тут вам, ля~~кі, не хадзіць, крамнога мяса не знабіць і касцей не сушыць, жывата не пушыць і сэрца не знабіць, і крыві не піць. І зганяю вас на мора, на каламора. На том моры стаяў дуб на дзвянаццаць какатоў, там стаяла дзвянаццаць сталоў. За тымі сталамі сядзела дзвянаццаць пісароў. Нічога не параблялі, рабе божай Матроне (ці каму) лякі выгаварувалі, вычытувалі, выпісувалі. Птацкі прылятаді, дзюбкамі выдоўбвалі, когцікамі выдрапывалі з заногцікаў і закогцікаў, з краснага мяса.

Сам Гасподзь з помаччу, а я з духам. Госпадзі, прымі мой дух, амін.

### 1025. Ад усяго (болей ляку)

Первым разам, добрым часам Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай Божай мацеры пакланюся.

Зоры-зараніцы, Гасподнія раняшнія, палудзяняшнія, нашныя, прыступіце, мой дух палюбіце, раджоны, хрышчоны, малітвай Мар'і зляку лячыць.

Вочы серыя і вочы чыстыя, галаньскія, дуньскія, мужыцкія, жаноцкія, дзявоцкія, парабоцкія. Серыя вочы падуманыя, пагаданыя, пасьпітныя, падбойныя, падгаворныя, пахадзяшчыя, рабацяшчыя, і злякі, і ўрокі, прыстрэкі, перапалохі не адкідаю, Госпадзі!

На маладзіковых дзянёчках, на сходніх гасподніх божых ча-

сочках, на маладзіку, пад поўна, перакрой на старую, я ж табе да помачы, сам Ісус Хрыстос табе да помачы.

Ехала Прачыстая Божая маці цераз сіня мора з трыма мячамі, з таўтом (?), з залатым крастом. На том жа моры, на белым камені стаіць дуб, на тым дубе дванаццаць какацей, на тых какацях дванаццаць арлей. Арлы, арлы, прыляціце, вазьміце зляк рабы божай Мар'і з касці, з машчы, з салодкага мозгу, з румянага ліца. Нясіце яго за чарата, за балата, за ніцыя лозы, за крутыя горы. Там яму напіткі, наедкі, сталы засціланыя, кубкі наліваныя, срэбныя ложачкі пакладаныя. Тут яму не стаяць і жару-гарачку не пакідаць, касці не ламаць, жыл не напінаць.

Умаўляю, угаварaю з касці, з машчы, з салодкага мозгу, з румянага ліца, і з сініх жыл, і з чорнай крыві, і з буйнай галавы, і з вушэй і з нутрэй, і з жалудка, печаней.

Ішло тры янгалы, ліцо ў ліцо ўліцаваныя і янгалскімі песнямі спяваныя. Я з духам, Гаспод із помаччу, я з духам, Гаспод із помаччу, маі слава — гасподні дух.

## 1026. Ад пярэпалаху

Пярэпалах вадзяны, цянны, сляпяны, маляны, пярэпалах мужчынскі, пярэпалах жаночы, пярэпалах хлапечы, пярэпалах дзявочы, пярэпалах гавяжы, пярэпалах конскі, пярэпалах свінны, пярэпалах вуціны, пярэпалах курыны, пярэпалах сабачы. Скаціся, пярэпалах, з жыватка на крутыя горы, на быстрыя рэкі, на цёмныя лугі, на зялёну смародзінку; расклявaці, разграбаці, пярэпалаху не бываці, а (каго лечыш) прастор даці.

## 1027. Ад спугу

Госпаду Богу памолімся і святому вакрасенню паклонімся.

Угаварую, упрашую спуг, спуг бацькоўскі, спуг авечы, спуг чалавечы, спуг сабачы, спуг парасячы, спуг ветраны, спуг вадзяны. Па касці не хадзі, касці не ламі, жывата не тамі, сэрца не сушы. Дай жа, Госпадзі, гэтай (імя) на помач, з буйнай галавы, з русых валасоў, з чорных брывей, з шырокіх вачэй, з румянага ліца і з шчырага сэрца, і з краснай крыві, з жоўтых касцей, і з ножак, ручак, і з жылля, пажылля. Патуль ты таміла, патуль ты ламіла, пакуль я цябе ні ўгаварыла. Угавараю спуг, спуг бацькоўскі, спуг мацькоўскі, спуг авечы, спуг чалавечы, спуг сабачы, спуг казіны, спуг каціны, спуг парасячы, спуг ветраны, спуг вадзяны. Угавараю, умаляю, на быстрыя воды пасылаю, на жоўтыя пяскі, на зялёныя травы.

На моры, на акіяне стаяла ліпа. Пад той ліпай сталы пазасціланы, кубкі паналіваны, тры дзявіцы, тры сястрыцы п'юць і гуляюць і ў (імя) спуг выбіраюць.

Маць Прачыстая ішла, залатым кіёчкам падпіралася і з Госпадам Богам пастрачалася.

— Маць Прачыстая, куды ты ідзеш?

— Іду ў рабы божае (імя) спуг выбіраць. Спуг авечы, спуг чалавечы, спуг скацінны, спуг сабачы, парасячы, спуг вадзяны, спуг ветраны. На быстрыя воды, на вячэрнія зоры, на ранішнія зоры. Пакуль вячэрнія зоры патухаюць, то ў (імя) балезнь пакідаюць.

## 1028. Ад упуду

Загаворваю ад упуду, ад буйной галавы, ад тонкіх валасоў, ад светлых вачэй, ад чуткіх вушэй, ад белага ліца, ад грудзей, ад жывата, ад рук, ад ног, ад накцей, ад лакцей, ад дзвесці жылей, адыйдзь ад Анюты ўвесь упуд проч!

Амінь, амінь, амінь!

## 1029. Ад ляку

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Прачыста Божа маці, прыйдзі к рабе божай (імя), дапамогу прынясі.

Кіеўскія і пячорскія ўсе святыя прападобнікі, прыступіце-дапамажыце рабе божай ляк качаці-ўгаварації. Качаю-ўгавараю ад пальчыкаў да сустаўчыкаў, ад когцікаў да локцікаў бацькаў ляк, мацярын, дзявочы, парабочы, панскі, цыганскі, жыдоўскі, яўрэйскі, каровячы, валовячы, сабачы, парасячы, курыны, качыны і, наканец, птушыны. З хаты дымам «пху» (тры разы) ляці, а з двара ветрам (тры разы).

## 1030. Ад ляку, спуду, сцені

Святы аўторак, ранная зара, вутча-прытча, усякае лякання да на гэта пасявання — цепляное, ветраное, вадзяное, лесавое, жаноцкае, мужчыньскае, хлапяцкае, дзявоцкае. Выкачую, выгладжую, на сыру зямлю кідаю, Госпада Бога ўпрашаю: Госпадзі, не гнявіся, Сус Хрыстос, на помач станавіся.

## 1031. Ад ляку

Першым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, мацеры Прачыстай святой прыкланюся і ўсім угоднічкам божым, кіеўскім, пячэрскім, самаму Госпаду Ісусу Хрысту. Сам Гасподзь Ісус Хрыстос, памажы ты раба божай (імя) ляк выгаварываць: ляк прыстрэшны, прыгаворны, падымны, падзіўны, пасмешны, жаноцкі, парабоцкі, хлапоцкі, дзявоцкі, мяшчанскі, цыганьскі, маскоўські, жыдоўські, папоўські, мужчынські, бабські, удавіны, авечы, чалавечы, коньскі, кароўські, сабачы, жарабячы, цялячы, ваўчыны, зайчыны, кацiны, дзяціны, вераб'іны. Датуля ж ты, ляк, быў у раба божай (імя), дакуль я цябе не знала. Стала цябе знаць, стала цябе выгаварацъ, умаляць, упрашаць, на цёмны лес пасылаць. Тут табе не бываць, тут табе не гуляць, у раба божай (імя) касцей не ламаць, гарачай крыві не разліваць, сэрца не знабіць, па касцям не хадзіць і касцей не ламаць. Пасылаю я цябе, ляк, на цёмны лес, на крутую гару. Там дзеўкі гуляюць, віном чары наліваюць, цябе ў госці дажыдаюць. Ідзі ж ты, ляк, туды к ім. Там табе будзе піценне, ядзенне, спанне, гулянне, лёгкае прапітанне.

Я не знаю, сам Гасподзь Бог знае і нам памагае. Я словам, а Гасподзь Бог з помаччу і Святым Духам.

## 1032. Ад пужання

Першым разам, добрым часам, не сама сабою — гасподняю думою, ранняя (вячэрняя) зарыца, гасподняя (усяму беламу свету) памачніца, угаворваю Надзькі пужанне — з кашчэй, з машчэй, з сухіх жыл, з пажыл, з буйнай галавы, з ярых воч, з чорных бравей. Па касцях не хадзіці, касцей не ламіці. І ўгаворваю з Надзькі пужанне: конскае, жарабячае, кароўскае, цілячае, авечае, ягнячае, свінячае, парасячае, кацячае, кацянячае, Калючую, балючую, з цёплага мяса, з гарачай крыві, з рэцівога серца — бацькіна, маткіна, братняе, сёстрына, дзядзькіна, цёткіна, ад старых людзей, ад малых дзяцей, калючую, балючую, палючую. Выгаварываю на махах, на балотах, на гнілых калодах. Там ламіць і крышыць, рэцівога серца іссушыць, і каго не памяну — пускай сам Гасподзь памянець, Надзькі помач даець. Маці цябе нарадзіла — маці цябе і атхадзіла.

## 1033. Ад пужання

Госпаду Богу памалюся і Прачыстай мамцы пакланюся і ўсім святым апосталам, станьце мне на помач, маць Прачыстая, на радасць.

Выказую, выгаварую пужанне, зляканне коньскае, кароўскае, авечае, цялячае, парасячае, гадзючае, белаччае, ласінае, ваўчынае, мядзведжае. І бацькава і маткіна, і жыдоўськае, і баярськае, і цыганськае. І з буйныя галавы, і з шчырага сэрца, і з бальшога каўбуха, з касцей, з палукасцей. Ідзі, пужання, зліканння, на шчырыя бара, на крутыя берага, на жоўтыя пяска. Там столікі засціланыя, кубкі наліваныя, піццяннё-едзяннё, пярэпалаха ў госці ждуць. Там табе гуляць і буяць, і раскошу прынімаць. А мой душок прынімі ціхенькі, лягенькі. Дай Госпадзі (каму шэпчаш) на помач.

## 1034. Ад ляку

Первым разочкам, добрым часочкам прашу Госпада Бога і Духа Святога.

У цара дзевяць сыноў, з дзевяці васьмі, з васьмі сямі, з сямі шасці, з шасці пяці, з пяці чатырох, з чатырох трох, з трох двох, з двох аднаго, з аднаго ніводнага. Хай не будзе ў рабы божай (імя) пужання ніводнае: калючае, балючае, ламучае, урошнае, прыгаворна, уцешна, смешна, уракана, улякана, падзіўна, падумна, пагадна, жаноча, дзявоча, мужчынска, бабська. Тут табе не хадзіць, галоўкі не паліць, сэрца не знабіць, вочак не цямніць, вушак не глушыць, кроў не марыць, жоўту косць не сушыць. Датуль жа ты хадзіла, пакуль Агата прыступіла і ўгаварыла сваімі славамі, гасподнімі думамі. Дай Бог у добры час. Мая пара, вячэрняя (ранішняя) зара (хукаць).

## 1035. Ад ляку

Зоры-зараніцы, божыя памачніцы! Памажыце (імя) зляку гаварыці — кацінага, вуцінага, сабачага, з усякіх пташах ізнімаю, на сіне мора іссылаю. На сінем моры кубкі наліваныя, сталы засціланыя. Там табе гуляць, там табе шармаваць, свайго веку дажываць; у (імя) косці не ламаць, жывата не сушыць, сэрца не ташніць. Ідзі ты, зляк, на крутыя горы, на быстрыя рэкі, на сухія лозы, на ніцыя балоты.

## 1036. Ад пярэпалаху

Першым разам, добрым часам, не я ж падзімаю, да матка Хрыстова, усякі волас: мужчыньскі, жаноцкі, гаўяджы, быдляджы, свінячы, заечы, птушэчы, мядзведжы, воўчы, нудлівы, санлівы, саплівы; табе не хадзіці і касцей не ламіці. Патуль ты мучыў, пакуль ты скучыў. Госпад да помачы; як Бог паможа, так і я памагу.

## 1037. Ад ляку, упуду, сцені

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матары пакланюся і ўсім святым прападобным кіяўськім, пячэрськім Антонію і Хвядосію,— станьця ўсе на помач ляк шаптаць. І вышэптую яго і счосаваю, і жэньскі і музскі, і дзявоцкі і парабоцкі, ветравы, зямляны, вадзяны, коньскі, каровяччы, і свінны і авеччы, гусіны, курыны, сабаччы і кашаччы. І ссылаю цябе, ляк: забярыцця ляк бабы ў чапцы, мужчыны ў шапкі, дзеўкі ў косы, хлопцы ў магеркі; вятравы на вецяр ляці, зямляны на зямлю ўпадзі, вадзяны на вадзе плыві; каню ў ногі, карові ў рогі, свінні ў жываты, авечцы ў капыты, кошцы ў пячонкі, сабацы ў галоўкі, гусі ў дзюбкі, курыцы ў лапкі. І нясіця на маха, на балата, на крутыя горы, дзе вецяр ня вея, і людзі ня ходзяць, пеўні не пяюць, ваўкі ня выюць. Там чорны вол па гарэ ходзя, расу аббівая, там увесь ляк прападая. Сам Гасподзь і матар Божая памагая.

## 1038. Ад ляку

Первым разам, добрым часам Госпаду Богу памалюсь, маці Прачыстай пакланюсь. Добрай парой, вячэрняй зарой, вячэрняй зараніцай, божай памашніцай прыступі, памажы рабе божай Алені ляк гаварыць. Урошны, прыстрэшны, папоўскі, жыдоўскі, жаласны, радасны, ветраны, салодкі. Тут табе не стаяці, у лано не ўбіваці, сэрца не знабіці, касцей не ламаці. Сядзь ты на месці, на залатым крэслі, цябе маці нарадзіла, баба перабабіла, кума перахрысціла, на еты свет пусціла.

Я з словам, Бог з помаччу.

## 1039. Ад ляку, упуду, сцені

Зара Рына, зара Кацярына, пасватаемся, пасхадатаемся: у мяне сын, у цябе дачка. Вазьмі ў майго сына пярэпалахі нашныя і палуношныя, дзянныя й палудзённыя, і ценныя і ляканыя, і

за́вісныя і радасныя, і сабаччыя і кашаччыя. Выгаварываю пярэпалахі з буйныя галавы, з храбётнай касьці, з румянага ліца, з ясных воч, з чорных бравей. Патуль пахадзілі, патуль пагулялі, пакуль я кала іх не пахадзіў.

## 1040. Ад ляку

Прашу Госпада Бога, Духа Святога, мацер Прачыстую, прыступіцеся, памажыце, станьце Мані не помач.

Зоры-зарніцы, божыя памашніцы, прыходзьце ка мне, дайце рады мне і Мані, каб яна спала, гуляла, ніякія гадкі не мала. Ху! (хукаць), не мой дух — гасподні.

## 1041. Ад дзіцячага ліхацішча

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Прачыста Божа маці на прэстоле стаяла, (імя) ліхацішча шаптала.

Ліхацішча-плюхацішча, нічаго-нічаговішча, з чаго ты стала, з таго перастала. Асіну ламі, крушыну трашчы, (імя) сэрца не бяры; ні ў маладзік, ні схода, ні ў падкове, ні перакроя, ні ў век ніколі ліхацішчу не бываць і гора не знаць.

## 1042. «Ад іспугаў»

Вадзіца-царыца, божая памашніца, ідзеш ты лясамі, палямі, балатамі, крутымі берагамі, жоўтымі пяскамі. Абмываеш ты пяскі, мхі, балаты, абмый у рабы божай (імя) усе іспугі, каб яны па касцям не хадзілі, касцей не ламілі, алае крыві не распалівалі. Госпадзі Божа, дух прынімі, а ў нашай рабы (імя) боль знімі.

## 1043. Ад ляку

Папрашу я Бога. Святкі святыя, старыя і малыя, блізкія і далёкія, свае і чужыя, хлеб-соль прымайце і здароўе надзяляйце.

## 1044. Ад ляку, упуду, сцені

Упуд-упудзішча, выгаварываю я цябе з буйной галавы, з русага воласа, з руцівага сэрца, з жыл, з пажылак, з касьцей, з пакасьцей, з сустаў, з суставак, з раба божага Іванькі. Святы Светлы дзянёчак, стань на помач! Святы Мікола, стань на по-

мач! Святая Пяцінка, стань на помач! Святое Ўзнясенне, стань на помач! Святы Пятрок-Павел, стань на помач! Святы Ілля, стань на помач! Святы Спас, стань на помач! Святая Прачыста, стань на помач! Святы Пакроў, стань на помач! Святы Кузьма-Дзямян, стань на помач! Упуд-упудзішча, высылаю я цябе на мха, на балоты, на гнілыя калоды, на белыя каменні, на ракітавыя карэння.

### 1045. Ад супуду

Святое Благавешчанне, святое Хрышчэнне, бацюшка-цудатворац, Дух, Тройца, Купала Іван, Казанская Божая маць, Ільінская Пятніца, Ілля, Макавей, Спас, Бугуродзіца, Пакроў, Устрэчанне, благаславі. Святая маць Бугуродзіца, святоя Ражаство, святой Сірахім, святой Іван, святыі апосталы, усе памоцьнікі, Госпадзі, памагіце, я памагаю і вы памагіце.

Пуды-пірапалохі, прытцы-прыгоды, скаціцесь, зваліцесь з буйнай галавы, з белага ліца, з бурных ног на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, на цясовы сталы, на кружасты скацерці. Там вам раяванне, там вам красаванне, Тані на добрае здароўе. Дай Бог Тані пілось, елась, спаць хацелась. Госпадзі, памагі, я памагаю і ты памагі.

### 1046. Ад зляку

Першым разам, гасподнім часам памажыце святой Прачыстай мацеры Божай, станьце на помач.

Угаварую зляк. Зляк-пераляк, ускочыў радком, выскачыў задком з кашчэй, з машчэй, з быстрых ачэй, з рум'янага ліца, з жоўтай касці, з чорнай крыві, з рыжага м'яса на мхі, на балаты, на ніцыя лаза. Бог з помашчу рабе божай (імя). Угаварую зляк, дзяцінец, нервы, расстройства, нежыць, чорную балесць.

### 1047. Ад ляку, упуду, сцені

Памалюсь я Госпаду Богу. І гавару, выгаварую зляку з буйныя галавы, з гарачыя крыві, з усіх жыл, з пажыл, з суставуцаў, з палцаў. Ці ты з падзіву, ці з паганых воч, тут табе ня стаяці, і косці ня ламаці, і сэрца ня ташніці. Ссылаю я цябе на крутыя горы, на белыя бярозы. Там табе піцяння, ядзяння і гуляння. І на моры на кіяні, на войстраві на Буяні сядзіць дзед і з усім морам размаўляя і еты зляк замаўляя.

## 1048. Ад пуду

У чыстым полі стаіць хвойка, пад таею хвойкаю ляжыць сошка. Хто будзе араці? Пракрасная пані будзе дахаджаці ў чырвоных ботах, таею сошкаю будзе араці, жалезнаю пугаю Тані пуд уганяці. Ён не будзе ўхадзіці, будзем смарадам сабачым частаваці.

## 1049. Ад пужання

Прашу Госпада Бога і Духа Святога, і святога аўторніка, Найсвенча матачка, памагала ўсім людзям, памажы і (імя), лячу з пужання, з пярэпугу. Перапуг каціны, дзяціны, сабаччы, уляканы, пужаны, мужчынскі, жаноцкі, хлапоцкі, тут табе ня быць, касцей не ламіць, сэрца не таміць, душы не скаміць.

Ідзі на сіне мора. На сінім моры хатка стаяла, а ў тэй хатцы бабка жыла, у кулак хапала, на сіне мора пужанне пускала.

## 1050. Ад зляку

На сінім моры камень ляжыць, на том камні баба сядзіць. Яна ні ткаха, ні праха, толькі ўмее зляк і нежысць лячыць. Прымоўны, прыгаворны, падасны, радасны, жаласны, прыстрэчны, прысмешны, падкідны, падлітны, ветрам наносны, сабачы, жаночы, дзявочы ўгаварваць ад Вольгі ўраджонай, хрышчонай з ачэй, з плячэй, з жывата, з румянага ліца, з сініх жыл. Тут табе не стаяці, касцей не ламаці, цела не пушыці, ліца не сушыці, холадам не знабіці, голадам не марыці, гарачкі не рабіць, крыві не халадзіць. Тут табе не ўчынацца ні сходам, ні маладзіком. Мужчынскі пад шапку, а жаночы пад чапец. Госпадзі, любі ж мой дух.

## 1051. Ад пярэпалаху

Святы Юрай, святая Мікола, матка Хрыстова, паня выцмяна, хадзі да мяне, дам табе сівога каня. Едзь на сіне мора. На сінім моры паны ў карты гуляюць, сталы засцілаюць, кубкі віна наліваюць, п'юць, гуляюць, пярэпалах у госці зазываюць. Ты ж, пярэпаласе, па жыватку не хадзі, у бачкі не ўпірайсь, у сярэдзінку не ўлягай, пад грудзі не падварачай і костачак не крышы і сэрца не тамі. Ідзі сабе выкупайся, выкачайся, выгуляйся. Есць табе што напіціся і наесціся. Годзе гуляці, пара вопуху аблягаці.

### 1052. Ад пярэпалаху

Дарую табе сівога каня, залатое сядло. Едзь ты на сіне мора. На сінім моры паненкі ў карты гуляюць, пярэпалаха дажыдаюць. Там табе сталы засланыя, кубкі налітыя. Напіціся, наесціся, выкупацца, выбадзяцца, выкачацца. Па жыватку не хадзі, жыватка не тамі, пад сэрца не падварачай, вопух не апухай, пярэпалах, прападай. Папяконню годзі гуляць, пара пярэпалаху прападаць.

### 1053. Ад ляку, упуду, сцені

Госпаду Богу памалюся, усім святцам пакланюся. Гавару, выгаварую раб божы купкі-пярэкупкі, пярэпалахі, і жэньскія, мужчыньскія, кашаччыя, свіняччыя, цяляччыя, кураччыя, гусяччыя, парасяччыя, каціныя, мышыныя, вуціныя, і коньскія, кароўськія, авеччыя, чалавеччыя — із буйныя галавы, з белага цела, з ліца румянага, і з сустаў, з палусустаў, і выдымаю, і высылаю на сіняе мора. На сінім моры прыстол стаіць, на тым прыстолі сядзіць тры дзявіцы, і чытаюць і выпісуюць, і па сінім моры рассылаюць. Мора скалыхнецца — пужання мінецца; няхай мора буяя, няхай раб божы гуляя.

### 1054. Ад пярэпалаху

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся. Стаіць прастол, кала тога прастолу стаіць тры дзявіцы: адна шые, другая шоўкам пашывае, трэцця ўрокі і ўлёкі знімая: кашэччыя, мышэччыя, дзявочыя, парабочыя, ветраныя, вадзяныя, урочныя, прыгаворныя, прыдумныя, прыгадныя. Тут жа табе не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не знабіць, гаручае крыві не праліваць, раба божае Алёне на помач даваць.

### 1055. Ад спугу

Добрым часам, первым разам Госпаду Богу памалюся, Госпада Бога папрашу, вячэрняй зары. Зара-зараніца, спутняя памашніца, памажы, Госпадзі, маёй Мані спуг загаварыць. Адкуль ты ўзяўся — ці дзённы, ці палудзённы, ці ветраны, ці вадзяны, ці з вачэй, ці з ветру — тут табе не бываць, касцей не ламаць, чырвонай крыві не паліць, цела не таміць. Ідзі, урок, на сіняе мора. Там на моры сядзяць тры сястрыцы. Адна золата ўлівая, другая платкі ўшывая, а трэццяя ад цябе, Мані, спуг угаварвая. Тут та-

бе, спуг, у маёй Мані не бываць і касцей не ламаць, і чырвонай крыві не паліць, і цела не таміць. А маёй Мані крэпка спаць і целам прыбываць. Цішанькі-лёганькі, мой дух на помач, мой дух пры мне, а Госпадзі Божа памажы табе.

І яшчэ так гавораць: «Хрыстос цябе нараджаў, усю балезнь, гарачку адганяў».

## 1056. Ад іспугу

Якая маць нарадзіла, такая і адхадзіла. Адна лён часала, другая збірала, а трэйця прыстрэк-іспуг угаварала.

## 1057. Ад ляку

Пайшоў Сус Хрыстос на мéжу, шаптаць Марылі ляк пайшоў. Пайшоў Хрыстос на далінку, прабіў нагу на сцярнінку. Як той сцярнінцы не адчынацца, так тому ляку не адчынацца.

Села за стол тры браты: дуб на зямле, камень на моры, месяц на небе; сталі думаць і гадаць, каму ляк забраць. Пайшоў ляк на мост, мост праламіўся — і ляк утапіўся.

Я славамі, а Госпад да помачы.

## 1058. Ад ляку

У цёмнам лесе пад дубам сядзіць баба без зуба, не ўмее ні шыць, ні бяліць, толькі па свету хадзіць да людзям ляк гаварыць — мужчынскі, жаночы, і хлапочы, і дзявочы, і цялячы, і сабачы, і кацячы. І заносіць еты ляк за цёмныя ляса, за широкія паля, за сінія мара. Там табе піценне і ядзенне, і гулянне, а дзіцяці (імя) сон і прыбуванне.

## 1059. Ад зляку

Мінуўся зляк пужлівы, баязлівы, начной, слядной, жаноцкі, хлапоцкі, мужчынскі, матчын, бацькаў, каціны, сабачы, таварацкі. У шчырым бару рос дуб. У том дубі дзвянаццаць какатоў, на тых какатах дзвянаццаць малайцоў. Як тых дзвянаццаць малайцоў не ўзяць, не дастаць, так етаму рабёнку прыстрэку, іспугу не бываць ні пад поўна, ні маладзіком, ні сходна, ні на веку вяком.

## 1060. Ад спужання

Гасподзь Бог, Ісус Хрыстос і Бог святы, стань на помач гэтаму чалавеку.

На гарэ на Масіяне залатая цэркаў стаіць, на той царкве дванаццаць царыц — родных сястрыц. Яны шыюць, вышываюць, гэтаму чалавеку помач даваюць ад спугу.

Выкачвайцесь, балезні, лебедзем, макавым зярном рассыпайцесь.

## 1061. «Ад маладзенца (када спужаецца і яго калоціць)»

Стану я благаслаўлюсь, пайду перахрышчусь. З дзвярей у дзверы, з варот у вароты, у чыстае поле ў васточную сторану. У васточнай старане стаіць божая цэркаў. У етай цэркві залатой прэстол, на залатом прэстоле сам Ісус Хрыстос, прысвятая гаспажа, Бож'я маць Багародзіца, скорая памошніца, Міхайла-архангел, Кацярына-мучаніца, Ілля-прарок, Дзмітрый, прыйдзіце ўсе, прыйдзіце, памажыце, пасабіце рабе божай Надзі. У рабе божай Надзі радзімцы прэстаўце, унутраныя, пазакожаныя, пазабалонныя, жылінныя і пажылінныя. З каждага пазваночніка, з каждай костачкі, з лёгкіх, печані, з гарачай крыві. Как вячэрняя зарыца-матушка патухае, палягае, так жа ў раба божай Надзькі ўсе балячкі патухалі, палягалі, так жа рабе божай Надзькі не было на сваём белам целе ні пасеку, ні парэзу, ні вопухалі, думныя ўрокі ўсе ўцяшаліся, уніміліся, ад дзеўкі-самадумкі, ад бабкі-касматкі, ад трох ражэнцаў, ад двух жэншчын. Маць Марыя і сын і дзева, дай, Госпадзі, Надзі ноччу сон і днём угамон.

## 1062. Ад перапалоху

У чыстым полі касцёл стаіць, а ў том касцёле прыстол стаіць, а кругом прыстола ходзяць анёлы. Анёлы ходзяць, Найсвенту матку водзяць, у Госпада Бога найвышэйшага просяць, упрашаюць, умаляюць і Госпаду Богу пакланяюцца, і Найсвентай матке падчыняюцца: асвабадзі душу спужанага чалавека ад вялікага перапалоху, ад благога чалавека.

## 1063. Ад спужання

Першым разочкам, гасподнім часочкам. Госпада Бога ўпрашаю, а Прачыстую мамку на помач прызываю. Святая господня, вялікая зара-зараніца, рабы божай (імя, хто замаўляе) памачніца, стань, Госпадзі, на помач, Прачыстая матка, на ратунак, ангелы, на радасць. Я, бабка, славамі, Гасподзь сваімі думамі.

Ехаў Сус Хрыстос цераз калінавы мост. Калінавы мост здрыгануўся, раб божы (імя, каго лечаць) улякнуўся. Як на небе месячка састанавіўся, састанавіся ў раба божага (імя) жылкі ў пажылкі, кроў у кроў, печань у печань; каляснік калесніка сустракая, чорным (?) адсякае, стрэчнае падкурая.

Дарогай ішоў Сус Хрыстос, Пётра-Паўла, святы Лля, сустракаюць Прачыстую маці. Яны ў яе пытаюць:

— Ох маці ж, мая маці, чым мы ету будзем балезць пакрываці?

— Будзем жа мы пакрываць чорнай рызаю.

Чорнай рызай пакрывалі, к сабе пераход любімага ліха прызывалі: любімае, радзімае, спужанае, уздрыганае, ураканае, аручае, перучае, ветраное, вадзяное, падзіўнае, пагляднае, пасмешна, прыгаворна, намоўна, з агня, з ветру, з вады, у раба божага (імя) ня быць, па касці не хадзіць, касці не ламіць, серца не таміць, жылак не марыць, вочак не цямніць, галовачкі агнём не паліць, у вобмарак не вадзіць. Патуль ты хадзіла, гуляла, буяла, пакуль раба божая Дар'я (хто замаўляе) прыступіла, ухадзіла, угаварыла, высылала з жыл, з паджыл, з касцей, з машчэй, з чуткіх вушэй, з чырвонае крыві, з жоўтыя касці, з буйныя галавы, з румянага ліца, з русага валаска, з шчырага серца, з белага целца. Дай Бог час добры, любі мой дух лёгкі.

## 1064. Ад ляку

Спачатку назваць імя, на каго шэпчуць.

Гасподня Божа маці, прыступі, памажы зляк шаптаці — і мужчынскі, і жаноцкі, і хлапецкі, і дзявоцкі, і дзіцячы, і сабачы, і напушчаны, і апуджаны, і ветраны, і нутраны. Гасподня Божа маці, прыступі зляк шаптаці. На Ярдані Ісус Хрыстос стаяў і святыя янгалы падзываў: «І святыя янгалы, прыступеце, памажэце, пярэпалаху не ймеце». А святыя янгалы сказалі: «Будзем піць і гуляць, быстрыя лозы цалаваць, дзе сонца не грэе і зоры не сходзяць, там, дзе аднэ поле, і другое, поле, і трэцяе поле, і поле з полем стыкаецца, пярэпалах мінаецца». Гасподня Божа маці, прыступі помачы пярэпалах уняці.

## 1065. Ад пужання

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамке пакланюся, я з словамі, Бог з помаччу. Зоры-заранічкі, божы памашнічкі, памагалі Богу, памажыце і нам голас угавараці, умаўляці. Як мы не зналі, не ўгаваралі, не ўмаўлялі, а цяпер угавараем, умаўляем з белай касці, з румянага цела рабы божай Валі і курыны, гусіны, сабачы, свінячы, коніка, валоўска. Годзі ж табе хадзіці, бушаваці, белую косць ламаці, у жыватку штурмаваці, пад бокі падпіраці, пад сэрца падхадзіць. Ідзі ж ты туды, дзе вецер не вее, дзе сонца не грэе, дзе пеўні не пяюць і мужчынкі сякерамі не сякуць. Там вам магайба дадуць, там піценне, ядзенне, ужыванне і новае прабыванне. Любіш мяне — любі мой дух.

## 1066. Ад ляку, упуду, сцені

Выхадзіця, спугі і здрыгі, злыя нечасьцівыя перапалохі. Спугі, здрыгі, выхадзіця чалавеччыя, выхадзіця і кашэччыя, выхадзіця і свіняччыя, выхадзіця і сабаччыя з раба божага, із шчырага сэрца, з рацівага жывата, з чорныя печані, з белага лёхкага, з петраха, з галоснай гартані, з ясных вачэй, із слухавых ушэй, з баявых наздрэй, із буйныя галавы, із белых рук, із рэзвых ног, каб і сэрца ня сушылі, і жывата ня крушылі, і цела ня знабілі, і касьцей ня ламілі. Ідзіця вы, спугі і здрыгі, на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, на сухія лясы, дзе ветры ня веюць, дзе й сонца ня грэя, дзе і пціцы не летаюць і звяр'ё ня бегаець. Скорбі, балезні, спугам, здрыгам, злым перапалохам амін,

## 1067. Ад іспугу, сценю

Памалюся, пакланюся Госпаду Богу і ўсім святым святочкам, гадавым празднічкам, ранняй (вячэрняй) зорачцы, святому аўторачку (у які дзень). Госпада Бога прашала, Прачыстую мамачку на помач прызывала і рабо божаму (імя) помачы давала, сцень, іспуг пужаны, ліканы, і прыдумны, і прымоўны, прыгаворны, пасмешны, пацешны, дзявоцкі, мужчынскі, бацькаў, маткін, з ветру, з вады, з яды, удавіны, паграбенны, і слядошны загаварала. І па касці ты не хадзі, касцей не ламі, шырокіх плеч не сушы, буйныя галоўкі не палі, жывата і сэрца не тамі. Я ж з цябе, сцень, выбіраю, з буйныя галоўкі, з чорных (якія ў каго валасы, вочы) валаскоў, з чорных бровак, з карых вочак, з крас-

ных губак, з белых зубак, з румянага ліца, з шчырага сэрца, із грудзей, і гаручай крыві, із ногцікаў, з когцікаў, із жылак, із паджылак, із касцей, з усіх машчэй і адмятаю, на сіне мора адсылаю, на ніцыя лозы, на цёмныя ляскі, на жоўтыя пяскі. Там вам піць-гуляць, у пуховых падушках спаць, і ў раба божага (імя) нікагда не бываць, па ету порачку, па вячэрнюю (раннюю) зорачку.

## 1068. Ад ляку, упуду, сцені

Першым разам, божжым часам. Зара-зараніца, божжая памошніца, зара ранняя, зара вячэрняя! Выгаваруецца з раба божжага і ўрок, і ўлёк, і ўдарны і падзіўны. На моры дуб, на тым дубу тры і дзевяць сукоў, на тых суках тры і дзевяць сарок, пашчабяталі ўлёк, і панські і татарські, і жыдоўські і маскоўські, і ад бацькі, ад дзяцей і ад злых вачэй.

## 1069. Ад ляку

Спуг-спугнічку, перапалох-перапалахнічку. Ляцеў салавейка, сеў на стаўбе, гняздзечка ўе, яечкі нясе, дзетачак вядзе. Як табе, салавейка, на стаўбе не сядзеці і гняздзечка не віці, яечак не несці, дзетачак не весці, так табе, спуг-спугнічку, перапалох-перапалахнічку, у рабе божай дай жа не жахаць, не пужаць, жоўтай касці не ламаць, гарачай крыві не разганяць.

Я славамі, Гасподзь з помаччу.

## 1070. Ад спуду

Зоры-зараніцы, гасподнія памашніцы, памагалі Богу, памажыце і мне. Раннія зоркі, вячэрнія, і божы дзянёчак, святая нядзелька, прыступіце, памажыце рабу божаму (імя) ад іспугу. Сядзіць салавейка на стаўбе, уе гняздзечка сабе. Як салавейку на стаўбе не сядзець і гняздзечка не віць, дзетак не вадзіць, так табе, перапалох, у (імя) не бываць: ні жаноцкага, ні хлапоцкага, ні мужчынскага, ні дзявоцкага, ні таварыцкага, ні кацінага, ні курынага, ні цыганскага і ні сабацкага. І ссылаю вас, перапалохі, на мха, на балата, на ніцыя лозы, на быстыя воды. Там вам столікі пазасціланыя, кубачкі паналіваныя. Там вам піць і ўядаць, у раба божага (імя) перапалоху не бываць.

## 1071. Ад ляку

Лякі, лякі, ідзіце на сабакі, на сарокі, на вароны, на жураўі, на вераб'і, на ўсё птаства, дзе божы дар не родзіць, курачы голас не заходзіць.

## 1072. Ад спуду

Першым разком, добрым часком прашу Госпада Бога і Гасподняе маткі: прыступай і памагай Мар'і спуд шаптаці і з нажок, і з ручок, і з плячэй, і з грудзей, і з шчырага сэрца. Тут табе не бываці ні ў маладзіку, ні пад поўна, ні на сходзе.

Стаіць капліца, а ў тэй капліцы сталы пазасціланы, кубачкі паналіваны. Там табе пацяшацца, на вадзе купацца, на лазе калыхацца. Стаіць дзеўка русата, касата, галавата. Галава залезная, чэрава парахова, ногі чаратовы. Галава адарвецца, чэрава рассыплецца, нага адарвецца, Мар'і зляк мінецца.

## 1073. Ад зляку

Першым разам, божым часам. Божай маткі Прасвятой Багародзіцы просячы да помачы страха-пярэпалаха ўгавараці. Страха-пярэпалаха, дзе радзіўся — з месца не каціўся, дзе хрысціўся — з месца не каціўся. Страха-пярэпалаха, ідзі пагуляць, пакрасавацца, на вадзе купацца, на лазе калыхацца. Сядзіць дзеўка на лукамор'і, рылатая, цыцатая, яна не ўмее ні ўшываць, ні ўтыкаць, толькі зляка ўгавараць. Ногі дзераўляныя, чэрава смаляное, галава зялезная. Ногі паламаліся, чэрава растапілася, галава разбілася, на век вяком, на суд судом.

## 1074. Ад зляку

На сінім моры белы камень ляжыць, а на камені бела лата ляжыць, а на той лаце Божа маці сядзіць, ад агня, ад меча захараняе, херувемскія песні спявае. Тады маці ад агня, ад меча захараняе, як херувемскія песні спявае ці гарачы агонь суцяшае. Трэця святая Прачыста Божа маці, хадзі на помач.

На млозе пры дарозе там стаіць груша: цвітушча, балюшча, калюшча. Пад таею грушай дзеўка залатарука, зубата, губата, вялікаморда, нехарашавіца. Яна не ўмее ні шыць, ні ткаць, толькі ўмее спуг угавараць. Яна ўгаварае дзедаў, бабін, бацькаў, матчын, сабачы, свінячы, курыны, гусіны, хлапочы, дзявочы, панські, цыганські, жыдоўські. Яна ўгаварае, на буйныя ветры

ссылае, на сухія лясы; дзе зямля спіць, там вам піці, есці, гуляці, раскошу маці, хрышчонага-сянчонага касці не ламаці. З жоўтае касці, з чорнае крыві, з румянага цела — на сіняе мора, у чыстае поле. На паноў, на жыдоў, на тых, што ў падушках ляжаць.

## 1075. Ад ляку

Госпаду Богу памалюся, святой субоце (ці пятніцэ) пакланюся. Свята Гасподня Божа маці, прыйдзі к (імя) ляку шаптаці.

Лячэ, лячэ, перапалошэ, у цябе воўча галава, канапляна барада, чарацяныя ногі. Воўчу галаву разаб'ю, канапляну бараду вырву, чарацяныя ногі пераламлю, цябе, лячэ-перапалошэ з (імя) галоўкі выжану. Выйдзі ты з яе буйнай галовачкі, выйдзі з яе карых ачыц, выйдзі ты з яе насочка, выйдзі ты з яе раточка, выйдзі ты з яе бародкі, выйдзі ты з яе шэйкі, выйдзі ты з яе ручыц, выйдзі ты з яе плячыц, выйдзі ты з яе грудзіц, выйдзі ты з яе кішачак, выйдзі ты з яе ножачак, выйдзі ты з яе салодкага мяса, выйдзі ты з яе сорак сустаў, а ты, Госпадзі, (імя) усё на месцы пастаў. Паньскае у ярмолку бярыся, цыганьскае пад плашч бярыся, папова ў рызы чапіся, мужчынскае ў шапку бярыся, жаночае пад чапец бярыся, парабоцкае ў кудры віся, дзявоцкае ў косы ўпляціся, кацячае ў лапкі ўбярыся, сабачае пад хвост бярыся.

Узяць шэсць розачак з веніка, вадзіць кругом і прыгаворваць:

«Як етым розачкам на пяньку не буваці, веццем не шатаці, так етаму ляку не буваць ні ў маладзіку, ні ў трэцяку, ні пад поўнай, ні ўсходзя ад тваей маладосці да старосці. Ад чаго стала шаптаць, прапала, ад чаго стала шаптаць, прапала. Ад чаго яно случылася — праваліліся. Ад чаго яно случылася — правалілася. Гэтае гора счэзла да прапала, як гэтыя розачкі счэзнуць да прападуць».

## 1076. Ад ляку

Лячэ, лячэ-перапалячэ. У цябе, лячэ, воўча галава, а клочана барада, саломленае чэрава, канапляныя ногі. Я ту воўчу галаву расчаўлю, клочану бараду развярну, саломленае чэрава прадзяру, канапляныя ногі паламлю, а цябе, лячэ-перапалячэ, ізжэну з (імя). А ляк як спужаўся, да за (імя) захаваўся.

Ці ты дзіцячы, ці ты сабачы, ці ты кацячы, ці ты жаночы, ці ты дзявочы, ці ты чалавечы, ці ты паньскі, ці ты цыганьскі, ці ты папоўскі, ці ты жыдоўскі, ці ты вадзяны, ці ты хадзяны, ці ты

ветраны, ці ты таварачы, ці ты свойскі, ці ты паганы? Вуйдзі з тваіх вачэй, вуйдзі з белых плячэй, вуйдзі з тваіх сахарных вусоў (?), вуйдзі з каменных жыватоў, вуйдзі з тваіх паграбашчых рук і з пахадзяшчых ног.

Лячэ, лячэ-перапалячэ.

### 1077. Ад ляку

Госпаду Богу памалюсь, святой Прачыстай пакланюсь. Свята Прачыста маці, прыступі ляку шаптаці.

Ішоў ляк цераз мост. У ляка васковая галава, трухлявае цела, канапляныя ногі. Васковая галава растопіцца, трухлявае цела рассыплецца, канапляныя ногі паломяцца. Раджоная, хрышчоная (імя), штоб так ляк макавым зерняткам рассыпаўся, як мой дух ціхенькі, лёгенькі, добранькі. Дай Бог помач.

### 1078. Ад ляку

Госпаду Богу памалюся, сетой матухне Прачыстай пакланюся, усем сеткам, усем празнічкам, сетому спасіцелю. Прачыста маці, прыйдзі (імя) ляка шаптаці.

Лячэ, страшэ, перапалошэ! У цябе, лячэ, страшэ, перапалошэ, саламянэ чэрава, воўчы очы, клочана барада, канапляныя ногі. Саламянэ чэрава распару, воўчыя очы разаб'ю, клочану бараду разарву, канапляныя ногі паламлю, цябе, ляка, страха, перапалоха, з (імя) галовачкі, з ёго ачыц, з ёго вушыц, з ёго ратка, з ёго жыватка вуганю. Годзе ты, лячэ, хадзіў, ёго костачкі ламіў, салодке мяса смактаў, кроў гарачу разганяў і спатанькі не даваў, холадам заціраў, гарачым аблігаў, і піць і есці занімаўляў. Покіль я цібе не ўгаварала, покіль я цібе не ўмаўляла, цяпер угавараю, умаўляю, з хаты дымам, з двара ветрам напраўляю. Ты ж за вецер ухапіўся, на асіне запнуўся, ад раба божага чыстаплоннага ражджэннага, благаслаўеннага (імя) адчапіўся, адкаснуўся, к ёй не вярнуўся. А ляк іспужаўся (імя), увабраўся да пад купу схаваўся.

### 1079. Ад ляку, упуду, сцені

Бег сабака чараз мост — чатыры нагі, пяты хвост. Высяваю, вывяваю рабу божаму і крыксы і плаксы, і пужання і ўздрыгання, і ўлякання, агняную, вадзяную, пужаную, уляканую, сцянёвую, курыную, гусіную, птушаччую, кашаччую, чалавеччую, цяляччую, галубяччую. Што здзелаю — табе на помач, а мне на пірог.

### 1080. Ад спуду

Бег сабачка через мост — чатыры лапкі, пяты хвост. На мосце забрахаў, каб Вольцэ ўсё ліха разагнаў.

### 1081. Ад пярэпалаху

Бегла лісіца красна, як цяліца. Яна скакала, брыкала, наверх пярэпалах выганяла. Як той лісіцы не скакаці, не брыкаці, так пярэпалаху ў (імя) не бываці.

### 1082. Ад спалоху

Як салодка дзерава к чорнаму не прыстане, так к (імя) і пуд не прыстане. Як конь жарабя не прывядзе, так к (імя) і пуд не прыйдзе. Як певень яйка не знясе, так і пуд не прынясе. Як бык цяля не прывядзе, так і пуд не прыйдзе. Ідзі, пуд, з хаты пылам, з печы дымам за сухія лясы, за быстрыя рэкі, дзе сонейка не грэе, дзе ветрык не вее. Ідзіце туды, там вам будзе дабро і харашо.

### 1083. Ад спуду

Ішоў із пустыні сам Гасподзь Ісус Хрыстос цераз калінавы масток. Пад тым мастом стаіць залаты гроб, у тым грабу ляжыць пакойнік без рук, без ног, без галавы. Як етаму пакойніку із гроба не ўставаць, так ў раба божай (імя) болі не бываць. Мацер Божая, вазьмі ету боль і разнясі яе па палям, лясам, балатам, мхам, лугам, па жоўтым пяскам, па ніцых лозах, па белых бярозах, па гнілых калодах. Там табе гуляць-буяць, краскі рваць, а ў рабы божай (імя) болі не бываць. Госпадзі Божа, дух прынімі, боль у рабы божай (імя) атнімі.

### 1084. Ад ляку

Сухоты, ламоты, ідзіце на мхі, на балоты, на гнілыя калоды. Там піце, гуляйце, на раба божага младзенца Грышу забывайце. Ні адна я замаўляю, з Госпадам Богам, з Ісусам Хрыстом, з усімі святымі. Ва векі амін.

### 1085. Ад пярэпалаху

— Чаго хочаш?
— Вады хачу.

— Ад чаго хочаш?
— Ад пярэпалахаў.
— Ад якіх?
— Сам не знаю (калі знаеш, упамяні). Для такога і такога (імя).

## 1086. Ад пярэпалаху

Калі прычына перэпалаху невядома, то звычайна ў такіх выпадках робяць такім чынам: маці, сеўшы на парог, хворае дзіця садзіць на калені, а над яго галавой паднімае аберуч заслонку ад хлебнай печы, такім чынам, каб закопчаны бок быў павернуты уверх, Другая ж кабета, набраўшы на сіта трохі попелу, прасявае яго на тую заслонку. У час гэтага прасявання маці хворага дзіцяці тройчы пытае:
— Што ты сееш?
А прасяваўшая адказвае:
— Пярэпалахі!
— Сей жа добра, каб не было ніколі,— гаворыць матка.
Такія дзеянні робяць тройчы, на захадзе, на ўсходзе і зноў на захадзе сонца. Пасля ўсяго прасеяны попел ссыпаюць у новы гаршчок і праз гэтае самае сіта ўліваюць трохі вады, затым робяць з гэтага галкі, якімі паціраюць хвораму дзіцяці жывот і грудзі.

## 1087. Ад ляку, упуду, сцені

Ішоў Сус Хрыстос і маць Прачыстая Бугуродзіца, устракаюць бабку, спрашуюць:
— Куды ты, бабка, ідзеш?
— А іду я к рабу божаму ляк ўгавараваць, чалавеччы, коньскі, кароўські, сабаччы, каціны. Дай Бог на помач.

## 1088. Ад ляку

Первым разам, добрым часам, я з словам, Бог з помаччу. Госпадзі Божа, памажы.
Ехаў Божачка па лясочку на сівым канёчку ў залатым вазочку. Канёчык спатыкнуўся, вазочык перавярнуўся — каб з нашае Наталкі спуг адвярнуўся.

### 1089. Ад упуду

Прашу Госпада Бога, Духа Святога, гадавых празднічкаў. Ехаў сам Госпадзь па чыстаму полю. Ён былінку ламаў, коніка паганяў, з Ганны пужанне аднімаў: ветраное, вадзяное, агнявое. Табе, пужанню, у Ганны не быць, з белага цела саступіць, касцей не ламіць і галоўкі не таміць. Я словам, а Бог з помаччу.

### 1090. Ад пуду

Ехаў Юда на чатырох конях да на трох колах цераз дзіравы мост, вёз чатыры пўды пудаў. Мост праваліўся — ваўчок утапіўся.

### 1091. Ад ляку, упуду, сіцені

Упрашаю Госпада Бога і матку Святую, і Юр'я-Явор'я, скорага дапамошніка. Сцень умаўляю, Госпада Бога ўпрашаю. Сцень-сцянішча, ідзі на сухое сажнішча, ссушы сухое сажнішча, пакінь раба божая — малое дзяцішча!

### 1092. Ад ляку, упуду, сцені

Змываю я сцень сабаччы, кураччы, каціны і дзяціны. Адсылаю я на бярозавае лісця, з бярозавага на кляновае, з кляновага на месячку. Месячка асвяшчаецца, рабёнкава кроў ачышчаецца.

### 1093. Ад зляку, прыстрэку (ад спалоху)

Первым разам, божым часам. Я з словам, Госпад Бог з помаччу. Ты, святая пятніца, вячэрняя зара, і часінкі, і мінуткі, станьце ўсе на помач!

Устану я рана-параненька, умыюсь бела-пабяленька, пайду я, молада, пад жаркае сонца. Пад жаркім сонцам ляжыць Масіяс (а малому — Масіёнак). Як таму Масіясу не ўставаць, так і Рэні, раджонае, хрышчонае, зляку, прыстрэку не бываць. Ні калючага, ні балючага, ні ўцешнага, ні смешнага, ні падумнага, ні пагаднага, ні прыгаворнага. І ссылаю зλякі-прыстрэкі да на быстрыя рэкі. Там жа вам гуляць і бываць, рабе божай Рэні помачы даваць. Я з словам, Госпад Бог з помачай. Амінь!

## 1094. Ад ляку, упуду, сцені

Выбіраю сцень з (такога-та), з галавы з яго, з воч, із сэрца, з зубоў, з вушоў, са рта, із носа, з шыі, з плеч, з рук, з ног, із жыл, із крыві. І ссылаю цябе, сцень, на сіня мора, белы камень; там табе цясовая карваць і пуховыя пярыны; там табе аставацца, а младзенцам (такім-та) ня ўладаць.

## 1095. Ад ляку, упуду, сцені

Паставіць дзяцёнка сярод хаты і абсыпаць ячменем, і пазваць курэй і казаць:

— Выбірайця, куры, сцень, клюйця, куры, сцень, і ўрошны, і ўлёшны, і дзянны, і нашны, і спаўношны, і напаўдзённы, і на сход сонца, і на заход.

Прыняць дзіця, дык куры і з'ядуць сцень. А то сохня дзяцёнак, немаведама чаго.

## 1096. На захаванне плода

Першым разам, божжым часам. Госпаду Богу памалюся і матцы Прачыстай пакланюся з усімі сіламі нябеснымі. Кіяўскія, пячэрскія, усе правяднічкі прападобныя, станьця ж вы, гасподухначкі, на помач рабе божай.

Хіліца ты царыца, радзіла ж ты двананцаць сыноў, з двананцаці адзінанцаць, з адзінанцаці дзесяць, з дзесяцёх дзевяць, з дзевяцёх восем, з васьмёх сем, з сямёх шэсць, з шасцёх пяць, з пяцёх чатыры, з чатырох тры, з трох два, з двох адзін. Той жа адзін старшы і большы, памажы і падымі і на месцячку залатнічок пастанаві. Да ня я ж цябе пару, да ня я ж цябе адбаўляю, а цябе святая Сахвея пара і адбаўляя, залатымі ключамі замыкая і нямецкімі замкамі запірая. І залатыя тыны, затыніцяся, і залатыя ключы, замкніцяся, і царскія вароты, затыніцяся і ка ўрэмю адчыніцяся. І ці рыбачка, ці вакунец, выдзяржы, пакуля табе выйдзя твой рачанец, без майго чысла, без майго ведама. І Прасвятая маць Бугуродзіца, сама ты раджала і нас саздала і нам помачы дала, і царскія вароты адчыняла і зачыняла. Святая серада, стань, гасподухначка, на помач рабе божай. Ад Бога помач, а мой дух.

## 1097. На захаванне плода

Першым разам, божжым часам. Госпаду Богу памалюся і матцы Прачыстай пакланюся, стань жа ты, Гасподухначка, на помач рабе божай.

Ішоў сам Гасподзь Сус Хрыстос і вёў за сабой трох святых і трох апосталаў, і ўзыходзяць жа яны на Сіяньскую гару, і просяць жа яны ў Госпада Бога помачы рабе божай. І закаціся ж ты, закаціся, Осіяньская гара, яшчэ ж табе, раба божая, раджаць ня пара; да ці рыбачка, ці вакунец, выдзяржы ж ты, пакуля выйдзя твой рачанец, без майго ведама, без майго чысла. А ты, сыботачка мамачка, ты свет снавала і жываточкі сунімала, і кішачкі і галовачкі сустанаўляла. І прашу цябе, Госпадзі, на помач рабе божай. Ад Бога помач, а мой дух.

## 1098. На захаванне плода

Першым разам, божжым часам. Госпаду Богу памалюся, усім сілам нябесным прыкланюся,— кіяўскія, пячэрськія, Антоні, Хвядосі, стань, Госпадзі, на помач.

І на Сіяньскай гарэ, на шаўковай траве, там стаяла божжая цэрква, у той цэркві Божжая мацер службу служыла, царськія вароты зачыняла. Царськія вароты зачыніліс, Сіяньская гара закацілась, маладзеняц, пары дзяржыся.

## 1099. На захаванне плода

Первым разам, божым часам. Стань, Гасподзь Бог, на помач.

Ішоў Адам чэраз божы дом чэраз дванаццаць замкоў. Замкну еты замкі і загавару, пакуля Бог народзіць да ўрэм'я, зялезныя тыны, камянная гара, ты, дзіцятка, стой, пакуль твая пара. Дай Бог на помач.

## 1100. На захаванне плода

Святы Юры-Ягоры, святы Міхайла-архангел, закрый, замкні дванаццаці замкамі, залатымі ключамі, залатымі, медзянымі і сярэбранымі, і з пары да ўрэмя рабе божай. Не сама я сабою — божаю думою; не сама сабою — Прачыстаю святою.

## 1101. На захаванне плода

На моры, на кіяні рос дрэва купарос, з камля і да верха галлём апусьціўся. А на сінім моры ляжыць сіней медзі камянь. Як гэтаму сіню-медзю камяню наверх ня ўсплываці, каб і так рабе божай младзенца не свергаць. Я гавару, выгаварую, варот цялесных не загаварую, амін.

## 1102. На захаванне плода

Ішла святая Прачыстая з усімі святымі апосталамі, нясла залатыя замкі, сярэбраныя ключы, замыкала рабы божыя жываты да пары.

## 1103. На захаванне плода

Госпадзі міласьлівы, збавіцель вісокі, стань на помач, ангал бозьскі а на радась, на ўцяшэнія, на паратунак. Паратуй, Госпадзі, у злым разі. Найсвеньшая Прачыстая матка, прыступіся, залатым замком замкніся, залатым пругом падпружыся, шаўковай запонай запніся. Сатрымай, Госпадзі, да слушнага (ш=ч) часу.

## 1104. На захаванне плода

Ішоў Бог цераз гору цераз Паўлаву, нёс ключы залатыя. Замкніцеся, ключы залатыя, зачыніцеся, дзверы царськія, ня пусьціця гэтыя дзіцяці ў рабы божай — ці сын, ці дачка, да каторага часу Бог наканаваў. Стань, Госпадзі, у помач.

## 1105. На захаванне плода

Масціў Гасподзь масты, гара да гары, замыкаў замкі пара да пары. Хук! А кроў ні пук!

## 1106. На захаванне плода

Вотча... Памяні, Госпадзі, цара Давыда...

Ішоў усемагушчы Гасподзь, святы Мікулай-чудатворац, Георгі-вялікамучанік пабеданосяц, Архістраціг Міхаіл, клалі кладзі, масьцілі масты, гара да гары — і раба божая маладзіца, насі маладзенца пара да пары, амінь.

## 1107. На захаванне плода

Госпаду Богу памалюся і матары Божай прыкланюся і з сынам яе.

Ішоў Гасподзь Бог Сус Хрыстос па залатой гарэ, няслі залатыя ключы. Залатыя ключы, замкніцясь, рабе божай косьці, сыйдзіцясь, а жываты, астанавіцясь на сваe на места, на залатое крэсла. Як кіт рыба на моры не баіцца ні тучы, ні хмары, так і ты, раба божая, ня бойся ні ўбівання, ні валяння, ні чыжолага падымання. Так і вы, жываты, станавіцясь на сваe на места, на залатое крэсла. Як дуб на корані нядвіжым, нярушым, так у рабы божай нядвіжыма, нярушыма, і з свайго места ня трогается.

## 1108. На захаванне плода

Ішоў сам Гасподзь Бог з залатой калодай, зялезным штыхом маладзіцы-перапяліцы рады даваць. Я ці хлопца, ці дзеўку захаджу, зялезным штыхом атапру, калодаю закачу, на сваём месьці станаўлю, у сваём месьці, у залатым крэсьлі. Есь лі цябе месьцічка з макавае зернічка.

## 1109. На добрую цяжарнасць

Госпадзі Божа, благаславі, Прачыстая Маці, памажы. Не сам жа я сабою — Госпадам Богам, Ісусам Хрыстом. Трыдзевяць гары, укучу сайдзіцеся, трыдзевяць ракі, укучу сайдзіцеся, трыдзевяць гарады, укучу сайдзіцеся, і косьці-мошчы, укучу сайдзіцеся. Загаваруюі замаўляю я ў рабы божай маладзенца да пары, да ўрэмя; а прыйдзець час-урэмя паследняе, тады трыдзевяць гары, расступіцеся, трыдзевяць ракі, разыйдзіцеся, трыдзевяць гарады, разыйдзіцеся, косьці-мошчы, раступіцеся, выхадзі, маладзенец, з естых касьцей, з машчэй на сей белы свет красувацца, амін.

## 1110. На добрую цяжарнасць

Госпаду памолімся, Прачыстай паклонімся, і ўсі святэя ў помач: Пётра і Павел, і Кузьма-Дзем'ян. Жалезны тын, затыніся, вароты, закутайцеся, замкі, замкніцеся: дазрэўшы, само атваліцца.

## 1111. На захаванне плода

Царскія дзверы адмыкаюцца, мірскія замкі замыкаюцца. Ішла Божа маць дарогаю. Сустракае Ісус Хрыстос:

— Куды ідзеш, Божа маці?

— Іду ў цэркаўку ключыкаў браці, Еве цела замыкаці, на свет младзенца не пускаці.

## 1112. На добрыя роды

Госпаду Богу цамалюся, Прачыстай матцы пакланюся. Ішоў Гасподзь Бог Сус Хрыстос з нябес, за ім Прачыстая матка ішла, у правай руцэ залатыя ключы нясла. Сустракая Гасподзь Бог Сус Хрыстос з нябес:

— Куды ты, маць Прачыстая, ідзеш?

— Іду я парадніцу адведаці і младзенца з жывата выпускаці. Ці ты ж младзеняц, ці младзенка — пара табе з жывата выхадзіці, парадніцы кроў разліці.

Прашу я цябе, Прачыстая маць, к сабе на помач з сваёй правай рукою.

## 1113. На добрыя роды

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся. Я, Госпадзі, з словам, ты, Госпадзі, з помаччу.

Ясны месяц парою ўсходзіш, парою заходзіш. Раба божая Параска парою занялася, парою родзіш; прыдзя табе паследняе ўрэмя — адчыняны табе вароты.

## 1114. Ад несвоечасовых родаў

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай пакланюся. Бел камянь горы сціскаў, царськія вароты самі запіралісь, у рабы божай самі косьці схадзілісь і да пары і да гадзіны і да паўгадзіны. Прыдзя час і пара, выхадзі, як із лука страла. А ў том я не знаю, што занімалась, ці князь, ці княгіня. Яе я не знала, што занімалась, штоб я не знала, як яно абраджалась: прыдзя час — родзіш без мяне.

## 1115. Ад несвоечасовых родаў

Госпаду Богу пакланюся, Прачыстай матары памалюся. Ішла Прачыстая сінім морам, шырокім полем, залатым матузом падпаразаўшысь, залатой прасціной падпіраўшысь, у руках нясла ключы залатыя. Ішла яна да рабы божай залатыя замкі замыкаці, шоўкавы повяс к сэрцу прывязаці, нарождэнніку (цы) да свае пары, да свайго ўрэмя стаяці, а 'к прыдзя ўрэмя-пара, тагды як з луку страла.

## 1116. Пры родах

Госпадзі Божа, багаславі, і маць Прачыстая, памажы! Упрашáю Госпада Бога і Яна Храсціцеля, закрывайця, заберагайця сваім часным храстом. Як на мор'і, на лукамор'і там ляжыць бел камень, а на том камні сядзіць мацер Божая Бугуродзіца Трыярушніца, гасподнія, божыя прэпадобніца. Упрáшую ж я Госпада Бога кажную часіначку, кажную гадзіначку,— апрастай, Госпадзі, рабу божыю Матруну; пусьці, Госпадзі, ету душухну, нарождзеную, сатваронную, на еты свет на будушчы век. Жыў Бог — жыва й душа.

## 1117. Пры родах

Стану я возля акенца проціў яснага сонца, тудой ідзе маць Прачыстая з утрэні-абедні з яркімі свячамі, залатымі ключамі. Ярыя свечы запалівала, залатыя замкі адмыкала, царскія вароты адкрывала, на абедню паступала, матку ўмаўляла, на места ставіла, у этай рабы божай нарады займала. Амінь.

## 1118. На добрыя роды

Чараз поле чыстае, чараз мора быстрае шла маць Прачыстая. Там яна траўку рвала, вадзіцу брала, рабу божую Ганну ўсё цела падмывала і ў мора спускала. Як па мору вадзіца разыходзіцца,так штоб у раб божай Ганны косці разыходзіліся. Я не знаю, сам Гасподзь Бог знае і нам памагае. Я з словам — Гасподзь Бог з помаччу і Святым Духам.

## 1119. На добрыя роды

Ішоў сам Гасподзь з небяса, згубіў залатыя ключы з-пад паяса. Мацер Божая ішла, залатыя ключы знайшла. Замкі, атапрыцеся, царскія вароты, атварыцеся, паясы, развяжыцеся, раба божая Матрона (ці хто), з дзіцёнкам разлучыцеся.

## 1120. Каб лёгкія роды былі

Як у полі пры дарозе там стаіць царква. Туды ішла маць Прачыстая і нясла дванаццаць ключоў, адмыкала дванаццаць

замкоў. Яна замочкі адмыкала, царскія вароты адчыняла і з цела младзенца выпускала. Ці шчука, ці шчуканец, вылезь з цела скоранька, ручанец. Ішла прасвятая Багародзіца з калянай стралой і стралой выстраліла і па чыстаму полю ўрокі-прарокі размятала.

## 1121. На добрыя роды

Госпаду Богу памалюся, усім божым угоднічкам укланюся. Ранняя (вячэрняя) зара-зараніца, прашу быць Аўхіму Міхайлаву (знахар) памашніца. Раба божая і прэсвятая Бугуродзіца, і ты, маладзец (дзявіца),— няма пары, няма й травы, царськія вароты пазапіраны і кворткі пазамыканы. Прыйдзя пара — парасце трава, царськія вароты па'дпіраюцца, і кворткі па'дмыкаюцца, моладцу ці дзявіцы на свет можна выйці (быку ці цяліцы, жарабцу ці кабыліцы).

## 1122. На добрыя роды («Прошча»)

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Прачыста Божа маці з прастола ўставала, рабе божай (імя парадзіхі) дзіцятка адмаўляла, сустаўчыкі адмукала.

Божа маці да цэркаўкі шла, залатыя ключы нясла, срэбныя замочкі адмыкала, царскія вароты адчыняла. Вы, замочкі, адмыкайцеся, царскія вароты, адчыняйцеся, рабе божай (імя) сустаўчыкі адчыняйце, маладзец-малодзенька, на гэты свет з'явіцеся. Гара, разайдзіся, камень, раскаціся, жалеза, растапіся, шкло, разбіся, вада, разліся, дубок, развейся, маладзенец-маладзенька, на гэты свет з'явіцеся. Як хлопчык, то на коніку, як дзевачка, то на рыбінцы.

## 1123. На добрыя роды

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай Божай маці пакланюся. Я словамі — Бог з помаччу рабе божай Ганне роды адкрываці.

Залатыя ключыкі, адамкніцеся, вы, царскія вароты, адчыніцеся. А ты, янгёл, не ляжы, ножкамі папіхайся, даверху дабірайся.

## 1124. Парадзісе

Божа маці, прыйдзі мяне ратаваці, маё цела распрастаці, мае жылкі выпраўляці.

*

* *

Сячыся, рубайся, і на еты, свет, младзеняц, яўляйся.

## 1125. Пасля родаў

Святы Марцін, распусці на сем аршын, святы Несцер, Несцер, звядзі на персцень, пастаў сустаў на сустаў, на сцыкі дзірачку астаў.

## 1126. Ад грудніцы

Грудніца-маладзіца, ідзі ў чыста поля ад рабы божай Праскоўі. Як у чыстым полі ветру не шумець, не буваць, так у раба божай у Праскоўі грудніцы не буваць. Здую, сплюю раба божай Праскоўі грудніцу. Амін, амін, амін.

## 1127. На захаванне плода (жывёле)

Ёсь у моры царык-камень мікадоньскі; як яму з мора ня рыцца, так кабылі гэтай бяз урэмя не жарабіцца.

## 1128. На захаванне плода (жывёле)

Кабыла вараная, шэрсць чарная, буйная галава, хрябетная касьця́; як дзержыш зубы ў раце́, так дзяржы да пары садзержашча ў жываце.

## 1129. На захаванне плода (жывёле)

Ішоў Хрыстос цераз калінавы мост,— камянь, кацiся, жарабя, пары дзяржыся, амін.

## 1130. Ад начніц

Цёмная ночка
Начніц парадзіла,
Малому дзіцяці
Мукі нарабіла;

Яснае соўнійка
Дзень начынаець,
Начніц праганяець,
Дзянніц насылаець,
Боль сунімаець.
Шух у печ! Шух у печ!

## 1131. Ад начніц

Вячэрняя зара-зарыца, забяры ў майго дзіцяці плач і начніцы. Шух у печ, шух у печ!

## 1132. Ад начніц, крыксаў

Сонца за лес, крыкса на лес, а дзіцяцю спаць...

## 1133. Ад крыксаў

Вуйду я на дварочкі, гляну я на зарочкі. Ох, зоркі вы, зарнічкі, выродненькія сястрычкі, а катора з вас найрадзейша, а катора з вас наймілейша? Збярыце етай (імя) крыксы-плаксы, занясіце на сіняе мора, на крутыя горы, на Васіяньску гору. Там вам калыскі залатыя, пелюшкі шаўкавыя. Вы ж пелюшкамі адзявайцесь, а калыскамі ўзмахвайцесь.

## 1134. Ад крыксаў, плаксаў

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Я словамі, Бог з помаччу рабе божай (імя дзіцяці) крыксы шаптаці.

Зарніцы, родныя сястрыцы, вазьміце Валіны крыксы, плаксы, па гарах, па далінах панасіце, у калыску сну прынясіце. Шоб (імя) спала, гуляла, у сне прыбувала. Шоб (імя) прыспаць, прыгуляць, пры здароўі стаць. А тыя, каторыя наслалі, шоб оны крычалі, вішчалі, а мае дзіця шоб прысыпалі.

## 1135. Ад крыксаў

Зоры-зараніцы, божыя памашніцы, вазьміце дзецкія крыкніцы — дзенныя, палудзенныя, начныя, палуначныя, прыдуманыя, прыгаданыя, урочлівыя, прыгаворныя. Тут вам не стаяць, крыві не разжыгаць, младзенца не сушыць.

## 1136. Ад начніц, крыксаў

Первым разам, божым часам. Госпаду Богу памалюся, матцы Прачыстай пакланюся. Матка Божая святая, стань мне на помач — рабу божаму младзенцу крыксы гаварыці.

Зоры-зараніцы, красныя дзявіцы, вазьміця вы крыксы-нашніцы, і бацькавы і маткіны, і дзявоцкія і парабоцкія, і жалосныя і карысныя, уцешныя і пасмешныя, светавыя, заравыя. І вам, зорачкі, на стаяння, а рабу божаму младзенцу на здароўя; вам, зорачкі, пасвяціці, а рабу божаму младзенцу паспаці.

## 1137. Ад крыксаў

Крыксы-начніцы, дзянныя, вечарныя, палуночныя, ідзіце на мхі зыбучыя, на воды бягучыя, дзе люлькі, зыбкі, разныя напіткі. Там піце, гуляйце, на раба божага младзенца Андрушку забывайце. Не я забаўляю — з Госпадам Богам, са Ісусам Хрыстом, са ўсімі святымі. Ва векі амін.

## 1138. Ад нашніц, крыксаў

Крыксы, крыксы, дарую я вас хлебам-соллю, белай рубашачкай, красным паясочкам — даруйця майго дзіцяці добрым здароўем і сном!

## 1139. Ад крыксаў

Добры вечар, куркі серыя, белыя! К вам хазяюшка прыйшла, хлеб-соль прынясла. Хлеб-соль вы з'ядалі, а майму дзіцёначку каб спаць далі. Не сваімі думамі, а гасподнімі славамі, прылюбі мой душок ціхенькі, лягенькі, дай Госпадзі на помач.

## 1140. Ад начніц, крыксаў

Курачкі-сакатушкі, вазьміця ад маладзенца начнушкі; вам, курачкі, спяваці, а маладзенцу спаці.

## 1141. Ад начніц, крыксаў

Першым разам, другім часам. Дабры́вечар, курачкі-сястрычкі! Вазьміця ад Адаркі нашнічкі, дзянныя, палудзянныя, нашныя, палунашныя. Куры жоўтыя, куры чорныя, куры белыя, куры рабыя, а ня кадун вас нарадзіў на раба божага Адарку. Цур цябе, храшчонага, нараджонага.

## 1142. Ад начніц, крыксаў

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матары пакланюся.
— Дабры́дзянь, куркі Матрункі! Ці спіця вы?
— Спім!
— Няхай жа і раб божы Змітрок спіць.

## 1143. Ад начніц, крыксаў

Стань, Гасподзь Бог, на помач! Дабры́вечар, зара-зараніца! У мяне хлопчык, у цябе дзявіца. Вазьміця ад майго хлопчыка нашніцы сваёй пракраснай дзявіцы. Куркі-сакатушкі, вам усю ноч сакатаць, а рабу божаму ўсю ноч спаць. Вы, сабачкі-брахуны, вазьміця ад раба божага крыкуны. Дай Бог на помач.

## 1144. Ад начніц, крыксаў

Первым разам, добрым часам. Госпаду Богу памолімся, Прэсвятой Бугуродзіцы паклонімся, стань ты, Госпадзі, на помач. Выгавараваю крыксы-плаксы, дзянныя, палудзянныя, нашныя, палуношныя, урошныя, прыгаворныя, ветраныя, вадзяныя, прыдумныя, прыгадныя, жаноцкія, дзявоцкія, рабяцкія, хлапяцкія. Куры крычаць, куры крычаць, а табе, раб божы, вяляць спаць, муўчаць.

## 1145. Ад начнікоў (начніц)

Прышлі, Госпадзі, маяму дзіцятку сон з чужых, дальніх старон, а растушкі і драмушкі з гасподніх (sic!) вaздухом, штоб яно спала і драмала, і расло, і прыбывала. Ляцелі сарокі цераз дзіцячы двор высокі, да ўхапілі крыксы і плаксы, начніцы і ўрокі, да панеслі цераз чараты, цераз балаты, да ўтапілі ў яр глыбокі, крыльцамі замялі, ножкамі заграблі.

## 1146. Ад начніц («Вотначы»)

Бег ваўчок-ваўчышча, разінуў рацішча. Ты, ваўчок-ваўчышча, бяры Івана начышча, нясі сваім дзеткам. У тваіх дзетак сем мацярок, а ў Івана адна матка. Хай спіць да гуляе, да цела прыбувае.

### 1147. Ад начніц («Вотначы»)

У цёмным лесе стаіць хатка, у той хатцы — ваўчыца. Тая ваўчыца па лесе бяжыць і крычыць. А Івану спаць і гуляць, і целу прыбуваць.

### 1148. Ад начнога

Ішоў леў шырокаю дарогаю з залатою сякераю. А на той дарозе стаяла бяроза. Стаў тую бярозу рубаці, сталі на моры трэскі летаці. Божая маці, прыступіся нашаму дзіцяці начное выгавараці.

### 1149. Ад крыксаў

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры Божай пакланюся, кіеўськім, пячэрськім усім сілам нябеськім, усім святым гасподнім божым угоднікам і ўсім святым гасподнім божым скорым памочнікам. Усе святыя гасподнія божыя ўгоднікі, усе святыя божыя скорыя памочнікі, прыступайце рабе божай Мані (як звацъ тое дзіця) да помачы, начніцы лячыць-выгаваруваць.

Курачкі-сястрычкі, ідзіце забярыце ад Мані начнічкі. У полі рэчка, сухі дуб, сырое карэнне. Пад тым дубам сядзіць бабка. Прашу цябе, бабка, благаю цябе, бабка, прыйдзі забяры з мае Мані крыкі, зыкі, начніцы, палуначніцы, начныя-палуначныя, вячэрнія-палувячэрнія, дзяняшнія-палудзяняшнія, палудзяшнія (якія зоры ёсць, усе так успаміні). Занясі іх за дунай-мора, за дунай-поле. Там ім піць-гуляць, добра сабе маць, а ў рабы божай Мані начніцы не бываць і болі не чуваць, і харч паядаць, і крэпкім сном спаць.

### 1150. Ад начніц

На бялянскім полі стаіць грушка, на той грушке вісіць калыска. Ля калыскі сядзіць бабка. Ня ўмее ні шыць, ні прасць, толькі ад ночы лячыць.

### 1151. Ад крыксаў

У чыстым полі стаіць бяроза, пад таею бярозай стаіць дзячок з доўгаю пугаю — крыксы паганяе, крыксы, плаксы панянятам у падушку. Там вам піць і гуляць і да етага дзіцяці патрэбы не маць; а мой душок ціхенькі, лягенькі — сціхайся, злягайся на помач, на вялікую палёгку.

## 1152. Ад начнікоў (начніц)

З-пад цёмнага лесу ўбегла дзевяць дзевяцей дзевіц, да ўсе яны сястрыцы. Да ўхапілі ад маго дзіцятка крыксы і плаксы і начніцы, пабеглі крутымі беражкамі, жоўтымі пяскамі за цёмныя лясы, на зялёну мураву. Там яны сабе гуляюць і спачыўкі маюць. Там вы сабе гуляйце і спачыўкі майце, а маго дзіцятка не турбуйце! Няхай маё дзіцятка спіць і гуляе, і расце і прыбывае. Угу! Пабеглі, панеслі! Бяжыце, нясіце, а маго дзіцятка не турбуйце.

## 1153. Ад крыксаў

У полі стаіць ігрушка, пад ігрушкаю белы камень, на камені прыстол стаіць, за прыстолам чатыры папы сядзіць, у чорных жупанах, шырокіх рукавах. Кадзільніцамі матаюць, ад гэтага дзіцяці крыксы і плаксы і нуду атнімаюць і на сіняе мора ссылаюць, а яму сон прысылаюць.

## 1154. Ад начніц («Вотначы»)

Ішлі майстрэ праз трое дзвярэй, сухога дуба рубалі, на пералесак клалі, сабе на прыбытак, а Йвану на пажытак. Хай спіць да гуляе, да цела прыбувае.

## 1155. Ад начніц («Нашнікі»)

Нашнік-нашнік, жалезны сашнік, адкуль прыйшоў, туды пайшоў, адкуль прыехаў, туды паехаў, адкуль прыляцеў, туды паляцеў. За марамі, за балатамі зарэзала сем кабаноў, сем бараноў, сем бугаёў. Там кухары гатавалі, у скрыпачку ігралі, з (імя) нашнікі знімалі.

## 1156. Замова на сон

На Сіянскай гарэ стаіць дуб. На тым дубу дванаццаць какатоў, на тых какатах дванаццаць вараноў. Самі яны чорныя, вочы іх чорныя, дзюбкі іх чорныя, кохці іх чорныя, крыллі іх чорныя. Вачамі яны выглядалі, дзюбкамі яны выклявалі, кохцямі яны выдзіралі, крыллямі яны вымяталі, Івану спакойны сон засыпалі. Ціхенька, лягенька спаць жадалі.

### 1157. Ад начніцы

Е ў нашага Бога шырокае поле. На том поле — сіняе мора. На сінем моры стаяў дуб: двінаццаць какатоў, двінаццаць каранёў. У старшым какаце сідзеў старшы пеўнік. Ён песінкі (с)піваў, з раба божага (імя) начніцы ўга[в]араў. Начніцы дныя (дзённыя), супаўночныя, уга[в]араў, усылаў: «На сіням моры сталы засціланые, кубкі наліваные. Там вам, начніцы, піць, гуляць! Там вам свадзьбы спраўляць! У раба божага (імя) век зроду начніц не бываць!»

### 1158. Ад начніц, крыксаў

Я з таго свету сваю мамачку ўспамінаю, начнікі, крыксы загавараю. Прыступі, Гасподзь, дапамажы.

Ішла пані ў чорным плацці, нясла начнікі — на панянята, на дзекаранята, на жыдзянята. І як з таго свету мамачцы не ўстаць, так крыксаў, начнікоў у Наташкі да смерці не бываць.

### 1159. Ад начніка

Дабрыдзень, начніча, добры чалавеча. Адкуль ты ўзяўся, ці ты накідны, ці ты насланы, ці ты накалымны? Ідзі ў шчырыя бары, у цёмныя лугі, дзе ногі не ходзяць, тавары не гоняць. Там табе піці, гуляці, шумаваці. Як мне, Просі, пад вянцом не стаяці, на пасадзе не сядзеці, а дзіцяці лёгенька спаці, так вам, пакідным начнікам, ніколі не бываці.

### 1160. Ад крыксаў, плаксаў (на ноч)

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Я словамі, Бог з помаччу рабе божай Наташы крыксы шаптаці.

На заходзе сонца стаіць дуб, а ў том дубе змеянята. Шоб воны крычалі, пішчалі, Наташку забаўлялі. А Наташцы прыспаць, прыгуляць, пры здароўі стаць.

### 1161. Ад начніц

Госпаду Богу памалюся, святой матухне Прачыстай пакланюся. Прачыста маці да помачы стаці ў раба божага (імя) крыксаў, плаксаў, несаноты шаптаці.

Ідзі ты, крыксівіца, ідзі ты, плаксівіца, ідзі ты, несанота, ідзі ты, недрамота. Печ-матухно, калышы мае дзіцятухно. А стол-

бацько, дазірай маё дзіцятко. За гарою крамяною бегла рэчка траскуча, піскуча, ляскуча. Туды вона кліча, туды вона ішчэ несаноту, недрамоту, а маему (імя) наспаціся, нагуляціся, ніякім ачыцам не паддавацца, ні пудмоўным, ні пудгаворным, ні спешным, ні пацешным, ні падуманым, ні пагаданым, ні ветраным, ні насланым. Яе ж маці радзіла, на белы свет пусціла, сномкрасатою надзяліла, ніякіх ачыц не дапусціла, ні падуманых, ні пагаданых, ні ветраных, ні насланых, ні пудмоўных, ні пудгаворных, ні спешных, ні пацешных.

## 1162. Ад начніц («Вотначы»)

У лесе на верасе стаіць дуб, на том дубе сем какатоў, у тых какатах сем калубеняй, у тых калубенях лялькі і мамкі. Лялькі і мамкі, няньчыцеся, мамчыцеся, вотначай не пускайце, ні сцікілівых, ні дрысклівых, ні крыклівых. Ссылайце, дзе пеўні не пяюць, сабакі не брэшуць, дзе людзі не ходзяць. Там ездзіць архайла Міхайла на вараным кані, коніка паганяе, пачынкаю не пускае, ад Тані вотначы адганяе.

## 1163. Ад крыксаў

Первым разам, божым часам, Госпада Бога ўмаляючы, святых угоднікаў божых упрашаючы. Святыя ўгоднікі божыя, прыходзьце мне на помач рабу божаму младзенцу Івану крыксы выгаварваць.

Ішла мацер Божая шырокай дарогай, нясла лыжачку масла і тры часнаковачкі. Часначку растаўку, маслічкам закушу. Выгаварваю з младзенца Івана крыксы-вярыксы на будаваныя калыскі, на мяккія падушкі, начныя, палуначныя, дзянныя і палудзянныя, і зсылаю вас, крыксы, дзе куры сядзяць, не крычаць, і штоб ты, Іван, не крычаў ды спаў.

## 1164. Ад начніц

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Прачыстая Божа маці, прыступі, дапамажы (імя) начніцы шапгаці.

Начніцы, ці вы начныя, ці паўночныя, ці вы светавыя, ці вы ранішнія, ці вы дзёняшнія? Наце вам ножык да зарэжцеся, верацяно — скалецеся, нітачку — павесцеся, а ад (імя) адкасніцеся.

## 1165. Ад крыксаў

Госпада Бога ўпрашаю, Прачыстую мамачку на помач жалаю. Крыксы-плаксы ўгавараю, упрашаю з ёлкі зваліцца, на сук прабіцца, на іголкі пакалоцца, на шчэпкі нашчапіцца, а з (імя) адкасніцеся, раннія, вячэрнія, начныя, палуночныя, дзянныя, палудзённыя. Прашу вас, упрашаю выхадзіць вам з буйнай галавы, з русых кос, з ясных воч.

## 1166. Ад крыксаў-плаксаў

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Я словамі, Бог з помаччу.

Ты дзед лесавы, я баба барава. Ідземо пасватаемся, пабратаемся. Вазьміце Наташыны крыксы, плаксы, па гарах, па далінах панясіце, Наташцы ў калыску сну прынясіце. Шоб Наташка спала й гуляла, у сне прыбувала. Бо яна крышчэна, бо яна свяшчэна. А воны не крышчэны, а воны не свяшчэны. Шоб воны крычалі, вішчалі, а мае дзіця шоб прыспалі. А майму дзіцяці прыспаць, прыгуляць, пры здароўі стаць.

## 1167. Ад крыксаў

Дзень добры табе, верасовы дзядок, дзень добры табе, верасовая бабка! У цябе сыночак Захарка, у мяне дочачка Наталка. Твайму сыночку Захарцы па лесу крычаці ды верашчаці, маей дочачцы Наталцы ў калысаццы спаці, да гуляці, да прыбуваці.

Ад чаго стала, шоб так яно і прапала.

## 1168. Ад крыксаў

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай Божай маці пакланюся. Святая Прачыстая Божая маці, прыйдзі маладзёну нашніцу шаптаці. Лесавы дзед — гу-у, лесавая баба — гу-у. Пасватаемся, пабратаемся. У цябе маладзёна, у мяне маладзёніха. Вазьмі ў маёй маладзёніхі крыксы, плаксы, занясі сваёй маладзёніхі, пуд галаваньку пакладзі, штоб мая маладзёніха спала і гуляла, штоб у яе цела прыбывала.

## 1169. Ад крыксаў («Зноскі»)

Добры дзень, заморская бабка! Добры дзень, лясовы дзядок! Пасватаймася, пабратаймася, пакумемася, палюбемася. У мяне

сынок, у цябе дочачка, пажанема, падружэма. Няхай тваёй дочачцы крыксы-крыксавіцы і плаксы-плаксавіцы, а майму сынку спанне-прыбыванне. Усякія вочы хай прымае. Каб твая дочачка крычала і верашчала, а мой сынок спаў і прыбываў і ўсякія вочы прымаў.

### 1170. Ад начніц

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамке пакланюся, я з словам, Бог з помаччу.

Зоры-заранічкі, божыя памашнічкі, памагі Богу, памажыце і нам крыксы, плаксы ўгавараці, умаўляці. Бабка балотавая, бабка чаротавая, сыйдзем пасватаемсь, пабратаемсь, у цябе дачухначка, у мяне сыночак. Тваей дачухначке крыксы-плаксы, а майму сыночку спаць, гуляць, а на гора забуваць.

Любіш мяне — любі мой дух.

### 1171. Ад начніц, крыксаў

Госпаду Богу памолімся, Прачыстай мамцы паклонімся, усім святым апосталам, усім святочкам, гадавым празьнічкам,— усі мне станьця на помачы.

Дабрыдзянь, дуб Лебядзін! У цябе дачка, у мяне сын. І бяры ты ад яго плаксы і крыксы, і варыксы, і дзянныя, палудзянныя, і нашныя, палунашныя, і ранныя, і вячэрныя. І бяры з жыл, з пажыл, з гаручыя крыві, з буйной галавы, з рацівага сэрца. Ідзіця вы на цёмныя лясы, на тоўстыя дубы, на шырокія лісты — там вам піць і буяць, а майму маладзенцу спаць і гуляць.

### 1172. Ад крыксаў

Госпада Бога ўпрашаю, Прачыстую мамачку на помач жалаю.

Зорачка-зарыца, красная дзявіца, мы с табой пасватаемся, пабратаемся. Вазьмі ў мяне дачышчу свайму сынішчу (у залежнасці, каго лечаць, або: вазьмі ў мяне сынішчу сваёй дачышчы), мае крыксы-плаксы, раннія, вячэрнія, начныя, палуночныя, дзянные, палудзённыя, пужаныя, здрыганыя, уляканыя, крыксlівыя, дрыслівыя, прыглядныя, прыпадныя, пацешныя, пасмешныя, ад старых старух, старыкоў, ад старых старыц, ад маладых маладзіц, ад красных дзявіц, і ўстань, Госпадзі, на помач.

### 1173. Ад начніц

Добры вячор табе, цёмная ночка. У мяне сынок Адамко, у цябе Еўка дочка, пасватаймось, пабратаймось, пакахаймось і падружымося. (Імя) адсылае начнічышчэ-плаксівішчэ да на сіняе ж мора, да на крутыя горы. А бягіць жа рэчка за крутымі гарамі, траскуча й пякуча, адсылае туды начнічышчэ-плаксівішчэ.Да на быстрай рэчыцы ўтапіцеся, на верацёнах пакаліцеся, на пелюшках павесцесь, а ад рабы божай (імя) адчапіцеся.

### 1174. Ад начніц («Вотначы»)

Прашу я свайго старшага дамавога, сокала, і прашу я цябе, дзед Севярын. У цябе дачка крычыць і гукае, а мой сын няхай спіць і гуляе. Табе на прыбутак, а нам на здароўе. А з чаго стала, штоб там і прапала.

### 1175. Ад начных

Першым разам, божым часам Прасвятая Божая матка, прыступі і дапамажы начныя шаптаці і ўгавараці і сон накідаці. Начніцы-зарніцы, сонца Максім, месяц Трахім! Ішоў Госпад залатым мостам з залатым посалахам. Сустрае святога Пятра, святога Длю:

— Куды, святы Пятро, святы Ілля?

— Іду ў чыстае поле, дзе сталы засціланы, кубачкі наліваны, неба з зямлёй здымаецца, начныя згадваюцца.

— Няпраўда, неба з зямлёй не здымаецца, начныя не згадваюцца ні сходам, ні ў перакрою, ніякаю парою. Амінь.

### 1176. Ад начніц

Пайду я ў чыста поле чыстаю дарогаю. У чыстым полі стаяла яварава караватка. У той караватцы Божа матка, ля яе царыца, божая памачніца. Прашу я Госпада Бога міласерднага: «Сашлі з неба тры ягнелы з нажамі, з мячамі, з вострымі спічакамі, начніцы скалечце, знясеце, спужайце, дзіцяці супакой дайце. Дай Божа, каб яно крэпенька спала, лёгенька ўстала, дай Божа яму на помач».

### 1177. Ад криксаў і плаксаў

Стаіць Прачыста мацер Божыя на покуці, а ідал на парозі, а слуга (ангел-храніцель) на старожы. Прачыстуй мацеры Божай

малітвы, а ідалу — крыксы і плаксы і начніцы, а дзіцяці на прысыпання, штоб спала, прыедала і целу прыбувала.

## 1178. Ад крыксаў

Госпаду Богу памалюся, Божай мацеры пакланюся. Госпадзі, прыступі да памажы (імя) крыксы-плаксы шаптаці.

А чаго вы налеглі на ёго душу? Вы, крыксы-крыксавіцы, вы, плаксы-плаксавіцы. Вы налеглі на (імя) душу, то ідзіце вы ў тыя сківіцы, у тыя івіцы, у тыя шчэлепы. А мой (імя) хрышчоны, раджоны, благаславёны, шоб вон ноччу спаў, а днём гуляў, радасна пражываў.

Госпадзі, прыступі, памажы, на ёго сну нанесі. Хай вон спіць, гуляе, прыбувае, усякі вочы прымае.

І Божэ памажы, і Божэ памажы, і Божэ памажы!

## 1179. Ад начніцы

Начніца, начніца начная! Набяру я траўкі-мураўкі, как іголачка, вострую; станець яна цябя калоць, станець яна цябя жэч — адчаго ты рабу Сох'ю і знобіш і сушыш, і пакою не даеш ні ў ночуську, ні ў зорушку. Зара-зарыца, зара вутрання і зара вячэрня! Вазьміця ад рабы Сох'і худобіцу і дайце дабродзіцу, сон усю ноч і піценне і едзенне. Зарэ-зарушке краснець, рабе Сох'е здаравець.

## 1180. Ад дзіцячых хвароб («Знос»)

У вочы — сонейка, у патылічку — месячка, а ручкі — грабелькі, а ножкі — вілачкі. Сонейкам асвяціся, месячкам агарадзіся, паганаму зносу не дапускайся, паганы знос — кукіш пад нос.

## 1181. Ад дзіцячых хвароб («Зноскі»)

Госпаду Богу памалюся. Божай мацеры пакланюся. Госпадзі, прыступі да памажы (імя) зноскі шаптаці.

Зноскі-зносніцы, а вы зноскі-паўзносніцы, паўдзявоцкія, паўхлапоцкія. А наш (імя) зноскаў не баіцца. Вон хрэстом адхрысціцца, броўкамі адмаргнецца, веечкамі лупнецца, вочкамі адглянецца, носкам адсякнецца, губкамі ўсміхнецца, язычком адгаварыцца, а ножкамі адбяжыцца, вон зноскаў не баіцца.

І Божэ памажы, і Божэ памажы, і Божэ памажы!

### 1182. Ад крыксаў

Печку затапіць, а юшкі не адчыняць і казаць: «Крыксы-варыксы, ідзіце за парог, дайце дзіцяці спакой. Начнічкі-сястрычкі, ідзіце з агнём і з дымам, а дайце дзіцяці спакой».

### 1183. Ад начніц

Угаварываю начніцы з курамі, з катамі, з сабакамі, урошныя, улежныя, прыгаворныя. Няхай каты крычаць, сабакі брэшуць, куры кудахчуць, а начніцы спяць, маўчаць.

### 1184. Ад крыксаў

Крыксы-плаксы, вячэрнія і раннія, паўночныя і дзянныя, урочныя і прыгаворныя. На лес, крыксы, ляціце крычаць! Лесу буяць, а гэтаму дзіцяці спаць і маўчаць.

### 1185. На сон

Ішоў святы Юрай з Міколам, страчае зарніцу:
— Куды ты ідзеш, зарніца?
— Іду ў чыстае поле Госпада Бога шукаць.
Госпада Бога не найшла, да Ларысе сон прынясла.

### 1186. Ад начніц

— Што круціш?
— Начніцы.
— Круці, круці, каб ніколі не было.

### 1187. На добрае здароўе

Ночачка-матачка, беражы маё дзіцятачка, з вечара да ранку, з ранку да світанку і на ўсё жыццё.

### 1188. Ад дзяцінцу

Першым разам, божжым часам Госпаду Богу памалюся і святой Прачыстай пакланюся, матары Божжай,— стань, Госпадзі, на помач.

На сіням моры стаіць клетка, а ў той клетцы трыдзевяць дзвярэй, трыдзевяць парогаў, трыдзевяць замкоў, трыдзевяць

камянёў, на тых камянёх трыдзевяць дзяцінцаў. Цур табе, маладзеняц (3 разы), ад трыдзевяць дзяцінцаў, ад мужыцкіх і ад жаноцкіх, і ад дзявоцкіх і ад парабоцкіх, ад падуманых, ад пагáданых, ад прыстрэшных, ад прымоўных, ад прыгаворных, ад уцешных, ад пасмешных, ад калючых, ад балючых, ад свярбучых, ад нудлівых, ад пужаных, ад вадзяных, ад ветраных, ад усіх трыдзевяць дзяцінцаў. Сціхаюцца зорачкі ранныя і вячэрныя, уціхніся, уніміся ў раба божжага, дзяціняц. Я з словам, а Бог з помаччу.

## 1189. Ад падучай хваробы (ад «чорнай хваробы»)

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамцы пакланюся, усёй нябеснай сіле: прыпадобнічкам, прыпадобніцам, божым праведным угоднікам, вячэрняй зарніцы — божай памачніцы. Памажыце ж мне Госпада Бога прасіці.

Ціхоны-пераходы, вас упрашаюць, умаляюць, ссылаюць на вас дванаццаць братцаў старшых да семдзесят сем младшых. Ідзіце цераз чыстае поля, цераз сіняе мора, пападайце ў ціхую цішыню, на сухія асінкі. Туды птахі не залётуюць, звяры не забягаюць, совы не кугакаюць. От там жа вам, ціхоны-пераходы, пецi і гуляці і ў гнілых калодах прападаці. У белым целе больш не бываці, па касцях не хадзіці, крыві не паліць і сна не будзіць.

## 1190. Ад дзяцінцу

Адзін дзяцінец, два дзяцінцы, тры дзяцінцы, чатыры дзяцінцы, пяць дзяцінцаў, шэсць дзяцінцаў, сем дзяцінцаў, восем дзяцінцаў, дзевяць дзяцінцаў, дзесяць дзяцінцаў, адзінаццаць дзяцінцаў, дванаццаць дзяцінцаў. Ішлі дванаццаць малайцы, неслі дванаццаць тапары. Яны не ішлі лесу рубаць, да ішлі цэркаўку рабіць. Цэркаўку не рабілі, да дзіцяці дзяцінец лячылі.

## 1191. Ад дзяцінцу

Госпудахна-божухна, прыступі, дапамажы Насці гора лячыць. Сем палей, на восьмым полі стаяць сталы пазасціланыя, стаяць кубкі паналіваныя, ляжыць чорнага пеўня галава. Ты ж, галава, ні еш, а з Насці ўсё ліхое гора злезь.

## 1192. Ад радзімцу

Первым разочкам, госпаднім часочкам. Госпада Бога ўпрашаю, Прачыстую мамку на помач прызываю. Святая госпадня, вялікая зара-заранiца, рабы божай (імя) памачніца, стань, Госпадзі, на помач, Прачыстая матка, на ратунак, ангелы, на радасць. Я, бабка, славамі — Госпадзь сваімы думамі.

На сіянь-полі стаяў дуб. Пад тым дубам стаіць прыстолік, скацерачкамі з пацерачкамі пазасціланы. На том прыстоліку хлеба-солі залажона, на том прыстоліку ў кубачкі віно паналівана. За тым прыстолікам сам Госпадзь Сус Хрыстос сядзіць, у чарачкі віно налівая, к сабе Пётру і Паўла на свіданне зазывая, а святога Іллю да сіняга мора па вадзіцу пасылая. Вот Ілля вадзіцу набірая, к сабе пераход любімага ліха прызывая: любімае, радзімае, спужанае, уляканае, уздрыганае, аручае, пяручае, ветраное, вадзяное, падзіўнае, пагляднае, пасмешнае, прыгаворнае, намоўнае, з агню, з ветра, з вады, у раба божага (імя) не бываць, па касці не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не таміць, жылак не марыць, галовачкі агнём не паліць, вочак не цямніць, вушак не глушыць, у вобмарак не вадзіць. Патуль ты хадзіла, буяла, гуляла, пакуль раба божая Дар'я (хто лечыць) прыступіла, ухадзіла, угаварыла, высылала з жыл, з паджыл, з касцей, з нагцей, з чуткіх вушэй, з чырвонае крыві, з жоўтае касці, з буйнай галавы, з румянага ліца, з русага валаска, з шчырага сэрца, з белага целца. Дай Бог час добры, любі мой дух лёгкі.

## 1193. Ад дзяцінцу

Первым разам, божым часам, Госпада Бога ўмаляючы, святых угоднікаў божых упрашаючы. Святыя ўгоднікі, прыходзьце мне на помач младзенцу Івану мяжыт выгаварваць — ляклівы, труслівы, калатлівы, падлівы, пужлівы, крыклівы, сухі і ліхі, і кашэчы, і чалавечы, і кароўі, і сабачы, і кацячы, і бацькоў, і маткін, ветравы, агнявы, штоб гэты мяжыт у Іванавай галоўцы не стаяў, не хадзіў, сэрца і нервы не знабіў, не трусіў, не калаціў. Выгаварваю мяжыт раба божага младзенца Івана ранняй парой, вячэрняй парой з кашчэй, з машчэй, з белага ліца, з краснага языка, з больнага жывата, з сямідзесят жылкаў, з сарака суставаў, штоб ён у раба божага младзенца Івана не стаяў, не хадзіў, нерваў яго не халадзіў. І ссылаю мяжыт Івана на мха, на балота, на ніцыя лозы. Там ты развівайся, гуляй, красуйся, а к рабу божаму Івану не варачайся.

## 1194. Ад патайніка

Госпада Бога ўпрашаю, Прачыстую матку на помач жалаю, ад етага раба божага (імя) патайніка атымаю, угавараю, упрашаю, адсылаю за цёмныя лясы, на жоўтыя пяскі, дзе людзі не ходзяць, пташкі не лятаюць, дзе малыя дзеці не гуляюць. Там я яго пакідаю, зялезным тынам загараджую, вострай мечай засякаю, урошнага, прарошнага, падумнага, прыгаворнага, нашнога, палуношнага, дзяннога, палудзённага, пужанага, зраджанага, крыклівага, дрымлівага, вадзянога, землянога, ветранога, агнявога. Прашу яго, упрашаю выходзіць з буйнай галавы, з русых кос, з жывата, з белай касці, з жоўтых мазгоў, з краснай крыві. Па касці табе не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не знабіць, сон не знаравіць, крыві не таміць.

## 1195. Ад прыступу чорнай балезні

Першым разам, божым часам. Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся і ўсім святым апосталам.

Ехала маць Прачыстая з Кіева на вараном кані, жалезным прутом паганяла і з (імя) сухоты, ламоты, патайнік, пужанне выбірала, на сіняе мора брасала. Ей памагалі ўсе святыя нябесныя ангелы. Ідзіце вы, сухоты, ламоты, пужанне, дрыжанне, на сінія моры, на жоўтыя пяскі і сухія лясы, а к (імя) не вазвраш-чайцесь. Не я знаю — Бог знае і мне памагае. Амінь.

## 1196. Ад дзяцінцу

Лячу я магучую балезнь. Цар Ануфры, цар Кассяну, прашу я цябе, угаварываю цябе: пакідайце, не займайце. Не будзеце пакідаць — буду на гарачыя скуры здзесь жэгці, пекці, асінавым дымам курыць. Хазяін лесавы, хазяін дамавы, выпрашываю цябе і слуг тваіх, і хазяйку тваю: пакідайце, не займайце. Па шырокай дарозе выпраўляю. І тая дарога золатам высыпана, серабром выслана. Лі прыстола тры пані кубачкі наліваюць, магучае балезнь забіраюць. Там і спаць і гуляць. Балезні ў (імя) не бываць, косці не ламаць, сэрца не таміць — урочны, падзіўны, пасмешны, сухотны, ламотны.

Лячыў Кузьма, не мой дух — божы, маць Прачыстая на помач.

## 1197. Ад пераходу

Госпаду Богу памалюсь, Прачыстай матцы пакланюсь і ўсім святым гадавым празьнічкам, кіяўськім, пячэрськім, русалімськім, вялікім, маленькім,— прашу я вас к сабе на помач.

Параходзішча, параходзішча, ня хадзі па жывацішчу, і ня хадзі, ня сушы, гаручыя крыві ня разлівай. А колі будзеш хадзіць, сашлём цябе да жыдоў, да нягодных душ; там цябе яны будуць біць і караць дубцамі і кіямі, і пугамі.

## 1198. Ад радзімцу

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матары пакланюся і ўсім святым божжым прападобным, кіяўськім, пячэрськім, Антонію і Хвядосію,— станьця ўсе на помач рабу божжаму ўрадзімца ўхадзіць і ўгаварыць.

На Сіяньскай гарэ стаяў лес, а ў том лесі хадзіў дзед, і нізенькі і маленькі, сівабародзенькі, лес ламіў і ўрадзімец загаварыў, і прыцешны і прысмешны, і прымоўны і прыгаворны, і ліцавы, і лабавы, і кутравы, і жылавы, і касцявы, і патылашны. Патуль ты стаяў, патуль ты буяў, пакуля я ня знала і Госпада Бога прызывала, вышэптавала яго і выгаваравала із касьцей, із машчэй, із ясных вачэй; і ссылаю я на маха́, на сіняя мора, па крутом лажку да па шчырам пяску.

## 1199. Ад дзяцінцу

Прашу Госпада Бога, Духа Святога, мацеры Прачыстай, прыступіцеся, памажыце, станьце Мані на помач.

У сінім моры на дне мора ляжыць камень. Пад тым камнем ляжыць яйцо. Камень здраганецца — яйцо разаб'ецца, а Мані дзяцінец мінецца. Ху! Не мой дух, гасподні.

## 1200. Ад дзіцячай хваробы

У полі дуб без карней і без голля, і без камля, і без маршчын. А на дубі птах сядзіць без ног, без крыл і без ачэй. Як етаму птаху з дуба не злятаць, так параходам не бувацъ. Амін.

## 1201. Ад дзяцінцу

Пералёт-пералёце, пераход-пераходзе, няма табе нічога ні піці, ні есці, ні супачыначку весці. Вазьміце вы буланага каня і

вышнюю пугу і яшную лусту і едзьце ў чыстае поле на прагуляннейка.

У чыстым полі на пралётах, там коні напасайце. Якая заслуга, такая плата. Які госць, такая чэсць. Злое, ліхое, усё згінь, прападзі. Мальчонаму, хрышчонаму дзіцяці здароўечка васкрасі.

### 1202. Ад дзіцячай хваробы (красушніка)

Красушнік, сухотнік, ламотнік, пякотнік, не хадзі, не крышы з гарачай крыві. Ідзі на нямую печ гліну глажы. Як з той печы дым уходзіць, так худаба пусць з Тані выходзіць, а Тані на добрае здароўе. Дай Бог Тані пілось, елась, спаць хацелась.

### 1203. Ад дзіцячай хваробы

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай мацеры пакланюся. Прачыстая Божая мацер з прэстолу ўставала, рабу божаму Сашыку помачы давала.

У паповым гумне, на жалезным таку малацілі дзевяць малойцаў і з дугамі, і з пугамі, і з нажамі, і з сакерамі. Пасеклі, парубалі, кроў паразлівалі, мяса параскідалі, рабу божаму Сашыку помачы давалі. Прыйшла да іх раджоная і хрышчоная.

— Чым вам плаціць?

— Чорным насеннем. З бягучых ножак, з махучых ручак, з перловае галоўкі, з карых вочак.

### 1204. Ад падучай хваробы

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся. Прачыста маці прыступала, на помачы стаяла, помачы давала.

Ты, ходзішчэ, пераходзішчэ, не сідзі, костачак не ламі, салодкага мяса не смакчы, чырвонай крыві не разжыгай ні ў маладзіку, ні ў трэццяку. (Імя) паехаў на вяселле зваці. Як етаму ходзішчу-пераходзішчу Кансцінціну на вяселлі не буваці, так етаму гору, так етай бядзе (імя) не знаці. Не памінайся, гора і біда, ні ў маладзіку, ні ў трэццяку, ні пуд поўнай, ні на сходзе. Прыехало (імя) два госці, адзін бенны, другі багаты. Багатага саджаюць за стол, а беннага кідаюць пад стол. Багатага частуюць медамівінамі, а беннага закідаюць чорнымі штанамі.

### 1205. Ад радзімцу, падучай хваробы і г. д.

Госпадзі Божа, багаславі, святая маць Прачыста, памажы. Выгаварываю я ету балезню і дванаццаць царыкоў: і прыдумных і прыдзіўных, і прыгаворных, жаноцкіх, дзявоцкіх, хлапецкіх і мурчыньскіх. Царыкі, царычочкі, гасподнія памошнічочкі, выхадзіця із касьцей, із мажжэй, із шчырых печаней, із ясных вачэй, з чорных броў. Царыкі, царычочкі, гасподнія памошнічочкі, і ня тут вам гуляць, і ня тут вам буяць, і раба божага не чапаць: ёсь у чыстых палях і ў зялёных лугах сталы засціланыя і кубы наліваныя,— вот там вам гуляць, і там вам буяць, і раба божага не чапаць.

### 1206. Ад падучай хваробы

Первым разам, добрым часам прашу Госпада Бога, Духа Святога.

Ехаў Міхаіла-архаіла на буланым кані, Нічыпара сустракаў: «Калі ты, Нічыпар, будзеш нячыстую сілу распускаці, я буду тваю галовачку жалезным скрабачом драці, вострым мечам адсякаці, за сіне мора каціці, у чыста поле ганіці». Табе чырвонай крыві не паліць, галовачкі ў вобмарак не вадзіць. Я вас усіх дванаццаць знала, па імені называла: калюча, гаруча, спужанаўлякана, жаноча, дзявоча, падумна, пасмешна, паглядна, прыгаворна, удавіна, сіраціна, бацькава-матчына. Датуль ты хадзіў, буяў, пакуль раба божая (хто шэпча) прыступіла, лёгкім духам ухадзіла. Любі мой лёгкі дух.

### 1207. Ад падучай хваробы

Первым разам, гасподнім часам Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамачцы пакланюся.

Мужык верабей, жонка вераб'іха, дзеці вераб'яняты, і сам выхадзі, дзяцей вывадзі, падумны, пагадны, і паглядны, і падзіўны, і пасмешны. Штоб па касцях не хадзіў, касці не ламіў, жыл не таміў, крыві не сушыў, цела не пушыў. І сам выхадзі, і дзяцей вывадзі. І па еты час, па еты раз, па ету пару, па раннюю зару. Зара сухая, Бог помачы давае, мой дух пралюбляе. Стань, Божачка, на помач і пралюбі мой дух. Не я ж угаваруюю, угаварае маць Прачыстая. Маць Прачыстая ішла і (імя) помачы прынясла.

## 1208. Ад падучай хваробы

Сядзіць пан на куце, пані на парозі. Пан суды судзіць, пані рассуджае, нізбутнік з сярэдзіны ўганяе. Стукнулі ў лабок, з лабка ў спінку, няхай будзе нізбутніку канец.

## 1209. Ад падучай хваробы

Зоры-зараніцы, гасподнія памашніцы, памагалі Богу, памажыце і мне. Раннія зоркі, вячэрнія, і божы дзянёчык, святая нядзелька, прыступіце, памажыце рабу божаму (імя) ад плахой балезні.

У полі стаіць ігрушка, а пад ігрушкай сядзіць старэнькая бабка.

— Што ты, бабка, шыеш?

— Каму шапку, каму світку, а каму што і так. А ты, нізбытнік, рассыпся на дробненькі мак.

І я кажу: можна рассыпацца. Гасподняя помач, а я з сваім духам.

## 1210. Ад патайніку

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамцы пакланюся, сягонняшняму дзянёчку святой пятніцы (які дзень), памажы мне, Госпадзі, выгаворваць патайнік — з белага ліца, са шчырага жывата, прыўрочны, обмарачны і падучая балезь (патайнік). Годзе табе па касцях хадзіць і косці ламіць і суставы крышыць, я цябе выгаварваю, сваім духам выдымаю.

Ты, патайнік-чараўнік, ты, падучая балезь, па касцях не хадзі і касцей не ламі. Я ж цябе выгаварваю, сваім духам выдымаю. І дванаццаць урокаў, дванаццаць прыгавораў і дванаццаць месяцаў на гаду і дванаццаць братцаў на раду — абшырных, завідных, смяшлівых, палатлівых, і ўрочная, і падучая балезь, і гарачку вымаўляю, сваім духам выдымаю. Годзе табе, патайнік-чараўнік, па касцях хадзіць, косці і суставы крышыць. Я з духам, Бог з помаччу.

Амінь.

## 1211. Ад сухотніка і бязбытніка

Памалюся, пакланюся ўсем святым святочкам, гадавым празнічкам, ранней зорачцы. Прачыстую мамачку на помач звала і рабу божжаму (імя) помачы давала, бязбытнік, сухотнік

унімала, на ніцыя лозы адсылала. Стань, Гасподзь Бог, мне сам на помач, маць Прачыстая, на паратунак.

Мужчынскі, бабскі, дзявоцкі, жаночы, хлапечы, дзяціны, бацькаў, матчын заклінаю, вас дванаццаць брацьеў, дванаццаць малодцаў, дванаццаць зрушэнняў, дванаццаць схадкоў, адганіце ад етага младзенца ліха, сухотнік, бязбытнік. Спасі, Госпадзі, і сахрані етага раба божжага (імя). Ліха адганяю, Госпада Бога на помач прызываю і рабу божжаму (імя) помачы даваю. Як быў на раду, так стань на стану, маць цябе нарадзіла, я ўсю балезнь ету адхадзіла.

### 1212. Ад падучай хваробы («Пераход»)

Першым разочкам, гасподнім часочкам. Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай матары Божжай папрашу. Матар Божжая, царыца нябесная, прыступіся, у раба божжага параходу гаварыці, прыдуманага і прыгаворнага, уцешнага і пасмешнага, бацькавага і маткінага, і жаноцкага, парабоцкага, жаласнага і карыснага, калючага і балючага. Ён стаяў і калоў, як я ня гаварыла, а цяпер я гавару і выгаварую.

Із горада Русаліма па калінавым масту ехаў святы Якаў із сынам сы Сакам, і стрэлі святога пракраснага Восіпа.

— Куды йдзеш, пракрасны Восіп?

— Іду я к рабу божжаму, ік маладзенцу, параходу гаварыць, светавога, заравога, калючага, балючага.

І ён тагды стаяў і калоў, і гарэў, і балеў, як я яго ня гаварыла; а цяпер я яго гавару і выгаварую із жыл, із пажыл, із сустаў, із гарачай крыві, із буйныя галавы, із шчырага сэрца; і пасылаю на сіняя мора, на мха, на балота, на ніцыя лозы, на жоўтыя пяскі — там табе гуляць, бушаваць і рабу божжаму спакой даць. Святы Анопрый і святы Іван Багаслоў, храсціталь Хрыстоў, дай, Госпадзі, на помач.

### 1213. Дзецям ад хвароб (радзімец, падучая і інш.)

Слаўная вадзіца-царыца, з сто Ірдань! Ідзеш стокі на астокі, із мара́ на мо́ра, із лукі на луку, із травы на траву; і перамываеш ты жоўтыя пяскі і крутыя беражкі, і абмываеш сырое карэння, і абмый раба божага маладзенцава пахаждэння, ад тураў стрэшных і папярэшных, і з боку нахадзяшчых, і 'трыгачэўнага і 'д чэрадэўнага, і ад старага, і ад маладога, 'д удавы маладзіцы, і 'д красныя дзявіцы. Ва ймя 'тца — худое воймецца.

## 1214. Ад падучай хваробы

Госпаду Богу памалюся, Божай мацеры пакланюся. Прыступі да памажы (імя), Божа маці. Вона на прэстолі стаяла, вона Янгелле дзяржала, вона кніжку чытала, а баба (імя шаптухі) начну дзецку балезнь угаварала.

Як Ісус Хрыстос на ўвесь свет явіўся — сета Тройца — так і (імя хворага) радзіўся, сонцам асвяціўся, месяцам увязаўся, усімі светкамі саджаўся. Сядзіць (імя) за сталом, ёго балезнь за дваром. Вон начаў частаваць, пайшла ад ёго та чорна балезнь уцякаць. Папом, дз'яком з таго света не ўставаць, у цэркві не стаяць, кніжкі не разгартаць, Салтыру не чытаць. А жыдам-рабінам з таго света не ўставаць, у школі не спеваць, (імя) балезні етае не маць.

Божэ, памажы, Божэ, памажы, Божэ, памажы!

## 1215. Ад сухотаў

Калі дзіця захварэе на сухоты, трэба расчыніць хлеб, зрабіць пальцамі пасярод дзяжы глыбокую ямку ў цесце і, наліўшы ў яе поўна вады, накрыць дзежку векам. Калі ўжо цеста добра падыйдзе і прыйдзе пара садзіць яго ў печ, тады, адкрыўшы века, паглядзець, ці ёсць у гэтай ямцы вада, ці няма. Калі вада ўвабралася ў цеста, гэта бясспрэчнае сведчанне таго, што ніякія чары не дапамогуць, бо дзіцяці наканавана памерці. У адваротным выпадку маці хворага дзіцяці кліча двух зычлівых сабе нявестак і робіць такім чынам: адна выкладае на лапату лісце, другая трымае дзіця на руцэ, а калі ўсё лісце пакладзена, садзяць яго на лапату; у гэты час трэцяя зачэрпвае далонню ваду з той ямкі і абмывае дзіця з ног да галавы. У час гэтага абмывання паміж тымі жанчынамі завязваецца наступны дыялог:

— Што ты змываеш? — гаворыць тая, што клала лісце.

— Сухоты! — адказвае, што змывала.

— Змывай, змывай, каб не было ніколі!

Затым адна бярэ дзіця і нясе яго нібы на падворак, але як стане з ім у дзвярах, тады першая пытае ў яе:

— Што ты выкідаеш?

— Сухоты!

— Выкідай, выкідай, каб не было ніколі.

## 1216. Ад сухотаў

От як сохне да сохне дзіця, то трэба, каб однэ выйшло ў сені, а ты з ім (хворым дзіцем) у хаце. Тэ, што выйшло, кажа:

— Добры вечар!

— Здароў!

— Што ты робіш?

— Сухоту запекаю!

А тэ ўжо казаціме:

— Запекай не на раз, штоб не напала ў другі раз.

Да дзіця падніме пад комін.

## 1217. Голад

Калі дзіця, нягледзячы на тое, што яму часта даюць грудзі, усё ж не наядаецца і зноў патрабуе ежу, то няма ніякага сумнення ў тым, што яно церпіць так званы голад. Дык вось, каб пазбавіцца гэтага зла, маці ў такім выпадку заве адну са сваіх сябровак і робіць наступнае: вымае са скрыні або кубла адзенне, кладзе туды дзіця і замыкае, у гэты час сяброўка пытае:

— Што ты зачыняеш (ці замыкаеш)?

А матка ёй на гэта:

— Голад!

— Зачыняй (замыкай) добра, каб ні было ніколі!

Прыведзеныя вышэй пытанні і адказ паўтараюцца тры разы, затым вымаюць з кубла дзіця, якое на працягу ўсяго гэтага дзіўнага абраду сядзела пад замком.

## 1218. Каб дзеці ноччу спалі («Ночнэ»)

Госпаду Богу памалюся, Божай мацеры пакланюся.

Ход-пераход, ночнэ хай на ноч, а паўночнэ хай на поўнач, а зоравэ хай на зоры, а световэ хай на свет. А на свет прыхадзіла тры чалавекі: сам Ісус Хрыстос — ізбавіцель... То вубаўце, то вымоўце із галавы, із плячэй, із вачэй, із рук, із грудзей, із ног. Ты нячысты нячысцік, ты дзецкі супраціўнік, ты ўзрослым не супраціўся, бо не сіла ж твая хадзіці, ёго косці ламіці, кроў ёго заражаці, у холад ёго ўкідаці, у гарачку шыбаці. То ідзі ты туды, ідзе мір не ходзіць, ідзе ў пеўня голас не заходзіць, купнікам зарасці, чэрэтом западзі, а ў (імя) не бувай.

Век вяком, свет светом, у маладошчы да старошчы, а месяцу Радзівону не памагай ні ў старому, ні ў маладому, ні з хода, ні з перэд поўнэ, ні ў перэкрост.

Божэ, памажы, Божэ, памажы, Божэ, памажы!

### 1219. Дзецям на сон

Серада ў серадзе, Божа матухна ў Марылі ўперадзе. Божа матухна на камень ступіла, камень праваліўся, Сус Хрыстос нарадзіўся. На том месцы Марыля спаць лажыцца і нікога не баіцца.

### 1220. На забеспячэнне здароўя дзіцяці

Ад начнога, ад паўночнага, ад дзённага, ад паўдзённага, памажы гэтаму дзіцяці, каб жывот не балеў, каб добра рос і сталеў.

### 1221. На забеспячэнне здароўя

Госпаду Богу памалюся, святой Прачысце пакланюся. Святая Прачыста, мацер Божая, стань мне ў помач. Памажы мне, Госпадзі. Я нічога не знаю, гора ўгавараю і пераход адбаўляю. Тут пераходу не стаяць, косці не ламаць, жывата не сушыць, сэрца не ташніць.

А на сінем моры вужы не купаюцца, а маленькія младзенцы ўцяшаюцца, к целу прыбуваюць. Хай Бог дае ім спаць і гуляць, у харошае здароўе прыбуваць. А етаму гору іці на крутыя горы, на быстрыя рэкі, на сухія лозы, на ніцыя балота.

### 1222. На забеспячэнне здароўя дзіцяці

Прашу я Госпада Бога, святое маткі, Прачыстачкі, Святога Бога. Прыступіце, памажыце хрышчонаму, мальчонаму дзіцяці здароўечка даці. Святая матка Прачыста гасподнега Божа пасцельку пасцілае і сон пасылае, усё ліхое адварачае. А ты, дзіця, дочка мая, у кучачку сажымайся, Ісусу Хрысту пакланяйся, а я анэлетку свайму. Анэлетка твае стаіць каля цябе і ручачкі расстаўляе, і ўсё ліхое адварачае.

### 1223. Ад унутраных хвароб

Чорная хмара на неба ўсхадзіла, яснае сонца закрыла; нанасіла чорная хмара мжаку (мглу) і туманы, напушчала тугу і балезьці, чорную і белую немач на людзей, на жывёла. А мы Госпада молім, мы святыцеля просім: пашлі, Божа, цёплыя ветры, прагані чорную хмару, тугу і балезьці, чорную і белую немач, каб рабу (такому-та) быць здаровым, каб яго ножкі стаялі — ня

млелі, каб яго ручкі работыньку бралі — крапчэлі, каб яго вочкі весяло глядзелі.

### 1224. Ад унутраных хвароб

У цемным лесі стаіць гара высокая, там растуць дубы вячыстыя; там стаіць цэрква свянцоная, там бяжыць вада цудоўная. А я ж тую ваду брала, балючае цела абмывала, піць давала, слаўцо вымаўляла: пайшла, немач, з цела вон! Калі ты трасца — ідзі ў балота; калі падвей ты — ідзі на вецер; калі ты рэзанка — зарэжся; калі ты суроцы — соль табе ў вочы; калі ты з пуду — сама спужайся. Пайшла, хіра, з цела вон!

### 1225. Ад усяго

Першым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, матцы Прачыстай прыкланюся і ўсім святым гадавым празнічкам. Усе святыя гадавыя празнікі, станьце на помач, Прачыстая мацць, хадзі ты на радасць. Першым разам, божым часам угавару́ю я цябе.

Стаіць дуб на та́кавым полі, дзвінаццаць какатоў, дзвінаццаць дубцоў. На тых дубцах там сядзіць сізы арол з залатой дзюбкай, з сярэбранымі кокцямі. Сярэбранымі кокцямі (імя) лечыць, косткі праграває, залатой дзюбкай усю шўму і балесць з галавы (імя) вымае і нясе ён на мха, балата, на ніцыя лозы, на крутыя горы, на жоўтыя пяскі, на цёмныя ляскі, на мох, на балота, на гнілыя калоды, дзе совы не ўзляталі рана. Дзе совы рана не ўзляталі, там усю Парасьціну і вяху і ўсю балесць прытапталі.

### 1226. Ад болі (ад нячыстай сілы, нарадкі і г. д.)

На сіяні-моры і на лукамор'і стаіць дуб, без караня, і без каката́, і без вярхушкі; і прылятаець к тому дубу і к рабу божаму Івану (хвораму) воран-орлам з зялезнаю дзюбкай, драцяное кокацця, шэрсцяное крылля, драцяны хвост. Эй ты, воран-орлам, зялезная дзюбка, драцяное кокацця, шэрсцяное крылля і драцяны хвост! Дзюбкаю выбівай, ету боль какцямі выдзірай, крыллямі выцірай, хвастом забірай на сваё рабое пер'я, з галавы ў шыю, з шыі ў спіну, з спіны ў ногі, з ног у палцы, з палцаў у кокці. І нясі ты ету боль на сіне мора. На сінім моры белы камень ляжыць, ён травою не зарастаець і расою

не западаець, траўкі не з'ядаець, расы не співаець; разбі ету боль на том камяні, каб іна не балела і не шумела і ня 'трыгалась. Воран-орлам, не паслухаеш мае прозьбы і майго прыказу, ня вышлеш етай болі, не разаб'еш на етам камяні, тады будзець ехаць святы Міхаіл-архаіл з вялікаю гразою і з сваёю мячою: будзець цябе сеч і рубіць і па полю попел разадмець.

## 1227. «Суха кроў»

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся. Госпадзі, прыступі да памажы (імя) суху кроў шаптаці.

Вон крэпка уздушыўся, ёго кроў ўзбунтавала, па касцях ламала, ёму спаць не давала, у голаву ўдарыла, ногі ёго ламала, кроў зараджала, косць распаляла. То чорныя вароны, налятайце, суху кроў разбірайце, на дзюбу, пер'е, ногі яе бярэце, дадому занясеце, сваіх дзяцей пакарміце, а з (імя) ету цягасць із цела здыміце. А шоб вон после етага маго крэпка спаў і днём здаровы, радасны пражываў.

І Божэ памажы, і Божэ памажы, і Божэ памажы!

## 1228. Ад усіх хвароб

Не бяру ад цябе ні красаты, ні высаты. А выбіраю ад цябе худыя болі з чырвонай крыві, з белай касці, з сініх жыл. Не тут табе быць, не тут табе гнёзды віць, а ідзі на чыста поле, на сіне мора, на зялёныя лугі, на крутыя берагі, на жоўтыя пяскі, на цёмныя лясы. Там тваё гулянне, там тваё красаванне, там табе быць, там табе гнёзды віць.

## 1229. Ад розных хвароб

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай мацеры пакланюся. Прачыстая Божая мацер з прэстола ўставала, раба божаму Сашыку балезнь шаптала.

Раба божы Сашка на свет нарадзіўся, сонейкам асвяціўся, месяцам абгарадзіўся, святымі абсадзіўся. Як стаў святых за стол сажаці, то ад яго стала балезнь адступаці. Стаў святых мёдам і віном частаваці, балезнь пабегла з хаты ўцякаці.

Папом з таго свету не ўставаці, Соўтырь не чытаць, так Сашыку балезнь не знаці.

## 1230. Ад болю

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамцы пакланюся і ўсім святым апосталам.

Ішоў сам Гасподзь дарогаю, нёс тры нажы сталяных і тры свячы васкавых. Нажамі праразаў, свячамі пражыгаў, у Алёны боль вынімаў — гаручую, балючую, калючую, намоўную, наносную. І тут болі не быць, касці не ламіць, шкуры не распінаць, красы не цяраць. Прымі мой душок ціхенькі, лягенькі, дай, Госпадзі, на помач Алёне.

## 1231. Ад розных хвароб

На сінім моры-акіяне, на востраве Буяне стаіць дуб з какатамі. На тым дубу сядзіць арол без пер'я, без крылляў. Як яму не лятаць, не кляваць, так Івана не сушыць. Не леча цябе матка, а леча пупарэзная бабка. Прымі мой дух.

## 1232. Ад розных хвароб

Першым разам, добрым часам прашу Госпада Бога, Духа Святога, матку Прачысту на помач прызываю.

Вячэрняя зара, сконна пара, Богу памажы, лячу раба божага Аляксандра. Матка радзіла, бабка адхадзіла, матка радзіла, матка атхадзіла, матка радзіла, матка атхадзіла. Мушчынска, жаноцка, дзявоцка, з прыгавору, прыдумна, прысмешна, паглядна, спужана, улякана, балюча, калюча ў раба божага Аляксандра ня быць, серца не таміць, касці не ламіць. Я, бабка, прыступіла і ўгаварыла сваімі славамі, господнімі думамі. Любі мой дух.

## 1233. Ад розных хвароб

Угаманяю, угавараю з касцей, з машчэй, з чорных печаней, з жыл, з пажыл, з рук, з ног, з русых валос, з галубых вачэй. Мо табе нароблена на хадзе, мо табе на ядзе, мо табе на ўпіванні, мо табе на гулянні, мо тваго следу ўзята, мо табе нароблена пуд мярцвец, мо табе нароблена пуд парог, мо табе роблена ў печ, мо табе роблена ў агонь, мо табе роблена ў пасцель. Госпадзі! Спусці свае рукі і вазьмі непадобных, якія дадзены доўгімі рукамі, быстрымі ачамі, ягняным языком. Замаўляю цябе, хвароба, на векі вякоў. Вялікія болі сунімаю, ад наглае смерці адварачаю, ад болі баляшчае, ад Хрыстовай смерці

схадзяшчае. Як Хрыстос з крыжа сышоў, з мёртвых устаў, штоб еты чалавек у жывых астаўся. Увожу цябе з мёртвых у жывыя.

### 1234. «Ад усіх балезней»

Я загаварваю і выгаварваю із (імя) дванаццаць скорбных нядугаў — ад агнявіцы, ад пачасухі, ад калатухі, ад маргаля (?), ад глухаты, ад слепаты, ад чорнай немачы, ад дражання, трасухі, ад ламаты, сударгі. Вы ўсе балезні, выйдзіце з (імя) вон, а то я вас у зямлю зарыю, на агні спалю, халоднай вадой ахаложваю, сцюдзёнымі льдамі замарожваю. Я вас, балезні, распалю на шчэпкі, засушу ў жаркай бані. Слепату і глухату ў сцяне замурую і смалою засмалю смаляністай. Згіньце, балезні, прападзіце ў трысподную зямлю. Усе злыя нядугі, адвяжыцясь ад (імя) сей мінуты і наўсягда. І не вяртайцесь вавекі вякоў. Амінь.

### 1235. Ад усяго

Крынічанька, сцюдзёная вадзічанька, святая панахвідніца ішла з сіняга мора аблакамі, з цёмнага леса пяскамі праз сырое карэнне, праз цвёрдае каменне, на трыдзевяць ключы замыкала, Госпада Бога прызывала: «Прыхадзі, Гасподзь, на помач». Што будзець вам, то будзець і мне. Аташлём балезні, дзе пташкі не лятаюць, дзе звяры не збягаюць, дзе сонца не свеціць, дзе луна не ходзіць, толькі адзін міласцівы Гасподзь Бог усё гэта разбіраець.

### 1236. Ад усяго

Первым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся. Прачыстая маці, хадзі ка мне на помач маліцца ад нахальнага чалавека. Спасі, Госпадзі, памілуй, божы Мікіця, мудрасцю мудрыся, хітрасцю хітрыся. Спасі, Госпадзі, ад звера бягучага, ад гада паўзучага, ад нахальнага чалавека, ад смутныя пасцелі, ад плахіх вачэй і плахіх рачэй, ад наглай смерці, ад уроку і прыгавору, ад агня, ад патопу, ад усякага іга. Дай, Госпадзі, храніцеля і пуцевадзіцеля. Амін.

### 1237. Ад усякай болі

Ішоў Ісус Хрыстос і маць Прачыстая па полю, па шырокай даліне, па сінему каменню, па чорнаму краменню. Ісус ішоў первы, а маць Прачыстая ішла, вярнулася — і ў раба божага (імя) усякія болі мінуліся.

### 1238. Ад рознага

На гор-гарах, на божых славах, на гарэ Гранку, на востраве Бранку, там уснула дзева Марыя Багамацер. А прыйшоў да яе Ісус Хрыстос:

— Мамачка мая радненька, ці ты спіш, ці адпачываеш?

— Сплю, мой сыночак, сплю, мой родненькі. Відзела я сон дужа дзіўненькі, што цябе на красце распіналі, коп'ем сэрца прабівалі, чорны веньчык надзявалі.

А ён кажаць:

— Мамачка мая радненькая, гэта не сон быў, а праўда была.

А ў нядзелю раненька ўзышло сонца ясненька, матка сына за ручку водзіць, к сінему мору прыводзіць. На сінім моры сіні камень ляжыць, на тым камені прыстол стаіць, на тым прыстоле тры кнігі ляжыць і тры свячы гарыць, сем ран раствароны, грэшная кроў пральёна. А прыйшлі да яго два апосталы, Пётр і Павел, ды гаворацць:

— Ах, Божа мой, Божа, якая табе мука.

— Не жалей маёй мукі, бяры крэст у рукі, ідзі па ўсякаму свету, расказвай старым і малым. Хто гэту малітву прачытаець, той у вагне не згарыць, у лесе не заблудзіць, а ў вадзе не патонець. Дай Гасподзь Бог пакаянным смерць і амін. («Дасць Гасподзь Бог вялікую радасць і амін» — варыянт канцоўкі.)

### 1239. Ад рознага

Первым разам, божым указам, лепшаю гадзінкаю, лепшаю часінкаю. Ісус Хрыстос, стань у помачы, і святая Багародзіца, матка Божая заступніца, святая субота, святы вечарочак, святыя ангелы-храніцелі, святы Гаўрыіл младзенец-вялікамучанік, святая Варвара-вялікамучаніца, я вас умаляю і на помач прызываю ад агнянай парогі, ад вадзяной патопы, ад буйных ветраў, ад строгіх марозаў, ад лютага звера, ад брыдкага

жаднага чалавека, ад злых людзей, ад брыдкіх вачэй, ад ведзьміных зуб.

Хто гэту малітвачку прачытае, таму Бог памагае.

### 1240. За здароўе

Прашу Госпада Бога і святую Багародзіцу. Я ж вас запрашаю, хлеб-соль пасылаю. Хлеб-соль прыміце, а (каго лечыш) здароўе пашліце. І другім разам і лепшым часам прашу Госпада Бога і Адама з Еваю. Я вас упрашаю і хлеб-соль пасылаю. Хлеб-соль прыміце, а (каго лечыш) здароўе пашліце. Трэцім разам прашу Госпада Бога, усіх жывых і мёртвых і ўсіх ангелаў прыпадобных. Я ж вас упрашаю і хлеб-соль пасылаю. Хлеб-соль прыміце, а (каго лечыш) здароўе пашліце.

### 1241. Ад усяго

Маладзічок-малайчок, хай цябе Бог нясе на высату, а мяне на красату, хай табе Бог дае вялікія рогі, а мне здароўечка ў ногі.

### 1242. За здароўе («Падкідка»)

Добры вечар, цёмна ноч! На табе вада і мая бяда, а мне маё здароўе назад аддай.

### 1243. Ад хваробы сэрца

Сэрца, я цябе не ўгаварала, ты вялікі расход мала, пад грудзі падпірала, плечы зацінала, калюкаю стала.

Стала я цябе ўгавараць, яно даўжно ўціхаць. Як праведным душкам з таго свету не ўставаць, мураву не таптаць, расы не абіваць, у моры пяску не даставаць, так твайму сэрцу супакой маці, усе ета сном саспаці і на пустыя мыслі забуваці.

### 1244. Лячыць нервы

У чыстым полі стаіць явар, пад тым яварам ляжыць карыта, у том карыці ляжыць мярцьвец. Як таму мярцьвяцу не ўставаць, зялёнай травы не таптаць, так у Пятра нерваў не бываць.

На сінім моры шчука шчуку даганяе, нервы ўганяе. Ідзіце, нервы, у цёмны лес, там вам буць і буваць, а ў Пятра нерваў не бываць.

## 1245. На добрае здароўе

Каваль сталь прыкаваў і прымаўляў, а Мікалай адмаўляў і яму, Змітру (ці якое другое імя, як зваць хворага), на здароўе даваў.

## 1246. Ад болю (ад прычыны, здарэння)

Было ў бацькі трыдзевяць сыны. Ішлі яны вуліцаю, найшлі яны белы камень, той камень секці-рубаці і з сярэдзіны боль уганяці. Я цябе, боль, уганяю, і на сухія лясы пасылаю, дзе сабакі не брэшуць і пеўні не пяюць.

## 1247. Ад начных прыпадкаў

Святы Абрам, святы Іван, святы Адам, прыйдзеце, з (імя) чорна гора забярэце, у сухі дуб занясеце, дзе вецер не вее, дзе сонца не грэе, дзе месяц не ходзіць, дзе ніхто не ходзіць.

## 1248. Ад хваробы горла

На моры, на кіяне ляжаў бел камень, ляцела жаба, валілась жаба, ударылась жаба аб востры камень, разбілась жаба на мелкія часьці, на макавы зёрна, а штоб і ў раба (імя) разбілась жаба на мелкія часьці, на макавы зёрна па маему слову, вавекі. Амінь.

## 1249. Ад болю галавы

Галава-галаўніца, касяна прыстраніца, чорна чарняўка, сіня сіняўка, бела бяляўка. На Сіяньскай гарэ, на шаўковай траве адна скацісь малінаю, другая — гарошынаю, трэця — маслінаю. У аднэ вуха ўскоч, а ў друге выскоч.

## 1250. Ад болю

Ехаў пан, вёз жбан, жбан пабіўся, вада палілася, і ў (імя) у галаве боль унялася.

## 1251. На сцаленне раны (ад «жалеза»)

Першым разам, божым часам, Божую матку ўпрашаючы, Прасвятую Багародзіцу ўмаўляючы да помачы сіне жалеза

ўгавараць, на сіняе мора пускаць. Серада, пятніца, сіню жалезу не ятрыцца ні ў маладзіку, ні ў ветаху, ні пад поўна, ні сходам, ні якою пароую. Сіне жалеза ўгавараю, умаўляю, на сіне море пускаю. Мой душок лёгенькі, згіне балезьнь скоранька.

### 1252. Ад чарвей у ране

Прыйшоў крут на віселля звацъ усіх круцяжоў. Ня [а]днаго, і ня двох, і ня трох, і ня чатырох, і ня пяцёх, і ня шасцёх, і ня сямёх, і ня васьмох, а ўсіх круцяжоў дзівяцьох.

### 1253. Ад гнільца

Первым разам, добрым часам. Прашу Госпада Бога і Духа Святога.

Сярод поля стаіць гай, а ў тым гаю выкапана яма, а ў той яме стаіць скрыня, а ў той скрыні ляжыць дзяўчына. Як тую я дзяўчыну не знаю і тая дзяўчына не паднімаецца, каб мой палец не паднімаўся і не балеў, каб я болі не знала. Раба божая (імя) прыступіла і ўгаварыла не сваімі славамі, а госпаднімі думамі. Любі мой лёгкі дух.

### 1254. Ад абвару і абжогу

— Жога, жога, гдзе ты была?
— За гарамі косці гладала.
— Так ідзі ж туды, гдзе ты была.

### 1255. Ад кашлю

На сінім моры стаіць камень, на тым камені тры папы, гавораць аб кашаль — у Тані кашаль. Аднаму папу штаны, другому рубашка, а трэцяму мак, каб ад етай дзевачкі, ад етай ражонай, пасвяцонай, хрышчонай прапаў кашаль так.

### 1256. Ад гарачкі

Гарачка, балячка, не палі, пад сэрца не падварачай, вопух не апухай. Ідзі сабе на здохлу кабылу, на здохлу карову, на здохлу свінню. Як свайго ценю не відаць, так на тым чалавеку гарачцы не стаць.

## 1257. Ад чумы

Чума-чумішча, ведзьма-вядзьмішча, сука-сукішча, пайдзі ты на мхі, на балоты, на сухі лес, на чортаву люльку, ад раба божыя (імя), ад яго жоўтай касці і краснай крыві. Хух, святы дух!

## 1258. Ад касцяной балячкі

Балячка касцяная, балячка галаўная, балячка ўнутраная, пака я цябе не знала, не ўмаўляла, не ўгаварала, то ты белую косць ламала, ружэ мяса збівала, чырвоную кроў пералівала. Прашу цябе нізкім уклонам, пакорным словам. Дам табе напіціся, наесціся і дам табе пагуляці, а тры яблачкі ў полі пакачаць. Сын Божы, прыступі да памажы.

## 1259. Ад болю ў спіне

Дубняк на дубняк. Перастань болець спінак! А суставу на суставу, штоб спіна перастаў.

## 1260. Супраць колькі

Ішоў Бог дарогаю і сустрэў колюку.
— Куды ты ідзеш?
— Іду калоць і пароць.
— Ідзі ў цёмны лес, там стаіць чорны вол, ідзі, калі і пары, а етага чалавека (імя) не калі і не пары.

## 1261. Ад колькі

Первым разковам, гасподнім часковам Госпада Бога папрашу, святога чэснага дзянёчка, нядзелькі. Памяні, Божа, Маланніну душку, што яна мне паказувала.

Ехаў цар на кані, конь прыстаў — колькі перасталі. Сном сашліцеся, саспіцеся, колькі ў Йвана суніміцеся.

## 1262. Ад колкі

З печаней, з грудзей, з плячэй, з белае касці, з цёмнае крыві, з рыжага мяса я цябе ссылаю ў чыстае поле. На шыпшыну, на ажыну, з ажыны на калючую ружу. На калючую ружу развівацца, на лісточках разгуляцца.

## 1263. «Ад жывата»

На сінім моры, на лукаморы стаіць тры крэслы, у тых крэслах сядзелі тры паненкі. Адна паненка хустачку ўмывала, другая паненка песенкі спявала, а трэцяя паненка прычча, шпачча і боль з жывата і з-пад грудзей у (імя) сунімала, Госпада Бога на помач прызывала.

## 1264. Ад патніцы

Шыла паня, вышывала, у ей жылкі не стала, а ў Надзі патніцы не стала.

## 1265. «Ад чэрава»

Чэмеро, чэмеро, не хадзі па маему жывату ці па чэраву. У чэрэсла не ўпадай, пуд жывот не пудпірай, на спіну не легай.

Було ў чэмера Завоя дзевяць дачок. Воны не ткалі, не пралі, у (імя) чэмера шапталі. Ехаў Завоў з-за гары, валы спусціў, у раба божага (імя) чэмера Завой адпусціў.

## 1266. Ад запору

Ішла хрышчона, чыстаплонна, ражджэнна, благаславенна (імя) дарогаю. Сустрэла вона нехрышчонае, сустрэла вона неражджэннае, неблагаславеннае.

— Куды ідзеш? Куды йдзеш, нехрышчонэ, куды йдзеш, неражджэннэ, куды йдзеш, неблагаславеннэ?

— Я іду тому тавараняці, быдляняці канаверт гала не пускаці.

— А я Кацярына, як я хрышчона, ражджэнна, благаславенна, эта таваранятка (ці чалавека) па кржу (крыжу) перакрашчу, канаверт гала пушчу.

З белае касці, з чырвонае крыві, з салодкага мяса, з сініх жыл гало ўпала да й прапала, а вон туды бегіць трушком, ухапіў да й пабег бяжком.

## 1267. Ад ікаўкі

Ехала ікота (вар.: ікаўка) кыла балота на сівай кабылі; кабыла ўпала — ікота прапала.

### 1268. Ад «пячайкі»

Ішла пячайка да мора
І пытала Рыгора:
Рыгор, вярніся,
Пячайка, мініся!

### 1269. Ад «пячайкі»

Пячайка, не пячы,
Спяку цябе на пячы,
А з'ем цябе на нажы.

### 1270. Ад «пячайкі»

Ішло дзевяць папоў чэраз дзевяць прасоў. Першы кажа: добра проса, другі кажа: добра проса, трэці кажа: добра проса і г. д. аж да дзевяці.

### 1271. Ад пякоты

Пякота, пякота ехала цераз балота на сівай кабыле. Кабыла ўпала, пякота прапала.

### 1272. На добры сон

Лажуся я спаць, даю Госпаду Богу знаць.

Кіеў у гарах, святая Божая маць Прачыста ў галавах, янгалкі па баках. Янгалы, мае храніцелі, сахраніце маю душу з поўначы да поўначы, з свету да свету, з веку да веку. Стойця пры мне — што вам, тоя й мне.

### 1273. На сон

Спацькі лажуся,
На Бога здаюся.
Крыж пада мной,
Бог нада мной.
Анёлы мае, станьце пры мне —
Што вам, тое і мне.
Ва імя Айца і Сына і Святога Духа. Амін (перахрысціцца).

### 1274. «На сон» (каб прысніўся злодзей)

[Госпаду Богу памалюся. Госпада Бога папрашу]. Зоркі-заранічкі, скорые памачнічкі, прыступіце, памажыце! Панедзелак на аўторак, серада на чацьвер, пятніца на суботу, а ты, нядзелька, адзінічка адна. Прысніся, хто ў мяне дзеньгі (або другое, што ўкралі) узяў.

### 1275. «На сон» (каб прысніўся крыўдзіцель)

Нядзеля с панядзелачкам, вавторак с сарадой, чатверц с пятніцаю, а субота адна, як я малада. Ночка цёмна, зорка ясна, сон благасчаслівы. Сасніся мне сон справядлівы. Лажуся спаць засыпаць. Тры ангела ў галавах: адзін відзіць, другой слышыць, трэці скажа. Скажыце мне, прэсвятыя ангелы, хто меня абідзеў?

### 1276. На сон (каб прысніўся суджаны)

Месяц, месяц малады,
У цябе рог залаты,
Ты ўвесь свет абыйдзі,
А мне пару найдзі,
З кім мне век векаваць,
Каб ва сне павідаць.

### 1277. Перад сном

Лажусь пад панядзельнік,
Прыснісь зялёны ельнік,
У зялёным ельніку я
І любоў мая.

### 1278. На збаўленне ад нуды

У чыстым полі стаіць караватка, у той караватцы Прачыстая матка, яна сядзіць і Івана дзяржыць. Цешыла, нежыла, думала, гадала, нуду ссылала на мха, на балата, на ніцыя лозы; дзе пеўняў голас не даходзіць, няхай туды нуда сходзіць.

## 1279. На збаўленне ад тугі

Беглаваўчышчэ чэраз лугавішчэ, доўгае хвасцішчэ. Як етаму хвасту ад воўка не аставаць, так таскі да сэрца не дапускаць. Ганну маць радзіла, кроўю аблівала і да сэрца таскі не дапускала.

## 1280. Ад смутку

Ад усхода да захада, ад поўначы да поўдня, ад рэчкі да мора, ад пуці да перапуцця пралягла пуць-дарожанька, усім дарожкам старшая. Па той дарожцы ішлі ірады, неслі ў руках пруты івавыя. А ішлі яны ў мір косці сушыць, цела знабіць, недугамі мучыць. Ад усхода да захада, ад поўначы да поўдня, ад ракі да мора сярод белакамяннай Масквы стаіць церам баярскі, сядзіць чырвоная дзявіца ў смутку па незнаёмай бядзе. Вы, ірады, не хадзіце па пуці па дарожаньцы на мір косці знабіць, цела сушыць, людзей мучыць, а ідзіце вы ў чыстае поле на травушку з маім смуткам. Замаўляю гэтай маёй замовай моцна.

А хто маю замову пасілее, яму праваліцца праз зямлю.

## 1281. Ад смутку

На рацэ, на акіяне, на востраве Буяне ляжыць смутак, б'ецца смутак, убіваецца смутак, з доскі ў ваду, з вады ў полымя, з полымя выбегла сатана, крычыць: «Павушка-Раманея, бяжы скарэй». Замаўляю рабу (імя), каб яна смуткавала ўсякую гадзіну, усякую мінуту, ела бы — не заела бы, піла бы — не запіла бы, спала бы — не заспала бы, а ўсё смуткавала, каб я ёй быў лепш чужога малайца, лепш роднага бацькі, лепш роднай маці, лепш роду-племені. Замыкаю сваю замову 77 замкамі, 77 цапамі, кідаю ключы ў агонь, у мора, пад белы гаручы камянь Алатыр.

Хто мудрэй мяне найдзецца, хто перацягае пясок з усяго мора, той адгоніць смутак.

## 1282. Ад гора

Кругам, кругам, лужочкам да цераз лес, міма трох бяроз, міма трох сосенак, міма трох дарог, міма рэчанькі, міма горачкі пайдзі, маё горачка, ізыйдзі. Ты мяне лепш мінай, у хату не заглядай, не туліся да мяне.

## 1283. Ад запою

Сам Гасподзь на небе, а цар на зямле, а мядзведзь у лесе, а мярцвец у зямле. Мёртвыя ляжаць, ляжаць — яны не п'юць, не ядзяць. Няхай мядзведзь гарэлку п'е, а Васілёк і ў рот не бярэ.

## 1284. Ад п'янства

У імя Аца і Духа Святога. Амінь. Хмель і віно, адступіся ад раба божага ў цёмны лес, дзе людзі не ходзяць, і коні не бродзяць, і птушкі не лётаюць.

У імя Аца і Духа Святога. Хмель і віно, выхадзі ад раба божага на быструю воду, на якой вадзе людзі не ездзяць. Хмель і віно, пайдзі на буйны вецер, які па дальнасці ходзіць.

У імя Аца і Сына і Святога Духа. Прывяжыся да ліхога чалавека, які ліха думае. К таму прывяжыся, каторы добра не зробіць. Ад мяне ва векі вякоў адвяжыся. У імя Аца і Сына і Святога Духа. Амінь.

## 1285. Ад перапою

З аццоўскаю малітваю! Маччына параждзенне, гасподне благаслаўненне! Стану я залезным стаўпом, абтынюся я залезным тынам, абгараджуся я дробнымі звёздамі, асвячуся ясным месяцам, падпаражуся краснаю зарою, абрыюся небам, зямлёю. Прашу я марскіх (?), кіеўскіх, пячэрскіх, у Яна Красьціцеля: охрасьці душу (імя). На Іванавуй касьці не хадзі, Іванавуй касьці не ламі, Іванавуга серца не тамі. Я з духам, Бог з помаччу. Любі ж мяне і дух мой.

## 1286. Ад мужа-п'яніцы

Свяшчэнніку ў школе не чытаці, жыду у цэркве не прававаці — рабу божаму гарэлкі не знаці. Дзевяць царквей, дзесятая памошніца, Божая маць памошніца.

# ЗАМОВЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З СЯМЕЙНЫМ І ГРАМАДСКІМ БЫТАМ

## 1287. Любоўная (прысушка)

Лягу я, раб божы, памалясь, устану я, благаславясь, умоюсь я расою, утрусь я прастольнаю пялёнаю, пайду я з дзвер у дзверы, з варот у варота, выйду я ў чыстае поле, ва зялёнае памора, стану я на сырую зямлю, пагляджу я на васточную старану. Як краснае солнышка вассіяла, прыпякае мхі і балата, чорныя гразі, так бы прыбягаў, прысыхаў ка мне раб божы Васіль ка мне, рабе божай Вользе — очы ў очы, сэрца ў сэрца, мыслі ў мыслі. Спаць бы ён не засыпаў, гуляць бы ён усё не гуляў, усё ка мне прыбягаў. Амінь, таму слава.

## 1288. Прысушка

Устану я, раба божая, благаславясь, пайду, перакрэсцясь, із хаты дзвярамі, з двара варатамі ў чыстае поле, пагляджу я, пасматру пад усходнюю старану. Пад усходняй стараной стаяць тры печы: печка медная, печка жалезная, печка кірпічная. Як яны распаліліся, разажгліся ад неба да зямлі, так бы разжыгала ў рабы божай к рабу божаму лёгкае, пячонае і кроў гарачу: не можна бы ёй ні жыць, ні быць, ні есці, ні піць, ні спаць, ні ляжаць, усё мяне на ўме трымаць.

Недагаворана, перагаворана, прастраліце мае словы лепш вострага нажа і рыссяга когця.

## 1289. Прысушка

Устану я, добры маладзец, не благаславясь, пайду, не хрэсцясь, і выйду не дзвярмі за новы варота ў чыстае поле. У чыстым полі стаяць тры беса, два беса, адзін бес: бес Сава, бес Савул, бес Калдун. Падайду я, добры маладзец, пабліжэ, пакланюсь паніжэ: і вы, трыдзевяць бесаў — бес Сава, бес Савул, бес Калдун, паслужыця мне, яе служылі Іраду-цару. Ідзіця па гарадах, па сёлах, па дзярэўнях і сабярыця ўсю таску і сухоту са звярэй, пціц, рыб і ўсякага рода людзей; і знясіця тую таску і ўсякага рода сухоту дзявіцы Прасінні ў ясныя вочы, у чорныя

бровi, у румяна лiцо, рацiвае сэрца, чорную печань, гарачую кроў, у трыдзевяць жыл i адну жылу, станавую, падпятную; i штоб ета дзявiца не магла нi жыць, нi быць, нi днём па сонцу, нi ноччу па месяцу без мяне, добрага моладца. У чыстым полi стаiць сарачынскi дуб, iз-пад дуба выхадзiла Баба-Яга i паджыгала трыдзевяць кастроў дубовых дроў. Так жарка, так ясна каб разгарэлiсь у дзявiцы ясныя вочы, чорныя бровi, румянае лiцо, рацiвае сэрца, чорны печань, гарачая кроў, семдзесят жыл, семдзесят адзiн сустаў; каб тая дзявiца не магла наслаждацца, нi ў чыстым полi нагуляцца, нi ў парной банi парыцца, нi прэсным малаком нахлябацца, нi ў мяхкай пасьцелi атаспацца, без мяне, добрага моладца. I етым маiм добрым славам ключ i замок; замок замкну i ключ знясу ў акiян-мора пад Латыр-камень, амiн.

## 1290. Любоўная (прысушка)

Стану я, нi благаславiўшы, выйду, нi хрысцiўшы. Выйду я за дзверы, за новыя вароты ў чыстае поле. У чыстым полi стаiць тры бесi. Першы бес Сава, другi бес Шаптун, трэцi бес Калдун. Пайду я к тым бесям паблiжы, пакланюся панiжы:

— Вы, трыдзевяць бесi, паслужыця мне, як служылi Iраду-цару. Iдзiце вы па сёлах, па гарадах, па вёсках i збiрайце ўсякую нуду i ўсякую сухату з пцiц i звярэй i з усякiх людзей, i занясiце вы ету нуду, усякую сухату такому-та малайцу ў ясныя вочы, у чорныя бровы, у румяны твар, у рацiвае сэрца, у сонную печань, у гаручую кроў, у трыдзевяць жыл, у адну жылу станавую i падпятную, у семдзесят адзiн сустаў. Штоб ён не мог нi жыць, нi быць, нi днём па сонцы, нi ноччу па месяцы без мяне такiя-та красныя дзявiцы. Штоб ён не мог нi з кiм наслаждацца, нi ў мяккай пасцелi адсыпацца, нi прэсным малаком нахлябацца, нi ў парнай банi парыцца.

Етым маiм славам ключ i замок. Замок замкну, а ключ аднясу пад Латыр-камень. Амiнь.

## 1291. Прысушка

Устану я percent раненька, умыюся бяленька, выйду за новы варата, за точаныя верэя, гляну на сiняе мора: там плыве бочка — дубоўка; на тэй бочцы гарыць дванаццаць агнёў, а ў бочцы сядзiць дванаццаць чартоў. Вы, друзья мае! Адбiця рабу божыю Кацьку ад хлеба, ад солi, ад кiслых шчэй, а прывярнiця яе к рабу божаму Грышку. На моры, на кiянi стаiць латомiр (?), а ў латомiры ляжыць ледзiць-цьмень (?). Загаварыю рабе божай зубы,

губы, рукі, ногі, рацівае сэрца, буйную галаву, русы волас наўсягды, амін.

На моры-кіяні стаіць дуб, на том дубі сядзіць дванаццаць чартоў і дванаццаць получарткоў; яны сідзяць, не гуляюць, рабу божыю Кацьку змушчаюць і к добраму малойцу прыглашаюць.

## 1292. Любоўная

У лукаморы стаіць дуб, на тым дубе дванаццаць какаткоў, на тых какатках дванаццаць чартоў. Гэта не чарточкі, а майго мілога браточкі. Вы ж падбіцця яго, штоб ён піў не дапіваў, штоб ён еў не даядаў і мяне, рабу божжую, не забываў.

## 1293. Прысушка

Памалюся Госпаду Богу, Прачыстай матары пакланюся.

На моры на лукаморы стаіць дуб, пад тым дубам стаіць двананцаць какатоў, пад тымі какатамі ляжыць дзікі камянь, на том камяні стаіць двананцаць братцаў; яны мылі, купавалі, двананцаць кладак клалі. Як цераз тыя кладкі вада ллецца, так рабы божыя Маруты па Агнату сэрца б'ецца.

## 1294. Прысушка

Устану я рана, выйду на крутую гару, там стаіць дуб на дванаццаць какатоў, на дванаццаць крыжнёў, дванаццаць атросткаў. На тых какатах сядзіць многа птах. Самы старшы птах — чорны воран з медным крыллем, з жалезнымі кагцямі, з стальной дзюбкай. Ён павелевае ўсімі птахамі. Так і я павелеваю гасподнее імя любіць, (імя) любіць і жалець, другіх не займаць, кроме мяне. Амінь.

## 1295. Прысушка

На востраві на Сакалоні стаіць дуб, а на тым дубу дванаццаць кокатаў, а пад тым дубам дванаццаць галубоў. Прашу я вас і ўпрашываю: на сінім моры ляжыць камінь, пад тым камянём ляжыць дашка, а пад тэй дашкой ляжыць мая таска. Вазьміця тэй камінь, падніміця гэту дашку і выньця адтуль маю таску і аддайця яе Варутуньکі.

## 1296. Прысушка

Стану я, раба (імя), благаслаўлюся, пайду перахрышчуся, з хаты ў дзверы, з дзвярэй на двор, з двара ў вароты, выйду ў чыстае поле ў падусходнюю сторану. У падусходняй старане стаіць хата, пасярод хаты ляжыць дашка, пад дашкой таска. Плача таска, рыдае, белага свету дажыдае, радуецца і весяліцца. Так мяне рабу (імя) дажыдалася, радавалася і весялілася, каб так па мне раб (імя) радаваўся і весяліўся і не мог без мяне ні піць, ні жыць, ні есці ні пры ранняй зорцы, ні пры вячэрняй. Як рыба без вады не можа жыць, так каб раб (імя) без рабы (імя) не мог ні жыць, ні быць, ні есці ні пры ранняй зорцы, ні пры вячэрняй, ні ўдзень, ні ў поўдзень, ні пры частых звёздах, ні пры буйных вятрах, ні ўдзень пры сонцу, ні ўночы пры месяцу. Упівайся; таска, уядайся, таска, у грудзі, у сэрца рабу (імя), разрасціся і разыйдзіся па ўсіх жылах, па ўсіх касцях на стой і сухастой па рабе (імя).

## 1297. Прысушка

Сіні камень палтыр, пад тым камнем даска, пад той даской тры таскі: кіпучая, гаручая, магучая. Устань, даска, устань, таска кіпучая, гаручая, магучая. Ідзі, раба божая, па сырой зямлі. Не нарушай, раба божая, маёй любві, маёй жызні. Сушы, раба божая, Міхася сушэй саломіны аб маёй любві і аба мне і скарэй прышлі ка мне.

## 1298. Прысмута (на дзяўчыну)

На моры, на белым акіяне плыве даска, а на той дасцэ сядзіць таска, плача і рыдае. Таска краснай зары дажыдаецца і начной зары. Як дню без краснага солнышка не буваць, а ночы без яснай зары не буваць, так раба Ганна без раба Івана не можа ні жыць, ні гуляць і паміж сабою вясёлыя рэчы размаўляць. І крычыць, і гукае Паўлуша Макарэя, прыходзь паскарэя, Ганна, у сэрца, і печань, і ў кроў гарачую яго, каб яна без раба Івана не магла ні жыць, ні есці, ні гуляць, а паміж сабою вясёлыя рэчы размаўляць і на чужых не заглядаць.

## 1299. Прысушка

Устану багаслаўлюся, пайду перакшчуся. З дзвярэй іду ў дзверы, у чыстае поле. У чыстам полі стаіць куст ракітовы, пад тым кустом стаіць даска, пад тэй даской ляжыць таска. Вот

вазьму я тую таску, пайду на сіняе мора. На сустрэчу мне тры родных сястрыцы: першая Мар'я, другая Дар'я, трэцця Варвара.

— Мае вы сястрыцы, куды вы йдзецё?

— Пойдзем сіняе мора разжыгаць!

— Ах вы к.., ах вы б.., ня йдзіця сіняе мора разжыгаць, да йдзіця вы да маёй рабы божай, разажгіця, распаліця, каб іна ні запіла, ні заела, ні заспала, нікуды ні заходзіла, пра мяне з вума з розуму сходзіла, амін.

## 1300. Прысушка

Устану я раненька, умыюсь я бяленька. На моры стаіць дуб, пад тым дубам даска, пад тою даскою ўся мая печаль і таска. Ангелы-архангелы, прылятайце, усю маю печаль і таску забірайце, нясіце ў румянае ліцо, у карыя очы, у русыя косы, чорныя бровы божаму рабу Івану.

## 1301. Присушка (приворотные)

Добрый вечер, дым ты, дымочек. Ступай ты, дымочек, во чистое поле, в широкое раздолье. В чистом поле, в широком раздолье стоит дом волшебный. В том доме стоит волшебная доска. Под той доской лежит тоска. Не тоскуй, тоска, не грусти, тоска, не кидайся, тоска, из окна в окно, из дверей в двери, в подоконные щели. Кинься, тоска, на раба Ивана, на ретивое сердце, на горячую кровь и на легкие, и на печенки, и на очи ясные. Чтоб раб Иван и горевал, и тосковал о рабе Марии. В еде не заедался, в питье не запивался, с друзьями говорил — не заговаривался, а все обо мне, рабе божьей Марии, думал денную зорю, ночную и полуночную.

И как эти дрова горят в печи жарко, чтоб рабу Ивану было меня жалко. И как горят эти дрова в печи душно, чтоб рабу Ивану без рабы Марии было тошно. Чтоб он и тошнился, и нудился, и по веки вечные в жизни по рабу Марию не забылся.

## 1302. Прысушка

Як быў цвет на моры, а не расцветаець, пціца з гнязда без урэмя-часу не вылетаець. Сідзі, раба божая, перад рабом божым на стулі, як пціца на гняздзе, і любі, раба божая, раба божага, як любіць пціца сваё яйцо, і любі, раба божая, раба

божага, як любіць пціца сваіх дзяцей; і даражы, раба божая, рабом божым, як пціца сваім яйцом, і беражы, раба божая, раба божага, як пціца сваё дзіцё; стой, раба божая, перад рабом божым, як яловая прытолка лі дзвярэй, і любі, раба божая, раба божага, як персьці свае белыі на руках. Ва векі амін, і вякоў амін.

### 1303. Прысушка

Пайду я, раб божы, пад акіян-мора, стану ў край мора. Віджу я — стаіць дуб, ад веку пасаджоны, ад веку параджоны. Абгараджу яго зялезным тынам, зялезным варатам. Пад тым тынам, зялезным варатам ляжыць змяя-самаверніца, разсылаець красных дзевак на шаўковыя лугі, каб нылі аба мне іх жылкі-паджылкі, гарачая сэрца, амін.

### 1304. Прысушка

Пайду я на сіняе мора, на сінім моры ляжыць жэсць, пад тэй жэсьцю ляжыць лютая змяя. Вазьму тую змяю павярну к сабе навекі нярушыма.

### 1305. Прысушка

На моры-акіяне, на быстраве губане, з ракі ў воду, з вады ў пальму, у пальму гаручу, убежаў сатанін, крычыць:

— Бяжы паскарэй, Хведару ў губы, у зубы, у косці, пакосці, у цела бела, штоб уся таска таскавала кажды дзень, кажды час, каждую мінуту, штоб не было мілей яму ні род, ні племень, ні ацец, ні маці, толькі каб ён Маню захацеў узяці.

Бяру я свае загаворы, замыкаю семдзесят сямі ключамі, семдзесят сямі замкамі і бяру тыя ключэ ўкідаю ў мора-акіян. Хто тыя ключэ мажэ выняць з мора, той мажэ адганіць ад таскі.

### 1306. Прысушка («прысмуты»)

На крутой гарэ, на святой зямле стаяла баня, а ў той бане мылісь дваране. Як тым дваранам было душна, штоб так табе (імя) без мяне было скушна. Як тым дваранам было жарка, штоб так табе (імя) мяне было жалка. Я дзеўка Аўтух, спалюбі мой дух. Амінь.

## 1307. Любоўная («любжа»)

Пайду, выйду, малада, за шырокі варата, стану пад чыстае неба, пад часты звёзды, пад ясную зару, пасматру на сіня мора. Там стаіць сабор, царыцкі сабор. Там стаіць золата блюда, на золаці ляжыць Мар'я. Іван к Мар'і падходзіць пабліжы, скланяецца паніжы, просіць: вазьмі маю любоў. Слей кроў з кроўю, саедзіні любоў з любоўю, вайдзі мая кроў яму ў серца, у жылы, ва ўсе суставы, ва ўвесь магніт, штобы ня мог ні жыць, ні быць, нікаго ў глазах ні зрыць, толька адну Мар'ю. Усе эта сабяру, у платочак завяжу, пад замок замкну, замок брошу ў мора, ключ аддам на неба, штоба ніхто не дастаў ключы з неба, замок з мора.

## 1308. Прысушка

Пайду я ў бела поле, белага крэчата папрашу, злётаў бы ён у чыста поле, у сіне мора, у крутыя горы, у цёмныя лясы, у гразкія балоты і папрасіў бы ён акаянную сілу, каб дала яна дапамогу схадзіць яму ў высокі церам і застаць раба божага (імя) хоць бы сярод цёмнай ночы соннага. Сеў бы белы крэчат на белую грудзь, на рэцівае сэрца, на гарачую печань і ўлажыў бы рабу божыю з сваіх акаянных уст, каб ён не мог без рабы божай ні жыць, ні піць, ні есць.

## 1309. Любоўная (прысушка)

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры Божай пакланюся, кіеўськім, пячэрськім, усім сілам нябеськім, усім святым гасподнім божым угоднікам і ўсім святым гасподнім божым скорым памочнікам. Прыступайце рабе божай Валі да помачы пра любоў угаварыці.

Маладзік малады, у цябе рог залаты. Табе, маладзік, на высату, а Валі жыць у пáры з Раманам на красату. Табе, маладзік, высакавацца, а Валі з Раманам жыць у пары да красавацца. Прыветствую я цябе, маладзік, вячэрняю зарòю, як сейчас, так і ўсегда.

Месяц і зоры, не давайце майму Раману пакою, шчоб ён ні піў, ні еў, ні драмаў, а аба мне толькі, аб Валі, думаў. Бо я, Валя, раджона-хрышчона, месяцам абгараджона, сонейка ў вачах, месяц у плячах, зоры па рабрах, ангалы на небясах, камень у моры. Як таго камня ніхто не можа з мора падняць, так рабе божай Валі ў пары ніхто не можа паддаць.

## 1310. Любоўная

Я іду каменным бродам, а мой (імя) гарою. Я стала і дзіўлюся ў воду, яка з мяне цень: з вады — вадзяна, а з лазы — лазіна, а з мяне — мая. Як мая нага за нагою, каб так (імя) за мною. Каб ён куды ішоў — не дайшоў, каб ён еў — не даеў, каб ён спаў — не даспаў, каб ён дзень і ноч думаў аба мне — і ў ядзе, і ў хадзе, і ва сне думаў аба мне.

## 1311. Любоўная

Зоры-зараніцы, гасподнія памашніцы, памагалі Богу, памажыце і мне. Раннія зоркі, вячэрнія і божы дзянёчык, святая нядзелька, прыступіце, памажыце.

На небе месячка ясны, у яго тры зорачкі пракрасны: адна зажога, другая запека, трэцяя прылюбка. Зажогу зажыгну, а запеку запяку, а прылюбку прылюблю, раба божага (імя хлопца) к свайму сэрцу прывлякну. Вазьму яго з-пад левай рабрыны за шчырае сэрца, каб хадзіў і нудзіў і (імя дзяўчыны) ве́рна любіў.

## 1312. «Прысуша»

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай мацеры пакланюся. Божая маці з прэстола ўставала, раба божай Дар'і помач давала.

На небе есць тры зарніцы, воны ўсе тры сястрыцы: адна прывара, друга прынуда, трэйця прысуша. То прывара прыварыла, прынуда прынудзіла, прысуша прысушыла раба божага Івана да раба божай Дар'і. Як не можа маці без рыбёнка, карова — без цяляці, асліца — без асляняці, шоб так Іван не мог пражыць без Дар'і. Колька ў гаду празнічкаў, прынясі, Госпад, Дар'і столька памошчнічкаў.

## 1313. На добрае жыццё (каханне, шчасце)

Добрыя людзі, штоб за сталом селі, пілі і елі, добрыя мыслі мелі. Іванаў русы волас, разгладзісь, красна кроў, разгарысь, бела грудзь, навалісь да к дзеўцы прыгарнісь. Зыходзіць сонейка Васілле, усходзіць месячка Гаўрыла, штоб мы жылі, весяліліся і добра гаварылі, старыя і дзеткі малыя неслісь з вясёлаю паскаю, а мы жылі з табою з вясёлаю ласкаю. Прыгорнемся адно к аднаму, як дзіця к грудзям, штоб было дзіва

падругам і ўсім людзям. Дзед і баба старыя, хлопцы і дзеўкі маладыя, дзеткі малыя, стойце той пары ў помачы, мір вам! Хрыстос васкрэсе, узрадуецца маць. Толькі там Івану адну дзеўку браць. Хрыстос васкрэсе.

Над етай дзеўкі больш жонак нет. Яна ж цябе прыѣучыць, яна ж цябе прысмуціць, яна ж цябе прыўлячэ, яна ж цябе прыпячэ. А на небе свеціць месячка і зара, штоб у Івана была жонка адна. Зоры высокія! Зоры далёкія! Памагайце людзям, памагайце і нам. Первая зорка зануда, другая засуха, трэцця прыворотніца, чацвёртая прывара. Зануда, нудзі, засуха, сушы, прыворотніца, прывярні, прывара, прывары. Як прывара прыверне, дык ніхто не адверне! Адам і Ева спарышы, етай пары ніхто не нарушы. Мір вам!

### 1314. Присушка (приворотные)

На море-океане, на остраве Буяне там плавала кладочка, на кладочке дедушка.

— Ты, дедушка, молодым был?

— Был!

— Девушку любил?

— Любил!

— Любовь с собой в землю не берут, а молодым отдают. Подари свою горячую любовь рабу божьему (назвать имя). Пусть он полюбит меня всю: мою ходу, еду, работу, взгляд, голос, стан.

Бог тебе поможет во всем, а я кланяюсь (поклониться нужно в землю лбом).

### 1315. На любоў

Ламаю дубіну, штоб хлопцы любілі, ламаю дубіну, штоб хлопцы любілі, ламаю дубіну, штоб хлопцы любілі. Цар садзіў, Бог радзіў, матка Прачыстая палівала, мне на помач давала. Цар садзіў, Бог радзіў, матка Прачыстая палівала, мне на помач давала. Цар садзіў, Бог радзіў, матка Прачыстая палівала, мне на помач давала.

### 1316. На захаванне кахання

Сяду я на воўку, вужом паганяю ад сэрца да поту, каб Марусю Іван любіў у ахвоту.

### 1317. На захаванне кахання

Ехаў Бог па чыстаму полю на сівым коніку. Конік прыстаў, а муж (можна лепей імя — Коля, Пеця і інш.) любіць стаў. Стань, Бог, на помач. Ісус Хрыстос, стань на помач.

### 1318. На захаванне кахання

Устану я раненька, памыюся я бяленька, пайду я ў чыстае поле. Там сустрэну тры дзевіцы-красавіцы. Яны ідуць, залатыя замкі нясуць, сярэбраныя ключы нясуць.

— Куды вы ідзяце, красавіцы?

— А ідзем к сіняму мору, сіняе мора абнімаць, твайму (імя) злыя рэчы і думкі замыкаць, штоб ён словам ні брахнуў, рукой ні махнуў, любіў цябе, як маці малое дзіця. Матушкі мае, памажыце вы мне!

Матушкі ўсталі, ключы бралі і возірамі растаплівалі, огненнае вогнішча раскладалі і яго сэрца распекалі і ка мне прыжымалі, штоб ён міне так любіў і жалеў, як маці малое дзіця.

Дым на волю, а ты дадому, у мой двор (казаць на заканчэнне. Пры гэтым запаліць трэску, адчыніць комін, тры разы свіснуць і прамовіць гэта).

### 1319. На захаванне кахання

Добры дзень табе, зямля Ева, вада Катарына! Вы муеце лугі, берагі каменныя і краменныя. Адмуйце ад мяне гідоту і брыдоту. Накладзіце на мяне белэ цело, румянэ лічэнько і красату, каб я була ясна-красна, як у цэркві свечы, а на небе звёзды, як сонца і месяц свеціць на ўвесь свет. Каб я була міла і люба свайму чалавеку і людзям на свой век. Каб мяне (імя таго, чыё каханне замаўляюць) паважаў, шанаваў да на покуце саджаў.

У Кіеве на кіяне стаіць дуб Кракаў. А на тым дубе сядзіць дванаццаць братоў. Яны з аднае дзюбкі гадаваліс і адным крылом адзяваліс. Хто ад гэтых слоў на мяне нянавісць накідае, той хай сваёй галавой пакладае. На моры стаіць супелаў (?), а на тым супелаве вярба стаіць, а пад вярбою каза стаіць, а пад казою казяня стаіць. Яно казы не сасала, травы не з'ядала і ў моры вады не співала, толькі той насад і нагавор з'ядала. Сам Госпад нада мной стаіць, Ердань чытае, маю кроў ачышчае, ад мяне ўсе ета паганэ адварочвае.

### 1320. На людскую любоў

Стану я, раба божая, рана, благаслаўлюся і перахрышчуся, выйду я на чыстае поле, пагляджу на ўсе чатыры стараны. На ўсходняй старане стаіць святая цэрква. Як на гэту цэркву глядзяць, так бы на раба божага глядзелі старыя старухі, старыя старыкі, маленькія дзеці, красныя дзевіцы, маладыя маладцы, глядзелі бы на раба божага.

Будзьце, словы мае, моцныя і ёмкія, як ключы падземныя. Амінь.

### 1321. На захаванне кахання

Я святою вадою ўмываюся, золатам уціраюся, а сонейкам адзяюся, а месяцам падпяражуся, а зоркамі засцягнуся: я нікога не баюся. Як сонца і месяц на ўвесь свет свеціць, так каб я была на ўвесь свет міла і люба (імя каму).

### 1322. На захаванне кахання

На асобе еду, асобай паганяю, а (імя) сківіцы і віды замаўляю. Каб ён на мяне добра пaглядаў, паганых слоў не казаў, выдумкаў не выдумляў, каб рук і ног не падымаў, каб ён мне месца прадуваў да на покуце саджаў, каб я была люба, міла і сям'і таксама, і яго радні, бацьку, мацер і братам, і панам, і жыдам, і простым мужыкам. Каб мяне ўсе паважалі, месца прадувалі і на покуце саджалі, каб я была така ясна і красна, як сонейка.

Сонейкам абгарадзілась, зорачкамі асвяцілась, а (імя) спадабалась. Ва, ва, ва, ва, няхай будзе на ўвесь свет мая слава. Перад сонейкам стаю, Госпада Бога прашу: Госпадзі Божа, спасі і дапамажы мне.

### 1323. На захаванне кахання («Прысмуты»)

Пускаю па ветру, па харошаму прыдмету; як етага след ляжыць, так нікуды (імя) не пабяжыць. Як етага следу ніхто не змяце, так ніхто майго мужа ад мяне ні адбярэ. Як ля мае рубахі дзяржыцца рубец, так мой муж дзяржыцца за міне, і ніхто яго [рубца] не атнімя, так ніхто майго мужа не возьме. Дзержыць мой пояс ля мяне, так ніхто майго мужа не атнімя ад мяне. Спяку я на скавароднік маладзікі, даю табе заправы ад сябе, штоб ты не пабег нікуды ад мяне. Даю водку, водку ад паяса, штоб не любіў чужога ліца.

## 1324. «Шоб вернуўся бацька к дзіцяці».

Божа маці на прэстолі стаяла, Ісуса Хрыста на руках дзяржала, усёму свету дапамагала, (імя)-бацька да дзіцяці прыганяла.

Пастаўце леску ад зямлі да неба, шоб сам Гасподзь з небясоў злязаў, такога чалавека да дзіцяці дадому прыгнаў, да ў пасцелі спаць паклаў. Божыя варота адчыняй. А як сам, Гасподзь, не дойдзеш, то дзвенаццаць ангелаў адпраўляй. Да ўсе гарада шоб абашлі, да його нашлі, да дадому прыгналі, да к дзіцяці спаць паклалі.

Божа маці будзе ёму дарожку ачышчаці, ёму там спакою не даваціме. Да дадому прыжэне, да к дзіцятку спаць пакладзе, да хазяіну ўжэ спакой дае. А Ісус Хрыстос берэзовай мятлой прыганяціме, да ў пасцель спаць пакладзе, да хазяйке спакой дае, залатымі замкамі варота пазамукае, його з хаты нікуды не пускае.

## 1325. Адсушка

На моры, на акіяне, на востраве Буяне стаіць стоўб. На тым стаўбе стаіць дубовая грабніца, у ёй ляжыць красна дзявіца. Кроў у яе не разгараецца, ножанькі не паднімаюцца, глаза не раскрываюцца, уста не растваракоцца, сэрца не сакрушаецца. Так бы і ў (імя) сэрца не сакрушалася, кроў не разгаралася, сама б не ўбівалася, у таску не ўдавалася. Амінь!

## 1326. Каб адгаварыць таску

Вада-вадзіца, рака-царыца, зара-зарніца, зніміце таску-кручыну за сіняе мора ў марскую пучыну, дзе людзі не ходзяць і на конях не ездзяць, як у марской пучыне серы камень.

## 1327. На ўмацаванне шлюбу

Іван — вялікі воін! Не баішся ты ні ліхадзея, ні супастата, памагі рабу Васіллю і рабе Матроне, штобы ёны павінчаліся ні на муку, ні на гора, ні ў ліхой час, а ў добры час, на радасьць, на вяселле і штобы не баяліся ены ні калдуноў, ні калдуніц, ні ерэцікоў, ні ерэціц, і сажгі калдуноў, сажгі калдуніц каменнай стралой, вогнем нябесным, штобы ены ні брасаліся, ні кідаліся, на свадзебку ні зіраліся. Ты святы Лука-Дземян! Атлучы іх ад света белага, а раба Васіля, рабу Матрону салучы ў вадно места. Амінь.

## 1328. Як свадзьбу расстроіць

Поп салучыў, а я разлучыў,
Поп з храстом, а я з хвастом,
Папу ўхадзіць, а нам тут жыць.
Как сухой рабіны лісцьеў не пускаць,
Так табе дзяцей не ражаць;
Как зімой лету не быць,
Так вам умесце не жыць.

## 1329. Салдацкая

І шол младзенец із утробы; не было ў него ні ўма, ні разума, ні ачэй, ні рачэй, ні злаго серца. Такождзебы не было ў маего камандзера на раба божыя ні ўма, ні разума, ні ачэй, ні рачэй, ні злаго серца.

## 1330. Салдацкая

Стану я, раб божы, благаславясь і пайду перэкрэсцясь із ізбы дзвярамі, із двара варатамі, на васток, на восточную старану, пад красна сонца, пад млад ясен месяц, пад чыстыя звёзды, пад чорныя облакі, пад усю нябесную сілу. І ўмоюсь я, раб божы, утрэннею расою, і пайду я благаславясь, на ўсе чатыры стораны памалясь. І кто на меня, раба божыя, ліха падумает ілі ліхое слова вазмолвіт, затрэслась бы ў него рука і нага, і падпятныя жылы, і семдзесят сем саставаў, і выкаціўся б у него вольны свет із глаз.

## 1331. Салдацкая

На моры, на кіяні, на востраві на Буяні стаіць столб, на цем сталбе дзве дзевіцы-красавіцы; ш'юць ані па атласу і па бархату нашэй мацеры Прэсвятой Багародзіцы рызу. Цар нябесны снес з нябес крэст булатны надглядаваць жывых і мертвых. Как мертвыі ляжаць, не варохнуцца, рта не разінуць, ачэй не васкінуць, серца не раз'яраць, рукамі не варахнуць, нагамі не трахнуць, так бы раб божы камандзер рукою бы не варахнуў, нагой бы не трахнуў. І будзі мае слова крэпкім-крэпка, крэпчэ белага камня.

### 1332. Салдацкая

Пайду я, раб божы, к рабу божыю камандзеру. Так бы очы его взыгралісь на меня, раба божыя, яко ў яснага сокала на краснае сонца, і встрэчал бы меня, акі сокал краснае сонца.

### 1333. Як хлопец ідзе ў армію

Сонцам асвячуся, а месяцам абгараджуся, а залатымі ключамі замкнуся, зорамі асыплюся, нікога не баюся, а Госпад мене ўстрэціць у вялікай дарозі.

### 1334. За здароўе салдата

Памолімся Господу Богу, апосталу святому, кіеўскаму памочніку, Пятру і Паўлу за здароўе Сцяпана. Памагі, Гасподзь, сам Гасподзь, памілуй, ваенную службу яму адслужыці, і на сваю родзіну яму вараціцца, і з атцом, і з мацяраю яму павідацца. Спасі, Гасподзь, ад мяча і агня, ад вострае саблі, ад пулі-зладзейкі. Амін.

### 1335. Ад розных ворагаў

Сонцам асвячуся, а месяцам абгараджуся, злых урагоў не баюся. Я да іх с просьбаю, а яны да мяне з ласкаю. Як яно каціласся, так яно і раскацілася, і раздраблося, і размялося, і на етам асталося.

### 1336. Ад благога чалавека

Згубы не нахадзі, і да мяне не прыхадзі, і не навядайся, і з горам не знайся.

### 1337. Ад зладзеяў

На моры, на кіяні, на востраві на Буяні стаіць зялезны сундук, а ў зялезным сундукі ляжаць нажы булатныі.

— Падзіця вы, нажы булатныі, к такому-та і сякому-та вору, рубіця яго цела, каліця яго серца, штобы ён, вор, вараціў пакражу такога-та, штоба ён ні ўтаіў ні сіня пораха, а выдаў бы ўсё спална.

Будзь ты, вор, прокліт маім сільным загаворам у зямлю прэісподнію, за горы Араратскіі, у смалу кіпучую, у залу гаручую,

у ціну балотную, у дом бяздонны, у куўшын банны; будзь прыбіт у прыталкі асінавым калом, іссушан сушы травы, замарожан сушы ільду; акрывей, ахрамей, ашалей, адзірвяней, абязручый, агаладзей, аташчай, валяйся ў гразі, з людзьмі ні звыкайся і ні сваей смерцю ўмры!

## 1338. Ад несправядлівага абвінавачвання

Іду я, раб божы (імя), із ізбы ў дзвер, із двара ў варота, у зялёныя лугі, у чыстыя паля, у цёмныя лясы; найшоў трыдзісяць прўтаў. Ляжыць трыдзісяць грабоў, трыдзісяць міртвяцоў; у тых трыдзесяці міртвяцах серца ні разгараюцца, рукі ні прыпаднімаюцца, уста ні атвараюцца — так і на мене (імя) пусць серца ні разгараюцца, рукі ні прыпаднімаюцца, уста ні атвараюцца.

## 1339. Каб быць апраўданым на судзе

Ва імя Атца і Сына і Святога Духа. Амін.

Устану я, раб божы (імя таго, хто едзе ў суд), ранёшанька, я ўмыюся бялёшанька, я ўватруся жаркім соўнышкам, падпаяшуся ясным месіцам і пайду я к самаму Госпаду Богу, і вазьму я на прыстолі трыдзевяць замкоў, трыдзевяць driючоў і трыдзевяць падзамкоў, і пайду я, раб божы (імя), на сход міра, кругом усі сходкі абыйду, усі сірца іх ліхея пазамкну — усім, ад верхняга чалавека да паследняга: зборшчыку, дзісяцкаму, сельскаму, ураднiку, валасному, станавому, іспраўніку і ўсім тым, каторыя пры сходзі будуць.

А сам пайду, раб божы (імя), к самаму Госпаду Богу і палажу на прыстолі трыдзевяць замкоў, трыдзевяць ключоў і трыдзевяць подзамкаў.

А сам пайду, раб божы, змераю дзверы з варот і ў вароты і ў чыстыя поля; на выстрэчу ка мне, к рабу божаму, звер леў. Я сяду на звера-лева і стану пірад усім мірам крашы краснага сонушка, ясней яснага месіка — быў бы я мілей іх атцоў і мацярэй, быў бы я мілей іх жон і дзяцей, быў бы я мілей усяго роду іх!

Жыватварашчы наш хрэст заўсігды ныні і прысна і ва векі вякоў, амін.

Зашчышчына зімля нібісамі — зашчыці мяне, Госпадзі, харошымі славісамі. Заўсігда — ныні і прысна і ва векі вякоў. Амін.

### 1340. «Каб ніхто не пакараў»

Месяцам умоюсь, соўнышкам утрусь, плашчаніцай абвярнусь, раб-божы (імя) злому ворагу ў рукі не пападусь. Амінь.

### 1341. Ідучы на суд

Іду я, раб божы (імя), к рабу божаму (імя) ад Духа Свята і ад Хрыстовай пічаці і ад спасавай рукі, ад прачыстага замка, ад прэстола Гасподня.

Ангел мой храніцель, сахрані маю душу, мой дом, серца мае прымі к себе, у прыяціе, раб божы (імя). Ключ неба, зямля замок. Амін.

(Прачытаць да канца «Багародзіца Дзева, радуйся!»)

З вастоку ідзець Гасподзь наш Іісус Хрыстос, із палудня Міхаіл-архангел, з вячэрняй зары Нікалай міласцівы; гарадзяць каменную аграду вокала раба божага (імя, хто ідзе ў суд), замыкаюць тромя замкамі, тромя ключамі; ключы адносюць у акіян-мора, пад кіт-камінь, у шчуку-рыбу.

Хто можыць акіян-мора выпіць, тэй можыць і міне, раба божага (імя), асудзіць і агаварыць. Ключ неба, зямля замок.

Амін, амін, амін!

### 1342. На поспех у судзе

На змяі еду, вужом паганяю, усім суддзям, засядацелям гаварыці замаўляю. І губы, і зубы, і рот залатым замком замыкаю. А як важко мне ета рабіць, так важко суддзям і засядацелям на мяне злобу мець. Як у полі зеляному дубу мёду-гарэлкі не піці, так усім суддзям, засядацелям на мяне важко гаварыці.

### 1343. Суд (выйграць судовую справу)

Тупну нагой — уся кампанія за мной, поясам падвяжуся — нікога не баюся. Ля дзвярэй рэч — мой верх над імі. А ў хаце печ — анямей іхна рэч.

### 1344. На поспех у судзе

Еду на мядзведзю, гадам паганяю, еду па дарозе шырокай, губы, зубы забіваю, суддзям тусміну ў вочы накідаю, штоб плахую рэч не гаварылі. Стаіць цэрква з залатымі дзвярамі, сядзіць маць Прачыстая з дванаццаці замкамі, замыкая суддзям губы і зубы, губы, штоб плахую рэч не гаварылі.

## 1345. Ад суда

На Міньскай вуліцы стаіць цэркаўка, у той цэркаві прастол стаіць, за тым прастолам Божая мацер сядзіць, залатыя ключы ў прыполе дзяржыць. Тымі ключамі замукала маім урагам зуб за зуб, шчэлеб за шчэлеб (дзясны). Памяні, Госпадзі, цара Давыда.

## 1346. На поспех у судзе

На сакалу еду, вінаградам паганяю, свой суд сунімаю. Ішлі дарогаю тры ангелы, адзін свечы зажыгаў, другі суд сунімаў, а трэці ў астырнасці астаўся. Яго рукі граблямі, вочы сталбамі, штоб хлеб-соль елі і напроціў мяне анямелі, а ты, грамада ўся, за мною паступай.

## 1347. На поспех у судзе

На гадзюкі еду і вужом паганяю, людзям мову замаўляю. На праўдзі стаю, праўду гавару. Мая хата і мая печ, замаўляю суддзям рэч.

## 1348. На поспех у судзе («Як на суд едуць»)

Як радзіўся, дак насіўся на руках, а як узрос, дак ездзіў на валах, а ў суд прыеду на вужу, суддзям вум завяжу. Вужам еду, гадзюкаю паганяю, суддзям вум замаўляю.

## 1349. На поспех у судзе

Госпаду Богу памалюся, святой матке пакланюся. Я з словам, яна з помаччу.

На вужу еду, гадзюкай паганяю, суддзям рэчы замаўляю. І ляцеў сокал, і сеў на стол. Ён зашчабятаў і суддзям рэчы замаўляў, а Мішу ад суда аслабаняў.

## 1350. На поспех у судзе

Не іду на суд, да еду. Стўпаю еду, таўкачом паганяю, макам след засыпаю. Е ў мяне прасвіра і мак, няхай мой суд будзе так!

## 1351. На поспех у судзе

Не іду на суд, да еду. Еду на суд, аж стаіць дуб, а пад дубам стаяць сталы дубовыя, а за сталамі сядзяць суддзі цалковыя. Іх галовы цялячыя, вумы дзіцячыя, а суд за мною.


11
13
10
14
9
15
8
16
А
АБ
АБР
АБРА
АБРАК
АБРАКА
АБРАКАД
АБРАКАДА
АБРАКАДАБ
АБРАКАДАБР
АБРАКАДАБРА
Іріон+Ліріон+Кіріон+
+Сталедон+Страктаре
+Какаре+Ідота+Стрі
+Сім+Брім+Эт+
+Деус+Меус++

# АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ


| | |
|---|---|
| Бялькевіч | — Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970. |
| Богданович | — Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895. |
| Добровольскии, I | — Смоленский этнографический сборник / Сост. В. Н. Добровольский. СПб., 1891. Ч. 1. |
| Довнар-Запольский | — Запольский М. Чародейство в Северо-Западном крае в XVII — XVIII вв.: Историко-этнографический этюд // Этнограф. обозрение. М., 1890. № 2. |
| Машыньскі | — Moszyński K. Kultura ludowa słowian. Warszawa, 1934. |
| Минько | — Минько Л. И. Знахарство. Мн., 1971. |
| Мифы | — Мифы народов мира. М., 1980. Т. 1—2. |
| Никифоровский | — Никифоровский Н. Я. Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. Вильна, 1907. |
| Насовіч | — Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. |
| Романов, III | — Романов Е. Р. Белорусский сборник. Витебск, 1887. Вып. 3. |
| Романов | — Романов Е. Р. Белорусский сборник: Заговоры, апокрифы и духовные стихи. Витебск, 1891. Вып. 5. |
| ТС | — Тлумачальны слоўнік: У 5 т. Мн., 1977—1984. Т. 1—5. |

Толстой — Толстой Н. И. Из наблюдений над полесскими заговорами // Славянский и балканский фольклор. М., 1986.

У ключика гремучего — Дальневосточный фольклор // У ключика гремучего. Владивосток, 1989.

Фольклор Дальнеречья — Фольклор Дальнеречья / Составление, комментарии и вступ. ст. Л. М. Свиридовой. Владивосток, 1986.

Хрэстаматыя — Беларускі фальклор // Хрэстаматыя. Мн., 1985. Выд. 3.

Шейн, II — Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1893. Т. 2.

Шлюбскі — Шлюбскі Ал. Матар'ялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Мн., 1927. Ч. 1.

Federowski — Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Kraków, 1897. T. 1.

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі

АІМФЭ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, фальклору і этнаграфіі імя М. Рыльскага АН Украіны

Архіў БДУ — Архіў Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна

Архіў ГДУ — Архіў Гомельскага дзяржаўнага універсітэта

Архіў МДПІ — Архіў Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута

в. — вёска
вар. — варыянт
вобл. — вобласць
вол. — воласць
воп. — вопіс
вуч. — вучань, вучылішча
вып. — выпуск

| | |
|---|---|
| г. | — год |
| гл. | — глядзіце |
| г. н. | — год нараджэння |
| губ. | — губерня |
| дал. | — далёкі |
| зап. | — запісаў, запісала |
| зб. | — зборнік |
| камент. | — каментарый |
| кар. | — кароткі |
| кір. | — кіраўнік |
| кн. | — кніга |
| л. | — ліст |
| м. | — мястэчка |
| мат. | — матэрыялы |
| нар. | — народны |
| наст. | — настаўніцкі |
| п. | — павет |
| параўн. | — параўнай (це) |
| р. | — раён |
| с. | — старонка |
| скароч. | — скарочаны |
| спр. | — справа |
| студ. | — студэнт, студэнтка |
| сш. | — сшытак |
| т. | — том |
| ф. | — фонд |

# ЗАМОВЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З ГАСПАДАРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦЮ ЧАЛАВЕКА

### 1. Паляўнічая

Романов, с. 48, № 180. Зап. у канцы XIX ст. у в. Сялюты Віцебскага п.

### 2. Паляўнічая

Богданович, с. 138—139. Зап. у Барысаўскім п. Тое ж: Шейн, II, с. 555—556, № 67. А. Я. Багдановіч дае да замовы тлумачэнне: «Гэта замова прамаўляецца, калі паляўнічы ўваходзіць у лес, каб цягнула да яго дзічына. Спрактыкаваныя людзі раюць трымаць шрот у роце, як зараджаеш стрэльбу, каб яе «не замовілі».

### 3. Паляўнічая

Романов, с. 156, № 65. Зап. памочнік валаснога пісара ў канцы XIX ст. у Соінскай вол. Мсціслаўскага п. ад Няфёда Лук'янава.

### 4. Паляўнічая

Романов, с. 155, № 64. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у м. Манастыршчына Мсціслаўскага п. Як тлумачыць інфарматар і збіральнік, замаўляюць на ваду, якую выліваюць цераз галаву. Каб ружжо не баялася ўрокаў, таксама прадпрымаюцца асобыя дзеянні: ідучы на паляванне, левую нагу пераставіць цераз парог, а правую пакінуць у хаце, ружжо тройчы «праняць» паміж ног. Пры замаўлянні ружжо трэба пакласці ў ручай «на сход сонца».

### 5. Паляўнічая

Романов, с. 155, № 63. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у Пірацінскай вол. Клімавіцкага п. ад пісьменнага. Першая публікацыя: Могилевские губернские ведомости, 1890, № 46, с. 189, № 6. Да замовы заўвага: «Гэта закліанне нагаворваюць на ваду, якою потым і прамываюць ружжо на куце (пад абразамі, у пярэднім вуглу), гаворачы тройчы: «Бі, мары!»

Вар.: Романов, с. 49, № 183. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Гарадзішча Горацкага п. ад каваля Філімона Сцяпанава, 70 г.

### 6. Паляўнічая

Романов, с. 156, № 66. Паведаміў Камароўскі. Па старому спісу з в. Надзейкавічы. У замове спалучаюцца два матывы — змыванне ўрокаў вадою (зварот да вады) і дапамога жывой істоты — міфічнай бабкі.

### 7. Паляўнічая

Шейн, II, с. 556, № 68. Зап. С. М. Рачынская ў Бельскім п. ад Ф. Андрэева. Прамаўляецца, як звер папаў у лавушку.

### 8. Паляўнічая

Романов, с. 49, № 181. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Дзятлавічы Гомельскага п. ад М. Нікіцінай, 51 г. Замова, каб ружжо не страляла. «Тры разы паракажаш так — трасцу ружжо будзя біць».

Вар.: АІМЭФ, 8-80-178а [1], сш. 11, л. 24, № 126. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1980 г. у в. Яланы Светлагорскага р. ад Я. Л. Шэнца, 1906 г. н.

### 9. Паляўнічая

Романов, с. 49, № 182. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Дзятлавічы Гомельскага п. ад М. Нікіцінай, 51 г.

### 10. На паспяховую лоўлю рыбы вудачкай

Романов, с. 156, № 67. Зап. Е. Р. Раманаў у м. Хоцьславічы ад пісьменнага. Першая публікацыя: Могилевские губернские ведомости, 1890, № 46, с. 189, № 7.

Вар.: Романов, с. 49, № 184. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Гарадзішча Горацкага п. ад Ф. Сцяпанава, 70 г. (каваль і шаптун).

### 11. Для пчол

Хрэстаматыя, с. 68. Зап. Ул. К. Цішчанка ў 1975 г. у в. Улукі Слаўгарадскага р. ад бацькі К. А. Цішчанкі, 1897 г. н., які запомніў гэту замову ад свайго бацькі.

Вар.: 8-75-96, сш. 6, л. 82, № 16. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Закальное Любанскага р. ад В. А. Ласевіч.

Вар. з моцным уплывам афіцыйнай рэлігіі: Романов, с. 156—157, № 68; с. 157, № 70; с. 158, № 71 — усе зап. у Любавінскай вол. Мсціслаўскага п.; с. 50, № 186. Зап. Буднецкі ў в. Гарадзец Чавускага п.

### 12. Каб пчолы вяліся

Романов, с. 157, № 69. Зап. Е. Р. Раманаў у Любавінскай вол. Мсціслаўскага п.

### 13. Для пчол

Романов, с. 50, № 185. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Гарадзішча Горацкага п. ад Ф. Сцяпанава, 70 г.

### 14. Для пчол (рою)

Машыньскі, с. 146, № 93. Заўвага да замовы: «Пісьмова ад Ч. Пяткевіча з нататкаў Зянона Пяткевіча паводле інфармацыі Генрыка Пяткевіча, бацькі Чэслава і Зянона». Шаптанне суправаджаецца дзеяннем: «Каб рой, які асеў на дрэве, не адляцеў, пакуль бортнік яго збярэ, трэба са сціснутымі пальцамі аббегчы тройчы вакол дрэва і тры разы прамовіць гэтае закляцце».

---

[1] У каментарыях да тэкстаў з архіва ІМЭФ назва архіва (АІМЭФ) не даецца, а архіўная крыніца падаецца ў шыфраваным выглядзе, напрыклад, 8-1-1, дзе першая лічба азначае фонд, другая — вопіс, апошняя — нумар справы (8-1-1=ф. 8, воп. 1, спр. 1).

### 15. Ад залому

8-73-71, сш. 2, л. 61 адв., № 67. Зап. В. І. Скідан у 1973 г. у в. Вялікі Бор Хойніцкага р. ад С. Ф. Дземідзенка, больш за 80 год. Заўвага збіральніка: «Адрабляюць... Лечаць, глядзяць... Вырываюць завітку... Як умееш «завіваць», дак умееш і вырваць».

### 16. Ад залому

Шейн, II, с. 529—530, № 14. Зап. С. М. Рачынская ў Бельскім п. ад селяніна Дзмітрыя Шваркуна. Для дзейснасці замовы неабходна прытрымлівацца наступных дзеянняў: «Вазьмі вобраз Міколы Чудатворца, ступай у рож, рана, да сонца, а как сонца взойдзець, ты к закату стань да на вобраз глядзі і загавар гавары, а калі сонца ня йграець, калі туман пойдзець, как дым, ты ня гавары, а другім днём скажы, как сонца іграць будзець».

Вар.: Там жа, с. 528—529, № 12. Зап. у Рэчыцкім п. ад Н. Р. Яцко. Залом, згодна з замовамі, ліквідуе не шаптун або які-небудзь святы, а Ісус Хрыстос: «Ішоў Ісус Хрыстос із нябёс цяраз трое варот, з залатым крастом, з залатым мечом. Я залатым крастом хазяйства аграждаю і здароўем надзяляю, а Ісус Хрыстос залатым мечом завіток вырывае і етыя слава залатым мечом назад адсылае і его на той свет заганяе».

Вар. замовы-малітвы: Романов, с. 12, № 30. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Гарадзішча Горацкага п.

### 17. Ад залому

Романов, с, 143—144, № 23. Зап. у Соінскай вол. Мсціслаўскага п. Самой замове папярэднічае зваротак да цудоўнага памочніка і адпаведнае дзеянне: «Госпадзі Божа, благаславі, пасабі мне еты вянок вырваць (скруціць залом і наступіць на яго)». Пасля заклінання сакральныя дзеянні працягваюцца: «... еты залом возьмеш і ўвы ржавіння ўвапрэш і колам асінавым заб'еш, а тоды раськепіш яго і раскінеш на беі стораны».

Вар.: Шейн, II, с. 530—531, № 15. Зап. С. М. Рачынская ў в. Майкава Бельскага п. ад сялянкі Арыны Максімавай. Паказальна, што адрабляннe залому ставілі тут у залежнасць ад сонца і месяца. «Еслі злодзей залом у ржы заломіць, так залом не трош, а тронеш — худа будзець, а ступай у лес і хрэст з сабой бяры, у ноч ступай, ты не бось, патаму ты загавар лесавому знаеш; а ноч штобы вінная (відная) была — з месяцам. Пайдзі да асіну найдзі, а ў ней сук ёсь на макушке — храстом сучча растуць. Ты тот сук зламі і на то поле ідзі, гдзе залом, да там і сідзі і сук у руках дзяржы, а на траву клась не нада: ён на траве не вянець, а яму нада вянуць. Как сонца іграць станець, ты тым суком залом разбяры да і скажы: «Хто работаў на меня, пусь работаў на себя. Как на васіне лісьцья вянуць, сохнуць, так пусь у злодзея рукі, ногі адсохнуць; как на васіне пціцам гнёзд не віць, так злодзею ў даму не жыць; і как тый васіне на карню не ўстаяць, так злодзею з пасцелі не ўстаць». Ты эта гаворы, а к солнецу спіной устань і брось ты васіну і нагамі растапчы; тому злодзею рукі, ногі адсохнуць і памрэць, а рож не паганая».

Яшчэ вар.: 8-79-165, сш. 1, л. 63, № 42. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1979 г. у в. Барталамееўка Веткаўскага р. ад Х. К. Сокалавай, 80 г.

## 18. Ад залому

Романов, с. 12, № 29. Зап. Е. Р. Раманаў у Вендаражскай вол. Магілёўскага п. У тлумачэнні адзначаецца, што вырваны залом спальваюць на асінавых дровах.

## 19. На жыта, супраць шкоднікаў

8-79-172, сш. 1, л. 81, № 52. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1979 г. у в. Пустыннікі Усвяцкага р. ад В. І. Палюшчанка, 1907 г. н. Заўвага інфарматара: «Как угаваріваюць чэрь, штоб рож не паела».

Вар.: Романов, с. 50, № 187. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Ямніца Вендаражскай вол. Магілёўскага п. «Ад галаўні ў пшаніцы». У дзеяннях, якія суправаджалі заклінанне, цесна перапляліся рацыянальныя і магічныя матывы: «А то трэба перамыць зерняты ў сіням камні (купарос) з галуном (квасцамі). А колі з жаной грэх меў перад тым, як сеяць, дык беспрэменна трэба акаціць грудзі і «стыд» вадой, тады сеяць».

Яшчэ хрысціянізаваныя вар. (малітвы «за ніўку», «за ўраджай»): Романов, с. 430, № 30. Зап. у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага п. «Спяваецца ў гумне, пры першай малацьбе»; с. 430, № 31. Зап. у Старасельскай вол. Мсціслаўскага п.; с. 430, № 32. Зап. у в. Святошчыца Горацкага п. «Аб ураджаі».

## 20. На ўраджай

13-3-3, л. 2, № 3. Зап. А. У. Русіновіч у 1978 г. у в. Гарохавішчы Акцябрскага р. ад У. Д. Дайнека, 99 г.

Вар.: 8-79-165, сш. 1, л. 41, № 27. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1979 г. у в. Барталамееўка Веткаўскага р. ад Х. К. Сокалавай, 80 г. «Як сеюць»; 13-10-29, сш. 10, л. 25—26, № 16. Зап. студ. Гродзенскага пdescribed інстытута Я. Бурак у 1965 г. у г. Гродна ад А. Ф. Рыбалка, 1881 г. н. «Перад тым, як сеяць збожжа (азімыя)»; Добровольский, І, с. 212, № 1. «Як канаплю сеяць»; с. 212, № 2. Зап. у в. Нікола Ядрэіч Духаўшчынскага п. «Штоб канапля харашо зарадзілась».

## 21. Пры жніве

Добровольский, І, с. 212, № 1. Зап. у в. Нікола Ядрэіч Духаўшчынскага п. «Штоб жалась спорна».

## 22. Ад пажару

13-10-90, л. 4, № 3. Зап. У. М. Сысоў у 1978 г. у в. Старая Алешня Рагачоўскага р. ад Н. Р. Малалетнікавай, 1920 г. н.

## 23. Ад пажару

Романов, с. 51, № 188. Зап. Е. Р. Раманаў у м. Дуброўна Горацкага п. «І тры разы пакланіцца агню» — заўвага да замовы.

Вар.: Там жа, с. 51, № 190. Зап. Буднецкі ў м. Дрыбін Чавускага п. ад Я. Лявонава, 45 г. У замове пералік цароў: «Цар Давыд, цар Ізавіт, цар áнгліські, гаспадар вóгнянны, гаспадар палуменны, гаспадар лесавы, гаспадар вадзяны, гаспадар пчалавы, гаспадар вéтраны».

### 24. Пры пажары

Романов, с. 51, № 189. Зап. Буднецкі ў в. Гарадзец Чавускага п. ад П. Пятрова.

### 25. Ад пажару

Романов, с. 158, № 74. Зап. К. Анікіевіч у Брацькаўскай вол. Чэрыкаўскага п. ад І. Міхайлава.

Вар.: Там жа, с. 50. Зап. Е. Р. Раманаў у Горацкім п. Цікавасць уяўляе заўвага да замовы наконт крыку: «І крык трэба ўнімаць, а то ад крыку агонь гарачыцца»; 8-79-165, сш. 1, л. 83, № 56. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1979 г. у в. Усоха-Буда Добрушскага р. ад А. В. Ярмошкінай, 1913 г. н.

### 26. Ад пажару

8-82-204, сш. 6, л. 16, № 12. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1982 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад М. П. Сербянок, 87 г.

### 27. Ад пажару

Добровольский, I, с. 210, № 1. Зап. у в. Сухі Пачынак Ельнінскага п. Замова пачынаецца і канчаецца хрысціянскай малітвай.

### 28. Ад агню

Могилевские губернские ведомости, 1889, № 18, с. 73—74. Перададзена памешчыкам Мсціслаўскага п. Заўвага: «Пры раскладванні ў першы раз агню каля восеці для малацьбы трэба ля кожнага вугла прагаварыць тры разы замову ад агню, а потым, раскладваючы агонь, пакласці ў печ пад дровы тры вярбовых прута, якія асвяцілі ў Вербную нядзелю».

### 29. Пры пажары

Романов, с. 158, № 73. Зап. К. Анікіевіч у Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага п. Цікавасць уяўляе ўпамінанне цара агню: «старшога царыка Агена».

### 30. Ад пажару

Машыньскі, с. 146, № 94а. Зап. К. Машыньскі ў в. Дзерашэвічы Мазырскага п. ад Агаты Сугрэевай. Па словах інфарматара, пераняла замову ад бацькі, які служыў у двары і навучыўся ад пані, якая ведала замову з кніжкі.

Вар.: Там жа, с. 146, № 94. Зап. Ч. Пяткевіч у Рэчыцкім п.; 8-82-204, сш. 3, л. 62, № 30. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1982 г. у в. Засінцы Ельскага р. ад М. К. Ладыжэнка, 1906 г. н.

### 31. Ад пажару

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ. Зап. студ. Л. Дзівачэнка ў Рагачоўскім р. ад Г І. Дзівачэнка, 41 г.

**1055. Ад спугу**

8-84-228, сш. 3, л. 104—106, № 32. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1984 г. у в. Праскурні Жлобінскага р. ад А. Я. Рабцавай.

**1056. Ад іспугу**

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 12, № 2. Зап. студ. Л. І. Бордак у в. Галоўкі Рэчыцкага р. ад Ф. С. Белай, 50 г.

**1057. Ад ляку**

8-82-203, сш. 5, л. 41, № 27. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1982 г. у в. Падгалле Ельскага р. ад М. І. Патапенка, 53 г. Паводле тлумачэння інфарматара, пры замаўлянні качаюць яйкам па галаве і грудзях, потым яйка разбіваюць і выліваюць. Як чалавек зляканы, то ў стакане «такія галовы бліскучыя».

**1058. Ад ляку**

8-82-204, сш. 4, л. 43—44, № 43. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1982 г. у в. Засінцы Ельскага р. ад А. І. Харашкевіч, 1941 г. н. Як тлумачыла інфарматар, пры казанні «качаюць яйкам, можна хлебам — шарыкі качаюць па грудзях, а потым сабаку аддаць ці кату».

**1059. Ад зляку**

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 12, л. 1, № 1. Зап. студ. Л. І. Бордак у в. Галоўкі Рэчыцкага р. ад Ф. С. Белай.

**1060. Ад спужання**

13-2-13, л. 22, № 25. Зап. А. С. Емяльянаў і студ. Віцебскага педінстытута ў 1978 г. у в. Сурнаўка Талачынскага р. ад В. Я. Зайцавай.

**1061. «Ад младзенца (када спужаецца і яго калоціць)»**

8-90-249. Зап. У. А. Васілевіч і І. В. Карашчанка ў 1990 г. у в. Круціха Кыштоўскага р. ад Н. І. Мінчанка (з перасяленцаў з Магілёўшчыны).

**1062. Ад перапалоху**

13-2-13, л. 5, № 7. Зап. А. С. Емяльянаў і студ. Віцебскага педінстытута ў 1979 г. у в. Сіняўка Клецкага р. ад Г. К. Гаўрыс, 1937 г. н.

**1063. Ад спужання**

8-73-69а, сш. 5, л. 59, № 49. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у пас. Кулага (в. Іскань) Быхаўскага р. ад Д. І. Гапеевай.

### 1064. Ад ляку

8-84-220, сш. 1, л. 65—66, № 101. Зап. У. А. Васілевіч у 1984 г. у в. Гоцк Салігорскага р. ад В. М. Новік, 1909 г. н. Паводле слоў інфарматаркі, да яе ў сне некалькі разоў прыходзіла жанчына з «таго свету» і пераказала ёй гэту замову. Па шаптанні тройчы хукнуць на цела і ўбок сплюнуць.

Вар. дал.: Романов, с. 39, № 141. Зап. Е. Р. Раманаў у Вендаражскай вол. Магілёўскага п. У замове толькі пералік частак цела і азначэнняў вытокаў хваробы, якому папярэднічае кароткі ўступ.

### 1065. Ад пужання

8-80-178, сш. 4, л. 23, № 19. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1980 г. у в. Хутар Светлагорскага р. ад К. А. Рыбак, 1924 г. н. Паводле тлумачэння інфарматара, «магайба — гэта прывітанне, добры дзень, здрастуй. Бывала, жнеш, ідзе старая жанчына: «Магайба вам, Бог помач!» — «Добрае здароўе, спасіба».

Відаць, магайба — скарочанае ад «памагай Бог».

Вар.: Романов, с. 38, № 136. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Дзятлавічы Гомельскага п. Вар. месца ссылкі зляку: «І ссылаям зляк еты на нятворную гару, на нехрашчоную зямлю, дзе й пеўні не пяюць, і людзі ня ходзяць».

### 1066. Ад ляку, упуду, сцені

Романов, с. 39, № 142. Зап. Е. Р. Раманаў у Вендаражскай вол. Магілёўскага п.

Вар.: Там жа, с. 37, № 134. Зап. у в. Недайка Рагачоўскага п.; 8-75-96, сш. 6, л. 11—12, № 5. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Рачэнь (пас. Залуг) Любанскага р. ад Е. К. Ляўчэні, 1902 г. н.; 8-84-220, сш. 1, л. 64—65, № 100. Зап. У. А. Васілевіч у 1984 г. у в. Гоцк Салігорскага р. ад П. С. Новік, 1924 г. н.; Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ. Зап. студ. С. Г. Ларачкіна ў в. Дворышча Жлобінскага р. ад Н. І. Веко, 63 г.

### 1067. Ад іспугу, сценю

8-90-250, сш. 8. Зап. У. М. Сысоў у 1990 г. у Мінску ад сваёй маці Н. Р. Малалетнікавай, 1920 г. н., родам з в. Старая Алешня Рагачоўскага р.

*Паграбенны* — той, што памірае ці памёр (тлумачэнне інфарматара).

*Слядошны* — ад след, г. зн. з чужога следу.

### 1068. Ад ляку, упуду, сцені

Романов, с. 38, № 138. Зап. Е. Р. Раманаў у Царковішчанскай вол. Магілёўскага п.

### 1069. Ад ляку

8-80-178, сш. 5, л. 87, № 52. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1980 г. у в. Хутар Светлагорскага р. ад У. Я. Клімянок, 81 г.

Вар.: 13-3-30, л. 18, № 33. Зап. А. У. Русіновіч у 1954 г. у в. Раковічы Светлагорскага р. ад М. І. Акуліча, 103 г.; л. 28, № 50. Зап. той жа ў 1968 г. у в. Пятровічы Светлагорскага р. ад М. І. Русіновіч, 1910 г. н.

### 1070. Ад спуду

13-10-86, сш. 38а, л. 10 адв.—11, 29. Зап. студ. Магілёўскага педінстытута Л. К. Ясенка ў 1973 г. ад М. М. Ханенка, 1920 г. н., з в. Кнышэвічы Светлагорскага р.

### 1071. Ад ляку

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 77, № 22. Зап. студ. Г. Гордзіч, В. Лаўшук, Т. Ясючэня ў 1977 г. у в. Засінцы Ельскага р. ад М. А. Засінец, 39 г.; Там жа зап. ад Н. М. Засінец, а таксама ў в. Стадолічы Ельскага р.

Вар.: 8-82-204, сш. 4, л. 17—18, № 14. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1982 г. у в. Кавалі Ельскага р. ад Н. І. Пархоменка, 1896 г. н. Замест птаства ў замове звяраты: «Лякі, лякі, ідзіце на ўсякія звяраты, на ўсякія кацяты. На сінім моры напіткі, наедкі, там вам сталы пазасціланы...»

### 1072. Ад спуду

8-77-142, сш. 3, л. 54, № 60. Зап. Л. М. Салавей у 1977 г. у в. Хорастава Салігорскага р. ад Я. Ф. Чачуры, 1925 г. н. «Паўтараецца 9 разоў перад усходам сонца» — заўвага інфарматара.

### 1073. Ад зляку

8-77-142, сш. 3, л. 77, № 84. Зап. Л. М. Салавей у 1977 г. у в. Чаланец Салігорскага р. ад С. І. Корж, 1907 г. н.

### 1074. Ад зляку

8-73-71, сш. 3, л. 9—10, № 11. Зап. В. І. Скідан у 1973 г. у в. Вялікі Бор Хойніцкага р. ад Е. С. Дземідзенка, 90 г.

### 1075. Ад ляку

8-82-203, сш. 5, л. 86—87, № 60. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1982 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад Н. Г. Раманавай, 1920 г. н. Замове папярэднічае малітва «Отча наш».

Вар.: 8-85-229, л. 57. Зап. А. Ю. Лозка ў 1971 г. у в. Прыбалавічы Лельчыцкага р. ад П. А. Калеснай, 1901 г. н. Па ўласнаму сведчанню інфарматаркі, пераняла замову ад Вусцімы з в. Копішча (Украіна); л. 62. Зап. той жа ў 1979 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад М. П. Сербянок. Больш поўны вар. зап. Г. А. Барташэвіч у 1982 г. ад той жа; 8-82-204, сш. 6, л. 5—6, № 4.

*Сятá (сетá), сяты́* — мясцовае вымаўленне святая, святы.

### 1076. Ад ляку

8-85-229, л. 61. Зап. А. Ю. Лозка ў 1979 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад Л. Я. Швед, 1898 г. н.

Вар.: Там жа, л. 63. Зап. той жа ў в. Прыбалавічы Лельчыцкага р. ад М. Л. Акуліч, 75 г.; л. 59. Зап. у в. Мілашавічы Лельчыцкага р. ад М. В. Астапо-

віч, 1894 г. н.; Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ. Зап. у в. Тонеж Лельчыцкага р.

### 1077. Ад ляку

8-82-198, сш. 2, л. 64, № 78. Зап. Л. М. Салавей і А. М. Лапкоўская ў 1982 г. у в. Антонаў Нараўлянскага р. ад А. І. Цалко, 1923 г. н.

### 1078. Ад ляку

8-82-203, сш. 6, л. 26—27, № 30. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1982 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад К. І. Шкудун, 94 г.

Вар.: 8-85-229, л. 60. Зап. А. Ю. Лозка ў 1979 г. у в. Прыбалавічы Лельчыцкага р. ад Х. І. Акуліч, 94 г.; л. 67. Зап. той жа ў в. Дзяржынск Лельчыцкага р. ад Д. К. Баланчук, 70 г.

### 1079. Ад ляку, упуду, сцені

Романов, с. 40, № 144. Зап. у Таўпечыцкай вол. Магілёўскага п.

### 1080. Ад спуду

8-75-96, сш. 1, л. 45, № 26. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Клінок Чэрвеньскага р. ад В. Х. Алісейчык, 76 г. Заўвага інфарматара: «Дзецям ад усяго».

### 1081. Ад пярэпалаху

8-75-110, сш. 1, № 64. Зап. студ. МДПІ ў 1975 г. у в. Сінягова Старадарожскага р. ад А. М. Петрушкевіч, 70 г.

### 1082. Ад спалоху

13-1-13, л. 5. Зап. студ. Брэсцкага педінстытута ў 1982 г. у в. Чудзін Ганцавіцкага р. ад А. С. Захарчэні, 1893 г. н.

Вар.: 8-77-131, сш. 1, л. 69, № 48. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1977 г. у в. Вялікі Рожан Салігорскага р. ад Е. М. Варашкевіч. Вар. параўнання: «Як сонейка за хмарку заходзіць, каб так (імя) злёк і перапалох праходзіў».

### 1083. Ад спуду

8-78-144, сш. 5. Зап. Н. Ф. Якушава ў 1978 г. у в. Глыбочыца Чачэрскага р.

Вар.: 8-76-117, сш. 2, л. 41, № 39. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Крыўкі Лепельскага р. ад В. А. Юхнавец, 80 г. Вар. канцоўкі: «Як мертвяцу не ўставаць, у (імя) пудоў не бываць ні ў маладзіку, ні ў віташку, ні ў крутым гадку»; 8-81-182, сш. 2, л. 97, № 100. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1981 г. у в. Амелькаўшчына Хойніцкага р. ад Г. А. Паўлянок, 71 г.

### 1084. Ад ляку

8-79-172, сш. 1, л. 63, № 36. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1979 г. у г. Гарадку ад А. Н. Лабанёвай, 1909 г. н.

Вар.: Романов, с. 35, № 124. Зап. Е. Р. Раманаў на Магілёўшчыне. У адрозненне ад папярэдняй у замове зварот да ветру як прычыны сухотніка: «Вецер, вецер, ветранік, вазьмі свой сухотнік! Не сама я сабой памагаю — Божай мацяру святэй, святым Міхайлам-рахайлам. Божая мацяра, памажы, пасабі!»

### 1085. Ад пярэпалаху

8-76-117, сш. 8, л. 24, № 15. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Карабы Ашмянскага р. ад А. Ф. Мілюкевіча, 71 г.

Вар.: 13-10-29, сш. 5, л. 28, № 29. Зап. студ. Гродзенскага педінстытута Г Н. Дзявульскі ў 1966 г. у в. Мілеўцы Шчучынскага р. ад Э. А. Добрук, 66 г.

### 1086. Ад пярэпалаху

Federowski, I, с. 396, № 2416. Зап. М. Федароўскі ў Ваўкавыскім п.

Вар.: Там жа, с. 397, № 2418. Іншы набор рэчаў і дадатковыя дзеянні: «Калі ў дзіцяці пярэпалахі, то адразу можна пазнаць, бо жыватож велькі будзе. Так зараз трэ ўзяць па захадзі слонка прынесці вады, не аглядаючыся, і паставіць пры агню, каб грэлася. Потым узяць сітко, насыпаць попелу, адвярнуць лапату другім бокам і перасейваць попел над лапатаю. Адна трэ каб перасейвала, другая дзіця каб дзержала блізка, а трэйця каб пайшла да сеней і пытала:

— Што перасейваеш?

— Пярэпалахі!

— Перасейвай, перасейвай, каб ніколі ні былі: ці яны конскія, ці сабачыя, ці кашэчыя, ці чалавечыя.

І так трэ казаць трыйчы. Потым, як тая ўвойдзе, уліць тую ваду ў начоўкі, палажыць дзіця, пасыпаць па чатырох берагох попелу, браць пакрышачцы і абмываць дзіця. Кілька разы гэтак зрабіўшы, то і пярэпалахі мінуцца. Гэта ўжэ спрактыкована рэч. От на што я свайму Каролічку гэтак рабіла, то ў кілька дзён трыбушок ніведамо дзе падзеўся, ачуняў і цяпер здаровы, хвала Богу».

### 1087. Ад ляку, упуду, сцені

Романов, с. 37, № 130. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Раманавічы Гомельскага п.

### 1088. Ад ляку

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 2, № 1. Зап. студ. Н. С. Леснікова ў 1981 г. у в. Міхальні Гомельскага р. ад Х. У. Мацвеенка, 1901 г. н.

Вар. дал.: Экспедыцыя 1990 г. Зап. В. М. Гурманчук у 1990 г. у в. Студзераўшчына Дзятлаўскага р. ад Ю. Н. Ляўкевіч, 1910 г. н. Замова не закончана: «Ішла матка Боска Марыя залатымі мастамі, апіралася залатымі паранчамі». Другая частка параўнання адсутнічае; 8-90-249. Зап. У. А. Васілевіч і І. В. Карашчанка ў 1990 г. у в. Круціха Кыштоўскага р. Новасібірскай вобл. ад Н. І. Мінчанка (з перасяленцаў з Магілёўшчыны).

### 1089. Ад упуду

13-10-85, сш. 19, л. 7, № 35. Зап. студ. Магілёўскага педінстытута Р. І. Афанасьева ў 1974 г. у в. Кукарава Бярэзінскага р. ад М. Я. Гоман, 68 г.

### 1090. Ад пуду

Машыньскі, с. 141, № 66. Зап. К. Машыньскі ў в. Дзерашэвічы Мазырскага п. ад А. Сугрэевай.

### 1091. Ад ляку, упуду, сцені

Романов, с. 34, № 122. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Чыгірынка Быхаўскага п.

### 1092. Ад ляку, упуду, сцені

Романов, с. 34—35, № 123. Зап. Е. Р. Раманаў у м. Гарадзец Рагачоўскага п. Е. Р. Раманаў прыводзіць спосабы дзеянняў пры замаўлянні (вар. з розных мясцовасцей):

«Трэба гаварыць у трох кутках; сабраць там павуцінкі і етай павуцінкай падкуруваць» (м. Гарадзец Рагачоўскага п.).

У м. Рудня Аршанскага п. «пуд» лечаць так: «Надобі ўзяць абыдзеннага шчолаку і на хрэсьнях у куці вымыць дзяцёнка. Дак там, у тэй зале, будуць валасы таго, каго дзяцёнак спужаўся. Трэба й пакурыць траўкай «папуднікам».

У м. Мікуліне Аршанскага п.: «Узяць змераць ніткай галаву, тулава, рукі, ногі, усі суставы рябешачка; завярнуць у ільняную трапачку жытны крайчык з солькай, абвязаць етай ніткай і пагладзіць па галоўцы, па тулаву, па ўсім целу; посьлі йці на ростанькі, пакланіцца, не ксцясь, тры разы, пакласць там, на хрэсьнях, на ростаньках, хлеб і сказаць».

### 1093. Ад зляку, прыстрэку (ад спалоху)

Зап. Р. Гамзовіч у 1990 г. ад А. Н. Цімашэнка з в. Іванаўка Буда-Кашалёўскага р.

Растлумачыць слова «Масіяс» інфарматар не магла.

### 1094. Ад ляку, упуду, сцені

Романов, с. 40, № 147. Зап. у Халбнянскай вол. Горацкага п. Да замовы апісанне рытуалу: «Гаварыць, паставіўшы дзіця тварам да сонца; пры называнні частак цела праводзіць па ім нажом рысы; гэтаксама і на ценю. Затым пасцяліць на цень салому або сена і спаліць. Сцень, па тлумачэнню знахара, гэта боязь уласнага ценю». Другі вар.: «На кажусе пакладзеш крыжом, да выражаш поўсьці з кажуха, да пакурыш умесьці з свянцонай травіцай, з здрыжнікам — па лясў як папараць (briza media)».

Вар.: 8-74-92, сш. 3, л. 60—61, № 50. Зап. Г. А. Барташэвіч і К. П. Кабашнікаў у 1974 г. у в. Шарпілаўка Крупскага р. ад У. Чарняўскай, 74 г. Паводле вызначэння інфарматара, «сцень — ходзіш як сонны і прама ў ваччу становіцца». Спосаб лячэння: «Тады, як хто крэпка ўлякнецца, тады я ўжо меру і загаварваю: «Выбіраю, вымяраю начны сцень, дзянны сцень, вячэрні сцень з усіх жыл, з усіх суставаў і з ножачак, і з ручачак, і з пальчыкаў, з белага

целца, з румянага лічка, з буйнае галоўкі, з жоўтых жыл». Як улякнецца хто, гэтаксама; як пуд чалавеку ці скаціне, таксама так: «Вымяраю, выбіраю пуд авечы, пуд свіначы, пуд гусіны, пуд курыны з усіх жыл, з усіх суставаў і з ножачак, і з ручачак, і з пальчыкаў, з белага целца, з румянага лічка, з жоўтых жыл»; 13-2-13, л. 52, № 85. Зап. А. С. Емяльянаў і студ. Віцебскага педінстытута ў 1979 г. у в. Радзюкі Шаркоўшчынскага р. ад Н. І. Дваранnікавай, 56 г.; л. 50, № 80. Зап. у в. Глыбачка Ушацкага р. ад П. Н. Крыловай, 60 г.; л. 41, № 59.

### 1095. Ад ляку, упуду, сцені

Романов, с. 39, № 139. Зап. Е. Р. Раманаў у Царковішчанскай вол. Магілёўскага п.

### 1096. На захаванне плода

Романов, с. 53, № 1. Зап. Буднецкі ў в. Перарост Гомельскага п.

### 1097. На захаванне плода

Романов, с. 53, № 2. Зап. у в. Карма Гомельскага п.

### 1098. На захаванне плода

Романов, с. 53—54, № 3. Зап. Е. Р. Раманаў у Добрушы Гомельскага п.

### 1099. На захаванне плода

Романов, с. 55—56, № 11. Зап. пісар Філімонаў у в. Галавінцы Гомельскага п. ад Мар'і Швардзекелевай. Тлумачэнне інфарматара: «Етый жа і кабылі, і карові».

### 1100. На захаванне плода

Романов, с. 160, № 2. Зап. Е. Р. Раманаў у Міласлаўскай вол. Клімавіцкага п.

### 1101. На захаванне плода

Романов, с. 63, № 54. Зап. Е. Р. Раманаў у Вендаражскай вол. Магілёўскага п.

### 1102. На захаванне плода

Романов, с. 63, № 53. Зап. Е. Р. Раманаў у Вендаражскай вол. Магілёўскага п. «На хлебе, тры разы».

### 1103. На захаванне плода

Романов, с. 62, № 49. Зап. Е. Р. Раманаў у м. Круглае Магілёўскага п. Заўвага інфарматара: «Тройчы гэтак пераказую, і як на хлебі, дак дму, а над жыватом, дак падымаю ўгору. Ад скіду».

Вар.: Там жа, с. 62, № 50. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Нежкава Магілёўскага п. ад Ганны Восіпавай, 60 г.

### 1104. На захаванне плода

Романов, с. 63, № 51. Зап. Е. Р. Раманаў у Бялыніцкай вол. Магілёўскага п. Заўвага інфарматара: «Тройчы на хлебу, і хлеб тэй зьесь. Гэты ўсі словы ня дышучы трэба казаць. І скаціні помач даю (ці цялушка, ці бык, ці жарабок, ці жаробка). Іншая шаўлюга ня возьмя хлеба».

*Шаўлюга* — благі конь, які не бяжыць скора, а ледзь пераставуляе ногі (Насовіч, с. 704).

### 1105. На захаванне плода

Романов, с. 63, № 57. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Дуброўна Горацкага п.

### 1106. На захаванне плода

Романов, с. 63—64, № 58. Зап. Буднецкі ў Халбнянскай вол. Горацкага п. Заўвага збіральніка: «Зап. ад пісьменнага селяніна».

Вар.: Там жа, с. 60, № 32. Зап. у Віцебскім п. Шэпчуць на хлеб тройчы, прыгавор кароткі: «Насіла па полю, па гаручаму мору, насіла і насі, ня скідывай».

### 1107. На захаванне плода

Романов, с. 55, № 8. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Кр. Буда Гомельскага п.

### 1108. На захаванне плода

Романов, с. 63, № 52. Зап. Е. Р. Раманаў у Вендаражскай вол. Магілёўскага п. «Тройчы, абы на чом».

Вар.: Там жа, с. 63, № 55. Зап. Е. Р. Раманаў у м. Княжычы Магілёўскага п. Скарочаны прыгавор: «Ці сокал, ці сакалыня́, стань сабе на сваём месьці, у залатом крэсьлі — тваё месцічка — залатое крэсьлічка» — суправаджаецца ўдарам па крыжу.

### 1109. На добрую цяжарнасць

Романов, с. 160—161, № 6. Зап. Е. Р. Раманаў у Клімавіцкім п.

Вар.: Там жа, с. 160, № 5; дал. вар.: Машыньскі, с. 142—143, № 75. Зап. К. Машыньскі ў в. Дзерашэвічы Мазырскага п. ад Агаты Сугрэевай.

### 1110. На добрую цяжарнасць

Романов, с. 160, № 1. Зап. у Магілёўскай губ.

### 1111. На захаванне плода

8-77-131, сш. 2, л. 21, № 13. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1977 г. у в. Вялікі Рожан Салігорскага р. ад Е. М. Варашкевіч. Заўвага інфарматара: «Можна

і карове, і кабыле, усім, хто родзіць. Ужэ без пары не родзіць, даносіць да пары». Тая ж замова пры родах, мяняецца апошняе сцверджанне: «...Еве цела адмыкаці, на свет маладзенца выпускаці»,— «9 раз гэтак трэбо. На самую альбо на ваду» (Там жа, л. 22, № 12).

### 1112. На добрыя роды

Романов, с. 57—68. № 21. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Буда-Кашалёў Рагачоўскага п.

Вар.: 8-80-178а, сш. 10, с. 67—68, № 94. Зап. Т. К. Цяпкова ў в. Яланы Светлагорскага р. ад Я. Л. Шэнца, 1906 г. н.; Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ. Зап. студ. Л. Дзівачэнка ў Рагачоўскім р. ад Г. І. Дзівачэнка, 41 г.

### 1113. На добрыя роды

Романов, с. 54, № 6. Зап. Буднецкі ў в. Чарацянка Гомельскага п. Паводле паведамлення інфарматара, пры шаптанні неабходны цэлы рытуал дзеянняў: «Тройчы, і ўслед ад залатніка. Калі абрадзіцца ўжэ, парадзіху трэба паставіць на заслонку. Яна атаб'е тры зямных паклоны, шоб з яе сцякло ўжэ ўсе, і ляжы. Ляжаць трэба тры дні, а то тыжджань; а калі ўжэ шэсць нядзель — тагды парыць трэба. Уліць у вядро вады кіпятку, укінуць гарачы камянь, уліць дзёхцю чыстага, і паставіць яе над вядром. Тагды залатнік сказаць».

### 1114. Ад несвоечасовых родаў

Романов, с. 56, № 14. Зап. пісар Яфрэмаў у в. Целяшы Гомельскага п.

### 1115. Ад несвоечасовых родаў

Романов, с. 57, № 17. Зап. у в. Чабатовічы Гомельскага п. Паметка: «Трычы, штоб ня выкінула маладзіца».

*Прасціна* — відаць, маецца на ўвазе залатая трысціна.

### 1116. Пры родах

Романов, с. 64, № 60. Зап. у Гарадзецкай вол. Чавускага п.

Вар.: Там жа, с. 64, № 63. Зап. Буднецкі ў в. Прыбужжа Чавускага п.; с. 64, № 59. Зап. Буднецкі ў в. Пугляі Горацкага п.; с. 64. Зап. Е. Р. Раманаў у м. Княжычы Магілёўскага п. ад Домны Самсонавай, 75 г.

### 1117. Пры родах

8-80-178а, сш. 10, л. 84, № 104. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1980 г. у в. Яланы Светлагорскага р. ад Я. Л. Шэнца, 1906 г. н.

Вар.: 8-82-204, сш. 6, л. 17, № 13. Зап. Г. А. Барташэвіч у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад М. П. Сербянок, 87 г.

### 1118. На добрыя роды

8-79-165, сш. 2, л. 25, № 13. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1979 г. у в. Вішнёўка Гомельскага р. ад В. К. Ванянковай.

### 1119. На добрыя роды

8-79-165, сш. 1, л. 86, № 59. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1979 г. у в. Усоха-Буда Добрушскага р. ад А. В. Ярмошкінай, 1913 г. н. Тлумачэнне інфарматара: «Некаторыя ўсе гузікі расшпіляюць. Скаціна целіцца, таксама гаворацъ».

### 1120. Каб лёгкія роды былі

8-78-144, сш. 5, л. 86, № 79. Зап. Л. П. Барабанава і Г. А. Барташэвіч у 1978 г. у в. Барсукі Кармянскага р. ад Ю. С. Анішчанка, 1914 г. н.

### 1121. На добрыя роды

Романов, с. 57, № 19. Зап. у в. Недайка Рагачоўскага п. З паметкай: «Етый жа і карові, і кабылі. Трычы».

Вар.: Там жа, с. 54, № 4. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Новыя Юркавічы Гомельскага п.

### 1122. На добрыя роды («Прошча»)

8-85-229, л. 80. Зап. А. Ю. Лозка ў 1984 г. у в. Прыбалавічы Лельчыцкага р. Заўвага: «Прошчу шапталі жанчыны ў час родаў некалькі разоў».

Вар.: Романов, с. 160, № 4. Зап. Е. Р. Раманаў у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага п. Паметка: «Блага перададзены»; 8-78-144, сш. 6, л. 49, № 53. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1978 г. у в. Нісімкавічы Чачэрскага р. ад А. А. Івашковай, 79 г.

### 1123. На добрыя роды

8-82-198, сш. 4, л. 51, № 69. Зап. Г. А. Барташэвіч і А. М. Лапкоўская ў 1982 г. у в. Казлы Ельскага р. ад В. П. Сугак, 1910 г. н.

### 1124. Парадзісе

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 12, № 10, 11. Зап. студ. Л. І. Бордак у в. Галоўкі Рэчыцкага р. ад В. С. Жура, 66 г.

### 1125. Пасля родаў

АІМФЭ, ф. $\frac{1-2}{235}$, л 6 адв. Невядомы збіральнік. Этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя ў 20-я гг. XX ст. у Брагінскім р.

Вар.: Машыньскі, с. 149, № 76. Зап. К. Машыньскі ў в. Дзерашэвічы Мазырскага п. ад Агаты Сугрэевай.

### 1126. Ад грудніцы

8-79-172, сш. 1, л. 69, № 42. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1979 г. у г. Гарадку ад А. Н. Лабанёвай, 1909 г. н.

### 1127. На захаванне плода (жывёле)

Романов, с. 63, № 56. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Любінічы Горацкага п. ад Яўсея Паўлава, 65 г., перасяленца з прыволжскіх краёў. Да замовы заўвага: «На хлебі тры разы. Іншы тры разы іголкай прадзенець хлеб, а іншы даець з мяха́ на полі жыта з'есь перад тым, як сеяць — тры разы ўхопіць».

### 1128. На захаванне плода (жывёле)

Романов, с. 64, № 61. Зап. Е. Р. Раманаў у Віцебскім п. «Тры разы хукнуць кабылі ў рот».

### 1129. На захаванне плода (жывёле)

Романов, с. 64, № 62. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Азяраны Рагачоўскага п. ад Антона, 65 г., вядомага як калдун.

### 1130. Ад начніц

Богданович, с. 16—17. «Калі дзеці курчацца і крычаць ад болю, не спяць ноччу — гэта іх катуюць начніцы — маленькія і злосныя духі ночы. Іх толькі можа прагнаць светаносны пачатак — агонь. Ноччу, калі дзіця асабліва раскрычыцца, распальваюць печ і перад полымем «палаюць» хворае дзіця. Палаць — уласна азначае ачышчаць ад шалупіння ячныя ці якія-небудзь іншыя крупы пры дапамозе патрэсвання ў асобых ночвах-паланках. Нешта падобнае робяць і з хворым дзіцем. Яго кладуць у прыпол, гойдаюць перад полымем, злёгку патрэсваючы, і шэпчуць замову. Полымя або пажырае начніц, або праганяе іх».

### 1131. Ад начніц

13-10-29, сш. 5, л. 26, № 26. Зап. студ. Гродзенскага педінстытута Г. Н. Дзявульскі ў 1966 г. у в. Старынкі Шчучынскага р. ад М. Ф. Дзявульскай, 47 г.

Вар.: 8-82-204, сш. 4, л. 16, № 12. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1982 г. у в. Кавалі Ельскага р. ад З. С. Хамец, 1913 г. н.; 13-10-50, сш. 3, № 17. Зап. у 1953 г. у Маладзечанскім р. Вар. просьбы: «Вазьмі ў мяне начніцу, а дай мне санніцу».

### 1132. Ад начніц, крыксаў

Романов, с. 32, № 109. Зап. у Віцебскім п.

### 1133. Ад крыксаў

8-82-204, сш. 6, л. 14, № 10. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1982 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад М. П. Сербянок, 87 г.

Вар.: 8-79-165, сш. 1, л. 85, № 58. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1979 г. у в. Усоха-Буда Добрушскага р. ад А. В. Ярмошкінай, 1913 г. н. «Тры разы нада сказаць і перанесці праз вуліцу ўпоперак — туды і назад».

### 1134. Ад крыксаў, плаксаў

8-82-198, сш. 4, л. 40, № 57. Зап. Г. А. Барташэвіч і А. М. Лапкоўская ў 1982 г. у в. Казлы Ельскага р. ад В. П. Сугак, 1910 г. н. «Шэпчуць рана раніцай каля печы, паставіўшы нагу на табурэтку і ўзяўшы дзіця на рукі».

### 1135. Ад крыксаў

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 79, № 11. Зап. студ. Т. А. Дзмітрыева ў 1983 г. у в. Бярозкі Гомельскага р. ад В. С. Ганчаровай, 50 г.

### 1136. Ад начніц, крыксаў

Романов, с. 33, № 116. Зап. Буднецкі ў в. Чарацянка Гомельскага п. ад К. Сотнікавай, 62 г.

### 1137. Ад крыксаў

8-79-172, сш. 1, л. 64, № 37. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1979 г. у г. Гарадку ад А. Н. Лабанёвай, 1909 г. н.

### 1138. Ад нашніц, крыксаў

Романов, с. 31—32, № 107. Зап. Е. Р. Раманаў у м. Мікуліна Аршанскага п. ад П. Вікенцьевай. Каментарый да замоў ад начніц, крыксаў: «Трэба ўзяць акрайчык жытнага хлеба, завярнуць з соллю ў белую трапачку, перавязаць краснай ніткай; тады ўзяць дзяцёнку вязельчыкам етым галоўку пагладзіць да пад печку падкінуць. А тады тры разы пад печку пакланіцца, не ксцясь, і казаць» (замову.— *Г. Б.).*

Вар.: 8-79-165, сш. 1, л. 69, № 46. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1979 г. у в. Барталамееўка Веткаўскага р. ад Х. К. Барадзіной, 75 г.; л. 10, № 7. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1979 г. у в. Барталамееўка Веткаўскага р. ад М. Ц. Жукавай, 1919 г. н. Пры шаптанні замовы таксама рабіліся дзеянні, звязаныя з ахвярапрынашэннем. Усё адбывалася не перад печчу, а «на тры калы» — стаякі дзвярэй, бакавыя і верхні. Адпаведна ўжываўся і тэкст замовы. «Пакойніца свякруха насіла на тры калы: «Добры вечар, тры калы, вазьміце маіх тры бяды, прыміце маю хлеб-соль і дайце рабе божае Каці сон». Як вячэраеш, дак яна сцірае са стала крошачкі, што нацярушацца, і тады ўжо гэтыя крошачкі ў руку бярэ і бярэ гэтае дзіця і нясе пад етых тры калы на калідоры. І кажа: «Прыміце мой хлеб-соль,— і шпурне гэтыя крошачкі,— а дайце рабе божай Каці сон». Гэта на вячэрнюю зару. Ну, гэта ж выходзя так: на дзверы ж два стаіць і сюды адзін. Ну, вот і тры калы выходзя. Эта ж цяпер аббіваюць кругом, а тады аббівалі толькі ўнізу, а гэтыя ж і стаяць стаякі, вот тры калы палучаецца»; Фольклор Дальнеречья, с. 101—102, № 293. Тлумачэнне: «Каб дзіця не крычала, трэба ў час яды перакінуць праз сваю галаву хлебныя крошкі і соль»; З мат. А. М. Нароўскай. Зап. у в. Баханы Хоцімскага р. ад Барджаіхі, 97 г.

### 1139. Ад крыксаў

8-78-144, сш. 6, л. 46, № 50. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1978 г. у в. Нісімкавічы Чачэрскага р. ад А. А. Івашковай, 79 г.

Вар.: Там жа, сш. 5, л. 46, № 46. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1978 г. у в. Пятравічы Кармянскага р. ад А. Б. Медзвядзёвай; 8-79-165, сш. 2, л. 31, № 19. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1979 г. у в. Вішнёўка Гомельскага р. ад В. К. Ванянковай. Замовы са зваротам да курэй суправаджаюцца адпаведным рытуалам, які ў розных месцах вар'іруецца, застаючыся адзіным у асноўных дэталях: паход да курасадні, сыпанне курам харчавання або абліванне вадой. У в. Вішнёўка нясуць хлеб і соль, становяцца задам і гавораць замову. Трэба яшчэ плюнуць на левы бок («урагу ў вочы, бо па праваму боку ідуць праведныя людзі, а па леваму грэшныя»), а ў хату вяртацца не аглядваючыся.

Больш складаны рытуал у в. Пятравічы. Там гатуюць 9 хлебных галачак, тройчы па тры падкідаюць іх угору з адпаведнымі словамі, а дзіця трымаюць на руках.

### 1140. Ад начніц, крыксаў

Романов, с. 33, № 118. Зап. Буднецкі ў в. Сероўка Гомельскага п. ад В. Карнеевай, 53 г. Для дзейснасці шаптання дзіця таксама нясуць «пад куры». «Параказаўшы, плюнуць на 'боі бакі коло сябе, штоб сухотнік не вязаўся, і несці ў хату, ня 'зіраючысь. Тагды ўзяць мазніцу размундзерыць і сцень дзяцёнка паказаць на дзёхці і сказаць: «Аставайцесь, нашніцы, у мазніцы!» — і закрыць».

Вар.: 13-3-30, л. 29, № 53. Зап. А. У. Русіновіч у в. Пятровічы Светлагорскага р. Рытмізаваная замова, у якой даецца ўяўны працэс збаўлення ад хваробы: «Будуць іці куркі на седала, кудата́ць, крыксы-плаксы ад Івана браць, а Івану спакой даваць. Хай спіць да гуляе, да цела прыбувае».

### 1141. Ад начніц, крыксаў

Романов, с. 33, № 117. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Задораўка Гомельскага п.

Вар.: Там жа, с. 32, № 112. Зап. Е. Р. Раманаў у Беліцы.

*Кадун* — відаць, кадук — чорт, нячыстая сіла.

### 1142. Ад начніц, крыксаў

Романов, с. 32, № 111. Зап. пісар Грамыка ў в. Стаўбун Рагачоўскага п.

### 1143. Ад начніц, крыксаў

Романов, с. 32—33, № 114. Зап. пісар Філімонаў у г. Гомелі ад Сцяпана і Агаф'і Картавенкавых.

### 1144. Ад начніц, крыксаў

Романов, с. 34, № 119. Зап. нар. наст. Галавінская ў м. Ветка Гомельскага п. Рытуал замаўляння звязаны з выкарыстаннем вады: «Ад сухотніка, з двох калодзяжаў, з трэція рэчкі вады зліць, па зарах бяручы, і тры дні на печы дзяржаць. І ўзліць на дварэ, на сутоках, на галаву раздзетаму, і там і чарапок кінуць і сарочку і іці ня 'зіраючысь».

Вар.: Добровольский, I, с. 178—179, № 1. Зап. у в. Данькава; с. 178, № 2. Хворае дзіця нясуць на «крусадню» і бяруць галень, якім злёгку пастукваюць дзіця з прыгаворам;8-73-65, сш. 5, л. 49. Зап. М. Я. Грынблат у 1973 г. у в. Бірча Бабруйскага р. ад С. П. Бабковай, 88 г.

### 1145. Ад начнікоў (начніц)

Машыньскі, с. 141, № 65. Зап. К. Машыньскі ў в. Дзерашэвічы Мазырскага п. ад А. Сугрэевай.

### 1146. Ад начніц («Вотначы»)

13-3-30, л. 28, № 51. Зап. А. У. Русіновіч у 1968 г. у в. Пятровічы Светлагорскага р. ад М. І. Русіновіч, 1910 г. н.

### 1147. Ад начніц («Вотначы»)

13-3-7, л. 1—2, № 4. Зап. А. У. Русіновіч у 1987 г. у в. Чэрнін Светлагорскага р. ад П. С. Русіновіч, 1905 г. н.

### 1148. Ад начнога

8-77-130, сш. 7, № 54. Зап. Г. А. Барташэвіч і студ. МДПІ В. Вярыга і Т. Костык у 1977 г. у в. Вялікі Рожан Салігорскага р. ад Г. К. Сечка, 1908 г. н.

### 1149. Ад крыксаў

8-81-182, сш. 2, л. 27—28, № 16. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1981 г. у в. Асарэвічы Брагінскага р. ад М. Ф. Богуш, 1905 г. н. Заўвага інфарматара: «І нічога рабіць не трэба. Памаліцца над дзіцям над тым. І ўсё. Эта такая малітва».

### 1150. Ад начніц

8-83-211, сш. 3, л. 20—21, № 13. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1983 г. у в. Сякерычы Петрыкаўскага р. ад Н. Р. Удод.

### 1151. Ад крыксаў

13-3-30, л. 11, № 21. Зап. А. У. Русіновіч у 1978 г. у в. Гарохавішчы Акцябрскага р. ад У. Д. Дайнека, 99 г.

### 1152. Ад начнікоў (начніц)

Машыньскі, с. 140—141, № 64. Зап. К. Машыньскі ў в. Дзерашэвічы Мазырскага п. ад А. Сугрэевай. «Гаворць тады, як «на дзіця нападуць начнікі і яно ўночы не спіць». Гаварыць трэба ў вакно» — тлумачэнне да тэксту.

### 1153. Ад крыксаў

8-83-211, сш. 2, л. 39—40, № 16. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1983 г. у в. Колкі Петрыкаўскага р. ад Е. Ф. Рэвуцкай. Заўвага інфарматара: «У нас не спіць

дзіця, дак думаюць, нейкія крыксы там, гаварылі. А крыксы я вам раскажу. Хто яго ведае, яно праўда — яно не праўда, а робіцца».

### 1154. Ад начніц («Вотначы»)

13-3-30, л. 29, № 52. Зап. А. У. Русіновіч у в. Пятровічы Светлагорскага р.

### 1155. Ад начніц («Нашнікі»)

8-75-94, сш. 4, л. 89, № 63. Зап. Л. М. Салавей і студ. МДПІ З. М. Гайцюкевіч і Г. А. Чаркас у 1975 г. у в. Будзенічы Старадарожскага р. ад Н. І. Скарыны, 67 г.

Вар.: Там жа, сш. 4, л. 89, № 64.

### 1156. Замова на сон

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 75, л. 14. Зап. студ. В. П. Усціненка ў 1982 г. у в. Трылесіна Быхаўскага р. ад Ф. М. Гараўцовай, 1900 г. н.

### 1157. Ад начніцы

Толстой, с. 140, № 9. Зап. Е. А. Салаўёва ў 1975 г. у в. Залатуха Калінкавіцкага р. ад М. М. Сівак, 1912 г. н.

### 1158. Ад начніц, крыксаў

8-75-96, сш. 1, л. 74, № 86. Зап. Л. П. Барабанава ў 1975 г. у в. Языль Старадарожскага р. ад А. Г. Касцель, 1902 г. н.

### 1159. Ад начніка

8-75-94, л. 46, № 39. Зап. Л. М. Салавей і студ. МДПІ А. Г. Ляшкевіч і І. І. Мурашка ў 1975 г. у в. Прусы Старадарожскага р. ад П. С. Вусік, 68 г.

### 1160. Ад крыксаў, плаксаў (на ноч)

8-82-198, сш. 4, л. 38, № 55. Зап. Г. А. Барташэвіч і А. М. Лапкоўская ў 1982 г. у в. Казлы Ельскага р. ад В. П. Сугак, 1910 г. н. Тлумачэнне інфарматара: «Я бяру дзіця на рукі і іду ў тую хату, дзе адно вакно. Да сцяны прытулю нагу, і дзіця на руках. І шапчу. Так шэпчацца на ноч».

### 1161. Ад начніц

8-82-203, сш. 6, л. 38—39, № 38. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1982 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад К. І. Шкудун, 94 г. «Пад галоўку пакласці ножыка і так гаварыць тры разы» — заўвага інфарматара.

**1162. Ад начніц («Вотначы»)**

13-3-30, л. 10, № 20. Зап. А. І. Русіновіч у 1979 г. у в. Гарохавішчы Акцябрскага р. ад У. Д. Дайнека, 99 г.

**1163. Ад крыксаў**

8-79-167, сш. 2, № 11. Зап. Л. М. Салавей у 1979 г. у в. Дубраўка Добрушскага р. ад П. І. Худзяевай.

**1164. Ад начніц**

8-85-229, л. 91. Зап. А. Ю. Лозка ў 1979 г. у в. Дзяржынск Лельчыцкага р. ад Д. К. Баланчук, 70 г. Заўвага інфарматара: «Дзецям; і дарослым шэпчуць».

**1165. Ад крыксаў**

8-79-144, сш. 5, л. 84, № 77. Зап. Л. П. Барабанава і Г. А. Барташэвіч у 1978 г. у в. Барсукі Кармянскага р. ад Ю. С. Анішчанка, 1914 г. н.

**1166. Ад крыксаў-плаксаў**

8-82-198, сш. 4, л. 39, № 56. Зап. Г. А. Барташэвіч і А. М. Лапкоўская ў 1982 г. у в. Казлы Ельскага р. ад В. П. Сугак, 1910 г. н. «Гэтак удзень шэпчуць, у сярэдняе вакно».

**1167. Ад крыксаў**

8-82-203, сш. 6, л. 48, № 42. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1982 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад Н. Г. Раманавай, 1920 г. н. Тлумачэнне інфарматара: «Трэба тры разы пераказаць, але спачатку «Отчэ наш», ды розачкамі павадзіць, павадзіць, ды ў печ укінуць. Да сказаць: «Ад чаго стала, шоб так яно і прапала». І прападуць гэтыя крыксы».

**1168. Ад крыксаў**

8-82-198, сш. 2, л. 59, № 73. Зап. Л. М. Салавей і А. М. Лапкоўская ў 1982 г. у в. Антонаў募раўлянскага р. ад Л. К. Максіменка, 85 г.

**1169. Ад крыксаў («Зноскі»)**

8-85-229, л. 70. Зап. А. Ю. Лозка ў 1984 г. у в. Прыбалавічы Лельчыцкага р.

**1170. Ад начніц**

8-80-178, сш. 4, л. 24, № 20. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1980 г. у в. Хутар Светлагорскага р. ад К. А. Рыбак, 1924 г. н.

### 1171. Ад начніц, крыксаў

Романов, с. 33, № 115. Зап. у в. Недайка Рагачоўскага п. Заўвага інфарматара: «Трэйчы. Увечары трэба казаць: дабрыдзянь, а ўрані: дабрывечар. Пагаманю прытно — і ратуя. А то і ўночы і ўдзень бяз пуця крычыць».

Вар.: Там жа, с. 32, № 110. Зап. пісар Грамыка ў в. Стаўбун Рагачоўскага п.; с. 32, № 113. Зап. у в. Карма Гомельскага п. Замест пераліку крыксаў і частак цела — матыў ссылкі на «мха, на балатá, на ніцыя лозы; няхай пасадзя на гнілой калодзі; няхай там пішчаць, а майго чур храшчонага, наражонага»; 8-76-117, сш. 2, л. 49, № 45. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Крыўкі Лепельскага р. ад В. А. Юхнавец, 80 г.; 8-75-94, сш. 1, л. 47, № 40. Зап. Л. М. Салавей і студ. МДПІ А. Г. Ляшкевіч і І. І. Мурашка ў 1975 г. у в. Прусы Старадарожскага р. ад П. С. Вусік, 68 г. Замест развіцця матыву шлюбу ў замове ўпамінаюцца куркі, пеўнікі і хлебная ахвяра: «Вазьмі ж майго сына крыкса, плакса, ранняе, паўдзённае, вячэрняе, паўночнае, і ўрочнае, і ўночнае, куркі Матрункі, пеўнікі Майсейкі, хлеб-соль. Да хлеб-соль прымі, а дзіцяці сон нашлі...»

### 1172. Ад крыксаў

8-78-144, сш. 5, л. 83, № 76. Зап. Л. П. Барабанава і Г. А. Барташэвіч у 1978 г. у в. Барсукі Кармянскага р. ад Ю. С. Анішчанка, 1914 г. н.

Вар.: 8-90-249. «Ад бясоння». Зап. У. А. Васілевіч і І. В. Карашчанка ў 1990 г. у в. Круціха Кыштоўскага р. ад Н. І. Мінчанка, 1925 г. н. (дзяды — перасяленцы з Магілёўшчыны). Скарочаны вар. пераліку: «начныя, палуночныя, дзённыя, палудзённыя».

### 1173. Ад начніц

8-82-204, сш. 6, л. 13, № 9. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1982 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад М. П. Сербянок, 87 г.

Вар.: 8-79-165, сш. 1, л. 56, № 36. Зап. Л. П. Барабанава і Г. А. Барташэвіч у 1979 г. у в. Барталамееўка Веткаўскага р. ад Х. К. Сокалавай, 80 г. Матыў «жаніцьбы» дапаўняецца матывам падзелу крыксаў-плаксаў: «Сасна красна, у цябе сын, а ў мяне дачка. Давай мы іх пажэнім, крыксы-плаксы падзелім». Апошні матыў удакладняецца ў замове з в. Вішнёўка Гомельскага р.: «...Крыксы-плаксы падзелім, табе няхай болей, а мне няхай меней» (Там жа, сш. 2, л. 32, № 20).

### 1174. Ад начніц («Вотначы»)

13-3-30, л. 17, № 31. Зап. А. У. Русіновіч у 1954 г. у в. Раковічы Светлагорскага р. ад М. І. Акуліча, 103 г.

### 1175. Ад начных

8-77-142, сш. 3, л. 78, № 86. Зап. Л. М. Салавей у 1977 г. у в. Чаланец Салігорскага р. ад С. І. Корж, 1907 г. н.

Вар.: Там жа, л. 69, № 74. Зап. Л. М. Салавей у 1977 г. там жа ад М. К. Далінец, 1903 г. н.

### 1176. Ад начніц

8-75-94, сш. 1, л. 56, № 48. Зап. Л. М. Салавей і студ. МДПІ А. Г. Ляшкевіч і І. І. Мурашка ў 1975 г. у в. Прусы Старадарожскага р. ад Г. Р. Вусік, 74 г.

Вар.: Шейн, II, с. 537, № 24. Зап. С. М. Рачынская ў в. Майкава Бельскага п. ад А. Максімавай. Замова даецца з тлумачэннем: «Крыкса — ена зімой бываець і не даець робятам спаць, ены і стануць усю ноць блажыць, так ты воду нашэпцы цепленькую, рабёнка ўмой, а ў цаске што астанецца, на парог пастаў і заговор скажы, ена, эта крыкса, і пабежыць проць:

«Бежала крыкса з надворья, стала крыкса младзенцоў пугаць, а стаяць лі младзенцоў два ардандзела (архангела): адзін ардандзел дзетак кацаець, а другой крыксу атганяець: ступай, крыкса, у цёмнае дупло, у савінае гнездо, а сюда не ідзі і робят не будзі». Збіральніца зазначае, што пра крыксу хацела даведацца ў знахаркі, якой уяўляе яе народ, але нічога не магла дабіцца, бо «мая Арына толькі паўтарала: ена махонькая, і не відаць, как праскоціць».

### 1177. Ад крыксаў і плаксаў

Шейн, II, с. 536, № 23. Зап. Н. Г. Яцко ў Рэчыцкім п. Па сведчанню збіральніка, такая дзіцячая хвароба, як лічаць маці, адбываецца, калі яны забудуць перахрысціць дзіця перад сном, яго калыску, дзверы і вокны, у выніку чаго д'ябал забіраецца ў дзіця. Калі не дапамагае простае хрышчэнне азначанага, тады звяртаюцца да знахара, і ён замовай выганяе д'ябла.

### 1178. Ад крыксаў

8-85-229, л. 19. Зап. А. Ю. Лозка ў 1979 г. у в. Мілашавічы Лельчыцкага р. ад М. В. Астаповіч, 1894 г. н.

### 1179. Ад начніцы

Шейн, II, с. 537—538, № 25. Зап. С. М. Рачынская ў в. Майкава Бельскага р. ад А. Максімавай. Збіральніца прыводзіць цікавыя звесткі пра народныя ўяўленні аб начніцах і сродках лячэння. Па словах знахаркі, начніца з'яўляецца ў выглядзе жанчыны ў цёмным адзенні (часам у белай сукенцы), уваходзіць нячутна, садзіцца на ложак і датыкаецца да чалавека рукамі. У выніку ён губляе сон і можа нават памерці. Пры лячэнні, акрамя шэптаў, ужываюцца травы: «А ты летам дремы набяры,— твет такой ёсь,— насушы, аль свежым — усё роўна — тым тветам пасьцель пасып і на парог палажы, ляг, а ліжамшы загавар скажы, а толькі воцы закрой, на парог не глядзі: еслі цябе ноцьніца ўвідзіць, ена табе спакоя не дасьць».

### 1180. Ад дзіцячых хвароб («Знос»)

13-3-30, л. 29, № 54. Зап. А. У. Русіновіч у в. Пятровічы Светлагорскага р.

### 1181. Ад дзіцячых хвароб («Зноскі»)

8-85-229, л. 16. Зап. А. Ю. Лозка ў 1979 г. у в. Мілашавічы Лельчыцкага р. ад М. В. Астаповіч, 1894 г. н. Заўвага да замовы: «Да году не павінны дзеці сустракацца, бо мацнейшае дзіця пераможа слабейшае, і апошняе захварэе.

Калі ж яны сустрэліся, то патрэбна, каб яны пацалаваліся, але глядзець, каб чужое дзіця не падымалі вышэй нашага».

### 1182. Ад крыксаў

8-74-92, сш. 3, л. 55, № 45. Зап. Г. А. Барташэвіч і К. П. Кабашнікаў у 1974 г. у в. Шарпілаўка Крупскага р. ад У. Чарняўскай, 74 г.

Вар.: 8-77-131, сш. 1, л. 72, № 51. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1977 г. у в. Вялікі Рожан Салігорскага р. ад Е. М. Варашкевіч. У замове адганяецца ўсё злое, ліхое — крыклівіцы і начное: «Адкасніся, злое, ліхое, ад чатырох акон, ад п'ятых дзвярэй, прыступіся, Божа маць, дай дзіцяці паспаць»; 8-75-114, сш. 3, л. 13, № 7. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Ассё Лепельскага р. ад Н. М. Сазон, 78 г.; 8-84-224, сш. 1, л. 32, № 14. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1984 г. у в. Праскурні Жлобінскага р. ад Н. А. Гапонавай, 1914 г. н.; 8-85-230, сш. 3, л. 17, № 13. Зап. Л. П. Барабанава ў 1986 г. у в. Махро Іванаўскага р. ад А. П. Дзенісюк, 75 г.; 13-2-13, л. 49 адв., № 76. Зап. А. С. Емяльянаў і студ. Віцебскага педінстытута ў 1979 г. у в. Залессе Полацкага р. ад Г. І. Малчанавай, 1900 г. н.; Романов, с. 32, № 108. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Мікуліна Аршанскага п. ад П. Вікенцьевай; с. 151, № 46. Зап. у Міласлаўскай вол. Клімавіцкага п.

### 1183. Ад начніц

13-10-85, сш. 20 а, л. 8, № 42. Зап. студ. Магілёўскага педінстытута Т. В. Кіслякова ў 1974 г. у в. Кавалі Сенненскага р. ад В. І. Рабушка, 72 г.

### 1184. Ад крыксаў

13-10-85, сш. 19, л. 7 адв.—8, № 37. Зап. студ. Магілёўскага педінстытута Р. І. Афанасьева ў 1974 г. у в. Кукарава Бярэзінскага р. ад М. Я. Гоман, 68 г.

### 1185. На сон

8-75-95, сш. 3, л. 23, № 11. Зап. Л. П. Барабанава ў 1975 г. у в. Рачэнь Любанскага р. ад Т. Ф. Філюты, 76 г. Паўтарыць 9 разоў.

### 1186. Ад начніц

13-10-29, сш. 5, л. 27, № 28. Зап. студ. Гродзенскага педінстытута Г. Н. Дзявульскі ў 1966 г. у в. Мілейцы Шчучынскага р. ад Э. А. Добрук, 66 г.

### 1187. На добрае здароўе

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 2, л. 1, № 1. Зап. студ. Н. С. Леснікова ў 1981 г. у в. Міхалькі Гомельскага р. ад Х. У. Мацвеенка, 1901 г. н.

### 1188. Ад дзяцінцу

Романов, с. 10, № 26. Зап. Буднецкі ў в. Дзікалаўка Гомельскага п. ад Д. Бяляевай, 68 г.

### 1189. Ад падучай хваробы (ад «чорнай хваробы»)

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 71, л. 1, № 1. Зап. студ. В. Э. Жалязінская ў 1982 г. у г. Рэчыца ад Г. А. Жалязінскай, 72 г.

### 1190. Ад дзяцінцу

8-75-94, сш. 4, л. 88, № 62. Зап. Л. М. Салавей і студ. МДПІ З. М. Гайцюкевіч і Г. А. Чаркас у 1975 г. у в. Будзенічы Старадарожскага р. ад Н. І. Скарыны, 67 г.

Вар.: 13-10-12, сш. 2, № 64. Зап. студ. БДУ С. В. Рызман у 1967 г. у в. Слаўкавічы Глускага р. ад Н. І. Рызман, 55 г.

*Дзяцінец* — хвароба маленькіх дзяцей, якая праяўляецца ў перыядычных прыпадках з сутаргамі і стратай прытомнасці.

### 1191. Ад дзяцінцу

8-75-94, сш. 4, л. 87, № 61. Зап. Л. М. Салавей і студ. МДПІ З. М. Гайцюкевіч і Г. А. Чаркас у 1975 г. у в. Будзенічы Старадарожскага р. ад Н. І. Скарыны, 67 г. Заўвага інфарматара пра хваробу: «Гора. Калі кідае дзіця, яго патрывожаны нерв».

### 1192. Ад радзімцу

8-73-69 а, сш. 5, л. 62, № 60. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у пас. Кулага (в. Іскань) Быхаўскага р. ад Д. І. Гапеевай.

Радзімец — 1) дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца сутаргамі; 2) падучая хвароба (Насовіч, с. 564).

Радзімец называюць яшчэ дзяцінцам (Там жа, с. 133).

### 1193. Ад дзяцінцу

8-79-167, сш. 2, № 10. Зап. Л. М. Салавей у 1979 г. у в. Дубраўка Добрушскага р. ад П. І. Худзяевай.

Вар.: 8-77-131, сш. 1, л. 79, № 58. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1977 г. у в. Вялікі Рожан Салігорскага р. ад Е. М. Варашкевіч.

Паводле сведчанняў інфарматараў, падучая хвароба мае розныя назвы: «нязбытнік», «пераход», «няжыт», «мяжыт».

### 1194. Ад патайніка

8-78-144, сш. 5, л. 82, № 75. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1978 г. у в. Барсукі Кармянскага р. ад Ю. С. Анішчанка, 1914 г. н. Па тлумачэнню інфарматара, патайнік — дзіцячая хвароба, калі выварачвае ўсе косці, суставы.

Вар.: 8-82-198, сш. 2, л. 71, № 85. Зап. Л. М. Салавей і А. М. Лапкоўская ў 1982 г. у в. Антонаў Нараўлянскага р. ад А. Цалко, 1923 г. н. «Ад дзяцінай хваробы».

### 1195. Ад прыступу чорнай балезні

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ. Зап. студ. Г. С. Крупянькова ў 1989 г. у в. Прыбудак Жлобінскага р. ад П. М. Кірыленка, 64 г.

### 1196. Ад дзяцінцу

8-77-128, сш. 6, л. 84, № 68. Зап. Л. П. Барабанава ў 1977 г. у в. Курганне Рагачоўскага р. ад П. С. Зубарык, 83 г.

### 1197. Ад пераходу

Романов, с. 11, № 28. Зап. Е. Р. Раманаў у Рудні Кашалёўскай Рагачоўскага п.

### 1198. Ад радзімцу

Романов, с. 9—10, № 24. Зап. Матарашаў у в. Папоўка Гомельскага п.

*Кутравы* — відаць, ад кутыр, што, паводле Слоўніка Насовіча, размоўн. зневаж. бруха, пуза (с. 261).

### 1199. Ад дзяцінцу

8-73-69, сш. 3, л. 88, № 57. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у в. Цяса Кіраўскага р. ад Н. А. Камінскай, 1935 г. н. «Ад дзецкага. Пахукаць, папляваць, перахрысціцца, прагаварыць тры разы».

### 1200. Ад дзіцячай хваробы

8-82-204, сш. 4, л. 34, № 35. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1982 г. у в. Засінцы Ельскага р. ад А. І. Харашкевіч, 1941 г. н.

*Параходы* — пераходы.

### 1201. Ад дзяцінцу

8-75-94, сш. 1, л. 36, № 27. Зап. Л. М. Салавей і студ. МДПІ А. Г. Ляшкевіч і І. І. Мурашка ў 1975 г. у в. Прусы Старадарожскага р. ад П. С. Вусік, 68 г.

Вар.: 8-79-165, сш. 1, л. 60, № 39. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1979 г. у в. Барталамееўка Веткаўскага р. ад Х. К. Сокалавай, 80 г. Скарочаны прыгавор спалучаецца з пэўным дзейным рытуалам: «Трэба выламываць асінку, што за год вырастае. І тады як вот бачыш яго, як яму здзелаецца, а ты не бачыла ні раз, дак ты загаліся да й садзіся ж... на морду яму, да:

— Які госць, такі прывет; які госць, такі прывет; які госць, такі прывет.

А на том месце, дзе ён упаў, ён жа сойдзе адтуль, а ты асінку забі, колічак тэй, зацяшы і забі туды, калі можна забіць, штоб яго, значыць, кінула, штоб ня біла яго:

— Асінку забіваю на том месце, штоб яго ліха сышло і не біла.

Як заб'еш асінку, так можна скаварадой накрыць».

### 1202. Ад дзіцячай хваробы (красушніка)

8-79-172, сш. 1, л. 73—74, № 47. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1979 г. у в. Лялеўшчына Гарадоцкага р. ад Г. С. Шарновай. «Красушнік. Дзецкая балезнь».

Вар.: 8-75-96, сш. 6, л. 13, № 6. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Рачэнь (пас. Залуг) Любанскага р. ад Е. К. Ляўчэні, 1902 г. н. Замова шэпчацца перад агнём, перад печчу: «Як агонь гарыць, штоб гэтак ведзьміны зубы замыкаліся і палалі, а майму дзіцяці здароўя прыбывала». Так сказаць тры разы.

*Красушнік* — тое, што краснуха — заразная дзіцячая хвароба з чырвонай высыпкай на целе.

### 1203. Ад дзіцячай хваробы

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ, сш. 2, л. 2 адв., № 6. Зап. студ. А. Ф. Ярэміч у в. Тонеж Лельчыцкага р. ад Т. Л. Ярэміч, 78 г. «Дзецкая хвароба — прыпадкі, прыступы. Дзевяць разоў гаварыць».

### 1204. Ад падучай хваробы

8-82-203, сш. 6, л. 28—29, № 31. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1982 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад К. І Шкудун, 94 г. Заўвага інфарматара: «Як яго зачне браць, то яго чорным шмаццём закідаюць, штаны чорныя ці што накідаюць, закрываюць. Як першы раз схопіць, то трэ пакласці пуд парогам ды пераступіць тры разы, кожны раз казаць: які госць, така і чэсць; ды трэба з голаю с...» Падобны сродак прымяняўся і ў іншых раёнах. У в. Верасніца Жыткавіцкага р. існаваў звычай: «Родная маці паложыць дзіця пад парогам на ўсход сонца, спусціць свае трусы і голым выхадам над ротам: «Чым цябе радзілі, тым адхадзілі» — разоў сем сказаць. Левай рукой перахрысціць, мужскімі штанамі чорнымі надзець і спаць пакласці» (8-83-212, сш. 2, л. 86, № 77. Зап. Т. К. Цяпкова ад Е. І. Блоцкай, 1915 г. н.).

### 1205. Ад радзімцу, падучай хваробы і г. д.

Романов, с. 143, № 21. Зап. Е. Р. Раманаў у Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага п. ад А. Давыдавай, жабрачкі, 30 г.

### 1206. Ад падучай хваробы

8-73-69, сш. 1, л. 85, № 67. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у в. Іскань Быхаўскага р. ад Г. Г. Панадысёвай, 1911 г. н. «Ад чорнай балезі, прыпадкі, як кідае».

*Нічыпар* — відаць, скажонае Люцыфер, бо, як сведчыць інфарматар, маецца на ўвазе галоўны нячысцік.

Вар.: 8-80-178а, сш. 10, л. 54—55, № 86. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1980 г. у в. Яланы Светлагорскага р. ад Я. Л. Шэнца, 1906 г. н. «Нязбытнік, дзіцячая чорная хвароба, дзеці высыхаюць і ад мук паміраюць. Пасля такой замовы дзіця або ачуняе, або хутка памрэ» — заўвага інфарматара. Вар'іруецца пачатак пры адноснай устойлівасці сюжэта: «Устану я ранюсенька, памыюся бялюсенька, выйду за новыя вароты, пагляжу на сіняе мора, на чыстае поле. У чыстым полі стаіць асіна, тудой ехаў святы Міхаіл-архаіл з меччу, сеччу.

Стаў етую асіну сеч-рубаць... із раба божага (імя) чорную балезь стаў выганяць»

З імем Міхаіла-архангела звязаны і іншыя замовы: Романов, с. 143, № 19. Зап. Е. Р. Раманаў у Манастыршчынскай вол. Мсціслаўскага п.: «Трэба ў поўнач, каб ніхто ня чуў, схадзіць у баню з двумя суднамі: адно, большае, паставіць пад печкаю, а другім на печку ліць ваду ды гаварыць: «Міхайла-архангал, багатыр нябесны! Як сабіваў уражжыю сілу сы нябёс на сыру зямлю, так пабі ўражжыю сілу з раба божжага!» Тры разы перагаворыцца, і ўсё. А калі хто пачуець, тады рады ня будзець».

### 1207. Ад падучай хваробы

8-78-144, сш. 3, л. 76—77, № 64. Зап. Л. П. Барабанава ў 1978 г. у в. Зяцькавічы Кармянскага р. ад З. П. Навуменка, 82 г. «Ад чорнае балезні (як будзе калаціць цябе, яна можа падскочыць ад іспугу)».

### 1208. Ад падучай хваробы

13-3-7, л. 1, № 2. Зап. А. У. Русіновіч у 1987 г. у в. Чэрнін Светлагорскага р. ад П. С. Русіновіч, 1905 г. н.

### 1209. Ад падучай хваробы

13-10-86, сш. 38а, л. 11, № 30. Зап. студ. Магілёўскага педінстытута Л. К. Ясенка ў 1973 г. у в. Кнышэвічы Светлагорскага р. ад М. М. Ханенка, 1920 г. н. «Ад плахой балезні».

### 1210. Ад патайніку

Архіў кафедры беларускай літаратуры ГДУ. Зап. студ. Г. С. Крупянькова ў 1989 г. у в. Прыбудак Жлобінскага р. ад П. М. Кірыленка, 64 г.

### 1211. Ад сухотніка і бязбытніка

8-90-250, сш. 8. Зап. У. М. Сысоў у 1990 г. у в. Старая Алешня Рагачоўскага р. ад Н. Р. Малалетнікавай, 1920 г. н.

Вар.: 8-78-144, сш. 5, л. 38, № 40. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1978 г. у в. Пятравічы Кармянскага р. ад А. Б. Медзвядзёвай. Замова не ўся, пасля малітоўнага ўступу толькі намечаны сюжэт: «На сінім моры стаіць дуб, на гэтым дубе дванаццаць сукоў, на тых суках дванаццаць каштанаў, на тых каштанах дванаццаць вараноў. У іх дзюбы залатыя, когці медзвяныя, крылья шарстовыя».

### 1212. Ад падучай хваробы («Пераход»)

Романов, с. 10—11, № 27. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Грабаўка Гомельскага п.

Вар.: Там жа, с. 9, № 23. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Зябраўка Гомельскага п. У замове адсутнічае матыў сустрэчы святых.

**1213. Дзецям ад хвароб (радзімец, падучая і інш.)**

Романов, с. 143, № 20. Зап. у в. Хоцьславічы Мсціслаўскага п.

**1214. Ад падучай хваробы**

8-85-229, л. 30. Зап. А. Ю. Лозка ў 1979 г. у в. Мілашавічы Лельчыцкага р. ад М. В. Астаповіч, 1894 г. н. «Чорна балезнь. Гаварыць тры разы. І дзецям, і старым. На каго напалі чорныя сілы — канвульсіі, прыпадкі».

**1215. Ад сухотаў**

Federowski, I, с. 400, № 2438. Зап. М. Федароўскі ў Ваўкавыскім п. (з Шыдловіц).

Вар.: Там жа, с. 401, № 2443 (з Шыдловіц); с. 399, № 2437 (з Свіслачы). Працэс замаўляння звязаны з дзеяннямі з хлебам: «выпечанымі з цеста з крыжа маленькімі булачкамі качаюць па трыбушку дзіцяці (або галушачкамі з цеста па плячах, грудцы) і вядуць дыялог:

— Што качаеш?
— Сухоты!
— Качай, качай, каб ніколі не былі! (№ 2443).

Або:

— Што ты робіш?
— Саджу ў печ сухоты Казуся (Казусёвы, Міхасёвы і інш.), няхай пякуцца.
— Ну, то пячы добра, каб не было ніколі» (№ 2437).

**1216. Ад сухотаў**

8-82-203, сш. 6, л. 36, № 36. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1982 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад К. І. Шкудун, 94 г. «Сухоты запекваюць. Тры разы трэба».

**1217. Голад**

Federowski, I, с. 388, № 2359. Зап. М. Федароўскі ў Ваўкавыскім п. (з Свіслачы).

**1218. Каб дзеці ноччу спалі («Ночнэ»)**

8-85-229, л. 18. Зап. А. Ю. Лозка ў 1979 г. у в. Мілашавічы Лельчыцкага р. ад М. В. Астаповіч, 1894 г. н.

Вар.: Там жа, № 17. Зап. той жа ў в. Букча Лельчыцкага р. ад Сушчык (маладой жанчыны).

**1219. Дзецям на сон**

8-82-203, сш. 5, л. 48, № 28. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1982 г. у в. Падгалле ад М. І. Патапенка, 52 г.

